НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы

# ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

**Том 13**

**С–Т**

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
2010

УДК 811.161.3’373.6’374
ББК 81.2Беи-4
Э93

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказе
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

Укладальнікі:

*Су- – С’ячык*:

Р. М. Малько (папярэдняя падрыхтоўка матэрыялаў у межах усяго фрагмента *Су- – С’ячык* і асобныя артыкулы): *су-, субалаткі, субар, субач, суб’ект, субіна, субожны, субор, субота, субулдыга, субярэзіна, сувалка, сувараты, сувей, суверцень, сувісцяль, сувой, суворка, сугалаўе, сугані, суглоб, сугляды, сугон, сугор, суд, судак, сударга, судзень, судзіна, судзіць, судна, суднік, судня, судовы, судом, судосіць$_1$, суздалі, суздоліць, суздрыць, сузок, сук$_{1-2}$, сука$_{1-2}$, сукадла, сукала, сукаленка, *сукань, сукаць, сукач$_{1-2}$, сукі, сукман, сукно, суконнікі$_1$, сукваратка, сукравіца, сукромна, сукрут, сукруха, сукрысты, сукрыцца, сула$_{1-3}$, сулаўка, султан, *сумаваць, сумарок, сумбур, суменя, сумець, сумка, сумненне, сумнявацца, сумярак, сумятня, сунадзкі, *сунажаць, сунастка, *суніз, суножка, суноза, суняць, суп$_{1-2}$, супарат, супастат, суплаў, супліка, супол, суполка, супольніца, супонка, супор, супрага, супрадкі, супрацоўнік, супульны, суравізна, сурагі, сураджаць, сурвіна, сурвэта, сурган, сургуч, сурдут, сурма$_1$, сурно, сурок, сурчок, сурык, сусак, сусек, суслік$_3$, сусолка, суспары, суспіца, сутарэнне, су́тра, сутра́, сутычка, сухадол, сухалом$_{1-2}$, сухам, сухапёрам, сухар, сухарлявы, сухі, суцыль, суцэльны, сучка$_{1-2}$, суш, суша, сушыць, сфера, схізма, схіленні, схільны, сходні, сходы, схрон, схуня, сца, сцежка, сцерагчы, сцерхнуць, сцібіклі, сцігаць, сцізорык, сцілка, сцінкацца, сціняцець, сціркі, сцюжа, сцябаць, сцяг$_{1,3-4}$, сцяга, сцяжыкі, сцякун, сцяна$_1$, сцяць$_{1-2}$, сцяцюрыцца, сыгнет, сыкаць, сын, сыр, сырабойня, сырадой, сыракваша, сыраквашкі, сырнік$_{1-2}$, сырніца$_1$, сыроватка, сыры, сыта, сыч$_{1-2}$, сычуг, сэнс, -сь, сюд, сюды, сюмзяць, сюсюкаць, сют, сябе, сявалка, сявенька, сягаць, сягеначы, сягоння, сядаць, сядзіба, сядно, сяды-тады, сяк$_1$, сякаць, сякера, сякіла, сякля, сяліць, сялява, сям, сям’я, сярдзіты, сярод, сярэдзіна$_1$, сястра, сястран, с’ята, сяўкнуць, сяўня, сяўрана, *сяхаціць, сячы.*

Р. М. Малько (з удзелам Г. А. Цыхуна): *сувалака, сувярата, сувязь, суга, сугак, сугалаўкі, сугней, сугроб, сугруб, суддзя, су́ды, суздаль, суздром, сузор’е, суйма, сукаратка, сукенка, сукол, сукрак$_{1-2}$, суладны, сулдвыга, суліць, сулотаць, суляць, суляя, сум, сума$_1$, сумак, сумардак, сумежжа, сумецца, сумёт, сумленне, сумна$_2$, сумодаць, сумысля, сундук, суніцы, сунуць, супар, супіць, супольны, супоня, супраць, сур, суржык, сурла, сурма$_2$, сурміла, суровы, сурокі, сусвет, сусед, суслік$_1$, сусліць, сустаў, сустой, сута, суталака, сутарма, суткі$_{1-2}$, сутнасць, сутонне, сухапар, сухануць, сухмень, сухоты, суцяга, сучкі$_2$, схамянуцца, схіл, схілкі, схіма, сцаць, сцежар, сцень, сцерва, сцерлядзь, сцібіць, сціжма, сцімбур, сціпта, сціклы, сціх$_1$, сцябло, сцягно$_1$, сцяголка, сцяжкі, сцякаць, сываратка, сызма, сыновая, сыновец, сыпаць, сырадэля, сыраежка, сырамяць, сырапеня, сыты, сыць$_1$, сычык, сэйт, сэрца, сэрыё, сюкаць, сюркаць, -ся,*



*сябар, сяголета, сядзець, сядзіба, сядло, сядравы, сядро$_{1-2}$, сякава, сялётка, сяліба, сяло, сянні, сяннік, сярмяга, сяродак, сяртоліцца, с’ячык.*

Г. А. Цыхун (у межах названага фрагмента асобныя артыкулы): *субстанцыя, субтыльны, субычыцца, суважаць, сувалак, суваць, сувенір, сувірацца, суворы, сувярэка, сугаркі, сугба, суглей, суглінак, суглічыць, сугрэў, сугук, судамыя, судачыць, суджаны, судзьба, судосіць$_2$, сужэнства, су-зік, сузма, сузорак, суіста, сукал, сукалень, сукарак, сукардычына, сукацца, суклесіць, суклёт, сукба, суконнікі$_{1-2}$, сукро, сукрота, сукупны, сулагада, суліна, *суліца, сулонне, сулуйка, сулупон, суляк, сума$_2$, сумаброд, суматоха, суміж, суміцца, сумлеў, сумнеў, сумнік, сумоўе, сумрак, сумуд, сумыль, сундачыць, сундзіла, сунега, сунеча, суножаць, сунятла, супакой, супал, супер, супесак, супраціў, супруг, супчык, супша, супыніца, супэль, супэнду, сурава, суравежка, сурава, сурада, сурамяць, сурдзіна, сурдулак, сур’ёзны, сурмаліна, сурожыцца, сурыць, сурэніца, сурэпа, суса, сусім, сусла, суслон, сусноўка, сусок, сустракаць, сутана, сутарга, сутарыца, сутка, сутока, сутон, сутулы, сутыкаць, сутыра, суфіт, сухабздзей, сухабразы, сухавеіца, сухавей, сухавейка, сухавершнік, сухаветрыца, сухавея, сулавіцкі, сухавялка, сухадолька, сухадрэўка, сухадушына, сухаежка, сухажылле, сухазелле, сухаземны, сухазлотка, сухалеснік, сухалом$_{1-3}$, сухамоскі, сухандра, сухандэль, сухапайшчык, сухапаны, сухапастой, сухапут$_{1-2}$, сухарыба, сухарык, сухарына, сухарэбры, сухарэбрыца, сухастой, сухаступы, сухата, сухашчавы, сухашчэлепы, сухедні, сухлік, сухляк, сухмаркі, сухоткі, сухотнік, сухоўрыца, сухоцкі, сухрап, сухулят, суць, сучарына, сучасны, сучка$_{3-4}$, сучок, суччa вымя, сучыць, сушаніца, сушке, сушчак, сушчы$_{1-2}$, сушчык, сушчэннік, суярак, суята, суяцім, сфэціць, схадзка, схаласопіць, схвануць, схед, схеда, схема, схібнуцца, схіндрыцца, схіліяць, схнуць, сход$_{1-2}$, сходні, схундыту, схэлтаць, сцвералом, сцебель, сцежа, сцежая, сцеклы, сцеле, сцен, сценка$_1$, сценяціцца, сцеп, сцекаць, сцерка, сцерці, -сцерці, сцеханунца, сцёжка, сцёк, сцёклы, сцён, сцёран$_{1-2}$, сцёўкаць, сцісці, сцігіляць, сцігота, сцілаха, -сцілаць, сцімерзнік, сціна, сцінаць$_{1-2}$, сціпельнік, сціпер’е, сціпіны, сціплы, сціпны, сціпры, сціпулькі, сціра, сціраць, сціх$_2$, сціхамір, сціхат, сціхаць, сціць, сцішна, сцулі, сцупіць, сцызнуць, сцыкун, сцынзорак, сцэна, сцэп, сцюдзень, сцюдзёны, сцюдзянка, сця, сцяг$_2$, сцяга́, сцягень, сцяглі, сцяглы, сцягно$_{2-3}$, сцягнуць, сцягры, сцягун, сцяж, сцяжар’е, сцяклец, сцякло, сцялежыць, сцялуха, сцяльнік, сцяна$_{2-3}$, сцяняцца, сцяпа, сцярдзюшка, сцячы$_{1-2}$, сцяя, счадкі, счутвераць, счэза, сшчукаць, сшыманець, сшындзіцца, сшыпуліць, сшытак, сыгляцца, суздалі, сызы, сылень, сымаць, сымбаль, сынажаць, сыналька, сынкаваць, сынок, сыпяль, сыра, сыравадка, сыравежка, сыравец, сыравізна, сыравіна, сыравы, сырамалот, сырамець, сырапосны, сырасць, сырахватам, сыр’ё, сырнік$_3$, сырніца$_2$, сырок, сыромля, сырошнік, сырць, сырызна, сырынець, сырынішча, сырыца, сысак, сыска, сысла, сысой, сысун, сысункі, сытасць, сытнік, сыць$_2$, сышчык, сэдаль, сэдас, сэлег, сэндзіць, сэрдак, сэрна, сэрса, сэс, сэхля, сю-сю-сю, сюбар, сюго, сюль, сюмгаць, сюр-сюр-сюр, сюргаць, сюрпрыз, сюртук, сюсік, ся, сябрына, сявар, сяве$_{1-2}$, сяг, сягаваць, сядавіць, сядак, сядаш, сядзёлка, сядзёр, сядміца, сядро$_3$, сядура, сядушкі, сяеначы, сяжань, сяйва, сяйво, сяйміга, сяк$_2$, сякар, сякач$_{1-2}$, сяледзя, сялетаць, сяльнік, сяльчанін, сяляк, сяляне, сялянка$_{1-2}$, сялець, сянак, Сямёнава кроў, сямёра, сямізвёздачка, сямік, сямілка, сяміраццуга, сямірога, сяміручка, сяміцічнік, сямнаццаць, сямуха, сямяргу, сян, сяпаць, сярак, сярга, сярдзечнік,*

*сярдзюк, сяражкі, сярон, сярпанка, сярпуха, сяруха, сярыцца, сярэбранік, сярэбшчына, сярэдзіна$_2$, сяслы, сятрыць, сяўба, сяўбіт, сяўка, сяўкі, сяўруга, сяўрук, сяўрэкаць, сязцы, сяцёр, с'яць, сячкарня.*

*Та – Тор$_1$*:

М. Я. Абрагімовіч (папярэдняя падрыхтоўка матэрыялаў у межах усяго фрагмента *Та – Тор$_1$* і асобныя артыкулы): *талісман, тальма, тальянка, таляр, тамада, тамат, тамбак, тамбур$_{1-3}$, тамга, тампон, тамтам, танбурка, танчовы, таня, тапаз, тапінамбур, тапкі, таплёнка, тапляк, тапорнік, тaптуха$_{2-3}$, тара$_{1-2}$, таратан, таракцець, таран$_{1-2}$, тараніць$_2$, таранка$_2$, тарантэла, тараны, тарапаны, тарарах, тарбан, тардынка, тарнада, тарнатоўка, тарпан, тарчыць, тарчэць, таршэр, тарэц, тасцёва, татуіраваць, тафалёўка, тах, тачыдла, тачыць$_4$, тло$_2$, тлюма, тога, токлішча, толака, томіць, томка, тон$_1$, тона, тонкі, тополь.*

М. Я. Абрагімовіч, М. П. Антропаў: *Та – Такі-сякі*;

(у межах названага фрагмента з удзелам Г. А. Цыхуна): *табака, тавар$_2$, таваранка, таварыш, таямнік$_1$, таемны, таёмства, тайка, такася, такая, такее, такі$_2$, такімісты, такі-сякі.*

Г. А. Цыхун: *Такрок – Тор$_1$*;

(у межах названага фрагмента з удзелам М. Я. Абрагімовіч): *табакур, табатож, табацёр, табачны сук, табе, табола, табойта, таварач, таварыства, тага, таган$_2$, таго$_1$, тагоны, таек, таечка, таёж, тазак, таім, таймаваць, такавацца, такеля, такса$_1$, тактыка, талака$_{1-2}$, таралой, талан$_{1-4}$, талант, талер$_{1-2}$, талерантны, талет, талія$_{1-2}$, талмач, талы, там, тама, тамба, тамбу́р, таміць, таможня, тампах, тамтой, таму, тан, танга$_{1-2}$, тандэт, танец, танк, танок, тануць, танчыць, тапіць$_{1-3}$, тапкі, таплёвачкі, тапнець,* тaполя, *тапор$_{1-2}$, таптайла, таптаць$_{1-2}$, таптуны, тапчак, тапчан, тарабай, тарабан$_2$, тарабаніць$_{1-2}$, тарабосіць, тарадайка$_1$, тарадынка, таракан, тарамбаніць, тарамкаць, таранда, таранта, тарантул, тарпачэ, тарапіцца$_{1-2}$, тара-ра-ра-ра, тарарынка, таратайка, тараторыць, тарашчыць, таркатаць, таркованка, тармасіць, тарністар, тарніць, тарно, таройкацца, тарокі, тарпеда, тарпэ, тартак, тартар, тартура, тарчаць, тарчок$_{1-2}$, тарчыца$_2$, тарыф, таска, таска, тасьма, тась-тась-тась, тата, татарак, татарка, татарын, таўстагрыбы, тахкаць, таць$_2$, тачыць$_{1-2}$, таяць, твань, твар, тварог, тварыць$_1$, твой, ткаць$_1$, тлець, тлум$_1$, тлумак, тлуміць, тлусты, тля, тляне, тмен, тнуць$_1$, то, ток$_{2-3}$, толк, толькі, тонь$_1$, тоня, топ, топаць, топкі$_{1-3}$, тор$_1$.*

І. І. Лучыц-Федарэц: *Тор$_2$ – Трапкач*;

(у межах названага фрагмента з удзелам Г. А. Цыхуна): *тора$_2$, торак, тормаз, торны, торскаць, торч, торыць, тоўба, тоўла, тоц, точка$_{1-5}$, тоя, тпро-тпро, тпру, тпруці, тра, трабло, травень, траецкі, трайдоліць, трайла, трактар, тральня, трандзіць, транжыр, транты, трапасні, трапецыя, трапёны.*

Г. А. Цыхун (у межах названага фрагмента асобныя артыкулы): *тор$_3$, торнуць, торп$_2$, тосі-тосі, тофель, тог, тпрунні, трагічны, трайцвет, тра-ля-ля, траніла, трантлівы, трап'е, трапеза$_1$, трапець, трапіць$_2$.*

І. І. Лапуцкая (падрыхтоўка тэкстаў да друку)

Г а л о ў н ы р э д а к т а р
доктар філалагічных навук Г. А. Цыхун

А д к а з н ы р э д а к т а р
кандыдат філалагічных навук М. П. Антропаў

Р э ц э н з е н т ы:
кандыдат філалагічных навук С. М. Запрудскі,
кандыдат філалагічных навук Н. В. Паляшчук

**Этымалагічны** слоўнік беларускай мовы. Т. 13. С – Т /
Э93 Уклад. М. Я. Абрагімовіч [і інш.]; гал. рэд. Г. А. Цыхун. – Мінск: Беларус. Навука, 2010. – 351с.
ISBN 978-985-081185-1.

Чарговы том слоўніка ўтрымлівае этымалагічны аналіз беларускіх слоў на літары *С – Т*. Як і ў папярэдніх тамах, даследуецца гісторыя развіцця лексікі беларускай мовы і яе суадносіны з лексікай іншых славянскіх і неславянскіх моў.

Разлічаны на філолагаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і ўсіх, хто цікавіцца сувязямі беларускай мовы з іншымі мовамі.

**УДК 811.161.3'373.6'374**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 978-985-081185-1 (Т. 13)**
**ISBN 978-985-08-0739-3**
**ISBN 985-08-0739-3**

© Укладанне. М. Я. Абрагімовіч і інш., 2010
© Афармленне. РУП «Выдавецкі дом «Беларуская навука», 2010

# СКАРАЧЭННІ

## КРЫНІЦЫ

Арх. Вяр. – Вярэніч В. Л. Палескі архіў: Лінгвістычныя, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы. Мн., 2009.

БНТ, Зам. – Замовы. 2-е выд. Мн., 2000 (сер. «Беларуская народная творчасць»).

Бос. – Босак А., Босак В. Гаворкі Верхняга Над'ясельдзя. Мн., 2007.

Вруб. – Wróblewski M. Słownik gwary bielsko-podlaszskiej = Словник говуоркі б'ел'ско-пудл'ашскуј. Bielsk Podlaski, 2008.

Грач. – Грачыха Т. А. Дыялектны тэматычны слоўнік найменняў іхтыя- і герпетафауны Беларускага Паазер'я. Віцебск, 2006.

Д.-Хадак. – Далэнга-Хадакоўскі З. Выбранае. Мн., 2007.

Дары – Дары наших лесов. Мн., 1984.

Дзіц. фальклор – Дзіцячы фальклор: Зборнік фальклорных матэрыялаў. Мн., 2006.

Дыял. Гродз. – Дыялектная мова Гродзеншчыны. Хрэстаматыя. Гродна, 2007.

Земляроб. каляндар – Земляробчы каляндар. Мн., 1990 (сер. «Беларуская народная творчасць»).

Лекс. Бел. Палесся – Лексіка Беларускага Прыпяцкага Палесся. Атлас. Слоўнік. Мн., 2008.

Нар. медыцына – Народная медыцына: Рытуальна-магічная практыка. Мн., 2007 (сер. «Беларуская народная творчасць»).

Нар. ск. – Народныя скарбы. Дыялекталагічны зборнік да 80-годдзя А. А. Крывіцкага. Мн., 2008.

Рабк. – Рабкевіч В. Паслухай, што людзі кажуць. Мн., 1985.

Рам. Мат. Гр. – Романов Е. Р. Материалы по этнографии Гродненской губ. Вильна, 1911. Вып. 1. Вильна, 1912. Вып. 2.

Ск. нар. мовы – Скарбы народнай мовы. Мн., 2005.

Трух. – Трухан Т. М., Клімчук Ф. Д. Лексіка апрацоўкі льну. Тэматычны слоўнік. Лексічны атлас. Мн., 2006.

Хромчанка, паўн.-маст. гав. – Хромчанка А. Р. Паўночна-мастоўскія гаворкі: арэальная, генетычная і тыпалагічная характарыстыка. Мн., 2004.

Чал. – Чалавек. Тэматычны слоўнік. Мн., 2006.

Чэрн. Атлас – Чэрнякевіч Ю. В. Атлас гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны. Мн., 2009.

Шмярко – Шмярко Я. П., Мазан І. П. Лекавыя расліны ў комплексным лячэнні. Мн., 1989.

Шпіл., Путешествие – Шпилевский П. М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн, 1992.

Юрч. Мудр. – Юрчанка Г. Ф. Народнае мудраслоўе. Мн., 2002.

# ЛІТАРАТУРА


Acta Ling. Hung. – Acta Linguistica Academiae Scientiarum Hungaricae (=A Magyar tudomanyos akademia nyelvtudomanyi Kozlemenyei). Budapest, 1951. T. 1 і наст.

Астравух, Ідыш-бел. сл. – Астравух А. Ідыш-беларускі слоўнік. Мн., 2008.

Барысава, Лекс. Смолен. края – Борисова Е. Н. Лексика Смоленского края по памятникам письменности. Смоленск, 1974.

Бел. гіст. агляд – Беларускі гістарычны агляд. 1994. Т. 1 і наст.

Бел. эрот. фольклор – Белорусский эротический фольклор. М., 2006.

Беразовіч, Язык и трад. культура – Березович Е. Л. Язык и традиционная культура: Этнолингвистические исследования. М., 2007.

Горбач, Дитяч. – Горбач О. Лексика «дитячої мови» в Україні. Нью-Йорк, 1968 (асобны адбітак).

Грачоў–Макіенка, Истор.-этим. сл. – Грачев М. А., Мокиенко В. М. Историко-этимологический словарь воровского жаргона. Спб., 2000.

Дзячэнка – Дьяченко Г. Полный церковнославянский словарь (с внесением в него важнейших древнерусских слов и выражений). М., 1900.

Зб. Беладзеду – Слово і труд. Київ, 1976.

Зб. Дорулі – Život slova v dejinách a jazykových vzt'ahoch. Bratislava, 2003.

Зб. Макіенку – Грани слова: Сб. научных статей к 65-летию проф. В. М. Мокиенко. М., 2005.

Зб. Мерку – Merkujev zbornik. Ljubljana, 2007.

Зб. памяці Стойкава – Езиковедски изследвания. В памет на проф. Стойко Стойков. София, 1974.

Золтан, Athila – Zoltan A. Oláh Miklós Athila címu munkájánok XVI századi lenguel' és fehérorosz fordítása. Nyíregyháza, 2004.

Зяневіч, АКД – Зеневич З. А. Названия домашних животных в старобелорусском языке: автореф. дис. … канд. филолог. наук. Мн., 1970.

Івіч, Галип. – Ивић П. О говору Галипољских Срба. Београд, 1957.

Leksyka słow. – Leksyka slowiańska na warsztacie językoznawcy. Warszawa, 1997.

Лукінова, Числ. – Лукінова Т. Б. Числівники в слов'янських мовах (порівняльно-історичний нарис). Київ, 2000.

Міклашыч, Vergl. Gr. – Miklosich F. Vergleichende Grammatik der slavischen Sprachen. Wien, 1975–1976. Bd. II, III.

Orientas – Orientas Letuvos Didžiostos Kunigaikštijos visuomenes tradicijoje: totorai ir karaimai = Ориент в общественной традиции Великого княжества Литовского: татары и караимы. Vilnius, 2008.

Папоўска-Таборска, Szkice 1 – Popowska-Taborska H. Szkice z kaszubszczyny. Dzieje, zabytki, słownictwo. Gdańsk, 1987.

Папоўска-Таборска, Szkice 2 – Popowska-Taborska H. Szkice z kaszubszczyny. Leksyka. Zabytki. Kontakty językowe. Gdańsk, 1998.

Пастусяк, Pogranicze – Pastusiak K. Pogranicze polsko-białorusko-ukraińskie w świetle danych językowych i etnograficznych na podstawie nazw roślin. Warszawa, 2007.

Плотнікава, Этнолингв. геогр. – Плотникова А. А. Этнолингвистическая география Южной Славии. М., 2004.

Праці – Prati A. Vocabulario etimologico italiano. Torino, 1951.

Прилози – Прилози. Одделение за лингвистика и литературна наука / Македонска академија на науките и уметностите. Скопје, 1976. Кн. I і наст.

Саевіч, Derywacja – Sajewicz M. Derywacja sufiksalna osobowych nazw subiektów w nadnarwiańskich gwarach białoruskich Białostocczyzny. Deverbativa. Deadiectiva. Lublin, 2002.

Slavica Tarnopolensia – Slavica Tarnopolensia. Тернопіль, 1994. Вип. 1 і наст.

Slavistica Vilnensis – Slavistica Vilnensis 1995. Vilnius, 1997 і наст.

Слов. етим. – Словенска етимологија данас. Београд, 2007.

Смачынскі – Smoczyński W. Słownik etymologiczny języka litewskiego. Wilno, 2007.

Сымоні-Сулкоўска, Transport – Symoni-Sułkowska J. Słownictwo Warmii i Mazur: Transport i kommunikacja. Wrocław, 1958.

Сяткоўскі, Słow. nazwy – Siatkowski J. Słowiańskie nazwy wykonawców zawodów w historii i dialektach. Warszawa, 2005.

Тодараў, Этим. етюди – Тодоров Т. А. Етимологични етюди. Произход на български думи. София, 1994.

ФЗ – Филологические записки. Воронеж, 1860 і наст.

Філін, Образ. – Филин Ф. П. Образование языка восточных славян. М., 1962.

Цітка, Kronika – Citko L. «Kronika Bychowca» na tle historii i geografii języka białoruskiego. Białystok, 2006.

Чарапанава, Геогр. – Черепанова Е. А. Народная географическая терминология Черниговско-Сумского полесья. Сумы, 1984.

Шульгач, Прасл. гідронім. – Шульгач В. П. Праслов'янський гідронімний фонд. Київ, 1998.

## МОВЫ І ДЫЯЛЕКТЫ

алб.-таск. – албанска-тасканскае
асір.-вавіл. – асірыйска-вавілонскае
асм. – асманскае
аўстр.-ням. – аўстрыйска-нямецкае
ацтэк. – ацтэкскае
баснійск. – баснійскае
бялудж. – бялуджскае
васіл. – васілевічскае
візант-грэч. – візантыйска-грэчаскае
гала-раманск. – галараманскае
градзішч. – градзішчанскае
груз. – грузінскае
зах.-бел. – заходнебеларускае
зах.-гом. – заходнегомельскае
каракалп. – каракалпацкае
куман. – куманскае
малайск. – малайскае
мекс. – мексіканскае
мір. – мірскае
паўн.-віц. – паўночнавіцебскае
паўн.-усх.-бел. – паўночна-ўсходнебеларускае
познелац. – познелацінскае
прычарн. – прычарнаморскае
с.-англ. – сярэднеанглійскае
с.-брэтонск. – сярэднебрэтонскае
с.-тур. – сярэднетурэцкае
ст.-славен. – стараславенскае
ст.-чув. – старажытначувашскае
ст.-швед. – старажытнашведскае
таіц. – таіцянскае
усх.-літ. – усходнелітоўскае
фін.-угор. – фіна-ўгорскае
ханты-мансійск. – ханты-мансійскае
хец.-лув. – хецка-лувійскае
цыган. – цыганскае
цюрк.-манг. – цюркска-мангольскае
якуц. – якуцкае

# С

**Су-** – прыстаўка. Пры ўтварэнні іменных часцін мовы абазначае сумеснасць, саўдзел (*субясéднік*, *сунаймáльнік*), сукупнасць, зборнасць (*сузóр'е*, *сувкéцце*), падабенства ці няпоўную адпаведнасць у адносінах да прадмета або з'явы, выражанай у асноўнай частцы слова (*суглéй*, *суглíнак*, *супéсак*), суадноснасць поўнай якасці паміж прадметамі (*сугýчны*, *суразмéрны*), збліжэнне, супадзенне ў прасторы або ў часе (*сучáсны*, *сумéжны*), унутранае адзінства чаго-небудзь (*суцэ́льны*); пры ўтварэнні дзеясловаў абазначае сумеснасць, суправаджэнне або ўстанаўленне суадносін паміж чым-небудзь (*суіснавáць*, *сумясцíць*). Прыіменная прыстаўка; у некаторых славянскіх мовах вельмі рана пачала змешвацца з прэфіксам **sъ-* (гл. *с-*, *са-*, *з-*), параўн. укр., рус. *су-*, *со-*, польск. *są-*, ст.-чэш. *sú-*, чэш. *sou-*, славац. *su-*, в.-луж., н.-луж. *su-*, славен. *so-*, серб.-харв. *су-*, *са-*, балг. *су-*, *съ-*, макед. *са-*, *со-*, ст.-слав. **сѫ-**, **соу-** (**сѫпрѧгъ**, **сѫсѣдъ**, **соумракъ**). Прасл. *sǫ-* этымалагічна адпавядае прыстаўцы **sъn-* або **sъ-* у дзеясловах (гл. *з-*). Праславянскае з першаснага **som-*, роднаснае ст.-прус. *san-* – прыстаўка пры назоўніках, *sen* – прыназоўнік, літ. *sán-/sam-*, *są-*, гоц. *sama-*, ст.-інд. *sam-*, *sa-*, авест. *ham-*, *ha-*, арм. *ham-*. Гл. ESSJ SG, 1, 240; 254–255; Фасмер, 3, 791 з літ-рай; Бязлай, 3, 281; Борысь, 539; Махэк$_2$, 534; ЕСУМ, 5, 461. Пазней *су-* з дзеясловаў, утвораных ад назоўнікаў з прыстаўкай *су-* тыпу *суседзіць* < *сусед*, распаўсюдзілася на іншыя дзеясловы і зрабілася словаўтваральнай дзеяслоўнай прыстаўкай; гл. Борысь, Prefiks., 146–148. Заўважна тэндэнцыя пашырэння прыст. *су-* ў запазычаннях з рускай мовы замест прыст. *са-* са значэннем сумеснасці, якія ўспрымаюцца як калькі-пераклады з рускай мовы (Садоўскі, Беларусіка, 19, 231).



**Сýбалаткі** 'сумежныя балоты' (круп., Сл. ПЗБ), *сýбалатак* 'нізкае месца, лужок каля балота' (кіраў., Нар. сл.). Укр. чарніг. *сýболоток* 'забалочаная нізіна, балотца', рус. наўг., арх. *сýболоток* 'нізкае мокрае месца, мачажына'. З *су-* і *балота*, афармленае суф. *-к-* і *-ак-*.

**Сýбар** 'сумесь збожжавага насення' (Нас.; парыц., Янк. Мат.; Мат. Гом.; асіп., Сл. ПЗБ; маг., гом., ЛА, 4), 'зерневыя адходы пры веянні збожжа' (Мат. Маг.; рагач., асіп., Сл. ПЗБ; Шатал., Ян.; ЛА, 2), *сýбырь*, *сýбарь* 'розная мука, сабраная ў млыне ад дзесяціны' (Шымк. Собр.), 'высеўкі, вотрубі' (Растарг.), *субóр* 'куча дробнага камення, сабраная на полі' (Касп.; полац., Нар. лекс.), 'мука, атрыманая ад памолу сумесі ячменю і грэчкі' (Ян.), 'натоўп, зборышча' (Станк.; маст., Нар. сл.), сюды ж *сýбарны: субарная мука* 'мука з сумесі球 featureнага збожжа' (глыб., Сл. ПЗБ; ЛА, 4), *субáрніца* 'сумесь featureнага збожжа' (глыб., Сл. ПЗБ), *субáрніна* 'бязглуздзіца, кавардак' (Касп.). Рус. *субáр* 'адходы, сумесь', пск. *субóр* 'каменне, сабранае з поля і складзенае ў кучу'. З *су-* і *браць*, гл. (Фасмер, 3, 791–792). Параўн. аналагічнае славен. *sǫbra* 'крупы' < **sǫ-bьra* (Сной у Бязлай, 3, 282), што дае падставы для рэканструкцыі **sǫ-borъ* (Куркіна, Этимология–1994–1996, 206). Значэнне 'куча камення на полі' не звязана з *бор* 'узвышэнне, пясчаны бугор' (Талстой, Геогр., 40). Борысь (Prefiks., 93) узнаўляе прасл. **sǫborь/*sǫborъ* < прасл. **sъ-berǫ*, **-bьrati* з адпаведнікамі ў балцкіх мовах: літ. *súmbaris* 'ссыпанне, складванне разам', *sǫ́barios* 'дажынкі', лат. *suobara* 'сумесь розных гатункаў збожжа'. Варбат (Слав. языкозн., VII, 110–111) больш позняй праславянскай лічыць і **sǫbarъ* з падаўжэннем апафанічнага **o* ў корані аналагічна **udarъ*.

**Сýбач** 'наўзбоч' (Ласт.), рус. *сбочь* 'тс'. З *су-* і *бок*, аналагічна да *побач*, гл.

**Суб'éкт** 'дзейная асоба; асоба або арганізацыя з акрэсленымі правамі і абавязкамі; дзейнік' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'кожная асоба або рэч, пра якія ґаворыцца' (Ласт.). Ст.-бел. *субъектумъ* 'суб'ект' (1722 г.) – непасрэднае запазычанне з лац. *subjectum* (Булыка, Запазыч., 311). Сучасныя формы, хутчэй за ўсё, запазычаны праз польск. *subiekt* або рус. *субъект* (з польск., гл. Віткоўскі, Słownik, 181).

**Сýбіна** 'палавіна (звыч. кола) счыненай дамашняй каўбасы' (мёрск., Нар. ск.). Няясна (іранічна да літ. *subinė* 'зад'?).

**Субо́жны** 'той, хто мае Бога ў сэрцы' (Нас.), сюды ж *субо́жніна* 'міласціна' (Стан.); *субо́жыцца* 'злітавацца, пашкадаваць, пабаяўшыся Бога' (лаг., Гіл.). З *су-* і *-божны* < *бог*. Параўн. *набо́жны*. Фармальны адпаведнік таксама ў в.-луж. *subožny* 'жарэбная (кабыла)', ад *su-* і **božьnъ-jь*; апошняе ў значэнні 'шчаслівы, блаславёны'; гл. Шустар-Шэўц, 1374. Не выключана другаснае ўтварэнне ад *субо́жыцца* 'збяднець, стаць убогім' (Варл.), *субо́жывацца* 'бяднець, прыкідвацца бедняком' (Нас.) – ад *убогі*, гл.

**Субо́р** 'натоўп, зборышча' (маст., Нар. сл.), 'сходка': *субор дзеўкам*; 'сабор', 'куча камення' (Станк.), *субо́рна субо́та* 'першая субота ў вялікі пост' (ТС). Гл. *субар*; да апошняга параўн. *збо́рна (збо́рава) субо́та* 'тс': *идуть у цэркву люди, паминають радителяў* (Талстая, Полес., 220), ад **sъ-borъ*, гл. *браць*.

**Субо́та** 'шосты дзень тыдня, які папярэднічае нядзелі' (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Федар. 4, ТС), *сыбо́та* (Янк. 2; Сцяшк., Мал., Ян.; Шымк. Собр., Мат. Маг., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ), *сабо́та* (Сл. ПЗБ), *сымбо́та*: *у сымботу будзем картоплю капаць* (Жд. 2), сюды ж *суботнік* 'кніжка для ўпісвання імён нябожчыкаў для памінання ў памінальныя суботы' (Шымк. Собр.), *субо́ня* (< *суботня*) 'мянушка цяляці, якое нарадзілася ў суботу' (лаг., Сл. ПЗБ). Укр. *субо́та*, рус. *суббо́та*, ст.-рус. *субота*, польск., в.-луж., н.-луж., чэш., славац. *sobota*, палаб. *süobta*, серб.-харв. *су́бота*, славен. *sobóta*, балг. *събота*, макед. *сабота*, ст.-слав. **сѫбота/собота**, што ўрэшце ўзыходзяць да ст.-яўр. *šabbāt*, арам. *šabbətā* 'дзень пасля шасці працоўных дзён'. У якасці непасрэдных крыніц запазычання разглядаюцца с.-лац. *sabbata*, мн. л. ад *sabbatum* пераважна для заходнеславянскіх і заходне-паўднёваславянскіх форм з пачатковым **so-*; адпаведную старaславянскую форму лічаць маравізмам, гл. Львоў, Зб. Нахціґалу, 186; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 328. Усходне- і паўднёваславянскія формы з **sǫ-* ўзводзяцца, па адной версіі, да грэч. дыял. *σάμβατα, мн. л. ад *σαμβατον, пры літаратурным грэч. σάββατον (Фасмер, 3, 792 з аглядам літ-ры; Младэнаў, 626); па другой – да балк.-лац. **sambata*, параўн. рум. *sâmbătă* (Скок, 3, 299). Германскае пасрэдніцтва, параўн. ст.-в.-ням. *sambaȝtag* (Міклашыч, 314 і інш.), адмаўляе Фасмер (там жа) з прычыны распаўсюджання **sobota* ва ўсіх заходнеславянскіх мовах. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1331; Сной, 589; Борысь, 566; ЕСУМ, 5; Бязлай, 3, 282. Падрабязны агляд версій



(з размежаваннем незалежных, як мяркуецца, па паходжанні **sǫbata* і **sobata*) гл. ESJSt, 14, 859–860. Формы з *сы-*, *са-* – у выніку распадабнення перад губнымі зычнымі, параўн. спарадычнае *сыпонь*, *сыпоня* пры паўсюдным *супонь*, *супоня* (ЛА, 2), гл. Другасная назалізацыя перад губнымі вядома і іншым славянскім мовам, параўн. серб. *прамбаба* 'прабабуля', і робіць уражанне аднаўлення першаснай у ст.-слав. **сѫбота** (параўн. Пятлёва, Этим. иссл., 2001, 48), што адпавядае аналагічным балканскім працэсам, у тым ліку с.-грэч. σάμβατον < σάββατον, гл. Зайкоўскі, Слов. етим., 199.

**Субста́нцыя** 'матэрыя; першааснова' (ТСБМ, Некр. і Байк.); ст.-бел. *субстанция* 'ежа', 'злучэнне; матэрыя; маса', 'маёмасць' (Ст.-бел. лексікон) запазычана праз ст.-польск. *substancyja* 'тс' або непасрэдна з лац. *substantia* 'сутнасць; уласнасць; наяўнасць' (Булыка, Лекс. запазыч., 77). У сучаснай літаратурнай мове, хутчэй за ўсё, з рус. *субстанция*.

**Субты́льны** 'кволы, слабы', 'далікатны, тонкі' (ТСБМ), *субтэ́льны* 'зграбны', сюды ж, відаць, *субтына́е* 'танец аднаго чалавека' (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *субтелный* 'тонкі, празрысты' (1596 г.). Запазычана праз польск. *subtelny*, *subtylny* 'тонкі, крохкі, далікатны' з заходнееўрапейскіх моў, параўн. франц. *subtil*, ням. *subtil*, што да лац. *subtīlus* 'тонкі, пяшчотны' (першапачаткова 'тонкатканы' – **sub-texlis*, параўн. *тэкстыль*, гл.). Сучасная літаратурная форма, відаць, з рускай. Гл. Фасмер, 3, 793; ЕСУМ, 5, 464; Булыка, Лекс. запазыч., 196.

**Субулдыга́** 'цвёрдая няроўнасць на разбітай дарозе; замерзлая гразь у выглядзе выступаў'; *субулды́жына* 'скіба дзярністай зямлі на ворыве, кавалак сухой зямлі на заскароджаным полі', *субулды́жка* 'тс' (Яшк.), з якім, відаць, зблiжана *субулды́жка* 'вялікая костка' (мсцісл., З нар. сл.), гл. *сулдыга*. Гл. *булдыга*.

**Субы́чыцца** 'сабрацца' (Юрч.), *субы́тчыцца* 'тс' (Юрч., СНС), 'выдаткавацца, пацярпець выдаткі' (Нас.). Паводле Насовіча "войти, ввестись в убытки" (там жа), у тым ліку 'сабраць сродкі на выдаткі', звязана з *убыць*, гл. Параўн. *прыбытак*, *прыбыць*, гл. Іншага паходжання *субы́чыцца* 'насупіцца, нахмурыцца, як бык' (Гіл.).

**Субярэ́зіна** 'нараст на бярозе' (Касп.). З *су-* ('сумеснасць') і *бярэ́зіна* (гл. *бяроза*).

**Суважа́ць** *(suważaci)* 'спачуваць' (Тур.): *stała ziaziulka suważaci* (клец., Федар. 7). Няясна; паводле кантэксту, хутчэй 'суцяшаць', параўн. *развáжаць* (гл.) 'рассейваць трывогу, суцяшаць' (Нас.).

***Сува́лак**, *сува́лок*, *сова́лок* 'сувой, трубка палатна' (Сл. Брэс., Уладз., ЛА, 4). Параўн. этымалагічна падобныя ст.-польск. *swlak*, *swłak* 'павітуха, Convolvulus L.', ст.-чэш. *svlak*, серб.-харв. *svlak* 'тс', балг. *сѐвлак*, *со́влак* 'паўзучая расліна', для якіх рэканструюецца праформа **sъ-vol-kъ* адпаведна лац. *con-volv-ulus* (< *con-volvō)*, што дае падставы разглядаць гэтыя назвы як утвораныя ад кораня **volv-* 'віць, абвіваць' (Махэк$_2$, 597; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 353). Да *валіць*, *валяць* 'скручваць, звіваць у адно', гл. *валіць$_2$*. Параўн. *сава́лак* 'кавалак апрацаванай гліны' (віц., БЛ, 18, 62), рус. дыял. *су́вылык* 'пакулле', гл. Фасмер, 3, 793.

**Су́валака** 'пакулле' (Нас., Касп., Юрч.), 'вяроўка' (Нар. Гом.), 'маніцы' (Гарэц.), *су́волока* 'пырнік, Agropyron repens L.' (іван., пін., ЛА, 1). Параўн. рус. *су́волока* 'зброд', 'пустазелле; дрэнныя каноплі, якія пакідаюцца на полі'. Ад *су-* і *валачыць*, *валаку*; параўн. *су́валач* 'адыходы пры апрацоўцы лёну мяліцай' (барыс., Жд. 1). Насуперак Фасмеру (3, 793) цяжка аддзяліць ад формаў з сінкопай *су́валка* 'рэшткі валакна пасля трапання льну, канапель', 'блытанае валакно' (Бяльк.; ушац., Шатал.), 'пакулле' (Яруш.), 'сухія карэнні, пырнік' (паст., ЛА, 4), 'высахлыя расліны, якія зграбаюць восенню з агародаў' (Растарг.), *сува́лка* 'рэшткі льну, якія застаюцца пасля апрацоўкі яго ў церніцы' (докш., Гіл.), *су́волка* 'вельмі тоўстыя ніткі' (ТС). Параўн. рус. *су́валка* 'ачоскі (льна, канапель)', паводле Фасмера (там жа), ад *валить* (гл. *валіць$_2$*). Борысь (Prefiks., 95) на аснове балцкіх адпаведнікаў, параўн. літ. *sąvalkos* 'тое, што разам сцягнулі; галота, зброд', узнаўляе прасл. дыял. **sǫvolka: *sъvelkti* 'звалачы, сцягнуць'.

**Сува́лка** 'пырнік, карэнне пырніку' (Сцяшк. Сл.; мядз., глыб., Сл. ПЗБ), *су́валка* 'тс' (ЛА, 1), *су́волока* 'тс' (там жа) з адаптацыяй да поўнагалосся. Паводле Сл. ПЗБ (там жа), з літ. *sùvalka* 'тс', што ў сувязі з папярэднім словам (гл.) падаецца сумніўным. Параўн. *сувалак*, гл.

**Су́варата** 'балота, зарослае кустамі' (уздз., Сл. ПЗБ), 'алешнік' (уздз., ЛА, 1), *суварáты* 'хмызняк' (Сержп. Казкі). Паводле аўтараў Сл. ПЗБ, – з літ. *sùvarta* 'тс', аднак нельга выключыць і магчымасць семантычнага развіцця ('канец поля' – 'зараслі') наступнага слова, гл.



**Су́вараты** 'частка поля, сервітут' (Сержп., Грам.), *су́вороты* 'папярочныя разоры на канцах нівы' (пін., Нар. лекс.), *су́вороти* 'канец ворнай паласы, дзе разварочваецца плуг' (стол., Выг.), *су́варат*, *су́варата* 'заварот у канцы загона' (ЛА, 2). Да *су-* і *ворат*: *варацíць* (гл. *варочаць*), параўн. *суварат* 'яма ад вываранага з коранем дрэва' (Нар. Гом.), чэш. дыял. *sùvratˇi* 'паварот'.

**Сува́ць** 'соваць, піхаць' (Нас., Бяльк.). Ад *соваць* (гл.) пад уплывам формаў зак. тр., гл. *сунуць*.

**Суве́й** 'гурба снегу, сумёт' (ТСБМ, Шатал., Сл. ПЗБ; ЛА, 2), 'мяцеліца' (чэрв., Нар. лекс.). Да *су-* і *веяць* (гл.).

**Сувені́р** 'памятная рэч' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *сувенир* 'тс' з франц. *souvenir* < *se souvenir* 'успомніць, успамінаць'.

**Су́верцень** 'скрутак, трубка' (калінк., Сл. ПЗБ), *сувертні* 'сувой' (ЛА, 4), *суве́рт* 'скрутак лыка' (бяроз., Шатал.), *су́вертак* 'тс' (Мат. Гом.), *сувэ́рток* 'скрутак лык' (пруж., ЛА, 4), *суве́рток* 'скрутак пакроеных лык' (ТС), *суве́ртык* 'тс' (Бяльк.), *су́вертка* 'закрутка пры аглоблях у санях', 'калок, якім скручваюць вяроўку, якая прытрымлівае дровы на возе', *суверто́к* 'дрэва са спіральна скручанымі слаямі' (Нас.). Укр. *су́вертень*, *су́верток* 'скрутак', рус. *су́верток* 'тс'. Дэрываты ад прасл. **sъ-vь̑r(t)nǫti* (гл. *вярцець*) 'скруціць' з менай дзеяслоўнай прыстаўкі **sъ-* на **sǫ-*; гл. Борысь, Prefiks., 111.

**Суві́рацца** 'сварыцца, лаяцца' (лаг., Гіл.), *сувяра́цца* 'тс' (віл., Сл. ПЗБ), сюды ж *саві́рацца* 'са злосці прыцішана пакрыкваць на некага' (Варл.). Дзеясловы з прэфіксамі *су-/са-* ад прасл. **-virati/*-věrati*, якія звычайна ў славянскіх мовах выступаюць у прыставачных утварэннях (Варбат, ОЛА, Исследов., 1972, 230), параўн. польск. *poniewierać się* 'дрэнна адносіцца да каго-небудзь'. Гл. яшчэ *повірак*, *аўрацъ*, *вірутнік*.

**Суві́сцяль** 'падарунак, падарак (на хрысціны, вяселле)' (іўеў., Сл. ПЗБ; віл., З нар. сл.; маладз., Гіл.). На славянскай глебе адпаведнікаў няма. Па лінгвагеаграфіі – запазычанне з балцкіх моў. Параўн. літ. *výstyti* 'спавіваць дзіця', *výstyklas* 'пялёнка', *suvýtelis* 'спавіванне', лат. *suovista* 'пялёнка'; апошняе з *suo-* і *vistit* 'спавіваць' (Мюленбах–Эндзелін, 3, 1139). Можна меркаваць, што першапачаткова слова азначала падарунак на хрысціны (звычайна кавалак палатна, магчыма, для спавівання дзіцяці), потым значэнне пашырылася да 'ўсялякі падарунак'.

**Суво́й** ‘цэлы кусок палатна, скручаны ў трубку’ (ТСБМ, Шат., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Ян., Жыв. сл., Скарбы, ЛА, 4), ‘мера самаробнай тканіны, звычайна 5–7 губак’ (Нар. ск.), ‘навой’ (Нас.), ‘навой з намотаным на яго палатном’, ‘адна скручаная пасма вяроўкі’ (Бяльк.), *су́вай* ‘пяньковы шнур, які выкарыстоўваецца для віцця вяровак’ (Юрч. Вытв.), *сувы́й* ‘цюк (палатна, паперы)’ (Клім.), *суво́й, сувы́й, суву́йка, сьво́й* ‘сувой’ (Уладз.), *суво́йка* ‘тс’ (Мат. Гом., Ян.), *суво́іна* ‘сувой’ (чэрв., Сл. ПЗБ), *суво́йцы* ‘падоўжны край бёрда’ (Жд. 1, Мат. Гом.), ст.-бел. *сувой* ‘скрутак палатна; мера палатна’ (Ст.-бел. лексікон). Укр. *суві́й* ‘сувой’, рус. дыял. *суво́й* ‘скрутак’, ‘клунак’, ‘звітыя і зблытаныя слаі дрэва, абалона, нарасць’, славен. *sovój* ‘сук, нарасць на дрэве’. Ад **viti* ‘віць’ прэфіксальны назоўнік **sǫ-vojь* (Фасмер, 3, 793) або прасл. дэвербатыў **sǫvojь*, суадносны з **sъ-viti*. Спецыяльна гл. Куркіна, Диал. структура, 192.

**Суво́рка** ‘повад, вяровачка’ (ваўк., Сл. ПЗБ), сюды ж *суво́рыць* ‘звязаць у пару’ (ваўк., Сл. ПЗБ). Параўноўваецца з літ. *sąvaras* ‘вяровачка’ (там жа). Але параўн. укр. палес. *суво́ра* ‘прывязь у цэпе’, славен. *sovȏra* ‘развора ў возе’, з іншай прыстаўкай рус. *сворка* ‘павадок’, укр. *сві́рка* ‘тс’, што дае падставы для рэканструкцыі прасл. дыял. **sǫvora* ‘тое, што звязвае, злучае’, дэвербатыў ад прасл. **sъ-verti* ‘звязаць, злучыць’ < **verti* ‘звязваць’, з балцкімі адпаведнікамі: літ. *sávara* ‘клямка; папярочка, якая злучае дзве бэлькі; тасёмка’, лат. *suôvara* (= *savara*) ‘папярочная планка ў бараны’; падрабязна гл. Борысь, Prefiks., 92. Гл. таксама *свора, шворка.*

**Суво́ры** ‘суровы’ (Беларусіка, 19, 226). Параўн. укр. *суво́рий* ‘тс’, рус. дыял. *суво́рый* ‘суровыя; сярдзіты; брыдкі’. Актуалізавалася ў сучаснай мове пад уплывам украінскай, дзе звязваецца з *уверий* ‘крывы; упарты’ (ЕСУМ, 5, 465), гл. *свара, сувіраццa*; семантычна змененае ў выніку збліжэння з *суровы*, гл.

**Су́вязь** ‘узаемныя адносіны’, ‘блізкасць’, ‘зносіны, камунікацыя’ (ТСБМ), ‘асацыяцыя’, ‘канфедэрацыя’, ‘саюз, федэрацыя’ (Ласт.), ‘паштовае аддзяленне’ (Жд. 1), *сувя́зак* ‘звязка апрацаванага льну’ (Сцяшк.). Укр. рэдкае *су́в’язь* ‘сувязь, згода’, рус. дыял. *суя́зно* ‘суладна’, серб.-харв. *су̏вез* ‘умова аб сумесным ужыванні цяглавых жывёлін для сельскагаспадарчых работ’. Борысь (Prefiks., 100–101) узнаўляе прасл. дыял. усх. **sǫvęzь* і паўдн. **sǫvezъ* як дэрываты ад **sъvęzati* ‘звязаць’, але заўважае, што гэта могуць быць незалежныя ўтварэнні, на што ўказвае вакалізм. Гл. таксама Трубачоў, Проспект, 81. Стварэнне слова для перадачы рус. *союз* прыпісваецца Ластоўскаму (Станкевіч, Язык, 617); слова ў далейшым ужыванні набыло сучаснае значэнне, для якога Ластоўскі выкарыстоўваў *зьвязь*, што этымалагічна адпавядае рус. *связь* (< **sъvezь*). Пра штучны характар слова гл. Пацюпа (там жа, 1160).



**Сувяра́цца**. Гл. *сувіра́цца*.

**Сувярэ́ка** ‘недарэка’ (леп., Жыв. НС). Відаць, да папярэдняга пад уплывам *няўмека*, параўн. ілюстрацыю: *сувярэка, зашыць ні сумеіць* (там жа).

**Суга́** ‘мыс’ (Ласт.). Параўн. укр. карп. *суг* ‘упадзіна ў зямлі’. Няясна. Магчыма, тое ж, што і аргат. *суга́* ‘вада’ (дрыб., шкл., навазыбк., Рам. 8–9), якое выводзіцца з тур. асман. *su* ‘вада’ (гл. Горбач, Арго, 34), г. зн. ‘месца каля вады’; назва па сумежнасці? Менш верагодная сувязь з укр. *суга́* ‘ржавая вада на балоце’, ‘асадак у алеі’, балг. *съ̀га* ‘плесня на паверхні віна’, для якіх узнаўляецца прасл. дыял. **sǫga*, гл. Пятлёва, Этимология–1976, 45; ЕСУМ, 5, 465. Можа быць і адваротным дэрыватам ад *сузок* (гл.) з “этымалагічным” узнаўленнем *-г-*. Пацюпа (Arche, 2007, 3, 170) выводзіць з *сугба́* ‘выгін знутры’ (ад *гібаць, гбаць* ‘згінаць’), у такім выпадку трэба дапусціць атаясамліванне фіналі *-ба* з адпаведным суфіксам і яго адсячэнне, што малаверагодна.

**Суга́к** ‘касцяное або драўлянае шыла з плоскім вастрыём для падплятання лапцей’, ‘роўная тонкая палачка, якая прасоўваецца ў вушкі асновы лапцей’ (Бяльк.; маг., ЛА, 4), ‘жалезны прут’ (Маш.), ‘пруток з дроту для прапальвання дзірак у дрэве’ (Пятк. 2), ‘спічак, швайка, шыла’ (глус., Янк. 3; Мат. Гом.), ‘завостраная палачка падплятаць лапці’ (Сцяшк. Сл.). Укр. *суга́к* ‘жалезнае (або касцяное) шыла для праколвання дзірачак у пасталах, для развязвання вузлоў’. Паводле ЕСУМ (5, 465), з *сува́к* ‘шыла, засаўка, хамуцік’ (гл. *суваць*), набліжанае да *гак*. Не выключана сувязь з *соўгаць* (гл.) з пераходам *оў > у*, параўн. *саўга́к* (пра старога чалавека), *су́гнуць* ‘хуткім рухам пасунуць, усадзіць’ (дзятл., Сл. ПЗБ), *сугану́ць* ‘саўгануць, рэзка перамясціць’ (Юрч. Вытв.), або з укр. *суга́к*, польск. *suhak* ‘антылопа’ < караім. *soɣak (sohak)* ‘малады алень, антылопа’ (Slavica Tarnopolensia, 1, 69), з рагоў якіх выраблялісяя прылады. Гл. *сайга*.

**Су́галаўе** ‘пярэдняя частка саней’ (Касп.; в.-дзв., Шатал.), *сугало́ўя* ‘вузгалаўе ў возе’ (кіраў., ЛА, 2), *сугало́вок* ‘брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і ляжыць на восі’ (бяроз., Шатал.). Гл. *вузгалоўе*.

***Сугалаўкí**, *суголоўкí* ‘канец градак на полі’ (Выг.). Укр. *су́голова, су́головок* ‘папярочныя барозны ў канцы ўчастка’, ‘палявая сцяжынка ўздоўж поля, да якой упоперак прылягаюць іншыя ўчасткі’. Бел. (палес.) – укр. ізалекса; гл. Выгонная, Бел.-укр. ізал., 17. Да *су-* і *галава*, аформленае рознымі суфіксамі; адносна семантыкі параўн. рус. наўг. *головнíк* ‘палявая дарожка, што ідзе цалiной па мяжы’, у аснове якой, відаць, метафара ‘канец (пачатак) чаго-небудзь’, ‘галава’, параўн. макед. *глава* ‘вытокі ракі’; інакш гл. ЕСУМ, 5, 466.

**Сугамо́нне** ‘спакой’ (Мат. Маг.). Гл. *угамон*.

**Су́гані** ‘загон поля ад разоры да разоры’ (калінк., Сл. ПЗБ), *су́ганькі* ‘месца, дзе сыходзяцца гоні’ (Шат.). З прыст. *су-* і *гоні* (гл.).

**Су́гаркі** ‘вугалькі, агаркі’, ‘назва гульні, гарыпні’ (Ласт.). Ад *гарэць*, параўн. рус. *горелка* ‘гульня, у якой становяцца парамі, а адзін спераду “гарыць”, ловіць’ (Ласт., 131).

**Сугба́** ‘выгін знутра’, *сугбавíна* ‘тс’, *сугбавы́* ‘кругавы знутра’ (Я. Драздовіч). Да *су-* і *гібаць, гбаць*, гл. Пацюпа, Arche, 2007, 3, 170.

**Сугле́й** ‘зямля з дамешкам гліны’ (Ласт., Шымк. Собр.), ‘глей’ (Юрч. Вытв.). З *су-* і *глей*, гл.

**Суглíнак** ‘глініста-пясчаная глеба’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Параўн. укр. *су́глинок*, рус. *суглúнок*, для якіх Трубачоў (Этногенез$_2$, 457) узнаўляе прасл. **sǫglinъkъ*. Гл. *су-* і *гліна*.

**Суглíчыць** ‘зрабіць ненармальным фізічна’, *суглíчэны* ‘няскладны, нязграбны’ (ТС). Няясна.

**Сугло́б** ‘сустаў, патаўшчэнне на суставах’ (усх.-палес., Б. Сачанка), ‘гарбаты чалавек’ (Бяльк.), *сугло́біна* ‘высокі сагнуты чалавек’ (Бяльк.), *сугло́п, сугло́біна* ‘высокі, няўклюдны падлетак’ (кіраў., Нар. сл.), *сугло́бісты* ‘сутулы’ (Ян.), *сугло́бы* ‘пануры’ (Ласт.), *сугло́біцца* ‘згорбіцца, скрывіцца’ (Варл.). Параўн. укр. *сугло́б* ‘згіб, сустаў’, рус. смал. *сугло́бый, сугло́ба* ‘хмурны чалавек, нелюдзень’; сюды ж польск. *zgloba* ‘перашкода, запор; клопат, турботы’, серб.-харв. *зглоб* ‘тс’, славен. *zglób* ‘тс’, балг. *сглоб* ‘стык, злучэнне; сустаў’, макед. *зглоб* ‘згіб; сустаў’. Прасл. **sǫglobъ/*sъglobъ* – аддзеяслоўны дэрыват ад **sъ-globiti* ‘злу-



чыць’, параўн. укр. *згло́бити* ‘злучыць клінам’, балг. *сглобя́вам* ‘злучаць, складваць, прыводзіць у парадак’, прэфіксальнага дэрывата ад прасл. **globiti* < прасл. **globa* ‘кол, шост, жэрдка’ (Борысь, Prefiks., 118–119; Фасмер, 3, 793). Развіццё значэнняў ‘злучэнне, патаўшчэнне’, ‘сагнуты, нахілены, гарбаты’ > ‘той, хто глядзіць спадылба’. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 466; ЭССЯ, 6, 131–134. Параўн. *аглобля* (гл.).

**Су́гляды** ‘агледзіны’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Др.-Падб., Бяльк.), *сугля́ды* (Сл. Брэс., Мат. Гом.). Да *су-* і *глядзець*, параўн. *агледзіны*.

**Сугне́й** ‘нелюдзень, дзіклівы, пануры чалавек’ (ТСБМ, Сцяшк., Бір. Дзярж.; чырв., З нар. сл.), *сугне́д* ‘тс’ (карэліц., Нар. лекс.), *сугне́т* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.). Конфікснае ўтварэнне *су-* + *-й* ад *гне́сці*, *гняту* (гл.); *сугнед* і *сугнет* утвораны ад асновы прэзенса з узнаўленнем этымалагічнага *-е-* пад націскам. Да семантыкі параўн. *гне́сца* ‘скнарнічаць, быць скупым для самога сябе’ (Гарэц.). Іншага паходжання, відаць, *сагне́й* ‘зняважліва пра сагнутага, гарбатага’ (Варл.), якое да *сагнуцца*, гл. *гнуць*.

**Суго́н** у фразеалагізме *гнаць у сугон* ‘настойліва неадступна прымушаць’ (Янк. БФ), ‘пагоня’, *суго́н-паго́н* ‘тс’ (Гарэц.), *суго́н* ‘месца павароту плуга’ (лельч., Лекс. Бел. Палесся), ‘сцяжынка, пратоптаная жывёлай’ (слаўг., Яшк.). Рус. дыял. (паўн.) *суго́н* ‘пагоня’; ад *су-* і *гон* < *гнаць*; гл. Фасмер, 3, 793.

**Суго́р** ‘невялікі пагорак’ (Яшк.), ‘гурба снегу’ (Ласт.), *суго́рак* ‘пагорак; узгорак’ (Сл. ПЗБ, ПСл), ‘гурба снегу’ (Яшк., ЛА, 2). Укр. *су́горок* ‘невялікае ўзвышэнне’, рус. паўн. *суго́р, су́го́рок* ‘тс’. Да *гара*, гл. Борысь (Prefiks., 142) бачыць тут значэнне ‘месца, падобнае да таго, якое названа ў корані’.

**Сугро́б** ‘гурба намеценага снегу’ (Бяльк., Яшк., Сл. ПЗБ; усх., ЛА, 2). Ст.-бел. *сугропь, суграпъ* ‘гурба снегу’ (XVI ст., ЖНС), ст.-рус. (XV ст.) *сугробъ* ‘гурба, стос’, укр. *сугро́б* ‘узвышша, узгорак’. Дыял. прасл. **sǫgrobъ* < **sъ-grebti* ‘згрэбці’ з апафаніяй у корані; гл. Борысь, Prefiks., 102. Параўн. серб.-харв. дыял. *су̑греб* ‘сверб, хвароба скуры; паводле народных вераванняў – вынік таго, што чалавек наступіў на месца, дзе сабака гроб зямлю’ (Элезавіч, 2), балг. дыял. *сугреб* ‘тс’.

**Сугру́б** ‘скрутак палатна і інш.’ (ТС), ‘кавалак палатна для бялення’: *на два сугру́бы розрэзаў* (стол., ЛА, 4). Фанетычна

зменёнае *сугроб* (гл.), параўн. укр. дыял. *сугро́б* ‘сувой палатна’, магчыма, пад уплывам *грубы* ‘тоўсты’.

**Сугрэ́ў** ‘цяпло’ (Сцяшк. Сл.), *су́грэў* ‘саграванне’ (Ласт.). Параўн. рус. разм. *сугре́в* ‘тс’. Да *су-* і *грэць*.

**Сугу́к** ‘зычны гук’ (Станк.). Як лінгвістычны тэрмін калька т. зв. культурных еўрапейскіх тэрмінаў, параўн. чэш. *souhlaska*, макед. *согласка* і пад., у аснове якіх лац. *consonāns* ‘тс’ (Сной$_2$, 680); варыянт *зычны* або *сугалосны гук (зык)* ‘тс’ (Некр. і Байк.) калькуе рус. *согла́сный звук*, у сцягненай форме параўн. славен. *soglasnik*, серб.-харв. *сугласник* ‘тс’ (ESSJ SG, 1, 240). Да *су-* і *гук*, да семантыкі параўн. *сугу́чны* ‘калі гук да гуку пасуе’ (Варл.), г. зн. ‘які вымаўляецца разам з галосным’.

**Суд** ‘орган для разгляду судовых спраў’, ‘судовы працэс’, ‘думка, меркаванне’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), ‘суд (судовы орган і працэс)’ (Сл. ПЗБ, Бяльк.), ‘лёс, наканаванне’: *nie toj ŭmiraje chto chud, da toj kamu sud* (Пятк. 2), ст.-бел. *судъ* ‘судовая ўстанова, інстанцыя’, ‘судовы акт, прысуд’, ‘судовы працэс’, ‘цяжба’ (Сташайтэне, Абстр. лекс.), ‘тс’, ‘меркаванне’ (Альтбаўэр). Укр., рус. *суд*, стараж.-рус. *судъ*, польск. *sąd*, в.-луж., н.-луж. *sud*, чэш. *soud*, славац. *súd*, серб.-харв. *су̑д*, славен. *sọ́d* ‘суд, прыгавор’, балг. *съд*, макед. *сад*, ст.-слав. **сѫдъ** ‘суд, судовы працэс, прыгавор, рашэнне, справядлівасць’. Прасл. **sǫdъ*, якое з **som-* і і.-е. кораня **dhē-* ‘класці, ставіць’ (гл. *дзеяць*), параўн. блізкае ст.-інд. *samdhiṣ, samdhā́* ‘дагавор, сувязь, аб’яднанне’, літ. *samdà* ‘найманне, арэнда’, *samdýti, sámdaũ* ‘наймаць’, гл. Мее, 162, 234; Траўтман, 48; Фасмер, 3, 794. З першаснага значэння ‘складанне, злучэнне’, відаць, развілася далей ‘складанне думак, унясенне прапаноў, устанаўленне думак, ацэнак, і г. д.’, адкуль з’явілася спецыялізаванае значэнне ‘асуджэнне каго-небудзь, судовы працэс’ → ‘тыя, хто вядзе судовы працэс, вырашае спрэчкі, суд’; гл. Борысь, 539. Іншая словаўтваральная мадэль у Бязлая (3, 283–284): ад прасл. **sъ-děti* ‘саставіць, злажыць’, параўн. славен. *zdẹ́ti* ‘злажыць’, ст.-чэш. *sdieti* ‘тс’. Шустар-Шэўц (1376) мяркуе, што корань *-dъ* у славянскім слове меў і значэнне ‘гаварыць’, параўн. в.-луж. стар. *dzieć*, н.-луж. *źaś*, чэш. *díti* ‘гаварыць’, адкуль **sǫdъ* ‘прыгавор’ з ‘што-небудзь сумесна абмеркаванае і аб’яўленае (выказанае)’. Менш верагодная версія Семерэны (гл. Шустар-Шэўц, там жа) аб сувязі **sǫdъ* з лат. *censeo* < і.-е. **kendh-* ‘судзіць,



даваць ацэнку’, што падтрымлівае Махэк$_2$ (568); супраць Трубачоў (Ремесл. терм., 236), які падкрэслівае адзіную крыніцу паходжання **sǫdъ* ‘суд’ і **sǫdъ* ‘су́д(ы)’. Варбат (Слав. языкозн., IX, 64–66) звязвае з асновай прасл. **sědti*, **sędǫ* ‘сесці’; таксама Ондруш, Этимология–1984, 178. Гл. яшчэ Сной, 590; ЕСУМ, 5, 467; ESJSt, 14, 861–862.

**Судава́ць** ‘абмяркоўваць, радзіцца’ (Сл. ПЗБ). Гл. *судзіць*.

**Суда́к$_1$** ‘рыба сямейства акунёвых, Lucioperca lucioperca L.’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, ТС, Меер Крыч.; полац., З нар. сл., Жыв. св.). Укр., рус. *суда́к*, ст.-рус. *судокъ*, польск. *sandacz*, *sędacz* (XVI ст.), чэш. *candát*, дыял. *sandát*. Махэк$_2$ (81) рус. і ўкр. словы лічыць запазычаннямі з польскай. Брукнер (481) польскае выводзіць з ням. *Zander*, с.-н.-ням. *sandāt*. Аднак н.-в.-ням. *Zander*, паводле Клюге–Гётцэ (702 і наст.), Беке (JF, 52, 138), само запазычана са славянскага. Каламіец (Рыбы, 113–117) прыходзіць да высновы пра славянскае паходжанне назвы, якая павінна разглядацца як субстратная з няяснай этымалогіяй, што ўзгадняецца з меркаваннямі Махэка (там жа) адносна “праеўрапейскага” паходжання слова.

**Судамы́я** ‘асоба, што іншых абмаўляе’, *судамы́іць* ‘абгаворваць’ (Варл.). Укладальнік слоўніка звязвае з *судзіць* ‘абгаворваць’ і *мыць* ‘паласкаць’: *sudzie i myje jazykom* (там жа), што можа ўспрымацца як народнаэтымалагічнае тлумачэнне, параўн. рус. *судомо́йка* ‘пасудамыя; хвашчанка (для мыцця пасуды)’, гл. *судзіна*, *суды*. Не выключана сувязь з *судо́м* (гл.), аргат. *судо́міць* ‘судзіць’ (Веснік БДУ, 1994, 4, 48), параўн. рус. дыял. *судомить* ‘лаяць’.

**Су́дарга** ‘сутарга’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сцяшк.; ашм., Станк.), *су́дорга* ‘тс’ (ТС), *су́дырга* ‘тс’ (Бяльк.); з адсячэннем *-га* *су́дар* ‘сутарга’ (Шат., Бір. Дзярж.; віл., Сл. ПЗБ; дзярж., З нар. сл.), *су́т(а)ргі* ‘корчы, кіданне’ (Некр. і Байк.). Укр. *су́дорга* ‘сутарга’, дыял. *су́дорога* ‘рабізна на вадзе ад хуткага цячэння’ (Чарапанава, Геогр.), рус. *су́дорога* ‘сутарга’, дыял. *су́дорга* ‘тс’. Рус. і ўкр. словы ўзводзяцца да *су-* і **drъgati* ‘торгаць’, параўн. *дзёргаць* (Нас.), укр. *дергати*, рус. *дёргать*, параўн. літ. *sudìrgti* ‘раззлавацца’; Міклашыч, 42; Брукнер, KZ, 48, 216; Фасмер, 3, 796. Гл. *сутарга*. Меркаванне пра запазычанне з рускай або ўкраінскай моў у кантактных зонах мае неабавязковы характар, паколькі магчыма азван-

чэнне *-т-* у *сутарга* ў інтэрвакальным становішчы. Варбат (Слав. языкозн., VII, 105) для беларускіх і ўкраінскіх слоў узнаўляе прасл. **sǫdьrga*, для рус. – **sǫdorga*.

**Судасíць**, *судашáць*. Гл. *судосіць*₁.

**Судáчыць** 'гаварыць, гаманіць' (Сл. ПЗБ), 'абгаворваць' (Сержп. Прымхі). Па лінгвагеаграфічных прычынах малаверагодна запазычанне з рус. *судáчить* 'гаманіць, абмяркоўваць'; хутчэй ад **судакаць*, суадносным з *судзіць*, гл.; параўн. рус. *судáкать* 'тс' (выводзіцца з *судáк* 'дрэнны суддзя', гл. Праабражэнскі, 2, 413; Фасмер, 3, 795).

**Судашáць**. Гл. *судосіць*₁.

**Суддзя́** 'службовая асоба ў судзе, якая выносіць прыгавор', 'чалавек, які выказвае суджэнне, думку' (ТСБМ, Байк. і Некр., Шымк. Собр.), *судзья́*, *судзя́* 'суддзя; хто знеслаўляе, ганьбіць' (Сл. ПЗБ), *судзья́* 'суддзя' (ТС), ст.-бел. *судья* 'тс' (XIV ст., КГС). Укр. *суддя́*, рус. *судья́*, старaж.-рус. *судиꙗ*, *суди*, *судии*, ст.-польск. *sędziá*, чэш. *sudí*, серб.-харв. *сýдија*, славен. *sǫdij*, балг. *съдия́*, макед. *судија*, ст.-слав. **сѫди**, **сѫдии**. Прасл. **sǫdьji* – назва выканаўцы дзеяння ад **sǫditi*, гл. *судзіць* (Борысь, 542).

**Сýджаны** 'прызначаны лёсам' (Сл. ПЗБ, Сержп. Прымхі, Бяльк.), *сýджоны* 'тс' (ТС), *сýжаный (суженый)* 'тс' (Нас.), *сужóнко* 'нарачоны, у дзень шлюбу – малады' (Тур.), *сýжанка* 'вызначаная лёсам' (Гарэц.). Ад *судзіць* 'прызначаць, прадвызначаць', гл. таксама *сужэнства*.

**Сýдзень** 'вялікі саламяны кош' (Сцяшк. Сл.), 'суднік' (Мат. Гом.). Да *суд-* (гл. наступнае слова) з суф. *-ень*.

**Сýдзіна** 'пасудзіна' (Сцяшк., Нар. лекс.), *судзíна* 'тс' (ТСБМ, Варл.; гродз., ЖНС), 'невялікая кадушачка для мукі і збожжа' (узд., Жд. 2), 'вялікая кадушка (на 30–50 пудоў зерня)' (Сцяц. Сл.), *судúнка* 'збанок' (Дразд., ДАБМ, камент., 822), *сýдзя* зборн. 'драўляны посуд' (гродз., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *судина* 'пасудзіна, ёмістасць', 'судна, лодка' (Ст.-бел. лексікон). Да *сýды* (гл.).

**Судзíць** 'меркаваць, абмяркоўваць', 'асуджаць, ганіць', 'разглядаць правіннасць, злачынства ў судовым парадку', *судзíцца* 'звяртацца ў суд, мецца справу з судом', 'быць пад судом, мецца судзімасць', 'прадвызначыцца, пашанцаваць': *не судзілася мне долі* (ТСБМ, Нас., Шат., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *судити* ў розных значэннях (XIV ст., КГС). Укр. *судúти*, рус. *судúть*, ст.-рус. *судити*, польск. *sądzić*, в.-луж. *sudźić*, н.-луж. *suźiś*, чэш. *souditi*, славац. *súdit'*, серб.-харв. *сýдити*, славен. *sǫ́diti*, балг. *сѫ́дя*, макед. *суди*, ст.-слав. **сѫдити** 'судзіць, асуджаць, прымаць рашэнне'. Прасл. **sǫditi* дэрыват ад **sǫdъ* 'суд'. Гл. Фасмер, 3, 795–796; Борысь, 539; Шустар-Шэўц, 1376.



**Судзьбá** 'доля, лёс' (Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС): *sudźba bóża* 'прадвызначэнне' (Федар. 4), *судзьбá* – працэсуальны назоўнік ад дзеяслова *судзіць* (слуц., Жыв. НС), ст.-бел. *судба* 'тс': *судбы судеи* (Альтбаўэр). Параўн. старое ўкр. *судьбá* 'доля', рус. *судьбá* 'лёс', чэш. *sudba* 'прадвызначэнне, доля', славен. *sódba* 'прысуд; меркаванне, думка', старое 'лёс', серб.-харв. *судба* 'тс', балг. *съдбá* 'тс', макед. *судба* 'доля, лёс', ст.-слав. **сѫдьба** 'прысуд; права, закон; рашэнне, пастанова'. Прасл. **sǫdьba* – абстрактны назоўнік ад **sǫditi*, гл. *судзіць* (Шустар-Шэўц, 1376; Скок, 3, 356; Бязлай, 3, 283). Існуе меркаванне, што гэта самастойныя ўтварэнні ў асобных славянскіх мовах, а значэнне 'лёс' распаўсюдзілася пад уплывам рускай мовы, параўн. Махэк₂, 568; Русек, Этимология–2000–2002, 50.

**Сýдна** 'плавальны сродак', 'вядро' (ТСБМ), *суднó* 'пасудзіна' (Нас., Сл. ПЗБ, Ян., Мат. Гом., Касп., Бяльк.), 'карабель' (Сл. ПЗБ), 'вымя ў каровы' (віц., Жыв. св.). ст.-бел. *судно* 'лодка, карабель' (XV ст., КГС). Рус. *сýдно* 'судна; пасудзіна', смал. 'вымя ў каровы', ст.-рус. *судьно* 'судна; лодка'. Дэрыват з суф. *-н-* ад *суд* (гл. *суды*). Фасмер (3, 796) слова ў значэнні 'судна, лодка' параўноўвае з франц. *vaisseau* 'карабель' ад лац. *vasscellum* 'маленькая пасудзіна'.

**Сýднік** 'шафа для посуду' (ТСБМ, Касп., Бяльк., Ян., Мат. Гом.), 'скрыня для захоўвання прадуктаў' (Нас., Малчанава, Мат. культ., Шн., Мат. Маг.), 'кубел' (Сл. ПЗБ), 'драўляная пасуда для сала' (Сцяшк.), 'бочка з накрыўкай для засольвання сала' (навагр., З нар. сл.), 'паліца' (Сл. ПЗБ, Шатал.), 'прыстасаванне для сушкі лыжак' (Сл. ПЗБ). Да *судны* < *суды*, гл.

**Сýдня** 'скрыня для прадуктаў' (Бяльк., Мат. Маг.). Да *суд-* < *суды*, гл.

**Судóвы** 'які мае адносіны да суда' (ТСБМ, Нас., Гарэц.). З польск. *sądowy* 'тс'; гл. Гіст. мовы, 2, 144.

**Судóм** наз. 'нешта нядобрае, непрыемнае': *судом ее возьмі* (ТС). Верагодна, да ўкр. *судóма* 'сутарга, курч', *судóмити* 'кур-

чыць, зводзіць сутаргай'. Украінскае слова, на думку Варбат (Этимология–1981, 21–22), працягвае прасл. *sǫdoma, якое з і.-е. *som-dhə-m, дзе *som- > *sǫ-, корань -dhə- (гл. *дзець*) і суф. -m-. Аб іншых версіях гл. *несудомны*.

**Судо́сіць₁** 'сустрэць' (Ласт., Кольб., Сцяшк; івац., ЛА, 2), *судасі́ць* 'спаткаць' (Арх. Федар.), *судасі́ці* 'сустрэць' (пруж., ЛА, 2), *судосыты* 'тс' (драг., Сл. ПЗБ; кобр., Нар. лекс.), *судосы́ты, судосэ́тэ* 'тс' (Сл. Брэс.), *судашы́ць* 'сустракаць' (Ласт.), *судошы́ты* 'сустракаць' (бяроз., Сл. ПЗБ), *судоша́ці, судоша́ты* 'тс' (Сл. Брэс.). Бел.-укр. ізалекса: укр. дыял. *судо́сити* 'сустрэць', *судоща́ти* 'сустракаць'; гл. Цыхун, Бел.-укр. ізал., 82. Прэфіксальны дэрыват (*су- < *sǫ-) ад прасл. *dositi 'знайсці', які ў ст.-слав. **досити** 'тс', ст.-рус. *досити* 'знаходзіць' (гл. ЭССЯ, 5, 82), звязанага чаргаваннем галосных з прасл. *desiti: ст.-слав. **десити** 'знайсці, сустрэць', балг. дыял. *де́сим* 'стаяць прама доўгі час', серб.-харв. *дѐсити* 'сустрэць' (гл. ЭССЯ, 4, 217–218); Махэк₂ (115) адносіць сюды ж і чэш. *poděsiti* 'знайсці, застаць'. Роднаснымі лічацца грэч. δέκομαι 'прыймаю', лац. *decet* 'падыходзіць', авест. *dāšta* 'той, які атрыманы'; гл. Бернекер, 1, 188; Скок, 1, 395; ЕСУМ, 5, 468; аднак Фасмер (1, 505–506) заўважае, што розніца ў значэннях пазаславянскіх адпаведнікаў выклікае цяжкасці. Сюды ж *судош'а́імацця* 'сустракацца' (Клім.), з *судашаць і мець*.

**Судо́сіць₂** 'гудзіць; пляткарыць' (Некр. і Байк.), прыводзіцца як адпаведнік рус. *судачить* (там жа). Няясна; магчыма, да *судзі́ць* (гл.) з экспрэсіўнай суфіксацыяй.

**Су́ды** 'два вядры, звычайна з вадой (на каромысле)' (ТСБМ, Др.-Падб., Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Варл., Шатал.), *суда́* 'посуд' (Сл. рэг. лекс.), *суды́, су́дны* 'пара вёдзер' (Касп., Барад.), зборн. *су́дзя* 'посуд' (Скарбы; гродз., ЖНС), 'драўляны посуд' (гродз., Сл. ПЗБ; З нар. сл.), памянш. *су́дца* 'адно вядро' (лаг., Жд. 2). Укр. *суді́на* 'пасудзіна', рус. дыял. *суд* 'посуд', *суды́* 'два вядры', *сосу́д, пасу́да*, ст.-рус. *судъ*, ст.-польск. *sǫd* 'пасудзіна', в.-луж., н.-луж. *sud* 'бочка, чан', чэш., славац. *sud* 'бочка', серб.-харв. *суд*, славен. *sȏd* 'пасудзіна', балг. *съд*, макед. *сад*, ст.-слав. **сѫдъ** 'пасудзіна'. Прасл. *sǫdъ, этымалагічна тое ж, што і *суд* (гл.): з прыст. *som- і коранем -d-, які да і.-е. *dhē- 'ставіць, класці, садзіць' (гл. *дзець*); параўн. літ. *indas* 'сасуд', гл. Фасмер, 3, 794; Брукнер, 483; ESJSt, 14, 862. Шустар-Шэўц (1375), следам за Махэкам₂ (591), мяркуе, што гэта назва адносіцца да часу, калі яшчэ не ўжываўся ганчарны круг, а посуд "складвалі" або склейвалі з лазы ці гліны, што адлюстравалася ў чэш. *sudy* 'цотны', славен. *sod* 'тс', *soda* 'пара' (літаральна 'складзены з двух' або 'складзены ўдвая'), параўн. ст.-інд. *samdha-* 'злучаны, аб'яднаны', гл. Сной₂, 679. Адсюль і значэнне 'пара вёдзер' або 'вёдры на каромысле'.



**Сюды́** 'сюды' (Мат. Маг.), *судэ́мі* 'тс' (маст., Сл. ПЗБ). Гл. *сюды*.

**Сужэ́нства** 'праўная сувязь мужа і жонкі, шлюб', *сужо́нства* 'тс', *сужо́н, сужане́ц* 'муж', *сужані́ца* 'жонка', *сужане́цкія пяро́звы* 'паслявясельныя візіты маладых' (дрыс., Ласт.), сюды ж *сужэ́нька (suže̋ńka)* 'заручаны дзяцюк' (Варл.), 'суджаная' (Касп.). Параўн. серб.-харв. *су̏жаньство* 'няволя, палон, увязненне', *су̏жањ* 'вязень, палоннік, раб', харв. *sužnjica* 'раб, рабыня; палонны', славен. *sužénjstvo* 'рабства, няволя', *sùženj* 'раб, нявольнік', *sužnja* 'рабыня, нявольніца', ц.-слав. *сѫжьнь* 'палоннік', *сѫжьница* 'палонніца'. Выходная форма прасл. *sǫžьnь, першапачаткова 'той, хто звязаны', што ад *sǫ- (гл. *су-*) або *sъ- і *ǫz-ьnь, гл. *вязень, вуза, вузкі* (Скок, 3, 367; Глухак, 596; Сной₂, 712). На семантыку слова паўплывала збліжэнне з *судзіць* (гл. *суджаны*) і *жаніць* (гл.).

**Су́здалі** 'здалёк' (Нас.). З *су-*, *з-* і наз. *даль* (гл.) у Р. скл.

**Су́здаль** 'высокі нязграбны падлетак' (кіраў., Нар. сл.), *су́здыль* 'сухі, танклявы чалавек' (Бяльк.). Няясна; магчыма, аддзеяслоўны дэрыват ад *суздо́ліць < здо́лець* (гл.); першапачаткова, верагодна, у іранічным ужыванні. Трубачоў (Труды 1, 304) лічыць выпадковым фармальнае супадзенне з назвай горада рус. *Суздаль* (для якой прапануецца этымон *суздаль 'глінабітнае або цаглянае збудаванне', параўн. ст.-слав. **създати** 'збудаваць') і мяркуе пра балтыйскае паходжанне з формы, блізкай да літ. *sausuõlis* 'сухое дрэва', што таксама няпэўна. Не выключана ўтварэнне на базе шырока вядомых на ўсходзе Беларусі назваў гандляроў-разносчыкаў *суздала, суздальцы*, што паходзілі ад назвы горада.

**Суздо́ліць** 'перамагчы, адолець' (Нас., Гарэц., Юрч.), 'быць у сілах' (Нас.). Гл. *здолець*.

**Суздро́м** 'цалкам, як ёсць; разам' (Нас., Гарэц.; слуц., Сержп. Прымхі, ТС, Ян., Мат. Гом.), 'хутка, адразу' (Сцяшк.), *су́здрам*

‘зусім, поўнасцю’ (Ласт.), сюды ж *суйздром* (з няясным значэннем, Ц. Гартны), *суздрóмны* (суздромныя ніткі, лён), ‘лён пасля апрацоўкі церніцай’, ‘ніткі без дадатковай апрацоўкі’ (Ян.), ‘лён, абчэсаны на грэбень’ (гом., Нар. сл.), ‘зроблены, пашыты з грубага палатна’ (Нар. Гом.). Прыслоўе ў форме Тв. скл. наз. **суздро* (Карскі, 2–3, 75 без зыходнай формы), якое ад *су-* і **здро* ‘зрок’, з устаўным *-д-*, параўн. польск. *do zdra* ‘зусім, цалкам’, г. зн. ‘з усім, што пападае ў поле зроку’, адкуль ‘ніткі, валакно, поўнасцю апрацаваныя’. Параўн., аднак, укр. аргат. *з уздром, с потрухом* ‘цалюсенькі’ (Горбач, Арго, 169), гл. *вýздро, ýздор, здро*. Няясна, як беларускія словы суадносяцца з рус. дыял. *создóм* ‘часта дыхаючы; хутчэй, адразу, зусім, цалкам’; якое Варбат узводзіць да **zьd-* з прэфіксам **sъ-* паводле польск. *zidki* ‘хуткі’ (Этим. иссл., 1988, 64).

**Сýздрыць** ‘здагадацца, зразумець’, *сýздрыцца* ‘падумацца’ (астрав., Сл. ПЗБ). З **сузрэць* з устаўным *-д-*; параўн. *суздром*.

**Сýзік** ‘пылюшнік вузкалісты, Thalictrum angusfolium Jacq.’, *сýзіц* ‘тс’ (Кіс.), укр. *сýзик* ‘пылюшнік; дзікая пятрушка; піжма’, *ýзик* ‘дзікая пятрушка’, рус. *сýзик* ‘пылюшнік; піжма’. Няясна. Мажліва, ад *вузкі*, першапачаткова адносілася да пылюшніка вузкалістага (ЕСУМ, 5, 469).

**Сýзма** ‘нахабна’: *сузма лізуть у вочы (камары)* (пін., ЖНС). Няясна; магчыма, перасэнсаваны як прыслоўе на *-ма*, параўн. *бегма* (ад *бегчы*), *роўма* (ад *раўсці*), назоўнік *сызма* (гл.): *як сызма лезе ў вочы*, г. зн. сляпіцай (лід., Сл. ПЗБ), верагодна, праз стадыю *сы́змаю* (лезе ў вочы).

**Сузóк** ‘мыс’ (Ласт.). Рус. пск., цвяр. *сузóк* ‘мыс’. Да *уз-* (гл. *вузкі*) з прыст. *с-* і суф. *-ок*. Параўн. *суга* ‘тс’, гл.

**Сузóрак** ‘ножык, складанчык’ (Касп.). Да *сцызорык* (гл.), пачатак слова зменены, каб пазбегнуць непажаданых асацыяцый з дзеясловам *суцаць*, гл. Параўн. *сызорак, цызорык*, гл.

**Сузóр’е** ‘ўчастак зорнага неба, група зорак, аб’яднаных агульнай назвай’ (ТСБМ, Байк. і Некр.). Да *су-* і *зара, зорка*; калька т. зв. еўрапейскіх культурных слоў, параўн. укр. *сузір’е* ‘тс’, рус. *созвéздие*, чэш. *souhvězdí*, славац. *súhvezdie*, славен. *sozvezdje*, серб.-харв. *сàзвежђе*, балг. *съзвéздие*, макед. *созвездие*, што калькуюць лац. *constellatio* ‘ўзаемнае размяшчэнне нябесных цел’. Гл. ESSJ SG, 1, 240; Борысь, Prefiks., 117. Да семантыкі параўн. польск. *gwiazdozbiór* ‘тс’.



**Суíста**: *багатая суіста* (Шляхам гадоў. Мінск, 1990, 149). Відаць, да *су-* і *іста* (< **jьstъ*, гл. *існы*), тады асноўнае значэнне можна ўзнавіць, як ‘тое, што існуе (разам)’.

**Сýйма** ‘хутка (накіравацца)’: *дзеці – суйма да стала* (віл., Сл. ПЗБ). Да *суваць* (гл.) ад асновы цяп. ч. з суф. *-ма*. Менш верагодна сувязь са стараж.-рус. *суима* ‘сход, сходка’, якое Фасмер (3, 797) выводзіць з **sǫ-* (гл. *су-*) і **jьmъ* (гл. *узяць*), ці серб.-харв. *sùjma* ‘страх’ (гл. Скок, 3, 358).

**Сук$_1$** ‘галіна ствала дрэва і яе астатак у дошцы, бервяне’ (ТСБМ, Ласт., ЛА, 1, Сл. ПЗБ, Сцяц. Сл.), ‘засохлая галіна’, ‘адростак рога’ (Сл. ПЗБ), ‘хвосцік у гарбуза’ (ТС), ‘скупы чалавек’ (Скарбы, Сцяц. Сл.). Укр., рус. *сук*, польск. *sęk*, в.-луж., н.-луж. *suk*, славін. *sąk*, чэш., славац. *suk*, серб.-харв. *сŷк*, славен. *sǫ̑k*, балг. *сък*, макед. *сак*, ст.-слав. **сѫкъ**. Прасл. **sǫkъ* зближаюць з літ. *at-šankė̄* ‘крук, выступ на дрэве; палка’, ст.-інд. *çaṅkús* ‘вострым колышак, драўляны цвік, кол’, кімр. *cainc* ‘сук’ (<*k̓anki*), ст.-ісл. *hár* ‘уключына’ (< *hanha-*), якія да і.-е. кораня **k̓onk-* ‘галіна, галуза’, гл. Покарны, 523. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 798 з іншай літ-рай; Махэк$_2$, 592; Бязлай, 3, 285–286; Шустар-Шэўц, 1377; Борысь, 542; ESJSt, 14, 862–863. Пра магчымую сувязь з *саха* гл. Хэмп, Studia etym. Brun. 3, 97–98. Аб семантычным пераходзе ‘нешта крывое, сагнутае’ → ‘скупы’ гл. Казлова, Этимология – 1982, 49.

**Сук$_2$** ‘кастрыца ў прадзіве’ (ТС), *сукé* ‘сучкі ў воўне’ (карэліц., Шатал.), *сучóк* ‘скрутак на крутой нітцы’ (ТС), ‘вузел’ (Сл. Брэс.). Рус. дыял. *сук* ‘вузел на вяроўцы, на поясе і г. д.’, чэш. мар. *suk* ‘вузялок’. Аддзеяслоўны дэрыват ад *сукаць*; гл. Махэк$_2$, 592.

**Сýка$_1$** ‘самка сабакі’, ‘лаянкавае слова (звычайна ў адносінах да жанчыны)’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Стан., Федар. 4, Арх. Вяр., Сл. ПЗБ, ТС), *сукá* ‘тс’ (віц., маг., Жыв. св.; Растарг.), памянш. *сýчка* ‘тс’ (Жыв. св.), *сукóба* лаянк. ‘сука’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Укр., рус. *сýка*, ст.-рус. *сука*, польск. *suka*, палаб. *saukó* ‘распусніца’, чэш. дыял. *suka* ‘сука; злая жанчына’, славац. *suka* ‘тс’. Прасл. дыял. (паўн.-слав.) **sukа* ‘самка сабакі’. Слова няяснага паходжання. Параўноўваюць з індаеўрапейскай назвай сабакі: літ. *šuõ*, усх.-літ. *šunis*, лат. *suns*, ст.-прус. *sunis*, ст.-інд. *çúvā, çvā*, авест. *spā*, лац. *canis*, гоц. *hunds* і г. д., якія з’яўляюцца кантынуантамі і.-е. **k̓uōn* ‘сабака’; гл. Траўтман, 310; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1123 і наст., Фасмер, 3, 798. Супраць па фанетычных прычы-

нах Борысь (586). Трубачоў (Происх., 21–22) такое набліжэнне таксама лічыць недаказаным, паколькі гэта супярэчыць развіццю славянскіх асноў на *-n*, параўн. і.-е. **katōn* > слав. *katy*, *kamykъ*. Спасылаючыся на Брукнера (525), які прыводзіць ст.-польск. (XVII ст.) *sula* 'сука', ён выдзяляе ў слове суф. *-ka*. Махэк$_2$ (592) прапаноўвае паходжанне ад падзыўных воклічаў, напр. н.-луж. *tśu-tśu* на сабак. Іншыя версіі таксама малаверагодныя: рэканструкцыя і.-е. **pḱeukā* і набліжэнне да ст.-інд. *paçikā* 'дробная скаціна' або прасл. **sǫka* і меркаванні аб запазычанні польск. **suka* з усходнеславянскіх моў (Петарсан, AfslPh, 36, 139 і наст.).

**Су́ка$_2$** 'прыстасаванне для ўкладкі доўгага бярвення, калі пярэдняя вось аддзяляецца ад колаў, а "сука" ўкладваецца на гэту вось' (Шат.), *су́кі* мн. л. 'малыя драўляныя санкі' (Сл. рэг. лекс.). Гл. *сучка$_2$*.

**Сука́дла** 'сукала' (Сцяшк., Сцяц. Сл., Скарбы; віл., навагр., шчуч., Сл. ПЗБ; ЛА, 4), *сука́дло* 'тс' (гарад., Сл. ПЗБ; Тарн., Бес.). З польск. *sukadło* 'тс', на што ўказвае суф. *-dło*.

**Су́кал** 'скрыўленне, выгіб' (Ласт.). Паводле аўтара слоўніка, ад *сучы́ць* 'скручваць' (там жа, 103), гл. *сукаць* 'круціць' і *сукол*.

**Сука́ла** 'прылада для насуквання нітак на цэўкі' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Сцяшк., Сл. Брэс., Тарн.; брагін., Нар. сл.; докш., Янк. Мат.), *сука́ла, сука́ло* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сука́йло, сука́ло* 'тс' (ТС, Уладз., Ск. нар. мовы), *сука́йла* 'тс' (Шат., Мат. Гом., Скарбы), яшчэ *сука́льнік, сука́льніца* (ЛА, 4). Укр. *су́кало*, рус. *скало́, ска́льница*, польск. *sukadło*, в.-луж. *sukadło*, палаб. *såkodlə*, серб.-харв. дыял. *су̀кало*, макед. *сукало*. Прасл. **sukadlo*, **sъkadlo* 'назва прылады для сукання' – дэрываты ад **sukati* (гл. *сукаць*) з інструментальным суф. *-dlo*, гл. Трубачоў, Ремесл. терм., 112.

**Сукале́нка** 'вузел у сцябле саломы' (Касп.), *сукале́нкі* 'суставы пальцаў' (Сл. ПЗБ, ЛА, 3), *сукале́нца* 'вузел кушчэння' (Нас., Юрч. Вытв.), *сукале́нцы* 'тс' (Сл. ПЗБ), 'калены сцябла', 'нарасці на ніжняй частцы нагі ў пеўня' (Нар. сл.), *сукале́нца* 'перагіб, сустаў' (Бяльк.), *сукале́нца, сукале́нны* 'які мае шмат парасткаў, сучкоў' (Нас.). Да *калена* (Борысь, Prefiks., 134), гл.

**Су́калень** 'птушка вераценік' (Інстр. 2, Ласт.). Да *сукаць*, *сукала*, гл. матывацыйную сувязь іншай назвы з *верацяно*. Хутчэй за ўсё, гукапераймальна-імітацыйнага паходжання (перадае



скрып матавіла). Неверагодна збліжэнне з *кал* у Фасмера (3, 798). Гл. Антропаў, Назв. птиц, 368.

***Су́кань**, *су́конь* 'суконная пража' (ТС). Дэрыват ад *суканы* < *сукаць* (гл.) з суф. *-ь*; *-о-*, відаць, гіперкарэктнага паходжання.

**Су́карак** *(су́кырак)* 'сукрутак, завіток, кучаравінка' (Бяльк.), *су́карка* 'вузялок або пупырышка на крута ссучанай нітцы' (Нас., ЛА, 5, Бяльк.), *сука́ркі* 'сукараткі' (Сцяшк.), памянш. *су́карачка* 'тс' (Нас.), сюды ж *су́карыцца* 'скручвацца ў закруткі' (Нас.; мёрск., Сл. ПЗБ). Суфіксальнае ўтварэнне ад **сукар*, параўн. *су́къpына* 'вузялок на крута звітай нітцы', мн. л. *су́кры* (КСП), 'локаны' (Касп.), якія суадносяцца з серб. дыял. *сука́р* 'цеста для слаёнага пірага ў скручаным выглядзе', балг. дыял. *су́кер* 'пятля, вузельчык на ненацягнутай вяроўцы, нітцы і пад.', *сука́р* 'ссучаная вяроўка', 'чорная вяроўка, якой абвівалі анучы на нагах у пасталах, абмоткі'; што да прасл. **sukrъ*, суадноснага з літ. *sukrùs* 'моцна скручаны', гл. Цыхун, БЛ, 5, 47; Трубачоў, Слав. языкозн., V, 183 – усё да **sukati*, **sъkati*, гл. *сукаць*. Неабгрунтаваным падаецца меркаванне Бярнара (Бълг. изсл., 360) пра грэчаскае паходжанне балгарскіх слоў. Гл. таксама *сукрак$_1$*, *сукрыца*.

**Су́каратка** 'скручанае месца ніткі, вяроўкі' (ТСБМ, Касп., Жд.; мёрск., Ск. нар. мовы; ЛА, 5; Сл. ПЗБ), *су́курытка* 'завіток валос' (Бяльк.), *су́караць* 'малады бярэзнік для звязвання калоў у агароджы' (Мат. Маг.). Рус. зах. *су́коротка, су́короть* 'тс'. Да *су́карак* (гл.) пад уплывам *кароткі, караціць*. Параўн. *сукрут*, *сукрутка*, гл.

**Сукарды́чына** 'дзеравіна са скручанымі слаямі' (Полымя, 1970, 2, 120). Відавочна да **сукар* (гл. *сукарак*) з экспрэсіўнай суфіксацыяй; прамежкавая форма **сукарда*.

**Сука́цца** 'прыставаць; чапляцца, каб пабіць' (Шат.), 'лаяць; сварыцца' (пух., Сл. ПЗБ); сюды ж, відаць, значэнне 'сватацца' (= 'прыставаць') (LKK,.16, 190), якое Лаўчутэ (Балтизмы, 149) з пэўнымі засцярогамі адносіць да балтызмаў. Да *сукаць*, гл.

**Сука́ць** 'звіваць, скручваць некалькі нітак у адну', 'намотваць пражу на цэўкі пры тканні' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Касп., ТС, Тур., Пятк. 1, Варл., Янк. 1, Бяльк., Сл. ПЗБ, З нар. сл., Сцяшк.), 'рабіць свечку, макаючы ў гарачы воск' (Нас., Шн.), *сука́ти* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ), *сучы́ць* 'тс' (Касп.).

Укр. *сука́ти* 'сукаць', рус. *сука́ть*, *сучи́ть* 'тс', царк.-слав. *сукати*, польск., в.-луж. *sukać*, н.-луж. *sukaś* 'круціць вяроўку, нітку', чэш. *soukati*, славац. *súkat'*, серб.-харв. *су̏кати* 'круціць', славен. *súkati* 'тс', балг. *су́кам*, макед. *сука*. Прасл. **sukati* 'скручваць, звіваць ніткі' з'яўляецца ітэратывам да прасл. **sъkati*, **sъkǫ* 'звіваць ніткі, пасмы; навіваць пражу на цэўкі', параўн. рус. дыял. *ска́ть*, ст.-рус. *съкати* 'сукаць', чэш. *skáti*, славац. старое *skat'*, роднаснага літ. *sùkti*, *sukù* 'круціць, паварочваць', лат. *sukt* 'тс', *sukata* 'матыліца'. Гл. Траўтман, 291; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1118; Фасмер, 3, 635, 798; Махэк$_2$, 545. Узыходзіць да і.-е. **seu̯-k-* < **seu̯-//*su-* 'згінаць, паварочваць, круціць'; гл. Бязлай, 3, 339–340; Борысь, 586; Шустар-Шэўц, 1374–1375; гл. яшчэ Варбат, Этимология–1980, 33; ЕСУМ, 5, 470.

**Сука́ч$_1$** 'сукала' (Сл. Брэс., Тарн.; кам., пруж., ЛА, 4), 'стрыжань, на які надзяваюць цэўку' (Мат. Гом.). Да *сукаць* (гл.).

**Сука́ч$_2$** 'закручаная, зблытаная нітка' (беласт., Сл. ПЗБ), 'сукаратка' (в.-дзв., Шатал.), *сукачы́*, *сукачэ́* 'скручаныя пасмы конскай грывы' (ваўк., Сл. ПЗБ), 'бруд на целе' (маст., Сл. ПЗБ). Да *сукаць* (гл.). Да апошняга значэння параўн. рус. наўг. *сука́рка* 'бруд на целе, які "скачваецца", калі пацерці скуру', гл. *сукарак*.

**Суке́нка** 'верхняе жаночае адзенне' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Варл., Сцяшк., Касп., Шымк. Собр., Сл. ПЗБ, Сцяц. Сл., Бяльк.), *су́кня* 'сукенка' (ТСБМ, Касп. Сержп., Мат. Гом.), 'адзенне з фабрычнага сукна (асабліва мужчынскае)' (Нас., Байк. і Некр.), 'выхадная, святочная сукенка', 'шлюбная сукенка' (Сл. ПЗБ), 'суконная спадніца для дарослых', 'сукенка для малых' (ТС), 'сукенка, часцей з шарсцяной тканіны' (Скарбы, Сцяц.; навагр., Нар. сл.); ст.-бел. *су́кня* 'вопратка; верхняе мужчынскае адзенне; верхняе жаночае адзенне' (Ст.-бел. лексікон), лічыцца запазычаным са ст.-польск. *suknia* (Булыка, Лекс. запазыч., 110); *сукенка*, відаць, больш позняе запазычанне, гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 71, параўн. народнае польскае *sukienka* 'зімовае жаночае суконнае паліто, унізе расклёшанае, з футраным каўнерам, падшытае аўчынай' (T. Karwicka. Ubiory ludowe w Polsce. Wrocław, 1995, 151). Польск. **suknia* < прасл. **sukъńa* 'верхняе жаночае або мужчынскае адзенне, зробленае з сукна' < прасл. **sukъno* 'сукно' з суф. *-*ja*; гл. Борысь, 586. Аналагічна і чэш. *sukně*, славац. *sukňa*, в.-луж. *suknja* 'жаночая спадніца', н.-луж. *suknja* 'мужчынскі халат',



славен. *suknja* 'паліто', серб.-харв. *су̏кња* 'жаночая спадніца, адзенне', балг. дыял. *су́кня*, *су́кно* 'доўгае жаночае шарсцяное адзенне', што ставіць пад сумненне запазычанасць зыходнага *сукня*.

**Су́кі** 'малыя драўляныя санкі' (Сл. рэг. лекс.). Гл. *сука$_2$*, *сучка$_2$*.

**Сукле́сіць** 'сціснуць пілу пры пілаванні дрэва' (Варл.). Суфіксальнае ўтварэнне (гл. *су-*) ад незафіксаванага **клес(ц)іць*, якое Фасмер (2, 250) збліжае з *клешчы*, гл. Насуперак гэтаму Трубачоў (ЭССЯ, 10, 14) адмаўляе сувязь **klestiti* з **klěšči* і выводзіць з гукапераймальнага **kleskati* (гл. *кляскаць*).

**Суклёт** 'каркас, шкілет' (Ласт.). Адназоўнікавае прыставачнае ўтварэнне, гл. *су-* і *клетка*, *клець*.

**Сукма́н** 'бурка, світка' (Сцяшк., Скарбы, Бес.), 'адзенне з сукна' (Шат.), 'суконнае верхняе адзенне' (у мясцовасцях са шляхецкім насельніцтвам) (Малчанава, Мат. культ., 153), *сукма́ны* 'світкі' (гродз., Сл. ПЗБ), *сукма́нка* 'кароткая жаночая верхняя вопратка' (гродз., Сл. ПЗБ), 'адрэзак суконнай тканіны' (Сл. рэг. лекс.). Ст.-бел. *сукманъ* 'світка, сярмяга' (Ст.-бел. лексікон) Булыка (Лекс. запазыч., 115) праз стараж.-рус. *сукманъ* узводзіць да чув. *səktan* < цюрк. *čektan*; Жураўскі (Цюркізмы, 94) лічыць запазычаннем праз польскую непасрэдна з турэцкай. Параўн. укр. *сукма́н*, *сукма́на* 'бурка, світка', рус. *сукма́н* 'суконны кафтан або сарафан', ст.-рус. *сукманъ* (1671 г.) 'сукно', польск. *sukman(a)* 'світка, сярмяга', балг. *сукма́н* 'шарсцяная спадніца', *чукма́н* 'тс' (лічацца прабалгарскімі словамі). Этымалогія спрэчная. Мяркуецца, што слова спрадвечнаславянскае і роднаснае *скаць*, *сука́ць*, *сукно*; у словаўтваральных адносінах спасылаюцца на рус. *дурма́н*, польск. *lochman*; гл. Фасмер, 3, 799 з літ-рай; ЕСУМ, 5, 470–471. На думку іншых даследчыкаў (Радлаў, 4, 799; Расянен, ZfslPh, 20, 448; Каліма, RLS, 133; Брукнер, 525), слова запазычана праз чув. *səkman*, *səxtan* з цюркскай групы моў. Гл. яшчэ Анікін, 510 (са ст.-цюрк. *sökmän* 'мянушка, якую давалі асілкам і героям').

**Сукно́** 'шарсцяная або паўшарсцяная тканіна з гладкім ворсам, якая пры вырабе апрацоўваецца валяннем' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), 'тканіна, у якой аснова і ўток з воўны' (ваўк., ашм., Нар. скарбы), ст.-бел. *сукно* 'тс' (Сташайтэне, Абстр. лекс). Укр., рус. *сукно́*, стараж.-рус. *сукъно*, польск.,

в.-луж., н.-луж., чэш., славац. *sukno*, палаб. *sáuknö*, серб.-харв. *сýкно* 'сукно', славен. *suknó*, балг. *сýкно*, макед. *сукно*, ст.-слав. **соукно**. Прасл. *sukno 'тканіна, сукно'. Дэрыват ад прасл. *sukati 'сукаць' з суф. *-ъno*, гл. Борысь, 586; Сной$_2$ (710) *sukno лічыць субстантываванай формай н. р. ад *suknъ, роднаснай *sukati. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 799; Бязлай, 3, 340; Махэк$_2$, 592; Шустар-Шэўц, 1377–1378.

**Сукóба** лаянк. 'сука' (шчуч., Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне з суф. *-оба* (звычайна *-oba ўтварае абстрактныя назоўнікі, якія нярэдка набываюць канкрэтнае значэнне, гл. Слаўскі, SP, 1, 61) ад *сука*, гл.

**Сукóл** 'кручаны дубец, якім звязваюць два калы ў плоце' (полац., Нар. лекс.), 'зварот, закрут' (Ласт.), 'месца, дзе плот пад кутом ламаецца на тры колікі': *на сукол плоту* (ушац., Нар. медыцына, 176), *сукóлы* 'парныя калы' (Касп.; в.-дзв., Нар. сл.), 'два перавітыя віткай калкі ў плоце' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Ад *сукаць* 'скручваць', гл. *сукал*, збліжанае да *кол*, гл.

**Сукóннікі$_1$** 'даматканыя суконныя штаны' (чэрв., круп., мядз., Сл. ПЗБ; ТС; калінк., светлаг., чач., Мат. Гом.), 'суконныя буркі (абутак)' (Барад.). Ад *сукóнны* 'зроблены з сукна, воўны', гл. *сукно*.

**Сукóннікі$_2$** 'дранікі, звычайна посныя' (Барад.), *сукóннік* 'аладка (з драной бульбы)' (мазыр., Мат. Гом.). Няясна; параўн. *сукóніцы* 'ягады (цёртыя)' (жытк., Мат. Гом.), што можна звязаць з літ. *sùkalioti* 'круціць, вярцець', а таксама з рус. дыял. *сукáлить* 'скрэбці, чысціць', якое Тапароў (Балтийские яз., 46) лічыць балтызмам, на думку Анікіна (Опыт, 284), беспадстаўна. Гл. таксама *сканцы* 'бульбяныя піражкі, начыненыя капустай', што выводзіцца ад *скаць* 'сукаць, раскатваць цеста', параўн. рус. дыял. *скáнец* 'тонкая раскатаная ляпёшка з прэснага цеста' і 'тоўстая, грубая пяньковая пража', што сведчыць пра першасны сінкрэтызм "кулінарнага" і "тэкстыльнага" значэнняў дзеясловаў *sukati, *sъkati: рус. бранск. *сучить сканцы* 'прасці пражу' і рус. калін. *сканцы сучить* 'раскатваць цеста', гл. Фасмер, 3, 635; Анікін, Опыт, 279. Падрабязней гл. Цыхун, БЛ, 63, 112, 113.

**Сýкраватка** 'сукаратка' (лід., Сл. ПЗБ), *сýкравіца* 'тс' (гродз., там жа), *сукравáты* 'крутавата спрадзены' (ігн., там жа). Вытворныя ад *сýкры* 'вузлы на крута звітай нітцы', гл. *сукарак*.

**Сýкравіца** 'жаўтаватая вадкасць з дамешкай крыві' (ТСБМ, Байк. і Некр., Шат., Сл. ПЗБ, ЛА, 5), 'кроў з раны з вадой'



(Варл.), 'крывяныя гнойныя выдзяленні' (Сл. ПЗБ), *сýкравіца* 'тс' (ТС). Укр. *сýкровиця*, рус. *сýкровица*, польск. *sukrwica*, чэш. дыял. *súkrvica*, славац. *súkrvica*, серб.-харв. *sùkrvica*, балг. *сукѐрвица*, дыял. *сýкарвица*, макед. *сукрвица*. Прасл. *sǫ-krъv-ica, дэрыват з прыст. *sǫ - ад *kry, krъve 'кроў'. Гл. Махэк$_2$, 292; Борысь, Prefiks., 122; ЕСУМ, 5, 471.

**Сýкрак$_1$**, *сукрáк* 'смольны корч са скручанымі слаямі' (ст.-дар., Сл. ПЗБ; Нар. сл., ПСл, Сцяшк. Сл.; лельч., Жыв. сл.; ЛА, 5), 'цурка' (Нар. Гом.), 'палена з мноствам сукоў' (хойн., Арх. ГУ), *сукрáк* 'вузел на нітцы' (Сл. Брэс.; пін., Шатал.; ЛА, 5), *сýкырак* 'скрутак, завіток, кучаравінка' (Бяльк.). Гл. *сукро*, *сукарак*.

**Сукрáк$_2$** 'лядзяш' (люб., Сл. ПЗБ). Да папярэдняга, г. зн. 'скручаны'. Да семантыкі параўн. *сукаць свечкі* 'макаючы ў гарачы воск, рабіць свечкі', гл. *сукаць*.

**Сýкраніца**. Гл. *сукро*.

**Сýкрат**. Гл. наступнае слова.

**Сукрó**, мн. л. *сукры́* 'кучары' (Ласт.), 'локаны' (Касп.), 'завіткі валасоў або шэрсці', адз. л. *сукрá* (Крывіцкі, вусн. паведамл.), сюды ж *сукрáвы* 'кучаравы' (Ласт.), *сукравáты* 'крутавата спрадзены' (Сл. ПЗБ), *сукрáты* 'моцна звіты, ссучаны, тугі' (Ласт.), *сукры́сты* 'кучаравы' (Гарэц., Касп.), 'крута спрадзены' (Сл. ПЗБ), а таксама вытворныя ад іх: *сукраватка* (гл.), *сýкравіца* 'закрутка на крутой нітцы' (Сл. ПЗБ), *сукрак* (гл.), *сýкрат* 'скручаная пятля ці вузел на нітцы' (ЛА, 5); *сýкратка* 'тс', *сýкратак* 'скрутак ільновалакна' (Сл. ПЗБ), *сýкроток* 'скручаная нітка пры крутой пражы', *сýкротка* 'сударга': *хватае сýкротка ногі у водзе* (КСТ), *сукрацы́* 'скручаныя ніткі, затканыя ў палатне', адз. л. *сукрец*? (Сл. ПЗБ), *сукрáч* 'скручаная пятля ці вузлік пры прадзенні', 'скрутак сена' (КСТ), *сукрані́цы* 'закруткі на нітках (Жд. 2), *сýкрыцца*, гл. Да прасл. *sukrъ 'звіты, скручаны', параўн. літ. *sukrùs* 'вяртлявы, жвавы; круты', *sùkras* 'тс', лат. *sukrs* 'жвавы, энергічны'. З іншай ступенню вакалізму гл. *сукарак*.

**Сукрóмна** 'скрытна, хаваючыся' (Сцяшк.), 'тайком' (Адм.). Укр. *сукрóмий* 'асобны', чэш. *soukromý* 'прыватны, адасоблены', славац. *súkromný* 'тс'. З іншай прыст. рус. *укрóмно*, *укрóмный*, рус.-ц.-слав. *укромъ* 'край, рубеж', *укромьнъ* 'крайні' (Кірыла Тураўскі). Дэрываты ад прасл. *kroma 'частка, край' (гл. *кром$_2$*); гл. яшчэ Фасмер, 4, 157. Інакш Борысь (Prefiks., 120), які прасл. *sǫkromъ разглядае як дэрыват, суадносны з дзеясловам *sǫkromiti.

**Сукро́та** ‘стакроць’ (Ласт.). Утворана пры дапамозе прыстаўкі *су-* ад назоўніка *кро́та* ‘раз’ (Ласт.), гл. *кроць* ‘тс’, што адпавядае укр. *крат*, *крот*, *кроть*, рус. *крат*, польск. *kroć*, кашуб. *krot*, в.-луж. *króć*, н.-луж. *krot*, чэш., славац. *-krát*, славен. *krat*, серб.-харв. *кра̑т*, балг. *крат*, дыял. *крат* ‘частка аршына, роўная 2 см’, ст.-слав. **кратъ** ‘раз’. Прасл. **kortъ* адпавядае літ. *kañtas* ‘раз’, *kartá* ‘рад, пласт’, лат. *kārta* ‘тс’ і ўзыходзіць да і.-е. **(s)kert-* ‘рэзаць, адрубаць’. Праблему складае адсутнасць поўнагалосся ва ўсходнеславянскіх формах, што тлумачаць уплывам царкоўнаславянскай або запазычаннем са старaславянскай мовы, гл. Фасмер, 2, 368; Шустар-Шэўц, 676; ЕСУМ, 3, 79. Адзінкавая фіксацыя слова прымушае думаць пра яго штучнае паходжанне.

**Су́крут** ‘закрутка на нітцы’ (Сл. Брэс.), *су́крутка* (Янк. 2; бяроз., лун., Шатал.), *сукру́тка* ‘тс’ (Варл.), *су́крутак* ‘тс’ (капыл., Сл. ПЗБ), *су́круток*, *сукру́та*, *су́крутнік*, *су́круцень*, *су́крутка* ‘тс’ (Уладз.), *су́крутка*, *сукру́ціна* ‘месца ў нітцы, дзе яна ссучылася’ (Нік. Оч.), *сукру́т* ‘закрутка на нітцы’, ‘клубок накроеных лык (у выглядзе васьмёркі)’ (ТС), *су́крутак* ‘сувой’ (ЛА, 4), *сукру́ток* ‘сувой валакна’ (Уладз.), *су́круцень* ‘закрутка на нітцы’, ‘скрутак рэчаў’ (Ян.). Укр. дыял. *су́крутки*, рус. дыял. *сукру́тина* ‘тс’. Да *скруціць* < *круціць* (гл.). Гл. спецыяльна Борысь, Prefiks., 3.

**Су́крутка**. Гл. *сукрут*.

**Сукру́ха** ‘скруха, смутак’ (Нас.; віц., Шн.), ‘пакаянне’ (Нар. Гом.), ‘захворванне’ (полац., Нар. лекс.), *сукру́шлівы*, *сукру́шны* ‘спачувальны’ (ТС). Рус. дыял. *сукру́ха* ‘тс’. Аддзеяслоўны дэрыват з прэфіксам *су-*, суадносны з назоўнікам *крух* (гл.), **крушыць* ‘разбіваць’, параўн. *руйнаваць*, рус. *сокруша́ться* ‘смуткаваць’. Па фармальных прыкметах і шырокаму распаўсюджанню ў народнай мове не з’яўляецца адаптацыяй запазычання *скруха*, гл.

**Сукры́сты** ‘кучаравы’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ; Мат. Маг.), *сукрі́стый* ‘тс’ (мсцісл., З нар. сл.), ‘крута спрадзены’ (в.-дзв., швянч., Сл. ПЗБ). Гл. *сукро*.

**Су́крыцца** ‘завівацца’ (Касп.). Трубачоў (Слав. языкозн., V, 183) бачыць дзве магчымасці тлумачэння паходжання слова: са слав. **sukriti sę*, звязанага з прым. **sukrъ(jь)* і, далей, з **sučiti*, **sъkati* (гл. *сукаць*) або ад літ. *sukrùs* ‘вяртлявы, жвавы’, *sùkras* ‘тс’, лат. *sukrs* ‘жвавы, энергічны’. Гл. таксама *сукро*.

**Суку́пны** ‘сумесны, агульны, аб’яднаны’ (ТСБМ). Дзеепрыметнік, утвораны ад дзеяслова *ку́піць* ‘збіраць у адно’ (Ласт.) з прыст. *су-*; аднак адсутнасць утварэнняў тыпу **сукупіць* або **сукупа* схіляе да думкі пра няпоўную кальку з рус. *совокупный* ‘агульны, злучаны ў адно’ (з ц.-слав., гл. Фасмер, 3, 705). Гл. *купа*$_1$.



**Сула́**$_1$ ‘бярозавы сок’ (іґн., воран., Сл. ПЗБ). З літ. *sulà* ‘тс’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 73).

**Сула́**$_2$ ‘гурт жанчын, якія ўдзельнічаюць у абрадзе *ваджэння стралы/сулы*’ (усх.-палес., СіБФ, 1986, 45), ‘абрадавае дзеянне ў выглядзе доўгай змейкі гуляючых, якая скручваецца ў тугі клубок’ (добр., Земляроб. каляндар), ‘абрадавы кіёчак, які пускаюць у раку пры *ваджэнні сулы*’ (гом., бран.). Паводле Вінаградавай (Язык культуры, 230), назва паходзіць з фальклорнага тэксту, які суправаджае абрад (“Ой лятить сула да й удоль села”), дзе *сула* можа чаргавацца са *страла* (гл. *страла*$_3$), што дае падставы звязаць яе са стараж.-рус. *сула*, *сулица* ‘кароткае кідальнае кап’ё’ (гл. *суліца*), гл. Антропаў, Веснік БДУ, 1987, 1, 56. Сумніўная генетычная сувязь з рум. (малд.) *sul* ‘вясенні абрад провадаў (пахавання) зробленай з дэталяў ткацкага стана лялькі’ (< рум. *sul* ‘вал ткацкага стана’), гл. Г. И. Кабакова. Этногенез, ранняя этническая история и культура славян. М., 1985, 54–55.

**Су́ла** ‘рыба судак’ (калінк., Арх. ГУ), заўвага пра гандаль рыбай: “из Малороссіи разныя рыбы, особливо сула” (Меер. Крыч.). Параўн. укр. *сула́* ‘судак, Lucioperca lucioperca L.’, рус. *сула́* ‘тс’, славац. *šúl*, *šula* ‘тс’, серб.-харв. *šulj* ‘тс’, балг. *сула* ‘шчыпоўка’, *сулка* ‘судак’. Запазычанне з цюркскіх моў, параўн. каракалп. *сыла* ‘тс’, магчыма, таксама праз пасрэдніцтва венг. *süllö* ‘тс’, гл. Каламіец, Рыбы, 116; Фасмер, 3, 799; ЕСУМ, 5, 471.

***Сула́гада**, *сулагода* ‘згода’ (ТС). З прыст. *су-* і *лагода*, гл.

**Сула́дзіць**. Гл. наступнае.

**Сула́дны** ‘адпаведны, узгоднены’, ‘стройны, гарманічны’ (Стан.), *сула́дна* ‘дружна, зладжана’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *сула́дно* (ТС), *сула́дна (suładna)* ‘лад, парадак, згода’ (Варл.). Ад *сула́дзіць* < *ладзіць* < *лад* (гл.).

**Су́лаўка** ‘посцілка’ (Мат. Гом.). Мабыць, з *сувалка* (гл.) у выніку метатэзы *лаў* < *вал*; першапачаткова ‘посцілка з адходаў, сувалкі’.

**Сулды́га** ‘частка нагі ад калена да пяткі’ (Нас., Бяльк., Байк. і Некр.), ‘вялікая костка’, перан. ‘нага’ (Юрч.), *сулды́жжа* зборн. (мсцісл., З нар. сл.), *сулды́жка* ‘частка рукі ад пляча да локця’,

‘ніжняя частка галёнкі’ (Мат. Маг.), ‘костка, масол’ (Бяльк.), ‘вялікая костка’ (Юрч. Вытв.). Укр. дыял. *сулдыга* ‘шчыкалатка’. З **sǫ-lъdyga* (гл. *ладыга*) (Міклашыч, Vergl. gr., 2, 285; ЕСУМ, 5), роднаснае **lydъka* (гл. *лытка*); адлюстроўвае карнявы вакалізм у ступені рэдукцыі (Слаўскі, 5, 391; Бязлай, 2, 145).

**Сулімá** ‘сулема, хларыд ртуці’ (Некр. і Байк.), ‘дэзынфекцыйны сродак’ (Сержп. Прымхі), *сулíма* ‘атрута, нячыстая сіла, нячысцік (у пагражальных выразах і праклёнах)’ (ПСл), параўн. укр., рус. *сулемá*. Адаптаванае запазычанне, крыніцай якога лічыцца с.-лац. *sublimatum* ‘сулема’ (< лац. *sublimare* ‘высока ўздымаць, падносіць, узвышаць’, у пазнейшым спецыяльным значэнні ‘выпарваючы цвёрдае цела, атрымаць яго ў ачышчаным крышталічным выглядзе’), параўн. польск. *sublimat* ‘прадукт узгонкі’, ‘хларыд ртуці’ – з удакладненнем *sublimat gryzący*; у якасці непасрэднай крыніцы дапускаюць грэч. σουλιμας < тур. *sülimen* (Фасмер, 3, 800; ЕСУМ, 5, 471–472).

***Суліца** ‘кап’ё’ (1228 г., Гандлёвая дамова смаленскага князя Мсціслава Давыдавіча з Рыгай, Готландам і нямецкімі гарадамі), укр. старое *сýла* ‘піка’, дыял. *суло́* ‘драўляны чаранок жалезных вілаў; жардзіна вясла’, *сулúця* ‘дзіда’, рус. *сулá* ‘клюшка, якую дзеці кідаюць па лёдзе’, старое *сýлица* ‘кідальны дроцік’, ст.-польск. *sulica* ‘кап’ё, дзіда’, чэш. *sudlice* ‘рагаціна’, славен. *súlica*, серб.-харв. *сӯлица*, балг. старое *сýлица*, макед. *сулица* ‘від дзіды’. Прасл. **sudlica* ‘кароткае кідальнае кап’ё’, звязана з *суляць* ‘соваць, піхаць, кідаць’, *соваць*, *сунуць*, гл. (Адзінцоў, Этимология – 1976, 106–111). Гл. таксама Фасмер, 3, 801; ЕСУМ, 5, 471; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 348. Параўн. *сулá₂*, гл.

**Сулíць** ‘прапаноўваць, даваць, абяцаць’ (Нас., Гарэц., Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Сержп., Тур., ЛА, 3, Сл. ПЗБ, Шатал., ТС; бых., ЖНС; мсцісл., З нар. сл.; чавус., Нар. сл.), ‘жадаць’ (Ян.), *сюлíць* ‘прапаноўваць, даваць’ (астрав., паст., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *сулúти*, рус. *сулúть*, польск. дыял. *sulić* ‘тс’. Відавочна, звязана са стараж.-рус. *сулѣи* ‘лепшы’, ц.-слав. *соулии*, ст.-слав. **соулѣи** ‘тс’, супастаўляльнымі з літ. *šulnas* ‘выключны, цудоўны’, ст.-інд. *śū́raḥ* ‘моцны, смелы’, грэч. χῦρος ‘сіла, моц’ (Фасмер, 3, 801; ЕСУМ, 5, 472). Форма з пачатковым *сю-* (*śu-*), відаць, пад уплывам літ. *siū́liti* ‘прапаноўваць’, якое, у сваю чаргу, лічыцца запазычаннем з беларускай, гл. Смачынскі, 552. Гл. таксама *пасуліць*.



**Сулонне** *(sułonie)* ‘калені’ (барыс., Кольб.), *сулóнь* ‘пазуха’ (Некр. і Байк.). Ад *су-* і *лано₂*, гл.

**Сулóтаць** ‘мачыць слюной, лізаць’ (паст., Сл. ПЗБ), *сулóціць* ‘шмальцаваць’ (мёрск., Нар. сл.). Аўтары Сл. ПЗБ (там жа) параўноўваюць з літ. *sulótis* ‘сачыцца’; параўн. таксама *sulóti*, *sulúoti* ‘спускаць сок з бярозы’, вытворных ад *sulà* ‘сок у дрэве, мязга’ (Смачынскі, 614), гл. *сула₁*.

**Султáн** ‘манарх у некаторых мусульманскіх краінах’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ст.-бел. *султанъ (салтанъ, золтанъ, сзолданъ, солтанъ, солданъ)* ‘султан’ (XV ст.), якое са ст.-рус. *султанъ*, *салтанъ* (XV ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 27), укр., рус. *султáн* ‘тс’. Магчыма, праз візант.-грэч. σολδάνος ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 472). З араб.-тур. *sulṭân* ‘тс’ (Фасмер, 3, 801).

**Сýлуйка** ‘сувалка, паблытаныя плоскуні ў каноплях’ (Бяльк.). Няясна, магчыма, у выніку замены *в* > *л*, параўн. рус. дыял. *сулóй* ‘сувой’ (ад *ліць*, гл. Фасмер, 3, 801), параўн. *сувой* (гл.).

**Сулупóн** ‘гаварун’ (Мат. Маг.), *сулупнýць* ‘сказаць недарэчнасць’ (карм., Мат. Гом.). Да *салупаць* (гл.) з семантычным развіццём ‘высоўваць язык’ – ‘гаварыць, балбатаць’.

**Суля́к** ‘нейкая пасудзіна’: “складаючы ім у суляк масла, сыры, гародніну сваю на доўгую зіму” (М. Вайцяшонак, ЛіМ, 1996, 8 лістап.). Параўн. польск. дыял. *sulak* ‘гаршчок’, *sulnica* ‘біклага, бочачка’, славен. *sülj* ‘ражка’; апошняе Скок (3, 360) выводзіць з лац. *solium* ‘карыта, жолаб, чан’. Параўн. *суляя*, гл.

**Суля́ць** ‘соваць, соўгаць’, *суленýць* ‘сунуць’ (ТС), укр. дыял. *суля́ти* ‘моцна штурхаць’, рус. дыял. *суля́ть* ‘соваць, штурхаць, соўгаць’, *суля́ться* ‘штурхацца’, польск. *sulać* ‘мяць, мясіць, сціскаць’, серб.-харв. *сýљати* ‘бухаць, шугаць (пра полымя, дым)’, ‘корпаць (кіём)’. Патабня (РФВ, 7, 66) набліжаў да *сунуць*, *соваць* (гл.) з не зусім ясным па паходжанні *-л-*. Відавочна, звязана з *сула*, *суліца*, гл. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 473. Варбат (Этим. иссл., 1981, 88) мяркуе пра запазычанне рускага дзеяслова з польскай мовы, дзе дзеяслоў выводзіцца ад *sulka* ‘шарык з цеста’ (< с.-н.-ням. *schulle*, сучаснае *scholle* ‘камяк, глыба’), што няпэўна.

**Суляя́** ‘бутля’ (Гарэц.), *сулія́* ‘вялікая бутэлька’ (Бяльк.), *сулея́*, *сулéйка* ‘лейка’ (Ласт.), *сулéйка* ‘бутэлька, паўштоф, плоская бутля’ (віц., Шн.; Нік. Оч.). Параўн. укр. *сулія́*, рус. *сулея́* ‘тс’. Этымалагізавалася на аснове прасл. **liti* (гл. *ліць*) як **sǫlěja*

(Фасмер, 3, 800; Трубачоў, Ремесл. терм., 258), чым, відаць, тлумачыцца і форма *сулéя* (аўтарскі наватвор Ластоўскага?). Параўноўваюць таксама са ст.-польск. *sulnica* 'бутэлька, пляшка', польск. дыял. *sulak* 'гаршчок', *sulnik* 'прымітыўная пасудзіна (звычайна з дрэва)', славен. дыял. *sûlj* 'ражка', 'драўляная пасудзіна (для салёнага мяса, тварагу)', якія Сной (гл. Бязлай, 3, 341) разам з чэш. дыял. *šulek* 'скрынка, каробка' параўноўвае з літ. *šùlė* 'пасудзіна', першапачаткова, відаць, зробленая з дрэва, што дае падставы звязаць гэтыя словы з *шула* (гл.). Няпэўна, параўн. *суляк*, гл.

**Сум** 'пачуццё смутку, жалю, душэўнай горычы', 'пакутлівая маркота, туга' (ТСБМ, Ласт.), 'сумненне' (Нас.), 'сумненне; смутак' (Байк. і Некр.), *сум-тугá* 'маркота, роспач' (Барад.), *сýмна* 'сумна', 'прыкра, смутна, маркотна' (ТСБМ, Шат., ТС, Бяльк., Арх. Федар., Касп., Сержп., Мат. Гом.), 'няпэўна' (Нас., Мат. Гом., Гарэц.), 'страшна, страшнавата' (Нас., Некр., Растарг.), *сýмно* 'тс' (ТС), *сýмны* 'маркотны' (ТСБМ), 'адзінокі' (Ян.), *сумóсны* 'смутны, маркотны' (Мат. Гом.), *сумóтна* 'маркотна' (Сцяшк. Сл.), *сумóта* 'маркота, туга, журба' (ТСБМ), *суматá*, *сумацéнне* 'здзіўлялнасць' (Шат.). Укр. *сум* 'смутак, журба', *сумá* 'тс' (Шымк. Сл.), *сýмно* 'смутна, маркотна', рус. зах., паўдн. *сýмно* 'сумніцельна, страшна' (Пятк. 2, 295), польск. *sum*, *sumny* 'тс' (< усх.-слав., гл. Брукнер, 526; параўн. заўвагу Пяткевіча: "jest to słowo rosyjskie"), славен. *sûm*, *sûmnja* 'падазрэнне', серб.-харв. *сýмња* 'сумненне; падазрэнне'. Праславянскі дыялектызм **sumъ* (Гутшміт, Бел.-укр. ізал., 29). Выходзяць з прасл. **sǫmьnъ (*sǫmьňa)* > **sumьnъ*, дэвербатыва ад прасл. **sъ-mьněti* (гл. *сумненне*), які ў Р. скл. даў **sumьna*; пасля падзення рэдукаваных і асіміляцыі насавых форма (у выніку перараскладання) **sum-* генералізавалася (Міклашыч, 188; Бязлай, Eseji, 136; Бязлай, 3, 341; Варбат, Этимология – 1988–1990, 196). Дурыданаў (Зб. памяці Стойкава, 580–581) звязвае з балг. дыял. *сýмуя* 'згадваць, прыпамінаць' і выводзіць з **sъ-umiti*, параўн. *сумець* (гл.) і дыял. *сумую* 'раздумваю', *сýмны* 'разумны (з папрокам)' (Арх. Федар.). Трубачоў (Труды, 1, 284) параўноўвае з серб.-харв. *сӯморан* 'пануры, хмуры, змрочны' і лічыць, што слова не мае этымалогіі. Гл. яшчэ Супрун, Бел.-укр. ізал., 67; Сной₁, 619; Борысь, 586–587; ЕСУМ, 5; Жураўлёў, Язык и миф, 69 (агляд версій).



**Сýма₁** 'вынік складання; агульная колькасць, сукупнасць' (ТСБМ, Байк. і Некр.), *сýма*, *сумацыя* 'вынік' (Ласт.), *сýмá* 'пэўная колькасць грошай' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *сýмма*, *сýма* 'агульная колькасць' (Сташайтэне, Абстр. лекс., 153). Запазычанне непасрэдна з лацінскай (Жураўскі, Крамко, Зб. Крапіве, 142). Выказваюцца таксама меркаванні пра запазычанне праз польск. *súma* 'тс' з лац. *summa* 'вышэйшая, агульная лічба' < *summus* 'вышэйшы' (гл. Кюнэ, Poln., 100 з літ-рай); ці запазычанне ў канцы XV ст. са ст.-польск. *suma*, *summa* (XV ст.), гл. Булыка, Лекс. запазыч., 80.

**Сýма₂** 'пажыткі, маёмасць' (Клім.). Магчыма, да *сума₁*, параўн. *сýма* 'грошы' (кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.). Крытычна пра спробы звязаць з *сум* (гл.) і рэканструкцыю **sǫdma* (Ліўканен, Отглаг. сущ., 194) Варбат (Этимология – 1988–1990, 196), якая дапускае запазычанне праз польскую з ням. *Saum* 'ношка, паклажа'. Параўн., аднак, балг. *сýма* 'многа, маса', якое лічыцца яшчэ прабалгарскім (Младэнаў, Диалектология, балканистика, этнолингвистика. София, 2008, 199). Гл. *сýмна* 'мноства'.

**Сýма₃**. Гл. *сумка*.

**Сумабрóд** 'вар'ят, дзівак' (Бяльк.). Відаць, у выніку пераасэнсавання з рус. *сумасбрóд* 'вар'ят' ('які ходзіць з сумой'?).

**Сумаваць** 'раздумваць' (Арх. Федар.), 'маркоціцца, перажываць', 'разважаць, меркаваць' (Тур.), *сумувáтысь* 'абмяркоўваць, дамаўляцца, раіцца' (Клім.), *сумувати (суму сумувати)* 'размаўляць' (Зянк.). Рус. зах., паўдн. *сумовáть* 'думаць, меркаваць', *сýму сумовать* 'думаць, мазгаваць'. З польск. *sumować* 'падлічваць', якое ўжо ў ст.-бел. *сумовати* 'тс' (XVI ст.) < ст.-польск. *sumować*; гл. Булыка, Лекс. запазыч., 78. Польскае слова ад *suma*, гл. *сума₁*, цяжка адмежаваць ад *сум* і роднасных, параўн. Брукнер, 526; Бязлай, 3, 341; ЕСУМ, 5, 475.

**Сумáк** 'бервяно ў прасценку зруба' (Мат. Гом.; брагін., Шатал.), 'прасценак, міжаконне' (Ян.). Укр. палес. *сумáк* 'бярвенні ў сцяне хаты ад вугла да акна', польск. *sumce* 'бэлькі ў сценах будынку; драўляная калода для будаўніцтва', *sumik* 'бэлька, якая ўкладаецца паміж двума слупамі', славац. *sumyk* 'тс'. Прасл. **sъmъk*, суадноснае са **smъknǫti/*smykati* 'змыкаць', гл. Куркіна, Этимология – 1994–1996, 207. Гл. яшчэ *самінец*, *сомінец*.

**Сумардáк** 'удар па твары', 'упартасць' (Нас.), 'вялікае нязручнае палена' (Юрч. Вытв.), *сумурдáк* 'хвароба ў роцэ, пры

якой баляць сківіцы' (Бяльк.), *сумурдáкі* 'твар і вусны' (КЭС). Відаць, нельга аддзяліць ад *самардак* (гл.), але з іншай прыстаўкай (*су-*), параўн. яшчэ *самарды́к* 'пануры, маўклівы чалавек, які глядзіць спадылба' (Растарг.) Няясна. Версія Насовіча (ад *мóрда*, гл.) блізкая да народнаэтымалагічнай і не тлумачыць варыянтнасць фанетыкі і семантыкі.

**Сумарóк** 'памяшанне, вар'яцтва' (Янк. 1, Янк. 3), *сýмарак* 'змрок' (Станк.), 'замарачэнне' (Юрч. Вытв.), *сумáрак* 'шэрая гадзіна, змярканне' (асіп., Буз.), *сумарóка, сýмрак, сýмракі, сумрóк* 'тс' (ЛА, 2), сюды ж *сумарóкі, сумарóкаваты* 'суровы з выгляду, строгі, маламоўны' (чырв., З нар. сл.). Укр. дыял. *сýморок*, рус. дыял. *сýмарак* 'змярканне', стараж.-рус. *сумерокъ* 'тс', ц.-слав. *сѫмракъ*, чэш. *soumrak*, славац. *súmrak*, серб.-харв. *сŷмра̂к*, славен. *sómrak* 'тс', балг. *сýмрак* 'змярканне', макед. *самрак* 'тс'. Прасл. **sǫmorkъ*, ад **sǫ-* і **morkъ* (гл. *морак*) (Фасмер, 3, 802). Борысь (Prefiks., 97) лічыць дэвербатывам ад **sъ-mr̥k-nǫti* з тым самым коранем. Сюды ж *сумрóк* 'змрок' (пух., ЖНС), відаць, з рэдукцыяй галоснага ў другім складзе або ўтварэнне з прыст. *су-* і **мрок* < польск. *mrok* 'морак', параўн. *змрок* (гл.). Формы *сýмрак, сýмракі* – запазычанне з рус. *сумрак* або з царк.-славянскай. Да семантыкі параўн. *марочыць, марока* (гл.).

**Суматóха** 'забурэнне, непакой; мітусня, беганіна' (Пятк. 2, Цых.), 'мітрэнга' (талач., ЛА, 5); сюды ж *суматóхніцкі* 'мітуслівы, хуткі' (Сцяшк. Сл.). Запазычана, хутчэй за ўсё, з рус. *суматóха* 'тс', параўн. *сумятня*, гл. Параўн., аднак, укр. дыял. *суматýха* 'задуменнасць, маркотлівасць', польск. дыял. *sumatocha-swat* 'на ўсходнеславянскіх землях: асоба, абавязаная весяліць маркотную маладую на вяселлі', якія ўтвораны ад *сум, сумота*, гл. ЕСУМ, 5, 474. Польскае слова запазычана з беларускай ці ўкраінскай (Варш. слоўнік, 6, 511).

**Сумбýр** 'бязладдзе' (ТСБМ). З рус. *сумбýр* 'тс', якое не мае задавальняючай этымалогіі. Гукапераймальнае (?), параўн. *шурум-бурум*, гл.

**Сумéжжа** 'паласа, тэрыторыя, якая мяжуецца з чым-небудзь' (ТСБМ), *суме́жны* 'суседні' (ТСБМ, Нас., Ласт., Гарэц.), *суме́жнік* 'сусед па ўчастку' (Выг.; кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.), *сýмеж* 'побач, у суседстве' (Нас.), *суме́ж* 'тс' (Ласт.), ст.-бел. *сумеж* 'побач' (XVI ст., Карскі, 2–3, 446), *сумежникъ* 'бліжэйшы сусед' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *сýміж* 'сумеж', *суме́жжья*, *суме́жник, сумíжник, сумíжний*, стараж.-рус. *сумежие* 'граніца, пагранічча'; у іншых славянскіх мовах шмат дэрыватаў з рознымі суфіксамі, параўн., напр., чэш. *soumezí*, славен. *somėja* 'супольная граніца, мяжа', серб.-харв. *сỳмеђа* 'тс', на аснове якіх Борысь (Prefiks., 123–124) рэканструюе прасл. **sǫmeď-*.



**Суме́ня** 'сумленне, характар' (шальч., астрав., Сл. ПЗБ). З польск. *sumienie* 'тс' (там жа).

**Суме́цца** 'збянтэжыцца, разгубіцца' (ТСБМ), 'занудзіцца, засумаваць, замаркоціцца', 'спалохацца, разгубіцца' (глыб., пух., лях., Сл. ПЗБ), 'спахапіцца крыху, спалохацца' (Варл.), сюды ж, відаць, балг. дыял. *сумеiá ме* 'непрыемна мне, гідка мне'. Зыходнае, магчыма, прасл. **sъ-uměti sę*, гл. і наступнае слова.

**Суме́ць** 'здолець, змагчы' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Гл. *умець*; параўн. балг. *съумея (< *sъ-uměti)* 'тс'. Аўтары апошняга слоўніка мяркуюць пра запазычанне з рус. *суме́ть* 'тс'.

**Сумёт** 'гурба снегу' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Некр. і Байк., Ласт., Касп., Яшк., ЛА, 2), *сумёты* 'гурбы' (шуміл., Сл. ПЗБ), параўн. укр. дыял. *суме́та* 'гурба', рус. *сумёт* 'тс'. Прасл. **sǫmetъ*, іншыя дэрываты суадносныя з **sъ-mesti* 'змесці' ад прасл. **mesti* 'месці', параўн. каш. *sḿot* 'гурба снегу', серб.-харв. *smȅt* 'гурба снегу; сметнік, смецце' (Борысь, Prefiks., 108–109; SEK, 4, 335). Сюды ж *суме́ціца* 'завіруха' (Касп.), *сýмець* 'завея' (Нас., Бяльк.), а таксама *суме́цце* 'смецце', *суме́тнік* (Гарэц., Ласт.). Параўн. *смецце*, гл.

**Суміж** 'побач', 'паміж' (Гарэц.), 'паміж' (Ласт.). З *су-* і *між*, гл.

**Сумíцца** 'ўсумніцца' (Нас.), незак. тр. *сумля́цца* (там жа), *сумíцца* 'звар'яцець' (Касп.). Параўн. макед. *суми* 'адчуваць'. Відаць, непасрэднае ўтварэнне са спалучэння **sъ umъ*, параўн. рус. *сойти с ума* 'з'ехаць з глузду' (гл. *з, ум*) або вынік "аднаўлення" формы зак. тр. ад *сумля́цца* (гл. *сумленне*).

**Сýмка** 'выраб са скуры, тканіны, торбачка' (ТСБМ; маг., Шн. 2; Бяльк., Сл. ПЗБ), 'кайстра' (усх., ЛА, 5), 'ранец' (Сл. ПЗБ), *сýма* 'жабрацкая торба' (ТС). Укр. *сумá*, рус. *сумá, сýмка*, стараж.-рус. *сума, сумъка*. Праз польск. *suma, sumka* 'перакідная сумка' са ст.-в.-ням., с.-в.-ням. *soum* 'уюк', першасна 'колькасць грузу, якую можа падняць адна ўючная жывёліна', н.-в.-ням. *Saum* 'ноша' ад нар.-лац. *sauma, sagma* 'ўючнае сядло', якое, у сваю чаргу, з грэч. σάγμα 'тс', σάττω 'наўючваю'; гл. Мацэнаўэр,

315; Брукнер, 256; Фасмер, 3, 802. Ст.-бел. *сумка* ‘сумка’ (1516 г.) < ст.-польск. *sumka* (XVI ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 102).

**Сумле́нне** ‘маральная ацэнка дзеянняў і ўчынкаў’ (ТСБМ, Нас., Касп., Ласт., Гарэц., Стан., Пятк. 2), *сумленё* ‘тс’ (Арх. Федар.), *сумле́ньня* ‘сумненне, падазронасць’ (Бяльк.), *сумле́нны* ‘свядомы, адказны’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Гарэц., Касп.), ‘добрасумленны’ (ашм., Стан.), ‘шчыры, справядлівы’ (Варл., Сл. ПЗБ), *сумля́цца* ‘сумнявацца’ (Нас., Пятк. 2), *сумлява́цца* ‘тс’ (Варл., Сл. ПЗБ, Пятк. 2, Бяльк., Гіл., Ян.), *сумлява́нне* ‘сумненне’ (Юрч. Вытв.). Укр. *сумління* ‘сумленне’, ‘сумненне’, *сумлі́тися* ‘сумнявацца’, рус. дыял. *сумле́нье* ‘сумненне’, *сумлева́ться* ‘сумнявацца’, серб.-харв. *су́мљати се* ‘тс’. З *сумненне, сумнявацца* (гл.) у выніку дысіміляцыі *м–н* > *л–н*; параўн. яшчэ славен. *soumlíti* ‘падазраваць’ < **sǫ́mniti*, гл. Бязлай, 3, 341.

**Сумле́ў** ‘сумненне’ (вілен., Стан.; Янк. 3), *сумлі́ў* ‘няпэўнасць, недавер’ (Варл.). Адваротны дэрыват ад *сумлявацца* (гл. *сумленне*); Станкевіч (Язык, 597) лічыў форму з *-і-* украінізмам, што не мае падстаў, паколькі яна выводзіцца з дзеяслова з “іканнем”, параўн. *sumlivácca* ‘не давяраць’ (Варл.), *сумліва́цца* ‘сумнявацца’ (Бяльк.) і пад.

**Су́мна₁** ‘наўрад’ (Мат. Гом.). Гл. *сум, сумненне.*

**Су́мна₂** ‘надта многа’ (пух., Сл. ПЗБ), *сумната́* ‘натоўп, гурт, вялікае множства’, *сумнаце́нне* ‘тс’ (там жа). Няясна; магчыма, пераасэнсаванне *сумна* ‘страшна’ (гл. *сум*), г. зн. ‘так многа, аж страшна’, або ўтварэнне ад *сума₂* (гл.), што можа суадносіцца з балг. *су́ма* ‘многа, маса’.

**Сумне́нне** ‘няўпэўненасць; няпэўнасць, недавер’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ст.-бел. *сумненье* (XV ст., КГС). Укр. *сумніння*, рус. *сомне́ние* (з **сумнѣние*, куды была ўведзена прыстаўка *со-* з ц.-слав. – Фасмер, 3, 716), стараж.-рус. *сумьнѣние*, польск. *sumienie*, ст.-польск. *sǫmnienie*, пазней *sumnienie*, балг. *съмне́ние* ‘сумненне, падазрэнне’, ст.-слав. **сѫмьнѣние** ‘тс’. З першаснага **sǫmnienie*, аддзеяслоўнага дэрывата ад прасл. **sǫmьněti* ‘мець сумненне, працівіцца, супраціўляцца’, параўн. укр. *сумни́тися*, ст.-рус. *сумьнѣтися*, ст.-польск. *sǫmnieć się* ‘сумнявацца’, серб.-харв. *sûmnjati* ‘сумнявацца, падазраваць’, якое ад прасл. **sǫmьna*, дэрывата ад прасл. **sъ-тьněti* ‘думаць; сумнявацца, падазраваць’; гл. *сум* (Бязлай, 3, 31; Борысь, 586; Фасмер, там жа; ЕСУМ, 5, 474–475). Басай-



Сяткоўскі (Słownik, 350) бачаць тут кальку лац. *con-scientia* – *s-umnienie*. Параўн. *сумна₁*, гл.

**Сумне́ў** ‘сумненне’ (Ласт., Янк. 3; Беларусіка, 19, 230; РС, 1999, 2, 83), *сумні́ў* ‘сумненне, нерашучасць’ (Сцяшк. Сл.; РС, 1999, 2, 83). Аддзеяслоўны назоўнік з нулявым канчаткам ад *сумнявацца*, гл. Формы з *-і-*, а таксама *сумніўны* лічацца ўкраінізмамі (Станкевіч, Язык, 597), аднак гэтаму пярэчыць лінгвагеаграфія, гл. Пацюпа (там жа, 1151); магчыма, пад уплывам *сумліў*, *сумліўны*, гл. *сумлеў*.

**Су́мнік** ‘залатацень, залатая розга, Solidago virgaurea L.’ (маг., мін., Кіс.). Параўн. укр., *смýтник* ‘вятроўнік, Filipendula hexapetala Gilib.’. Няясна; магчыма, з-за падабенства з вятроўнікам мае тую ж матывацыю, звязаную з даўнімі забабоннымі ўяўленнямі ці практыкамі – вытворнае ад *сумны* (з *сум*, гл.), аналагічна да ўкраінскай назвы (гл. *смутак*), што ўключаецца ў семантычны рад назваў раслін з падобнай матывацыяй: польск. старое *tużobnik*, чэш. *tužebník*, славац. *túžobník*, балг. *тъ́жник* (гл. *туга*). Параўн. Махэк, Jména, 101; ЕСУМ, 5, 332. Менш верагодна ад *сумна₂* ‘надта многа’ (гл.), што магло быць звязана са шматлікасцю кветак (“буйная расліна з мяцёлкай жоўтых суквеццяў”, гл. Расл. св., 168) або іх шматпялёсткавасцю.

**Сумнява́цца** ‘адчуваць няўпэўненасць, быць няпэўным, вагацца’ (ТСБМ, Некр. і Байк., БРС, Касп.), *сумнева́цца* ‘тс’ (Цых.). Укр. *сумніва́тися*, рус. *сомнева́ться*, дыял. *сумнева́ться*, серб.-харв. *су́мњати* ‘сумнявацца, падазраваць’, балг. *съмня́вам се* ‘сумнявацца’. Ітэратыў да прасл. **sǫmьněti* (гл. *сум, сумненне*) з суф. *-eva-*.

***Сумовіны**, *сумо́вынэ* ‘змовіны’ (драг., ЖНС). Гл. *змовіны*.

**Сумо́дацць** ‘сумець, змагчы’ (дзярж., Нар. сл.), ‘здолець, ухітрыцца’ (Кал.), *сумо́нацць* (< **сумоднацць?*) ‘тс’ (Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, прэфіксальны (з *су-*) дэрыват ад *мадзецць* (гл.) з пераходам дзеяслова ў катэгорыю форм на *-аць*. Дзеяслоў *сумо́нацць* Цыхун (Зб. Мальдзісу, 402) суадносіць з літ. *sumanýti* ‘задумаць, узяцца за справу’, што таксама сустракаецца з пэўнымі семантычнымі цяжкасцямі. Параўн. яшчэ *намо́нацць* (гл.).

**Сумо́ўе** ‘зносіны, камунікацыя’. Наватвор (прыпісваецца А. Бембелю) для перадачы рус. *общение* (з ц.-слав.), параўн. *лу́чнасць* ‘тс’ (Ласт.). З *су-* і асновы *моў-* (гл. *мова*) з фіналлю,

афармленай паводле рускага адпаведніка (суф. *-ьje); у выніку дээтымалагізацыі можа ўспрымацца як дэрыват ад *сумаваць*, *сум* (гл.). Параўн. народнае *сумовіны*, гл.

**Су́мрак** 'падазрэнне, дрэннае прадчуванне?': *так па душы і пашоў сумрак – пачуяла ворага* (Пятк. 2), *сумро́к* 'змрок' (пух., З нар. сл.). Гл. *сумарак*, *сумарок*; магчыма, формы з сінкопай (пропускам галоснага *а* перад *р*) ці пад уплывам *змрок*, гл.

**Суму́д** 'гермафрадыт' (Ласт.). Відаць, да *муды* (гл.), параўн. сінонім *абаму́д* 'тс' (Ласт.) з няяснай першай часткай, што адпавядае *су-* са значэннем сумеснасці (тады *аба-* з *абодва*, *абое*?).

**Сумы́ль** 'маўклівы чалавек' (Мат. Гом.). Магчыма, утварэнне, аналагічнае *соўмэла* (гл. *саўміла*) з заменай *оў* > *у*, параўн. *соўнуць/сунуць*, і фіналлю, як у *мармы́ль* 'негаваркі чалавек' (Сл. ПЗБ), параўн. *соўмак* 'тс' (гл. *соўма*).

**Сумы́сля** 'з намерам, знарок, наўмысна' (ТСБМ, Бяльк.; барыс., Сл. ПЗБ; Касп., Варл., Ян.), *сумы́слі, су́мыслу, сумы́слу* 'тс' (Нас.), сюды ж *сумы́сна* 'тс' (ТСБМ, Ласт., Гарэц.), 'з добрым намерам' (Нас.). Гл. *наўмысля*; параўн. асучасненую форму *зумы́сля* (*zumyśla*) 'з намерам, свядома' (Варл.). Шуба (Прыслоўе, 112) мяркуе пра дэфармацыю суфікса-канчатка ў *сумы́сля* (*сумысле*) замест *сумысла* (*сумыслу*). Да *мысліць*, гл.

**Су́мярак** 'змрок' (ашм., Сл. ПЗБ), *на су́мярках* 'у час змроку' (воран., там жа), *су́мерак, су́мерка, су́мерк, су́меркі* 'тс' (віц., ЛА, 2), да прасл. **mьrknǫti* 'меркнуць', параўн. рус. *су́меркі* 'тс'.

**Сумятня́** 'бязладная беганіна, мітусня, клопаты' (ТСБМ), *сумя́ціца* 'тс' (Некр. і Байк., Ласт.), 'суматоха', 'завіруха' (Нас.). Укр. *сум'яття́*, рус. *смя́тица* 'тс'. Вытворныя ад кораня *-мят-*, які ў рус. *мяту́*, *мясти́* 'прыводзіць у замяшанне', стараж.-рус., ст.-слав. **мѧтѫ, мѧсти**, чэш. *matu*, *másti* 'блытаць; бянтэжыць' і г. д., аб якім гл. Фасмер, 3, 32. Борысь (Prefiks., 111) лічыць магчымым узнавіць зыходнае усх.-слав. (прасл. дыял.?) *sǫmętь* < *sъmęsti*, *-mętǫ*.

**Суна́дзкі** 'вяровачкі для падвешвання нітоў' (калінк., Сл. ПЗБ), *су́назкі* 'дзве планкі, як часткі набілак, са шпарамі, у якія ўстаўляюцца бёрда' (Янк. 1), *су́назка* 'кій, які ўсаджваецца ў "вушы" кубла' (мазыр., ГЧ). Слова таго ж кораня, што і *снадзь* (гл.), да прасл. **snaditi* 'злучаць, змацоўваць'; магчыма, ад незахаванага **сунадзіць* з суф. *-к-*.



***Сунажа́ць**, *суножа́ць* 'світаць; цямнець' (ТС). Няясна. Да **суно́зіць*, параўн. *суноза* (гл.), г. зн. 'злучаць (ноч і дзень)'? Аб сумяшчэнні значэнняў 'світаць' і 'цямнець' параўн. *сутонне*, гл.

**Су́настка** 'ручка ў набіліцах' (пух., З нар. сл.), 'палачка для падтрымання набілак' (Шат.), сюды ж, відаць, і лаянк. 'нелюдзімка' (Адм.). Этымалагічна тое, што і *снасць* (гл.), але з іншым словаўтваральным афармленнем: прыст. *су-* і суф. *-к-*.

**Сунда́чыць** 'многа набіраць' (ТС). Параўн. укр. *сунда́читися* 'цягнуцца, плясціся'. Шульгач (Прасл. гідронім., 269) мяркуе пра зыходнае **sъldačiti* – дзеяслоў на *-iti-* ад незасведчанага **sъldakъ*, параўн. рус. дыял. *присалдычить* 'ударыць', суадносны з **sъldyga* (гл. *сулдыга*), што няпэўна. ЕСУМ (5, 475) звязвае ўкраінскае слова з *су́нутися* (гл. *сунуць*).

**Су́ндзіла** 'непаваротлівы, няўклюдны чалавек' (Мат. Маг. 2). Параўноўваецца з укр. дыял. *сандига* 'непаваротлівы чалавек; дахадзяга', якое выводзіцца з **sъldyga* (гл. папярэдняе слова), што да ўкр. *досовдати(ся)* 'даплясціся, дабрацца' (< **do-sъldati sę*) (Шульгач, Прасл. гідронім., 169). Сумніўна; хутчэй да *сунуцца* (гл. *сунуць*) праз незафіксаванае **сунда* (параўн. дыял. *durandá* ад *dur'éć*, гл. Саевіч, Derywacja, 161) з экспрэсіўным суф. *-іла*.

**Сунду́к** 'куфар' (мін., Сл. ПЗБ; Бяльк., Сцяц. Сл., ТС, Мат. Гом.), 'дарожная сумка' (Сцяшк. Сл.), 'рамачны вулей' (Анох.); перан. *сунду́к*, *сунды́к* 'пра тупога, абмежаванага чалавека' (Мат. Гом.), на Смаленшчыне таксама *санду́к* 'тс' (Дабр.). Дапускаюцца розныя шляхі запазычання мяркуемага цюркізма, у тым ліку праз рус. *сунду́к* 'куфар, скрыня', дзе, магчыма, чувашскае пасрэдніцтва (Дабрадомаў, Бел.-рус. ізал., 40), або ўкр. *сунду́к* 'тс', відаць, з палавецкага *сундух* (Тагіеў, Цюркізмы, 151). Але параўн. ст.-бел. *сундукъ* 'куфар' (1598 г.) са стараж.-рус. *сундукъ* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 104). Крыніцай можа быць кыпч. *sunduq*, тур. *sandık*, крым.-тат. *сандык* 'тс' < араб. *ṣandûḳ*, *ṣundûḳ*, якія ўзводзіцца да грэч. συνδοχετον або συνδυκετον 'тс'; гл. Фасмер, 3, 803 з літ-рай; ЕСУМ, 5, 475 і наст. Малаверагодны ўплыў польск. *sądek* 'кадушка, кубел', як мяркуе Цвяткоў, Запіскі, 2, 67.

**Суне́га** 'пяшчота; палкасць' (У. Дубоўка, Стан.). З *су-* і *нега*, гл. (паэтычны наватвор?), параўн. *кунега*, *кунежыцца*, гл.

**Су́неча** ‘на самай справе, сапраўды’ (Мат. Гом.). Няясна.

***Суні́з**, *суні́с* ‘кажух з буркай’ (мядз., Нар. сл.). Да *ніз* (гл.); параўн. *сні́зак* (гл.).

**Сунімáць**. Гл. *суняць*.

**Суні́цы** ‘расліна Fragaria vesca L. і яе плады’ (ТСБМ, Кіс., Ласт., Нік. Оч., Растарг., Сержп., Сл. ПЗБ, ЛА, 1), ‘тс’, ‘клубніцы’ (ТС), *суні́ца* ‘ягада расліны Fragaria vesca L.’ (Нас., Некр. і Байк., Нік. Оч., Федар. 4, Пятк. 2, Шымк. Собр., Бяльк., Сл. ПЗБ), ‘ягада клубніц, Fragaria collina L.’ (Ласт.), *зуні́ца* ‘ягада Fragaria vesca L.’ (Меер Крыч.), *суні́чка* ‘тс’ (Тур.). Укр. *суни́ця*, рус. паўдн. і зах. *суни́ка*, *суни́ца* (толькі смал. і бранск., г. зн. беларусізмы, гл. Мяркулава, Очерки, 117–118), польск. дыял. *sunica*, *sonica*, ст.-польск. *sunica*, *sumnica*, *sumniczki*, н.-луж. *sunica*, палаб. *saunaićă* (**sunica*) ‘клубніцы’, серб.-харв. *sȕnica* ‘маліна’, балг. дыял. *суни́ца* ‘суніцы; брусніцы’, рэдка ‘садовыя клубніцы’, дыял. *зу́ница* ‘маліна’, макед. *суница* ‘лясныя ягады, Fragaria vesca L.’. Славянскія рэліктавыя словы ў адпаведных нямецкіх дыялектах: *Saneitschen*, *Szameitschen*, *Schärneitschen*, *Sannerzen*, *Somgetzen* (гл. Шустар-Шэўц, 1378). Існуе некалькі этымалагічных версій, аднак цяжка якой-небудзь з іх аддаць перавагу. Прасл. **sunica* ‘суніцы; клубніцы’, якое, як мяркуюць, роднаснае ст.-інд. *śōna-* ‘чырвоны, ярка-чырвоны’, *çō̦nitam* ‘кроў, смала дрэва’ (гл. Патабня, РФВ, 4, 283; Развадоўскі, RO, 1, 94), якія далей да і.-е. **ḱeu-no-s* ‘светлы, бліскучы’; гл. Покарны, 594; Скок, 3, 362; Шустар-Шэўц, Зб. Слаўскаму, 335–338. Брукнер (526), Бярнар (RÉS, 27, 36) рэканструявалі назву як **sǫ-* і **nісь* да прасл. **niknǫti* ‘нікнуць’, параўн. тлумачэнне Ластоўскага: “суніцыя ягады, якія пахілены ніц, тварам уніз” (Ласт., 794). Да гэтай жа версіі схіляецца Мяркулава (там жа), якая ўзнаўляе як прасл. **sǫnica* ‘ягада, якая нікне да зямлі’ (параўн. *пазёмкі*, рус. *землянíка*). Бязлай (Eseji, 135) на падставе славен. *samónica* ‘брусніцы, Vaccinium vitis-idaea L.’, ст.-польск. *sumnice*, *sumniczki* ‘суніцы’ мяркуе пра зыходнае **samonikva*, г. зн. ‘ягады, якія растуць (з’яўляюцца, прарастаюць, гл. *узнíкаць*) самі па сабе’, гл. таксама ў Праабражэнскага (1, 607), сумненні ў Фасмера (3, 804). Паводле Бонка (SEPS, 5, 237), у аснове матывацыі – размнажэнне пры дапамозе адросткаў (“вусоў”), у выніку чаго расліна “sunie się (płoży się) po ziemi” (гл. *сунуць*). Непрымальная думка Эндзеліна (RS, 10, 221), які параўноўваў з лат. *sūna(s)* ‘мох’, *sûnûkslis* ‘нарыўчык, пузырок’, якія таксама не маюць пэўнай этымалогіі, да таго ж суніцы не растуць ў моху. Пра ранейшыя спробы этымалагізацыі, у тым ліку вывядзенне са ст.-прус. *sunis* ‘сабака’ (як бы ‘сабачыя ягады’), гл. Папоў, Из истории, 51. Гл. таксама Крывіцкі, РС, 2002, 8, 39–41 (мяркуецца пра інавацыю перыяду ВКЛ, што пярэчыць агульнаславянскаму распаўсюджанню). Гл. таксама *сіні́ца₂*.



**Суно́жаць** ‘сенажаць’ (мазыр., ГЧ). Ад больш ранняга *сено́жаць* (гл. *сенажаць*) з прыпадабненнем галосных. Параўн. таксама *сенажáць* ‘тс’, *санажáтка* ‘тс’ (ашм., лаг., Стан.), што адзначаны ў дакументах XIII–XV стст. (Станкевіч, Язык, 986).

**Суно́жка** ‘драўляны брусок, якім звязваюць ножкі стала’ (Нас., Касп., Гарэц., Растарг., Бяльк., Шатал., Байк. і Некр.), *суно́жнік* ‘тс’ (Бяльк.), *суно́жка*, часцей мн. л. *суно́жкі* ‘ножка стала; услона’ (Шымк. Собр., Мат. Гом., Мат. Маг.). Да *суноза* (гл.), збліжанае да *нага*, *ножка*.

**Суно́за** ‘штыр, спіца, засаўка’ (ТС), ‘вертыкальная планка ў ярме, якая раз’ядноўвае валоў’ (Маслен.; лун., Шатал.; мазыр., З нар сл.), *суно́га* ‘тс’ (ТС). Ад *су-* і *-ноз-* (гл. *нізаць*), як і ў *сноза*, *заноза* (гл.). У *сунога*, відаць, памылковае ўзнаўленне “этымалагічнага” *г*.

**Су́нуць** ‘рухаць, кратаць, соваць; усунуць, штурхнуць, піхнуць’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр.), ‘рушыць, пайсці грамадой’ (ТС, Сержп. Грам., Юрч. Вытв.), ‘пасоўваць, ставіць’, ‘цягнуць’, ‘укладаць, усоўваць’, ‘ісці’ (Сл. ПЗБ), *су́нуты* ‘цягнуць’ (Клім.), *су́нуцца* ‘паволі рухацца, ісці’ ‘тс’, (ТСБМ, ТС), ‘высоўвацца’, ‘напасці, накінуцца’ (Сл. ПЗБ), ‘упасці’ (Бяльк.). Укр. *су́нути*, рус. *су́нуть*, стараж.-рус. *сунути* ‘кінуць’, ц.-слав. *сунѫти*, польск. *sunąc*, в.-луж. *sunić*, н.-луж. *sunuś*, чэш. *sunouti* ‘пасоўваць’, славац. *sunuť*, серб.-харв. *су́нути* ‘наліць, насыпаць’, славен. *súniti* ‘штурхнуць’, балг. дыял. *су́на* ‘перамяшчаць, слізгаць’, ст.-слав. **соунѫти**. Прасл. **sunǫti* ‘пасоўваць, штурхнуць; укласці, усунуць’; дзеяслоў аднакратнага дзеяння да прасл. **sovati*, **sujǫ* ‘соваць’; гл. Борысь, 587; Фасмер, 3, 804; Бязлай, 3, 341–342; Шустар-Шэўц, 1380–1381. Паводле Махэка₂ (593), было і **sunǫti* з іншай семантыкай – ‘бегчы, хутка ісці’, параўн. польск. дыял. *sunąć* ‘рушыць, ісці’, чэш. дыял. *snuť se* ‘ісці’, з паралеллю гоц.

*skewjan* ‘існі’, ст.-ісл. *skaeva* ‘рухацца наперад’, роднаснага чэш. *sypati* ‘хутка ісці’. Параўн. *снаваць* (гл.).

***Суня́тла**, *суня́тло* ‘трайня ў возе’ (Маслен.), *сыня́тло* ‘частка воза, развілка’ (Маслен., Тарн.), ‘адтуліна, куды ўваходзіць дышаль’ (кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.), *свыня́тло, свіня́тло* ‘доўгая жэрдка, у канцы раздвоеная, якая злучае задок і перадок воза’ (Маслен.; брэсц., ЛА, 2; Бел.-укр. ізал.), ‘раздвоеная жэрдка, што мацуецца да разворы’ (Маслен.). Укр. дыял. *суня́тло, свиня́тло, синя́тло, сня́тло* ‘частка воза, развілка, трайня, развора’ (Нікан., Трансп.). Беларуска-ўкраінскі рэгіяналізм няяснага паходжання. Дзендзялеўскі (Sslav., 22, 295) мяркуе, што тэрмін утвораны ад асновы дзеепрыметніка залежнага стану **су-йнят-ьл-о* ‘тое, што аб'ядноўвае, злучае (задок і перадок воза)’, гл. *няць*. У такім выпадку варыянт *свіня́тло (свыня́тло)* – вынік народнаэтымалагічнага збліжэння са *свіння*, гл. Аднак рэдкая фіналь *-тло* (адносна фарманта *-tlo*, параўн. Трубачоў, Этимология – 1963, 38) і варыянтнасць асновы слова сведчаць, хутчэй за ўсё, на карысць запазычання, параўн. серб. дыял. *са̀јтне, са̀јнтали, санита̀ли, са̀нтал* ‘планка ў драбінах воза’, іншая назва *ауфсајтне* ‘тс’ (германізм?), гл. Војвођанска коларска терминологија. Нови Сад, 1984, 195.

**Суня́ць** ‘стрымаць, спыніць’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Янк. 2, Сл. ПЗБ), ‘уціхамірыць, супакоіць’ (Сержп. Прымхі), *суня́цца* ‘спыніцца’, ‘супакоіцца’ (ТСБМ, ТС, Сл. ПЗБ, Бяльк.; асіп., Буз.), *суніма́ць* ‘супакойваць’ (Гарэц., ТС), *суніма́цца* ‘спыняцца, супакойвацца’ (ТСБМ, Некр., Сержп. Прымхі). З прыст. *су-* і коранем **jęti, jьmи*, гл. *няць*.

**Суп$_1$** ‘вадкая страва-адвар (з мяса, рыбы і пад.) з дабаўленнем гародніны, круп і пад.’ (ТСБМ, Сцяшк.; шальч., Сл. ПЗБ), ‘булён’ (мёрск., Сл. ПЗБ), ‘крупнік, крупеня’ (Бяльк.), *су́пік* памянш. (свісл., Сл. ПЗБ). Новае запазычанне з рус. *суп* ‘тс’, дзе з франц. *soupe* ‘суп’ (адкуль таксама англ. *soup*, гал. *soep*, ням. *Suppe* ‘тс’), што з галараманск. *suppa*, якое, як мяркуюць, узыходзіць да германскіх моў, параўн. гоц. *supôn* ‘прыпраўляць спецыямі’; гл. Фасмер, 3, 804.

***Суп$_2$** ‘каршун’, толькі ст.-бел. *супъ, семпъ, сепъ* ‘сцярвятнік’ (Ст.-бел. лексікон), фіксуецца з 1518 г.; запазычанне са ст.-польск. *sęp* ‘тс’ (Булыка, Лекс. запазыч., 143); але параўн. ц.-слав. *сѫпъ*



‘тс’, адкуль магло быць запазычана ст.-бел. *супъ*. Укр., рус. *суп*, польск. *sęp*, в.-луж., н.-луж. *sup*, чэш., славац. *sup*, серб.-харв. *су̑п* ‘тс’, балг. *суп* ‘птушка Vulvur fulvus’. Прасл. **sǫpъ* ‘каршун’. Слова няяснага паходжання. Паводле Голуба–Копечнага (361), гэта варыянт з насавым галосным да **sop-* (гл. *сапці*). Гл. Фасмер, 3, 804; Шустар-Шэўц, 1378–1379; Борысь, 542. Магчыма сувязь з *насуплены, супіць* (гл.) – з-за «насупленага» выгляду птушкі (Антропаў, Назв. птиц, 368).

**Супако́й** ‘спакой, заспакаенне’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Ласт., Гарэц., Шат., Арх. Федар., Сержп.). Да *спакой* (гл.) з іншай прэфіксацыяй (гл. *су-*), хутчэй за ўсё, другаснае ўтварэнне ад *супако́іць* ‘заспакоіць, уціхамірыць’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.).

**Супако́н**: *супоко́н ве́ку* ‘спрадвеку’ (Нас.). Гл. *спакон*.

**Су́пал** ‘папалам’: *хлѣбъ суполъ с мякиною* (Нас.). Прэфіксальнае ўтварэнне *(*sǫ-)* ад **polъ*, гл. *палавіна*.

**Су́пар** ‘супраціўнік, сапернік’, ‘упарты чалавек’ (Нас., Байк. і Некр.), ‘той, хто пярэчыць’, ‘супраціўнік’ (Ласт., Адм.), *су́пырь* ‘супроць’ (Бяльк.), сюды ж *супарава́ць* ‘супраціўляцца, не слухацца; супернічаць’ (Нас., Стан.). Канкрэтны назоўнік, суадносны з абстрактным *супо́р*, гл. Укр. *су́пор* ‘супраціўленне, неахвота’, рус. паўн. *супо́р* ‘спрэчка, супраціўнасць, бойка’. ст.-рус. *супоръ* ‘спрэчка’, серб.-харв. дыял. *supor* ‘перашкода, супраціўнасць’. Прасл. **sǫporъ/-ь* < **sъ-perti*, прэфіксальнага дзеяслова ад *перці* (гл.) (Борысь, Prefiks., 97–98), параўн. ст.-слав. **сѫпьрь**, чэш. *soupeř*, славац. *súper* ‘сапернік’.

**Супара́т** ‘упарты’ (Нас., Бяльк., Мат. Маг., Юрч.), ‘упарты, непаслухмяны’, ‘супраціўнік, вораг, бунтаўнік’ (Гарэц.), ‘сапернік’ (Беларусіка, 19, 224), *супара́тка* ‘ўпартая жанчына’, *супара́тываць* ‘упарціцца; барухацца, супраціўляцца’ (Нас., Юрч.). Дэрыват ад *супар* (гл.) з суф. *-ат*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 120.

**Супаста́т** старое ‘вораг, непрыяцель’, лаянк. ‘разбойнік, злачынец, ліхадзей’ (ТСБМ), ‘упарты чалавек’ (чэрв., Жд. 2), ‘тс’, ‘варожы воін’ (Бяльк.), ‘супраціўнік, нягоднік’ (Рам. 1; рас., Сл. ПЗБ), *супуста́тка*, лаянк. Укр., рус. *супоста́т*, ст.-рус. *супостатъ* ‘праціўнік; д'ябал’, ст.-слав. **сѫпостатъ** ‘вораг, непрыяцель, праціўнік’. З **sǫ-po-statъ*, дзе **sǫ-* і **po-* прыстаўкі; *-*statъ* утворана з суф. *-*tъ* ад **stati*, **stanǫ* ‘стаць’, гл. Слаўскі, SP, 2, 37; ESJSt,

14, 863 (<*sъ-po-stati ‘паставіць аднаго супраць другога’); параўноўваюць з літ. stótas ‘той, які пастаўлены’, авест. stāta ‘той, які стаіць’, лац. praestātus ‘пастаўлены’; гл. Траўтман, 283; Мее, 302; Фасмер, 3, 805. Паводле Львова (Этимология–1972, 112–113), дакладная калька грэч. ὑπ-εν-αντίος < ὑπο- ‘з’, ἐν- ‘перад, па’, -ἀντίος ‘той, які знаходзіцца насупраць’.

**Супаста́тка**. Гл. *супастат*.

**Су́пер** ‘найвышэйшай якасці’, у складаных словах *супер-* ‘звыш-, над-’ (ТСБМ). У якасці самастойнага слова з англ. *super* ‘які пераўзыходзіць звычайнае’, што з кампазітаў, у складзе якіх паходзіць з лац. *super* ‘зверху, над’, параўн. рус. аргат. *су́пер, су́перский* (Хмялеўскі, Зб. Макіенку, 677–679).

**Су́перак** ‘насуперак’ (Сцяшк. Сл.). Гл. *насуперак*.

**Су́песак** ‘зямля с прымессю пяску’ (ТСБМ), *су́пясак* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *су́песок* ‘тс’ (ТС), *супесо́к* ‘пустая неўрадлівая глеба сівога колеру’ (ПСл). Параўн. укр. *су́пісок* ‘пясчаная глеба’, рус. *су́песь* ‘тс’, славен. *sopések* ‘вапністая гліна’, на базе якіх узнаўляецца прасл. *sǫpěsъkъ/*sъpěsь (Борысь, Prefiks., 126; Куркіна, Диал. структура., 193), гл. *су-* і *пясок*.

**Супёлка**: *гэта шинѣль якъ супёлка* ‘цесная або вузкая’ (Шымк. Собр.). Гл. *сапёлка*.

**Су́піць** ‘хмурыць (бровы)’ (ТСБМ, ТС), ‘хмурыць, моршчыць, сцягваць’ (Нас.), *су́піцца* ‘пахмурна ссоўвацца (пра бровы)’, ‘хмурыцца, дзьмуцца (пра чалавека)’ (ТСБМ, Нас., Ласт.), ‘хмурыцца, змрачнець’ (ТС), ‘паколваць і свярбець’ (мсцісл., З нар. сл.), *моро́з су́піць* ‘адчуванне моцнага холаду’ (КСТ), *су́піць холадам* ‘стан хворага, калі цела працінае холад’ (чач., ЖНС). Укр. *су́пити*, рус. *су́пить* ‘хмурыць’, польск. *sępić* ‘тс’, чэш. *posupný* ‘хмуры’. Традыцыйна выводзіцца ад *суп₂* (гл.), паколькі ў гэтай птушкі нібы хмуры позірк, так ужо Міклашыч, 315; гл. Фасмер, 3, 48, 804; Махэк₂, 477; ЕСУМ, 5, 593. Аднак канцэнтрацыя ўвагі ў народнай мове на знешніх адчуваннях (*мороз супіць яйцо*, Нас.) дазваляе звязаць з харв. *sȕpica* ‘дробны выраст на скуры’, якое Борысь (Etymologie, 408–409) выводзіць са *ščuplъ ‘дробны, тонкі’ (гл. *шчуплы, шчыпаць*).

**Су́плаў** ‘дрыгва’ (парыц., Янк. Мат.), ‘гразкае балота; гразкае месца на дарозе’ (лун., Шатал.), ‘нанесенае вадой’ (Полымя, 1970, 2, 129), *супла́вісты* ‘гразкі (пра балота)’ (Шатал.). Да *плаў*, гл. Борысь (Prefiks., 93–94) на аснове беларускіх слоў і серб.-харв. дыял. *су́плав* ‘тое, што нанесена вадой’ узнаўляе прасл. *sǫplavъ < *sъ-plouti ‘разам прыплыць’.



**Су́плеч** *(су́пліч)* ‘плячо ў плячо’ (Бяльк.), *су́пляч* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Гл. *по́плеч*.

**Су́пліка** ‘просьба, прашэнне’ (Нас.), *су́плікі* ‘плёткі, размовы’ (Касп.). Ст.-бел. *су́плика* ‘прашэнне’ (1638 г., Ст.-бел. лексікон) < ст.-польск. *suplika* (1621 г.) ‘прашэнне, хадайніцтва’, апошняе з лац. *supplex* ‘той, хто просіць, моліць, хадайнічае’. Кюнэ (Poln., 100) заўважае, што польск. *suplika* магло быць запазычана праз пасрэдніцтва франц. *supplique* або непасрэдна з ням. *Supplix* ‘тс’.

**Супо́л** ‘вузел на нітцы, вяроўцы і інш.’ (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *supeł* ‘вузел’, форма з мазурэннем; у гаворках таксама *szupeł, szypuł/sypuł*, каш. *šipel* ‘тс’ і г. д. Борысь (587) мяркуе аб сувязі з *szypułka* ‘сцябло, на якім знаходзіцца кветка або плод’ і прапаноўвае як пераходнае звяно значэнне ‘завязь (кветкі або садавіны), якая мае форму звітага шарыка, вузла’.

**Супо́лка** ‘аб’яднанне людзей, злучаных агульнымі мэтамі, умовамі, задачамі; арганізацыя, таварыства’ (ТСБМ, Ласт., Варл.), ‘сумесная работа’ (Сцяшк.), ‘група людзей за супольнай работай’ (ваўк., Сл. ПЗБ), *су́палка* ‘тс’ (Гарэц.). У іншых славянскіх мовах з прыст. *с-/s-*: укр. *спілка*, польск. *spółka*, в.-луж. *społk*, чэш. *spolek*, славац. *spolok*. Борысь (570) выводзіць з прыслоўя *społu*, якое да прасл. *sъ polu ‘з (сумесна) паловай’ (гл. *палова, супольны*).

**Супо́льніца** ‘суполка, супольная работа’ (ТС, Юрч.), ‘бравэрка’ (Сцяшк.), *супо́льніца, супо́льнічка* ‘суцэльнае адзенне’ (Сцяц. Сл.), ‘жаночая кашуля, сарочка’ (барыс., Сл. ПЗБ). Да *супольны*, гл.

**Супо́льны** ‘агульны, сумесны’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Шат., Гарэц., Др.-Падб., Касп., Варл., Бяльк.), сюды ж *супо́льна* ‘разам, сумесна’ (ТСБМ, Ласт., Касп., Бяльк., Варл., Гарэц., ЛА, 5), *супо́льнік* ‘паплечнік, аднадумец; саўдзельнік, хаўруснік’, *су́попольнікі* ‘суседзі’ (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *супольныи* ‘агульны, сумесны’ (Сташайтэне, Абстр. лекс., 135). Укр. *спільний*, польск. *spólny* ‘супольны’, чэш. *společný*, славац. *spoločny* ‘тс’. Прасл. *sǫpolьnъjь (Трубачоў, Проспект, 80), што да прасл. *sъ polu, дзе *polъ ‘палавіна, палова’; старая аснова на *-й*; гл. таксама Шустар-Шэўц, 1343; Махэк₂, 570; Борысь, 569; ЕСУМ, 5, 374.

**Супо́нка** ‘прывязка, якой прымацоўваюць біч да цапільна’ (дзярж., ДАБМ, камент.). Этымалагічна тое ж, што і *спона*, *спонка* (гл.), параўн. наступнае слова.

**Супо́ня** ‘рэмень для сцягвання клешчаў хамута’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Байк. і Некр., Шат., ТС, Бяльк., Сержп. Прымхі, Маслен., Арх. Вяр., Сл. ПЗБ), *супо́нь* ‘тс’ (Сцяшк., Бяльк., Сл. ПЗБ), *сыпо́ня* ‘тс’ (мёрск., Нар. лекс.), *супо́нне* ‘тс’ (Мат. Гом.), *сіпо́нька* ‘тс’ (Касп.), *супо́ня* ‘раменьчык мятровай даўжыні’ (Пятк. 2), ‘звіты дратаваны шнурок’ (Варл.). Укр. *супо́ня*, рус. *супо́нь*, *супо́ня* ‘тс’. З **сж-понь* да **pęti*, **рьпо̨* ‘пяць’ (Фасмер, 3, 805; ЕСУМ, 5, 478); параўн. этымалагічна і фармальна блізкае харв. *sŭpon* ‘праца, якая выконваецца разам’, укр. дыял. *сопо́ня* ‘мужчынскі пояс’ (< **sǫpon’a*, Шульгач, Слов. етим., 454), гл. таксама *апона*, *запан*.

**Супо́р** ‘супраціўленне, непаслухмянасць’ (Гарэц.), сюды ж *супо́рышчэ* ‘задышка з хрыпам у малога дзіцяці’ (ТС). Гл. *супар*.

**Супрага** ‘аб’яднанне цяглавай жывёлы гаспадароў для сумеснай работы’ (беласт., У новай айчыне, Беласток, 2001, 32), *су́пражс*, *су́пражска* ‘прыпрэжка’ (Нас.), *су́пражска* ‘тс’ (Байк. і Некр.), сюды ж *супра́жснік* ‘напарнік па працы, супольнай апрацоўцы зямлі’ (Сцяшк., Скарбы), *супрага́нё* ‘аб’яднанне гаспадароў для сумеснай апрацоўкі зямлі’, *супрага́цца* ‘аб’ядноўвацца для сумеснай апрацоўкі зямлі’ (слонім., ЖНС), *супра́жсыць* ‘апрацоўваць суполкай зямлю’ (Скарбы), *супра́гай* ‘парай коней’ (беласт., Сл. ПЗБ). Укр., рус. *супря́га* ‘сумесная апрацоўка зямлі некалькімі гаспадарамі’, укр. яшчэ ‘прыпрэжка’, таксама *су́пряж* ‘тс’, *супря́жник* ‘той, хто сумесна з кім-небудзь працуе на запрэжаных жывёлах’, серб.-харв. дыял. *suprežnik* ‘тс’. Борысь (Prefiks., 114) разглядае гэтыя лексемы як аддзеяслоўныя дэрываты ад **sǫ-pręgti* (гл. *прэгці*) – магчыма, ужо ў асобных славянскіх мовах, улічваючы розную суфіксацыю і значэнні.

**Су́прадкі** ‘вячоркі, на якіх прадуць’ (Нас., Касп.; в.-дзв., Шатал.; бялын., Янк. 3; сен., Гіл.; Растарг., Мат. Маг.), *су́прадкі*, *су́пріткі* ‘тс’ (Бяльк.), *су́пратки* ‘тс’ (круп., 3 нар. сл.; Мат. Гом.). Гл. *попрадкі*. Борысь (Prefiks., 115) звяртае ўвагу на рус. дыял. *су́прядак* ‘супрадкі’ і серб.-харв. *су́председак* ‘тс’ як на магчымую паўднёва-ўсходнюю ізалексу, але дапускае таксама магчымасць незалежнага развіцця.



**Супраціў** ‘процідзеянне, змаганне’ (РС, 1999, 2, 83). Адваротны дэрыват ад *супраціўленне* ‘тс’, да *супрацівіцца* ‘пярэчыць, працівіцца’, гл. *супраць*.

**Супрацо́ўнік** ‘той, хто працуе разам у якой-небудзь установе, служачы’ (ТСБМ, Ласт.), вытворныя *супрацо́ўніцтва*, *супрацо́ўнічаць* (там жа). З *су-* і кораня *прац-* (гл. *праца*); калька рус. *сотру́дник*, *сотру́дничать* і г. д. Параўн. сучаснае (адваротны дэрыват?) *супра́ца* ‘супрацоўніцтва’ (Беларусіка, 19, 226).

**Су́праць** і *супро́ць* ‘насупраць’, ‘наперакор’, ‘насустрач’, ‘у параўнанні’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Шымк. Собр., Гарэц., Бяльк., Касп., Барад.), *супраціў* ‘тс’ (Нас., Некр. і Байк.), *супро́ціў* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, Ян.), ст.-бел. *супротиву* ‘тс’ (Сл. Скар.). Рус. *супроти́в* прысл. і прыназ., стараж.-рус. *супроти́въ*, серб.-харв. *супрот*, *супроћ* ‘у параўнанні’, дыял. *супро́тив(а)* ‘насупраць, у параўнанні’, ст.-слав. **сѫпротивъ**. Далей гл. *су-* і *процію̌*[sic] (Фасмер, 3, 805; ESSJ SG, 1, 242).

**Супро́ць**. Гл. *супраць*.

**Супру́г**: *супруг валоў* ‘пара запрэжаных валоў’ (свянц., Яшк. Мясц.), ст.-бел. *супругъ* ‘пара разам запрэжаных валоў’ (Сл. Скар.), параўн. балг. дыял. *съпру́зи* ‘пара запрэжаных коней або валоў’, ст.-слав. **сѫпрѧгъ** ‘запрэжка’; сюды ж *супру́га* ‘жонка’ (Рам. 6), *супру́жница* ‘тс’ (Нас.), магчыма, яшчэ да стараж.-рус. *супругъ*, *съпрѧжьница* ‘жонка’, або новае запазычанне з рус. *супру́га*, *супру́жница* ‘тс’. Усё да прасл. **pręgti* ‘злучаць, звязваць’, гл. *спрагаць*, *супрага*.

**Супу́льны** ‘агульны, супольны’ (брасл., Сл. ПЗБ). Аўтары (там жа) параўноўваюць з польск. *wspólny* ‘тс’; аднак тут, відаць, кантамінацыя *супольны* і *wspólny*.

**Су́пчык** ‘нягоднік’ (Юрч. Мудр.). Запазычанне вусным шляхам з рус. *су́бчык* ‘тып’, памяншальнае ад *субъект* ‘тс’.

**Су́пша** ‘сумесь збожжа, мукі’ (Мат. Гом.). Архаізм, утвораны пры дапамозе прэфікса *су-* і элемента *-пша*, што атаясамліваецца з пачаткам слова *пшаніца*, параўн. падобныя ўтварэнні *суржык* (< *рож* ‘жыта’), *су́ярак*, гл. (< *яр* ‘яравое збожжа’). Выводзіцца з **рьх-ja* ад **рьхati* ‘таўчы’, прадстаўленага ў *непша* ‘прымесь у просе’ (гл.), польск. *samopsza* ‘гатунак пшаніцы’ (< **samo-рьх-ja*, гл. Слупскі, Зб. Слаўскаму, 350).

**Супыні́ць** ‘спыніць, затрымаць’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.), *супыні́цца* ‘спыніцца, затрымацца’ (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *зупи-*

*нити* 'затрымаць, спыніць', балг. дыял. *супѝнъм* 'затрымаць; стрыножыць' і інш. Гл. *спыніць, пыніць*.

**Супэ́ль** 'сопель, смаркач', 'лядзяш' (Клім.; кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.). Паводле Горбача (там жа, 8), суадносіцца з польск. дыял. *sąpel* 'лядзяш'; параўн. таксама польск. *sopel*, дыял. *sumpel*, *supel* 'сусолка, замерзлая сцякаючая вадкасць' (гл. *соплі*), семантычна далёкае (з метафарычным пераносам) польск. *supeł* 'вузлік', гл. *супо́л*.

**Супэнду**, *спэнду* 'з перапуду, з перапалоху' (Кал.). Адаптаваны паланізм, параўн. польск. *z pędu* 'сходу, адразу', дыял. *spęd* 'зручны выпадак, смеласць', што да *pęd* 'рух, бег, імпэт'. Відаць, недакладнае тлумачэнне, хутчэй 'адразу, не марудзячы': *не ўспела супэнду дзяўчына бацьку адказ даць*, на што, магчыма, паўплывала збліжэнне з генетычна тоесным *пуд* 'страх, перапалох' (гл.).

**Супярэ́чыць** 'не згаджацца, працівіцца' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Бяльк.), *суперэ́чыць* 'ставіцца адмоўна' (ТС). Да *пярэчыць*, гл.

**Супя́чыцца** 'працівіцца, пярэчыць' (ТС). Да *пякаць*, гл.

**Сур** 'смецце' (Нас., Гарэц., Бяльк.; бялын., Янк. 3), 'смецце ў ягадах' (бых., ЛА, 3), 'насечаныя дробныя кавалачкі дрэва' (ветк., ЛА, 5), *су́р'е* зборн. 'смецце' (Юрч. Вытв.), *сур* зборн. 'тс' (бялын., Янк. Мат.; заўвага ўкладальніка: "ужываецца і смецце, але сур мае больш шырокае значэнне"), *суры́нка* 'парушынка' (Бяльк.), *су́рный* (пра хату) 'засмечаны' (Нас.), *сурану́цца* 'ўпасці чаму-небудзь дробнаму' (Бяльк.), *суры́ць (сури́ць)* 'рабіць смецце' (Нас., Гарэц.), 'смеціць, растрасаць рэдка гной' (Юрч. Вытв.). Няясна; арэальна звязана з рус. *сор* 'смецце' (звязваецца са *срацъ*, Фасмер, 3, 720) з няяснай фанетыкай: *-у-* першапачаткова ў ненаціскной пазіцыі пры дысіміляцыйным аканні ўсходнемагілёўскіх гаворак; бел. *сур* было запазычана як польск. дыял. *sur* 'тс' (Варш. сл., 6, 516); укр. палес. *сур* 'смецце' – з беларускай (ЕСУМ, 5, 478). Параўн., аднак, польск. дыял. *sor*, *sur*, *szur* 'мул, нанос', што можа быць звязана з *szurać* 'шараваць, церці з шумам', параўн. *шураць*, *шургаць*, гл. Сумненні адносна паходжання ў Цвяткова, Запіскі, 2, 1, 56. Гл. таксама *сурыць*.

**Сурава́** 'ад хваробы': *каб цябе сурава угробіла* (Касп.). Магчыма, эўфемізм на базе субстантываванага прыметніка ж. р. ад *су́равы* 'сыры, вільготны' (гл.), параўн. *сыра́*, гл.

**Суравёжка**, *суравёшка* 'сыраежка' (Касп., Дэмб. 1, Сцяшк., Сярж.-Яшк., Нік. Оч.; ашм., Стан.; Шат., Растарг.), параўн. славац. *surovienka* 'малачай, Lactorrias rolemus'. Гл. *сыраежка*. Паводле Карскага (1, 238) змена *ы* > *у* ў выніку народнай этымалогіі: зблiжана з *сур* (гл.)?



**Сураві́зна** 'нябеленае льняное палатно' (в.-дзв., астрав., мін., Сл. ПЗБ; ашм., Нар. ск.; мёрск. Ск. нар. мовы), 'прыродная афарбоўка саматужных нітак і палатна сівога ці рудаватага колеру' (Варл.), 'рудая вада ад суравога палатна' (шчуч., швянч., віл., Сл. ПЗБ), 'суравы, руды колер' (смарг., лід., Сл. ПЗБ), 'балота з іржавай вадой' (швянч., Сл. ПЗБ). Да *суравы́* з суф. *-ізна*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 103.

**Сураві́на** 'суравы, руды колер' (іўеў., Сл. ПЗБ). Да *суравы*, гл.

**Суравы́** 'нябелены (пра ніткі, палатно)' (Касп., Шат.; мёрск., Ск. нар. мовы), 'нявыбелены, недастаткова апрацаваны (пра палатно сівога і жаўтаватага колеру)' (Сцяшк., Варл.), *суровы́* 'тс' (Уладз.), *су́равы (су́ровый)* 'макраваты', 'сыры, незвараны', 'жорсткі' (Нас.), *суро́вы* 'нябелены, грубы (пра палатно)' (Бяльк., Шат.; мёрск., Ск. нар. мовы; Уладз.), *сыровы́* 'нябелены, руды (пра палатно і пражу)', сюды ж *сураве́ц* 'сырыца (скура)' (Федар. 4), *суро́вец* 'гатунак палатна' (Дэмб. 2). Фармальна і этымалагічна цяжка адмежаваць ад *суро́вы* (гл.), параўн. *суравы́* 'суровы' (Ян.). Параўн. укр. *суро́вий* 'грубы, неапрацаваны', рус. дыял. *суро́вый* 'тс', польск., в.-н.-луж. *surowy* 'сыры, нябелены (пра палатно)', чэш., славац. *surový* 'сыры, неапрацаваны, неачышчаны', славен. *suròv* 'сыры, недавараны, неапрацаваны', балг. *суро́в* 'сыры', макед. *суров* 'сыры, неапрацаваны', ст.-слав. **соуровъ** 'сыры, грубы'. Прасл. **surovъ* 'сыры, сыраваты' звязана чаргаваннем з **syrъ* (гл. *сыры*), гл. Фасмер, 3, 807; ЕСУМ, 5, 480. Адносна развіцця колеравай семантыкі параўн. балг. *сур* 'сіваваты, рудаваты', серб.-харв. дыял. *су̑р* 'сівы', макед. *сур* 'шэры', гл. Бярнар, Бълг. изслед., 291 і наст.

**Сура́гі** 'рагі (пацёкі на вокнах)' (ст.-дар., Сл. ПЗБ), *суру́гі* 'тс' (слуц., Сл. ПЗБ), *суро́гі* 'рагі поту' (люб., Жыв. НС), *сурагі́* 'сляды поту, слёз на твары' (ЛА, 3). З літ. *srúogos* 'тс' (Сл. ПЗБ, там жа). Пра іншыя варыянты тлумачэння паходжання слова гл. *рага*.

**Су́рада** 'змалку, ад маленства' (мядз., Сл. ПЗБ). З *су-* і *род*$_1$ (гл.), параўн. *зро́ду* 'ад самага нараджэння' (< **sъ-rodu*). Сюды ж,

відаць, *сурдо́лле* ‘нядобры чалавек’ (Мат. Маг.) з пропускам (сінкопай) галоснага (параўн. *су́рметка* < *су́раметка*, гл. *сурамяць*), суф. *-ол-* і развіццём “адмоўнай” семантыкі па тыпу *вырад, вырадак* (гл.). Да формаў зборнасці ў экспрэсіўных назоўніках параўн. *недачупалле, незграбоцце* і пад.

**Сураджа́ць** ‘збіраць, рыхтаваць (у дарогу)’ (віц., Рам.; Нар. Гом., Ян.), *суріджа́ць* ‘тс’ (Бяльк.), *сураджа́ннік* ‘той, хто збірае, рыхтуе’, *сураджа́цца* ‘збірацца, рыхтавацца’ (Гарэц.). Да *рад, радзіць*, гл.

**Су́рамяць** ‘сырыца, сырамятная скура’ (Цых.), *су́рам* ‘тс’ (З нар. сл.), *суромец* ‘тонкі скураны раменьчык’ (Сержп.), *су́рметка* ‘папруга, повад з сырамяці’ (Сл. ПЗБ). Гл. *сырамяць*.

**Сурві́на** ‘сасна з адным больш смалістым бокам’ (Касп.). Этымалагічна непразрыстае слова. Можна звязаць з балг. і макед. *су́рви, сурвѝски* ‘абрадавыя галінкі, дубчыкі, кіёчкі, якімі ўдзельнікі навагодніх абходаў б’юць гаспадароў з пажаданнямі здароўя, ураджаю і пад.’, што, паводле Младэнава, утвораны ад *суров* са значэннем ‘моцны, здаровы’; параўн. побач з пажаданнем *сурва година!* варыянт *сурова, весела година!* і *суров(а) даси!* (Плотнікава, Этнолингв. геогр., 106). Гл. *суровы*; да фанетыкі параўн. *дзе́рва* ‘дрэва’, ‘стрэмка’ (Стан.) < *дзерава*, гл.

**Сурвэ́та**, *сурвэ́тка* ‘кавалак тканіны або паперы для гігіенічных мэт’, ‘абрус’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *сурвэ́та, сарвэ́та* ‘абрус, настольнік’ (паст., швянч., брасл., Сл. ПЗБ), *сурвэ́та* ‘сурвэтка’ (Сцяшк.), ‘цырата’ (Гіл.), ‘святочны абрус фабрычнай работы з узорамі’ (ДАБМ, камент., 925), *сурвато́ўка* ‘фабрычнага вырабу хустка з узорамі’ (маладз., Гіл.), ст.-бел. *сервета* ‘абрус, настольнік’ (Ст.-бел. лексікон). З польск. *serweta*, якое ад франц. *serviette* < *servir* ‘служыць’ (Кюнэ, Poln., 96; SWO, 679). Гл. яшчэ *сарвэта*.

**Сурга́н** ‘неспакойны хлопец’ (Бяльк.); прозвішча *Сурганаў* Бірыла (Бел. антр., 3, 399) параўноўвае з укр. жарт. *сурга́нити* ‘працї’, *сурга́нитися* ‘з цяжкасцю ісці, ехаць, плясціся’. Няясна; параўн. ЕСУМ (5, 479).

**Сургу́ч** ‘сумесь смалы, воску і пад.’ (ТСБМ). Фіксуецца з 1713 г., запазычана з рус. *сургу́ч* (Булыка, Лекс. запазыч., 60), якое, як мяркуюць (Менгес, Language, 20, 70), з с.-цюрк. *surgač* ‘фарбавальнае рэчыва для замацавання ляза ў дзяржанні нажа’, гл. Фасмер (3, 806). Няясна, ці сюды ж *сургу́чык* ‘прылада выціскаць сыр’ (Сцяшк. Сл.).



**Сурдзі́на**, *сурдзі́нка* ‘прыстасаванне для прыглушэння гуку ў музычных інструментах’ (ТСБМ), *сурды́на* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *пад сурдзінку (сурды́нку)* ‘ціха, прыглушана; цішком, употай’ (ТСБМ; Полымя, 1998, 3, 248). Праз рус. *сурдина* або польск. *surdyna* з франц. *sourdine* < італ. *sordina (sordino)* ‘тс’, утворанага ад *sordo* ‘глухі, прыглушаны’, што, у сваю чаргу, узыходзіць да лац. *surdus* ‘глухі, які глуха гучыць’ (Фасмер, 3, 806; ЕСУМ, 5, 479).

**Сурдо́лле**. Гл. *сурада*.

**Сурдула́к** ‘нелюдзімы чалавек’, *сурдула́чыцца* ‘ўхіляцца ад людзей’ (Яўс.). Няясна. Відаць, да *сурдо́лле*, гл. *сурада*.

**Сурду́т** ‘мужчынская двухбортная вопратка з доўгімі поламі, якая цесна аблягае цела’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Гарэц., Ласт., Шн. 3), ‘мужчынскае верхняе адзенне’, ‘верхняе мужчынскае адзенне з самаробнага сукна’ (Скарбы), *сурду́к* ‘тс’ (Нас., Жд. 3), *сурду́шычык* ‘верхняе святочнае адзенне з тонкага сукна на ватнай падкладцы’ (ашм., Малч.). З польск. *surdut* ‘тс’, якое з франц. *surtout* ‘тс’ (Кюнэ, Poln., 100). Форма з *-к*, магчыма, пад уплывам рус. *сюрту́к* ‘тс’, адкуль, відаць, і беласт. *суртук* ‘тс’ (Вруб.), або *сарда́к*, гл.

**Сур’ёзны** ‘паважны, грунтоўны, змястоўны, значны; задумлівы, заклапочаны’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘строгі, важны, упэўнены ў сабе’ (Ласт.), ‘суровы’ (ТС), ‘злы, куслівы’ (Сл. ПЗБ), сюды ж *сур’ёз* ‘паважнасць, строгасць’ (ТСБМ). Адаптаванае запазычанне праз рус. *серьёзный* ‘паважны, значны, строгі’ з франц. *sérieux* (ж. р. *sérieuse*), звязанага з лац. *sērius* ‘важкі’ (ЕСУМ, 5, 220; Чарных, 2, 158; Фасмер, 3, 612). Змены ў пачатку слова, як і ў размоўным рус. *сурьёзный*, тлумачацца ўплывам блізкага па значэнню *суровы*, гл. (Маліноўскі, PF, 3, 752).

**Су́ржык** старое ‘мука з сумесі розных культур’ (валож., ЛА, 4; Малч.). Укр. *су́ржик, су́ржиця*, рус. *су́ржанка, су́ржик*, польск. дыял. *sążyca, sąrżyca* ‘жыта (сеянае) напалову з пшаніцай’, чэш. *souržice, sourež*, славац. *suržica* ‘сумесь пшаніцы і жыта або аўса і ячменю’, серб.-харв. *су̏ражица, су̏ржица*, славен. *sǫ́ržica*, балг. *су́ръжица* ‘тс’. Прасл. **sǫrъžica* < **sǫrъžь*, ад **sǫ-* ‘су-’ і **rъžь* ‘жыта’, гл. *рож* (Фасмер, 3, 806; Праабражэнскі, 2, 211; Філін,

Образ., 113; Брукнер, 482; Махэк$_2$, 513; Скок, 3, 116; ЕСУМ, 5, 479). Гл. спецыяльна Борысь (Prefiks., 122–123), дзе прыводзяцца і іншыя суфіксальныя варыянты слова.

**Су́рла**, *сурло́* 'мурло, морда, тоўсты твар' (Юрч., Юрч. Сін.). Параўн. рус. дыял. *су́рла* 'твар', серб. *сỳрла* 'хобат; рыла (свінні)' (Вук), харв. *sȕrla* 'дудка, жалейка пастуха', макед. *сурла* 'хобат', 'музычны інструмент'. Апошнія словы выводзяць з тур. *zurna* 'музычны інструмент' (Скок, 3, 665) або з перс. *surnā* 'тс'; у беларускую мову, магчыма, праз укр. *сурна́* 'музычны інструмент', рус. раз. *сурна́*, пенз. *сурно́* 'морда', якія да рус. *сурна́* 'музычны інструмент' (Фасмер, 3, 807), гл. *сурма$_2$*. Горбач (Арго, 22) выводзіць укр. аргат. *су́рло* 'морда' з рум. *súrlă* 'свіння; рыла'. Не выключана збліжэнне з народнымі экспрэсіўнымі ўтварэннямі тыпу балг. дыял. *су́рльо* 'неахайны, апушчаны чалавек'.

**Сурма́$_1$** 'хімічны элемент', 'чорная фарба для валасоў, броваў і пад.', *сурмі́ць* 'фарбаваць сурмой' (ТСБМ). Праз рус. *сурьма* 'тс' з цюркскіх моў, параўн. тур., крым.-тат. *sürmä* 'сурма' ад *sür* 'фарбавальнік', тат. *sørmä* 'сурма'; гл. Фасмер, 3, 809 (з літ-рай). У народнай мове не распаўсюджана, параўн. іншыя назвы: *антымон* 'сурма' (Некр. і Байк.), *антымонія* 'тс' (Ласт.), параўн. таксама *анцімонія*, гл.

**Сурма́$_2$** 'старажытны народны музычны інструмент у выглядзе доўгай драўлянай трубы' (ТСБМ), *су́рма* 'духавая труба' (ЭШ), 'морда' (Сл. рэг. лекс.), *сурма́ч* 'сігналіст, які падае сігнал сурмою, грае на сурме, трубач' (ТСБМ), ст.-бел. *сурма* 'духавы музычны інструмент' (Ст.-бел. лексікон), *сурмач* 'трубач' (там жа). Укр. *сурма́*, рус. *сурна́* 'тс', славац. *surma*, *surmita* 'труба пастухоў авец'. Бел. *сурма* запазычана ў сярэдзіне XVII ст. са ст.-польск. *surma* (XVI ст.), якое праз тур. *surna* з пярс. *sūrnāj* 'святочная флейта' (Булыка, Лекс. запазыч., 167). Гл. таксама ЕСУМ, 5, 480; Брукнер, 526; SWO, 714.

**Сурмалі́на** 'ажына, Rubus caesius L.' (Касп.), 'дуброўка прамастаячая, Potentilla erecta (L.) Rausch.'. Гл. *сербаліна*; перанос назвы на дуброўку звязаны з падабенствам апошняй да ажыны, параўн. іншыя назвы: *дзеравя́нка*, *кустарнае дзерава* 'тс'.

**Сурмі́ла** 'нязграбны і суровы, непамяркоўны чалавек' (Янк. 3), 'тоўсты вялікі мужык' (пух., ЭШ), 'маўклівы чалавек' (Мат. Гом.), *сурмі́ло* 'непрыветлівы, змрочны, павольны чалавек' (ТС). Магчыма, да *сурма$_2$*; аб суф. *-іла* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 107. Параўн., аднак, *сурмі́цца* 'хмурыцца' (Гарэц. 1), укр. дыял. *сурма́чити* 'хмурыць, супіць', якое тлумачыцца як вынік метатэзы з **сумрачити* 'хмурыць' (ЕСУМ, 5, 480), гл. *сумрак*.



**Сурно́** экспр. 'сука' (ТС). Утворана ад *сука* (гл.) шляхам адсячэння *-ка* (успрынятага як суфікс?) і далучэння экспрэсіўнай фіналі *-рно*, параўн. *сабарно*, гл.

**Суро́вы** 'цвёрды, непахісны', 'вельмі строгі', 'патрабавальны, невыносны' (ТСБМ), 'жорсткі, строгі, люты, няўмольны' (Некр. і Байк.), 'сур'ёзны' (ТС), 'мулкі (аб вяроўцы)' (Нас.), 'макраваты; які яшчэ не зварыўся, сыры', 'нябелены (пра палатно, ніткі)' (Байк. і Некр., Бяльк., Мат. Маг., Уладз., Сержп. Прымхі, ЛА, 4; круп., свісл., Нар. сл.), *су́равы* 'тс' (Нік. Оч.), *суравы* 'тс' (Сл. ПЗБ, Касп., Мат. Гом., Ян.), 'пра грубыя льняныя ніткі' (ушац., Нар. лекс.), *сурову́* 'нябелены' (ТС), ст.-бел. *соуровъ: рѧзанци соуровии члвци* (Летапіс Аўрамкі XV ст., Карскі, 2–3, 393) . Укр. *суро́вий* 'нябелены', рус. *суро́вый* 'суровы, строгі', 'нябелены; нявырабленны, неачышчаны', стараж.-рус. *суровъ* 'сыры; дзікі', польск. *surowy* 'строгі, смелы; неапрацаваны', в.-луж., н.-луж. *surowy* 'сыры, негатаваны', чэш., славац. *surovy* 'неапрацаваны', 'суровы, жорсткі', серб.-харв. *суров(и)* 'суровы, грубы', балг. *суро́в* 'сыры; жорсткі; свежы, сакавіты', макед. *суров* 'сыры, неапрацаваны, суровы, жорсткі', ст.-слав. **соѵровъ** 'сыры, дзікі, жорсткі'. Прасл. **surovъ/*syrovъ* 'суровы, неапрацаваны, свежы, вільготны' < прасл. **surъ/*syrъ* 'сыры, свежы, вільготны'; гл. яшчэ *сыры*. Роднаснае ст.-ісл. *saurr* 'сырая зямля', *súrr* 'кіслы', алб. *hirrë* 'сыроватка', з і.-е. кораня **sū-ro-, *soṷ-ro-*; гл. Траўтман, 294; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1134; Фасмер, 3, 807; Борысь, 587; Глухак, 595. Шустар-Шэўц (1379–1380) звяртае ўвагу на семантычную апазіцыю 'сыры, негатаваны, неапрацаваны' і 'суровы, строгі, жорсткі', якія разглядаюцца як амонімы ў ЕСУМ, 5, 480. Махэк$_2$ (593) услед за Бугай (РФВ, 67, 245) прымае роднасць з прасл. **sěverъ* 'поўнач', усх.-літ. *šiaurùs* 'пранізлівы (вецер)', *atšiaurùs* 'суровы', лац. *caurus* 'паўночна-ўсходні вецер'.

**Суро́жыцца** 'скасавурыцца; узлавацца, пагрозліва глянуць' (шальч., Сл. ПЗБ). Відаць, да *рожа$_3$* (гл.), пераасэнсаванае пад уплывам дзеясловаў тыпу літ. *suriẽsti* 'сагнуць, скрывіць' і пад.

**Суро́к** ‘невялікі грызун сямейства вавёркавых, які жыве ў глыбокіх норах і зімой упадае ў спячку’ (ТСБМ). З рус. *суро́к* ‘тс’; народная назва – *байбак* ‘тс’ (Ласт., Некр. і Байк.), гл.

**Суро́кі** ‘паводле забабонных уяўленняў – няшчасце, хвароба, пашкоджанне, прынесеныя каму-небудзь нядобрым вокам’ (ТСБМ; круп., докш., барыс., Сл. ПЗБ; усх.-маг., ЛА, 3; Растарг.), *суро́цы* ‘тс’ (Нас., Шымк. Собр., Шн. 3, Гарэц., Нік. Оч., Касп., Бяльк., Растарг., ЛА, 3), *суро́чыць* ‘зракнуць’ (Касп., Некр. і Байк., Ласт., Шн. 3, Нас., ТС, ЛА, 3). Рус. смал. *суро́к* ‘урокі’, *изуро́к* ‘тс’. Ад **sǫ* і **rokъ* (гл. *су-* і *рок*); паводле Фасмера (3, 808), першаснае значэнне – ‘пашкоджанне, няшчасце, прынесеныя нядобрым словам’, параўн. *урок*, *уроцы* (гл.). Хутчэй адваротны дэрыват ад прыставачнага *сурочыць*, гл. *уракаць*, *уракці*. Паводле Карскага (1, 365), формы на *-цы* – глыбокі архаізм з памякчэннем зыходнага заднеязычнага перад другасным *і*, якія пасля дээтымалагізаваліся пад уплывам назваў хвароб тыпу *сухоты*, *пранцы* і пад., гл. Карскі, 2–3, 136, 331.

**Сурчо́к** ‘свісток’ (Бяльк.). Гукапераймальнага паходжання ад незафіксаванага **сурчаць*.

**Су́рык** ‘мінерал, у склад якога ўваходзіць свінец’, ‘мінеральная фарба чырвона-карычневага колеру’ (ТСБМ). Паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 95), магчыма, праз рус. *су́рик* з грэч. συριχόν ‘сірыйскі фарбавальнік’, фіксуецца з 1679 г. Аб рус. слове гл. Фасмер, 3, 806.

**Сurýць** ‘рабіць смецце’, ‘траціць грошы’ (Нас.). Гл. *сур*; магчыма, зыходная форма для апошняга, узнікшая ў выніку фанетычных працэсаў, характэрных для ўсходнемагілёўскіх гаворак (параўн. *Мугілёў* ‘Магілёў’ і пад.).

**Сурэніца** *(суреница)* ‘вежавіца, Turitis glabra L.’ (Меер Крыч.). Няясна (памылкова запісанае *сурэпіца*, гл. наступнае слова, аднак падобных назваў для ўказанай расліны не адзначана).

**Сурэ́па** ‘пустазелле з жоўтымі кветкамі’ (Сцяшк., Мат. Гом.), *сурэ́пка* ‘пустазелле свірэпа’ (Цых.), *сурэ́піца* ‘рапс’ (Ласт.). Параўн. укр. *сурі́па*, *сурі́пиця* ‘тс’ і ‘свірэпа’, рус. *суре́па*, *суре́пка*, *суре́пица* ‘свірэпа’. Гл. *свірэпа*; варыянтны пачатак слова тлумачыцца наяўнасцю паралельных зыходных форм прыметніка **svirěpъ/*surěpъ* ‘дзікі, раз’юшаны’, параўн. рус. *свире́пый*, *суре́пый* ‘тс’, балг. *свире́п*, дыял. *суря́п*, *зуре́пав* ‘раз’юшаны’ і пад.



Семантыка слова на базе ‘дзікая, некультурная расліна’, гл. Мяркулава, Этимология – 1994, 78; інакш – з *су-* (са значэннем няпоўнага падабенства) і *рэпа* (гл.) – тлумачыць адпаведныя формы Пічхадзе (Новое в рус. этим., 1, 229), што адлюстроўвае падабенства лістоў розных раслін да лісця рэпы, параўн. *рапак*, гл. Гл. яшчэ Жураўлёў, Язык и миф, 373.

**Су́р’я**, *су́рыя* зборн. ‘смецце’ (Мат. Маг.). Гл. *сур*.

**Су́са** ‘наўскач’: *кабылка прэ суса* (Сержп. Казкі), *даў суса* ‘задаў стракача’ (Сержп. Прымхі). Запазычана праз польск. *sus*, *szus* ‘доўгі скачок’ з ням. *Schuss* ‘скок’ (Брукнер, 558; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 376; ЕСУМ, 5, 481). Магчыма, пасрэдніцай выступала мова ідыш, параўн. *sus* ‘конь’ (Астравух, Ідыш-бел. слоўнік, 726), гл. таксама Штэрн, Wörterbuch, 211.

**Суса́к** ‘вадзяная ці балотная расліна, Butomus L.’ (ТСБМ, Кіс.), ‘банцушнік парасонавы, Butomus umbellatus L.’ (Некр. і Байк.). Цюркізм, але дакладная крыніца не вызначана. Мяркулава (Очерки, 55–56) параўноўвае з баш. *сәскә* ‘кветка’, чув. *ҫеҫке*, тат. *сәэк* ‘тс’, таму што расліна цвіце прыгожымі ружовымі кветкамі; як вадзяная расліна звязваецца з тур. *susak* ‘вядро, коўш’, кірг. *сууса* ‘хацець піць’, тат. *сусау* ‘тс’ (Дзмітрыеў, Строй, 544). Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 482. Беларускае, відаць, з рускай.

**Сусве́т** ‘увесь свет’, ‘зямны шар, Зямля з усім, што існуе на ёй’, ‘асобная частка сусвету’ (ТСБМ, Байк. і Некр.), *сусьве́т* ‘усясвет, космас’ (Ласт., Яруш.; Беларусіка, 14, 225), *сусве́тный* ‘усясветны; з усяго свету першы’: *сусветны злодзей* (Нас.), *сусве́тны (сусьве́тны)* ‘усясветны’, ‘што паходзіць з белага свету’ (Гарэц., Яруш., Ласт., Варл.), ‘касмічны’ (Беларусіка, 19, 226), *сусве́цце* ‘людзі, наезджыя адусюль’ (Барад.). Рус. *сусве́тный* ‘агульны, усясветны’. Відаць, з першаснага *ўсясвет* (гл.), што з’яўляецца калькай ням. *Weltall* ‘сусвет’ < *Welt* ‘свет’ і *all-* ‘увесь’, з заменай *уся-* на *су-* са значэннем сукупнасці (гл.).

**Сусе́д** ‘чалавек, які жыве паблізу, побач або займае бліжэйшае месца’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Ласт., Касп., Некр. і Байк., Бяльк., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Растарг.), *сусе́дзь* ‘тс’ (Ян.), *сасе́д*, *сасе́дзь* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *сусѣдъ* ‘тс’ (Карскі, 1, 122), *сусѣда* ‘тс’ (Альтбаўэр). Укр. *сусі́д(а)*, рус. *сосе́д*, дыял. *сусе́д*, ст.-рус. *сусѣдъ*, польск. *sąsiad*, в.-луж. *susod*, н.-луж. *sused*, чэш. *soused*, славац. *súsed*, серб.-харв. *су̏сјед*, славен. *sósẹd*, балг. *съсе́д*, макед.

*сосед*, ст.-слав. **сѫсѣдъ**. Прасл. *sǫsědъ ‘сусед’, дэрыват з прыст. *sǫ- і назоўнікавым коранем *-sěd- < *sěděti ‘сядзець’; гл. Шустар-Шэўц, 1380, Фасмер, 3, 726; Трубачоў, Проспект, 80; ESSJ SG, 1, 240. Борысь (540) разглядае як аддзеяслоўны назоўнік ад *sъ-sěsti (sę) ‘сесці разам, побач’, першапачаткова як назва дзеяння з наступным пераходам *sъ- > *sǫ-.

**Сусе́к** ‘засек, аруд’ (Ласт., Сцяшк.), *су́сек* ‘тс’ (Растарг.), *сусека (сусѣка)* ‘тс’ (Шымк. Собр.). Рэдкі архаізм, звычайна *засек*, гл. Ужо прасл. *sǫsěkъ, параўн. укр. дыял. *сусі́к*, стараж.-рус. *сусѣкъ*, рус. *сусе́к*, польск. *sąsiek*, старое *sousek*, чэш. дыял. *súsek*, славац. *súsek* ‘драўляная пасудзіна для мукі’, балг. дыял. *сôсек*, *съ́сек*; ад *sъ-sěkti ‘ссячы разам’ (Борысь, Prefiks., 99–100). Фасмер (3, 809) выводзіць ад *sǫ- ‘су-’ і *sěk-* (гл. *сячы*). Гл. яшчэ Бярнар, Бълг. изсл., 250 і наст.

**Сусі́м** ‘зусім’ (Нас., Гарэц., Бяльк., Растарг.; ашм., Стан.; сен., Рам. 3), *сусё́м* ‘тс’ (маладз., Гіл.). Варыянтная форма да *зусім* (гл.), параўн. свабодныя спалучэнні ст.-бел. *со всимь, зо всимъ (< съ всимъ)*, дзе выступае Тв. скл. ад займ. *вьсь* ‘увесь’ (Карскі, 2–3, 216; Шуба, Прыслоўе, 149). Паводле Насовіча, “*о* и *в* обращены в *у*” (Нас., 624).

**Су́сла** ‘брага на выраб піва і квасу’, ‘сок адціснутага вінаграду’ (ТСБМ), ‘самаробная соска з жаванага з цукрам хлеба, загорнутага ў анучку’, ‘папяроса-самакрутка’ (Кал.), ‘соска з пержаванага хлеба’ (ганц., Сл. ПЗБ), ‘лядзяш; засохшыя соплі’ (Нас.), ‘лядзяк’, ‘соска з хлебнага мякішу’, ‘зблытаны лён’ (ТС), *сусла́*, *сусо́лка* ‘соска з засаладжанага хлебнага мякішу’ (Варл.), *су́сла (су́сло)* ‘чалавек, які жыве за чужы кошт; п’яніца, які п’е толькі чужую гарэлку’ (Мядзв.), ‘брага’, ‘вялы флегматычны чалавек’ (Растарг.), *су́слачка* ‘камяк чаго-небудзь, сціснуты ў руцэ’ (Сл. ПЗБ), сюды ж *су́сліць* ‘мазаць слюнямі або нечым тлустым’ (там жа). Параўн. укр. *су́сло* ‘брага’ (< рус., ЕСУМ, 5, 483), рус. *су́сло* ‘тс’. Несумненна, звязана з *ссаць*, гл. Паводле Трубачова (Труды, 1, 669), з *sut-slo (< *sъpǫ, *suti ‘сыпаць, ліць’) як *čit-slo, *vez-slo, *maz-slo. Гл. таксама Фасмер, 3, 810 (сумняваецца ў этымалогіі, якую прапанаваў яшчэ Жалтоў, ФЗ, 1876, 1, 51). Улічыўшы шырокае распаўсюджанне ў народнай мове, не можа разглядацца як запазычанне, да чаго схіляецца Фасмер (там жа).

**Су́слік$_1$** ‘грызун, які жыве ў норах і шкодзіць пасевам’ (ТСБМ), *су́сьлік*, *сусля́к* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *суслі́ла*, *суслі́чыха* ‘самка



сусліка’ (Мат. Гом.), *сусо́л* ‘суслік’: *заспаны, як сусол* (Сл. ПЗБ). Укр. дыял. *су́слик*, рус. *су́слик*, стараж.-рус. *сусълъ*, *сусолъ*, польск. *susel*, каш. *sus* ‘суслік’ (толькі ў параўнанні *spać jak sus*), в.-луж. *suslik*, чэш. *sysel*, славац. *sysel*, славен. *sȗslik*, балг. *съсел* ‘суслік’. Як праславянскае Бязлай (3, 343) узнаўляе *suselъ, *syselъ, *sъsъlъ; Махэк$_2$ (600) – толькі *suselъ, лічачы форму з *-y-* другаснай. Слова гукапераймальнага паходжання: да прасл. *susati, ‘пішчэць, свісцець’, параўн. польск. дыял. *susać* ‘шалясцець’ (Віл. сл.), ц.-слав. *сысати* ‘шыпець, сыкаць’, балг. *съ́скам* ‘шыпець’, якое параўноўваюць з лат. *susuris* ‘шэрая або чорная землярыйка’, *susers* ‘лясная мыш’, ст.-в.-ням. *sûsôn*, *sûsan* ‘гусці’ (Мюленбах–Эндзелін, 3, 1126 і наст.; Брукнер, 526; Фасмер, 3, 809; Бязлай і Махэк$_2$, там жа; Борысь, 588). Да семантыкі параўн. чэш., славац. *svišť*, польск. *świszcz* ‘сурок’, роднасныя *свістаць*, *сурчок*, гл. Беласт. *сусо́л* ‘суслік’ аўтары Сл. ПЗБ (там жа) лічаць паланізмам, а кашубская форма ўтворана шляхам адсячэння фіналі слова, гл. SEK, 4, 377. Па іншай версіі (напр., Младэнаў, 617) выходзілі з прасл. *sъsati ‘смактаць’, пра што можа сведчыць *су́слік$_2$*, што падаецца малаверагодным.

**Су́слік$_2$** ‘дзіця, якое ссе грудзі’ (Нас.). Да *сусліць* (гл.).

**Су́слік$_3$** ‘лядзяш’ (Сцяшк.), *су́слікі*, *сусля́кі* ‘ледзяшы’ (беласт., віл., Сл. ПЗБ). Укр. *су́слік* ‘соска’. Да *суслі́ць* (гл.).

**Су́сліць** ‘смактаць; піць, цягнуць патрошку’, ‘мусоліць’ (Нас., Некр. і Байк.), ‘ледзь сачыцца (пра ваду)’ (Цых.), *суслі́ць* экспр. ‘прасці’ (Сл. рэг. лекс.); сюды ж, відаць, і *сусмо́ліць* ‘слініць, ссаць, абсмоктваць’ (Варл.) з экспрэсіўнай устаўкай *-мо-*, *су́сліцца* ‘замасліваецца пры ссанні’ (Нас.). Рус. наўг. *су́слить* ‘павольна піць; чмокаць’, *су́сля* ‘той, хто сусліць’. Звязана чаргаваннем галосных з *sъsati ‘ссаць’; гл. Фасмер, 3, 810; ЕСУМ, 5, 483.

**Сусло́н** ‘малая ўкладка снапоў у полі’ (пін., ДАБМ, камент., 877), ‘нахіл’, *сусло́ны* ‘нахілены, пакаты’ (Ласт.). Укр. *суслі́н* ‘укладка снапоў у полі’ (з рус., ЕСУМ, 5, 483), рус. *сусло́н* ‘тс’. Прыставачнае ўтварэнне ад *сланіць*, гл.

**Су́слы** ‘страва з семені канопляў, стоўчанага з цыбуляй і соллю’ (Нік., Оч.). Да *сусла*, гл.

**Сусноўка** (пра слабога, хілага): *радзіўся, мой хлопчык, дык адзін чар быў, сусноўка* (Наша слова, 1992, 13 мая). Няясна (з *су-* і *снаваць*?).

**Сусóк** 'мочка, валакно' (Ласт.). Відаць, ад *ссаць* 'уцягваць вадкасць' (аўтарскі наватвор?).

**Сусóлка** 'соска' (Нас., Бяльк., Гарэц., Растарг.; глыб., Сл. ПЗБ), 'лядзяш' (Нас., Мат. Гом., Бяльк., Шатал.; брагін., З нар. сл.), 'дзіця, якое ссе палец' (брагін., Шатал.), 'скручаная пятля ці вузел на нітцы' (віц., ЛА, 5), *сусýлькі* 'ледзяшы' (смарг., Сл. ПЗБ). Укр. *сусíлка* 'лядзяш', рус. *сусóла* 'неахайніца', *сусóля* 'той, хто сусліць', *сусóлить*. Да *сусліць* (гл.).

**Сýспары** 'вуглавое спалучэнне ў зрубе' (ігн., Сл. ПЗБ). З літ. *sąspara,* дыял. *sūspara* 'тс' (там жа).

**Сýспіца** 'адходы пры веянні збожжа (з дробных зярнят і пустазелля)' (слуц., усх.-палес., Сл. ПЗБ; ЛА, 5, Шымк. Собр.), 'супражка, складчына' (Касп.), *сусьпіца, суспіца* 'змешаная жытняя мука' (Пятк. 1, ЛА, 4). Укр. дыял. *сýспиця* 'змешанае зерне (напр., жыта з пшаніцай, жыта з ячменем і пад.)', рус. паўдн. *сýспица* 'адходы пры веянні збожжа', старое польск. *suspica* 'сумесь мукі розных культур'. Паўн.-прасл. **sǫsъpъ*, параўн. яшчэ старaж.-рус. *сусъпъ* 'складчына', таксама польск. тапонім *Sąspów* (з XV ст.), аддзеяслоўны дэрыват ад **sъ-suti* 'ссыпаць разам'. Борысь (Prefiks., 107), Фасмер (3, 810), ЕСУМ (5, 484) разглядаюць як дэрыват з прыст. *су-* < **sǫ-* ад асновы **sъp-*, якая звязана чаргаваннем з **suti, *sъpǫ* 'сыпаць'. Гл. таксама *шушпіца.*

**Сустáў** 'рухомае злучэнне касцей або храсткоў у арганізме чалавека, жывёлы' (ТСБМ, Нас., Касп., Ласт., Байк. і Некр., Сцяшк.), *сустáва* 'тс' (Некр. і Байк.; ашм., Стан.; воран., шальч., Сл. ПЗБ), *сустáвы* 'тс' (Ласт., Пятк. 2, Арх. Вяр.), *сустóўка* 'тс' (Жд. 3), *сустáўкі* 'суставы пальцаў' (круп., чэрв., Сл. ПЗБ), *сустáвец* 'костачка' (ТС), *сустáво* 'сустаў' (Сцяшк.). Укр. *сустáв*, рус. *сустáв*, ц.-слав. *сѫставъ* 'тс'. У анатамічным значэнні прыставачнае ўтварэнне з **sǫ- (су-)* ад прасл. **stavъ*, **stava* 'згіб, сустаў', параўн. укр. дыял. *ставець*, польск. *staw*, чэш. *stav*, славац. *stav* 'тс', в.-луж. *staw* 'канечнасць', харв. *stav(a)* 'згіб, сустаў', балг. *става* 'тс', што да **staviti* (гл. *ставіць*, параўн. *стаў*). У агульным значэнні прыставачнае ўтварэнне *сустáў* 'цела, склад' (Нас.) суадносіцца з макед. *става* 'стан, фігура', параўн. *пастава, стан* (гл.). Гл. Фасмер, 3, 810; Борысь, Czak. stud., 46; Борысь, 576.

**Сустóй** 'смятана' (Мат. Маг.), 'вяршкі з малака' (Мат. Гом.), 'адстой' (Яўс.), 'асадак на дне пасудзіны з вадкасцю' (Юрч. Вытв.). Ад *сустóіцца* 'адстаяцца' (Нас., ТС), *сустóіць* 'адстаяць' < *стаяць* (гл.) з *-о-* пад націскам.

**Сустракáць** 'ісці насустрач, вітаць' (Нас., Ласт., Яруш., Некр. і Байк., Касп., Шн. 2, Шат., Сл. ПЗБ), сюды ж *сустракáнне* 'сустрэча' (Юрч. Вытв.), параўн. рус. пск. *сустрекать* 'тс', стараж.-рус. *сустрѣкати* 'тс'. Фанетычна да *стрэць* (гл.); *к* замест *ч*, параўн. *сустрачáць* (Ласт., Сл. ПЗБ, Сержп. Прымхі), *сустрэчáць* 'тс' (ТС), тлумачыцца развіццём прасл. **tj > k'* з наступным зацвярдзеннем, характэрным для часткі праславянскіх дыялектаў, пераважна т. зв. старажытнакрывіцкаму; гл. Нікалаеў, Балтослав. иссл., 1988, 133–135; Залізняк, Слав. языкозн., X, 167. Параўн., аднак, аналагічнае развіццё ў т. зв. старажытнарадзімічскім рэгіёне: *сустрэкáть* і *сустрэчáть* 'тс' (Растарг.), а таксама *стракаць* 'тс' (гл.), што, магчыма, сведчыць пра старыя сувязі з заходнеславянскімі мовамі. Менш верагодна другаснае развіццё *ч > к* у выніку уніфікацыі асноў, як мяркуе Фасмер (3, 810) і іншыя, параўн. Палякоў, Slavistica Vilnensis, 1997, 190. Іванаў (Слав. языкозн., XIV, 263) бачыць тут працяг трансфармацыі *t – l* у *k – l*, параўн. *соустрѣкле* 'ён сустрэў' (Пскоўскі летапіс XV ст.), што адпавядае [*sustrēkal*] з першапачатковага **rēt-*, адкуль *сустракаць* як паўднёвы працяг формы (Шавялёў, Prehistory, 371). Векслер (Гіст., 102) бачыць у беларускім слове кантактны ўплыў суседняй пскоўскай гаворкі або балцкіх моў. Сюды ж *сустрэ́к*: *бягом к яму на сустрэк* (Сержп. Прымхі) пры звычайным *сýстрач*, укр. *зýстріч, зустрíч* 'сустрэча', рус. дыял. *сýстреч*, серб. дыял. *сусрет* і пад. (< **sъ-rēt-*, гл. ESSJ SG, 1, 255–256).

**Сустрэ́ць** 'спаткаць, прывітаць' (ТСБМ, Некр. і Байк., Стан., Сл. ПЗБ, Растарг.), *сустрэціць* 'тс' (маладз., Гіл.). Гл. *стрэць*.

**Сустрэ́ча** 'спатканне' (ТСБМ, Нас., Касп., Ласт., Яруш., Растарг.). Гл. *стрэча*$_1$.

**Сýта** *(сýто)* 'многа, багата', 'туга', 'вельмі', *сýты* 'падвойны', 'вельмі задаволены, дастатковы' (Нас.). Укр. *сýто* 'зусім, чыста, поўнасцю', *сут* 'вялікая колькасць', *сýтий* 'сапраўдны; багаты', рус. *сýто* 'многа, вельмі', польск. *suto* 'ў вялікай колькасці, багата', *suty* 'багаты, вялікі, шчодры', чэш. *suty* 'ссыпаны, вымалачаны (пра збожжа)', 'поўны'. Ад старога залежнага дзеепрыслоўя прош. ч. **sutъ,* утворанага ад прасл. **suti*, **sъpǫ*, дзея-

слова з іншай ступенню чаргавання да *sypati 'сыпаць'; першаснае значэнне 'насыпана поўна' (Фасмер, 3, 811; Борысь, 588; Брукнер, 524). Ст.-бел. *су́тый* 'багаты, шчодры' Булыка (Лекс. запазыч., 195) выводзіць са ст.-польск. *suty* 'тс' (XVII ст.), што няпэўна.

**Су́талака** 'штурханіна, таўкатня' (Нас.), 'мітусня, беганіна' (Ласт., Цых.), *су́талка* 'тс' (Юрч.), *су́талач* 'зброд, галота' (Нас.), 'зборышча жулікаў, навалач' (Цых.). Укр. дыял. *су́толока* 'таўкатня; несуладны рух', рус. *су́толка, су́толока* 'тс', *су́толочь* 'тс'. З *су-* і *tъlk-, *tolk- 'штурхаць' (параўн. *талака*); гл. Фасмер, 3, 811. Спецыяльна Борысь (Prefiks.), які ўзнаўляе прасл. *sǫtolka, *sǫtolčь як дэвербатывы ад *sъ-telkti (гл. *таўчы, таўчыся*); першапачаткова адносілася да калектыўнай працы, гл. Мяркулава, Этимология – 1974, 72 і наст.

**Сута́на** 'верхняе адзенне каталіцкага святара' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Цых.). З польск. *sutan(n)a* 'тс', запазычанага ў канцы XV ст. з італ. *sotanna* 'спадніца, ніжняе адзенне' ад *sotto* 'пад', магчыма, праз франц. *soutane* 'раса', першапачаткова 'доўгае адзенне з вузкімі рукавамі', на якое зверху апраналі іншае (Брукнер, 527; Длугаш-Курчабова, 477). Ст.-бел. *сутана* 'тс' (1686 г.) з польск. *sutana* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 183).

**Сутане́ць**. Гл. *сутонне*.

**Су́тарга** 'рэзкае скарачэнне мышц' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'канвульсія, сударга, эпілепсія' (Ласт.), *су́торга* 'тс' (ТС), *суто́рга* 'цік?': *на абодвух ачох суторга скачэ* (Полымя, 2001, 3, 253), *су́таргі* 'торганне, спазмы' (Некр. і Байк., Ласт.), *су́таржж* 'сударга' (Ласт.). Вытворныя з *су-* ад *торгаць* (гл.), параўн. *сударга*.

**Су́тарма** 'таўкатня, вялікая колькасць народу; сумяціца' (Нас., Гарэц.), 'нелады, непарадак' (Бяльк.), 'мітусня; непарадак', 'вялікае скопішча людзей' (Растарг.), 'праява, нейкая жывая істота' (Косіч). Рус. калым. *сутурма́*, усх.-рус. *су́торма*, варонеж. *суто́рьма* 'тс'. Паводле Фасмера (3, 811–812), з *sǫ- 'су' і *torьma, *toriti, параўн. *су́торить* 'малоць лухту' (гл. *су́тарыца*), звязаныя з літ. *tarýti, tarаĩ* 'вымавіць', *tarmẽ* 'гаворка', грэч. τορός 'выразны, зразумелы; пранізлівы'.

**Су́тарыца** 'мітусня, бязладная бегатня', *су́тарыцца* 'мітусіцца', *су́тарны* 'мітуслівы' (Ласт.). Параўн. укр. *су́торатися*, рус. *су́ториться* 'спрачацца', польск. *posątorzyć się* 'паспрачацца'.



Борысь (Etymologie, 582) адносіць сюды ж серб.-харв. *sútor* 'першы вечаровы змрок' і рэканструе прасл. *sǫtorъ (*sǫtora), вытворнае ад *ter- (гл. *церці*) з прыйменнай прыст. *sǫ-, якой адпавядае прыдзеяслоўная прыст. *sъ- з першасным значэннем 'узаемнае трэнне, сутыкненне, спрэчка', параўн. *суты́ра* (гл.). Гл. папярэдняе слова, таксама Фасмер, 3, 811.

**Сутаро́нне** 'памяшканне пад першым паверхам будынка, ніжэй узроўню зямлі; падзямелле' (ТСБМ), 'склеп, лёх' (Некр. і Байк.). Ад польск. *suterena* '(жылы) падвал', *suteryna* 'тс', якія запазычаны з франц. *souterrain* 'падземны; падзямелле; падземны ход' ад лац. *subterraneus*, якое складзена з *sub-* 'пад' і *terra* 'зямля' (SWO, 714; Голуб–Ліер, 459). Канец зменены пад уплывам блізкага па значэнню *скляпенне*, гл.

**Су́тка**, *суто́к* 'сасок, цыцка' (Ласт.). Параўн. польск. *sutka*, *sutek* 'тс', *sutki* 'грудзі', якія Брукнер (527) параўноўвае з балг. *су́ча* 'ссаць', лат. *sukt* 'тс', ад кораня *su-, прадстаўленага ў ст.-інд. *sunoti* 'выціскае'. Борысь (588) не выключае магчымай сувязі з і.-е. *seu̯-/*su- 'сок, выціскаць сок, хлябтаць, ссаць, высмоктваць', аднак не бачыць працягу ў славянскім матэрыяле. Адзінкавая фіксацыя прымушае меркаваць пра магчымае запазычанне з польскай.

**Су́ткі₁** 'адзінка вымярэння часу, роўная 24 гадзінам; дзень і ноч' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сцяшк., Пятк. 2, ТС, Сл. ПЗБ), *су́дкі* 'тс' (Нас., Арх. Вяр., ТС), *су́тка* ж. р. 'тс' (воран., Сл. ПЗБ). Укр., рус. *су́тки* 'тс'. З *су-* і *тъка, якое звязана з *тыкаць*, першапачаткова 'сутыканне дня і ночы'; гл. Фасмер, 3, 811 з літ-рай. Бузук (Асн. пыт., 58) мяркуе пра першаснае значэнне 'змярканне', 'пярэдні кут у пакоі': спалучэнне часавага і прасторавага значэнняў (гл. наступнае слова).

**Су́ткі₂**, *су́тачкі* 'вузкі прамежак паміж будынкамі, хатай і плотам' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., ЛА, 5, ТС), 'вузкая прастора паміж печчу і сцяной, запечак' (брэсц., пін., люб., ЛА, 4), 'сцежка, дарожка паміж пабудовамі, агароджамі' (гом., ЛА, 5), 'вузенькі пакойчык, старана ў гумне' (брэсц., ЛА, 5; ТС, ПСл), 'дрыватнік' (Мат. Гом.); іншыя варыянты: *су́дкі* (ТС), *сутка́, су́тачкі* (Сцяшк. Сл.), *су́тачкі, су́дачкі, су́ткі, сутке́, су́дкі* (Сл. ПЗБ), *су́дачкі* (Сл. Брэс.; стаўб., З нар. сл.), *су́тачкі* (Байк. і Некр.), *суто́чка* 'месца злучэння бэлек у сцяне' (Бяльк.), *суто́к*

‘дарожка паміж сценамі будынкаў’ (Яшк.). Укр. дыял. *су́тки, су́точки* ‘вузкі праход паміж будынкамі або платамі’, ‘цесная нізіна’ (Чарапанава, Геогр.), рус. наўг. *су́тки* ‘вуглы ў хаце’, польск. *sutka, sutki* ‘цесны праход паміж будынкамі’ (з усходнеславянскіх моў), чэш. дыял. *soutka* ‘вузкі праход’, *soudička* ‘вузкая вуліца’. Прасл. дыял. **sǫtъka* ‘стык чаго-небудзь’, ад прасл. **tъkǫ < *tykati* ‘тыкаць’, **tъknǫti* ‘тыкнуць’ з прыст. **sǫ-* (гл. *тыкаць*) (Фасмер, 3, 811; ЕСУМ, 5, 485; Махэк$_2$, 568). Уключэнне сюды ж славен. *sot* ‘горная дарога’, роднаснага ст.-ірл. *sēt* ‘дарога’ (Бязлай, Eseji, 143), а таксама славац. *suteska* ‘вузкі праход паміж высокімі крутымі скаламі’, серб.-харв. *су̏тјеска* ‘вузкая горная цясніна’ (Талстой, Лексика Пол., 12) патрабуе далейшага абгрунтавання, гл. Куркіна, Этимология–1988, 98. Борысь (Prefiks., 107–108) разглядае як дэрыват (nomen actionis > nomen acti) ад прасл. **sъ-tъknǫti* ‘сутыкнуць’.

**Су́тнасць** ‘самае істотнае, галоўнае, унутраны змест чаго-небудзь’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк.), *су́тност’ (сут’)* ‘існасць’ (Вруб.). Укр. *су́тність* ‘тс’, параўн. стараж.-рус. *сутьство*, ст.-слав. **сѫтьство** ‘тс’, якія выводзяцца са стараж.-рус. *суть*, ст.-слав. **сѫть**, формы 3 ас. мн. л. цяп. ч. дзеяслова *быць* ‘яны ёсць’ (Фасмер, 3, 812; ЕСУМ, 5, 485), гл. *суць*. Украінскае (і, відаць, беларускае) слова ўтворана па тыпу рус. *су́щность* ‘тс’ у пачатку XX ст. на базе прыметніка *су́тній* ‘існы, істотны’ (Німчук, Давньорус., 15), што на фоне старога *і́снасць* ‘самае істотнае’ (ТСБМ) дае падставы трактаваць слова як “сапсаванае расейскае”, гл. Пацюпа ў Станкевіч, Язык, 1194.

**Суто́к** ‘месца перакрыжавання палак у баране, у якія ўстаўлялі зуб’е’ (кобр., Ск. нар. мовы). Гл. наступнае слова.

**Суто́ка** ‘месца зліцця дзвюх рэк’ (Нас., Ласт., Некр. і Байк., Гарэц.), *суто́кі* ‘тс’, ‘лінія сутыкнення, мяжа’ (ТСБМ), ‘месца, дзе сыходзіцца многа ручаёў’, ‘наогул – вузел, напрыклад, дарог’ (Мядзв.), ‘месца зліцця дзвюх рэк’ (Варл.), сюды ж, відаць, і *сото́ка* ‘злучэнне, стык (драўляных рэек і пад.)’ (зах.-палес., Бел.-укр. ізал.), *суто́к* (гл.), укр. дыял. *суто́ка* ‘месца зліцця дзвюх рэк’, рус. *суто́к* ‘тс’, польск. *Santoka* (тапонім), чэш. *soutok, sútok*, на падставе якіх рэканструюецца прасл. **sǫtokъ, *sǫtoka < *sǫ-* і **tokъ* (Фасмер, 3, 811; Борысь, 94). Звяртаецца ўвага на ўжыванне формы ж. р. ад кораня выключна ў беларускай мове для “воднай”



тэрміналогіі, параўн. *ато́ка, вы́тока, зато́ка, прато́ка, суто́ка* і пад. (Пацюпа ў Станкевіча, Язык, 1189).

**Суто́н** ‘тонкі лядок на вадзе’ (ПСл, ТС), *суто́нь, суто́н* ‘тс’ (ТС), *суто́н, сыто́н* ‘шарош’ (люб., мазыр., ЛА, 2), укр. палес. *сутуон* ‘тонкі лёд на рэчцы ў час асенніх замаразкаў’. Суадносіцца з прасл. **sъtęti sę* ‘замерзнуць, ператварыцца ў лёд’: *вада суялася на рацэ*; больш шырокае значэнне ‘згусціцца, сціснуцца’ (Мяркулава, Этимология – 1975, 56; Казлова, Регионализмы, 5) тлумачыць і наступнае слова (гл.).

**Суто́нне** ‘паўзмрок паміж заходам сонца і надыходам ночы, а таксама перад світаннем’ (ТСБМ, Сцяшк.), *суто́нак* ‘тс’ (Сцяшк.), *суто́нець, суто́ньваць* ‘змяркацца’ (ТСБМ), *сутуня́цца* ‘тс’ (Сцяшк.), *суто́нівацца* ‘тс’ (пух., Сл. ПЗБ), *сутаня́цца* ‘тс’ (Жд. 1), *суту-ні́ты* (Сл. Брэс.), *сутыня́ты* (стол., Нар. лекс.), *сутэня́ті* ‘тс’ (пін., З нар. сл.), *сутоні́цца* ‘тс’ (пух., З нар. сл.), *сутуні́ты* ‘пачынаць світаць’ (драг., З нар. сл.), *суты́ніть* ‘тс’ (пін., З нар. сл.). Укр. *су́тінь, су́тінок* ‘змрок’, *сутоня́е* ‘змяркаецца’, серб.-харв. *су̏тон* ‘змярканне, змрок’, *усу̏тонити* ‘змеркнуцца’. Усх.-слав.-серб.-харв. ізалекса (Талстой, Лексика Пол., 18). Дэрыват ад прасл. **(sъ)tęti sę, *(sъ)tinati* ‘сцягваць, згушчаць’; рэканструюецца прасл. **sǫtonъ, *sǫtonьje, *sǫtoniti sę* (Мяркулава, Этимология–1975, 56–57; Казлова, Регионализмы, 5; Запрудскі, дыс., 35; Борысь, Etymologie, 263; ЕСУМ, 5, 485), гл. *суяць$_2$*.

**Су́тра** ‘неахайная жанчына, брыднюха, мурза’ (гродз., воран., Сл. ПЗБ). З літ. *sùtros* ‘гнойная жыжка’, *sutrà* ‘мурза’; гл. Сл. ПЗБ, там жа.

**Сутра́** ‘іл на дне возера з дробнымі водарасцямі’, *сутры́стае дно* (брасл., Непакупны, Связи). Непакупны (там жа, 183) параўноўвае з лат. *sutra* ‘гнаявая жыжка’, літ. *sútros* ‘тс; памыі, мутная вадкасць’, ‘бруд на целе’, заўважаючы, што па акцэнтацыі і семантыцы беларуская форма бліжэй да літ. *sutrà* з другасным значэннем ‘дрэнны чалавек, вырадак’ (адзначана ў в. Гервяты на мяжы з Літвой); гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 190.

**Суту́лы** ‘пахілы, згорблены’ (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС), ‘магутны’ (Вруб.), сюды ж *су́тулаваты, сутулава́сты, суту́лісты* ‘прыгорблены’ (Сл. ПЗБ); укр. *суту́лий*, рус. *суту́лый* ‘тс’. Утворана пры дапамозе прыст. *су-* ад асновы *тул-*, параўн. *тулава, туліцца*, гл. Фасмер, 3, 811; ЕСУМ, 5, 485. Значэнне ‘магутны’, відаць, на базе ‘прысадзісты, каржакаваты’.

**Сутыка́ць** ‘сустракаць’ (смарг., Сл. ПЗБ). На думку аўтараў слоўніка, з літ. *sutìkti* ‘тс’, магчыма, пад уплывам *спатыкаць*, гл. *спаткаць*.

**Суты́ра** ‘сварка’ (Мат. Гом.), *суты́р*, *суты́рнік* ‘аматар судзіцца’, *сутыра́цца* ‘цягацца па судах’, *суты́ршчына* ‘цяганіна па судах, судовая спрэчка, прычэпка’ (свір., Ласт.). Параўн. рус. *суты́рь* ‘сварка, непакой’, *суты́рить* ‘спрачацца’. Узыходзіць да прасл. **sǫtorъ* ‘сутыкненне, трэнне’ (гл. *сутарыца*) з чаргаваннем галосных у аснове; да семантыкі параўн. рус. *сутóрить* ‘плявузгаць’, гл. Фасмер, 3, 811, 812.

**Суты́чка** ‘бойка’, ‘спрэчка, сварка’, ‘удар, штуршок’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Укр. *сути́чка*, рус. *сты́чка* ‘тс’. Дэрыват ад *сутыкаць(ца)* < *тыкаць*.

**Су́фіт** ‘столь, падшытая дошкамі; сталяванне’ (Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *суфі́т* ‘столь пад страхой з надворнага боку дома’ (Варл.), ‘сталяванне’ (ДАБМ), *суфэ́т* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *су́хвіт* ‘драўляная столь, калі ў хаце відаць бэлькі’, ‘вышкі з дошак над сенцамі ці над токам’ (Арх. Вяр.). Запазычана праз польск. *sufit* ‘столь’ з італ. *soffitto (soffitta)* ‘гарышча, скляпенне, столь’ (Брукнер, 525; Карскі, Белорусы, 157; Ляшчынскі, RS, 31, 1, 29).

**Сухабздзей** ‘хударлявы чалавек’ (віц., Мат.). Складанае слова, дзе *суха* (гл. *сухі*) з’яўляецца азначэннем да незафіксаванага **бздзей* (ад *бздзець* ‘псаваць паветра’), гл. Карскі, 2–3, 100.

**Сухабра́зы** ‘хто выглядае худым, сухім з твару’ (Варл.). Складаны прыметнік, утвораны са спалучэння слоў *суха* (гл. *сухі*) і *абраз* у незахаваным архаічным значэнні ‘твар’, параўн. ст.-раж.-рус. *образъ* ‘тс’, славен. *obraz* ‘твар’, серб.-харв. *ȍбраз* ‘шчака’, балг. *образ* ‘твар, шчака’, макед. *образ* ‘шчака, твар’, што да прасл. **obrazъ* (< **obraziti* ад **raziti* ‘рэзаць, высякаць’, першапачаткова ў дачыненні да фігуры, адлюстравання, параўн. *від*, гл.).

***Сухаве́іца**, *сухове́іца* ‘пясчанае поле’ (Лекс. Бел. Палесся). Відаць, да наступнага (‘поле, дзе дуе сухі вецер’). Параўн. Выгонная (Бел.-укр. ізал., 20) са спасылкай на Талстога (Геогр., 129), які лічыў двухкампанентныя спалучэнні з **suxo* не характэрнымі сучасным заходне- і паўднёваславянскім мовам, аднак раней прадуктыўнымі, у прыватнасці, у славенскай, і бачыць у слове палескае спецыфічнае семантычнае ўтварэнне.

**Сухаве́й** ‘сухі гарачы вецер’ (ТСБМ, Некр. і Байк.; ашм., Стан.; Сцяшк.), ‘сухое ветранае надвор’е’ (Сл. ПЗБ), ‘сухі сцюдзёны вецер’ (Варл.), ‘зарніца’ (Растарг.), *сухове́й* ‘суша, сухі вецер’ (ТС), *сухаве́я* ‘тс’ (Сцяшк.), ‘летняя начная маланка без грому’ (Мат. Маг.), *сухаве́іца* ‘сухое ветранае надвор’е’ (Бяльк., Сержп. Прымхі), *сухаве́йка* ‘сухі паўдзённы вецер’ (Арх. Федар.). Укр. *сухові́й* ‘сухі вецер; усходні вецер’, рус. *сухове́й* ‘сухі гарачы вецер; суша, засуха’. Утворана на базе спалучэння слоў *су́ха* (гл. *сухі*) і *ве́яць* (гл.); параўнанне ў якасці генетычнай паралелі з літ. *saũsvėjis* ‘тс’ (Аткупшчыкоў, Этимология–1984, 193) недакладнае, паколькі літоўскае слова ўзнікла на базе зыходнага словазлучэння *saũsas vė̃jas* ‘сухі вецер’ і, на думку Трубачова (Этногенез$_2$, 245), з’яўляецца калькай рус. *суховей.*

**Сухаве́йка** ‘цмін пясчаны, Helichrysum arenarium (L.) D. C.’ (Кіс., Сл. ПЗБ), *сухаве́я* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), ‘старасцень вясенні, Senecio vernalis W. et K.’ (Кіс.), *сухаве́йко* ‘бяссмертнік, лекавая травяністая расліна’ (Цых.), *сухаве́йка* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *сухаве́йкі* ‘тс’: *усю зіму стаяць* (гродз., ашм., іўеў., ЛА, 1). Несумненна, у народных уяўленнях звязваецца з *суха, сухі.* Параўн. іншую назву: *пасушыла сухоткаў* (Сцяшк. Сл.), з-за лекавых уласцівасцей назва падлягае табуізацыі, гл. *сухавей.*

**Сухаве́ршнік** ‘дзяцел’ (Мат. Гом.). Відаць, ад *сухаве́рх* ‘дрэва з засохлым верхам’, *сухаве́рхі* ‘які мае сухі верх (пра дрэва)’ (Сл. ПЗБ), што да *сухі* і *верх* ‘верхавіна’. Параўн. іншую назву *сухарык*, гл.

**Сухаве́трыца** ‘сухавей’ (Сл. ПЗБ, Рагаўц.), сюды ж, відаць, *сухаве́траны* ‘смярдзючы, з непрыемным пахам’ (Ян.). Да спалучэння *суха* (гл. *сухі*) і *ве́цер* (гл.), магчыма, пад уплывам літ. *saũsvejis*, гл. *сухавей.*

***Сухаве́я**, *сухові́я* ‘недахоп, няхватка, дрэнныя справы’ (Клім.). Відаць, семантычнае перасэнсаванне *сухавея* ‘суша, засуха’, гл. *сухавей*; параўн. ЕСУМ, 5, 488.

**Сухавіцкі** ‘худы’ (Ян.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *сухі*, *сухаваты*, афармленае як прозвішча на *-цкі (-скі).*

***Сухавя́лка**, *сухоўялка* ‘хударлявы чалавек’ (ТС). Да *сухі* і *вяць*, *вянуць*, гл.

**Сухадо́л** ‘бязводная лагчына, схіл, луг, якія атрымліваюць вільгаць толькі ад дажджавой або снегавой вады’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Ласт., Яруш., Бяльк., Касп.), ‘сенажаць на нізкім, але сухім месцы’ (БРС), ‘роў з крутымі берагамі, які ўтварыўся ад веснавых вод’ (слаўг., шчуч., Яшк.), ‘нізкае месца,

якое заліваецца вясной; у іншую пару года звычайна сухое' (усх.-палес., Талстой, Геогр.), ст.-бел. *суходолъ* 'сухая даліна, сухое нізкае месца' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *суходóл*, *суходíл*, рус. *суходóл* 'тс'. Да *сухі* і *дол* (гл.). Талстой (там жа, 129) адзначае нехарактэрнасць складаных слоў з першым элементам *сух-* для сучасных заходніх і паўднёвых славянскіх моў, параўн. славен. *suhi dol*, *suha struga*, але дадзеныя тапанімікі сведчаць аб існаванні аналагічнай словаўтваральнай мадэлі, параўн. славен. *Suhodol*, *Suhodolnik*.

**Сухадóлька** 'расліна бяссмертнік' (Сцяшк.), *сухадóлькі* 'цмін' (Сл. ПЗБ). Відаць, да папярэдняга слова ('расліна, што расце па сухадолах'), параўн., аднак, *сухавейка*, гл.

**Сухадрэ́ўка**, *сухадрэ́ўца* 'бружмель, Lonicera xylosteum L.' (Кіс., Расл. св.). Да *сухі* (паводле ўласцівасцей драўніны) і *дрэва* (гл.); параўн. *сухадрэ́віна* 'засохлае на карані дрэва' (ТСБМ), іншую зафіксаваную назву расліны *дрэва сухое* (гродз., Кіс.) у якасці батанічнага тэрміна з польск. *suchodrzewka*, *suche drzewko* 'бружмель'.

**Сухадýшына** 'ўдар кулаком у хрыбет, моцны ўдар' (Нас., Бяльк.), 'сухотнік' (Нас.). Хутчэй за ўсё, утворана на базе прыметніка *сухадýшны* 'слабасільны' (Нас.), што да *сухі* 'слабы, хілы; пусты', параўн. *слабадýшны*, *маладýшны*, рус. *тщедýшный* 'слабасільны' і пад., другая частка звязана з *дух* (гл.), параўн. *слабы́ дýхам* 'няўстойлівы, падатлівы'. Значэнне 'ўдар', відаць, на аснове *дýхам* 'мігам, хутка', *адны́м дýхам (ды́хам)* 'раптам, за адзін раз' (ТСБМ), гл. таксама *дыхаць*; да семантыкі параўн. польск. *suche razy* 'біццё без крыві'.

***Сухае́жка**, *сухое́жка* 'сухамятка' (ТС). Да *сухі* (гл.) і *ежа* 'яда', параўн. *сухая ежа (яда)* 'тс' (Некр. і Байк.); самастойнае ўтварэнне, параўн. рус. *сухоядение* 'тс', балг. *сухоя́жбина* 'тс', макед. *сувоjадење* 'тс' і пад.

**Сухажы́лле** 'злучэнне мышцаў з касцямі' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *сухажы́льля* 'тс' (Ласт.). Да *сухі* і *жыла* (гл.), параўн. польск. *sucha żyła*, старое *suchożyła* 'нерв', 'сухажылле', в.-луж. *sucha žił(k)a* 'сухажылле', у якасці анатамічнага тэрміна, магчыма, запазычана з рус. *сухожúлие* 'тс'

**Сухазé́лле** 'нейкая расліна (?)' (Я. Купала), 'цмін пясчаны, Helichrysum arenatum (L.) D. C.' (гродз., Кіс.; Расл. св.). Магчыма, са спалучэння +*сухо-* (< **suxъ*, гл. *сухі*) і *зелле* (гл.), параўн. *пустазелле* (< + *пусто-зелье*); значэнне 'сухі' адпавядае знешнім фізічным якасцям расліны, параўн. іншыя назвы *сухадóлька*, *сухалёткі* 'тс' (Расл. св.), польск. *suche ziele* 'сушаніца' і пад.



**Сухазéмны** 'сухапутны, характэрны для сушы' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.), *сухазéм'е* 'цвёрдая зямля, суша' (ТСБМ, Некр. і Байк.). З *суха-* (гл. *сухі*) і *зем-* (гл. *зямля*), аналагічна да *чарназемны*, *чарназем'е*.

**Сухазлóтка** 'тонкія пласцінкі золата для аздобы, сусальнае золата' (Гарэц.), параўн. укр. *сухозолóтица* 'тс'. Відавочна, па фанетычных прыкметах паланізм; параўн. *сухапазлачáны* 'колер фарбы пад золата' (Варл.).

**Сухалéснік** 'брызгліна, Euonymus europaea L.' (гродз., Кіс.). Несумненна, звязаны з *сухалéс* 'сухія дрэвы ў лесе', *сухалéссе* 'сухі хваёвы лес (без забалаццяў)' (Янк. 3), *сухалéсок* 'сухое месца, грудок' (люб., Сл. ПЗБ), *сухóлесок* 'сухое месца сярод балота, парослае лесам', *сухолéсок* 'лісцевы лес на роўным ці ўзвышаным месцы' (палес., Талстой, Геогр.), што да *сухі* і *лес*, гл. Матывацыя назвы расліны няясная (Янышкава, Этимология – 1985, 46), магчыма, паводле месца, дзе часцей за ўсё сустракаецца, або ў выніку збліжэння з *сухалíснік*, назвай расліны (?), пераклад рус. *сухолúстник* (Некр. і Байк.).

**Сухалóм₁** 'рэўматызм, раматус' (Касп.). Складанае слова, утворанае з асноў слоў *сухі* і *ламаць*, што адлюстроўвае працяканне хваробы, параўн. *ламаць* 'аб тупым, працяглым болю ў касцях' (гл.); першая частка звязана з унутраным (без рэзкіх знешніх праяў) характарам хваробы, параўн. яшчэ ст.-слав. **соухъ** 'пазбаўлены жыццёвых сокаў, высахлы, безжыццёвы, хворы', гл. *сухі*.

**Сухалóм₂** назва некаторых раслін, у тым ліку 'шабельнік балотны, Comarum palustre L.' (Сл. ПЗБ, Кіс., Дэмб. 1), 'павіліца, Galium verum L.' (Дэмб. 1, Кіс.), 'палын, Artemisia campestris L.' (Кіс., Дэмб. 1), параўн. укр. *сухолóм* 'шабельнік балотны'. Да *сухалом₁* паводле лекавых уласцівасцей, параўн. іншую назву палыну – *касталом* (Кіс.). Гл. ЕСУМ, 5, 488.

**Сухалóм₃** 'зламаныя і высахлыя дрэвы' (Юрч. СНС). Ад *сухі* і *ламаць*, гл.; параўн. *буралóм* 'лес, дрэвы, паламаныя бурай' (ТСБМ). Магчыма, звязана з народнымі замовамі, пры якіх адсылаюць хваробу на сухі лес (вынік пераносу на лес хваробы, у прыватнасці, раматусу?). Гл. *сухалом₁*.

3а Зак. 3415

**Су́хам** 'сушай, па сухому месцу, сухапутна' (Нас., Бяльк.), *сухамо́м, су́хама* 'ўсухамятку' (Мядзв.). Дэрываты ад **су́ха, су́хо* наз. 'суша' (ТС): *су́хам* з'яўляецца Тв. скл. гэтага назоўніка, *сухамо́м* мае падвойны канчатак *-ам/-ом*; слова *су́хама* ўтворана па аналогіі прысл. на *-ма* тыпу *бегма*, паколькі яны ўтвараюцца толькі ад дзеясловаў.

**Сухаме́цце** 'сухамятка' (Касп.), *сухамя́цца* 'тс' (Мат. Маг.). Гл. *сухам*.

**Сухамо́скі** 'худы' (Мат. Гом.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *сухі*, *сухама* (гл. *сухам*) або складанае слова, дзе другая частка можа адлюстроўваць *масол* 'костка' (гл.), параўн. *сухарэбры* 'тс' (гл.), афармленае як прозвішчнае імя на *-скі*.

**Сухандра́** 'вельмі худы чалавек' (Янк. 3). Вытворнае ад *сухі* 'худы' пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-андра*, рэдкага словаўтваральнага элемента, прадстаўленага таксама на перыферыі моўнай тэрыторыі, параўн. *suxandrá* 'тс' (Саевіч, Derywacja, 401).

**Сухандэ́ль** 'надта худы, хударлявы' (Сл. ПЗБ). Да *сухі* 'худы', утвораны пры дапамозе экспрэсіўнага словаўтваральнага комплексу *ан-д-эль*, параўн. уласнае імя *Сухан* (Бірыла, антр., 2), *суханя́вы* 'сухі і высокі' (Ласт.), *suxan'ʒá* 'тс' (беласт., Саевіч, Derywacja, 357), *suxal'* 'тс' (там жа, 382), пра варыянтнасць *-аль/-эль* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38.

**Сухапа́йшчык** 'батрак' (Сцяшк. Сл.; калінк., Арх. ГУ). Складанае слова, у аснове якога, відаць, спалучэнне *суха́я па́йка* 'пакватральная аплата' (гл. *пай₁*), параўн. польск. *suche dni, myto kwartałowe* 'тс' (Варш. сл.).

**Сухапа́ны** 'кмен пясчаны' (Шмярко). Гл. *сухазелле* 'тс'; другая частка складанай назвы да *пан* (*панны*?, параўн. *панна₂*, гл.).

**Сухапа́р** *(сухопа́р)* 'тушаная бульба' (ПСл), *сухо́парка* 'бульба, звараная ў лушпінах; чышчаная вараная бульба' (стол., ЖНС), *сухапа́рнікі* 'смажаная бульба, нарэзаная скрылькамі' (брагін., З нар. сл., Ян.), *сухопэ́рка* 'бульба, звараная з лушпінамі' (Сл. Брэс.), *сухапа́рым* 'без вады, гарачым паветрам' (Бяльк.), *сухапа́рам* 'хутка' (Сл. Брэс.), 'недарэчна' (Мат. Маг.), *сухо́паркам, сухо́парком* 'сухама (усухамятку)' (Сл. Брэс.), *сухо́парком* 'тс' (кобр., Нар. лекс.), 'без рошчыны, без заквашвання' (драг., З нар. сл.), *сухапа́ры* 'худы' (Сцяшк. Сл.), *сухапа́рная лазня* 'гарачыня без вады' (Варл.), *сухапа́рнік* 'частка паравога катла' (ТСБМ), 'адстойнік для малака' (Жд. 3). Укр. палес. *сухопа́рам* 'нечакана, хутка, спехам', рус. *сухопа́рый* 'хударлявы, худы', чэш. *suchopár* 'месца, выпаленае насуха', славац. 'сухая, неўрадлівая глеба', чэш. дыял. *suchoparný* 'туберкулёзны', серб.-харв. *sȕhoparan* 'непрыпраўлены, без прыправаў, просты', макед. *сувопарен* 'сухі, нудны'. Відавочна, да *сухі* і *па́рыць* (гл.), параўн. Варбат, Слав. языкозн., V, 116–117; прасл. **suxoparъ(jь)* з развіццем семантыкі 'замяшаны, зроблены ўсухую (без вады, без прыправаў, без заквашвання)' → 'худы (чалавек)' → 'хуткі', 'нудны', гл. Варбат, Морфон., 60–61, дзе на аснове бел. *сухо́паркам* 'без заквашвання, без рошчыны' другая частка гэтага слова суадносіцца з **pьrati* (гл. *праць*) з падаўжэннем кораня менавіта ў спалучэнні, чаму няма падстаў. Параўн. яшчэ Трубачоў (Фасмер, 3, 814), які рус. *сухопа́рый* выводзіў ад *сухо-* і *пар*. Відаць, тут адбылася генералізацыя першаснага значэння 'звараны (смажаны) без прыправаў, посны, нішчымны, без вадкасці'.



**Сухапасто́й** 'сухі, але стаячы на пні лес' (Варл., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. *сухоподсто́йное де́рево* 'сухастой, сушняк', польск. дыял. *suchopostoje* 'стаячае высахлае дрэва ў лесе'. Да *сухастой* (гл.), з няяснай устаўкай.

**Сухапёрам** 'мыць бялізну пры дапамозе праніка' (мядз., Нар. сл.), *сухопірам* 'праць бялізну, не замачваючы яе' (пін., З нар. сл.), *сухо́пірна* 'тс' (Варл.), адсюль, відаць, і *сухо́перна* 'нечакана': *баба сухоперна памерла* (Касп.), г. зн. не хварэючы. Укр. *сухо́перкі* 'аб мыцці бялізны без замочвання', *сухо́перний* 'памыты такім спосабам'. Да *сухі* і *праць*, гл. У першым слове *ё* < *е* з формы прэзенса з пераходам у *о* пад націскам; у другім слове *-і-* падаўжэнне *-ь-* з формы **pьrati* (Варбат, Морфон., 60–61).

**Сухапу́т₁** 'худы, нязграбны, гультаяваты чалавек' (Ян.). Вытворнае ад *сухі* (гл.) пад уплывам *страхапуд*, гл.

**Сухапу́т₂** 'агаткі, Antennaria Yaertn.' (гродз., Кіс.). Няясна; відаць, нейкім чынам звязана з наступным словам, гл.

**Сухапу́ць** 'сухая, нягразкая дарога' (Барад.), *сухапу́цце* 'суша, зямля, а таксама дарога па сушы' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Яшк.), *сухопу́цье* 'суша' (ТС), *сухапу́тны* 'сухаземны' (Некр. і Байк.): *сухапутныя чэрці вы* (лаянк.) (Бяльк.). Да *сухі* і *пуць*, гл. Параўн. укр. дыял. *сухопу́ть* 'астравок на балоце' (Чарапанава, Геогр.), рус. *сухопу́ты* 'сухазем'е'.

**Суха́р** 'высушаны кавалак хлеба, булкі' (ТСБМ, Ласт., Сл. ПЗБ, Сцяшк., Бяльк., Мат. Гом., Сцяц. Сл.), 'вельмі худы чалавек' (полац., Нар. лекс.; слонім., ЖНС), *сухаро́к* 'падгарэлая бульбіна' (Мат. Маг.), 'стрыжань дрэва, зяляніны' (Мат. Гом.), *суха́рка* 'булачка з салодкага цеста' (Сцяшк.), *суха́рык* 'коржык' (Сл. Брэс., Сцяц. Сл., Вешт.), 'сухія вырасты па краях бохана' (Вешт.), *суха́рына* 'вельмі худы чалавек' (пруж., Сл. ПЗБ). Укр. *суха́р* 'сухая галінка', *суха́рик* 'сухар, сухое месца і г. д.', рус. *суха́рь* 'сухар', польск. *suchar* 'сухар; сухастой', чэш., славац. *suchar* 'сухар; сухая галінка', серб.-харв. *суха́рак* 'сухая галінка'. Прасл. **sucharъ* 'нешта сухое, напр., сухар, сухая галінка і г. д.', дэрыват ад **suchъ* з суф. *-arъ*; гл. Слаўскі, SP, 2, 21.

**Сухарля́вы** 'з худым целам (пра чалавека, жывёлу)' (ТСБМ), 'хударлявы' (Некр. і Байк., Касп.; ашм., Стан. Мал.). Укр. *сухорля́вий*, польск. дыял. *sucherlavy* 'тс'. Да *сухі* 'худы (чалавек)' з суф. *-ор-*, *-л-*, *-ав-*; гл. Слаўскі, SP, 2, 23, дзе таксама аб мене яшчэ праславянскіх суф. **-or-*/**-er-*. ЕСУМ (5, 488) бачыць тут кантамінацыю *сухий* і *худорлявий*; Брукнер (524) – уплыў *chuderlawy*, параўн. *хударлявы*, гл.

**Сухары́ба** *(сухорыба)* 'гусцера, Blicca bjoerkna L.' (віленск., Этимология – 1978), *сухарэ́ба* 'тс' (там жа; лід., Сл. ПЗБ), *сухарэ́па (сухарепа)* 'тс' (там жа). Параўноўваецца польск. *sucha ryba*, *suchareba* 'тс', літ. *sukarèbka* 'тс', што да *рыба* (гл.) з азначэннем паводле канфігурацыі або формы цела, гл. *сухі* (Усачова, Слав. ихт. терм., 123); фармальныя змены пад уплывам *сухарэбрыца*, гл.

**Суха́рык** 'малы дзяцел' (ПСл), сюды ж *сухо́вік* 'тс' (там жа). Параўн. укр. *сухлячо́к* 'тс'. Вытворныя ад *сухі* (гл.), што звязана з малымі памерамі, гл. ЕСУМ, 5, 488.

**Суха́рына** 'асяродак, стрыжань (у дрэве)' (Мат. Гом.). Параўн. укр. дыял. *суха́рина* 'сухое дрэва', польск. *suchorzyna* 'таполя, ясакар, Populus nigra L.'. Да *сухі* (гл.), г. зн. больш сухая частка ў параўнанні з абалонню, гл. *сухар*.

**Сухарэ́бры** 'хударлявы, хілы' (Касп., Янк. 3, Ян., Сцяшк. Сл., Мат. Маг.), *сухорэ́бры* 'тс' (ТС), *сухарэ́брык* 'вельмі худы чалавек' (Мат. Гом., Сл. Брэс.), 'той, хто худы, у каго тырчаць рэбры' (Янк. 2). Да *сухі* і *рабро*, гл.



**Сухарэ́брыца** 'гусцера, Blicca bjoerkna L.' (басейн Нёмана, Жук., Жукаў). Параўн. укр. дыял. *сухоре́бриця* 'чахонь; быстранка', рус. дыял. *сухоре́брица* 'быстранка'. Відаць, ад *сухары́ба* (гл.), збліжанае з *сухарэ́брыца* 'худая жывёла, у якой тырчаць рэбры' (Янк. 2), гл. *сухарэ́бры*. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 488 (выводзіцца непасрэдна з *сухоребрий*).

**Сухасто́й** 'высахлае на корані дрэва' (Бяльк., Сл. ПЗБ, Пятк. 1), 'сухі лес, сушняк, засохлыя дрэвы' (Касп., Сл. ПЗБ, Сержп. Прымхі, Янк. 2, Сцяшк.), *сухосто́й* 'тс' (ТС), *сухасто́іна* 'засохлае асобнае дрэва' (Сл. ПЗБ, Янк. 2). Да *сухі* і *стаяць*, гл.

**Сухасту́пы** 'боты' (Бяльк.). Магчыма, іранічнае ўтварэнне ад *сухі* (гл.), параўн. *макраступы*, гл.

**Сухата́** 'сухасць', 'вычарпанне, туга' (Нас.), 'засуха, засуш' (Барад.), 'хвароба', 'турбота, клопат' (Ян.), 'туга' (Растарг.). Паводле Аткупшчыкова (Этимология – 1984, 193), дакладная паралель літ. *sausatà* 'сухасць'. Дэрыват ад *сухі* (гл.) з суф. *-ат-а*, параўн. з іншым варыянтам суфікса ў *сухота*, гл. (Сцяцко, Афікс. наз., 120).

**Сухашча́вы** 'сухарлявы, хударлявы' (Некр. і Байк., Ласт., Бяльк.). Параўн. укр. дыял. *сухоща́вий* 'тс', рус. *сухоща́вый* 'тс'. Ад *сухасць*, рус. дыял. *сухощь* (Фасмер, 3, 814); меркаванні пра магчымае паходжанне ад **съчав-*, параўн. чэш. *šťáva* 'сок', гл. Трубачоў, дополн. у Фасмер, 4, 283.

**Сухашчэ́лепы** 'вельмі худы' (ТС). Да *сухі* і *шчэ́лепы*, гл.

**Сухе́дні** мн. л., 'сухамятка; пост' (Нас.). З польск. *suchedni* 'троходзённы квартальны пост', *suche dni* 'тс', 'квартал', адносна якіх гл. Брукнер, 524. У сваю чаргу, польскі выраз лічыцца запазычаннем са ст.-чэш. *suché dni*, *suchédni* 'тс' у часы хрысціянізацыі Польшчы (Басай-Сяткоўскі, Słownik, 348), сюды ж в.-луж. *suche dny* 'тс'.

**Сухі́** 'не мокры, пазбаўлены вільгаці', 'сухарлявы, хударлявы', 'незабалочаны', 'засохлы (пра дрэва)' (Сл. ПЗБ, ТС), 'нішчымны' (Сл. Брэс.), 'посны; без тлушчу, без прыпраў' (Вешт.); сюды ж *су́хлы* 'невільготны, сухаваты' (Ласт.). Укр. *сухи́й* 'сухі; хударлявы; нішчымны, без тлушчу', рус. *сухо́й* 'сухі; хударлявы', стараж.-рус. *сухъ*, польск. *suchy*, в.-луж. *suchi*, н.-луж. *suchy*, чэш., славац. *suchý*, серб.-харв. *сух*, славен. *sȗh*, балг. *сух*, макед. *сув*, ст.-слав. **соухъ** 'сухі'. Прасл. **suchъ* роднаснае літ. *saũsas* 'сухі',

лат. *sàuss*, ст.-прус. *sausai* прысл. 'суха', грэч. αυος 'сухі', с.-н.-ням. *sôr* 'сухі', ст.-інд. *çoṣos* 'сухасць' і г. д.; гл. Траўтман, 250 і наст.; Мюленбах–Эндзелін, 3, 776–777; Покарны, 880–881; Фасмер, 3, 813; Махэк$_2$, 591–592; Скок, 3, 357–358; Шустар-Шэўц, 1376–1377; узводзяць да і.-е. **sau̯so-* 'сухі', гл. Бязлай, 3, 339; Борысь, 586; ЕСУМ, 5, 486–487. Гл. таксама *сохнуць*.

**Су́хлік** 'лядзяш' (Мат. Маг.). Відаць, да *суслік$_3$* са збліжэннем да *сухі*, гл.

**Сухля́к** 'від грыбоў Lentinus (Fr.)' (Сярж.-Яшк.). Параўн. рус. *суха́рик* 'сыраежка бурачковая, Russula obscura Romell.', *суха́рь* 'сыраежка белая, Russula delica Fr.'. Да *сухі* (гл.), названы паводле кансістэнцыі мякаці – сухой і пругкай, якая не гніе, а засыхае пасля даспявання (Сярж.-Яшк., 57; Мюллер, SlW, 46).

**Су́хмаркі** 'бездаждживыя хмаркі, белыя воблачкі' (Сцяшк.), *су́хмарак* 'воблака' (Нар. Гом.). З *су-* і *хмарка*, гл. *хмара*.

**Сухме́нь** 'сухое гарачае надвор'е' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Нас., Гарэц., Мат. Гом., Растарг.), 'сухое месца' (Нас.; слаўг., Яшк.), 'сухое месца паміж балотамі' (ц.-палес., Талстой, Геогр., 128), *сукме́ннік* 'грудок на балоце; падсохлая глеба ў берага' (< *сухменнік*) (зах.-палес., Талстой, там жа), *сухмі́нь* 'сухое месца' (слаўг., Яшк.). Укр., рус. *сухме́нь* 'сухое месца' і да т. п.; дакладную паралель бачыць у літ. *saustenà* 'сухое месца' Аткупшчыкоў (Этимология–1984, 193). Дэрываты ад *сухі* (Фасмер, 3, 813) з фармантам *-мень/-мінь*; да суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 76. З іншым суф. *-ель- сухме́ль* 'цеплата, суш' (круп., Сл. ПЗБ), сюды ж *сухмельня* 'ёўня' (Мат. Маг.). Паводле Карскага (2–3, 29), у выніку змены ранейшага суф. *-ман-* пад уздзеяннем суф. **-men-*, які ўтвараў асновы на зычны, параўн. *сухмя́ны* 'сухі' (Ласт.), *сухме́ць* 'засуха' (Касп.).

**Сухо́ткі** 'агаткі, Antennaria dioica (L.) Gaertn.' (паўн.-зах., ЛА, 1). Магчыма, першаснае *⁺сухо́тка* ўтворана ад прыметніка *сухо́ткі* 'вельмі сухі' (Цых.), гл. *сухоты*.

**Сухо́тнік** 'сушаніца, Gnaphalium L.' (Ласт., Кіс., Сцяшк., Сл. Брэс.), 'кмен, Helichrysum L.' (Расл. св., Сл. ПЗБ), *сухо́тнік лесавы* 'крынічнік лекавы, Veronica officinalis L.' (Ласт., Кіс.), *сухо́тнік* 'старасцень якава, Senecio jakobaea L.' (Кіс.), 'агаткі, Antennaria dioica L.' (паўн.-зах., ЛА, 1); *сухо́тнык* 'старасцень' (Сл. Брэс.), *сухо́тнік* 'цыкорыя звычайная, Cichorium inthybus L.' (Бейл.), *сахо́тнік* 'старасцень вясенні, Senecio vernalis W. et K.' (Кіс.). Параўн. укр. *сухі́тник* 'расліна для лячэння ад сухотаў', 'сушаніца, крынічнік і інш. расліны', польск. *suchotnik* 'кмен'. Вытворныя ад *сухота*, *сухоты* (гл.) у розных значэннях, якія накладаліся адно на адно, параўн. амонім *сухо́тнік* 'хворы на сухоты' (Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ), у сувязі з чым спробы размежаваць назвы раслін лекавых і нялекавых (параўн. ЕСУМ, 5, 488) не пераконваюць. Параўн. *сухоткі*, гл.



**Сухо́ты** 'туберкулёз' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Ласт., Касп., Шат.; ашм., Стан.; ЛА, 3; Варл., Сержп. Прымхі, Сцяшк., ТС), 'клопат, непрыемнасць' (ТСБМ), *сухо́та* 'ліха, гора' (кобр., Горбач., Зах.-пол. гов.), 'сухоты' (Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.), *сухата́* 'тс' (Пятк. 2), *сухо́тка* 'тс' (Касп., Пятк. 2), 'хвароба скуры ў дзяцей, сухі лішай' (Цых.), сюды ж *сухо́ты* 'схуднелая асоба' (Юрч. Вытв.), але хутчэй прым.: *сухо́ты етый маліц* (там жа), параўн. *сухо́ткі* 'вельмі сухі, высахлы': *гавёс стаў сухоткі* (Цых.). Укр. *сухо́ти*, рус. *сухо́ты*, польск. *suchoty*, в.-луж. *suchoćina*, чэш. *souchotiny* 'туберкулёз'. Да *сухі*, першапачаткова nomen abstractum *сухо́та*, потым мн. л. для спецыялізацыі назвы, што паводле Карскага (2–3, 331), тлумачыцца "множественностью признаков" хваробы. Тая ж матывацыя ў балг. радоп. *су́ва бо́лес* 'тс'. Меркаванні Цвяткова (Запіскі, 2, 1, 84) пра польскі ўплыў на змену націску не пераконваюць. Гл. *сухата*.

**Сухо́ўрыца** 'сухая ежа, сухамятка' (Нас.), 'калі сохнуць ад духоўнага недамагання' (Варл.). Параўн. укр. дыял. *сухі́вря* 'сухамятка', рус. дыял. *сухо́вря*, *сухо́врица* 'сухая, посная ежа; сухамятка'. Складанае слова, у аснове якога *сухі* (гл.) і дзеяслоў **vьrěti* 'кіпець' (Фасмер, 3, 813; ЕСУМ, 5, 487), параўн. *урэць*.

**Сухо́цкі** 'вельмі худы' (Сл. ПЗБ, ТС). З **сухот-скі* (гл. *сухоты*); экспрэсіўнае ўтварэнне, афармленае як прозвішчнае імя параўн. аналагічнае рус. дыял. (сіб.) *сухоцкий* 'прозвішча жыхароў Карсунскага павета' (Даль).

**Сухра́п** 'сухар' (Ян.), *сухра́пец* 'тс', 'выраст у хлебе' (Мат. Гом.), *сухра́пкі* 'замерзлая гразь, груда' (рагач., Сл. ПЗБ). Утворана пры дапамозе прыст. *су-* ад *храпа*, гл.

**Сухры́льны** 'хворы' (Сцяшк. Сл.). Гл. *хрылік*.

**Сухуля́т** 'сухі лес' (Дабр.). Магчыма, ад польск. *suche lato* (гл. *сухі, лета*), "калі хутка ссыхае сырое дрэва" (Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 53).

**Суці́нкі** 'змрок, прыцемак' (Нар. Гом.). Гл. *сутон*.

**Суцы́ль** 'неачышчаны лён' (Касп.), *суцэ́ль* прысл. 'цалкам, нічога не аддзяляючы' (Нас., Байк. і Некр.). Да *цэлы*. Паводле Барыся (Prefiks., 129), прасл. усх. **sǫcělъ* < прасл. **cělъ*.

**Суць** 'сэнс' (Бяльк.), *су́тны* 'існы, істотны' (Некр. і Байк.), *су́тнасць* 'самае істотнае, асноўны сэнс' (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк.), ст.-бел. *суть* 'яны ёсць': *што в нем суть* (1432 г., Карскі, 2–3, 473), дзеепрысл. 'будучы': *што ныне живи суть* (1264 г.; Карскі, 2–3, 472), дапаможны дзеяслоў *быць* у 3 ас. мн. л. цяп. часу: *пошли суть были на воину* (Скарына). Параўн. укр. *суть* 'сутнасць, асноўны сэнс', *су́тий* 'сапраўдны', рус. *суть* 'сутнасць, асноўны змест', стараж.-рус. *сутьство* 'існасць, сутнасць, прырода', што ўзніклі кніжным шляхам з формы 3 ас. мн. л. цяп. часу дзеяслова *быти* 'быць', параўн. польск. *są*, чэш. *jsou*, ст.-чэш. *jsù*, славац. *sú*, в-н.-луж. *su*, серб.-харв. *су*, *jѐсу*, славен. *so*, балг. *са*, макед. *се*, дыял. *сет*, ст.-слав. **сѫтъ**, роднасныя лац. *sunt* 'тс' (Фасмер, 3, 812; ЕСУМ, 5, 485; Німчук, Давньорус., 15; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 348).

**Суцэ́льны** 'які цягнецца без прамежкаў, перапынкаў', 'зроблены з аднаго кавалка, не састаўны' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Сцяшк.). Укр. *суці́льний*, рус. дан. *суце́льный* 'тс'. Паводле Трубачова (Праспект, 79), узыходзіць да прасл. дыял. **sǫcělьnъjь* 'тс'. Да *цэлы*, гл.

**Суця́га** 'той (тая), хто займаецца суцяжніцтвам, хто бесперапынна судзіцца' (ТСБМ, Некр. і Байк., Растарг.), ст.-бел. *сутяжий* 'той, хто мае ў судзе цяжбу з кім-небудзь' (Ст.-бел. лексікон), параўн. укр. *сутя́га* 'тс', рус. *сутяга* 'тс', чэш. *soutěž*, славац. *súťaž* 'спаборніцтва, конкурс'. Утворана пры дапамозе прыстаўкі *су-* ад асновы **tęg-*, гл. *цягаць, цягнуць* (Фасмер, 3, 812; ЕСУМ, 5, 486).

**Сучаі́м'е**, *сухаі́м'е* 'павялічаныя залозы пад пахай' (люб., шчуч., Сл. ПЗБ). Гл. *сучча вымя* 'тс'.

**Суча́рына** экспр. 'сука' (ТС). Да *сука* (гл.) з няясным словаўтварэннем.



**Суча́сны** 'адпаведны свайму часу; цяперашні' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Стан.). Параўн. укр. *суча́сний*, рус. *совреме́нный*, чэш. *současný*, славац. *súčasný*, славен. *sodoben*, серб.-харв. *савремен*, балг. *съвре́мен*, макед. *современ* 'тс'. Еўрапейская калька на базе лац. *synchronus* або грэч. σύγχρονος (Фасмер, 3, 706; ESSJ SG, 1, 241), гл. *су-* і *час*.

**Су́чка**₁ 'самка сабакі' (ТСБМ, Некр. і Байк., Нас., Касп., Бяльк., Варл., ТС, Сцяшк.), 'лаянкавае слова на жанчыну (што ілжэ або распускае плёткі)' (Нас., Сл. ПЗБ). Памянш. да *сука*₁, гл.

**Су́чка**₂ 'малыя санкі, якія ўжываюцца як дапаможныя пры перавозцы бярвенняў; падсанкі' (ТСБМ, Сцяшк., Сцяц. Сл., Маслен., Арх. Вяр.; лях., Янк. Мат.), *су́чка, су́чкі* 'тс' (беласт., дзятл., барыс., Сл. ПЗБ; ЛА, 2), 'лаўка, зэдлік' (Касп.), *су́чка* 'задняя частка ў санях' (Арх. Вяр.). Да семантыкі параўн. *каза*₂ 'тс' (гл.). Польск. дыял. *suka, suczka* 'заднія санкі', *suki* 'сані на двух парах палазоў'. Пэўнай версіі няма. Сцяцко (Афікс. наз., 169) лічыў, што слова ўзыходзіць да *сучка*₁ ("...яны заўсёды прывязваліся да саней і беглі за імі"). Лабко (Бел.-польск. ізал., 73–75) дапускае калькаванне ням. *Hund* 'сабака' і 'ваганетка ў шахце' ці народнаэтымалагічнае асэнсаванне ням. *Zug* (гл. *цуг*), якое мае таксама шэраг тэрміналагічных значэнняў, блізкіх да разглядаемых. Меркаванні пра ролю чэшскай мовы ў фармальнай і семантычнай адаптацыі ням. *Zug* гл. Комаркава, Studia Etym. Brun. 6, 372–373. Гл. наступнае слова.

**Сучка**₃ 'дошчачка з дзірачкамі для накручвання навоя ў кроснах' (Бяльк., Уладз.), 'кій або клін для ўтрымання задняга або пярэдняга навоя' (пін., клім., ЛА, 4; Уладз.), 'планка, што круціць кола ў калаўроце' (Варл.), 'понаж у калаўроце' (Бяльк.), 'дэталь у калаўроце' (мёрск., Ск. нар. мовы), 'верхняя частка калаўрота, дзе наматваецца шпулька' (Сцяшк. Сл.), 'лапатачка, якая накладаецца на вось у калоўроце, а другім канцом прымацавана да падножкі': *сучка кола рухае ў калаўротку* (лід., паст., пух., лудз., Сл. ПЗБ; рас., свісл., кам., Шатал.), *су́чачка* 'дэталь у калаўроце' (паст., Сл. ПЗБ), 'калодачка для млёна ў верхнім камені жорнаў' (паст., ЛА, 4). Параўн. укр. *су́чка* 'дэталь ткацкага стану', польск. 'планка ў калаўроце, што злучае кольбу з падножкай', 'шнурок у калаўроце', 'рычажок, што злучае кола калаўрота з падножкай' (Фалінская, Sl. tkac., 1, 292), 'драўляны клінок, што захо-

дзіць у зубцы навоя і стрымлівае яго рух' (Варш. сл.). Няясна; аднак агульнае значэнне 'злучаць, звязваць, скручваць' схіляе да думкі пра паходжанне большасці з названых дэталяў ад *сучы́ць*, *ука́ць* (гл.), параўн. *су́чка* 'суканне' (Нас.), асабліва *су́чка* 'палка з вяровачнай пятлёй, пры дапамозе якой скручвалі, "вілі", клібу' (Інстр. II), *сучо́к* 'вузлік', укр. *сучо́к* 'ручка сукала'. Да такой жа думкі прыходзіць Лабко (Бел.-польск. ізал., 75), прыводзячы ў якасці зыходных для польскіх слоў дыялектны дзеясловў *sucić*, варыянты *sucyć*, *suczyć* 'падыходзіць, належаць, прылягаць', што звязваецца з *сука́цца* 'прыставаць, вязацца' (гл.). Сувязь з *сучка*$_2$ спрыяла замацаванню значэння 'стрымліваць, затрымліваць', у тым ліку ў польск. *suka*, *suczka* 'дэталь у жорнах', 'частка ткацкага стану', 'задняя частка саней, што складаецца з дзвюх палавінак', на думку Борыся (586), метафарычных утварэнняў ад *suka* 'самка сабакі' (гл. *сука*$_1$, *сучка*$_1$), параўн. другасныя ўтварэнні *саба́ка* 'клін для ўтрымання пярэдняга навоя' (навагр., ЛА, 4), *лісі́ца* 'планка ў калаўроце, што круціць кола' (Варл.), балг. дыял. *ку́чка* 'сука' і 'частка сукала', 'дэталь ткацкага стана', 'прыстасаванне для ўтрымання абручоў пры вырабе бочак' і падобныя "звярыныя" метафары (БЕР, 3, 171). Пераход да *су́чка*$_2$ дэманструе *су́чка* 'крывая жэрдка, прымацаваная да падсанак для кіравання імі' (зах.-палес., Старычонак, БЛ, 13, 34) і польск. *sukę paść* 'кіраваць жэрдкай, прымацаванай да задняй часткі саней ці разведзенага воза, каб на паваротах не з'ехаць з дарогі', *suka* 'драўляная плашка з выемкай, куды ўваходзіць кола пры тармажэнні воза' (Варш. сл.), балг. дыял. *ку́чка* 'прыстасаванне ў выглядзе санак, якое падстаўляецца пад адно з пярэдніх колаў нагружанага воза пры крутым спуску' (відаць, прывязанае да воза), 'санкі для катання з горак', тэрміналагічныя калькі на базе метафары, крыніцы паходжання якой застаюцца няяснымі.

**Су́чка**$_4$ 'буёк, паплавок' (Ян.). Параўн. рус. дыял. *су́ка* і *сука́* 'буй, якарны паплавок' і 'вяроўка ад паплаўка да якара'. Відаць, да папярэдняга, гл.

**Су́чкі**$_1$. Гл. *су́чка*$_2$.

**Су́чкі**$_2$ 'калючкі' (Барад.), 'сабачкі, расліна Bidens L.' (Некр. і Байк., Бяльк.), 'ваўчкі, Bidens tripartita L.' (Касп., ЛА, 1), 'расліна ваўчкі або адвар з іх' (круп., Сл. ПЗБ; рас., в.-дзв., Шатал.), 'дзядкі, Agrimonia eupatoria L.' (Кіс.). Да *сучка*$_1$; параўн. *ваўчкі*, гл.



**Сучо́к**$_1$ 'маленькі сук' (Сцяшк.), 'тонкая галінка' (ЛА, 1), 'дзірка ў дошцы, з якой выпаў сучок' (Сержп. Прымхі). Да *сук*$_1$, гл.

**Сучо́к**$_2$ 'скрутак на крутой нітцы' (ТС), 'вузлік' (Сл. Брэс.). Да *сук*$_2$, гл.

**Су́чча вы́мя** 'павялічаныя залозы пад пахай' (чавус., Нар. медыцына), 'павялічаныя грудкі ў нованароджаных' (там жа), *су́ччае вы́мя (сучее выме)* 'павелічэнне залоз пад пахай, пераходзячае ў скулу' (Нас.), *сучы́нае вы́мя* 'нарыў пад пахай' (ТСБМ), *сучаі́м'е*, *сухаі́м'е* 'гідрадэніт, запаленне залоз пад пахай' (шчуч., люб., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. палес. *су́че ви́мʼе* 'нарыў пад пахай', рус. *су́чье вы́мя* 'тс'. Варыянтнасць абодвух элементаў словазлучэння, параўн. укр. палес. *собаче вимʼе*, *суча цицька*, рус. дыял. *собачье вымя*, *сучья ти́тька*, таксама тыпалагічныя паралелі тур. *köpektemesi* 'нарыў пад пахай', тат. *эт имчэге* 'тс' ("сучча вымя") сведчаць, паводле Беразовіч (Язык и трад. культура, 514), пра вобразны характар намінацыі хвароб, дадатковым матывуючым прызнакам пры ўтварэнні якіх з'яўляюцца негатыўныя канатацыі, звязаныя з вобразам сабакі. У беларускай мове звычайна характэрныя для ўтварэння назваў раслін (гл. *сабачы*). Крыніцы паходжання няясныя (першасная метафара?).

**Сучы́ць** 'сукаць, скручваць у дзве столкі' (Бяльк., Др.-Падб., Сл. ПЗБ; докш., Янк. Мат.; мёрск., Ск. нар. мовы; ГЧ, Сцяшк. Сл.), 'навіваць ніткі на цэўку пры дапамозе сукала' (Сл. ПЗБ, ТС; докш., Янк. Мат.), 'круціць (калаўрот)' (Сл. ПЗБ), сюды ж *су́чыцца* 'бурліць (пра ваду)' (віц., бялын., ЛА, 2). Параўн. укр. дыял. *сучи́ти* 'сукаць', рус. *сучи́ть* 'тс', польск. дыял. *suczyć*, *sucyć* 'падыходзіць, прылягаць', в.-луж. *sučić* 'сукаць, звязваць, круціць', балг. *су́ча* 'сукаць, намотваць', дыял. *су́чем* 'раскатваць цеста', 'сукаць ніткі', макед. *суче* 'сукаць, скручваць, закручваць', 'раскатваць цеста'. Прасл. **sučiti*, звязана з чаргаваннем асновы з **sъkati*, **sukati*, гл. *сукаць*.

**Суш** 'сухое без дажджоў надвор'е, засушлівы час, засуха' (ТСБМ, Ласт., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС), 'што-небудзь пазбаўленае вільгаці, сухое (галінкі, паверхня зямлі)' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'сухая вашчына (пчаліныя рамкі з сотамі без мёду)' (ТС; івац., жытк., Нар. сл., Скарбы, Сцяшк.), 'вашчына' (брасл., шуміл., Сл. ПЗБ), *сушь* 'тс' (Сл. Брэс., Анох.). Рус. *сушь* 'сухое надвор'е, засуха', польск. *susz*, в.-луж., н.-луж. *suš* 'суш', чэш. *souš* 'суша', славац.

*süš* ‘суш’, славен. *sûš* ‘суша’. Прасл. **suxъ*, да *сухі* (гл.), што мае дакладны адпаведнік у літ. *sausis* ‘сухая пара’ (Аткупшчыкоў, Этимология –1984, 193), параўн. літ *saũsis* ‘студзень’.

**Су́ша** ‘зямля ў процілегласць воднай прасторы’, ‘сухое надвор’е, засуха’ (ТСБМ, ТС), ‘сухое надвор’е, засуха’ (Сл. ПЗБ, Байк. і Некр., Гарэц., Янк. 3, Пятк. 2, Сцяшк.), ‘сухое месца’ (Сл. ПЗБ), ‘цвёрдая зямля, мацярык’ (Ласт.). Укр. *су́ша*, рус. *су́ша*, ц.-слав. *су́ша*, польск. *susza*, чэш. *souše*, серб.-харв. *су̏ша* ‘суш’, славен. *súša* ‘тс’, балг. *су́ша* ‘суша, засуха’, макед. *суша* ‘тс’. Прасл. **suša* (< **suxja*) утворана ад **suchъ*, *сухі* (гл.) пры дапамозе суф. *-ja*, што ўтварае адпрыметнікавыя абстрактныя назоўнікі, якія могуць набываць канкрэтнае значэнне, гл. Борысь, Etymologie, 544; Фасмер, 3, 814.

**Сушані́ца** ‘расліна Gnaphalium silvaticum L.’ (Сцяшк., Кіс.), *сушні́ца* ‘тс’ (Кіс.), укр. дыял. *суше́ница* ‘тс’, рус. *сушені́ца* ‘тс’. Да *сухі* (гл.), параўн.: *насушы́ла сушаніц на лякарства* (Сцяшк.) і ўкр. *сухоцвіт* ‘тс’.

**Сушке́** *(suszkiè)* мн. л. ‘хмызняк, кусты’ (Тур.). Няясна; магчыма, гукапераймальнага паходжання, параўн. *шу́шкаць* ‘шалясцець, шамацець’, макед. *шушек* ‘апалае лісце’ і пад., з распадабненнем зычных або вытворнае ад *сухі* (гл.), параўн. *су́шка* ‘засохлае на корані дрэва’ (ЛА, 1).

**Сушча́к** ‘худая недагледжаная жывёла’ (маладз., Гіл.). Відаць, да *сухі* ‘худы’; да словаўтварэння гл. *сушчык*.

**Сушчу́кнуць** ‘сціхнуць’ (Мат. Гом.). Да *шчукнуць*, гл.

**Су́шчы**$_1$ ‘сапраўдны, ісцінны’ (Касп., ТС), ст.-бел. *сущии* ‘прысутны’: *сущоу емоу на пироу* (Карскі, 2–3, 465), *suszczy* ‘будучы’: *i wysokom tohda horode suszczy* (Хроніка Быхаўца), параўн. укр. *су́щий* ‘істотны, важны’, рус. *су́щий* ‘існуючы, сапраўдны’. Запазычана са ст.-слав. **сѫшти**, дзееприм. цяп. часу ад **быти** ‘быць’.

**Су́шчы**$_2$ ‘хвароба немаўлят’: *дзіця ў сушчах* (віц., Нар. медыцына). Характэрная для назваў хвароб форма мн. л., што Карскі (2–3, 331) тлумачыў “множественностью признаков”; зыходная форма **сущ* (ад *сухі*, гл., параўн. рус. *сущ* ‘сухар, сушаная дробная рыба’) як *тоўшч* і пад., да словаўтварэння параўн. *радашча*, гл.



**Су́шчык** ‘хударлявы чалавек’ (ТС), ‘сухі кусочак хлеба’ (Вешт., Сл. Брэс.), ‘сухое пячэнне з пшанічнай мукі’ (Мат. Гом.), ‘сухі край у скібкі хлеба’ (Растарг.), сюды ж з іншым суфіксам *сушчак* ‘худая жывёла’ (Гіл.). Параўн. укр. *су́щик* ‘сухі абаранак’, рус. *су́щик* ‘сушкі, сухар’. Суфіксальныя дэрываты ад незафіксаванага **сушч* ‘сухасць’, што да *сухі* (гл.), параўн. *сушчы*$_2$, або ад *суш*, гл.

**Сушчэ́ннік** ‘бусельнік цыкутавы, Erodium cicutarium (L.) L’Herit’ (Кіс.). Магчыма, да *сушчы*$_2$ (‘зелле, якім лечаць сушчы?).

**Сушы́ць** ‘рабіць сухім’, ‘нарыхтоўваць у запас, высушваць’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Стан., ТС, Сл. ПЗБ). Укр. *суши́ти*, рус. *суши́ть*, польск. *suszyć*, в.-луж. *sušić*, н.-луж. *sušyś*, чэш. *sušit*, славац. *sušiť*, серб.-харв. *су́шити*, ст.-слав. **соушити** і г. д. Прасл. **sušiti* ад **suchъ* ‘сухі’ (Махэк₂, 591). Борысь (588) мяркуе, што гэта першапачаткова быў каўзатыў да прасл. **sъchnǫti* ‘сохнуць’, на які пазней налажыўся адыменны (ад **suchъ*) дзеясловаў.

**Су́ярак** ‘мука з сумесі яравога збожжа’ (пух., Сл. ПЗБ), ‘ярына; зерневыя культуры, якія сеюць вясной’ (Буз.; бярэз., нараўл., Расл. св.), *су́ярок* ‘тс’ (Серб. Вічын., ПСл), *суярко́вы* ‘з мукі яравога збожжа’ (пух., ЛА, 4). З *су-яр-ак*, гл. *яр*, *ярына*, параўн. *суржык*.

**Сута́** *(сута́)* ‘непакой’, ‘мітуслівы, неспакойны чалавек, які ўсюды лезе’ (Нас.), *суjета́* ‘клопат, турбота’ (Вруб.), *суетня́* ‘клопат, суматоха’ (Нас.), ст.-бел. *суета* ‘марнасць, пустка, непатрэбшчына’ (Альтбаўэр), *суетныи* ‘марны; мітуслівы’ (там жа). Параўн. укр. *суєта́*, *сута́* ‘клопат, неспакой, прыгнечанасць’, *сутня́* ‘неспакой’, рус. *суета́* ‘тс’, балг. *суета́* ‘марнасць; мітусня’, *суетня́* ‘клопат, турботы’, макед. *суета* ‘марнасць; фанабэрыя’, ст.-слав. **соуѥта** ‘марнасць, пустка’. Хутчэй за ўсё, запазычана са стараславянскай праз біблейскія тэксты, параўн. біблеізм **соуѥта соуѥтъ** ‘марнасць’, што адпавядае грэч. ματαιότης ματαιοτήων, лац. *vanitas vanitatum* ‘тс’ – выраз, што лічыцца гебраізмам, параўн. ст.-бел. *ажно все суета*, *суета суетная* (Альтбаўэр). Выводзіцца са ст.-слав. **соуѥ** ‘несапраўднае, ілжывае’, **соуи** ‘пусты’, з оуф. **-ѥта** (< **-ota* пасля *-j-*, гл. Глухак, 593), параўн. стараж.-рус. *суи* ‘пусты, нязначны, несапраўдны’, чэш. *sujný* ‘дарэмны’,

што да прасл. *sujь 'пусты, марны', якое параўноўваюць з літ. *sáuja* 'жменя', ст.-інд. *çūnyás* 'пусты', лац. *cavus* 'пусты, з поласцю ўсярэдзіне' (гл. Фасмер, 3, 797); паводле Варбат (Этимология–1983, 38) – беспадстаўна, паколькі значэнне 'парожні' адсутнічае ў славянскага слова, больш верагоднай падаецца сувязь з *sovati (гл. *соваць, суваць*). Параўн., аднак, пярэчанні Кожынавай (Супр. чыт., II, 58) на падставе перакладу з грэчаскай біблейскага фрагмента *пѹстошь пѹстошемъ все пѹстошь*.

**Суяцім** 'аматар судзіцца' (Гарэц., Стан.). Няясна; магчыма, да папярэдняга (гл.), вытворнае ад дзеяслова *суяціцца* 'мітусіцца, хваляваца' (в.-дзв., Сл. ПЗБ) з суф. *-ім*.

**Сфéра** 'шар ці яго паверхня знутры', 'прастора дзеяння; межы распаўсюджвання' (ТСБМ), *сфэ́ра* 'абшар, на які сягаюць сілы, уплывы нябеснага цела; круг уплыву' (Ласт.), 'абсяг' (Некр. і Байк.). Ст.-бел. *спéра (сфéра)* 'сфера, арбіта планет', XV ст. < ст.-польск. *sfera, spera* < лац. *sphaera* ад грэч. σφαῖρα 'шар, мяч, ядро' (Булыка, Лекс. запазыч., 139). Сучаснае слова можа быць паўторным запазычаннем з рус. *сфéра*, дзе з XVII ст. праз польск. *sfera* або ням. *Sphaere*, якія, далей, да той жа крыніцы; гл. Фасмер, 3, 815.

**Сфэ́ціць** 'украсці' (Сл. рэг. лекс.). Няясна; магчыма, ад польск. *feta* 'гулянка, гасціна'.

**Схáдзка**, *схáжка* 'сходка; згода, стачка' (Нас.), *схáцка* 'сяброўства' (Сцяшк. Сл.), *схажáцца* 'схадзіцца, пагаджацца' (там жа), ст.-бел. *схадзка, схажка, схадка* 'збор, сходка, сустрэча, спатканне' (Ст.-бел. лексікон). З польск. *schadzka* 'тс' (Карскі, Белорусы, 149; Булыка, Лекс. запазыч., 38), апошняе ад *schadzać* (< *chadzać* 'хадзіць, бываць', Борысь, 540); пад польскім уплывам фанетычна адаптаваныя формы, параўн. *хаджаць*, гл.

**Схаласóпіць** 'распрадаць за нішто' (Сцяшк. сл.). Няясна; магчыма, экспрэсіўнае ўтварэнне на базе мясцовага *халóсны* 'халасты, нежанаты' (гл.), другая частка нагадвае народнае *хвіласóп* 'філосаф' (Нас.), *chwałazòp* 'тс' (Пятк. 2).

**Схамянýцца** 'раптам успомніць, заўважыць памылку', 'падхапіцца, здрыганушца' (ТСБМ), 'спахапіцца, апамятацца' (Нас., Касп., Растарг., Янк. 3, Сержп.), 'супакоіцца, сціхнуць' (паст., Сл. ПЗБ), 'страпянуцца' (Нар. Гом.), *схамынýтысь* 'адумацца, апамятацца' (Клім.). Параўн. укр. *схаменутися* 'тс'. Узыходзіць да *съ-xa-*mençti sę* (Мяркулава, Этимология–1983, 62), паводле ЕСУМ (5, 490), з с.-в.-ням. *schamen, schëmen* 'саромецца'. Гл. *хамянуцца*.



**Схáпвацца** 'імгнення з'яўляцца, застываць' (ПСл), *схáпацца, схáпвацца, схóпвацца* 'ўтварацца, з'яўляцца, усхопліваца', 'хутка згушчацца, збірацца' (ТС). Да *хапаць*, гл.

***Схвáнуць**, *схвáнуты* 'схапіць' (Сл. Брэс.). Параўн. балг. *схвáна* 'зразумець, засвоіць', 'схапіць, стаць нерухомым, звесці (ад болю)', макед. *сфана* 'зразумець, улавіць (сэнс)'. Дзеяслоў аднакратнага дзеяння ад *схваціць* 'схапіць', што да *xvatati 'хапаць, лавіць' (гл. *хватаць*). Пра семантычны паралелізм палес. *схваціць* 'зразумець, засвоіць', серб.-харв. *схва̏тити* 'тс' і пад., гл. Талстыя, Полес. сб, 10.

**Схед**: (маладая) *на схедъ стояла, з долей размоўляла*, тлумачыцца "на сходѣ, перед отправлением в церковь" (Доўн.-Зап., Пін.). Відаць, да польск. дыял. *sched* 'сход'.

**Схеда** 'частка вёскі па некалькі хат' (мір., Я. Брыль). З польск. *scheda* 'частка маёмасці, спадчына, атрыманы ў спадчыну кавалак зямлі', першапачаткова 'картка, аркуш' з лац. *scheda* 'аркуш, старонка', што з грэч. σχίη 'дошчачка, трэска, аддзеленая частка' (Брукнер, 57; Варш. сл., 6, 43; ЕСУМ, 5, 490).

**Схéма** 'спрошчаны чарцёж, агульны план, накід' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *схэ́ма* 'тс' (Ласт.). Запазычана праз польскае пасрэдніцтва або непасрэдна з лац. *schema* 'выгляд, знешнасць, фігура', што паходзіць з грэч. σχῆμα 'тс' (Фасмер, 3, 815; ЕСУМ, 5, 490).

**Схібнýцца** 'памерці': "Як матуля жыла, часценька гасціла // Матуленька схібнулась, гасціна мінулась" (свісл., Ант.), 'памыліцца' (Нас., Стан.), *схíбны* 'падманны, ненадзейны' (Нас.). Да *хібіць, хібы*, гл.

**Схíзма** 'раскол, раздзел цэркваў' (ТСБМ), 'адшчапенства' (Некр. і Байк.), *схізмáтык* 'раскольнік, хто належыць да схізмы' (ТСБМ). Ст.-бел. *схизма* 'ерась' (Ст.-бел. лексікон), *схизма, зхизма, схисма, сцызма* 'рэлігійны раскол' (1583 г.) са ст.-польск. *schizma* 'тс' (XVI ст.) < лац. *schisma* ад грэч. σχίσμα 'раскол' (Булыка, Лекс. запазыч., 181). Гл. таксама *сызма*.

**Схіл** 'нахіленая паверхня; пакаты спуск' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк.), 'спад' (Некр. і Байк.), 'пакаты бок узгорка' (БРС), *схíлак* 'сыход, край, канец' (Нас.). Параўн. укр. *схил* 'спадзісты бок

гары', польск. *schyłek* 'занепад, канец; схон, адхон' Дэвербатыў ад *схіліць* < *хіліць*, гл.

**Схіле́нні** 'паджылкі, каленныя сухажыллі' (астрав., Сл. ПЗБ). Ад *схіліць*, гл. *хіліць* 'згібаць'.

**Схі́лкі** 'маршчыны', *схі́лачкі* 'складачкі' (смарг., Сл. ПЗБ). Дэрыват ад *схіліць*, гл. *хіліць* 'згібаць, складваць', да семантыкі параўн. балг. *хи́ля се* 'ўхмыляцца, усміхацца'.

**Схі́льны** 'які выказвае прыхільнасць, слабасць да чаго-небудзь; гатовы да чаго-небудзь' (ТСБМ). Да *схіліць* < *хіліць* (гл.).

**Схі́ма** 'вышэйшая манаская ступень у праваслаўнай царкве, якая патрабуе строгага аскетызму' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *схі́мнік* 'манах' (Ласт.). Рус. *схи́ма* 'тс', ц.-слав. *скима, схима*. Праз стараж.-рус. *ски́ма* і ст.-слав. **скима, скыма** з с.-грэч. σχῆμα 'манаскае адзенне'; гл. Фасмер, 3, 815; ЕСУМ, 5, 491.

**Схі́ндрыцца** 'зрабіцца худым, мізэрным' (ТС). Вытворнае ад лаянк. *гі́ндра* (ТС), *гі́нда* 'тс', гл. *гіндзіцца* 'слабець, марнець' (Янк. 3), няяснага паходжання.

**Схіну́ць** 'нахіліць' (Ласт.), 'акінуць, ахапіць': *вокам не схінуць* (узд., Жд. 3). Да *хінуць*, гл.

**Схлія́ць** 'аслабець, састарыцца' (Яўс.), *схля́нуті* 'схуднець, змарнець' (беласт., Сл. ПЗБ). Да *хляць, хля́нуць*, гл. *ахляць*.

**Схнуць** 'сохнуць, марнець' (Сержп., Сл. ПЗБ, ЛА, 5), ст.-бел. *схнути* 'тс' (XV ст., Карскі, 1, 160). Параўн. укр. *схну́ти* 'тс', польск. *schnąć* 'тс' чэш. *schnout*, славац. *schnut'*, в.-луж. *schnyć*, н.-луж. *schnuś*, ст.-слав. **съхнѫти** 'тс'. Прасл. **sъxnǫti* 'станавіцца сухім, высыхаць', у коле дзеясловаў на *-nǫ-*, для якіх характэрны пераход *-u-* > *-ъ-*, параўн. **suxъ* (гл. *сухі*) (Борысь, 541).

**Сход₁** 'сумеснае пасяджэнне, збор' (ТСБМ, Гарэц., Некр. і Байк., Ласт., Бяльк., Растарг.). Дэвербатыў ад *сыходзіцца* 'збірацца', да *ход, хадзіць*, гл.

**Сход₂** 'усход (сонца і пад.)' (Некр. і Байк., Сцяц. Сл., Сл. ПЗБ, ТС), 'усход (кірунак свету)': *тут сход, а там полудзянь* (Сл. рэг. лекс., Сцяц. Сл.), 'трэцяя квадра месяца, апошняя фаза' (Нас., Ласт., Касп., Мядзв., Гарэц., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк. Сл., ЛА, 2, Растарг., Мат. Гом.). Дэвербатыў ад *схо́дзіць* 'узыходзіць (пра сонца)' (Сцяшк., Скарбы, Сл. ПЗБ), 'знікаць' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), што да *хадзіць* (гл.), параўн. *узыхо́дзіць, сысці*.



**Схо́дні**: *сходнія дні* 'дні ў апошняй фазе месяца' (Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ, Касп.), *схо́дные дні* 'тс' (Пятк. 2). Гл. *сход₂*.

**Схо́ды** 'лесвіца, ступенькі лесвіцы' (ТСБМ, ТС, Бяльк.; зах.-бел., ЛА, 4; Сл. ПЗБ), *схо́дкі* 'прыступкі' (ТСБМ, Некр. і Байк.; паст., Сл. ПЗБ); паводле Сл. ПЗБ (там жа), з польск. *schody* 'тс'; *схо́дцы* 'тс' (ТСБМ; маладз., Янк. Мат.; Ян., Мат. Гом.), відаць, самастойнае ўтварэнне.

**Схон** 'схіл' (А. Зарэцкі), 'упадак, канец': *усё на схон ідзе* (ЛіМ, 1995, 1 снеж.). Ад *схінуць*, гл.

**Схрон** 'бункер, бамбасховішча' (баран., лях., астрав., беласт., Сл. ПЗБ), 'схоў, сховішча' (Сцяшк. Сл., ТС, Сл. Брэс.). З польск. *schron* 'тс' (Сл. ПЗБ, там жа).

**Схундыту** 'ўсе разам, грамадой': *schundýtu pašli kasić* (Варл.). Няясна.

**Сху́ня**, *сху́нька* 'палатняная торба для зерня, з якой сеялі ўручную' (Сл. Брэс.; лун., Шатал.). Прэфіксальны дэрыват ад *гу́ня, гу́нька* (гл.) *(*згуня, *згунька)* з аглушэннем пачатку слова.

**Схо́лтаць** 'з'есці' (Дыял. Гродз.). Запазычана з польск. дыял. *scheltać* 'змяшаць, збоўтаць' з экспрэсіўным пераасэнсаваннем.

**Сца** 'сліна, асца' (калінк., Сл. ПЗБ), 'балючы сверб падэшвы нагі' (Нас.). Гл. *асца*.

**Сцаць** 'выдзяляць мачу' (Нас., Сержп. Прымхі), *сцяць* 'тс' (ашм., Стан.), *сца́цца* 'мачыцца пад сябе' (Нас.; ашм., Стан.). Укр. *сця́ти*, рус. *сцать*, польск. *szczać*, в.-луж. *ščeć*, н.-луж. *scaś, ścaś*, чэш. *scáti*, славен. *scáti*, серб.-харв. старое і дыял. *ścati*, ст.-слав. **сьцати** 'тс'. Прасл. **sьcati* < **sьkati* ў выніку трэцяй палаталізацыі; сюды ж стараж.-рус. *сьчь* 'мача', ц.-слав. *сьчь*, серб.-харв. *са̏ч*, славен. *sə̀č* 'тс'; гл. Фасмер, 3, 815–816. Першапачаткова 'выдзяляць вадкасць, пушчаць сокі' (Борысь, Etymologie, 54). Да і.-е. кораня **sei̯k-* 'выліваць; цячы' (Борысь, 594). Гл. яшчэ Махэк₂, 538; Глухак, 541; Шустар-Шэўц, 1408; ЕСУМ, 5, 492; параўн. *сі́каць*. Сюды ж *сца́кі* 'мача', *сцо́ха* перан. 'сварлівая жанчына', *сцулі* 'мача', *сцуль, сцу́лля* 'той, хто мочыцца пад сябе' (Нас.).

**Сцвярало́м** 'павіліца сапраўдная, Galium verum L.' (Касп., Кіс.). Няясна; магчыма, кантамінацыя, параўн. іншыя назвы расліны *сцярдзю́шка* і *сухало́м*, гл.

**Сцёбель** 'сцябло, цыбух' (Сл. ПЗБ), 'ручка ў вясле' (ТС), *сцёбяль, сцяблаві́ ко́рань* 'вертыкальны корань дрэва' (Сл. ПЗБ; чэрв.,

ЛА, 1). Параўн. укр. *стéбель* 'адростак, цыбух', рус. *стéбель* 'ствол, адростак, чаранок', стараж.-рус. *стьбль*, славен. *stebəl* 'сцябло, камель'. Прасл. **stьblь*, параўноўваюць з літ. *stibis* 'membrum virile', *stíebas* 'слуп; цыбух, сцябло', лат. *stiba* 'кій, прут', ст.-інд. *stibhih* 'пучок, звязка' (Фасмер, 3, 750; Бязлай, 3, 314; ЕСУМ, 5, 405), літ. *stìbilas* 'чаранок, сцябло, качан' (Сной$_2$, 697); на падставе апошняга Мартынаў (Дерив., 35) прапануе рэканструкцыю прасл. **stьbьlь* з суф. *-ьlь*, паралельнае да лац. *stipula* 'салома, сцябло' з суф. *-ula*, што няпэўна. Гл. таксама *сцябло*.

**Сцéгацца** 'сцягвацца; укарочвацца, праходзіць марудна, доўга (пра час)' (ПСл). Гл. *сцягацца*.

***Сцéжа**, *стэ́жа*: *на всю стэжу* 'насцеж' (драг., 3 нар. сл.), параўн. укр. валын. *на ўсю стежу* 'тс', рус. *стежь*, *стежью* 'тс', польск. *na ścieżą* 'тс'. Першапачаткова, відаць, *сцеж(а)/стэж(а)* 'шула, слуп' (да семантыкі параўн. *пятнік* 'вушак': *на ўвесь пятнік* 'насцеж'), што да **stežь* 'кол, друк' (гл. *насцеж*), параўн. славен. *stę̑žje* 'кол у стозе' (гл. Сной у Бязлай, 3, 317), роднаснае **stežajь*, **stežerъ*, гл. *сцежая*, *сцежар*.

**Сцéжар**, *стэ́жар* 'укапаны высокі шост, вакол якога кладуць стог' (Сцяшк., Янк. Мат., Сл. Брэс., Сл. ПЗБ), 'падсціл пад стог' (Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ, ДАБМ, Сл. Брэс.), *сцежарóк* 'тс' (ТС), ст.-бел. *стежеры*, *стожары* 'насціл пад стог' (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *стéжар* 'тс', *стéжір* 'месца, дзе стаяць стагі', рус. *стéжер* 'жардзіна ў стозе' (у СРНГ адсутнічае), стараж.-рус. *стежерь* 'слуп', 'мэта' (?), в.-луж. *ścežor* 'мачта', н.-луж. *ścažor* 'жардзіна ў стозе', славен. *stežer* 'крук', харв. дыял. *stežȁr* 'кол, да якога прывязваюць коней на таку пры малацьбе', балг. *стéжер* 'тс', макед. *стежер* 'тс', ст.-слав. **стежеръ** 'слуп, апора'. Прасл. **stežerъ* звязана са **stogъ*, гл. *стажар* (Шустар-Шэўц, 1275; Бязлай, 3, 317; Фасмер, 3, 752).

**Сцежа́я** *(сцежэ́я)* 'задняе шула ў варотах' (ТС). Параўн. польск. старое *ścieżeja* 'завесы', чэш. *stěžej*, ст.-чэш. *stěžeje* 'завесы, стрыжань', славен. *stežȃj* 'крук, шпень', серб.-харв. *stežaj* 'куст', *stežàjica* 'частка завесаў, у якую ўстаўляецца крук'. Прасл. **stežajь (<*ějь)* 'калок, шпень' < **stežь* (гл. *сцежа*), што выводзіцца з і.-е. **steg-* 'кол, слуп, калода', параўн. літ. *stegerỹs* 'сухая галіна', ст.-в.-ням. *stehno* 'сукаватая палка, дубіна' (Сной у Бязлай, 3, 317; Шустар-Шэўц, 1276). Этымалогія тлумачыць старую канструкцыю варот, што мацаваліся на сукаватай галіне, вось якой паварочвалася ў выдзеўбаных у выглядзе ступы калодках. Гл. *сцежар*.



**Сцéжка** 'вузкая пратаптаная людзьмі або жывёлай дарожка' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Касп., Шат., Пятк. 2, Бяльк., ТС), *сцéжка*, *сцéшка*, *стэ́жка* 'тс' (Сл. ПЗБ), *стéжка* 'прабор у валасах' (Сл. ПЗБ), *сцягá* 'сцежка' (Касп.), *сцігá* 'тс' (рас., Шатал.; Сл. ПЗБ), *сцяжы́на* 'тс', ст.-бел. *стежька* 'тс' (Альтбаўэр). Укр. *стéжка*, рус. *стезя́*, дыял. зах., паўдн. *стегá*, *стёжка*, стараж.-рус. *стьзя*, польск. *ścieżka*, ст.-польск. *stedzka*, в.-луж. *sćežka*, н.-луж. *sćažka*, палаб. *stadza*, чэш. *steze*, *stezka*, славац. *stezka*, серб.-харв. *ста̀за* 'пешаходная дарожка', славен. *stezá* 'тс', *stegná*, *stegné*, *stágna* 'выган' < 'палявая дарожка'; таксама ц.-слав. *стьгда*, *стьгна* 'вуліца' (Дзячэнка), балг. *стъ́гда* 'дарожка' (Куркіна, Этимология – 1968, 98–99), ст.-слав. **стьгда**, **стьгна** 'вуліца, плошча'. Прасл. **stьza* (або **stьdza)* < **stьga* 'дарожка, сцежка' ў выніку 3-й палаталізацыі, звязанае чаргаваннем з прасл. **stigati* 'дасягаць'. Борысь (613) польск. *ścieżka* выводзіць з прасл. **stьžka*, дэрывата ад прасл. **stьga*, на якім не адбілася 3-я палаталізацыя. Роднасныя лат. *stiga* 'сцежка; пешаходная дарога', ст.-в.-ням. *steg* 'тс' (< **stigaz*), грэч. *στίχος* 'рад'; з іншай ступенню вакалізму гоц. *staiga* 'дарога', ст.-в.-ням. *steiga*, алб. *shtek* 'сцежка'; гл. Траўтман, 286; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1065–1066; Торп, 492; Фасмер, 3, 752; Покарны, 1017; Скок, 3, 331; Махэк$_2$, 577; Шустар-Шэўц, 1416–1417; ЕСУМ, 5, 406; Бязлай, 3, 317; Шывіц–Дулар, Зб. Мерку, 429–440.

**Сцéкаць**. Гл. *сцякаць*.

**Сцéклы** 'шалёны' (трак., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з польск. *wściekły* 'тс', што, магчыма, было крыніцай запазычання (з адпадзеннем пачатковага *w-*). Параўн., аднак, харв. *stékel* 'шалёны, люты, ачмурэлы', славен. *stékel* 'шалёны (пра сабаку)', макед. дыял. *стекает се* 'злавацца, шалець', для якіх рэканструюецца аснова прасл. **sъtek-* (Куркіна, Этимология – 1979, 27), гл. *сцякці*; польск. дзеяслоў, з якога выводзіцца адпаведная форма, узыходзіць да **vъz-tekti* (Борысь, 715), гл. *цячы*, *уцякаць*.

**Сцéльнікі**. Гл. *сцяльнік*.

**Сцéля** 'сплецены з лазы памост (у ваўкаўні)' (Маш.), *стéля* 'рад укладзеных снапоў у стажку' (пруж., Горбач, Зах.-пол. гов.). Параўн. укр. *стéля* 'столя', дыял. 'падлога', рус. *стель* 'столя', чэш. дыял. *stel'* 'падсцілка', славен. *stélja* 'тс', харв. *stȅlja* 'напаўняльнік для сядла'. Да *сцялю, слаць*; гл. Фасмер, 3, 753; ЕСУМ, 5, 297; Бязлай, 3, 316.

**Сцéміць** 'прыкмеціць, успомніць; заўважыць' (Нас.). Гл. *цеміць*.

**Сцен** 'енк, стогн': *змываю я сцен собаччий, курачий* (з замовы, Рам. 5; Нар. Гом.), мажліва, сюды ж *сціна́цца* 'плакаць, аж выпраставацца' (Бяльк.), гл. *сцінаць*$_2$. Суадносіцца з укр. *стенáти* 'жаласліва стагнаць; плачучы, крычаць', рус. *стенáть* 'енчыць, стагнаць', стараж.-рус. *стенати*, чэш. *stenati*, славац. *stenat'*, славен. *stenjáti*, серб.-харв. *стѐњати*, балг. *стéня* 'стагнаць', макед. *стенка* 'тс', ст.-слав. **стенати** 'тс'. Прасл. _*stenati_ 'стагнаць', звязанае чаргаваннем са *стогн, стагнаць*, гл. Дзеяслоў мае дакладныя адпаведнікі ў літ. *stenė́ti* 'стагнаць', лат. *stenêt* і інш. (Фасмер, 3, 754; ЕСУМ, 5, 408), што ўрэшце ўзыходзяць да і.-е. *(s)ten-* 'гучаць; енчыць' (Борысь, 578).

**Сцéнка**$_1$ 'шырокая мяжа, вузкая палявая дарога' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Арх. Федар., Варл., ТС, Сл. ПЗБ, Чуд., Арх. Вяр., Нік. Оч.), 'дарога, якая праходзіць за будынкамі паўз вёску' (Сл. ПЗБ; маладз., Янк. Мат.; Маш.), 'забытая старая дарога, па якой цяпер зрэдку ходзяць' (Сцяшк.), 'прамая дарога каля лесу' (пруж., Ск. нар. мовы), 'дарога, пратаптаная паміж двароў' (Мат. Маг.), 'дарога ад вёскі да вёскі; дарога праз лес' (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. дыял. *стéнка, стíнка* 'палявая мяжа' (Бел.-укр. ізал.), старое польск. *ścianka* 'вулачка, праход паміж сценамі'. Мартынаў (Зб. Крапіве, 212) на падставе зафіксаванага палес. *ст'инка* 'вулачка' выводзіць са _*stěnъka_ < _*stegnъka_, параўн. ст.-слав. **стьгна** 'вуліца' < _*stьgna_ 'дарожка', шляхам замены *g* фрыкатыўным *γ* і ў выніку падаўжэння папярэдняга галоснага (>_*stēnka_), што сумніўна, гл. *сцяна*$_2$.

**Сцéнка**$_2$ 'мера палатна' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), 'частка асновы пры тканні' (Нік., Оч.; ашм., Стан.). Гл. *сцяна*$_3$.

**Сцень** 'прывід' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Барад.), 'цень' (Нас., ТСБМ, Бяльк.; рас., Варл.; мёрск., слаўг., ЛА, 1; глыб., барыс., Сл. ПЗБ), 'цень ад чалавека': *чалавек стаіць і яго сцень* (Шн. 2, ЛА, 1), *сьцені свое боіцца* (Бяльк.), 'міфічная істота' (ушац., ЛА, 1), 'хвароба ад спалоху' (Касп.), 'хвароба з трызненнем' (Шн. 3), 'хвароба ўласнага ценю' (Рам. 5, Мат. Маг.), 'хто вельмі худы' (мёрск., З нар. сл.; шуміл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *стѣнь* 'здань, прывід'. Рус. дыял. *стень* 'цень', 'душа чалавека', 'дзіцячая хвароба', таксама *стинь*, стараж.-рус. *стѣнь* 'цень, прывід', польск. дыял. *pościen* 'цень чалавека', чэш. *stín* 'цень', славац. *stieň* 'тс', в.-луж. *sćin* 'тс', ст.-слав. **стѣнь** 'цень'. Этымалогія няпэўная. Прасл. _*stěnь_ разглядаюць як вынік кантамінацыі _*sěnь_ (*сені*) і _*temnь_, гл. *цемень* (Слаўскі, 1, 100), або выводзіцца з _*scěn-_ < і.-е. _*skoi-_ 'слаба свяціць, цень, водбліск' (Шустар-Шэўц, 1277). Параўноўвалі з грэч. σκιᾱ́ 'цень', ст.-інд. *chāyā́* 'бляск'; як зыходнае прапаноўвалі _*skoini-_ і _*śkoini-_ (гл. *сень* у *сенцы*); гл. Міклашыч, 411; Младэнаў, 626. Па іншай версіі набліжэнне да *сень* другаснае, у выніку кантамінацыі *сень* і *цень*; гл. Фасмер, 3, 755 з літ-рай. Махэк$_2$ (578) рэканструюе прасл. _*scěnь_, адкуль выводзіць і *сень*, і *цень*, якія, апрача грэч. і ст.-інд., параўноўвае яшчэ са ст.-норд. *skuggi* 'цень; прывід', нарв. *skugge* 'цень', швед. *skugg* 'тс', а таксама з ням. *Schein* 'зара, свет; падман, ілюзія'. Аткупшчыкоў (Из истории, 237–238) ст.-слав. **стѣнь** суадносіць са ст.-слав. **стѣна** як асновы на *-i-* і на *-ā-*: _*stegsnis/*stegsna_ з першасным значэннем 'накрытае месца'. Спробы звязаць са славен. *stȇnj* 'кнот' гл. у Сной$_2$, 698; Куркінай, Этимология – 1986–1987, 75–76. Гл. таксама Свяжынскі, БЛ, 13, 70; Жураўлёў, Язык и миф, 408.



**Сценя́ціцца**, *сціня́ціцца* 'пакрыцца тонкім лядком, замерзнуць' (Сл. ПЗБ). Відаць, да *сціна́цца* 'замярзаць, зацягвацца лядком', гл. *сцінаць*$_2$. Аднак не выключана, што гэта адаптаваны балтызм, параўн. літ. *tenė́ti* 'сцягвацца, застываць', *sutenė́ti* 'сціснуцца, застыць, загусцець', або паралельнае ўтварэнне ад *цéнято* 'сетка', параўн. літ. *tenióti* 'блытаць' пры лат. *tina, tine* 'від сеткі'.

**Сцеп** 'стэп, бязлесная роўная мясцовасць' (Бяльк., Косіч, ТС), *степ* 'тс' (Растарг.). Гл. *стэп*; формы з цеканнем, магчыма, сведчаць пра архаічны характар слова, у сувязі з чым уяўляе цікавасць алб. *step* 'вострая вяршыня; вяршыня скалы', якое Арол (Этимология–1983, 140) разглядае як доказ існавання ў паўднёваславя-

вянскім арэале адпаведніка прасл. **stьrь* ‘гара, узвышша’, што ўзгадняецца з перанесеным анатамічным тэрмінам прасл. **stьrь* ‘спіна’ (Куркіна, Этимология–1983, 24); паводле Борыся (Etymologie, 408), выходнае значэнне для славянскіх лексем ‘штосьці крутое, застыўшае, цвёрдае’. Гл. і *сцяпа*.

**Сцéпаць** ‘калаціць’ (ТС), ‘паціскаць плячыма’ (Стан.), *суёпаць* ‘рухаць, варушыць’ (Сцяшк. Сл.), *сцепанýць* ‘упасці, шлёпнуць’ (Нар. Гом.), *сцепанýць* ‘тармаснуць’ (Янк. 3), *сцепенýць* ‘калатнуць’, *стыпынýтэ* ‘тс’ (драг., Ск. нар. мовы), *сцепенýцца*, *сцепнýцца* ‘калатнуцца’ (ТС). Да *цепаць*, гл.

**Сцéпярска** ‘даўно, да гэтага часу’ (Сл. рэг. лекс.). Гл. *цеперся*.

**Сцерагчы́** ‘берагчы, пільнаваць, вартаваць’, ‘уважліва сачыць’, ‘падпільноўваць’, ‘засцерагаць’ (ТСБМ, Ласт., Федар. 4, Сержп. Прымхі), *сьцярэ́жч*, *сьцярэ́ч* ‘тс’ (Бяльк., Мат. Маг.), *сцерэгці́* ‘тс’ (ТС), *сцярóгць (стярогть)* ‘тс’ (Шн. 2); сюды ж *сцеражóны* ‘асцярожны’ (Нас., Варл.), *сцеражны́* ‘тс’ (мядз., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *стеречи* ‘сцерагчы’ (Карскі, 2–3, 277; Альтбаўэр). Укр. *стеречи́*, рус. *стерéчь*, стараж.-рус. *стеречи*, польск. *strzeć* ‘сачыць, захоўваць’, в.-луж. *wostregajuczy (wostrjegajucy)* ‘вартуючы’, ст.-чэш. *střieci*, чэш. *stříci*, славен. *strẹ̌či* ‘сцерагчы, вартаваць’, ст.-слав. **стрѣгѫ**, **стрѣшти** ‘сцерагчы, сачыць, назіраць’. Прасл. **stergti*, **stergǫ* тлумачылі як кантамінацыю дзвюх асноў, якія прадстаўлены ў грэч. στέργω ‘люблю’ і ст.-літ. *sérgmi* ‘сцерагу’, літ. *sérgiu*, *sérgiti* ‘тс’, *sárgas* ‘сторож’, лат. *saîgât* ‘вартаваць’; гл. Мюленбах–Эндзелін, 3, 716; Младэнаў, 611; Фасмер, 3, 757. Іншыя (Траўтман, 257; Міклашыч, 293; Махэк$_2$, 587; Сольмсен, AfslPh, 24, 577) набліжаюць славянскае слова толькі да балцкіх слоў, што праблематычна ў фанетычных адносінах; гл. Бязлай, 3, 325–326. Борысь (583) узводзіць да і.-е. **sterg-* ‘клапаціцца аб кім-небудзь, даглядаць, сачыць’; Бязлай (там жа) – да і.-е. **ster-g* ‘быць цвёрдым, непахісным’ > ‘непахісна сачыць, узвышацца’ > ‘чакаць, назіраць, засцерагаць’; агляд іншых версій гл. Фасмер, 3, 757; Шустар-Шэўц, 1363–1364; ЕСУМ, 5, 410–411. Адносна захавання *г* перад суфіксамі інфінітыва гл. Карскі, 1, 373.

**Сцéрва** ‘падла’, ‘лаянкавае слова’ (Нас.), ‘труп здохлай жывёлы’ (Ласт.), ‘лаянкавае слова на жанчыну’ (Маш., Пятк. 2), *стэ́рва (stérwa)* ‘тс’ (Федар. 4), *сцéрва* ‘подлы чалавек’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *сцéрво* ‘падла’ (ТС, ПСл). Укр. *стéрво*, рус. *стéрва* ‘падла; лаянкавае слова’, ст.-рус. *стьрва*, *стьрвь* ‘труп’, польск. *ścierw*, *ścierwo* ‘падла’, каш. *sciř*, в.-луж., н.-луж. *śćerb* ‘тс’, серб.-харв. *стр̑в* ‘тс’, балг. *стръв* ‘падла; прынада, мяса на прынаду’, макед. *стрв* ‘жарсць, корць, азвярэнне’. Прасл. **stŕ̥vь*, **stŕ̥vi* ‘падла; труп жывёліны, які гніе’ < і.-е. *(s)ter-* ‘нячыстая вадкасць, гной; гніць’ з суф. *-vь* < **u̯-ī-*; гл. Борысь, 612–613; параўноўваецца з лат. **stȩ̃rdêt* ‘сохнуць, гнісці’ (Мюленбах–Эндзелін, 3, 1063), нарв. дыял. *stor* ‘гніенне, тленне’, лац. *stercus* ‘гной, памёт’, ст.-пярс. *strav-* ‘апаганьваць сябе’; гл. Фасмер, 3, 756–757 з іншай літ-рай. Паводле іншай версіі, слова роднаснае рус. *стéрбнуть* ‘рабіцца жорсткім, дранцвець’, с.-в.-ням. *sterben* ‘паміраць’, грэч. στερεός ‘нерухомы’; гл. Патабня, РФВ, 4, 212; Праабражэнскі, 2, 383. Гл. яшчэ SEK, 4, 254–255; Шустар-Шэўц, 1273; Глухак, 591; ЕСУМ, 5, 410. Спробы, грунтуючыся на серб.-харв. дыял. *стр̑в* ‘смецце’, параўн. таксама *стр̏вим* ‘раскідаць, рассыпаць, разарваць на часткі’, звязаць з **terti*, гл. *церці* (Пятлёва, Этимология–1994–1996, 57–64), або, абапіраючыся на балтыйскія адпаведнікі, вярнуцца да сувязі з **sterti*, гл. *сцерці*, ці рус. *стербнуть* (Тапароў, Зб. Варбат, 394–396), не пераконваюць.

**Сцéрка** ‘гусцера, Blicca bjoerkna L.’ (Жук.). У выніку адсякання пачатковага складу, параўн. *гусцерка*, *усцерка*, гл.

**Сцéрлядзь** ‘рыба сямейства асятровых, Acipenser ruthenus L.’ (ТСБМ), *сцéрлік* ‘тс’ (Жук., Ян.), *сцéрня* ‘тс (?)’ (Маш.), *стэ́рня* ‘тс’ (ТС). Параўн. укр. *стéрлядь* ‘тс’, дыял. *стéрлік*, *стéрля* ‘тс’, рус. *стéрлядь* ‘тс’; стараж.-рус. *стерляги*, *стерлядь* (XV ст.). Паводле Фасмера (3, 758–759), з ням. *Störling* ‘маленькі асётр’; на думку Фалька–Торпа (у Фасмера, там жа), з аўстр.-ням. *Stierl*; сумніўнае меркаванне Праабражэнскага (2, 385) аб кантамінацыі ням. *Stör* і рус. *сельдь* ‘селядзец’. Гэтыя, як і іншыя версіі, непрымальныя перш за ўсё па лінгвагеаграфічных прычынах, гл. Каламіец, Рыбы, 135; у межах славянскіх моў назва нематываваная (Усачова, Слав. ихт. терм., 23). Крытыку існуючых версій, а таксама прапанову выводзіць назву з кораня **stъr-* або **tъr-* ‘стаяць, тырчаць’ з далейшым развіццём ‘шып’ (параўн. рус. *шип* ‘назва аднаго з відаў асятровых рыб’, а таксама *сцерня* ‘пожня’) гл. Чарноў, Этим. иссл. 2, 1981, 105–113.

**Сце́рня** *(ściérnia)* ‘жніўё’ (калінк., Арх. ГУ; Федар. 4), *стерно́*, *стэрня́* ‘тс’ (Лекс. Бел. Палесся, Лексика Пол.). Гл. *суёран*$_2$.

**Сце́рхнуць** ‘амярцвець’: *ногі сьцерхлі* (маладз., Гіл.), відаць, нельга аддзяліць ад *сцёртпуць* ‘ацячы, апухнуць’ (зэльв., Сл. ПЗБ); тады да *церпнуць*, гл.

**Сцéрці** ‘зняць з паверхні, саскрабсці’, ‘намуляць’, ‘ператва- рыць у аднародную масу’, ‘апрацаваць (лён)’, ‘змарнаваць’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), ‘правесці (час)’ (Ласт.), ‘запаліць (запал- ку)’, ‘памыць (падлогу)’ (Мат. Гом.), ‘з’есці’ (люб., Нар. ск.), *сцерць* ‘перацерці, выцерці’ (Нас., Сл. ПЗБ, Бяльк., Растарг.), *сцёрці* ‘расціснуць, разарваць на дробныя часткі’ (Варл.). Да *церці* (гл.) у розных значэннях.

**-сце́рці**, гл. *прасце́рці*, *распасце́рціся*. Параўн. славац. *strieť* ‘раскладваць, рассцілаць’, н.-луж. *střěś* ‘рассцілаць, распасці- раць’, славен. *stréti* ‘тс’, серб.-харв. *strijèti* ‘разаслаць, распасцер- ці’ (у іншых славянскіх мовах толькі з прыстаўкамі). Да прасл. **sterti* ‘распасціраць, расцягваць, раскладваць’, роднаснае ст.-інд. *starati* ‘насцілаць, насцілаць’, грэч. στόρνυμι ‘тс’, лац. *sternere* ‘расцягнуць, распасціраць’ (Сной у Бязлай, 3, 327; Фасмер, 3, 339; Борысь, Etymologie, 612).

**Сцехану́цца** ‘здрыгануцца, скалануцца’ (Сцяшк. Сл., Нар. Гом.), *сце́хацца* ‘пахудзець’ (Ян.), *сцяхацца* ‘жахацца’ (Мілк.). Відаць, суадноснае *сцепену́цца* ‘калатнуцца’ з дыялектнай заменай *п* > *х*, гл. *сце́паць*.

**Сцёбаць**, *сцёбнуць*. Гл. *сцябаць*.

**Сцёбка**, *сцёпка* ‘будынак для захавання гародніны, кладоў- ка’ (слонім., Шн. 3; Касп., ТС, Маш., Сл. Брэс., Тарн., ПСл, Мат. Гом.). Гл. *стобка*, *істопка*.

**Сцёжка** *(стёжка)* ‘стужка, жычка’ (Растарг.), *сце́жска* ‘завяз- ка’ (Мат. Гом.), *сцёнжка* ‘стужка’ (нараўл., Арх. ГУ), *сцёнчка* ‘тс’ (пруж., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *стіó(н)жка* ‘тс’ (Шымк. Сл.). Ад *сцягваць*, *сцягнуць*, адаптаванае да польск. *wstęga*, *wstążka* ‘тс’ (гл. *стужка*).

***Сцёк**, *стёкы* ‘не з галавой (пра становішча ў вадзе)’: *тут шчэ стёкы* (пін., Нар. лекс.). Відаць, да *ста́чыць* ‘быць дастат- ковым’ (гл.) або да *сцекці́* ‘дастаць, абхапіць’ (гл. *сцякаць*), параўн.: *я тут нэ стэчу, тут шчэ нэ сцёкы* (там жа).



**Сцёклы** ‘тонкі, худы’ (ТС), *сцёклісты*, *сцеклі́сты* ‘тонкі, вы- сокі’ (ТС, Арх. Вяр.). Параўн. укр. дыял. *сте́клий* ‘тонкі і высокі (пра расліну, што вырасла ў цяньку)’, *стеклі́стий* ‘высокі, тонкі (пра дрэва)’, рус. *оте́коватый* ‘танкаваты, слабы (пра жыта)’, польск. спец. *ciekoł* ‘верхавінны леташні выростак на маладых соснах; каш. *vëcekli* ‘высокі, шчуплы, тонкі, худы (пра чалавека і жывёлу)’. Вытворныя ад прасл. **tekti* ў спецыфічным значэнні ‘імкнуцца, падымацца ўверх’, параўн. **gъnati* (гл. *гнаць*) і *го́нкі* ‘высокі’, гл. Варбат, Этим. иссл. 6, 1996, 13; гл. *сцякаць*.

**Сцён** ‘шарош’ (ЛА, 2), *сьцюон* ‘тонкі лёд’ (Бес.), *стін* ‘тон- кая ледзяная скарынка на вадзе’ (Сл. Брэс.; ЛА, 2). Дэвербатыў ад *сцінаць*, *сцінацца* (гл.).

**Сцёнтысы**. Гл. *сцінацца*.

**Сцёран**$_1$ *(сцёрин)* ‘вось сукалкі, на якую насаджана махавае кола’ (Нік. Оч.). Узводзіцца (з пытальнікам) да прасл. **stьrnъ* (Трубачоў, Этимология–1963, 23; яго ж, Ремесл. терм., 113). Гл. наступнае слова.

**Сцёран**$_2$ ‘іржышча’ (Мат. Гом., Ян.), *сцёрань* ‘зжатае поле’ (ДАБМ, камент., 850–851), *стёрэнь* ‘тс’ (Лексика Пол.), *сцярнуё* ‘ільнішча’ (Сцяшк. Сл.), *сцёрнішча* ‘іржышча’ (Мат. Гом.), *сцяр- ні́шча* ‘ржышча’ (лях., Янк. Мат.). Параўн. укр. дыял. *стéрень* ‘жніўё’, рус. *стерня* ‘тс’, польск. *ściern* ‘пожня на полі’, чэш. дыял. *strn* ‘тс’, в.-луж. *šcierń*, серб.-харв., *stȑn* ‘зерневыя куль- туры’, славен. *stȓn* ‘жніўё, пожня’, *strnišče* ‘тс’, балг. дыял. *стрънь* ‘палеглае збожжа’, *стъ́рнище* ‘жніўё’, макед. *стрниште* ‘зжатае поле’. Прасл. **stьrnъ/*stьrnь* (апошняе разглядаецца як зборнае, гл. Новое в рус. этим., 218) і вытворныя **stьrnьje*, **stьrnišče*, сюды ж як варыянт без *s-* **tьrnъ* (гл. *цёран*), што да і.-е. **(s)ter-n-* ‘вострая частка расліны’ < **(s)ter-* ‘быць цвёр- дым, цвярдзець’ (Борысь, 612; Сной$_2$, 706; Шустар-Шэўц, 1416). Гл. таксама *стырня*.

**Сцёўкаць** ‘гучна рассякаць паветра гнуткім дубцом або ка- роткай пужкай’ (васіл., Лаўшук, вусн. паведамл.). Гукаперай- мальнага паходжання, параўн. *шчоўкаць*, гл.

**Сці-сці** ‘падзыўныя для авечак’ (петрык., ДАБМ, камент. 896). Няясна, магчыма, *ісці* (гл.), параўн. *сьці* ‘ісці’ (Стан.).

**Сцібі́клі** ‘ігліца’, ‘кастрыца’, ‘адросткі пер’яў пасля лінькі’ (воран., Сл. ПЗБ). З літ. *stibìkliai* ‘кастрыца, ігліца’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 190 з літ-рай).

**Сці́біць** ‘падхапіць, украсці’ (Варл., Кал.), *сцы́біць, зьдзі́біць* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *сці́брыць* ‘тс’ (Касп., Бяльк., Растарг.), *сці́брыты* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *сцы́брыць* ‘тс’ (Мат. Гом.), *сці́бчыць* ‘тс’ (Жд. 3), сюды ж, відаць, *сці́біцца* ‘ўшчамляцца, лезці’ (трак., Сл. ПЗБ); паводле аўтараў слоўніка, з літ. *stiẽbtis* ‘выцягвацца’ (Сл. ПЗБ, 5, 39), што няпэўна. Параўн. рус. *сти́брить* ‘тс’ і ‘з’есці’. Няясна (Фасмер, 3, 759); паводле Горбача (Арго, 31), аргат. *зці́брить* ‘украсці’ з цыган. *тэ стырдэс* ‘тс’. Гл. *ці́брыць*.

**Сціга́ць** ‘шпарка ісці шырокімі крокамі, сігаць’ (Адм.), *сціга́ць* ‘даганяць’ (Чуд.), *сцігава́ць* ‘цікаваць; пільнаваць’ (лаг., Сл. ПЗБ), *сцігану́ць* ‘шпарка пайсці, сігануць’ (Адм.). Укр. *сті́гнути* ‘даспяваць (аб раслінах); хутка ісці’, рус. *достига́ть, настига́ть*, стараж.-рус. *достигнути, достизати*, польск. *ścigać* ‘гнаць; дапільноўваць’, *stignąć* ‘дагнаць, дасягнуць’, чэш. *stíhat* ‘перасследаваць, гнаць; сачыць’, *stihnouti* ‘дагнаць; нагнаць’, славац. *stíhat’* ‘тс’, серб.-харв. *сти̏зати* ‘даганяць, дасягаць’, *сти̏гнути* ‘дагнаць, дасягнуць’, славен. *stigniti* ‘дагнаць, нагнаць’, балг. *сти́гам* ‘дасягаць, даганяць’, *сти́гна* ‘дасягнуць, дагнаць’, макед. *стигну́ва* ‘даганяць, дасягаць’, *сти́гне* ‘дагнаць, дасягнуць’, ст.-слав. **постигнѫти**. Прасл. **stigti*, **stignǫti* роднаснае літ. *steĩgti* ‘закладаць’, лат. *steigt* ‘спяшацца’, гоц. *steigen* ‘ступаць’, ням. *steigen* ‘узвышацца; расці’, ст.-інд. *stighnóti* ‘падымаецца’, грэч. στοτχος ‘рад’; усе да і.-е. **steig-* ‘крочыць, ступаць, уздымацца’; гл. Траўтман, 285–286; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1059; Міклашыч, 323; Фасмер, 3, 760 з іншай літ-рай; Махэк$_2$, 577; Бязлай, 3, 327; Борысь, 613; ЕСУМ, 5, 414.

**Сцігіля́ць** ‘хутка ісці’ (Сцяшк. Сл.). Да *сціга́ць* (гл.) з экспрэсіўнай суфіксацыяй (ад дэвербатыва **сці́гіль*, параўн. *кі́віль* ад *ківаць* і пад.).

**Сціго́та** ‘кій, палка’ (Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, з азванчэннем да *сціхо́т* ‘страх, жах’, гл. *сціхат*.

**Сці́жба** ‘вялікі статак’ (пух., Сл. ПЗБ), ‘мноства (пра людзей, жывёл)’ (Мат. Гом., Бел.-польск. ізал.). Гл. *ці́жба*.

**Сці́жма** ‘вялікая колькасць, мноства’ (ТСБМ; клім., ЛА, 5), сюды ж і *сці́жла* ‘чарада кароў’ (петрык., Шатал.). Гл. *ці́жма*;



пра другасны характар формаў з *-ма* гл. Мельнічук, Зб. Беладзеду, 165.

**Сцізо́рык** ‘невялікі складаны кішэнны нож’ (ТСБМ, Шн. 2, Сержп.), *сцызо́рык* ‘тс’ (Мядзв.), *сузо́рак* ‘тс’ (Касп.), *слюзо́рык* (Шымк. Собр.), *цызо́рык* ‘тс’ (Некр. і Байк.). З польск. *scyzoryk* < лац. *scisorium* < *scindere* ‘краіць’ з суфіксам *-yk*, як у *nożyk* ‘ножык’; гл. Брукнер, 483–484.

**Сціла́ха**, *сцялу́ха* ‘крынічнік лекавы, Veronica officinalis L.’ (Кіс.). Відаць, да *-сцілаць*, паколькі расліна сцелецца па зямлі, параўн. назву той жа расліны ўкр. *лежа́чка* (Макавецкі, Sł. botan.).

**-сцілаць** у дзеясловах *засці́ла́ць, рассціла́ць* (ТСБМ, Ласт.), *прасціла́ць* ‘рассцілаць, раскладваць’ (ТС) і інш. Гл. *слаць$_2$*.

**Сці́лка** ‘подсцілка з тонкай скуры, тканіны і пад., якая ўкладваецца ў абутак’ (ТСБМ). Ад *-сцілаць*, параўн. *усціла́ць, высціла́ць*, гл. *сцяліць*.

**Сцімбу́р** ‘парастак, цымбур’ (Сцяшк. Сл.), ‘бадыль, сцябло’ (астрав., Ск. нар. мовы), *сцімбу́р, сцімбю́р, сці́мбір, сцымбу́р* ‘сцябло агародных культур, пустазелля’, ‘чаранок ліста’, ‘кветаножка, сцябло суквецця’, ‘стрыжань пяра’, ‘сплеценыя ніткі ў матузы’, ‘хваставы адростак у жывёл’(Сл. ПЗБ), *сцю́мбар* ‘сцяблі-на зёлкі’ (мёрск., Краязн. газ., 2008, 43, 7). З літ. *stimburỹs, stim̃biras* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, 5, 40), *stémburas* ‘чаранок, бадыль, сцябло’ (Грынавяцкене, LKK, 30, 117). Гл. таксама *цымбур*.

**Сці́мерзнік** ‘густы лес ці хмызняк’, ‘скупы чалавек’ (мёрск., Крыўко, вусн. паведамл.). Няясна.

**Сці́на** ‘рагоз, Typha latifolia L.’, ‘катах рагозу’ (ашм., ЛА, 1). Да *трысці́на* (гл.) з адсячэннем пачатковага складу.

**Сціна́ць$_1$** ‘зразаць’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Сцяшк., Гарэц., Др.-Падб., Сл. ПЗБ). Гл. *сцяць$_1$*, *цінаць*.

**Сціна́ць$_2$** ‘абхапіўшы, сціскаць; перахопліваць (дыханне); ахопліваць (вокам); замарожваць, сцягваць’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), ‘сціскаць (горла)’ (Ян.), ‘кідаць у дрыжыкі’ (ТС), *сціна́цца* ‘сціскацца, закрывацца (пра рот)’ (Барад.), ‘замярзаць, зацягвацца лядком’ (Бяльк., Варл., ЛА, 2), ‘тс’ і ‘зябнуць, уздрыгваць’ (Сл. ПЗБ), сюды ж *сціну́ць, сцену́ць* ‘ахапіць (холадам, вокам і пад.)’ (ТС), *сцінка́цца* ‘сціскацца, згінацца’ (Сл. ПЗБ), *сценя́ціцца, сціня́ціцца* ‘схапіцца лядком’ (там жа). Гл. *сцяць$_2$*. Параўн. Астроўскі, ABSl, 29, 153.

**Сціняце́ць** ‘зрабіцца тонкім, кволым’ (красл., Сл. ПЗБ). Параўн. польск. дыял. *ścienciwieć* ‘змарнець, знясілець’: *ścienciwiał, az do cienia stał podobny* (Варш. сл.). Відаць, да папярэдняга (гл.) пад уплывам *сцень* ‘цень’, *нацíна*, гл.

**Сціпе́льнік** *(стипе́л’ник)* ‘валяр’ян лекавы, Valeriana officinalis L.’ (Бейл.). Няясна; магчыма, да *сціпер’е*, гл.

**Сціпер’е** *(сьципіере)* ‘пер’е цыбулі, часнаку’ (Бес.), *сты́пэрье, сты́пірье, сты́пырье, сты́пырне* ‘тс’ (Сл. Брэс., Нар. лекс.), *сті́пер* ‘сцябло’ (Бел.-укр. ізал.), *сцеп’ёр* ‘маркоўнік’ (ТС). Параўн. укр. *степíр* ‘парастак расліны’, *степíра, стипíре* ‘пер’е цыбулі’. Відаць, не можа разглядацца асобна ад *шчыпяры́* ‘пер’е цыбулі, часнаку’ (Сл. Брэс.), гл. *шчыпе́р*. Літ. *stìbiras* ‘сцябло, парастак’ ад *stỹbti/stỹpti* ‘расці высокім, тонкім’ у якасці крыніцы запазычання (Лаўчутэ, Балтизмы, 133) ненадзейнае, аднак магло паўплываць на фанетыку слова.

**Сціперы** ‘жабры’ (шальч., Сл. ПЗБ). Гл. *шчыбры* ‘тс’.

**Сці́піны** ‘капылы ў санях’ (воран., LKK, 16). З літ. *stipinaĩ* ‘тс’ (там жа, 190).

**Сціплы** ‘просты, стрыманы, без прэтэнзій’, ‘невялікі, сярэдні’ (ТСБМ), ‘скромны, ціхі’ (Гарэц.), ‘ціхі, пільны’ (Варл.), ‘гаспадарлівы’ (Мат. Маг.), ‘эканомны; скупы’ (Мат. Гом.), *сціпл(н)ы* ‘скромны, ціхі, лагодны; просты’ (Некр. і Байк.). Як відаць з апошняга, не можа разглядацца асобна ад *сціпны* (гл.); параўн., аднак, *сціплы* ‘стройны (?): *(хвоі) стаяць – прыгожсыя, сціплыя – застыглі ў святой нерухомасці* (М. Зарэцкі), што магло б сведчыць аб уплыве літ. *stỹpti* ‘цягнуцца (уверх)’ на семантыку слова.

**Сціпны** ‘паважны; скромны, сарамлівы’ (Нік., Оч.), ‘лоўкі, акуратны’ (Касп.), ‘хто ўмее добра працаваць’ (докш., ушац., Пан.), ‘працалюбівы’ (Шат.). Відаць, узыходзіць да чэш. *vtípný* ‘вынаходлівы, кемлівы, лоўкі, дасціпны’ няяснага паходжання (выводзяць з **tipati* ‘ўпіхваць, уціскаць’, гл. Борысь, 121), верагодна, праз польскае пасрэдніцтва, дзе переважаюць формы **stip-* з прыстаўкай (Басай-Сяткоўскі, Słownik, 50). Гл. *дасціпны, досціп* (гл.) з выпадзеннем *ў* (Станкевіч, Язык, 1029), параўн. ст.-бел. *недовсципъ, недовтипъ* ‘някемлівасць’.

**Сціпры** ‘шчыльны, сціснуты, збіты’, ‘моцны, цвёрды, трывалы’ (Ласт.). Паводле Ластоўскага (там жа, 448), у выніку кантамінацыі *сціслы* і *сперты* (гл. *перці*), што малаверагодна; хутчэй з літ. *stiprùs* ‘моцны, цвёрды, трывалы’, старое *stipras* ‘моцны; мужны’, лат. *stiprs* ‘моцны’, адносна якіх гл. Смачынскі, 604. Фіксацыя толькі ў слоўніку Ластоўскага можа сведчыць пра штучнае ўтварэнне.



**Сціпу́лькі** ‘адросткі пер’я ў птушкі’ (Сцяшк. Сл.). Няясна; гл. *ціпульчык* ‘кончык’ (ТС).

**Сціра** ‘страта’ (Юрч. Вытв.), *сцірства* ‘тс’ (Касп.). Параўн. укр. дыял. *стира* ‘напасць’. Вытворныя ад *сціра́ць* ‘знішчаць’: *со свету сціраюць* (Нас.), *сціра́цца* ‘разбурацца, гінуць, знікаць, прападаць’ (Юрч. Вытв., ТС), што да *церці* (гл.); да семантыкі параўн. старaж.-рус. *терѧти* ‘губіць, спусташаць’, рус. *поте́ря* ‘згуба’, *теря́ть* ‘губляць’.

**Сціра́ць** ‘мыць, праць; чысціць’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ), ‘выціраць, рабіць чыстым, сухім’ (ТС, Варл.). Параўн. укр. *стира́ти* ‘выціраць, уціраць’, польск. *ścierać* ‘тс’, чэш. *stirati*, славац. *stierat’* ‘тс’. Вытворнае ад *церці* (гл.), што адлюстроўвае спосаб прання або ачышчэння (Фасмер, 3, 761). Значэнне ‘мыць (бялізну), праць’ з’яўляецца беларуска-рускай інавацыяй, бо ў старaж.-рус. *сътирати* асноўнае значэнне было ‘малоць, размолваць’ (Новое в рус. этим., 219; Из истории рус. сл., 173–174).

**Сці́ркі** ‘карты’ (клец., Жд. 1), *сці́рка* ‘карта (ігральная)’ (Мат. Гом.). Запазычана з аргат. рус. *сти́рки* ‘карты (як правіла, самадзельныя)’, што, у сваю чаргу, ад аргат. *стиры* ‘ігральныя карты са сцёртымі або дамаляванымі абазначэннямі, якія дадаюць у няпоўную калоду’, гл. Грачоў–Макіенка, Истор.-этим. сл., 131. Гл. *сціраць*.

**Сці́рта** ‘вялікі стог сена, саломы, снапоў’, ‘куча прадметаў, пакладзеных адзін на адзін’ (ТСБМ, Шн., Варл.; карэліц., Янк. Мат.; Янк. 1, Сл. ПЗБ, ЛА, 1, Сцяшк.), *сцірт, сцірта́, сці́рда* ‘тс’ (Сл. ПЗБ); *сці́рда* ‘тс’ (Мат. Гом.), *сцю́рта* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *скі́рта* ‘тс’ (Некр. і Байк., ЛА, 1), *скі́рда́* ‘тс’ (Шымк., Арх. Вяр., ЛА, 1, Сержп. Грам.), *сты́рта* ‘тс’ (Кольб.), ‘кубел’ (Мат. Гом.), ст.-бел. *скирдъ* (Лапіч, Term. geogr.). Укр. *скі́рта, сті́рта*, рус. *скирд, скирда́*, польск. *sterta* ‘тс’. Балтызм, параўн. літ. *stìrta* ‘стог сена’, лат. *stir̃ta* ‘абарог, сушылка ў выглядзе страхі на слупах’; звязана з лат. *stirpa* ‘абарог для яравога збожжа’ (Мюленбах–Эндзелін, 3, 1047; Фрэнкель, 909–910; Міклашыч, 300; Фасмер, 3, 640; ЕСУМ, 5; Лаўчутэ, Балтизмы, 23; Непакупны, Связи, 176; Ані-

кін, Опыт, 281). Варыянтнасць *к* і *ц* адпавядае мене *k'* і *t'* у балцкіх мовах (Векслер, Гіст., 228).

**Сціслы** 'выкладзены коратка, лаканічны; кароткі' (ТСБМ), *сьцíслы, сьцíсклы* 'сцiснуты, шчыльны; кампактны' (Ласт.), *сціслы, сціскли, сціскліви* 'ашчадны, скупаваты' (брасл., паст., смарг., Сл. ПЗБ), *сціслы* 'сціпла, ашчадна жывучы' (Нас.), 'ашчадны, скупы' (Бяльк.), 'скупы, прагны' (Ян., Жд. 2), 'вельмі скупы, хціві' (Растарг.), *сціскли* 'эканомны' (Ян.), *сціскліви* 'ашчадны, які намарна нічога не пусціць' (Варл.), *сцісліви* 'сарамлівы' (Мат. Гом.). З польск. *ścisły*, старое *ścisliwy*, *ściskły* 'шчыльны; дакладны; скупы', якое ад *ściskać* 'сціскаць' < *ciskać* 'ціскаць' (Брукнер, 530; Борысь, 614).

**Сціх**$_1$ 'супакой, цішыня' (Барад., Юрч. Вытв.), 'спакой, канец' (Сцяц. Сл.), *стіх* 'кароткі адрэзак часу'; у значэнні прысл. *стіхáмі* 'часамі': *стіхамі мніе голова болiт* (беласт., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *стих, стиг* 'міг', 'хвілінка, момант', *стих* 'урок' (Шымк. Сл.), рус. *стих* 'дзіўны стан, блазенства, нечаканы ўчынак' у выразе *стих нашёл*, славац. *stih* 'вольны час, вольная хвіліна'. Няясна з-за разнастайнасці значэнняў. Хутчэй за ўсё, дэвербатыў ад *сціхаць* (гл.), падобна да *міг* ад *мігаць*; развіццё значэння ад 'раптоўная ціша' да 'нечаканасць' і 'момант'. У ЕСУМ (5, 414) дапускаюць сувязь з укр. *стíгнути* (гл. *засцігнуць*); вывядзенне слова Зубатым (Studie, 163) з балцкіх моў лічыцца менш верагодным. Праабражэнскі (2, 387) выводзіць рускі выраз са *стих* 'палоска пры пляценні, радок лыка пры пляценні лапцей', што, на думку Вінаградава (Этимология – 1968, 167), сумніўна; не менш сумніўнай бачыцца і яго прапанова звязаць з грэч. στίχος 'радок у вершы' (гл. *сціх*$_2$) праз стадыю 'замова'. Сюды ж, відаць, і *сціш* 'цішыня' (Ласт.).

**Сціх**$_2$ 'верш' (Сл. ПЗБ), *сцішок* 'вершык' (Бяльк.). Запазычана з рус. *стих, стишóк* 'тс'.

**Сціхамíр** 'супакой, заспакаенне' (Нік. Старцы, Юрч. Вытв.), *сціхамíрые* 'тс' (Юрч. Вытв.), сюды ж *сціхамíрны* 'смірны, рахманы' (Нас.), *сціхамíрыцца* 'супакоіцца, суцішыцца' (Касп., Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТСБМ, Некр. і Байк.). Складаныя словы, гл. *сціх*$_1$ і *мір*$_1$; Карскі (2–3, 100) мяркуе пра азначальны характар сувязі паміж першай і другой часткамі. Гл. *ціхамір'е, ціхамірны*.



**Сціхат** 'страх': *аж сціхат глядзець* (Марц.), *сціхóт* 'страх, жах' (навагр., Сцяшк. Сл.). Відаць, ад *сціх*$_1$ з экспрэсіўным суфіксам *-ат (-от)*; да семантыкі параўн. *вусціш* 'цішыня' і *вусцішна* 'жудасна, страшна' (гл.), а таксама *сціхатá, сціхóцце* 'цішыня' (Сцяшк. Сл.).

**Сціхáць** 'супакойвацца, сунімацца' (ТСБМ, Некр. і Байк., Стан., Сл. ПЗБ), *сціхнуць* 'перастаць, суняцца' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, ТС), *сціхці* 'тс' (Стан.), сюды ж з іншым варыянтам асновы *сцішáць* 'супакоіцца', *сцішэ́ць* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сцішáць* 'змяншаць, сунімаць' (ТС), прыслоўе (дзеепрыслоўе?) *сціха* 'ціха (у песнях)': *цéкла рэ́чка невелíчка, цéкла вонá сціха* (ПСл), 'ціхенька, пацiху' (Нас., Бяльк.), *сціхá* 'тс' (Барад.; ашм., Стан.), якія звычайна разглядаюцца як утвораныя ад прыметнікаў ці назоўнікаў у Р. скл. з прыст. *с-*, гл. Карскі, 2–3, 75; Шуба, Прыслоўе, 126 і наст. Гл. *ціхі, ціш*.

**Сціць** 'шанаваць, паважаць' (Стан.), ст.-бел. *учсти* 'выказаць пашану, павагу' (Статут 1529, 1588). Рэканструяваны Станкевічам на падставе старабеларускіх форм дзеясловаў, гл. *чціць* 'шанаваць' (Некр. і Байк.); паводле Карскага (1, 201), аналагічна стараж.-рус. *чьсти* з пропускам цяжкавымаўляльнага *с* дае ў ст.-бел. *чсти, цти, чти*. Гл. *чэсць*.

**Сцíшна** 'страшнавата' (Адм., Дзямід.), 'ціха' (навагр., Сл. ПЗБ), *сцішнасць* 'некаторы страх' (Стан.), *сцішны* 'вельмі ціхі' (Адм.). Да *сцішэць, сціхаць* (гл.); да семантыкі параўн. *вусцішна, сціхат*, гл.

**Сцулí** 'мача', *сцуль* 'хто мочыцца пад сябе' (Нас.). Вытворныя ад *сцаць* (гл.) з суф. *-ул-*, гл. Карскі, 2–3, 25.

**Сцýпіць** 'узяць, схапіць' (ТС), *сцóпаць* 'схапіць, выкрыць' (Сцяшк. Сл.). Вытворныя ад выклічнікаў *цуп! цоп!*, што перадаюць раптоўныя рухі. Параўн. *цупкі, цапаць*, гл.

**Сцýрыць** 'падчысціць, з'есці' (Касп.). Да *цурыць*, гл.

**Сцы́знуць** 'моцна змерзнуць' (Растарг.). Відаць, да *зызнуць* (гл.) з распадабненнем пачатковых зычных.

**Сцыкýн** 'мачавы пухір' (іван., навагр., вусн. паведамл.). Кантамінацыя *сцаць* і *сікун* 'тс', гл.

**Сцынзóрык** 'мурашка' (Мат. Гом.). Няясна, магчыма, збліжэнне на базе іншых назваў мурашак *сікуны́, сікýчкі* (Жыв. св.) са *сцаць* і *сцізорык*, гл.

**Сцэ́на** 'падмосткі для прадстаўлення' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), 'відовішча' (Гарэц. 1). Ст.-бел. *сцена* 'тс' (XVII ст.) за-

пазычана са ст.-польск. *scena* 'тс', якое, у сваю чаргу, з лац. *scaena* ад грэч. σχηνή 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 166).

**Сцэп** 'вясельны поезд (картэж)' (ТС). Са **счэп* (ад **счапіць* 'сашчапіць, злучыць') шляхам прыпадабнення *ч* да *с*; параўн., аднак, *сцэ́паць* 'хватаць, браць' (Нас.), што сведчыла б пра адлюстраванні старажытных звычаяў "умыкання" нявесты.

**Сцю́дзень** 'квашаніна, халадзец' (Нас., Бяльк., Шн., Рам. 8–9, Малч., Мат. Гом., Сл. ПЗБ). Гл. *студзень₄* 'тс' з другасным памякчэннем *т*, параўн. наступнае слова.

**Сцюдзёны** 'халодны' (ТСБМ, Некр. і Байк., Шн., Нас., Шымк. Собр., Касп., Бяльк., Ян., Сл. ПЗБ, ЛА, 2), ст.-бел. *стюденое*, *с'тюдены* (XVI ст.). Адзначаецца побач з *стѫдено, студене* (гл. *студзень₁*) у старабеларускіх помніках і сучасных гаворках – *студзёны* 'тс' (ЛА, 2), на думку Карскага (1, 350), з'яўляецца вынікам другаснага памякчэння *т* пры стараж.-рус. *студеныи* 'халодны', прасл. **studenъ(jь)* 'тс'. Сюды ж *сцюдзёнка* 'халодная вада' (Нас., Нік., Оч.).

**Сцюдзя́нка** 'мята, Mentha crispa L.' (Кіс.). Да папярэдняга; у выніку семантычнай кандэнсацыі, параўн. *сцюдзёная мята* 'мята перцавая' (паст., Сл. ПЗБ) і іншую назву *мята халодная* 'тс' (Кіс.), што перадаюць адчуванне холаду пры спажыванні.

**Сцю́жа** 'моцны холад, мароз' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Касп., Гарэц.), *сту́жа* 'тс' (ТС, Бяльк.), *сцю́жа, сці́жа* 'тс' (паст., Сл. ПЗБ). Укр. *сту́жа*, рус. *сту́жа* 'тс'. Прасл. **studja* да **studъ*, гл. *студзіць*, *сцюдзёны*.

**Сця** ў выразе *ні сця любя* 'абыякава, неахвотна' (Кал.), *ні сьця́, ні любя́* 'абы-як' (гродз., Янк. Мат.). Гл. *сціць*, *відаць*, першапачаткова 'не шануючы і не любячы'.

**Сцяба́ць** і *суёбаць* 'біць чым-небудзь гнуткім; хвастаць' (ТСБМ, Нас., Ласт., Растарг., Чач., Шат., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *сцяба́ць* 'вастрыць мянташкай касу' (Варл., Гіл.), 'шыць шырокімі шыўкамі' (Варл.), *суёбаць жыта* 'малаціць акалотам' (лаг., Стан.), *суёб* 'хлоп! (удар бізуном)' (Нас., Байк. і Некр.), *суёб, суёбка* 'пакаранне розгамі' (Нас.), *суебену́ць* 'сцебануць' (ТС), *сцяба́чка* 'вострая каса' (Сцяшк.), 'самаробны брусок вастрыць касу' (Касп.; докш., Янк. Мат.; мядз., Сл. ПЗБ). Укр. *сті́бати* 'шыць, прашываць', *сьоба́ти* 'сцябаць, біць, хвастаць', рус. *стеба́ть* 'шыць, прашываць', 'аплятаць', 'упісваць, есці', 'біць, хвастаць', *стёбка* 'прут', польск. *ściebać* 'нізаць'. Пэўнай этымалогіі няма. Зубаты (у Фасмера, 3, 750), Праабражэнскі (2, 377–378) меркавалі аб роднасці з рус. *стебель* 'сцябло'. Паводле Зяленіна (у Фасмера, там жа), слова паходзіць са *стега́ть* 'прашываць; біць, хвастаць'; *-б-* з'явілася пад уплывам *стебель*. Супраць гэтых версій Ільінскі (ИОРЯС, 23, 7, 176 і наст.), які набліжаў да ням. *Steppen* 'прашываць', *Stift* 'стрыжань' і лац. *stipo, -āre* 'сціскаць, звальваць разам', што не адпавядае *-е-* ў корані слова. Параўноўвалі таксама з літ. *stem̃bti* 'мацнець', *stabýti* 'спыняць', ст.-інд. *stabhnā́ti* 'падпірае, затрымлівае', авест. *stəmbana-* 'апора' (Уленбек, 343). На думку Грунентала (ИОРЯС, 18, 4, 136), значэнні 'шыць, прашываць' і 'біць; хвастаць' маглі развіцца з 'калоць'. Гл. яшчэ Аткупшчыкоў (Этимология–1984, 192), які прыводзіць дакладна адпаведнае славянскаму слову лат. *stibát* 'сцябаць, хвастаць'. Гл. ЕСУМ, 5, 418.

**Сцябло́** 'надземная частка травяністай расліны' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Ласт., Касп., Арх. Вяр., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'жэрдка, вакол якой кладуць стог' (свісл., Шатал.), 'шасток каля печы для вешання адзежы' (Чач.), 'журавель' (беласт., Сл. ПЗБ; маст., дзятл., ДАБМ, камент., 810), 'рыбалоўная прылада' (Ян.), *суебло́* 'ствол расліны, дрэва', 'ручка веніка' (ТС), *сця́бла* 'выдаўбаны з дрэва жолаб для складвання сетак' (Браім, Рыбалоўства), *сцябе́ль* 'сцябло' (Бяльк., Сцяшк.), *суе́бель* 'ручка ў вясле' (ТС), *стэбло́* 'дышаль у плуга' (Тарн.), *стэбэлі́на* 'сцябло' (бяроз., Шатал.). Укр. *сте́бель, стебло́* 'сцябло', *стябло́* 'драўляны коўш', 'дошка для складвання сетак', 'сплеценая з чароту талерка', рус. *сте́бель*, *стебло́* 'дзяржанне; сцябло, ствол', стараж.-рус. *стьбло, стьбль*, польск. *ździeblo, źdźbło*, в.-луж. *stwjelco*, н.-луж. *spło*, дыял. *zbło*, палаб. *ståblü*, чэш., славац. *stéblo*, серб.-харв. *стабло, стàбљика* 'сцябло', славен. *stebə̀l, stéblo* 'сцябло; ствол', балг. *стебло́, стъбло́* 'тс', макед. *стебло* 'тс'. Прасл. **stьblo, *stьblь* роднаснае літ. *stìbis* "membrum virile", лат. *stiba* 'палка, галінка', ст.-інд. *stibhis* 'пучок, звязка'; з іншай ступенню вакалізма: літ. *stiebas* 'стоўб, ствол, сцябло', *stibýna* 'з доўгімі нагамі', лац. *tībia* 'галёнка' (без *s*-mobile), грэч. στιφός 'моцны' да і.-е. базы **steb(h)-, *stib(h)-*; гл. Траўтман, 287; Мее, 419; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1064; Буга, РФВ, 75, 148; Шустар-Шэўц, 1372–1373; Скок, 3, 323; ЕСУМ, 5, 404–405; Фасмер, 3, 750. Бязлай (3, 314) разглядае слова як суб-

стантываваны прым. ад незасведчанага дзеяслова *stьbe/o- = лат. *stibt*, *stiebu* ‘адурманіць, ап’яніць’, і, далей, літ. *stýbti* ‘стаць, вырасці ў вышыню’. Гл. яшчэ Борысь, 748–749.

**Сцяг**₁ ‘палотнішча на дрэўку як дзяржаўная або вайсковая эмблема’ (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр., Ласт.). Укр. *стяг* ‘тс’, рус. *стяг* ‘тс’, дыял. паўн. ‘жардзіна’, стараж.-рус. (XI ст.) *стягъ* ‘баявы сцяг’. Усх.-слав. ⁺*стягъ* лічыцца запазычаннем са ст.-сканд. *stǫng* ‘дрэўка, шост’, ст.-швед. *stang* ‘тс’ (гл. Фасмер, 3, 790 з аглядам літ-ры). Паводле іншай версіі, слова спрадвечнаславянскае і звязана з серб.-харв. *стȉјег* ‘сцяг’, ст.-серб. *стегъ* ‘тс’, балг. дыял. *стяг* ‘вясельны сцяг’, што да прасл. *stěgъ, якія параўноўваюцца са *сцежар*, *стажар* (гл.) і роднаснымі. Меркаванні пра ўзвядзенне да прасл. *stęgъ (Ягіч, AfslPh, 5, 665; Младэнаў, 616) непрымальныя па фанетычных прычынах. Гл. Фасмер, там жа; Кіпарскі, Gemeinslav., 160; Скок, 3, 334; ЕСУМ, 5, 460.

**Сцяг**₂ ‘азярод, прыстасаванне для прасушкі збожжа ў снапах’ (барыс., Жд. 2; барыс., Шатал.): *ширѣй, вышей сцяги ў поли* (барыс., Шн.), *sciehi*, *sciahi* ‘тс’ (барыс., Маш.). Вузкалакальны тэрмін, паводле знешняга падабенства (робіцца з жэрдак і слупоў), відаць, да папярэдняга, гл.

**Сцяг**₃ ‘туша забітай жывёліны’ (Нас., Байк. і Некр.), ст.-бел. *стяг* ‘мера колькасці мяса’ (Ст.-бел. лексікон). Рус. паўн. *стяг* ‘туша каровы або вала’, *стяг свежины* ‘туша без скуры і без галавы’, стараж.-рус. *стягъ* ‘тс’. Выводзіцца з *съ-* і *tęgnǫti ‘цягнуць’; гл. Сабалеўскі, ИОРЯС, 30, 442; Фасмер, 3, 790–791; параўн. яшчэ версію Борыся аб польск. *ścięgno* (гл. *сцягно*).

**Сцяг**₄, ‘рад будынкаў, што прымыкаюць адзін да аднаго’ (Варл.), ‘рад, чарада, паласа, шарэнга’ (полац., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ), ‘шмат, цуг’ (Барад.), ‘абшар, плошча, пляц’ (віл., Сл. ПЗБ; полац., Нар. лекс.), *адны́м сця́гам* ‘адзін за адным’ (клец., Бел. дыял.), *сцяж* ‘абшар’ (Бяльк.), ‘рад’ (Сл. ПЗБ), *у сцяж* ‘у адзін рад’ (драг., Нар. сл.), *сцяг гаравы* ‘горны хрыбет’ (Стан.), сюды ж *стаг* ‘рад будынкаў, якія знаходзяцца пад адной страхой’ (беласт., Сл. ПЗБ) са стратай мяккасці *-т-*. Да *цягнуцца*, гл.

**Сця́га** ‘нізіна са сцёкам’ (ТС), *сця́гліна* ‘дол, упадзіна, лагчына’ (паст., Сл. ПЗБ); да *сцягнуць* < *цягнуць*, г. зн. месца, якое сцягвае ваду або якое цягнецца на пэўную адлегласць.

**Сцяга́** ‘сцежка’ (Ласт., Рам. 8–9, Касп.; рас., Шатал.), ‘дарога, шлях’ (Сл. ПЗБ), *сціга́* ‘тс’: *за гумном ідзець сціга, вы той сцягой ідзіці* (рас., ЛА, 4), ‘троп’: *сцегі ваўчыныя* (брасл., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. дыял. *стега́* ‘сцежка’. Прасл. *stьga, звязанае чаргаваннем галосных са *сцігаць* (гл.), параўн. роднасныя лат. *stiga* ‘сцежка, пешаходная дарожка’, ст.-в.-ням. *stëg* ‘тс’, з іншай ступенню вакалізма гоц. *staiga* ‘дарога’, ст.-в.-ням. *steiga*, алб. *shtek* ‘сцежка, праход’, што да і.-е. *steigh- ‘крочыць, падымацца’ (Фасмер, 3, 752; Скок, 3, 331; Глухак, 583). Гл. таксама *сцежка*.



**Сця́гаўя**, *сця́жкі* ‘кудзеля з ільну, што быў зблытаны’ (Варл.). Ад *сцяга́ць* ‘сцягваць’, гл. *цягаць*.

**Сця́гень** ‘сувязь загнутых верхніх частак палазоў з пярэднімі капыламі’ (ПСл). Ад *сцягнуць*, параўн. іншыя назвы той жа дэталі *сцягі*, *усцяглі* (гл.) ‘планка, што ідзе ад галоўкі саней да першага капыла’ (Маслен.).

**Сця́глі**, *сця́глы*, *сця́гля* ‘каленныя сухажылкі’ (шчуч., іўеў., шальч., Сл. ПЗБ), *сцягле́* ‘суставы, што злучаюць галёнку са сцягном’ (беласт., Стан.), *сця́гля* ‘сцягно’ (Сцяшк. Сл.). Гл. *цяглі*.

**Сця́глы** ‘худы’ (Марц.). Да *сцягаць* ‘рабіць больш кампактным’.

**Сцягно́**₁ ‘частка нагі ад клуба да калена’, ‘бядровая частка тушы, кумпяк’ (ТСБМ, Шымк. Собр., Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Растарг., Сцяшк., Сержп. Прымхі, ЛА, 3), *сцягно́*, *сцягня́к* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *сцягно́* ‘мускул, мускульная частка рукі, нагі або жывата’ (Ласт.), ‘мышца, мускул’ (брасл., Стан.), *сцегно́*, *сцёгно́* ‘нага вышэй калена разам з клубам’ (ТС), *сцягня́к* ‘тс’ (Варл.), *сцягні́к*, *сцягня́к* ‘тс’ (Мат. Гом.), *стёгно* ‘шынка’ (лун., Шатал.), *сцёгна* ‘шынкі лапаткі’ (Пятк. 1), *стыгно́* ‘бядро’ (Клім.), *стыгня́к* ‘кумпяк’ (Сл. Брэс.), *сцягно́*, *ст’огно́*, *стэгно́*, *сц’егно́* ‘свіная нага і кумпяк з яе’ (Вешт., ЛА, 4, Сл. Брэс.). Укр. *стегно́* ‘верхняя частка нагі’, рус. *стегно́* ‘бядро, ляжка’, старое польск. *ścigno* ‘кумпяк’, *ścięgno* ‘сухажылле’, в.-луж. *sćehno*, н.-луж. *sćogno* ‘ляжка, кумпяк (у жывёл)’, чэш., славац. *stehno*, серб.-харв. *стѐгно*, славен. *stégno* ‘сцягно’, ст.-слав. **стегно**, **стьгно** ‘бядро’. Прасл. *stegno; першапачаткова, магчыма, *stьgno, на якое паўплываў дзеяслоў *stęgnǫti (Глухак, 583), гл. *сцягнуць*. Далей сувязі няпэўныя. Мікала (Ursl. gram., 2, 163) звязвае *stegno з лац. *tīgnum* ‘брус; будаўнічы лес’, якое ўзнаўляецца як *tegnom і набліжаецца да *стажар* і роднасных, што прымаюць Фасмер (3, 751) і Шустар-Шэўц (2, 1271). Параўноўваюць з літ. *steigara* ‘член, сустаў’, арм. *t̔ekn* ‘плячо, верхняя частка рукі’, ст.-ірл. *tóeb*, *tóib* ‘ста-

рана’, вал., карнуэлск., брэтонск. *tu* ‘тс’, што Бязлай (3, 315) лічыць больш удалым семантычна, але недасканалым фанетычна. Гл. яшчэ Фасмер, там жа з аглядам літ-ры; Махэк$_2$, 576; ЕСУМ, 5, 405; Борысь (613) польск. *ścięgno* лічыць дэрыватам ад *ściągać* < *ciągać* ‘цягаць’, якое было ўтворана па ўзору прасл. **stegno* ‘сухажылле’, параўн. балг. *стéгнат* ‘моцны, пругкі (пра мускулы)’ < *стéгна* ‘сцягнуць’.

***Сцягно$_2$**, *сцегнó, сцёгнó* ‘верхняя або ніжняя палачка ў ніце’ (ТС), *стегнó, стэгнíца* ‘палавіна нічанкі, верхні або ніжні рад яе петляў’ (Уладз.), сюды ж, відаць, і ст.-бел. *стьгнѣ мѣдне* (“іх было толькі два”, XVI ст., Карскі, 2–3, 334) з нявысветленым значэннем. Параўн. укр. дыял. *стегнó* ‘развора’ (Нікан., Трансп.), *стéгна* ‘бакавыя дошчачкі церніцы’. Да *сцягнуць*, відавочна, па функцыі (‘што трымае ў расцягнутым або сцягнутым стане’).

**Сцягнó$_3$** ‘старадаўняя страва, прыгатаваная з мукі і канаплянага малака’: *и posnyja dni varyła sabie ściahnó* (Варл.). Відаць, з *дзягно* ‘ежа з канапель’ (гл.) з няяснай дэфармацыяй пачатку слова.

**Сцягнýць** ‘зняць, звалачы, украсці’, ‘сціснуць, скурчыць, злучыць, змацаваць’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Варл., Сл. ПЗБ, Бяльк.), *сцягáць, сцягваць* ‘знімаць, красці’, ‘сціскаць, злучаць’ (Ласт., Некр. і Байк., Янк. 2), *сцягці* ‘сцягнуць’ (Сл. ПЗБ), *сцягнýцца* ‘збегчыся, ссесціся (пра тканіну)’ (Сл. ПЗБ), ‘паказацца доўгім’ (Ян.), *сцянýцца* ‘крануцца’ (люб., Жыв. НС), *сцегціса* ‘здоўжыцца’ (ТС), *сцягацца* ‘сцягвацца’ (Сл. ПЗБ), ‘сходзіцца’ (Варл.), ‘цягнуцца доўга’ (Мат. Гом.), *сцéгацца* ‘здоўжвацца, скарачацца’ (ТС), ‘змучыцца, змардавацца’ (Растарг.), ‘праходзіць марудна, доўга (пра час)’ (ПСл), *сця́гвацца* ‘перасяляцца’ (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *стѧгнутисѧ* ‘перасяліцца, перабрацца’ (Альтбаўэр). Параўн. укр. дыял. *стегáцца* ‘надакучаць, надаядаць’. Да *цягнуцца, цягнуць* (гл.); меркаванні пра сувязь палескага дзеяслова са значэннем ‘надаядаць, надакучаць’ з *цяжкі, туга* (ЕСУМ, 5, 405) беспадстаўныя.

**Сцягóлка**, *сцягоўка* ‘бочкі розных памераў для засолу агуркоў, капусты, а таксама для ссыпкі збожжа’ (малар., З нар. сл.). Няясна. Магчыма, да *стуга* (гл.) ‘бочка’, але таксама ‘вузкая палоска’, параўн. укр. *стягóль* ‘стужань’, *стягéль* ‘перакладзіна’, апошняе



Махэк$_2$ (590) узводзіць да **vъs-tęga* ад **tęgnǫti*, гл. *сцягваць, сцягнуць* < *цягнуць*.

**Сця́гры** ‘цуглі’ (Ласт.). Відаць, да *сцягнуць* (гл.) з рэдкай суфіксацыяй; рэальнасць слова Ластоўскі ілюструе цытатай з невядомай крыніцы.

**Сцягýн** ‘трыпутнік’ (стаўб., Нар. скарбы). Да *сцягнуць*, параўн.: *сцягун, бо як лістком прыкладзеш да раны, то быстра сцягваецца і загойваецца* (там жа).

**Сцяж** ‘рад, лінія’ (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), ‘працягласць’ (Гарэц.), ‘абшар’ (Бяльк.). Палаталізаваны варыянт да *сцяг$_4$*, гл.

**Сцяжáр’е** ‘падмосткі пад стог’ (ДАБМ, камент. 878; карэліц., Янк. Мат.), *сцяжáра, сцяжáр’е* ‘тс’ (Сцяшк.), *стажáр’е* ‘абарог’ (дзісн., ЛА, 4). Зборнае ад *сцежар, стажар*, гл.

**Сця́жкі** ‘атрэп’е’ (шум., лаг., глыб., Сл. ПЗБ), *сця́жка* ‘палоска’ (Рагаўц.). Параўн. укр. *стя́жка* ‘паласа’. Да *сцягнуць* < *цягнуць* ‘тое, што сцягнута’; ЕСУМ (5, 460) узводзіць украінскае слова да **vъstęga*, звязанага чаргаваннем галосных з **vъstǫga*, гл. *стужка*.

**Сця́жыкі** ‘сляды гада’ (рагач., Сл. ПЗБ). Да *сцягнуць* < *цягнуць*, г. зн. ‘след, які цягнецца’.

**Сця́жыць** ‘сцягнуць, украсці’ (даўг., брасл., Сл. ПЗБ). Да *сцягнуць*, гл.

**Сцякáць** ‘паступова выцякаць’ (Ласт., Бяльк.), ‘пазбаўляцца вадкасці’, ‘праходзіць, адыходзіць’ (Ян.), ‘зыходзіць (крывёю)’, ‘падглядваць, шукаць’ (Нас.), ‘выцякаць’, ‘рабіцца тонкім, кволым (пра гародніну)’ (маст., шчуч., Сл. ПЗБ), *сцéкаць* ‘выцякаць’ (ПСл), ‘абхапіць’: *як рука сцекае* ‘як рукой абхапіць’ (ганц., Сл. ПЗБ), ‘выцякаць’, ‘марнець, слабець, млець’ (ТС), *сцякці* ‘зарасці’ (Сцяшк. Сл.), *сцéкці* ‘выцячы, зыйсці’ (Нас., ТС), ‘ахапіць’ (ТС), сюды ж *сцёклісты, сцёклы* ‘худы, тонкі’ (ТС), *сцéкціся* ‘зрабіцца кволым, змарнець’ (лудз., Сл. ПЗБ). Да *сцячы, цячы*, гл.

**Сцяклéц** ‘шарош’ (ЛА, 2). Магчыма, да папярэдняга слова (‘тонкі лёд’, параўн. *сцён*, гл.), зблiжанае са *сцякло* ‘шкло’.

**Сцякló** ‘шкло’ (брасл., Сл. ПЗБ; ст.-дар., Ск. нар. мовы), *сцекló* ‘шкло лямпы’ (Арх. Вяр.), *сцяклíна* ‘аконнае шкло’ (Мат. Гом.), *сцяклянка* ‘шкляны слоік’ (ПСл, Мат. Гом., Ян.). Параўн. укр. *скло, шкло*, рус. *стеклó*, стараж.-рус. *стькло*, польск. *szkło*, старое польск. *śćkło*, чэш., славац. *sklo*, в.-луж., н.-луж. *škla* ‘міска’,

славен. *stêklo*, серб.-харв. *стăкло*, *склȍ*, балг. *стъкло*, макед. *стакло*, ст.-слав. **стькло**. Прасл. **stьklo* лічыцца запазычаннем з гоц. *stikls* 'келіх' яшчэ ў праславянскі перыяд з пераносам на агульную назву матэрыяла (Фасмер, 3, 753; Шустар-Шэўц, 1442–1443; Скок, 3, 325; Борысь, 604; ЕСУМ, 5, 276). Гл. таксама *шкло*.

**Сцяку́н** 'крынічнае месца, якое зімой не замярзае' (карэліц., Сл. ПЗБ), 'незамерзлая сярэдзіна ракі' (Сцяшк.), *сцяку́н*, *цяку́н*, *сцёк* 'тс' (ЛА, 2). Да *сцякаць* < *цячы*, *цяку*.

**Сцяле́жыць** 'зняць панарад (у возе)' (Варл.), *сцяле́жыцца* 'сарвацца, здзецца са шворана (пра калёсы)' (бялын., Янк. Мат.; Гіл.). Да *цялёга*, гл.

**Сцялі́ць** 'слаць, рассцілаць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ; Варл.). Гл. *слаць*$_2$.

**Сцялу́ха** 'крынічнік лекавы, Veronica officinalis L.' (Касп., Кіс.). Відаць, да *сцяліць* (гл.), іншая назва расліны *расходнік* (гл.), параўн. таксама *сцялі по́ля* 'вязель палявы': *расце на дзірванох, сцеліцца* (смарг., Сл. ПЗБ).

**Сцяльні́к** 'соты' (Некр.), *сцельні́к* 'вашчына з мёдам (у калодзе)' (Маш., ТС, ПСл), *шчэльні́к* 'тс' (ТС), *сце́льнікі* 'соты' (Мат. Гом.). Параўн. укр. *стільни́к*, дыял. *щільни́к* 'соты, пласт вашчыны ў пчол і вос'. Да *сцяліць* (гл.) з магчымым збліжэннем да *шчыльны*, гл.

**Сцяна́**$_1$ 'вертыкальная частка будынка', 'высокая агароджа з камення', 'стромкая бакавая паверхня' (ТСБМ, Касп., Ласт., Бяльк., Сцяшк., Ян.), 'рад чаго-небудзь, што стаіць на прамой лініі' (Нас.), 'абрывісты бераг' (ветк., Яшк.), *сцена́* 'сцяна будынка' (ТС), *стена́* 'тс' (Шушк.), *стина́* 'сцяна, мур' (пруж., Горбач, Зах.-пол. гов.), *сце́нка* памянш. да *сцяна́* (ТСБМ, Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ), 'сценка, грань' (Байк. і Некр.), *сце́нька* 'сценка будынка' (брасл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *стѣна: стѣны домовъ нашихъ* (Альтбаўэр). Укр. *стіна́*, рус. *стена́*, ст.-рус. *стѣна*, польск. *ściana*, в.-луж., н.-луж. *sćěna*, чэш. *stěna*, славац. *stena* 'сцяна', серб.-харв. *стије̏на* 'скала, камень', славен. *sténa* 'сцяна', 'скала', балг. *стена́* 'сцяна; каменная агароджа', макед. *стена* 'сцяна', ст.-слав. **стѣна** 'сцяна; вал'. Прасл. **stěna* 'сцяна', роднаснае гоц. *stains* 'камень', ст.-ісл. *steinn*; далей параўноўваюць з грэч. στία, στῖον 'крэмень', ст.-інд. *styā́yatē* 'цвярдзее' (гл. Мее, 446; Міклашыч, 323; Траўтман, 281; Фасмер, 3, 754; Махэк$_2$, 576–577). Мартынаў (Этимология–1968, 18) мяркуе, што слова паходзіць з першаснага спалучэння **stěna*



*zьdь* 'каменная сцяна, мур', аналагічна да англ. *stone wall*, тады прыметнік меў бы форму **stěnъ* (?) 'каменны'. Усё да і.-е. **stei̯-/*sti-* 'станавіцца цвёрдым, цвярдзець'; першаснае значэнне 'нешта зацвярдзелае', адкуль 'плеценая (з прутоў) сцяна, пакрытая, аблепленая глінай (якая зацвярдзела пасля высушвання)' (Борысь, 612). Шустар-Шэўц (2, 1276) германскія значэнні лічыць другаснымі; **stěna*, на яго думку, з'яўляецца дэвербатывам ад асновы, якая захавалася ў літ. *stìngti* 'цвярдзець', лат. *stiñgt* 'зрабіцца цвёрдым, кампактным'. Запазычанне славянскага слова з германскіх лічыцца неверагодным; параўн. Фасмер, там жа, з літ-рай; Бязлай, 3, 316. Гл. яшчэ Аткупшчыкоў (Из истории, 232–238), які рэканструюе прасл. **steg-s-na* ад і.-е. **steg-/stog-* 'пакрываць' (сцяна пакрывала зямлянку), што малаверагодна па семантычных прычынах.

**Сцяна́**$_2$ 'мяжа ў выглядзе дарогі, якая раздзяляе розныя палі' (Нас.), 'лінія, мяжа' (Шпіл.), 'канцавая забытая дарога' (Сцяшк.), ст.-бел. *стена* 'мяжа, граніца' (Ст.-бел. лексікон), *остенити*, *застенити* 'абмежаваць' (Вопр. лит. яз., 143). Лічыцца калькай літ. *siena* 'сцяна', 'мяжа, рубеж', параўн. Ніканчук, Бел.-укр. ізал., 66; Барысава, Бел.-рус. ізал., 9. Гл. таксама *сценка*$_1$.

**Сцяна́**$_3$ 'частка асновы пры тканні' (Нік. Очерки; ашм., Стан.), 'мера асновы, палатна, даўжынёй на хатнюю сцяну' (Сцяшк., Сл. ПЗБ, Шатал., Цых.; ашм., смарг., Нар. скарбы; Жд. 1). Да *сцяна*$_1$, гл. таксама *сценка*$_2$.

**Сцяня́цца** 'сноўдацца, бадзяцца, цягацца, шлындацца' (Ласт.), *сціня́цца* 'хадзіць, як прывід' (Барад.), сюды ж, відаць, *сцяна́цца* 'бадацца': *карова сьценаецца* (навагр., ЛА, 1), *сцяну́цца* 'крануцца, варухнуцца' (слуц., Жыв. НС; Янк. 1; Мат. Гом.), *сцену́цца* 'здрыгануцца, сцепануцца' (ТС), *сцяну́ць* 'патрэсці' (Мат. Гом.). Параўн. укр. *стена́тися* 'ўздрыгваць, калыхацца, хістацца', *стену́тися* 'кінуцца, рушыць', 'разгубіцца, збянтэжыцца'. Няясна; Мяркулава (Этимология – 1975, 55) дапускае для падобных слоў са значэннем руху захаванне асновы і. -е. **ten-* 'цягнуць і пад.', параўн. рус. дыял. *тять* 'ісці', для якога маюцца паралелі за межамі славянскіх моў: лац. *tenor* 'раўнамерны рух', ст.-ірл. *tēit* 'ідзе' < **tenti* (стары каранёвы аорыст) і пад. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 408. Не выключана сувязь са *сцень* 'прывід', гл.

**Сцяпа́** 'стэп' (Янк. 1). Форма на *-а* знаходзіць адпаведнікі ў славен. *stépa*, серб.-харв. *сте̏па* 'тс', апошнія разглядаюцца як

запазычанні праз англ. і ням. *Steppe*, іт. *steppa* ‘тс’ (Скок, 3, 333). Верагодна, самастойнае пераўтварэнне па тыпу назоўнікаў ж. р. Гл. *стэп*, *сцеп*.

**Сцярдзю́шка** ‘павіліца, Galium boreale L.’ (Кіс.). Няясна; магчыма, дэфармаванае пад уплывам табу **сярдзюшка* (ад *серца*, гл.), параўн. назву аднаго з відаў Galium укр. *сердешна трава* (Макавецкі, Sł. botan.), параўн. *сцeралом*, гл.

**Сцяха́цца** ‘жахацца ад страху’ (Мілк.). Гл. *сцехануцца*.

**Сцяць$_1$** ‘ссячы, зрэзаць’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Касп., Шат., ТС, Сл. ПЗБ; зах., ЛА, 5; Варл., Сцяшк.). Мяркулава (Этимология–1975, 62–63) мяркуе, што *сцяць$_1$* мае агульнае паходжанне са *сцяць$_2$*, але гэты дзеяслоў больш позні без індаеўрапейскіх паралеляў; развіццё значэння ‘цягнуць’ → ‘біць, ударaць’ → ‘сячы’; далей гл. *цяць*.

**Сцяць$_2$** ‘абхапіўшы сціснуць’, ‘сціснуць (грудзі, горла), перашкаджаючы дыхаць’, ‘шчыльна злучыць (губы, зубы, пальцы і пад.)’ (ТСБМ), ‘злучыць, сціснуць’ (Байк. і Некр., Варл., Шат., ТС; палес., ЛА, 5), ‘ударыць’ (зах., цэнтр., ЛА, 5), *сця́цца* ‘пакрыцца тонкім лёдам, замерзнуць’ (Сл. ПЗБ, Сцяшк.; ашм., Стан.; ЛА, 5), ‘пасварыцца, пацапацца’ (Сл. ПЗБ), *сціна́ць* ‘перахопліваць дыханне’ (Гарэц.), ‘шчыльна змыкаць, сціскаць, сашчамляць’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ), *сціна́цца* ‘пакрывацца тонкім лёдам’ (Сл. ПЗБ, Варл., Сцяц. Сл.), ‘дрыжаць’ (ЛА, 5), ‘сварыцца або біцца’ (Нас.), ‘замярзаць’, ‘туляцца, хавацца’ (Бяльк.), *сці́нка* ‘схватка, сутычка’ (Нас.). Укр. *стина́ти* ‘сціскаць (зубы)’, *стина́тися* ‘пачаць спрэчку, бойку, схапіцца’, дыял. ‘згусаць, ссядацца (пра малако)’, стараж.-рус. *сътѧтисѧ* ‘згусціцца’, польск. *ściąta (krew)* ‘згуслая (кроў)’, славен. *stéti se* ‘згуснуць (аб крыві)’. Прасл. **sъtęti (sę), *stinati (sę)* ‘сцягвацца’, ‘гуснуць, рабіцца больш шчыльным’ да і.-е. **ten-* ‘цягнуць, нацягваць’, ‘рабіць больш густым (аб малацэ, вадзе, паветры)’. Буга (Rinkt., 2, 318) прыводзіць у якасці паралелі літ. *tẽna*, *tenėti* ‘згусаць, застываць, гусцець’; параўн. *сцягнуць*, *цягнуць*. Гл. Мяркулава, Этимология–1975, 52 і наст.; ЕСУМ, 5, 485. Параўн. яшчэ *сціна́цца* ‘плакаць, аж выпроствацца’ і *сціга́цца* ‘крычаць, аж выпроствацца’ (Бяльк.), *сцяна́цца*, *сцяга́цца* ‘роспачна плакаць’ (Юрч. Сін.), а таксама серб.-харв. *сте́гнути зубе* ‘сцяць зубы’.

**Сцяцю́рыцца** ‘сціснуцца, стуліцца, скурчыцца’ (Барад., Сл. ПЗБ), *сцюцю́рыцца*, *сцюцюрэ́цца* ‘тс’ і ‘зажурыцца, сцішыцца,



замоўкнуць, заспакоіцца’ (Варл., Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне, магчыма, ад *цяцера*, гл.

**Сцячы́$_1$** ‘зрабіцца кволым, тонкім’ (Сл. ПЗБ; ст.-дарож., Ск. нар. мовы), *стычэ́* ‘зніцець, вырасці кволым (аб гурках, бураках)’ (драг., Ск. нар. мовы), *сцякаць* ‘рабіцца тонкім, кволым (пра гародніну)’ (Сл. ПЗБ), *сцёкаць* ‘марнець ад ценю (пра расліны)’ (ТС). Параўн. укр. *сті́ка́ти* ‘зрабіцца кволым, захірэць (пра расліну)’, польск. *ściekać* ‘тс’. Узыходзіць да **tekti* ‘цячы’, ‘бегчы, імкнуцца’, параўн. літ. *tekė́ti*, *ištekė́ti* ‘паднімацца ўверх’, у тым ліку пра расліны, якія хутка растуць, каб вырвацца з ценю.

**Сцячы́$_2$** ‘быць дастатковым, хапаць’: *як мукі сцячэ, то і няўмелька спячэ* (Янк. БП). Параўн. серб.-харв. *стѐћи* ‘набыць, здабыць’, дыял. *стѐћ* ‘атрымаць, зарабіць’, што да прасл. **tekti* (Скок, 3, 450). Да *цячы*, гл.

**Сця́я́** ‘рад, паласа’ (віл., Сл. ПЗБ). Няясна.

*****Схадкі**, ст.-бел. *схадки* ‘нашчадкі’ (Гарб., Ст.-бел. лексікон), *схадкомъ* ‘нашчадкам’ (1492 г., Карскі, 2–3, 146). Гл. *нашчадак*.

**Сча́сце** ‘шчасце’ (Сержп. Прымхі). Гл. *шчасце*.

**Счутвера́ць** ‘бурчаць (у жываце)’ (Нар. Гом.). Няясна.

**Счэ́за** ‘пагібель’, *счэза́ць* ‘знікаць’, *счэ́знуць* ‘згінуць, прапасці’ (ТС). Да *чэзнуць*, гл.

**Счэ́шчыць** ‘зрабіць ласку, выказаць павагу’ (ТС). Вытворнае ад *чэсць*, гл.

**Сшчэрк** *(сщеркъ)* ‘выроўніванне збожжа з краямі меркі’ (Нас.). Гл. *шчырк*.

**Сшчука́ць** *(сщукаць)* ‘перастаць шумець, крычаць, плакаць; сціхнуць’, *сшчукці* ‘тс’ (Нас.). Да *шчукаць*, гл.

**Сшыманéць** ‘здурнець, звар’яцець’ (Бяльк.). Няясна; корань слова нагадвае ўласнае імя *Шыман*, параўн. *змікіціць* ‘сцяміць’ ад *Мікіта*.

**Сшы́ндзіцца** ‘моцна схуднець’ (ТС). Магчыма, утворана ад *шэндзя* ‘малярыя’, гл.

**Сшыпу́ліць** ‘стуліць, сшыць’, *сшыпу́лены* ‘сшыты на скорую руку’ (Яўс.). Магчыма, да *шып* ‘драўляны клін, якім злучаюць бярвенні’. Гл. *шыпуліць*.

**Сшы́так** ‘злучаныя лісты паперы ў вокладцы’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *сшыто́к* ‘тс’ (Гарэц., Ласт.). Ад *сшыць* ‘злучыць, аб’яднаць’, гл. *шыць*. Наватвор па ўзору польск. *zeszyt*, укр. *зо́шит* ‘тс’.

**Сыба́** 'хіба' (драг., З нар. сл.; Ск. нар. мовы). Гл. *сіба*.

**Сыбо́та**. Гл. *субота*.

**Сы́варатка** 'вадкасць, якая атрымліваецца пры згортванні крыві і лімфы' (ТСБМ), 'вадкасць з адстоенага ці адтопленага малака' (Сцяшк.). У першым значэнні запазычана з рус. *сы́воротка* 'тс', у другім – вынік метатэзы складоў у *сыроватка* (гл.). Сюды ж, відаць, і *сы́варачная трава́* 'дзярачка, Asperula arvensis L.' (Меер Крыч.), адзін з відаў якой носіць назву ўкр. *сируха* (Макавецкі, Sł. botan.).

**Сыгла́цца** 'пасябравацъ' (Мат. Гом.). Няясна; магчыма, да **jьgъla* 'клін, шып, пры дапамозе якога злучалі часткі чаго-небудзь' (гл. *ігла*). Паралельнае ўтварэнне *сыглі́чыцца* 'злучыцца металічнымі скобамі' (Юрч. Вытв.) ад *ігліца* 'брусок, што злучае дошкі', гл.

**Сыгне́т** 'пярсцёнак з пячаткай' (Нас., Сцяшк.), *сыгнэ́т* 'тс' (Касп.), 'залаты пярсцёнак' (маладз., Гіл.). Ст.-бел. *сыкгнетъ* (*сегнетъ, сегнитъ, секгнетъ, сигнетъ, сыгнетъ*) 'тс' з 1498 г., запазычанне са ст.-польск. *sygnet* (XV ст.), якое з с.-лац. *signetum* (Булыка, Лекс. запазыч., 34), што да лац. *signum* 'знак' (Брукнер, 528).

**Сы́здалі** 'здалёк, здалёку', *сы́здаль* 'у далечыні, далёка' (Ласт.). Утворана першапачаткова шляхам зліцця ў адно слова спалучэння ⁺*съ издали*, параўн. рус. *и́здали* 'здалёку'.

**Сы́зма** 'раскол, раздзел цэркваў' (Нас.), 'пустая неўрадлівая зямля', 'скупы, злы, благі чалавек', 'хто жыве ў недастатку' (Сл. ПЗБ), 'бязбожнік' (Арх. Федар.), 'скрытная, хітрая, каварная і сквапная асоба' (мсцісл., З нар. сл.), 'злы, благі чалавек' (Шатал., гродз., Нар. лекс.), 'цвёрдая нявырабленая ўтравелая глеба' (Янук.), *сызматы́к* 'раскольнік, іншаверац', *сызматы́чка* 'іншаверка' (Нас.), сюды ж таксама *сусмасты́к* 'уніят, далучаны да праваслаўя' (Бес.), *сасмасты́к* 'чалавек, які насуперак усяму імкнецца захапіць нешта' (Цых.). Ст.-бел. *схизма, сцызма* 'рэлігійны раскол' запазычана са ст.-польск. *schizma, schizmatyk* (Карскі, Беларусы, 163; Кюнэ, Poln., 100; Булыка, Лекс. запазыч., 181, 174), відаць, пераважна вусным шляхам з пераасэнсаваннем запазычанага слова. Параўн. *схізма*. Няясныя шляхі развіцця значэння 'неўрадлівая зямля'.

**Сы́зы** 'шызы' (Касп., Растарг., Шн. 2), 'не адбелены (пра лён)' (Сл. ПЗБ), *сы́зый* 'шызы, сінявата-цёмны' (Бяльк.). Гл. *шызы*.



Карскі (1, 357) цвёрдасць зычных у пачатковым складзе тлумачыць украінскім або польскім уплывам, параўн. укр. *си́зий*, адпаведная польская форма адсутнічае, чаму, аднак, пярэчыць лінгвагеаграфія названых формаў. Да этымалогіі параўн. *сізаваро́нка* 'птушка сіваграк, Coracias garrulis L.' (ЛА, 1) і *сіваваро́нка* 'тс' (гл.).

**Сы́кацъ** 'утвараць свісцячыя гукі', 'выказваць сваё незадавальненне, злоснічаць' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Шат., Некр.; ашм., Стан.), 'шыпець (аб гусях)', 'выказваць незадавальненне, пагражаць' (Нас.), 'сіпець; наракаць' (Сл. ПЗБ), 'пакрыкваць на старэйшых' (Цых.), 'кідаць сярдзітыя рэплікі' (Варл.), 'сіпець (пра гадзюку)' (Некр., Варл., ЛА, 1), 'шыпець', *сы́кацца* 'абараняцца пагрозлівым шыпеннем' (ТС), *сыча́ць* 'сіпець, свісцець' (Байк. і Некр.), *сычэ́ць* 'сыкаць' (ТСБМ), *сыча́ць, сыча́ті, сычэ́ты* 'тс' (вільн., беласт., драг., Сл. ПЗБ), *сык* 'сіпенне' (Сцяшк. Сл.); сюды ж *сы́кацень* 'гад, змяя' (ТС). Укр. *сича́ти, си́кати* 'шыпець, утвараць свісцячыя гукі', рус. *сы́кать*, польск. *sykać, syczeć, syknąti*, в.-луж. *sykać*, н.-луж. *sykaś*, чэш. *sykati, syčeti*, славац. *syčat'*, серб.-харв. *си̏кати*, славен. *síkati, síčati*. Прасл. **syčati* і **sykati*, гукапераймальнага паходжання; гл. Фасмер, 3, 817; Махэк₂, 548; Міклашыч, 335. Борысь (590) узводзіць да і.-е. гукапераймальнага элемента **sū-*, які адлюстроўвае сыканне; Шустар-Шэўц (2, 1384) параўноўвае яшчэ з **sik-* (гл. *сікаўка*).

**Сы́лень** 'цвыркун' (лун., ЛА, 1). Няясна.

**Сыма́ць** 'здымаць' (Чуд.), *сыймаць* 'тс' (Нас.). Параўн. рус. *сыма́ть* 'тс' < *съ* + **jmati* (Фасмер, 3, 817); гл. *імаць*.

**Сы́мбаль** 'сімвал, знак' (Адм.), *сымбо́ль* 'тс' (Некр. і Байк., Стан.; Беларусіка, 19, 228), ст.-бел. *сымболъ* 'тс' (XVII ст.). Гл. *сімвал*.

**Сын** 'асоба мужчынскага полу ў адносінах да сваіх бацькоў' (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ, Маш., Стан., ТС). Укр. *син*, рус. *сын*, стараж.-рус. *сынъ*, польск., в.-луж., н.-луж., чэш., славац. *syn*, серб.-харв. *си̑н*, славен. *sín*, балг., макед. *син*, ст.-слав. **сынъ**. Прасл. **synъ*, старажытная аснова на *-u*; роднаснае літ. *sūnùs* 'сын', ст.-прус. *souns*, ст.-інд. *sunís*, авест. *hūnu-*, гоц. *sunus*, ст.-в.-ням. *sunn* і г. д., далей звязана са ст.-інд. *sū́te* 'нараджае, вытварае', авест. *hunāti* 'нараджаю', ірл. *suth* 'нараджэнне, плод' і інш.; да і.-е. **sū-nŭ* < **seu̯* 'нараджаць'; гл. Траўтман, 292; Фрэнкель, Balt. Spr., 45; Уленбек, 339; Фасмер, 3, 817–818; Шустар-Шэўц,

1200; Скок, 3, 237; Махэк$_2$, 599; Покарны, 913–914; Борысь, 590; Бязлай, 3, 235; ЕСУМ, 5, 233; гл. спецыяльна Трубачоў, История терм., 48 і наст.; Шаўр, Etymologie, 27 і наст.

**Сынажа́ць** ‘сенакосны ўчастак у лесе’ (Некр.), ‘сенажаць’ (Шат.). Прыпадабненне вакалізму першага складу слова *сенажаць* (гл.) да наступных, параўн. яшчэ *санажа́ць* ‘тс’ (Сл. ПЗБ).

**Сына́лька** ‘ягадны напітак’ (Сцяшк. Сл.), *сіна́лька* ‘ліманад’ (Жд. 2). Няясна.

**Сындылі́я** ‘падтыннік, Chelidonium majus L.’ (Кіс.). Гл. *цындалей* ‘тс’.

**Сынкава́ць** ‘абразаць непатрэбныя галінкі з табаку, памідораў’ (Сцяшк.). Ад *пасынкаваць* ‘тс’ (гл. *пасынак$_2$*) з адсячэннем першага складу пад уплывам *сын, сынок*.

**Сыно́вая** ‘жонка сына, нявестка’ (Нас., Байк. і Некр.), *сынава́, сынава́я, сыно́ва* ‘тс’ (зах., Сл. ПЗБ), *сынава́я, сыно́ва* ‘тс’ (Сцяшк.), ст.-бел. *сыновая* ‘тс’. Магчыма, з польск. *synowa* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, там жа), што фіксуецца ў функцыі назоўніка з XVIII ст. (гл. Длугаш-Курчабова, 478), у першую чаргу паводле націску і арэала распаўсюджання. Паводле Булахава (Бел. лекс., 19), субстантываваны прыметнік, суадносны з іншымі ўтварэннямі ў афіцыйнай мове Вялікага княства Літоўскага, гл. наступнае слова.

**Сыно́вец** ‘сын брата або сястры’ (Сцяшк.), ‘пляменнік, звычайна сын брата’ (бяроз., Шатал.), *сыно́вяц* ‘тс’ (Сцяц. Сл.; шчуч., З нар. сл.; гродз., свісл., маст., Сл. ПЗБ), *сыно́вэц* ‘нярodны, прыёмны сын’ (Чэрн.), *сыно́выць, сыно́вэць* ‘пляменнік’ (Сл. Брэс.). Параўн. укр. *сино́ве́ць, синові́ць* ‘тс’, рус. *сыно́ве́ц*, старажрус. *сыновьць* ‘тс’, польск. *synowiec*, чэш., славац. *synovec* ‘тс’, каш. *senovc* ‘зяць’, в.-луж. *synowc* ‘пляменнік’, серб.-харв. *сино́вац* ‘тс’, славен. *sinovec* ‘тс’. Вытворныя ад **synъ*, паводле Скока (3, 237), ад варыянтнай асновы **synov-*, што адлюстравана ў адпрыметнікавым назоўніку харв. *sinov* ‘сын брата або сястры’ (XIII–XIV стст.), пазней толькі з суф. *-ьc* > *-ac*: *sinòvac* ‘сын брата’; відаць, самастойныя ўтварэнні асобных славянскіх моў. Меркаванні пра архаічны характар назвы гл. Панюціч, Лексіка, 39.

**Сыно́к** ‘адтуліна ў жорнах’ (Мат. Гом.). Няясна.

**Сыня́тла**. Гл. *сунятла*.

**Сы́паць** ‘прымушаць падаць што-небудзь сыпкае ці дробнае’, ‘трусіць, церушыць’, ‘ісці, падаць (пра снег, дождж)’ (ТСБМ,



Некр. і Байк., ТС, Бяльк., Сл. ПЗБ; ашм., Стан., Растарг.), ‘пасыпаць’ (Сл. ПЗБ), ‘ліць, наліваць’ (брагін., мін., Цыхун, вусн. паведамл.; Растарг.): *сып воду* (КСП), ‘ставіць сетку’ (калінк., Арх. ГУ), ‘страляць’ (гарад., Нар. ск.), *сы́пацца* ‘падаць уніз (пра што-небудзь дробнае)’, ‘здыхаць, прападаць’ (ТС), ‘ліцца (пра слёзы)’ (Ян.), ‘часта нараджацца’ (Юрч. Вытв.), *сыпаце́ць* ‘ляцець; шугаць’ (Сл. ПЗБ). Укр. *си́пати* ‘сыпаць; ліць’, рус. *сы́пать* ‘сыпаць’, ц.-слав. *сыпати*, польск. *sypać* ‘сыпаць’, дыял. ‘ліць’, в.-луж. *sypać*, н.-луж. *sypaś*, чэш. *sypati*, славац. *sypat’*, серб.-харв. *си̏пати* ‘сыпаць, ліць’, славен. *sípati* ‘сыпаць’, балг. *си́пвам* ‘сыпаць, ліць’, макед. *сипе* ‘тс’, ст.-слав. **сыпати** ‘сыпаць’. Прасл. **sypati* ‘сыпаць’; іншая ступень чаргавання: старажрус. *сути, съпу* ‘сыпаць’, ст.-слав. **соути, съпѫ** ‘тс’. Славянскае слова роднаснае літ. *sùpti, supù* ‘калыхаць, люляць’, ітэратыў *sūpúoti*, ст.-прус. *suppis* ‘насып’, лац. *supō, -āre* ‘кідаць’ (гл. Траўтман, 293; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1124; Фасмер, 3, 818; Шустар-Шэўц, 1400–1401; Махэк$_2$, 543; ЕСУМ, 5, 240–241. Борысь (590) **sypati* разглядае як мнагакратны дзеяслоў ад прасл. **suti*, **sъpǫ* ‘сыпаць’, параўн. яшчэ ст.-польск. *suć, sują*, каш. *sëc, sëją* ‘сыпаць’, ст.-чэш. *souti, suji* ‘тс’, славен. *súti, spém* ‘тс’, якія сумесна з пазаславянскімі адпаведнікамі ўзыходзяць да і.-е. **su̯ep-* з магчымым першасным значэннем ‘рухацца туды і назад, трэсці’, адкуль у семантыцы славянскага слова рэшткі гэтага значэння ‘хутка бегчы, ісці, рухацца’; гл. таксама Бязлай, 3, 344; SEK, 4, 261. Аб’яднанне значэнняў ‘сыпаць’ і ‘ліць’ трактуецца як іншамоўны ўплыў, параўн., напрыклад, Зінкявічус (Балто-слав. иссл. 1983, 28) адносна польск. дыял. *sypać* ‘сыпаць’ і ‘ліць’ пры літ. *pílti*, якое мае абодва значэнні (гл. яшчэ раней Кудзіноўскі, ABSl, 1, 225); параўн. таксама літ. *seikė́ti* ‘вымяраць сыпкія і вадкія рэчывы’ (Буга, Rinkt., 2, 562). Больш падрабязна гл. Бланар, Зб. Дорулі, 76–83 (тут побач з іншамоўным уплывам дапускаецца і ўнутрымоўнае семантычнае развіццё).

**Сы́пяль** ‘пясчаны астравок’ (Сл. ПЗБ). Да *цыпель* (гл.) пад уплывам *сыпаць*: *сыпяль – пясок намыты* (там жа).

**Сыр** ‘харчовы прадукт, які робіцца з малака, што заквашваецца пэўным спосабам’ (ТСБМ), ‘сыр дамашняга вырабу’ (Бяльк.; полац., Нар. сл.; Сцяшк., Сл. ПЗБ), ‘тварожны сыр у форме кліна’ (Вешт.), ‘тварог, тварожная маса’ (ТС, ПСл, Маш., Лекс. Бел.

Палесся), ст.-бел. *сыръ*: *молоко оу сыр твердыи стало* (XVI ст., Карскі, 2–3, 496). Укр. *сир* 'сыр, тварог', рус. *сыр*, стараж.-рус. *сыръ*, польск. *ser*, в.-луж. *syra* 'малозіва', н.-луж. *sera* 'тс', чэш. *sýr*, славац. *syr*, серб.-харв. *сйр*, балг. *сирене* 'брынза', дыял. (радоп.) *сир* 'застыўшы тлушч у форме посуду, у які ён быў наліты', макед. *сирење* 'брынза', ст.-слав. **сыръ** 'сыр'. Прасл. **syrъ* – першапачаткова субстантываваны прыметнік **syrъ* 'сыры, вільготны' (гл. *сыры*) (Слаўскі, SP, 2, 18; Сной, 569), роднаснае літ. *sū́ras* 'салёны', *sū́ris* 'сыр', ст.-прус. *suris* 'тс', ст.-ісл. *súrr* 'закваска', ст.-ісл. *sýra* 'кіслае малако', алб. *hirrë* 'сыроватка'; гл. Траўтман, 293 і наст.; Буга, РФВ, 75, 148; Мюленбах–Эндзелін, 3, 859–860; Фасмер, 3, 849 з літ-рай; Махэк$_2$, 599; Скок, 3, 242; Шустар-Шэўц, 1402–1403; Борысь, 541–542, ЕСУМ, 5, 241. Гл. *сыры, суровы*.

**Сы́ра** 'міфічная істота': *каб цябе сыра ўбіла* (Касп.), 'прастуда': *каб цябе сыра ламанула* (Мат. Маг. 2), *сы́ра: сыра переломила* 'раптоўна памёр' (Шымк. Собр.). Паводле Карскага (2–3, 325), эліпсіс з *сырая зямля: каб цябе сырая зьела* ("легко подразумевается земля"), аднак спалучэнні з рознымі дзеясловамі дэманструюць высокую ступень персаніфікацыі (табуізацыі?) першапачатковай семантыкі. Гл. *сыры*.

**Сырабо́йня** 'гумно' (пух., Жд. 1), 'вялікая асецьw, гумно ў маёнтку' (Касп., Шат.), 'вялікая будыніна ў двары, дзе стаіць малатарня' (Варл.), 'стадола без асеці' (Пятк. 1). Параўн. польск. *syrobojnia* 'месца ў адрыне для малацьбы'. Ад *сыры* (гл.) і *біць*, у значэнні 'малаціць' (Варш. Сл.), г. зн. малаціць непадсушанае збожжа, параўн. *сырамало́т*, гл. Польскае слова, хутчэй за ўсё, запазычана з беларускай.

**Сы́равадка** 'вадкая частка кіслага ці адтопленага малака' (Нас., Шымк. Собр.), *сы́раватка* 'тс' (Касп.; докш., Гіл.; Сл. ПЗБ), *сыра́вадка* 'тс' (Растарг.), *сырва́тка* 'тс' (Ласт., Сл. ПЗБ), *сы́ўрадка* 'тс' (Юрч. Вытв.), *сы́ўрытка* 'тс' (Бяльк.). Апошнія формы, паводле Дабрадомава (Бел.-рус. ізал., 41), блізкія да рэканструяванага булг. **surat* > **šuarat* > **šuvarat*, якое адпавядае цюркскім назвам кіслага малака: кірг. *джуурат*, якуц. *суорат* і інш., што малаверагодна. Гл. *сыроватка*.

**Сырае́жка** *(сырав́эжка)* 'сыраежка' (Шымк. Собр., Касп., Бяльк., Мат. Маг., Сярж.-Яшк.). Рэкамендавана ў якасці асноўнага наменклатурнага тэрміна для называння грыбоў Russula ў беларускай мікалогіі (Сярж.-Яшк., 40), побач з ім часта ўжываюцца *сураве́жка, сыраежка* (гл.), якія лічацца зыходнымі. Магчыма, зближана з *сыравы, суравы* (гл.), параўн. славен. *surovež* 'грубы'. Формы *сырав́ега, сырав́яга, сырав́ежа* 'тс' (Сярж.) другаснага паходжання.



**Сыраве́ц** 'квас' (Бяльк., Мат. Гом.), 'нямочаны ў вадзе лён' (Сцяшк.). Параўн. укр., *сирі́вець* 'хлебны квас', дыял. 'сырамятная скура', рус. дыял. *сырове́ц* 'белы, неўвараны квас'. Да вырыянтнай асновы **syrovъ/*surovъ* 'сыры, неапрацаваны; свежы, мокры' (гл. *сыравы, суравы*). З суф. *-ец*, параўн. *сырэц*.

**Сыраві́зна** 'усялякая зелень, прыдатная для ежы', 'сырасць', 'недавараная ежа' (Нас.), 'што можна есці сырым, негатаваным' (Сцяшк. Сл.), 'нябеленае льняное палатно' (ашм., Нар. скарбы). Параўн. каш. *sërovizna* 'недагатаванасць; свежасць, сырасць'. Да *сыравы* (гл.) з суф. *-ізн-а*, параўн. *сырызна*.

**Сыраві́на** 'матэрыял для далейшай апрацоўкі' (ТСБМ), *сырaві́на* 'сырая, нявырабленая скура' (Бяльк.), *сырови́на* 'неадбеленае палатно, ніткі' (Уладз.). Параўн. славен. *surovina* 'сыры матэрыял'. Да *сыравы*, гл.

**Сыравы́** 'свежы, незаквашаны (пра гуркі)' (ст.-дар., Ск. нар. мовы), 'неадбелены (пра палатно, ніткі)' (Сл. ПЗБ; маст., Нар. скарбы; Ян.), *сыро́вы* 'тс' (ТС). Параўн. укр. *сирови́й* 'сыры, вільготны', 'нявыраблены, неадбелены', 'негатаваны', старaж.-рус. *сыровыи* 'сыры, вільготны', польск. дыял. *syrovy* 'сыры, негатаваны; вільготны, нявысушаны', каш. *sërovi, srovi* 'вільготны; сыры, негатаваны; няспелы', чэш. *syrový* 'сыры, вільготны, халодны', славен. дыял. *sirôv* 'сыры, свежы; неапрацаваны, грубы', серб.-харв. *сйров* 'сыры, свежы, зялёны, няспелы', макед. *суров* 'сыры, свежы, неапрацаваны; слабы, хворы'. Прасл. **syrovъ(jь)/*surovъ(jь)* 'сыры, неапрацаваны; свежы; мокры' ад прасл. **syrъ/*surъ* 'сыры, неапрацаваны; няспелы; мокры, вільготны' (SEK, 4, 265–266; Борысь, 587). Мяркуецца, што ўзыходзіць да і.-е. **sūr-ou-o-s*, метафарычна звязана з **syrъ* 'кіслы, горкі, салёны' (Глухак, 579), гл. *сыр*. Паводле Фурлан (Бязлай, 3, 343), прыметнікі на **-ovъ* утвараюцца ад назоўнікаў, што прадугледжвае стадыю субстантывізацыі зыходнай формы.

**Сырадо́й** 'толькі что надоенае, яшчэ не астылае малако' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Ласт., Касп., Бяльк., Сцяшк., Растарг.,

Маш., Пятк. 1, ЛА, 4), *сырадо́й, сарадо́й* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сыродо́й* 'тс' (ТС), *сурадо́й* 'тс' (Мат. Маг.). Укр. палес. *сироди́й, сиродо́й*, рус. смал. *сыродо́й*. З *сыры́* і *даі́ць*. Вештарт (Лекс. Палесся, 104) у *сыр-* (параўн. яшчэ *сыракваша, сыра/оватка*) бачыць агульны элемент са значэннем 'малако', роднаснае прасл. **syrъ*: **sьrъ-* (гл. *сера*): **sъrъ-*, які быў выцеснены пранікненнем з германскіх моў **melzivo* (гл. *малозіва*), што падтрымлівае Мартынаў (Этимология–1968, 20–22); супраць Трубачоў (там жа, 39). Аднак слав. **syrъ* мае значэнне не толькі 'сыры', але і 'свежы', 'неапрацаваны', параўн. таксама заўвагу Пяткевіча: "mleko prosto od krowy (*syradoj*) nie używają" (Пятк. 1, 131).

**Сырадэ́ля** 'аднагадовая кармавая расліна сямейства бабовых, Ornithopus L.' (ТСБМ, Кіс.), *сэрадэ́ля* 'тс' (Некр. і Байк., Цых.), *сарадэ́ля, серадо́ля, сэрадэ́ль* 'тс' (Кіс.), *салідэ́ра* 'тс' (Арх. Вяр.). Праз польск. *saradela, seradela*, дыял. *saladera* 'тс' з ісп. *serradella* (парт. *serradela*), якое паходзіць ад ісп. *serrado* 'зубчасты; вызублены'; назва па форме лістоў (SWO, 678; ЕСУМ, 5, 215). Відаць, памылкова палес. *серэдэля (середел'а)* у запісе Дзендзялеўскага (Бел.-укр. ізал., 25) ідэнтыфікуецца як 'расліна Taraxacum vulgare Schrk.'.

**Сырае́жка** 'ядомы грыб, Russula' (ТСБМ), дыял. *сыраве́жка, сыравя́жка, сыравя́жына, сырае́жа, сырае́га, сыра́дзега, сурае́жына, сураве́га, сераве́жка* 'тс' (Расл. св., Сярж.-Яшк.), *сырае́шка* 'тс' (Пятк. 1), *сыроежка* 'тс' (ТС), *сырое́жы* 'тс' (Арх. Вяр.), *сырое́тка* 'тс' (Федар. 6). Параўн. укр. *сироїдка, сироїжка* 'грыб Agaricus ruber', рус. *сырое́жка, сырое́га, сураве́шки* 'грыб Agaricus integer', польск. *serojeszka, surojadka* 'грыб Agaricus russula', ст.-чэш. *syrojědka*, чэш. *syrovedka*, харв. *siro(vo)jedka*, славен. *sirojẽdka, sirovojedka* 'тс'. Ад. **syrъ* (гл. *сыры*) і *ěd-/ědja* 'ежа', г. зн. 'грыб, які можна есці сырым'; гл. Фасмер, 3, 819; Мяркулава, Очерки, 171–172. Гл. таксама *суравежка, сыравежка*.

**Сыраква́ш** 'квашаны бурачнік' (смарг., Сл. ПЗБ). Гл. наступнае слова.

**Сыраква́ша** 'густое кіслае малако' (ТСБМ, Шымк. Собр., Касп., Ласт., Бяльк., Сцяшк.; віц., Шн.; Мат. Гом.; усх.-бел., ЛА, 4), *саракваша* (в.-дзв., паст., шчуч., віл., глыб., Сл. ПЗБ), *сыро́кваш* 'тс' (кліч., Жыв. сл.). Укр. палес. *сироква́ша* 'тс'. Да *сыры* і *квасіць* (гл.); адносна семантыкі параўн. *сырадой*, гл.



**Сыраква́шкі** *(сырыкваш́кі)* 'калёсы, не акаваныя жалезам' (Бяльк.). Да *сыракваша*, магчыма, іранічна.

**Сырамало́т** 'малацьба збожжа без папярэдняй сушкі' (ТСБМ, Касп., Некр., Серб. Вічын.), 'зерне, збожжа з абмалоту без прасушкі' (Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ), *сырамало́там* 'малацьба снапоў спешна шляхам аббівання іх аб калоду, дошку, у выніку снапы застаюцца не да канца вымалачанымі' (Нік. Очерки). Ад *сыры* і *малаціць*.

***Сырамéць**, *сыромі́ть* 'амаль дарма' (Сл. Брэс.). Відаць, да наступнага слова (гл.) або дэфармаванае пад яго ўплывам *сіламо́ц* (гл.), параўн. дзеяслоў *сілуме́ць* 'сваволіць' (Сцяшк. Сл.) і ўкр. *сіломі́ць* 'сілком, гвалтам'.

**Сы́рамяць** 'нядубленая скура, сырыца' (ТСБМ), *сырамя́тны* 'зроблены з сырыцы' (ТСБМ, Бяльк.), *сы́раметны* 'скураны' (Касп.), *сы́рамяць, сы́рмець, сы́рміць* 'сырыца' (Сл. ПЗБ), *су́рамяць* 'тс', *сурамя́тны* 'зроблены з сырыцы' (карэліц., Нар. лекс.), *сырымыць, сыръмяць* 'гужык у цэпе' (кругл., маг., ДАБМ, камент., 829), *су́раматка* 'раменная ці вяровачная частка пугі' (стаўб., З нар. сл.), *сурамя́ць, сурамя́зь* 'сырамяць' (Сл. ПЗБ), *су́рметка* 'папруга, повад з сырамяці' (Сл. ПЗБ), *сыро́мец* 'вузкая палоска з нявырабленай скуры' (Сцяшк.), сюды ж, відаць, *сы́рамаць* 'сырыя дровы' (Мат. Гом.), *сыромі́ть* 'амаль дарма': *сыромі́ть оддала півня* (кобр., Сл. Брэс.). Рус. *сы́ромять* 'сырыца', *сыромя́тный* 'выраблены з сырыцы'. Да *сыры* і *мяць* (гл.), параўн. *кажамя́ка* (гл.) і адзначанае ў Даля (IV, 376) "кожа… выделанная очисткой и сильным мятьем". Да значэння 'сырыя дровы' параўн. *сыромля* 'тс', гл.

**Сырапе́ня** 'кіслае малако' (Касп.; барыс., Сл. ПЗБ; гарад., Нар. словатв.; віц., ЛА, 4), *сырапе́ня, сырапі́ха* 'тс' (віц., Шн. 3), *сырапе́ня, сырапо́ня* 'толькі што ўкіслае малако' (Барад.), *сырапо́нь* 'сыракваша' (бярэз., Жд. 1), *сырапо́ня* 'кіслае знятае малако' (Мядзв.), *сырапо́нка* 'тс' (бых., ЛА, 4), *сарапо́ня* 'рэдкае недакіслае малако' (полац., Нар. сл.), *сурупо́ня* 'кіслае малако' (Мат. Маг.). Рус. пск. *сыропы́ня, сыропы́ха* 'сыракваша'. З *сыр-* (гл. *сыры*) і літ. *píenas* 'малако'. Лаўчутэ (Балтизмы, 56) мяркуе, што ў першым кампаненце адбылося другаснае набліжэнне да слав. **syrъ*; першакрыніца ў лат. *siera piens* 'малако для сыра', Р. скл. *siera piena*. Рускія дыялектныя словы, відаць, з беларускай

(Анікін, Опыт, 284); змены ў другой частцы слова ў выніку дээтымалагізацыі.

**Сырапо́сны**: *сырапосная нядзеля* 'апошні тыдзень перад Вялікім пастом' (Ян.). Параўн. укр. *сиропу́ст* 'тс', *сиропу́сний* 'належны да гэтага перыяду', рус. *сыропу́ст* 'запусты', старaж.-рус. *сыропустъ* 'калі дазваляецца есці сыр і іншыя малочныя прадукты', *сыропустьныи* 'звязаны з запустамі', серб. *сиропусна* 'маслянічны тыдзень', макед. *сиропасна* 'тс'. Запазычана са ст.-слав. **сыропоустьнъ**, што ўтворана ад **сыръ** і **поустити** 'дазволіць, дапусціць', і калькуе грэч. ὁ τυροφάγος 'сырная'; паводле Німчука (Давньорус., 61), народнай назвай было старaж.-рус. *масльная недѣля*. Зближана да *пост*, *посны*, гл. таксама *сырніца₂*.

**Сы́расць** 'вільгаць, волкасць, вільготнасць' (ТСБМ, Некр. і Байк., Юрч., Сл. ПЗБ), 'фрукты, гародніна' (Юрч.), *сы́росць* 'вільготнасць' (ТС), ст.-бел. *сырость*: *смоква созрѣла въ сырости своеи* (Альтбаўэр). Ад *сыры* (гл.) з суфіксам *-асць (-осць)*, што, побач са значэннем адцягненай прыметы ці стану, можа прыдаваць слову зборна-рэчыўнае значэнне (Сцяцко, Афікс. наз., 95).

***Сырахватам**, *сырохва́том (спячы)* 'са свежага, непадышоўшага цеста' (ТС). Прыслоўе ад *сыры* і *хватаць*, гл.

**Сыр'ё** 'ўсё наогул сырое', 'не высахлае' (Нас.), 'уся садавіна і тая гародніна, якую ядуць сырой' (Варл.), 'сырыя дровы; садавіна, гародніна' (Юрч. Вытв.). Зборны назоўнік ад *сыры*, гл.

**Сы́рнік₁** 'ежа з тварагу, падобная з выгляду на аладку' (ТСБМ, Касп., Нік. Очерки), 'блін з тварагом' (Ласт., Вешт.), рус. *сырник* 'тс'. Да *сырны* < *сыр*, гл.

**Сы́рнік₂** 'клінковы мяшочак, клінок (для прыгатавання сыру)' (Сл. ПЗБ, Жд. 2, Сцяшк., Ян., Мат. Гом., Скарбы, Шатал.). Да *сырны* < *сыр*, гл.

**Сы́рнік₃** 'садавіна' (Барад.). Да *сыры́* ў спецыфічным значэнні 'зялёны, няспелы'.

**Сы́рніца₁** 'яда з сыру і топленага масла, спецыяльна прыгатаваная для мачання бліноў' (ТСБМ), 'тварог з малаком, падрыхтаваны для доўгага захоўвання' (віл., рас., Сл. ПЗБ; полац., Нар. сл.), 'парэзаны на кавалкі і заліты маслам сыр' (мёрск., Нар. сл.; чэрв., Жд. 3). Да *сы́рны* < *сыр*, гл.

**Сы́рніца₂** 'апошні тыдзень перад вялікім пастом' (Некр. і Байк.). Параўн. рус. *сы́рная неде́ля* 'тс', балг. *си́рна неде́ля*. Вынік семантычнай кандэнсацыі да *сыры́* < *сыр*, гл. *сырапосны*.



**Сыро́ватка** 'вадкасць з адтопленага або адстоенага кіслага малака' (ТСБМ, Некр. і Байк., Пятк. 1, ЛА, 4, Арх. Вяр., ТС), *сы́раватка, сы́рватка, сарава́тка* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сы́раватка* 'тс' (Сцяшк., Жд. 2), *сыро́вадка* 'тс' (Янк. 1; быx., Янк. Мат.), *сы́равадка* (Нас.), *сы́рватка* 'тс', *сы́ўрытка* 'тс' (Мат. Маг.), *сыро́водка, сыро́вадка* 'тс' (ТС), *сы́варатка* (Сцяшк.) 'тс', *сырове́тка, сэрова́тка, сыро́вотка, сыро́ватка* 'сыроватка', 'суп на сыроватцы', 'маслянка' (Вешт.), *сыро́вадка* 'страва (суп) з сыроваткі і круп' (Ян., ПСл; мазыр., 3 нар. сл.), *сыро́ваднік* 'тс' (Ян.), *сырова́тнік* 'тс' (Сл. Брэс.). Укр. *си́ро́ватка*, рус. *сы́воротка*, польск. *serwatka*, в.-луж. *syrwatka*, н.-луж. *serowatka*, чэш., славац. *syrovátka*, серб.-харв. *су̏рутка*, дыял. *сирава́тка*, славен. *sírotka*, балг. *суро́ватка*, дыял. *сурва́тка*, макед. *сирутка*. Прасл. **syrovatъka* ўтворана ад прым. **syrovatъ* 'сыраваты' < **syrъ* (гл. *сыровы*, *сыры*); Міклашыч, 335; Шустар-Шэўц, 1402; Бязлай, 3, 238; супраць Махэк₂ (599), які супастаўляе з лац. *serum* 'сываратка'. Формы тыпу рус. *сыроводка* Фасмер (3, 816) тлумачыць набліжэннем да *вада*; іншыя змены тлумачацца асіміляцыяй і метатэзай у асобных мовах (Куркіна, Этимология–1975, 175).

**Сыро́вы** 'нябелены (пра ніткі, палатно)' (ТС). Гл. *сыравы*.

**Сыро́к** 'рыба пелядзь, Coregonus peled (Gmelin)' (ЭПБ; віц., Грач.), параўн. рус. *сыро́к* 'тс', 'від ласося'. Відаць, з рускай мовы; назва распаўсюджана пераважна ў Сібіры і выводзіцца з ханты-мансійск. *sărəx*, *sorəx* 'Coregonus vimba' (Фасмер, 3, 820; Анікін, 517).

**Сыро́мля** 'сырасць' (Нар. Гом.), 'сырое, мокрае (дрэва, сена, салома)' (глуск., Янк. Мат.), 'сырыя дровы' (Ян.), 'сырая, недагатаваная страва' (Янк. 3). Укр. палес. *сиро́мля* 'сырызна, нешта сырое'. Утворана ад *сыры* (гл.) па тыпу *сухомля*, *сухмель*, гл. *сухмень*.

**Сыро́шнік** 'урочнік, Carlina vulgaris L.' (Касп.). Ад *урочнік*, першапачаткова, відаць, **сурочнік* ад *сурокі* (гл.), збліжанае да *сыры*, гл.

**Сырць** 'рыба Vimba vimba L.' ("сырть или рибец – меньше леща", маг., Дэмб. 2). Рус. *сырть* 'тс', польск. *syrt* 'тс'. Відаць, не можа разглядацца асобна ад *цырта* 'тс' (гл.), параўн. польск. *certa* 'тс', якое Брукнер (59) выводзіць з ням. *Zärthe* 'від рыбы'. Атаясамленне рус. *сырть* з *сырок* (гл.) 'від ласося' (Фасмер, 3, 820), паводле Анікіна (517), не мае падстаў.

**Сыры́** ‘вільготны’, ‘невараны; недавараны, недасмажаны, недапечаны’, ‘неканчаткова выраблены’, ‘нязвараны, няспечаны’: *сырое яйцо* (Федар. 4, Сержп. Прымхі), ‘сыры, мокры’, ‘негатаваны’: *сырэ молоко не п’е* (ТС), ‘нябелены (пра ніткі, палатно)’ (Уладз.), *сыры́й* ‘сыры, мокры, негатаваны’ (Бяльк.), *сырэ́й* ‘тс’ (драг., Ск. нар. мовы). Укр. *сирі́й*, рус. *сыро́й*, стараж.-рус. *сыръ* ‘сыры, вільготны’; ‘малады, зялёны, няспелы’: *ıаблъко сыро*, каш. *sëri* ‘вільготны, мокры, падмоклы’, в.-луж., н.-луж. *syry*, ‘мокры, негатаваны, неапрацаваны, вільготны’, чэш. *syrý* ‘вільготны, халодны’, ст.-слав. **сыръ** ‘мокры, вільготны’. Прасл. **syrъ(jь)* ‘сыры, вільготны; невараны’, роднаснае літ. *sū̃ras* ‘салёны’, лат. *sūrs* ‘салёны, горкі, даўкі’, ст.-дац. *súrr* ‘сыры, напаўгнілы’, швед. *sur ved* ‘сырое дрэва’, ст.-в.-ням. *sûr* ‘кіслы’; да і.-е. **sū-ro/*sou-ro* ‘кіслы, даўкі’, гл. Траўтман, 293–294; Фрэнкель, 944; Фасмер, 3, 819; Махэк$_2$, 600; Шустар-Шэўц, 1402–1403; SEK, 4, 265; Бязлай, 3, 343; ЕСУМ, 5, 241–242. Гл. таксама *сыравы, сыровы, суровы, сыр.*

**Сыры́зна** ‘садавіна, агародніна; зелень, што ўжываецца ў ежу’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ; ашм., Станк.; Гарэц., Др.-Падб.), ‘няспелыя плады’ (Мядзв., Гарэц., Жд. 2, Мал., Сл. рэг. лекс.), *сыраві́зна* ‘ўсялякая зелень, што ўжываецца ў ежу’, ‘вільготнасць’, ‘недагатаванае’ (Нас.), ‘садавіна, агародніна’, ‘суровае палатно’ (Сл. ПЗБ), *сыры́зніна* ‘нябеленае палатно’ (Мат. Гом.). Суфіксальныя дэрываты ад *сыры, сыравы* (гл.), суф. *-ызн-а* характэрны для называння прадметаў па пэўнай прыкмеце (Сцяцко, Афікс. наз., 103, 138). Малаверагодны ўплыў польск. *surowizna* ‘садавіна, гароднiна’, як мяркуюць аўтары Сл. ПЗБ адносна *сыравізна* ‘тс’.

**Сырынéць** ‘надакучаць’: *мне сырынея гэту яду варыць* (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Сыры́нішча** *(сыры́нішчо)* ‘садавіна (у супрацьлегласць варыву)’ (Сцяц. Сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *сыры* (гл.), магчыма, ад прамежкавай формы *сырына* ‘нешта сырое, негатаванае’.

**Сыры́ца** ‘сырамяць; свежая, саматужна вырабленая скура’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Пятк. 1, Шат., Маш., Жд. 2; Мат. Гом., ТС, ЛА, 4), ‘неабпаленая цэгла’ (Сл. ПЗБ), ‘сырая зямля’ (Кліх, Федар. 4), ‘сырая пшаніца’ (Кліх, Федар. 6), сюды ж з іншай суфіксацыяй *сырэ́ц* ‘нявырабленая скура, сырамяць’ (Арх. Вяр., Сцяшк., Варл., Гарэц., ТС, ЛА, 4, Сл. ПЗБ), ‘неабпаленая цэгла’ (Касп., Сл. ПЗБ, Гарэц), *сыроўка* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, ТС). Вытворныя ад *сыры* (гл.) з суф. *-ыц-а*; паводле Сцяцко (Афікс. наз., 110), у сучаснай мове рэдкае ўтварэнне пры больш прадуктыўных тыпах на *-эц* і *-оўк-а* (там жа, 102, 170).



**Сыса́к** ‘цяля, якое яшчэ ссе цыцку’ (Сцяшк. Сл.; беласт., Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *сысаць, ссаць*. Няясныя адносіны да польск. дыял. *sisiak* ‘конік (у дзіцячай мове)’, каш. *sisk* ‘малады конік, жарабя (пяшчотная назва)’, якія Борысь (SEK, 3, 272) узводзіць да падзыўных слоў *si! sis!*, параўн. *сі-і-і*.

**Сы́ска** ‘соска’ (Касп., Сцяшк. Сл., Скарбы, Сл. ПЗБ), ‘сасок’ (Сл. ПЗБ), *сы́ська* ‘матачнік (у пчол)’ (Сл. Брэс.), *сысо́к* ‘адростак для ўсмоктвання пажыўных рэчываў’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), сюды ж *сы́саўка* ‘соска’ (ТС). Да *сыса́ць* ‘ссаць’ (Сл. ПЗБ), што да прасл. **sysati*, параўн. укр. *сиса́ти*, польск. *sysać*, славен. *sísati*, серб.-харв. *си̏сати*, балг. дыял. *си́сам*, макед. *сиса*, ст.-слав. **сысати** ‘тс’, ітэратыва да **sъsati*, гл. *ссаць*. Параўн. укр. *сиса́к* ‘цыбук’, славен. *sȋsek* ‘сасок (грудзей), соска’, серб.-харв. *си̏сак* ‘хабаток (насякомых)’, ‘носік’, дыял. *сиска* ‘сасок (у вымені)’. Гл. Скок, 3, 244; Бязлай, 3, 238; Глухак, 549. Гл. таксама *цыцка*.

**Сы́сла** ‘соска’ (Сцяшк. Сл., Мат. Гом.), *сысо́лка* ‘тс’, ‘лядзяш’ (Стан.), сюды ж *сы́сліць* ‘смактаць’ (Сцяшк. Сл.). Гл. *сусла*; фанетыка, магчыма, пад уплывам папярэдняга слова.

**Сысо́й** ‘цяля першага году’ (Сл. рэг. лекс.), памянш. *сысо́йчык* ‘жарабя або цяля ўзростам да году’ (Сцяшк.). Да *сыса́ць* (гл. *ссаць*) з рэдкім суф. *-ой*, магчыма, націскным варыянтам да *-ай*, параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 23.

**Сысу́н** ‘цяля (жарабя і інш.) першага году’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Цых.; ашм., Стан.; кобр., Ск. нар. мовы, Сцяшк.), ‘дзіця, якое ссе цыцку’ (беласт., Саевіч, Derywacja). Суфіксальнае ўтварэнне ад *сыса́ць, ссаць*, гл. *сыска*.

**Сысункí** ‘зябер, Galeopsis L.’ (бых., ЛА, 1). Да *сысаць, ссаць* (гл.), матывацыя звязана з наяўнасцю ў кветках салодкага рэчыва, параўн. іншыя назвы расліны: *смактулькі, мядулькі, мядоўнік* (Расл. св.).

**Сыта́** ‘мёд або цукар, разведзены гатаванай вадой’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп., Маш., ТС, Растарг., Сцяшк., Сл. Брэс.), ‘засалоджаная мёдам вада як абрадавая страва’ (Сержп. Прымхі, Серб. Вічын., Арх. Вяр., Ян.; слаўг., Нар. сл.; рагач., ганц., карэ-

ліц., 3 нар. сл.; ЛА, 5), 'раствор мёду або цукру для падкормлівання пчол' (Анох.; слаўг., Нар. сл.), тое ж *сыць* (Мат. Гом.), 'страва з кавалачкаў хлеба, пакрышаных у салодкую ваду' (Сл. Брэс.), 'страва з цёртых канапель' (Сл. Брэс.; лун., Шатал.), сюды ж *сыціца* 'напой з перабрадзіўшай сыты' (ТС), *саціца* 'напой на сотавым мёдзе' (Барад.), *сытыця* 'тс' (Доўн.-Зап., Пін.). Укр. *сита́*, рус. *сыта́*, стараж.-рус. *сыта* 'вада, падсалоджаная мёдам, гатаваны мёд'. Слова без пэўнай этымалогіі; на аснове польск. *woda miodem nasycona* 'вада, сычоная мёдам' Гараеў (356) выводзіў ад **sytъ* 'сыты'; супраць Міклашыч (336). Набліжалі таксама (Мюленбах–Эндзелін, 3, 1129) да ст.-прус. *sutristio* 'сыроватка', літ. *sutrė́, sùtros* 'памыі, мутная брудная вадкасць, асадак', лат. *sutra* 'гнаявая жыжка', ст.-ірл. *suth* 'сок, малако'; Брандт (РФВ, 24, 189) і Ільінскі (РФВ, 62, 139) звязвалі таксама з **sъtъ*, гл. *соты*. Гл. Фасмер, 3, 820; ЕСУМ, 5, 244. Сюды ж *сыці́ць* 'падсалоджваць ваду, квас мёдам і пад.; настойваць мёд на чым-небудзь', якому адпавядаюць укр. *сити́ти* 'падсалоджваць', рус. *сыти́ть* 'тс', польск. *sycić* 'запраўляць чым-небудзь': *sycić miód* 'перарабляць пчаліны мёд на пітны', што паводле Борыся (590), да прасл. **sytiti* 'рабіць сытым, насычаць, карміць', ад **syty* (гл. *сыты*).

**Сы́тасць** 'стан паўнаты, задавальнення' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *сыто́сць*: *у сытосць* 'уволю, удосталь' (паст., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *сытость* 'паўната, багацце' (Альтбаўэр). Параўн. укр. дыял. *си́тоці* 'тлустасць', рус. *сытость* 'насычэнне', польск. *sytość* 'перанасычэнне', чэш., славац. *sytost*, в.-луж. *sytosć*, славен. *sítost*, серб.-харв. *си̏тост*, балг. *си́тост*, ст.-слав. **сытость** 'паўната, насычэнне'. Абстрактны назоўнік ад *сыты*, гл.

**Сы́таўка** 'пліска, Motacilla alba L.' (Сцяшк.; парыц., Янк. Мат.; Адм.), *сыто́ўка* 'тс' (пух., Сл. ПЗБ), *сы́тка* 'тс' (Маш.; калінк., ст.-дар. Сл. ПЗБ). Гл. *сі́таўка*.

**Сы́тнік** 'расходнік, Sedum L.' (Кіс.). Семантычна непразрыстае слова (Кісялеўскі, Аб нек. асабл., 28), параўн. іншыя назвы *адцытнік, сыць*; магчыма, да *сыты*, параўн. *накосіла сытніку кобаю́* (ПСл), або да *сытны* 'тлусты' (ТС).

**Сы́ты** 'які не адчувае голаду', 'укормлены, тлусты' (ТСБМ, Нас., Ласт., ТС, Сл. ПЗБ), 'негалодны' (Байк. і Некр.), 'тлусты, адкормлены' (Касп., Пятк. 2, Мат. Гом., Нар. лекс., Сл. Брэс.,



Сцяшк., 3 нар. сл.), 'гладкі, тлусты' (Жыв. НС), *сы́тны* 'сыты' (ТС), *сыць* 'корм, страва, ежа; пажыўнасць' (Ласт.), 'сытасць; укормленасць' (Нас., Бяльк.), *сы́ціць* 'карміць, насычаць'. Укр. *си́тий*, рус. *сы́тый*, стараж.-рус. *сытъ(и)*, польск. *syty*, в.-луж., н.-луж. *syty*, чэш. *sytý*, славен. *sýty*, серб.-харв. *си̏т*, славен. *sit*, балг., макед. *сит* 'тс', ст.-слав. **сытъ** 'сыты'. Прасл. **sytъ*, відаць, роднаснае літ. *sótus* 'сыты, багаты, сытны', лат. *sats* 'сытны', ст.-прус. *sātuinei* 'насычаеш', лац. *satis* 'досыць', гоц. *sōþa* 'сыты', ст.-в.-ням. *sat* 'сыты', грэч. ἄατος 'ненасытны' (Траўтман, 250; Мюленбах–Эндзелін, 3, 809; Вальдэ–Гофман, 2, 481; Покарны, 876), аднак пры гэтым цяжка патлумачыць адрозненні ў вакалізме. Іншыя даследчыкі ў сувязі з гэтым зближаюць **sytъ* са ст.-інд. *çávas* 'сіла, моц', авест. *sava-* 'тс', сюды ж ст.-інд. *çū́ras* 'моцны', авест. *sura-* 'тс', грэч. κῦρος 'сіла, моц' (Зубаты, LF, 28, 89; Фрэнкель, JF, 50, 7 і наст.). Борысь (590) узводзіць да дзеепрыметніка і.-е. **sū-to-* 'напоўнены, поўны', што да і.-е. **seu-* 'напаўняцца', параўн. хец. *sunnai* 'напаўняе', гл. таксама Бязлай, 3, 238–239. Абмеркаванне іншых версій гл. Фасмер, 3, 821; ЕСУМ, 5, 245; Глухак, 550.

**Сыхыба́**, *сыхы́б* 'хіба' (драг., 3 нар. сл.). Гл. *сіхібо́*.

**Сыць**1 'сытасць, насычэнне', *да сы́ці* 'уволю, удосталь' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Юрч. Вытв., Федар. 4), *сыць вам* 'пажаданне тым, хто есць' (Касп.), *сыць Божа* 'тс' (ашм., Стан.), *сыць* 'укорм' (Бяльк.), 'корм, страва, ежа; пажыўнасць' (Ласт.), 'перасычэнне' (Пятк. 2), 'спажыва' (віл., Сл. ПЗБ), *сы́це* 'тук', 'сытасць, укормленасць' (Нас.), *сы́цце* 'харчовае задавальненне, смачная і пажыўная ежа' (Нік. Очерки), 'насычэнне; тлустасць' (Нас.), ст.-бел. *сыть* 'ежа, харч': *оставила от сыти своеи* (Альтбаўэр). Укр. *сить* 'тлустасць; сытасць', рус. *сыть* 'ежа, корм', 'сытасць', ст.-слав. **сыть** 'сытнасць', **до сыти** 'дасыта, уволю'. Прасл. **sytь* < **sytъ* (гл. *сыты*), варыянт з чаргаваннем у аснове захаваўся ў славен. *dósti* 'даволі', серб.-харв. *dȍsti* 'даволі, вельмі', польск. *dość* 'дастаткова', в.-луж., н.-луж. *dosć* 'тс'. Гл. *досыць*.

**Сыць**2 'расліна Cyperus L.', *сыць ілжывая* 'асака, Carex pseudo-cyperus' (Кіс.). Параўн. укр. дыял. *сить* 'расліна Cyperus L.', рус. *сыть* 'тс'. Няясна; звычайна не адрозніваюць ад *сіт, сітнік* (гл.), параўн. укр. *сіть* 'сітнік, чарот' (ЕСУМ, 5, 247). Гл., аднак, укр. дыял. *сить* 'ражкі, Claviceps purpurea Tul.', якая мае на

Палессі іншыя назвы, у тым ліку *спарыш* 'тс' (Лекс. Бел. Палесся), што дазваляе, насуперак ЕСУМ (там жа), звязаць назву з *сыты* (гл. *сыць*$_1$), г. зн. багаты; які дае павелічэнне, напаўненне і інш. Адносна апошняга гл. Выгонная, Лекс. Палесся, 74–76.

**Сыч**$_1$ 'птушка з сямейства сапраўдных соў' (ТСБМ, Байк. і Некр. Федар. 4, ТС, Сл. ПЗБ), 'птушка Athene noctua Scop.' (кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.); 'птушка Strix nyctea' (Меер Крыч.), *сычык* памянш. (стол., Лексика Пол., Ласт.). Укр. *сич*, *січик*, рус. *сыч, сычик*, польск. *syczek* 'соўка-сплюшка', чэш. *sýc*, *sýczek* 'віды соў', славац. *sýč* 'сыч'. Праславянскі дыялектны дэрыват ад **sykati* 'сыкаць', параўн. іншую назву *сіпе́ль* (ад *сіпець*, гл.), але Фасмер (3, 821) старажытнасць слова лічыць сумніўнай, таму малаверагодная, на яго думку, роднасць з літ. *šáukti* 'крычаць', лат. *sàukt* 'зваць', а таксама з *сава*, як меркавалі Мюленбах–Эндзелін (3, 771–772), Петарсан (KZ, 47, 241). Атрэмбскі (Зб. памяці Раманскага, 72) параўноўвае з літ. *suõkt*, *suõkia*, *suõke* 'крычаць'. Праформу **sytjь* узнаўляе Будзішэўска (Słown.), **sytъ* Марэш (Slavia, 1967, 366–369), аналагічна ЕСУМ (5, 248); **sy(k)tъ* Лома (Огледна св., 68), у якім бачыць табуізаваную сувязь са ст.-інд. *sūkta-* < **su-ukta* 'добра спамянуты'. Гл. яшчэ Махэк$_2$, 598. Гл. таксама *цідь*.

**Сыч**$_2$ 'калок у вуллі, на якім трымаліся пляйстры з мёдам' (ТС), 'клін, звужаная палоска': *сыч картопляль* (Сцяц. Сл.), *сычы́* 'сорт бульбы, скараспелка' (Ян.). Укр. *сич* 'сук ад абламанай галінкі на ствале'. Паводле ЕСУМ (5, 248), магчыма, звязана чаргаваннем галосных з *сук* (гл.), аднак, відаць, не можа разглядацца асобна ад *сычык*, гл.

**Сыча́ць** 'шыпець, сіпець' (ЛА, 1), *сычэ́ць* 'тс' (Нар. Гом.). Гл. *сыкаць*.

**Сычу́г** 'адзін з аддзелаў страўніка жвачных жывёл' (ТСБМ; б.-каш., ст.-дар., пін., Жыв. св.), *сычу́к* 'страўнік цяляці-сысуна' (шуміл., Сл. ПЗБ). Укр. *сичу́г* 'тс', рус. *сычу́г* 'тс'. Лічыцца запазычаннем з цюрк., параўн. куман. *suzug* 'кішка, вантробы', кыпч. *sučik* 'каўбаса', тур. *sudžuk* 'тс'; гл. Фасмер, 3, 822 з аглядам літ-ры. Трубачоў (Дополн., там жа; ВЯ, 1960, 3, 68) узводзіць да рус. *сы́тить* 'сыціць, насычаць' (гл. *сыта*), прыводзячы семантычныя паралелі ням. *Lab*, *Labmagen* 'сычуг': *laben* 'цешыць, даваць асалоду', асец. *axsæn* 'сычуг', *axsyn* 'стваражваць'; сюды ж *сычу́жны* (сыр), *сычу́жына* 'сычужны фермент'.



**Сы́чык** 'скрутак лык' (Бяльк., Сцяшк. Сл.; шкл., ЛА, 4), 'рухомая частка ў церніцы' (Выг.), 'загваздка; жалезнае колца, што злучае "правіла" з задняй часткай воза' (Арх. Вяр.), 'калок, які трымае пругло ў сілку на дзікіх качак', 'трубачка, якую ўстаўлялі ў дзірку ў бочачцы пры наліванні гарэлкі ў кілішкі' (ТС), *сы́чыкі* 'начоўкі з рылам для зліву вадкасці' (капыл., Сл. ПЗБ), 'смажаная бульба' (Сл. Брэс.). Разнастайны характар дэталяў з такой назвай звязаны з пераносам па функцыі, першаснае значэнне, відавочна, 'клін, стрыжань', параўн. *сыч*$_2$, гл. Звязана чаргаваннем галосных з *сукаць*; апафанічныя ступені **sъk-/*suk-/*syk-* 'скручваць, валяць, качаць', аб якіх гл. Ва́рбат, Этимология–1980, 33–34.

**Сычэ́ць**. Гл. *сычаць, сыкаць*.

**Сы́шчык** 'тайны агент, шпіён' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Запазычана з рус. *сы́щик* 'тс'.

**-сь** – часціца, звычайна са значэннем нявызначанасці, у складзе займеннікаў і прыслоўяў тыпу *хтось*, *калісь*, параўн. *прыйшоў хтось, ўзяў штось, дай пашоў кудысь* (Пятк. 2), якія далей могуць быць пашыраны часціцамі *-ці (калісьці, чамусьці)*, *-кі (хтоські, штоські*, Мат. Маг.), *-ка (у някагосіка*, Федар. 1) і інш. Укр. *-сь*, польск. *-ś*, чэш. *-si* (*kdysi* 'некалі'), славац. *-si*, в.-луж. *-s*, н.-луж. *-sy* (*gdysy* 'некалі, часамі'). З прасл. **si*, кароткай формы Д. скл. зваротнага займенніка **sebe* (гл. *сябе)*; гл. ESSJ SG, 2, 607; ESJSt, 13, 814; ЕСУМ, 5, 492. У беларускай мове Карскі (2–3, 90, 97) дапускае змяшэнне са зваротнай часціцай *-ся* (гл.) пад уплывам польскай мовы.

**Сэ** 'калі' (беласт., Сл. ПЗБ). Гл. *се*$_2$.

**Сэ́даль**, *зэ́даль* 'нізкая лаўка на ножках' (Ласт.). Гл. *зэдаль*; у сувязі з адзінкавасцю фіксацыі форма, магчыма, штучна наблі-жана да крыніцы запазычання с.-в.-ням. *sidel(e)* < лац. *sedile* 'прылада для сядзення, крэсла, столак' ад лац. *sedere* 'сядзець' (Борысь, 748), або пад уплывам наступнага слова, гл.

**Сэ́дас** 'месца жыхарства, сяліба, котлішча' (ТСБМ), *сэ́дэс* 'сядзіба' (стол., Нар. сл.; Лекс. Бел. Палесся), *седас* 'паселішча, селішча' (староб., А. Кулакоўскі), *сэ́дасік (сэ́дэсикъ)* 'донца ў чарцы' (Нас.), ст.-бел. *седесъ* 'сядзіба, цэнтр, кватэра' (Гарб.). Параўн. польск. *sedes* 'сядзіба, селішча, кватэра', 'сядзенне ў туалеце', 'задніца'. Запазычана з лац. *sedes* 'сядзенне, крэсла; месца жыхарства, жыллё' непасрэдна або праз польскае пасрэдніцтва.

**Сэйт** ‘стойла для каровы’, *сэйт, сэйта* ‘аброжак, прывязь’ (даўг., Сл. ПЗБ). Запазычанне беларуска-літоўскай кантактнай зоны, аўтары слоўніка параўноўваюць з літ. *seĩtas* ‘тс’.

**Сэ́ляг** ‘селязень’ (Клім.), *сэ́лёг* ‘дзікі качар, селязень’ (пін., Дразд.), *сэ́лях, сэ́люх* ‘качар’ (Сл. Брэс.). Гл. *селег.*

**Сэ́ндзіць** ‘абгаворваць, пляткарыць’ (Барад.), ‘займацца балбатнёй, плявузгаць’ (Юрч. Вытв.), вытворны наз. *сэ́нда* ‘чалавек, які заўсёды гаворыць многа небыліц’ (глус., Янк. Мат.). Запазычана са старога польск. *sędzić*, сучаснае *sądzić* ‘меркаваць, думаць, сцвярджаць; выносіць прысуд; крытыкаваць’, сюды ж больш новае запазычанне *сэ́ндзя* ‘суддзя’, ‘хто можа крытычна развažаць, быць сведкам’, ‘хто абгаворвае, перасуджвае’ (Сл. ПЗБ), з польск. *sędzia* ‘суддзя’.

**Сэнс** ‘унутраны лагічны змест, значэнне’, ‘разумная аснова, прызначэнне, мэта’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Шат., Касп., Гарэц.), ‘розум, толк, лад’ (Нас.): *людзі кажуць сэнс* (Сержп.). Праз польск. *sens* з лац. *sēnsus* ‘сэнс’, *sentiō* ‘адчуваю’ (Кюнэ, Poln., 96 з літ-рай). Ст.-бел. *сенсъ* з 1592 г. са ст.-польск. *sens* (Булыка, Лекс. запазыч., 132). Аб рус. *сенс* < польск. *sens* гл. Фасмер, 3, 601.

**Сэ́рдак** ‘безрукаўка на аўчыне’ (Сцяшк.), *сэрда́к* ‘кароткае жаночае суконнае адзенне’ (палес., ЛА, 4; Сакал.). Гл. *сардак*; пра ўнутраную форму ці народнаэтымалагічнае асэнсаванне сведчыць *сяро́днік* ‘жаночая куртка’ (Жд. 2).

**Сэ́рна** ‘дзікая каза’ (Стан.), ст.-бел. *серна* ‘тс’ (Альтбаўэр, Скарына). Укр. *се́рна*, рус. *се́рна*, страж.-рус. *сьрна*, польск. *sarna*, чэш., славац. *srna*, в.-луж. *sorna*, н.-луж. *sarnja*, славен. *sŕna*, серб.-харв. *ср̏на*, балг. *сърна́*, макед. *срна*, ст.-слав. **срънa**. Прасл. **sьrna* роднаснае лат. *sirna* ‘казуля’, ст.-прус. *sirvis* ‘алень’, лац. *cervus* ‘тс’. Звязваецца з лац. ‘рог’, і далей з *карова*, гл. (Фасмер, 3, 609; Глухак, 577; ЕСУМ, 5, 220). Гл. таксама *сарна.*

**Сэ́рса** *(сэ́рсо)* ‘гульня з абручыкамі’ (гродз., Нар. словатв.). Відаць, праз польск. *serso* ‘тс’ з франц. *cerceau* ‘абруч’, параўн. Варш. сл., 6, 75. Адзначанае ў ТСБМ *серсó* ‘гульня з абручом’ запазычана праз рус. *серсó* ‘дзіцячая гульня з колцам’ таго ж паходжання, гл. Фасмер, 3, 610.

**Сэ́рца** ‘цэнтральны орган кровазвароту’, ‘гэты орган як сімвал перажыванняў, настрою, пачуццяў’, перан. ‘гнеў, злосць’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Касп., Дразд., Сцяшк., Сл. ПЗБ), таксама *сэ́рцо* ‘тс’ (Мал., Сцяшк., Сл. ПЗБ), *сэ́рцэ* ‘тс’ (Нас., Шн. 2, Сл. Брэс., Сержп. Прымхі), ст.-бел. *сэ́рцэ* ‘тс’ (XVI ст., Золтан, Athila, 551); сюды ж *сэ́рца* ‘цэнтральная ўнутраная частка дрэва, стрыжань’ (Сцяшк.), ‘стрыжань’ (Сл. Брэс.), ‘чырвы (масць у картах)’ (Наша ніва, 2002, 15 лют.), *сэ́рцэ* ‘адтуліна ў жаку або рыбацкай сетцы’ (Тарн., Горбач, Зах.-пол. гов.); гл. таксама *серца.* Укр. *се́рце*, рус. *се́рдце*, страж.-рус. *сьрдьце*, польск., н.-луж. *serce*, ст.-польск. *sierce*, чэш., славац. *srdce*, серб.-харв. *ср̏це*, дыял. ‘унутранасці, вантробы’, славен. *srcȩ̂*, балг. *сърце́*, дыял. *сь̑рце* ‘тс’ і ‘жывот, страўнік’, макед. *срце*, ст.-слав. **срьдьце** ‘тс’ і ‘жывот, страўнік’. Прасл. **sьrdьce* ‘сэрца’ < **sьrdьko* ўтрымлівае памянш. суф. *-ko*; каранёвае імя захоўваецца ў **milo-sŕdъ* ‘міласэрны’, **sr̥diti sę* ‘сярдзіцца, злавацца’. Першапачатковае **sьrd-/*sьrdь*, роднаснае літ. *širdìs* ‘сэрца’, лат. *sir̃ds* ‘сэрца; мужнасць; гнеў’, ст.-прус. *seyr* ‘сэрца’, грэч. κῆρ *(<*k̑ērd-)*, гоц. *hairtô-* ‘сэрца’, хец. *kard* ‘тс’ і інш.; гл. Фасмер, 3, 605–606; Слаўскі, SP, 1, 101; Траўтман, 302; Фрэнкель, 986–987; Вальдэ–Гофман, 1, 271–272; Покарны, 579–580; Махэк$_2$, 572; Шустар-Шэўц, 1284–1285; Скок, 3, 316–317; Борысь, 542; Сной, 600; ЕСУМ, 5, 222. Ацвярдзенне *с-* Карскі (1, 357) тлумачыў украінскім і польскім уплывам, дзе, аднак, да гэтага часу формы *serce* і *sierce* сустракаюцца ў гаворках, а распаўсюджанне першай з іх адбылося праз т. зв. культурны дыялект з чэшскай мовы і фіксуецца з пачатку XVI ст. (Басай-Сяткоўскі, Słownik, 314). Параўн. таксама пярэчанні Векслера (Гіст., 207), які па лінгвагеаграфічных прычынах сумняваецца ў такіх уплывах і дапускае тут вынік рэгрэсіўнай асіміляцыі. Першапачатковая семантыка, суадносная з паўднёваславянскай, захавалася ў выразе *натшчэ серца* ‘на пусты страўнік’ (Сержп. Прымхі).

**Сэ́рыё** ‘сярдзіта, сурова; сапраўды, не жартуючы, сур’ёзна’ (Нас.). З польск. *serio* ‘сур’ёзна’, *na serio* ‘без жартаў, усур’ёз’, што да лац. *serio* ‘тс’ ад *sērius* ‘сур’ёзны’. Відаць, на базе прыслоўя мясцовае ўтварэнне *сэ́рыя (сэрíё)* ‘сярдзіты твар; суровасць’ (Нас.), параўн. старое польск. *serjo* ‘паважны, сур’ёзны’ (Варш. сл.). Параўн. *сур’ёзны*, гл.

**Сэс**: *гавары сэс* (Сержп.). Відаць, сапсаванае *сэнс*, гл.

**Сэ́хля** ‘печаная бульба’ (Бяльк.). Няясна; магчыма, экспрэсіўнае ўтварэнне ад *сохнуць* (< **сохля*?), параўн. *сэ́плі* ‘соплі; ледзяшы’ (Сл. ПЗБ), верагодна, экспрэсіўнае.

**Сю-сю-сю** ‘гукі, якімі падзываюць кароў’ (ТС). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *псюх-псюх-псюх* ‘тс’, гл. *псе-псе-псе*.

**Сю́бар** ‘каханак’ (Барад.). Магчыма, дэфармаванае *сябар*, гл.

**Сюго́-о-о-о!** ‘гэтак пастух заве статак у лесе’, *сюго́каць* ‘моцна крычаць у лесе’ (Варл.). Выклічнік, першую частку якога можна суаднесці з *сю-сю-сю* ‘падзыўныя словы для кароў’ (гл.), другую – з узмацняльнай часціцай *-га*, параўн. выклічнік *цю-га!* (гл.). Параўн. рус. дыял. *сыга*, *сыго* для адгону рагатай жывёлы, якое Германовіч (Междом., 68) звязвае з назвамі быка, каровы, вала ў цюрк. *сыгыр*.

**Сюд** ‘тут’ (калінк., З нар. сл.), *сюд-туд* ‘раз-пораз, вельмі часта; узад і ўперад, з аднаго боку ў другі’ (ТСБМ, Сцяшк.), *сюд-не-ту́д, сюд-ту́д, сюд-то-ту́д* ‘тс’ (ТС), з перасэнсаваннем абедзвюх частак і збліжэннем да *тут* (гл.): *сют-тут* ‘хутка’ (Сл. ПЗБ). Скарачэнне з *сюды-туды*; гл. *сюды*, *туды*.

**Сюды́** ‘ў гэты бок; у гэта месца’ (ТСБМ, Нас., Касп., Ласт., Шат., ТС, Сл. ПЗБ, Растарг., Бяльк.), *сюда́* ‘тс’ (Ян.), *суды́* ‘тс’ (Растарг.), *сюды́-туды́* ‘ў розныя бакі, у некаторыя месцы’, параўн. таксама з рознымі суф.: *сюда́е, сюдо́е* ‘ў гэты бок’ (Нас.), *сюдо́й, сюдо́ю* ‘гэтай дарогай, па гэтаму шляху’ (Нас., Бяльк., Ласт., Касп.; бялын., Янк. Мат.; З нар. сл., Сл. ПЗБ), *сюдэ́ма, сюды́ма, сюда́ма, сюдэ́, сюдэ́й, сюда́мух* ‘у гэтае месца, па гэтай дарозе’ (Сл. ПЗБ), *сюдэ́йма* ‘тс’ (Мал.), *сюды́кава* ‘тс’ (Сцяшк.), *сюды́нака* ‘тс’ (Жд. 2), ст.-бел. *сюды* ‘тс’ (1580 г., Карскі, 2–3, 66). Укр. *сюди́, сюд*, рус. *сюда́*, дыял. *сюды́*, стараж.-рус. *сюда, сюду*, польск. *siędy* ‘тут’, ст.-чэш. *sudy* ‘сюды’, чэш. *odsud* ‘адсюль’, старое серб.-харв. *суду* ‘сюды’, славен. дыял. *sǫ̂d* ‘тс’, ст.-слав. **сѫдоу** ‘тс’. Прасл. **sǫda*, якое ўтворана ад указальнага займенніка **sь* і суф. **-nda* < і.-е. **-ndhe*; гл. Фасмер, 3, 822; ESSJ SG, 2, 613–614; Бязлай, 3, 285; формы з мяккім *с-* пад уплывам Р. і Д. скл. займенніка *сей*, гл. (Фасмер, там жа; ЕСУМ, 5, 493). Карскі (там жа) у канцовым *-ды* бачыць “скамянелую” форму Тв. скл. мн. л. Гл. яшчэ ESJSt, 14, 860–861.

**Сю́каць** ‘мачыцца’, *сю́сіць* ‘тс’, *сю́сі, сю́січкі* – выклічнік ужываецца, калі дзіця прымушаюць памачыцца (Нас.). Параўн. укр. *сю́кать, сю́сяти*, рус. *сю́кать, сю́сить* ‘тс’, польск. *siusiać*. З *сікаць* (гл.) у выніку экспрэсіўнага змянення (Фасмер, 3, 822; ЕСУМ, 5, 494). У аснове, відаць, гукаперайманне, што перадае цурчанне, параўн. Горбач, Дитяч., 2.



**-сюль** у прыслоўях *адсюль, дасюль, пасюль* (ТСБМ) і пад., ст.-бел. *отсюль, досюль* (Альтбаўэр). Пачатковы элемент узыходзіць да ўказальнага займенніка **sь* (гл. *сей*), другая частка да канцавой партыкулы **lě-/*-li*; фанетычныя змены па аналогіі з *адкуль, пакуль, адтуль* і пад., дзе мяркуецца зыходнае *ô*, параўн. рус. *отко́ль* ‘адкуль’ (Шуба, Прыслоўе, 116), параўн. беласт. *сёлю, сю́лю* ‘гэтай дарогай, што ўяўляе’, паводле Громыка (Зб. памяці Закрэўскай, 147), Тв. скл. адз. л. старых *-ĭ*-асноў, параўн. *сель*, гл. Магчымасць кантамінацыі з *сюды* (гл.), параўн. ESJSt, 13, 799.

**Сю́мзяць** ‘плакаць, капрызіць’ (Сцяшк. Сл.). Відаць, гукапераймальнага паходжання, параўн. *румзаць* ‘тс’ (гл. *румза*).

**Сюр-сюр-сюр** ‘падзыўныя словы для авечак’ (ДАБМ, камент. 896), *сю́ры-сю́ры* ‘тс’ (Бяльк.), *сюр* ‘падзыванне ягнят’ (Касп.), сюды ж, відаць, *сю́равый* ‘суматошлівы’ (Клім.). Відаць, гукапераймальнага паходжання, параўн. *сю́ркаць* ‘сікаць’ (Саевіч, Derywacja, 230). Значэнне ‘суматошлівы’, магчыма, звязана з паводзінамі авечак пры захворванні на фасцыялёз, параўн. *матыліца* ‘фасцыялёз’ і ‘рухавы, непаседлівы чалавек’ (гл.).

**Сю́ргаць** ‘сёрбаць, есці што-небудзь рэдкае’ (Бяльк.), *сю́ргаўка* ‘птушка юрок (?)’ (астрав.; Цыхун, вусн. паведамл.). Гукапераймальнае, гл. наступнае слова.

**Сю́ркаць** ‘цвыркаць’, *сю́ркаўка* ‘птушка берасцянка’ (глыб., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *сю́ркати* ‘цвыркаць’, польск. *siurczeć* ‘цурчэць; цячы цурком’, н.-луж. *śurkotaś* ‘цвыркаць, шчабятаць; цурчэць’. Гукапераймальнае, параўн. ЕСУМ, 5, 494.

**Сюрпры́з** ‘нечаканы падарунак; нечаканае здарэнне’ (ТСБМ), ‘неспадзяванка’ (Гарэц.). Запазычана праз рус. *сюрпри́з* ‘тс’ з франц. *surprise* ‘нешта дзіўнае, неспадзяванка’ ад дзеяслова *surprendre* ‘дзівіцца, здзіўляцца’ (Фасмер, 3, 823; ЕСУМ, 5, 494).

**Сюрту́к** ‘бурка, шырокая адзежына з даматканага сукна з башлыком’ (Цых.). Запазычана з рус. *сюртук* ‘сурдут’, што з франц. *surtout* ‘шырокая верхняя адзежына’ (Фасмер, 3, 823; ЕСУМ, 5, 495).

**Сю́сік** ‘слабы, знясілены хлопец’ (Сл. рэг. лекс.), *сю́ська* ў выразе: *напі́ўся як сюська* (брасл., Цыхун, вусн. паведамл.), з нияс-

ным значэннем: *ідзе нейкая сюська* (Л. Калюга). Цёмнае слова; магчыма, да *сюкаць* (гл.), першапачаткова пра таго, хто мочыцца ў ложку.

**Сюсю́каць** 'размаўляючы, замяняць шыпячыя гукі свісцячымі'; 'размаўляць па-дзіцячаму' (ТСБМ, Ласт.), 'гаварыць шэптам; змаўляцца' (Яўс.), *сюсю́кацца* 'гусці (пра пчол)' (лід., Сл. ПЗБ). Укр. *сюсюкати* 'тс', 'гаварыць з прысвістам, падобна дзіцяці', рус. *сюсю́кать* 'тс'. Гукапераймальнае (Фасмер, 3, 823).

**Сют** 'сюды': *ані сют, ані тут* 'без руху' (Федар. 4), *сют-тут* 'хутка' (дзятл., Сл. ПЗБ). З *сюд(ы)* (гл.), якое рыфмуецца з *тут*.

**-ся** – часціца ў зваротных дзеясловах, у фальклоры захавалася ў самастойным ужыванні: *Богу ся молити* (Бяс.), *ни ся ен мне соснився, ни ся у казцы сказався* (Рам. 3), ст.-бел. *сѧ*: *хто сѧ ей помолить* (1489 г.; Карскі, 2–3, 386). Укр., рус. *-ся*, ст.-рус. *ся*, польск. *się*, в.-луж. *so*, *sej*, н.-луж. *se*, палаб. *sǎ*, чэш. *se*, ст.-чэш. *sě*, славац. *sa*, серб.-харв. *se*, славен. *se*, балг., макед. *се*, ст.-слав. *сѧ*. Прасл. *sę* з'яўляецца В. скл. зваротнага займенніка *сябе* (гл.) (Бязлай, 3, 220; Шустар-Шэўц, 1329–1330); роднаснае ст.-прус. *sien* '-ся', да і.-е. **se- (*sebh-)/*su̯e-* 'асобна, сам для сябе' і ў якасці 'зваротнага займенніка', гл. Фасмер, 3, 823; Махэк₂, 538; Борысь, 547; Траўтман, 251–252; ЕСУМ, 5, 495. Карскі (2–3, 71) адносіць сюды і часціцу ў прыслоўях *інося*, *усялякся*, *цяперся* (гл.), параўн. *ва́лейся* 'лепей' (Арх. Федар.). Гл. таксама *се₃*.

**Ся** – выгук, каб спыніць гутарку: *Sia! dzieci* (Варл.), 'ша!': *Ціха, ся!* (ашм., Стан.). Запазычана з т. зв. літвацкага дыялекта мовы ідыш, дзе замест *š* вымаўляецца *s*, параўн. Астравух, Ідыш-бел. сл., 27. Гл. *ша*.

**Ся́бар** 'друг, прыяцель, таварыш' (ТСБМ, Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, ЛА, 3), 'швагер' (шчуч., Сл. ПЗБ), 'кампаньён, супольнік' (паст., Сл. ПЗБ), 'халасцяк (стары)' (Мат. Гом.), *сябр*, *себр* 'родзіч, брат; сябар' (Нас.), *ся́бер (siaber)* 'супольнік у кожнай справе' (Пятк. 2, Сержп., ЛА, 3): *на вяселлі маладым даруюць паўкаровы... паўкалоды пчол або што другое, каб быць сябрамі* (Сержп. Прымхі), 'пакупнік і прадавец адзін для другога' (чырв., З нар. сл.), 'таварыш у мове злодзеяў' (Арх. Федар.), *сябёр* 'чалавек, які што-небудзь купіў у другога ці прадаў другому' (Бір. Дзярж.), 'здаравенны тоўсты чалавек, брысюга; ненадзейны таварыш' (Бяльк., Юрч.), *ся́бра* 'ўдзельнік, пайшчык, супольнік,



калега' (Ласт.), 'прыяцель, кампаньён' (Касп., Варл.), *сябрава́ць* 'дружыць' (Касп.), 'працаваць супольна' (Ласт.), 'узаемна дапамагаць у плытніцкай справе' (віл., Сл. ПЗБ), *сябрава́цца* 'прымазвацца, набівацца ў супольнікі' (Пятк. 2), 'супольна дзяржаць пчол', *сябро́ўскія (сябе́рныя) пчолы* 'супольныя пчолы, якімі карыстаюцца два гаспадары' (віл., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *сябэ́рскія пчолы* 'тс' (ашм., Сл. ПЗБ), *сябэ́рка* 'суполка на пчол' (паст., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *себры* 'назва людзей у ВКЛ, якія сумесна карысталіся ворнай зямлёй, прамысловымі ўгоддзямі і інш.' (Ст.-бел. лексікон), *се́бреный* 'агульны, супольны' (там жа). Укр. *ся́бер* 'удзельнік зямельнага ўладання', 'кампаньён у гандлёвым прадпрыемстве', 'сапернік', 'швагер', дыял. палес. *сябро́* 'няўклюдны, нялоўкі чалавек', рус. *сябёр* 'сусед, сябар, пайшчык; член суполкі з правам голаса', паўн.-рус. *сябра́*, *ся́бра* 'суполка, арцель, агульная справа', стараж.-рус. *сѧбръ* 'сусед, член адной грамады', серб.-харв. *сё̑бар* 'земляроб', ст.-серб. *себьр* 'селянін, член грамады свабодных земляробаў', *себрь* 'палавіншчык, удзельнік, кампаньён', славен. *srebə̀r* 'селянін'; сюды ж каш. *sibřec są* 'падлізвацца, падлабуньвацца', польск. аргат. *siewrać* 'размаўляць на зладзейскім жаргоне'. Адзінай этымалогіі, таксама як і адзінай славянскай праформы, няма. Прасл. **sębrъ* узнаўляецца на аснове запазычанняў са славянскіх моў: алб.-таск. *sëmbër* 'здольнік, саўладальнік скаціны', новагрэч. σεμπρος 'здольнік', венг. *cimbora* 'сябар, прыяцель', арум. *simbru* 'земляроб, які мае аднаго вала і ўступае ў суполку з іншым уладальнікам вала', рум. *sîmbră* 'грамада, абшчына'; узнікла, па адной версіі, з **sem-ro* (з устаўным *-b-*) і звязана з **sěmьja* (Трубачоў, История терм., 166; Каліма, AfslPh, 17, 343). Па іншай версіі, прасл. **seberъ* роднаснае гоц. *sibja* 'роднасць', ст.-в.-ням. *sippa* 'тс', ст.-інд. *sabhā́* 'сукупнасць, збор' (Мее, 14; 342; Атрэмбскі, WSl, 16, 188). Падрабязней агляд ранейшых версій гл. Фасмер, 3, 824 з літ-рай. Гл. таксама Ляпуноў, Сб. ОРЯС, 101, 3, 257–263; Папоўска-Таборска, ZNGd, Slavistyka, 6, 219–226; Гаспарыні, RiS, 8, 3–28 (звязвае семантыку слова з экзагаміяй); SEK, 4, 270 і наст. Няясныя адносіны да літ. *sė̃bras* 'палавіншчык, таварыш', лат. *sę̄brs* 'сусед' (запазычанні з бел. *сябр* ці спрадвечныя балцкія формы без насавога?). Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 495. Борысь (Etymologie, 207) значэнне 'прыяцель' лічыць беларускай семантычнай інавацыяй.

**Сябе́**, Р. скл.; Д., М. скл. *сабе́*, Тв. скл. *сабо́ю*, займеннік зваротны; указвае на адносіны дзеяння да таго, хто ўтварае (дзейніка) (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.), Р. скл. *себе* (ТС), ст.-бел. *себе* 'тс' (Альтбаўэр). Укр. *се́бе́, собі́, собо́ю*, рус. *себя́, себе́, собо́й, собо́ю*, ст.-рус. *себе, собѣ, собою*, польск. *siebie, sobie, sobą*, в.-луж. *sebje, sebe, sobu*, н.-луж. *sebje, sobu*, палаб. *sibě*, чэш. *sebe, se, sobě, si, sebou*, славац. *seba, sa, sebe, sebou*, серб.-харв. *сѐбе, сѐби, сѐбом*, славен. *sêbe, se, sêbi, sebėj*, балг. *се́бе, си, се*, макед. *себе (си), се*, ст.-слав. **себе, себѣ**. Прасл. **sebe*, В. скл. **sę*; **sebe* ўзнікла з **seve* пад уплывам Д. скл. адз. л. **sebě*; параўн. літ. **savę̃s, sãvo* 'сябе', **sebě* 'сабе' роднаснае ст.-прус. Д. скл. *sebbei* 'сабе', оск. *sífei*, лац. *sibī* 'сабе', грэч. σφί(ν) 'яму', літ. *sávei* (*v* – з Р. скл. адз. л., параўн. вышэй); да і.-е. **s(e)u̯-*/**s(e)u̯o-*/*se* з першасным значэннем 'убаку; апрача'. Гл. Траўтман, 251–252; Фрэнкель, 767; Скок, 3, 211; Фасмер, 3, 586, 588; Шустар-Шэўц, 1278; Бязлай, 3, 220; ESSJ SG, 2, 600.

**Ся́бра**. Гл. *сябар*.

**Сябры́на** 'кола, асяроддзе сяброў; сяброўская бяседа' (ТСБМ), 'суполка, арцель' (Ласт.), 'хаўрус работнікаў' (Гарэц.), 'блізкія па поглядах людзі, дружбакі; талака, грамада' (Янк. БП, Сцяшк.), 'супольнікі' (Сержп. Прымхі). Зборны назоўнік ад *сябар* (гл.), параўн. *себра*, гл.

**Сява́лка** 'лубянка для ручной сяўбы' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Нік. Очерки, Др.-Падб., Шат.; ЛА, 5), *сева́лка, севя́лка, сіва́лка* 'тс' (шальч., докш., рас., круп., Сл. ПЗБ), *сіва́лка* 'тс' (Бяльк.); сюды ж *севе́ялка* (смарг., Сл. ПЗБ) з дадатковай апеляцыяй да *ве́яць*, гл. Укр. *сіва́лка*, рус. *сева́лка* 'тс'. Дэрыват з суф. *-алк* ад **сяваць*, параўн. *высяваць, засяваць*, укр. *сіва́ти*, рус. *сева́ть*, шматкратнага дзеяслова да *сеяць* (гл.); да словаўтварэння гл. Сцяцко, Афікс. наз., 51.

***Сява́р**, *сева́р* 'сейбіт' (ТС, Выг., Сл. Брэс.). Параўн. старое польск. *siewiarz* 'тс'. Рэгіянальнае ўтварэнне ад дзеяслова **сяваць* з суф. *-ар*, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 30; Вярхоў, Наз., 26.

**Сявё́нька** 'сявалка' (ТСБМ, Нас.; лях., Янк. Мат.), *сявёнка, сявё́нька* 'тс' (Сл. ПЗБ, ЛА, 5), *сявё́нка* 'тс' (Сцяшк.), *севё́нка* (воран., Сл. ПЗБ), *севе́нь* 'тс' (ТС). Этымалагічна тое ж, што і *сявалка* (гл.), але з іншым суфіксам.

**Сяве́ц$_1$** 'сейбіт' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Бяльк., Сл. ПЗБ, Варл., Мат. Гом., Сцяшк.), *севе́ц* 'тс' (Арх. Вяр.). Да *сеяць*, гл. папярэднія словы.



**Сяве́ц$_2$** 'невялікая птушка атрада сеўцападобных' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'птушка Charadrius pluvialis L.' (Касп.), 'птушка, якая прылятае да нас, калі сеюць жыта' (Варл.; мёрск., ЖНС), *се́ўка, сі́ўка* 'птушка Charadrius pluvialis L.' (Ласт.). Параўн. укр. *си́вка* 'птушка Pluvialis Briss', *сі́вка* 'птушка Charadrius pluvialis L.', рус. *си́вка, си́вчик* 'тс', польск. *siewka* 'тс', *siejka* 'птушка Pluvialis L.', *siewnica, posewnica* 'птушка з сям'і кнігавак, Squatarola helvetica'. Няясна; звычайна звязваюць з *сеяць*: *як пачынаюць сеіць, сяўцы лётаюць і крычаць* (ЖНС, 74), параўн. таксама Брукнер, 487; Варш. сл., 6, 110. Пра магчымасць збліжэння з *сівы* (гл.) сведчыць іншая назва птушкі *сернік$_2$* (ад *серы* 'шэры'), гл. Параўн. ЕСУМ, 5, 224; Антропаў, Назв. птиц, 370.

**Сяг** 'мера даўжыні' (Я. Сіпакоў). Параўн. укр. *сяг* 'сажань; мера даўжыні ў досегу рук (каля 3–4 м)', рус. *сяг* 'адлегласць у межах дасягання рук', польск. *siąg* 'мера даўжыні', чэш. *sáh* 'сажань'. Вытворнае ад *сягаць*, гл. Насуперак Праабражэнскаму (2, 248), не звязана з *сігаць* (гл.), параўн. таксама пярэчанні ў Фасмера, 3, 825.

**Сягава́ць** 'крычаць, лямантаваць' (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Сяга́ць** 'ісці, рухацца', 'прасціраццa, даходзіць да якой-небудзь мяжы, узроўню і пад.' (ТСБМ), 'працягваць руку, каб што-небудзь узяць' (Стан.), 'накіроўвацца' (Сцяшк. Сл.), *сіга́ць* 'імкнуцца, жадаць, дамагацца' (Варл.), часцей з прыстаўкамі: *дасяга́ць, прысяга́ць* (гл. *прысяга*), ст.-бел. *сѧгнути: сѧгнулъ рукою* (Альтбаўэр). Укр. *сяга́ти, сягну́ти* 'даставаць, хапаць', рус. *сяга́ть*, польск. *sięgać* 'дасягаць, выцягваць руку', в.-луж. *sahać* 'даставаць; ісці вялікімі крокамі', н.-луж. *segaś* 'выцягваць руку; даставаць, хапаць', чэш. *sahat* 'тс', славац. *siahať* 'даставаць, хапаць', серб.-харв. *сёгнути се* 'пацягнуцца, працягнуць руку', славен. *séči* 'тс', балг. *пася́гам* 'працягваю руку', макед. *сега* 'сягаю', ст.-слав. **сѧгнѫти** 'працягнуць руку'. Прасл. **sęgti*, **sęgati* роднаснае літ. *sègti* 'зашпільваць', *sagà* 'засцежка, гузік', *sãgas* 'пятля', лат. *segt* 'пакрываць', ст.-інд. *sájati* 'прылягае, прымыкае', ст.-перс. *frahanjati* 'вешае', ірл. *suanem* 'канат'; да і.-е. **seg-*, **seng-* 'вязаць, злучаць, датыкацца'; гл. Траўтман, 252; Покарны, 887; Фасмер, 3, 825; Скок, 3, 214; Шустар-Шэўц, 1264; Борысь, 547; супраць сувязі з літ. *siekti* 'сягаць, дасягаць', *sieknis* 'сажань' Міклашыч, 291; Махэк$_2$, 535, таксама Бязлай (3, 221) па

фанетычных прычынах; гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 495–496; Анікін (Этимология–1983, 48 і наст.) звязвае славянскае слова з герм. **sink$^w$an*, (параўн. гоц. *sagqjan*, ст.-в.-ням. *senken*, ст.-сакс. *sincan* і г. д.), у семантычным радзе яшчэ ёсць значэнні ‘апускацца, асядаць; тануць’.

**Сяге́начы** *(сеге́ночы)* ‘гэтай ночу, у гэту ноч’ (Нас., Сержп. Грам.), *се́начы, сёначы* ‘тс’ (рагач., Сл. ПЗБ). Карскі (2–3, 74) форму са слоўніка Насовіча тлумачыць як *сее ночи*; тады да *сей* і *ноч* у Р. скл. адз. л., магчыма, з далейшым сцягваннем у *сёначы, сеначы* (апошняе, відаць, да прасл. **si nokti*), гл.; параўн. больш празрыстае *сяе́начы* ‘тс’, гл. Параўн. таксама *сёлета, сёння*.

**Сяголе́та** ‘ў гэтым годзе’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ; маг., мін., гом., ЛА, 2; Шат., Растарг.), *сего́лето* ‘тс’ (ТС). Карскі (2–3, 74) выводзіў з *сего лета*, гл. *сёлета*. Сюды ж *сяго́летак* ‘жывёла, што нарадзілася ў гэтым годзе’ (Касп., Шат.), *сеголе́ток* ‘тс’ (ТС), *сяголе́тка* ‘цялушка гэтага года’ (Сл. ПЗБ) і інш.

**Сяго́ння**, *сёння* ‘ў гэты дзень’: у знач. наз. *сягоння* ў *сёння* ‘цяперашні дзень’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., ЛА, 2), таксама *сяго́дня, сяго́ня, сого́нні, сяга́нні, сяга́ння, сяга́ня, сяго́нечы, сяго́ніка, сяга́ніка* ‘тс’ (Шн. 1, Касп., Нас., Шат., Пятк. 2, Бяльк., Гіл., Федар. 4, Сл. ПЗБ), ст.-бел. *сегодни* ‘тс’ (Альтбаўэр). Укр. *сього́дні*, рус. *сего́дня* ‘тс’. Вынік сцягнення Р. скл. стараж.-рус. *сего дьне* < **сь дьнь* ад указальнага займенніка **сь-* і наз. **дьнь* ‘дзень’ з поўным прыпадабненнем *д* да *н*, гл. Карскі, 1, 351; Фасмер, 3, 589; Праабражэнскі, 1, 179; ESSJ SG, 2, 620; ЕСУМ, 5, 493. Гл. *сёння, сяння*.

**Сядаві́ць** ‘садзіць’ (Сцяшк.), *сядавіцца* ‘сядаць, садзіцца’ (Сцяшк., Сл. ПЗБ), *сядове́тыся* ‘тс’ (кам., Сл. ПЗБ), *седавіцсе (siedawicsie)* ‘тс’ (Федар. 1). Каўзатыў ад *сядаць* (гл.) са значэннем ‘прапанаваць сесці; рабіць так, каб нехта сеў’, параўн. адносіны *ставіць* і *стаяць* (гл.). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *садавіць* ‘дапамагаць, прапанаваць сесці’ (гл.), для якога дапускаецца запазычанне з польскай, што нельга выключыць па лінгвагеаграфічных прычынах, аднак магчымы і другасны каўзатыў ад *саджаць, садзіць*, гл. Да словаўтварэння параўн. ст.-бел. *седовати, седывати* ‘паседжваць’ (Сл. Скар.), суфікс якіх перадаваў шматкратнасць дзеяння.

**Сяда́к** ‘той, хто едзе, наняўшы вазака’ (Нас.), ‘пасажыр’ (Ласт., Некр. і Байк., Мат. Гом., Сцяшк. Сл.; парыц., Янк. Мат.), такса-



ма *сядо́к* ‘тс’, ‘коннік, вершнік’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Утворана ад *сядаць* (у павозку, сані і інш.), у пары з *база́к* ‘фурман’ (гл.), форма з суф. *-ок*, магчыма, пад уплывам рус. *седо́к* ‘тс’ або *яздок*, гл.

**Сяда́ць** ‘садзіцца’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Стан., Сл. ПЗБ), *сяда́й(це)* ‘прапанова, загад сесці’ (ТСБМ), *седа́ць* ‘садзіцца’ (ТС), ст.-бел. *седати* ‘тс’ (Сл. Скар.). Параўн. укр. *сіда́ти*, польск. *siadać*, чэш. *sedati*, славен. *sedati*, серб.-харв. *сёдати*, балг. *ся́дам*, ст.-слав. **сѣдати**. Шматкратны дзеяслоў да *сядзець*, гл.

**Сяда́ш** ‘рэпік, Eupatorium cannabium L.’ (Касп.), *сяда́ч* ‘тс’ (Кіс.). Параўн. укр. *сіда́ш* ‘тс’, рус. *седа́ч* ‘тс’. На падставе польск. *szadziec* ‘тс’, славац. *šedivec* ‘тс’ Каламіец (гл. ЕСУМ, 5, 250) звязвае ўкраінскі тэрмін з *сідий* ‘сівы, шэры’, бо расліна мае сіняваты колер, дапускаючы для іншых назваў (польск. *sadziec*, чэш. *sadec*) уплыў мазурэння *(sz, š > s)*, што не пераконвае. Няясна.

**Сядзе́ць** ‘займаць сядзячае становішча’, ‘знаходзіцца, праводзіць час’, ‘быць у зняволенні’, ‘размяшчацца дзе-небудзь’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Касп., Сцяшк., Ласт., Стан., Бяльк., Сл. ПЗБ), ‘кватараваць’ (узд., Жд. 1), *седе́ті* ‘сяліцца, жыць’ (пін., З нар. сл.), ст.-бел. *сѣдѣти, седѣти, седети* ‘тс’ (Альтбаўэр), *сѣдѣти, седети* ‘пасяляцца, жыць, пражываць’, ‘валодаць выдзеленым надзелам зямлі’ (Статут 1529 г., гл. Мацкевіч, Грынавецкене, ЖНС, 206 і наст.). Укр. *сиді́ти*, рус. *сиде́ть*, польск. *siedzieć*, в.-луж. *sedźeć*, н.-луж. *sejźeś*, чэш. *seděť*, славац. *sedieť*, серб.-харв. дыял. *сjѐдити*, славен. *sẹdéti*, балг. *седя́*, макед. *седи*. Прасл. **sěděti*, **sědi̯ǫ* адпавядае літ. *sėdė́t*, лат. *sêdêt*, гоц. *sitan*, ст.-ісл. *sitja* ‘сядзець; жыць’; балта-славянскія формы з доўгім галосным у корані адпавядаюць гоц. прош. часу *sētun* < і.-е. **sēd-*, параўн. яшчэ ст.-інд. *sídati* ‘ён сядзіць’, лац. *sīdō* ‘саджуся’, якія ўзыходзяць да рэдуплікаванага **sizd-* (Вальдэ–Гофман, 2, 509). Чэшскія і лужыцкія формы (без даўгаты) адпавядаюць лац. *sedēre* ‘сядзець’ (Шустар-Шэўц, 1280). Фартунатаў (KZ, 36, 50) рускае і ўкраінскае **сидѣти* < **sěděti* тлумачыць як вынік асіміляцыі ў 2-й і 3-й ас. адз. л.: **sědiši*, **sědītъ*; у беларускіх формах Карскі (1, 226) бачыць захаванне старога стану. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 618; Бязлай, 3, 222; Махэк$_2$, 539; Борысь, 545–546; ЕСУМ, 5, 226–227; Шаўр,

Studia Etym. Brun., 3, 367 (скарачэнне праславянскай даўгаты лічыць другаснай з'явай з мэтай пазбыцца аманіміі з адпрыметнікавым дзеясловам ад *sěd- 'сівы'). Гл. *сесці*.

**Сядзёлка** 'падсядзёлак, кульбачка' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ), *сядзёлак* 'тс' (Сл. ПЗБ), *седзёлка (siedziołka)* 'прыстасаванне для лепшага ўмацавання аглоблі' (Маш.). Гл. *сядло*.

**Сядзёр** 'сок' (Стан.): *сядзёр кляновы* (гродз., П. Сяўрук), *сядзёрысты* 'сакавіты' (барыс., леп., Стан.). Няясна; выраз *сядзёрысты сок, гарэлка* 'даволі моцны' (бягом., там жа) Станкевіч параўноўвае з *сядравы (вецер)* 'халаднаваты', варыянта з пратэзай да *я́дравы* 'халодны': *ядравая раніца, халодная* (барыс., Сл. ПЗБ), гл. *сядравы*. Менш верагодна з *сідр* 'слабае віно з яблычнага соку' (ТСБМ), што з франц. *cidre* 'напой з яблыкаў'.

**Сядзі́ба** 'жылыя і гаспадарчыя пабудовы разам з садам, агародам', 'прысядзібны ўчастак' (ТСБМ, Нас., Мядзв., Касп., Шат.; ашм., Стан.; ЛА, 4; Сцяшк., Яшк.), 'агародная зямля' (Бяльк.), *сядзіба, сядзіма* 'двор з агародам; месца жыхарства' (Сл. ПЗБ), *сыды́ба* 'тс' (Клім.), *седзіба* 'тс' (ТС), 'задніца' (Сержп. Грам.). Польск. *siedziba* 'тс'. Дэрываты ад прасл. *sěděti 'сядзець' (Борысь, 545–546) з суф. *-(i)ba-*, магчыма, па ўзору *садзіба* (гл.), дзе *-і-* ў суфіксе заканамернае, або *сяліба* (гл.), параўн. *выбіраючы место для сялібы, трэба глядзець, каб не трапіць часам на такое мейсцо, дзе ўжэ была сядзіба* (Сержп. Прымхі, 116).

**Ся́дзьба** 'двор і агародная зямля' (Бяльк.), 'прысядзібны ўчастак' (Яўс.). Параўн. старое славін.-каш. старое *seʒba* 'месцажыхарства, сядзіба'. Прасл. *sedьba < *sědti 'сесці', *sěděti 'сядзець' з суф. *-ba* (гл. Варбат, Марфан., 98), параўн. *сядзьба́* 'сядзенне' (Ласт.).

**Сядло́** 'сядзенне для конніка' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Стан.), 'частка прасніцы, на якой сядзяць' (Жд. 2, Шатал., Сл. ПЗБ; круп., Нар. сл), 'задняя частка штаноў' (Серб. Вічын), *седло́* 'частка прасніцы' (Уладз.), сюды ж *сядла́ць* 'накладаць сядло' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Стан.). Укр. *сідло́*, рус. *седло́*, старараж.-рус. *седьло*, польск. *siodło*, в.-луж. *sedło*, н.-луж. *sodło*, палаб. *sedlü*, чэш., славац. *sedlo*, серб.-харв. *сѐдло*, славен. *sédlo*, балг. *седло́*, макед. *седло*, ст.-слав. **осєдълати**. Прасл. *sedьlo/ *sedъlo роднаснае гоц. *sitls* 'сядзенне', ст.-в.-ням. *seʒʒal* 'крэсла', лац. *sella* 'сядзенне', грэч. ἑλλά 'кафедра'; з іншай ступенню



агаласоўкі: англ.-сакс. *sadol*, ст.-в.-ням. *satul*, *satal* 'сядло', супраць апошніх супастаўленняў Бязлай (3, 223), які, спасылаючыся на Клюге (626), заўважае, што германцы ў часы Цэзара яшчэ не ведалі сядла. Паводле Мартынава (Лекс. взаим., 108 і наст.; Язык, 25 і наст.), славянскае пранікненне, што дало прагерм. *sadula* 'тс'. Далей да *сядзець*, прасл. *sěděti, да і.-е. *sed-. Супраць рэканструкцыі *sedlo і меркавання аб калькаванні ст.-в.-ням. *satal* (Ваян (RÉS, 12, 235) Фасмер, (3, 589–590), параўн. укр. і ст.-слав. формы. Гл. яшчэ Мее, 419; Траўтман, 259; Брукнер, 491; Махэк$_2$, 539; Шустар-Шэўц, 1279–1279; Скок, 3, 213; ЕСУМ, 5, 250–251; ESJSt, 13, 809.

**Сядмі́ца** 'сямітыднёвы пост' (Інстр. 2). Параўн. стараж.-рус. *седмица* 'тыдзень'. Запазычана са ст.-слав. **седмица** 'тыдзень' або ўтворана непасрэдна ад ст.-слав. **седмь** 'сем', параўн. у Скарыны *седмицею* 'сем разоў; у сем разоў' (Сл. Скар.), што з'яўляецца калькай з грэч. ἑβδομάς 'сем, сямёрка; тыдзень' (Фасмер, 3, 590); пераасэнсавана як 'вялікі пост перад Вялікаднем'. Малаверагодным падаецца непасрэднае вывядзенне з *сядмы* 'сёмы' (з рус. *седьмой*?), гл. Сцяцко, Афікс. наз., 214.

**Сядно́** 'усё роўна; як быццам' (ст.-дар., ганц., Сл. ПЗБ, Янк. 3; люб., Ск. нар. мовы), *седно* 'усё роўна' (ТС). Утворана ў выніку сцягвання выразу *усё адно*.

**Ся́дравы**, *сядро́вы* 'халодны, сцюдзёны, золкі' (баран., лях., Сл. ПЗБ; ЛА, 2, Сцяшк.), *ся́драны* 'тс' (чэрв., Сл. ПЗБ; ЛА, 2), *ся́драва* 'халаднавата' (Нас., Чач.), *ся́драва, ся́драво, сядро́ва* 'холадна, сцюдзёна' (лях., асіп., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), *сідра́ва* 'халаднавата, з сырым ветрам' (Бяльк.), *ся́драна* 'сцюдзёна, холадна' (чэрв., ЛА, 2), *сядры́ца* 'лютаваць (пра мароз)' (чач., Жыв. НС). Паводле аўтараў Сл. ПЗБ (там жа), з літ. *siaudrùs* 'гулкі, звонкі ад холаду', *siadìmas* 'гул, гудзенне, шапаценне', што не пераконвае. Іншы шлях этымалагізацыі адкрываюць гэтыя словы ў значэнні 'цвердаваты, хрумсткі, ядраны' (лях., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), параўн. *сядзёр* (гл.), што дазваляе звязаць іх з наступнымі словамі, гл. Да семантыкі параўн. *ядране́ць* = рус. *холодать* (Некр. і Байк.).

**Сядро́$_1$** 'палатно ў сетцы' (ТС). Няясна. Магчыма, збліжэнне з польск. *jadro* 'сетка для лоўлі рыб альбо птушак, выпуклая яе частка', каш. *jadro* 'сетка з матнёй', 'складка ў адзенні', '(рэд-

кая) тканіна', чэш. *jadro* 'ўнутранасць рыбацкай сеткі', славен. *jádran* 'матня ў рыбацкай сетцы', ст.-слав. ıадро 'выгін, выпукласць, складка' (гл. *ядро*), для якога выводзіцца значэнне 'выпукласць, звісаючая частка, матня' з першапачатковага 'нешта набухшае, абвіслае' (гл. Слаўскі, 1, 485–486; ЭССЯ, 6, 43–44; SEK, 2, 324–325). Аднак цяжка вытлумачыць пачатковае *с-* (магчыма, уплыў дзеяслова *сядзець*, гл. *сядро₃*).

**Сядро́₂** 'здор' (брэсц., ЖНС), сюды ж, відаць, ст.-бел. *садра: чрева его садра зубъ слоновых*, што перакладаецца як 'пласціна' (Альтбаўэр), *садръ: кости его садръ сталныи; подобіа садра зубнаго* з няясным значэннем (КГС). Параўн. рус.-ц.-слав. *садра* 'загусцелая вадкасць', серб.-ц.-слав. *садра* 'тс', чэш. *sádra* 'гіпс', славац. *sadra* 'тс', славен. *sadra* 'тс', серб.-харв. *са̏дра*, *сѐдра* 'гіпс, вапнавы нацёк', гідронім балг. *Седрач*, харв. *sedro* 'порысты камень'. Апошняе Махэк₂ (535) выводзіць ад кораня **sęd-* са старадаўнім суфіксам *-r-*, што фармальна і семантычна магчыма, але як амонім да разгледжаных слоў; *сядро < сядзець*, г. зн. 'тое, што асела на кішках', параўн. *сала*. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 825; Скок, 3, 185; Бязлай, 3, 213 (узводзяць да прасл. **sędra*, што мае і.-е. паралелі); Вештарт, Лекс. Палесся, 134; Дурыданаў, БЕ, 23, 1–2, 105–108.

***Сядро́₃**, *седро́* 'задняя частка штаноў' (стол., Нар. ск.), 'мянушка чалавека, шырокага ў касцях, з вялікай тазавай часткай' (Альп.). Словаўтваральны варыянт назоўніка ад сядзець з суф. *-р-*, параўн. *сядло, садно, сядро₁*.

**Сяду́ра** 'нерухавы, пасіўны чалавек' (ТСБМ, Бяльк.). Утворана ад *сядзець* (гл.) пры дапамозе суф. *-ур-а* "з экспрэсіяй зніжанасці", гл. Сцяцко, Афікс. наз., 70; з іншым экспрэсіўным суф. *-эр-а: сядо́ра* 'жанчына, што сядзіць на адным месцы' (Барад.).

**Сяду́шкі** 'ежа з яец, смажаных на сале' (Сцяшк.). Відаць, да *сядаць* (гл.), аднак матывацыя не зусім зразумелая.

**Сяды́-тады́** 'часам, часамі, зрэдку, іншы раз, калі-нікалі' (Сл. ПЗБ, Ск. нар. мовы). Першая частка ад *заўсёды*, утворана аналагічна ад *тады*; параўн. *сяк-так* і пад.

**Сяе́начы** 'гэтай ноччу' (Бяльк., Ян.), *сее́начы* 'сёння ўночы' (Пятк. 2). Сцягненая форма, параўн. *сяй ночы а паўночы* (Бяс., Ласт.), гл. *сей, ноч*.



**Сяж** 'збудаванне для лоўлі рыбы ноччу' (ПСл). Гл. *сежа*.

**Ся́жань**, побач з *са́жань* 'мера ў стан чалавека, як можна сягнуць уверх рукой, роўная 3 аршынам' (Ласт.). Параўн. старажрус. *сяжень, сажень* 'мера даўжыні'. Да прасл. **sęžьnь*, вытворнага ад **sęgati*, гл. *сягаць*. Выказваецца меркаванне пра наяўнасць рэканструяваных варыянтаў прасл. **seg-/*sog-* без назалізацыі (параўн. Анікін, Этимология – 1983, 55), гл. таксама *сажань*.

**Сяйбі́т** 'сявец, сейбіт' (Некр. і Байк.). Гл. *сейбіт, сяўбіт*.

**Ся́йва** 'ззянне': *паўночнае сяйва* (Спадчына, 1995, 6, 256). Назоўнік ад **сяць* 'ззяць', параўн. укр. *ся́ть* 'тс'; гл. *ззяць₂*; сюды ж *с'а́йнуты, с'а́йнути* 'бліснуць, успыхнуць, прагарэць' (аб дровах)' (Клім.; кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.).

**Сяйво́** 'россып; тое, што сыплецца' (ТСБМ), 'пасяўная пара', 'пыл' (Сцяшк. Сл.). Вытворныя ад *сеяць*, гл.

**Сяймі́га** *(сеймі́га)* 'хутка, у адзін момант' (Сцяшк.). Сцягненая форма выразу, што ўзыходзіць да спалучэння ўказальнага займенніка *сей* (гл.) з назоўнікам *міг* (гл.) у Р. скл. адз. л.

**Сяк₁** 'гэтак' (Нас.), 'без прычыны, без патрэбы, так' (мёрск., Нар. ск.), у выразах: *сяк-так* 'з вялікай цяжкасцю, ледзь-ледзь', 'ніштавата, памяркоўна' (ТСБМ), *ні сяк ні так* (Федар. 4), *сяк-так, сяко-тако* 'абы-як' (ТС); адсюль займеннік *сякі* 'гэтакі' (Нас.), *сякі́-такі́* 'некаторы; які папала, нязначны, няважны' (ТСБМ). Укр. *сяк-так* 'абы-як', *сякі́й* 'гэтакі', рус. *так-сяк, сяко́й* 'тс', старaж.-рус. *сяко, сякъ* 'гэтак', польск. *siak* у спалучэннях 'не так, інакш'. Дэрыват з суфіксам *-к* ад займенніка **sь* 'гэты', утвораны па аналогіі з *так* (гл.). Слова не праславянскае, паколькі *sj* дало б тады *š*; гл. Міклашыч, 297; Фасмер, 3, 826; гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 496 (з узнаўленнем прасл. **sjako*), ESSJ SG, 2, 609–610.

**Сяк₂** 'плытагон' (віц., Нар. лекс.), 'селянін Смаленскай губерні': *сякі гонюць ганкі ў Рыгу* (Касп.). Відаць, мясцовае ўтварэнне на базе польск. *flisak* 'плытагон' з адсячэннем пачатку слова і неарганічным змякчэннем зычнага.

**Сякаво́** 'гэтак, такім чынам, абы-як', 'вось гэтак (пра штонебудзь блізкае)' (Стан.). Вытворнае ад *сяк₁*, параўн. ст.-бел. *саковъ* 'гэтакі, бліжэйшы па часе': *к сакову времени* (Альтбаўэр), пра суф. *-во* гл. Карскі, 2–3, 66.

**Сяка́ла** *(сіка́ла)* 'красала' (Бяльк.). Гл. *сякіла*.

**Сяка́р** ‘сякерка’ (Барад.), ‘сякач’ (Жд. 2), *се́кар* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Ад *сячы* (гл.) з малапрадуктыўным суф. *-ар*, які ўтварае назоўнікі са значэннем ‘прадмет, пры дапамозе якога выконваецца дзеянне’ (Сцяцко, Афікс. наз., 30; Вярхоў, Наз., 49), што, магчыма, сведчыць пра народнаэтымалагічнае пераасэнсаванне слова *сякера*, гл.

**Сяка́ць** ‘смаркаць’ (Ян.), *ся́кацъ* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *ся́каты*, *ся́катэ* ‘смаркаць’ (кам., драг., Сл. ПЗБ; Нар. ск.); *сняка́ць* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, Скарбы), часцей з прыстаўкай: *высякаць* ‘высмаркаць’ (Янк. 2); сюды ж форма зак. тр. *се́кнуць* ‘лінуць’ (ТС). Параўн. укр. *ся́кати* ‘смаркаць’, рус. *исся́кнуть* ‘высахнуць; вычарпацца’, стараж.-рус. *сѧкнути* ‘тс’, польск. *siąkać* ‘высыхаць; смаркаць’, в.-луж. *sakać* ‘высыхаць, пераставаць цячы’, чэш. *sákati* ‘паціху сцякаць, сачыцца’, славац. *siaknut’* ‘перастаць цячы’, серб.-харв. *усе́кнути* ‘смаркацца’, славен. *usékniti se* ‘высмаркацца’, балг. *се́кна*, ‘перастаць цячы, высахнуць’, ‘смаркацца’, дыял. *со́кнам* ‘смаркацца’, макед. *секне* ‘пераставаць цячы, высыхаць’, *се секне* ‘смаркацца’. Прасл. **sęknǫti* ‘сачыцца; высыхаць’, роднаснае літ. *sèkti* ‘апускацца’, лат. *sīkt-* ‘засыхаць’, с.-в.-ням. *sîchte* ‘дробны’, ірл. *sesc* ‘сухі, бясплодны’; да і.-е. **sek-* ‘сцякаць; пераставаць цячы’; гл. Фасмер, 3, 826; Траўтман, 256–257; Скок, 3, 216; Шустар-Шэўц, 1265; ЕСУМ, 5, 496; Глухак, 543; Борысь, 544.

**Сяка́ч₁** ‘прылада для драбнення; разак’ (ТСБМ, Нас. Шымк. Собр., Сержп., Грам., Ласт., Варл., Касп., Шат.), *секáч* ‘тс’ (ТС). Да *сячы* (гл.), сюды ж са значэннем ‘лесаруб, дрывасек’ (Варл., Стан.), *даць секачоў* ‘пакараць’ (Ян.).

**Сяка́ч₂** ‘дзік-самец’ (ТСБМ), *сэка́ч* ‘дзікі кабан’ (стол., Нар. ск.). Да *сячы* (гл.), *сячыся* ‘біцца’: *із своім сечыса, рубайса, а з чужымі не мешайса* (ТС), *два вепры меж собою бьюцца, секуцца* (Нас., БНТ, Заг.).

**Сяке́ра** ‘прылада з лязом на тапарышчы’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Касп., Сл. ПЗБ, Др.-Падб., Сцяшк., Стан., Бяльк.), *сякíра* ‘тс’ (Шымк. Собр., Стан.), *саке́ра* ‘тс’ (Сержп. Грам., Янк. 2, Скарбы, ЛА, 2), *соке́ра* ‘тс’ (ТС, ПСл, Шн., 3, Арх. Вяр.), *сокíра* ‘тс’ (Булг.), *сако́ра* ‘тс’ (Пятк. 2, Янк. 2, Скарбы). Укр. *соки́ра*, рус. *секи́ра*, стараж.-рус. *секы́ра*, *сѣкыра*, *сокы́ра*, ст.-бел. *секера*, *секира*, *сокера*, *сокира* ‘прылада для сячэння і часання дрэва; зброя ў выглядзе сякеры’ (Корчыц, Даследаванні па літаратуры і мове. Гродна, 1967, 123), польск. *siekera*, в.-луж., н.-луж. *sekera*, чэш. *sekyra*, славац. *sekera*, серб.-харв. *сѐкира*, славен. *sekíra*, балг. *секи́ра*, макед. *секира*, ст.-слав. **секыра**. Прасл. **sekyra* роднаснае лац. *secūris* ‘сякера’, і далей, прасл. **sěkti* ‘сячы’, ст.-в.-ням. *saga*, *sēga* ‘піла’; Мее, 410; Траўтман, 255; Вальдэ–Гофман, 2, 506; Торп, 424. Бязлай (3, 224) на аснове сербска-харвацкіх і шэрагу славенскіх формаў, а таксама (ст.)-ц.-слав. **сѣкыра** з доўгім вакалізмам узнаўляе яшчэ прасл. дублет **sěkyra*, дзе даўжыня галосных тлумачыцца ўплывам **sěkti* ‘сячы’ (гл. Міклашыч, 290; Покарны, 895; Махэк₂, 540; Фасмер, 3, 592 і інш.), Варбат (Морфон., 91) – **sokyra* (параўн. украінскую і старажытнарускую формы). Георгіеў (LP, 4, 1953, 109) указвае на няяснасць словаўтварэння і падобнасць на асір. *šukurru*, ст.-яўр. *šegōr* ‘сякера’; Слаўскі (SP, 2, 28) прасл. **sekyra*, **sěkyra* лічыць дэрыватамі з суфіксам *-yra* ад каранёў **sek-:*sěk-*. Супраць запазычання з лацінскай (Брандт, РФВ, 24, 146 і інш.) або нейкай іншай індаеўрапейскай мовы Фасмер, там жа. Мартынаў (Язык, 86–87) разглядае як пранікненне з італійскіх моў у праславянскі перыяд. Гл. Шустар-Шэўц, 1281; ЕСУМ, 5, 345; ESJSt, 13, 798.



**Сякі**, звычайна ў спалучэннях *сякí-такí*, *такí-сякí* ‘абы-які’ (Нас., Сл. ПЗБ), ‘ндобры’ (Сержп. Прымхі, Пятк. 2). Гл. *сяк₁*.

**Сякíла** ‘сякач для крэсіва’ (паўн.-віц., Нар. лекс.). Дэрыват ад *сек-*, параўн. рэдкае каранёвае *се́кацъ* ‘сячы’ (ПСл), гл. *сячы*, *секці* з інструментальным суф. *-іла*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42. Таго ж паходжання *сяка́ла (сіка́ла)* ‘тс’, магчыма, пад уплывам *краса́ла* ‘тс’ (гл.) або дзеяслова *высяка́ць* (агонь).

**Ся́кля** ‘ез’, ‘праломка’ (лід., Сл. ПЗБ), *сяклí* ‘перагародка рэчкі нератам’ (іўеў., Сцяшк. Сл.). З літ. *sẽklius* ‘мель’ (Сл. ПЗБ, 5, 68).

**Сяле́дзя** ‘гатунак бульбы’, разам са *сле́дзеўка*, *сле́дзя* ‘тс’ (Скарбы, Сцяшк. Сл.) суадносіцца са *следзь* ‘селядзец’ (гл.), што семантычна цяжка патлумачыць. Аднак іншая форма назвы *сяле́зя* ‘тс’, зафіксаваная на Гродзеншчыне (ЖНС), арыентуе на магчымую сувязь з рэгіёнам *Сілезія* (суч. польск. *Śląsk*) па мадэлі *амерыка́нка*, *варша́ўка* і пад. назвы гатункаў бульбы. Магчыма, народнаэтымалагічным асэнсаваннем запазычання з’яўляецца *се́льскіе дзе́ці* ‘гатунак бульбы’ (ТС).

**Сяле́тацъ** ‘дзьмуць’ (Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, таго ж паходжання, што і *сялíтавацъ* ‘спяшацца’ (Касп.).

**Сяле́тра**. Гл. *салетра*.

**Сялётка** ‘селядзец з ікрой’ у супастаўленні *селядзец – малочнік* (валож., мін., Сл. ПЗБ). З рус. *селёдка* ‘селядзец’, параўн. *селядзец* (гл.); цікавае размежаванне па палавой прыкмеце сінонімаў у народнай мове, гл. і выпадак кантамінацыі запазычанага і ўласнабеларускага слова – *селёдок*: *одзін селёдок з ікрою* (ТС).

**Сялі́ба** ‘населены пункт у сельскай мясцовасці (пасёлак, сяло і пад.)’ (ТСБМ), ‘двор, месца з жылым памяшканнем і прыналежнымі да яго пабудовамі і агародам’, ‘жытло, дамоўка’, ‘пасяленне’ (Ласт.), ‘селішча’, ‘месца пасялення’ (Мядзв., Шн. 2, Нік., Оч., Сержп. Прымхі), ‘сядзіба’ (Касп., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Яшк., Бяльк.), *сялі́бішча* ‘месца, дзе была сядзіба’ (Сл. ПЗБ). Да *сяліць*, па ўзору *сядзіба* (гл.) з суф. *-іба*, якому прыпісваецца балтыйскае паходжанне, гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 130; Мартынаў, SlW, 66 і інш.; параўн. больш раннія формы *сялі́дба (селі́дба)* ‘будоўля’ (Нас., Шымк. Собр.), ст.-бел. *селі́дьба* ‘пасяленне’ (Козыраў, Очерки, 171), рус. наўг., пск. *сели́тьба* ‘сядзіба’, макед. *сели́дба* ‘перасяленне’ і пад., *селідзе́бнэ* ‘вялікі прысядзібны ўчастак’ (лун., Выг.).

**Сялі́ць** ‘уладкоўваць на незаселеных месцах, пасяляць’ (ТСБМ, Ласт.), *сялі́цца* ‘пасяляцца’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Касп., Сержп. Прымхі). Укр. *сели́ти*, рус. *сели́ть*, чэш. *sídliti* ‘жыць, пражываць, знаходзіцца’, славац. *sidlit’* ‘насяляць’, серб.-харв. *сѐлити* ‘высяляцца, выязджаць’, славен. *seliti* ‘сяліць’, балг. *посе́лвам* ‘тс’, макед. *сели* ‘перасяляць’. Прасл. **sedliti*, дэнамінатыў ад *сяло*, гл. (Бязлай, 3, 226).

**Сяло́** ‘вёска, вялікая вёска’ (ТСБМ, Шымк. Собр., Ласт., Некр. і Байк., Шат., Касп., Сл. ПЗБ), *село́* ‘тс’ (Маш., ТС), *сэло́* ‘тс’ (пруж., бяроз., Сл. ПЗБ), *сыло́* ‘тс’ (кам., Сл. ПЗБ; бяроз., Нар. ск.), перан. *сяло́ (село́)* ‘дзеравеншчына, мужычно’, *сяло́-брала (село́-брело)*, *сяла́-брала (села́-брела)* ‘цёмны, неадукаваны чалавек, дурань’ (Нас.), у выразах *(быць) у (на) сяле́* ‘быць у вёсцы, не знаходзіцца дома’ (валож., шчуч., смарг., паст., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *(ісці) на сяло́* (ісці) ‘у госці’, ‘сусед да суседа’, ‘на вячоркі’ (Касп.); адсюль *сяло́* ‘вечаровыя зборкі, паседзіны’ (Барад.); ст.-бел. *село* ‘пасяленне; вёска’ (Шадурскі, Бел. мова, 87). Укр., рус. *село́*, стараж.-рус. *село*, польск. *sioło* (з усходнеславянскіх – Брукнер, 491), у тапонімах: *Długosiodło*, *Siedlce*; в.-луж. *sydło* (рэфлекс прасл. *ě* ў в.-луж. і чэш. пад уплывам дзеяслова **sěděti* – Шустар-Шэўц, 1396), н.-луж. *sedlišćo* ‘жыллё’, чэш. *sídlo* ‘месцазнаходжанне; рэзідэнцыя’, *sedlák* ‘селянін’, славац. *sedliak* ‘тс’, серб.-харв. *се́ло*, славен. *sélo*, балг. *се́ло*, макед. *село*, ст.-слав. **село**. Прасл. **sedlo* < і.-е. **sed-* ‘сядзець’, роднаснае гоц. *sitls* ‘сядзенне, крэсла’, лац. *sella* (< **sedlā*) ‘сядзенне’; гл. Бязлай, 3, 225–226; Махэк₂, 539; Скок, 3, 218–219. Фасмер (3, 596), Мее (419), Траўтман (248), Покарны (898) выдзяляюць яшчэ прасл. **selo* ‘ралля’, параўн. стараж.-рус. *село* ‘поле, ралля; луг’: *село земли*, славен. *sélo* ‘глеба’: *selo kopati*, якое ва ўсходнеславянскіх і паўднёваславянскіх супала з **sedlo*; адрозніваюцца яны толькі ў заходнеславянскіх, параўн. чэш. *selo* ‘сяло; ралля’, дыял. мар. *selo* ‘сяло’ і вышэйпрыведзеныя формы з суфіксам *-dl-*. На думку Куркінай, матывацыя дзеясловам **sěděti* першапачатковага **selo* ‘ралля, поле’ адбылася з пераходам да аседласці (Слав. языкозн., XIII, 371). Гл. ЕСУМ, 5, 209–210; Борысь, 548; ESJSt, 13, 799–800; Глухак, 544. Аб семантычным дыялектызме *сяло* ‘наведванне; госці’, якія разглядаецца як фінска-балтыйска-беларуская семантычная ізаглоса, гл. Кальбушэўскі, ABSl, 16, 159–164; Непакупны, Связи, 83–85.

**Сяльні́к** ‘сяннік’ (Жд. 2, Янк. 1), *сельні́к* ‘тс’ (Сержп. Грам., Пятк. 2), ‘будынак для сена’ (ДАБМ, камент., 796), ‘вышкі, гарышча’ (Анім.). З *сяннік* (гл.) у выніку дысіміляцыі зычных.

**Сяльча́нін** разм. ‘сельскі жыхар, селянін; аднавяскоўец’ (ТСБМ), ст.-бел. *сельча́нинъ* (?), параўн. Т. скл. *сельча́ном* (XVI ст., Карскі, 2–3, 147), рус. *сельча́нин* ‘жыхар сяла’, стараж.-рус. *сельчанинъ* ‘тс’. Дэрыват ад *сяльцо́* ‘невялікае сяло, пасяленне’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.) < *сяло*, гл. Адзначаецца экспансія ў сучаснай рускай мове фарманта *-чане*, *-чанин* у адтапанімічных утварэннях на **-janinъ* (Трубачоў, Этимология–1980, 4), што магло паўплываць і на пашырэнне такіх утварэнняў у беларускай мове, параўн. *мінча́нін*, *гамяльча́нін*. Менш верагодна другаснае ўтварэнне ад *сяля́к* ‘селянін’ (Ласт.).

***Сялю́жка**, *селю́жка* ‘сцёртая манета’ (ТС). Гл. *селяжок*.

**Сяля́ва** ‘рыба сямейства ласасёвых; рапушка еўрапейская’ (ТСБМ), ‘рапушка, Coregonus albula L.’ (Касп., Жук., Сцяшк.), *селя́ва, сяля́ўка* ‘тс’, ‘сібель’ (брасл., ігн., Сл. ПЗБ), *сіля́ўка* ‘тс’ (лід.,

шальч., лудз., Сл. ПЗБ), *сіля́ва* 'рыба накшталт селядцоў, што водзіцца ў вялікіх азёрах', *сіля́ўка* 'ўклейка, дробная рыба' (Нас.), *сіля́ўка, селя́вка* 'рыба верхаводка, Alburnus alburnus L.' (ТСБМ, Дэмб. 2, Жукаў). Укр. *селя́ва* 'шэмая дняпроўска-азоўская, Chalcalburnus', рус. пск. *села́ва* 'верхаводка', прычарн., кубан. *селя́ва* 'шэмая; від верхаводкі', польск. *sielawa* 'сіг еўрапейскі, Coregonus albula L., верхаводка'. Слова без задавальняючай этымалогіі. Насовіч формы з пачатковым *сі-* выводзіў ад *сіляць* 'вудзіць': *силявочку силяець* (Нас., 579), што з улікам фанетыкі і геаграфіі слоў успрымаецца як народная этымалогія. Дапускалі запазычанне з літ. *seliavà* 'сіг еўрапейскі', *salavà, sel(i)ovà, sélava, sèlava* 'тс' (Мацэнаўэр, LF, 19, 249), збліжэнне з фін. *salakka* 'верхаводка' (Праабражэнскі, 2, 271; Карскі, Белорусы, 108). Супраць Фасмер (3, 594), які ўказвае на распаўсюджанне назвы на поўдні; да таго ж літоўскія формы па фанетычных прычынах не спрадвечныя (Буга, Rinkt., 1, 552), лічацца запазычаннямі са славянскіх моў (Фрэнкель, 774), або, прынамсі, іх балцкае паходжанне недастаткова аргументавана (Лаўчутэ, Балтизмы, 148), гл. падрабязней Анікін, Опыт, 275; ЕСУМ, 5, 210 з аглядам версій.

**Сlя́к** 'жыхар сяла' (Ласт.). Параўн. ст.-польск. *siodłak* 'селянін', рэдкае *sedłak* 'тс', в.-луж., н.-луж. *sedłak* 'тс', чэш. *sedlák* 'тс', славац. *sedliak* 'тс'. Вытворныя ад прасл. **sedlo* (гл. *сяло*), якія ў асобных славянскіх мовах выцеснілі першасныя формы, што ўзыходзяць да **sedl'aninъ* (гл. *селянін*), параўн. Трубачоў, Этимология – 1980, 14. З іншай суфіксацыяй экспр. *селю́к* 'мужык, вясковец' (Растарг.).

**Сяля́не**, мн. л. ад *селянін* (гл.): *воны селяне, а ў Турові і Дворцэ – мешчане*; *селянье* зборн. 'сялянства' (ТС). Узыходзіць да прасл. **sedl'ane*, вытворнага ад **sedlo* (гл. *сяло*) з суф. *-'an*, што абазначала аседлую, пераважна земляробчую групу насельніцтва (Трубачоў, Этногенез$_2$, 183).

**Сяля́нка$_1$** 'ідылія, пастараль' (Некр. і Байк.). Запазычана з польск. *sielanka* 'від паэтычнага твора, які ідэалізуе жыццё пастухоў і пастушак', 'сялянскі побыт', ідэнтычнага *sielanka* 'сельская жыхарка' (гл. *селянін*), што паводле Брукнера (491), у сваю чаргу, запазычана з усходнеславянскіх моў. Калькуе лац. *bucolica* 'песні пастухоў', *pastoralis* 'пастухоўскі'.

**Сяля́нка$_2$** *(селя́нка)* 'страва са смятаны, зваранай з маслам, у якую крышаць падсохлы сыр' (кобр., Шн. 3). Параўн. рус. *се-*



*ля́нка* 'гарачая поліўка', польск. *sielanka* 'від яешні са смятанай'. Магчыма, у выніку семантычнай кандэнсацыі **сялянская страва*; паводле Фасмера (3, 598), першапачаткова 'сялянская ежа', гл. *селянін, сяляне*.

**Сяля́ць** 'есці': *сяляй, што паставілі* (Бяльк.). Магчыма, фанетычны варыянт *сіля́ць* 'есці' (гл.) або шматкратны дзеяслоў да *сілі́ць* 'падмацоўваць сілы ежай' (гл.).

**Сям** у выразах: *то там, то сям*; *там і сям* 'у розных месцах, усюды' (ТСБМ), *сям-там* 'дзе-нідзе' (ТС), ст.-бел. *семо* 'сюды' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *сям*, рус. *там и сям*, стараж.-рус. *сѣмо, сямо, само, сѣмь* 'сюды', польск. дыял. *siam, sam* 'тут', в.-луж., н.-луж., чэш., славац., палаб. *sem*, старое серб.-харв. *sjemo, semo*, славен. *sę̑m*, балг. *само*, ст.-слав. **сѣмо**. Прасл. **sěmo* ўтворана пры дапамозе суфікса *-mo* ад займенніка **sь* 'гэты'; *ě* на месцы *ě* пад уплывам **tamo* 'там'; Фасмер, 3, 826; Бернекер, РФВ, 48, 224–225. Бязлай (3, 226) прасл. **sěmo* (і **sěmъ*) выводзіць не непасрэдна ад займенніка, а ад прыслоўя **sě* 'сюды', параўн. славен. *sě* 'тс', тоеснага з літ. *šè* 'тут', лат. *še* 'тс', якія Фрэнкель (990) звязвае з і.-е. указальным займеннікам **ḱi-*, прасл. **sь*. На роднасць разглядаемых прыслоўяў з гэтым займеннікам указвае яшчэ Міклашыч (297), з чым пагадзіліся пазней і іншыя: Махэк$_2$, 541; Скок, 3, 188; ESSJ SG, 2, 606–607. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1281; ЕСУМ, 5, 497; ESJSt, 13, 805.

**Сяма́к** 'манета' (Касп.), *семак* (*симакъ*) '12 капеек' (Нік. Очерки). Параўн. укр. дыял. *сіма́к* 'манета 7 капеек асігнацыямі або 2 капейкі срэбрам', рус. дан. *сема́к* '2 капейкі'. Вытворнае ад *сем* (гл.), параўн. Фасмер, 3, 598; што адлюстроўвае стары падлік на асігнацыі, які захоўваўся ў Віцебскай губерні (Нас., 577), з далейшай дээтымалагізацыяй.

**Сямёнава кроў** 'святаяннік, Hypericum L.' (Кіс., Бяльк.). Сувязь з уласным імем *Сямён* застаецца няяснай, магчыма, вынік замены ўласнага імені *Ян, Іван*, параўн. іншыя назвы расліны *святаянскае зелле, зелле св. Івана* (Кіс.), укр. *Іванова кров* (Макавецкі, Sł. botan.), гл. *свентаянскае зелле, святаяннік*; другая частка назвы звязана з колерам: *сямёныва кроў – цьвет жоўтый, а як натрэш, дык красна* (Бяльк.), параўн. іншыя назвы расліны: *крываўнік, заячча кроў* і пад.

**Сямёра** 'у колькасці сямі (звычайна без назоўніка або з назоўнікамі агульнага роду, назвамі маладых істот і інш.)' (ТСБМ),

*се́мера* ‘тс’ (Некр. і Байк., Пятк. 2), *се́меро* ‘тс’ (ТС), ст.-бел. *седмера* ‘тс’, побач з *вседморо* ‘ўсямёра’ (Карскі, 2–3, 55). Параўн. укр. *се́меро*, рус. *се́меро*, польск. *siedmioro* ‘тс’, в.-луж. *sedmory* ‘сямікратны’, н.-луж. *sedymory* ‘тс’, палаб. *sedmärë*, чэш. *sedmero*, славац. *sedmoro*, славен. *sedmero*, серб.-харв. *сѐдморо*, ст.-слав. **седмеро**, **седморо** ‘тс’. Прасл. **sedmero*, **sedmoro* ўтворана на базе ад’ектываванага лічэбніка **sedmerъ/*sedmorъ* ад **sedmь* (гл. *сем*) пры дапамозе суф. *-er*, *-or* (Фасмер, 3, 599; Лукінова, Числ., 323), параўн. *чацвёра* (гл.). Сюды ж *сямёрка* ‘лічба сем, у колькасці сямі’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.), ‘памер касы’ (Сцяшк., Мат. Гом.), ‘дзве капейкі серабром, роўная па старых разліках сямі капейкам асігнацыямі’ (Нас.), *семёрка* ‘медная манета двухкапеечнай вартасці’ (Растарг.), *семерко* ‘сем штук’ (Рам. 3).

**Сямізвёздачка** *(сямізьвёздачка)* ‘сузор’е Плеяды’ (Касп.). Да *сем* і *звязда* ‘зорка’ (гл.), названа паводле колькасці зорак.

**Сямі́к** *(семикъ)* ‘конь сямі гадоў’, ‘авёс, пасеяны на сёмым тыдні пасля Вялікадня’ (Нас.). Суфіксальныя вытворныя ад *сем*, гл.

**Сямі́лка** *(семилка)* ‘від іголкі’ (Меер Крыч.). Ад *сем* (“оттого, что ихъ на денежку седмь купить можно”, там жа).

***Сяміpадуга**, *семі́радуга* ‘вясёлка’ (ТС). Народнае пераасэнсаванне *радуга* (гл.) на базе *сем радоў*, гл. *сем* і *рад*₁, альбо семантычны эліпсіс *сямі колераў радуга*.

**Сяміро́га** ‘грыб вожычнік караляваты, Hericium coralloides Fr.’ (лун., Сярж.-Яшк.), *семеро́га* ‘назва грыба’ (ПСл), *сямiро́гі* ‘грыб вожычнік’ (стол., Нар. ск., Сярж.-Яшк.). Да *сем* (гл.) у значэнні ‘многа; шмат’ і *рог* (гл.) з-за знешняга выгляду грыбоў, якія маюць выступаючыя часткі.

**Сямiру́чка** ‘каса паводле памеру’ (Мат. Гом.), ‘назва касы на сем далоней’ (Сцяшк. Сл.). Да *сем* (гл.), параўн. *сямёрка* ‘тс’, гл. *сямёра*.

**Сяміцічнік** ‘ястрабок парасоністы, Hieracium umbellatum L.’ (Кіс.). Няясна.

**Сямна́ццаць**, *сямна́нцаць* ‘лічба 17’ (Карскі, 2–3, 94), *семна́ццаць* ‘тс’ (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС), *семна́нцаць* ‘тс’ (Некр. і Байк., Стан.). Гл. *сем* і *-наццаць*.

**Сяму́ха** ‘бёрда ў сем нітоў’, ‘сем шурак дроў’, ‘карта сямёрка’ (Бяльк.), ‘мера гарэлкі за сем капеек асігнацыямі або дзве капейкі серабром’ (Нас.). Вытворнае ад *сем* (гл.), параўн. *сёмуха*.



**Сям’я́** ‘муж, жонка, дзеці і іншыя сваякі, якія жывуць разам’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Гарэц., Бяльк., Пан.), *сем’я́* ‘тс’ ‘рой пчол у вуллі’ (ТС), *сымне́* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Укр. *сім’я́*, рус. *семья́* ‘тс’, стараж.-рус., рус.-ц.-слав. *сѣмиꙗ* ‘чэлядзь, дамачадцы; рабы’, ст.-слав. **сѣмиꙗ** ‘сям’я’. Прасл. **sěmьja* < **ḱoim-*, паводле Трубачова (История терм., 164), з і.-е. **ḱei-* ‘ляжаць’ з суф. *-m-*, магчыма, праз перанос значэння ‘стаянка, паселішча’, параўн. ням. *Lager*, і ўзыходзіць да абазначэння тэрытарыяльнай супольнасці. Роднасныя літ. *šeimà* ‘сям’я’, *šeimýna* ‘сям’я, чэлядзь’, лат. *sàime* ‘сям’я, дамачадцы’, ст.-прус. *seimīns* ‘чэлядзь’ і далей, гоц. *haims* ‘паселішча’, ст.-в.-ням. *heim* ‘радзіма’, ст.-в.-ням. *hîwo* ‘муж’ і інш.; гл. Траўтман, 300; Мюленбах–Эндзелін, 3, 635; Фасмер, 3, 600 з іншай літ-рай. Ляпуноў (цыт.: Фасмер, там жа) **sěmьja* разглядае як дэрыват ад **sěmь* ‘асоба’, параўн. рус.-ц.-слав. *сѣмь* ‘тс’, як рус. *братия* ад *брат*. Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 254; Шаўр, Etymologie, 44. Сюды ж *сем’янін* ‘член сям’і’ (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС), *семянін* ‘тс’ (Ласт., Сержп., Пятк. 2).

**Сямяргу́** ‘сямёра’: *сямяргу бабаў* (Сцяшк. Сл.). Вытворнае ад *сямёра* (гл.) па тыпу *двайга́* (гл.) з няясным па паходжанні суф. *-г-*, параўн. польск. *dwojga* ‘двое’, якое лічыцца Р. скл. ад першапачатковага прыметнікавага лічэбніка *dwój*, пазней *dwoje* (Слаўскі, 1, 183) або ўзніклым па тыпу *czworga* ‘чацвёра’ (Баньkоўскі, 1, 313). Спасылкі на літ. *dveigỹs* ‘двухгадовая хатняя жывёліна, двухлетка’, *ketvérge* ‘старажытная дваццацікапеечная манета, што адпавядала чатыром пяцікапеечным’ схіляюць да думкі пра азванчэнне зыходнага суф. *-к-*, так выводзіць для літоўскіх слоў Смачынскі, 138, 279 (< **dveikys*, **ketverkė*). Параўн. *чацвер* (гл.).

**Сян** *(sian)* ‘гэты’ (Тур.). Форма м. р. указальнага займенніка **sь* (гл. *сей*) у спалучэнні з **-нъ* (гл. *ён*), параўн. спалучэнне з іншым указальным займеннікам **tъ – сіты*, гл.

**Ся́нні** ‘сёння’ (Нас., Шымк. Собр., Растарг., Бяльк., Мат. Маг.), *ся́ння* ‘тс’ (Нас., Бяльк., Яўс.; бялын., Янк. Мат.; Сцяшк., Жд. 1), *ся́ння*, *ся́ня* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *ся́ннячы* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *ся́нішні* ‘сягоняшні’ (Сл. ПЗБ). Сюды ж *ся́дні* ‘сёння’ (Нас., Касп., Растарг.), *ся́дня* ‘тс’ (Стан.), *се́дне* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Гл. *сёння*, *сягодня*.

**Сяннік** ‘адрына, пуня’ (ТСБМ), ‘матрац, набіты сенам ці саломай’ (ТСБМ, Нас., Касп., Жд. 2; быx., Янк. Мат.), *сяльнік*, *сяднік*, *сянік*, *сенік*, *сеняк* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, Ласт.), *сельнік* ‘матрац; месца

для сена' (ТС). Параўн. укр. *сінни́к* 'пуня, матрац', польск. *siennik* 'тс', чэш. *seník* 'пуня', славен. *senik* 'пуня; матрац', макед. *сенник* 'тс'. Самастойныя ўтварэнні ад *сянны́* < *сена*; гл. таксама *сельнік*.

**Ся́пацъ** 'торкаць, калоць, тыркаць' (Ласт.), *сяпа́г* 'рэзніцкі нож', *сяпа́ч* 'рэзнік' (там жа). Няясна, магчыма, фанетычны варыянт *се́пацъ* (гл.); параўн. польск. *siepacz* 'бандыт, забойца'.

**Сяра́к** 'шэры заяц, русак' (Нас.), 'сярмяга, світка з шэрага сукна' (Нас.), *серя́к* 'тс' (Растарг., Шымк. Собр.), *сірак* 'тс' (Горбач, Зах.-пол. гов.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *серы*$_2$ (гл.), параўн. *шэры*, *шарак*.

**Сяра́нка** 'запалка' (Касп.). Гл. *сернік*$_1$.

**Сярба́цъ**. Гл. *сёрбацъ*.

**Сярга́** *(сірьга́)* 'завушніца', 'мочка (вуха)' (Мат. Гом.), 'завушніца', 'калодачка для млёна ў верхнім жарне' (маг., віц., гом., ЛА, 4), сюды ж *сяргéйчык* 'гняздо для млёна ў жорнах' (талач., ЛА, 4). Гл. *сергі*.

**Сярдзе́чнік**, *сардэ́чнік*, *сярдзе́шнік* – назвы розных лекавых раслін: Leonurus cardiaca L. (Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ, Кіс.), Diantus deltoides L. (Ласт., Кіс.), Parnassia palustris L., Veronica chamaedrus L., Vaccinum vitisidaea L., Sempervivum soboliferum Sims. (Кіс.), *сердзе́чнік* 'Eryngium planum L.' (ТС). Да *серца*, *сэрца* (гл.), этымалогію гл. *сардэ́чнік*.

**Сярдзі́ты** 'схільны сердавацъ, злавацца', 'злосны (пра чалавека)', 'моцны ў сваім праяўленні, люты (пра мароз, вецер і пад.)' (ТСБМ, Шымк. Собр., Байк. і Некр., Бяльк., Сержп. Прымхі, Жд. 1, ЛА, 5). Укр. *серди́тий*, рус. *серди́тый*, ст.-рус. *сьрдитыи*, польск. *sierdzisty*, славац. *srditý*, серб.-харв. *ср̏дит*, славен. *srdít*, балг. *сърди́т*, макед. *срдит*, ст.-слав. **срьдитъ**. Прасл. **sьrditъ*, дэрыват **sьrdь* (гл. *сэрца*), таму што яно лічылася цэнтрам эмоцый, у тым ліку гневу, параўн. *гнеў альбо се́рцэ*, *гне́вацса альбо се́рдзіцса* (Пятк. 2); гл. Фасмер, 3, 605; Міклашыч, 292; Траўтман, 302; ЕСУМ, 5, 217; гл. таксама *сердавацъ*.

**Сярдзю́к** 'ахоўнік гетмана ў Украіне' (ТСБМ), параўн. укр. *сердю́к* 'тс', што выводзіцца з тур. *sürtük* 'наглядчык' (Фасмер, 3, 606; ЕСУМ, 5, 218). Няясныя адносіны да *сярдзю́к* экспр. 'багацей' (Юрч. Вытв.), для якога можна дапусціць сувязь з *сердзю́к* 'гняўлівы чалавек' (Нас.) ад *сярдзіты*, *сердавацъ* (гл.), што можа ўспрымацца і як народнаэтымалагічнае асэнсаванне запазычання.



**Сярмя́га** 'верхняе адзенне з даматканага сукна, світка' (ТСБМ, Некр. і Байк., Касп., Бяльк., Сержп. Прымхі, Сцяшк., Сл. ПЗБ, Скарбы, ЛА, 4), *сермя́га (сь̑рмяга, сь̑рьмяга)* 'тс' (Нас., Шымк. Собр., Шпіл.), *сірніга*, *сернега*, *серня́га* 'тс' (Тарн., Сакал., Горбач, Зах.-пол. гов.), *сырне́га* 'тс' (кобр., Ск. нар. мовы), *свермéга* 'тс' (Сл. Брэс.), памянш. *сярмя́жка*, *сярмя́шка*, *сермя́жка*, 'верхняя жаночая вопратка свабоднага пакрою' (Жд. 2), 'кароткае мужчынскае адзенне, звычайна з шэрага сукна' (Скарбы), *шырма́га* 'світка' (Бяльк.), ст.-бел. *сермя́га* 'род сялянскай вопраткі' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *серм'я́га* 'даматканае грубае сукно; адзенне з такога сукна', рус. *сермя́га* 'світка', польск. *siermięga* 'грубая тканіна', ст.-польск. *szermiąga* 'тс', каш. *šerḿaga*, 'брадзяга, абарванец; кляча', *širḿęga* 'сялянская вопратка з грубай самаробнай тканіны'. Слова без пэўнай этымалогіі. Брукнер (489) параўноўваў з літ. *šìrmas* 'шэры', лат. *sìms* 'сівы', што падмацоўваецца народнымі назвамі світкі з даматканага сукна – *шарак*, *сярак* (гл.). Мартынаў (Лекс. Палесся, 10) бачыць у слове пранікненне з мовы галядзі, пра што, магчыма, сведчыць фанетыка (першапачатковае *s-* > літ. *š-*), прадуктыўны балтыйскі суф. **-ingas*, і тэрыторыя распаўсюджання, звязаная з міграцыяй галядзі; на карысць балтыйскага паходжання па фанетычных прычынах таксама Варбат, Этим. исслед., 2, 89–91; Анікін, Опыт, 275; супраць гл. Папоўска-Таборска, Бел.-польск. ізал., 107. Крытычны агляд іншых версій гл. Фасмер, 3, 609; ЕСУМ, 5, 220; SEK, 5, 76.

**Сярні́чка** 'запалка' (ТСБМ, Касп., Жд. 1), *сяра́нка* 'тс' (Касп., Бяльк.), *сернічо́к* 'тс' (Нас.), *сярнікі*, *сярні́чкі* 'запалкі'. Гл. *сернік*.

**Сяро́д** прыназ. 'усярэдзіне, пасярод, паміж' (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп., Сл. ПЗБ), *се́рад*, *сярёд* 'тс' (Нас.), *сярёд* 'тс' (Бяльк.), *ся́рад* 'тс' (Сл. ПЗБ), *серэ́д* 'тс' (ТС, ПСл), *серёд*, *се́рэд*, *серэ́д*, *серэдь* 'тс' (Растарг.), ст.-бел. *середь*: *по середѣ града* (Альтбаўэр). Укр. *се́ред*, рус. *среди́*, *се́редь*, ц.-слав. *срѣди*, *срѣдь*, польск. *pośród*, в.-луж. *srjedź*, н.-луж. *srjeź*, чэш. *střed*, *uprostřed*, славац. *stred*, серб.-харв. *sred*, славен. *srẹ́di*, балг. *сред*, макед. *среди* 'пасярод'; у славянскіх мовах адаптацыя да М. або В. скл. рэфлексаў слав. **serda* (гл. *серада*); абстрагавана з прыназоўнікавых словазлучэнняў тыпу **na sěrdь*, **na srědi*; гл. Бязлай, 3, 307. Фанетыка ўказвае на магчымасць рэканструкцыі прасл. **sěrdь* (Шустар-Шэўц, 1350; ESSJ SG, 1, 231; Борысь, 620), што дакладна адпа-

вядае літ. *šérdis* 'асяродак дрэва', лат. *ser̂de* 'тс' (параўн. Буга, Rinkt., 1, 318; Фрэнкель, 987) і ўзыходзіць да і.-е. * *ḱḗrd-*, * *ḱr̥dés* 'сярэдзіна, нутро, сэрца'. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 607; ЕСУМ, 5, 218; а таксама *серада, сэрца*.

**Сяро́дак** *(серёдокъ)* 'сярэдняя частка, сярэдзіна', 'сродак' (Нас.), 'сярэдзіна, нутро' (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр.), 'сэрцавіна морквы' (Сцяшк.; барыс., Сл. ПЗБ), *сярёдак* 'вантробы' (Растарг.), *сырыдо́к, сырдо́к* 'стрыжань, асяродак (у расліне, алоўку)' (драг., З нар. сл.), *сяро́давік* 'тс' (бярэз., Жд. 2), 'сярэдні маладзенькі лісток' (барыс., Сл. ПЗБ), *сяро́дка* 'сярэдзіна' (Нар. Гом., Сл. ПЗБ), 'зародак' (мядз., Сл. ПЗБ), 'сярэдзіна гарбуза' (Сцяшк.), *сяро́дкі* 'ўнутраныя органы' (трак., шальч., Сл. ПЗБ), 'адходы пры часанні льну' (Мат. Маг.). Да *сярод* (гл.). Сюды ж, відаць, *сырда́к* 'кош' (Сл. Брэс.), г. зн. 'кош сярэдніх памераў'.

**Сяро́жкі** 'завушніцы, падвескі' (Ян., Сакал.), *сіро́жка* 'завушніца' (Сл. Брэс.), *сяро́жка* 'каташок' (Мат. Гом.), 'пярсцёнак' (?): "на ножки сапожки… на ручки серожки" (Доўн.-Зап., Пін., 132). Гл. *сергі*; у апошнім прыкладзе, магчыма, захавалася першаснае значэнне, параўн. ст.-чув. *śürüγ* 'пярсцёнак'.

**Сяро́н**, *сярэ́н, сару́н, сёран, сёрань* 'шарпак, замерзлы зверху снег пасля адлігі' (Мат. Гом.), *сяру́н, шару́н (шеру́н)* 'ранні сакавіцкі снег, па якім можна хадзіць не правальваючыся' (Мядзв.), *сярён, сіра́н* 'замерзлы снег пасля адлігі' (Бяльк.), *сяра́н* 'шарпак' (Юрч.), *сёрэн (сѣрэн)* 'тс' (Нас.). Параўн. укр. *серéн* 'тс', рус. *серён, сéрен* 'тс', польск. *śron* 'іней, імжа'. Паводле Мацкевіч і Грынавяцкене (БЛ, 40, 54–55), формы з пачатковым *с-* з'яўляюцца архаізмамі, выціснутымі з цэнтральнай Беларусі формамі з пачатковым *ш-* (гл. *шарон*) пад уплывам літоўскага субстрату, што сумніўна, параўн. *сяру́нь* 'шарпак' з тэрыторыі Літвы (шальч., Сл. ПЗБ) і пярэчанні Анікіна (Опыт, 275). Гл. *сёран*.

**Сярпа́нка** 'марля' (Мат. Гом.), *сярпя́нка* 'лёгкая баваўняная тканіна' (ТСБМ), *серпано́к* 'тонкае палатно' (Нар. Гом.), *серпаночэк* 'рэдка вытканае палатно на намёткі' (пін., Кольб.), *сарпа́нка, сарпа́нок* 'вясельны галаўны ўбор' (ТС), *сырпа́нок* 'белая хустка' (Сл. Брэс.). Параўн. укр. *се́рпа́нка, се́рпа́нок* 'празрыстая тканіна, жаночае пакрывала на галаву', рус. *серпя́нка* 'рэдкая тканіна з ільну', польск. *sierpanka* 'тонкая тканіна, пакрывала'. З тур. *serpenek*, што з перс. *särpänäk* 'жаночае пакрывала на га-



лаву' (Фасмер, 3, 610; ЕСУМ, 5, 221). Няясныя адносіны да *сарпінка* 'лёгкая баваўняная тканіна ў палоску ці ў клетку' (ТСБМ, Некр. і Байк.), для якой мяркуецца іншае паходжанне, гл.

**Сярпу́ха** 'расліна Serratula L.' (ТСБМ, Кіс.), *серьпуха* 'нейкая расліна' ("употребляется обыкновенно для желтѣнія под зеленый цвѣт"; Меер Крыч.), сюды ж таксама *сярпо́к* 'Serratula L.' (Байк. і Некр.), што адносяць да іншай расліны 'Falcaria Beruh.' (Кіс.). Параўн. укр. *серпу́ха, серпо́к* 'Serratula L.', рус. *серпу́ха* 'тс', польск. *sierpik*, чэш. *srpek*, славац. *sŕpok*, славен. *srpek*, серб.-харв. *ср̏пац*, балг. *сърпéц* 'тс', што выводзяцца ад **sьrpъ* (гл. *серп*) з-за падабенства лістоў раслін да сярпоў, параўн. таксама назву расліны Falcaria: укр. *серпорíз*, рус. *реза́к*. Гл. ЕСУМ, 5, 221, 222.

**Сярто́ліцца** 'быць у неспакоі, неспакойна пачувацца, сядзець' (лаг., Гіл.), 'выконваць доўгую і цяжкую работу' (ушац., Нар. лекс.). Словаўтваральны варыянт да *сёртаць* (гл.): **sьrtati* > **sьrt-ol'a* > *sьrt-ol-iti (sę)*, што да прасл. **sьrt-* < і.-е. **ser-* 'цячы, рухацца' (Варбат, Этимология–1975, 32–34). Параўноўваюць з балг. дыял. *ср̥тим* 'цяжка, з намаганнем працаваць' (Пятлёва, Этимология–1985, 18). Сюды ж, магчыма, і ўкр. *се́ртувати* 'цягаць сюды і туды', якое выводзіцца з польск. *certować* 'цырымоніцца, брацца удзел у барацьбе, змагацца' < лац. *certo* 'змагаюся' (ЕСУМ, 5, 222), што не выключае кантамінацыі згаданых дзеясловаў. Адносна экспрэсіўнага суф. *-oli-* гл. Борысь, Etymologie, 697.

**Сяру́ха** 'павітуха, Cuscuta L.', 'від асакі' (ТС). Няясна; магчыма, ад *сраць* (гл.) з адмоўнай экспрэсіяй, параўн. іншую назву павітухі ўкр. *paršyvka* (Макавецкі, Sł. botan).

**Сяры́цца** *(сярі́цца)* 'ярка адбівацца, зіхацець': *у вычах сяріцца* (Юрч. Вытв.). Няясна.

**Сярэ́бранік** 'дуброўка, Potentilla anserina L.' (ТСБМ, Касп., Дэмб. 1, Кіс.). Да *серабро* (гл.), ад прыметніка *сярэ́браны* (ТСБМ, Ласт.), ст.-бел. *серебрѧнъ* (Альтбаўэр), *серебрыны* (1405 г., Карскі, 2–3, 229) з-за бліскучай афарбоўкі, параўн. *срэбнік*, гл. Сюды ж і *сэрэбря́нік* 'падтыннік, Chelidonum majus L.' (Бейл.), параўн. іншую назву *чортава серабро* (Кіс.).

**Сярэ́бшчына** 'абрад адорвання маладых': *на сярэбшчыну гукаюць, як едуць па нявесту* (Мат. Гом.), ст.-бел. *серéбщина, серéбщизна* 'грашовы падатак серабром' (Ст.-бел. лексікон, Сташайтэне, Абстр. лекс.). Параўн. укр. *серéбщина* 'падаткі на вай-

сковыя патрэбы, падатак на зямлю’. Да *серабро́* (гл.), сумніўна атаясамленне з укр. *сербщи́на* ‘работа на пана, паншчына’, гл. ЕСУМ, 5, 216.

**Сяро́дзіна**$_1$ ‘цэнтр, сярэдняя частка, асяродак; унутранасць’ (ТСБМ, Касп., Шымк. Собр., Бяльк., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Янк. 2, Варл.), *серэ́дзіна* ‘тс’ (ТС), ст.-бел. *середина* ‘тс’ (Альтбаўэр). Укр. *середи́на*, рус. *середи́на*, в.-луж. *srjedźina*, славен. *sredína*, серб.-харв. *срѐдина*, балг. *среди́на*, макед. *средина* ‘сярэдзіна’; дэрываты (магчыма, незалежныя) ад прасл. **serda*/**serdь* ‘сярэдзіна’, параўн. *сярод*, гл. (Чарных, 2, 156–157; ЕСУМ, 5, 218). Параўн. *серада*.

**Сяро́дзіна**$_2$ ‘паясніца’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Сцяшк., Жд. 1, Ян.), ‘задняя частка тулава вышэй клубоў’ (Варл.), ‘спіна, крыж’ (Касп., Сержп. Прымхі), ‘спіна’ (Янк. 2, Юрч. Вытв., Бяльк.), ‘крыж у жывёлы’ (Нас.), параўн. рус. смал. *середина* ‘паясніца’. Паводле Чэкмана (Baltistica, 8, 2, 151), калькуе літ. *pusiáujas* ‘паясніца, сярэдзіна (паводле акружнасці)’, параўн. семантычную паралель балг. *полови́на* ‘палавіна; паясніца, крыж’, макед. *полови́на* ‘палавіна; талія’, што, аднак, не выключае самастойнага развіцця ‘сярэдзіна; нутро’ (гл. *сярэдзіна*$_1$, параўн. *серэ́дніца* ‘сярэдняя частка чаго-небудзь’, ТС) > *паясніца*. Гл. таксама Анікін, Опыт, 30; Страхаў, Palaeoslavica, 16, 2, 296–297.

**Ся́слы** ‘ліпавая кара, лыка’ (Мат. Гом.). Відаць, фанетычна дэфармаванае *свясла* ‘нізка лыка’ (гл.), параўн. аналагічныя змены ў *сёкар, сёкроў* (Сл. Брэс.) і вынік адваротнага працэсу ў *свермёга* ‘сярмяга’ (там жа).

**Сястра́** ‘дачка ў адносінах да іншых дзяцей гэтых жа бацькоў’, перан. ‘асоба сярэдняга медыцынскага персаналу ў лячэбнай установе і ласкавы зварот да яе’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ); *сестра́* ‘тс’ (ТС), сюды ж *сястро́нка, сястру́ха, сястру́хна* ‘стрыечная сястра’ (Сл. ПЗБ), *сястру́нка* ‘тс’ (Янк. 1). Укр., рус. *сестра́*, стараж.-рус. *сестра*, польск. *siostra*, в.-луж. *sotra*, н.-луж. *sotša*, палаб. *sestră*, чэш., славац. *sestra*, серб.-харв. *сѐстра*, славен. *séstra*, балг. *сестра́*, макед. *сестра*, ст.-слав. **сєстра**. Прасл. **sestra*, першапачаткова аснова на *-r-*, потым перайшло да асноў на *-a*, роднаснае літ. *sesuõ*, Р. скл. *seser̃s*, ст.-прус. *swestro*, ст.-інд. *svásar-*, гоц. *swistar*, лац. *soror*, ст.-ірл. *siur*, тахар. А *ṣar* ‘тс’ < і.-е. **su̯esor*, якое з’яўляецца, як



мяркуюць, складаным словам ад і.-е. **su̯e-* ‘свой’ і **sor-* ‘жанчына’; гл. Фасмер, 3, 612 з ранейшай літ-рай; Махэк$_2$, 541–542; Шустар-Шэўц, 1335–1336; Скок, 3, 226; Сной, 564; ЕСУМ, 5, 223; Борысь, 549; Трубачоў (История терм., 63 і наст.) адзначае неаднастайнасць тлумачэння другой часткі кампазіта; напрыклад, аспрэчваецца рэальнасць і.-е. **sor* ‘жанчына’ і прапаноўваецца кампазіт **su-esor* ‘сваёй крыві’, г. зн. ‘адзінакроўная’, дзе **esor: *esr* ‘кроў’, параўн. санскр. *ásrk*, грэч. ἔαρ ‘тс’. Адносна слав.-герм. *str* < і.-е. **sr* параўн. *струга, струя* і пад. Агляд версій гл. ESJSt, 13, 800–801.

**Сястра́н** ‘пляменнік’ (астрав., шальч., Сл. ПЗБ), *сестране́ц* ‘сын сястры’ (Сцяшк.), *сестра́нец* ‘тс’ (Нас., Маш.), *сястры́нец* ‘тс’ (Жд. 2, Сцяшк., Варл.), *сестрані́ца* ‘дачка сястры’, ‘пляменніца’, *се́стрінка* ‘тс’ (Нас.), *сястраніца* ‘стрыечная сястра’ (Чэрн.), ст.-бел. *сестренецъ* ‘пляменнік, сын сястры’ (Ст.-бел. лексікон), *сестранка* ‘пляменніца, дачка сястры’ (там жа). Укр. *сестрі́нець* ‘пляменнік, сын сестры’, *сестрі́ниця, сестрі́нка* ‘пляменніца, дачка сястры’, рус. *сестри́нец* ‘сын сястры’, *сестре́ница* ‘стрыечная сястра’, *сестрени́ца, сестря́нка* ‘дачка сястры; стрыечная сястра’, польск. *siostrzeniec* ‘пляменнік, сын сястры’, в.-луж. *sotrjenc* ‘сын сястры’, *sotrjenca* ‘дачка сястры’, славін. *sə̏stř̃ãnă* ‘дачка сястры’, *sostr̃ínc* ‘сын сястры’, чэш. *sestřenec* ‘пляменнік’, *sestřenice*, дыял. *sestřenka* ‘пляменніца’, славац. *sesternica, sestrnička* ‘дачка сястры’, *sestrenec* ‘пляменнік’, славен. *sestrȃn* ‘пляменнік; сын сястры’, *séstrna, séstrnica* ‘пляменніца’, балг. *се́стринец* ‘пляменнік’, *се́стриница* ‘пляменніца’. Да *сястра*. Прасл. **sestrěn(ьсь), *sestrěnica, *sestran-* (Фасмер, 3, 613; Трубачоў, История терм., 67 і наст.). Параўноўваецца з літ. *seserénas* ‘сын сястры’ (Траўтман, 258).

**Ся́трыць** ‘хваляваца, пакрываца дробнымі хвалямі (пра паверхню вады)’ (рагач., Сл. ПЗБ). Няясна.

**С’я́та** ‘свята’ (ст.-дар., беласт., Сл. ПЗБ), *с’я́то* ‘тс’ (ТС). Са *свята* ў выніку нерэгулярных фанетычных зmяненняў *(в > j)*.

**Сяўба́** ‘пасеў збожжа, час пасеву’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Касп., Стан., Шат., Сл. ПЗБ, Бяльк.), ‘матэрыял (насенне, караняплоды, зерне) для пасеву’ (віл., Стан.; Сцяшк., Сл. ПЗБ), *сеўба́* ‘перыяд пасадкі караняплодаў’ (Арх. Вяр.), *сылба́* ‘ўсходы’ (зах.-палес., Выг.), ст.-бел. *севба* ‘працэс пасеву і яго плён’: *севба моя поспела, бочку севбы* (1540 г.; Лінгв. дасл., 69). Дэрыват ад *сеяць* з суф. *-ба*, паводле Сцяцко (Афікс. наз., 33), з менай *j/ b* у аснове.

**Сяўбíт** 'сейбіт; сявец' (Ласт., Касп., Барад., Нік. Очерки, Сержп. Прымхі, Стан., Мат. Гом.), *сяўбíт, сéўбіт* 'тс' (Мат. Маг.). Вытворныя ад *сяўба* з непрадуктыўным суф. *-ім* (Сцяцко, Афікс. наз., 44), параўн. *сейбíт*, гл. З іншай суфіксацыяй *сяўбáк, сяўбéц, сяўбíк* 'тс' (Мат. Гом.).

**Ся́ўка** экспр. 'п'яніца' (Сцяшк. Сл.). Няясна, магчыма, гукапераймальнага паходжання, гл. *сяўкнуць*.

**Сяўкí** 'насенны матэрыял, малой колькасцю якога можна шмат засеяць' (ашм., Стан.). Да *сеяць*, параўн. *сеўкí*, гл.

**Ся́ўкнуць** 'загучаць (пра рэзкі гук у лесе)' (КСТ), *сяўкотíты* 'пішчаць (пра гусянят)' (Сл. Брэс., Нар. лекс.), відаць, таго ж паходжання, што і *сéўкаць* 'гаварыць злосна' (ТС). Гукапераймальнае ўтварэнне, параўн. укр. *сявкати, сявкотíти* (пра голас маладых гусей), гл. ЕСУМ, 5, 495.

**Сяўня́** 'сявалка' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Сцяшк.; паст., Сл. ПЗБ), *сяўнíк* 'тс' (слуц., Сл. ПЗБ), *сівны́к* 'тс' (Сл. Брэс.), *севéнь* 'тс' (ТС), ст.-бел. *севня, севальня* 'пасудзіна; адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў' (Ст.-бел. лексікон). Гл. *сявалка*.

**Ся́ўрана** 'суха і ветрана (пра надвор'е)', *сяўрыць* 'сушыць на сцюдзёным ветры' (Ласт.), *сяўрэнка* 'мяса, вытрыманае на халодных веснавых вятрах', *сяўрёный* 'высіверaны (пра кумпяк, каўбасы, мяса)' (віц., Нар. лекс.). Да *север, сівер* (гл.), параўн. рус. *северя́к* 'сцюдзёны паўночны вецер'.

**Сяўру́га** 'від асятра, Acipenser stellatus Pall.' (ТСБМ). Запазычана з рус. *севрю́га* 'тс', што, у сваю чаргу, з тат. *söirök*, уйг. *sürük* 'тс' ад ст.-цюрк. *сювре* 'востры', названа з-за вострай морды, гл. Фасмер, 3, 589; Адзінцоў, Этимология–1983, 128.

**Сяўру́к** 'Дзед Мароз' (Ласт.), *сяврю́к* '?' (себеж., Мат.), уласнае імя *Сяўрук* (Шн. 2); сюды ж, відаць, і *сéўрук* 'паўночны вецер' (Касп.), параўн. укр. *севрю́к* 'наглядчык, ахоўнік', рус. *севру́к* 'пануры, суровы чалавек'. Паводле Фасмера (3, 589), з *сѣверюк ад *север* (гл.); аналагічна Карскі, 2–3, 36 (выдзяляе суф. *-юк*); Станкевіч (Стан., 1028) лічыць памяншальнай формай ад племяннoй назвы *Севрáнін*. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 202 (па семантычных прычынах украінскае слова супастаўляецца з тур. *savruk* 'бязглузды, нязграбны, няўмелы'). Параўн. *сяўрыць, сяўрана*, гл.

**Сяўрэ́каць** 'гаварыць злосна' (КСТ), *сеўрэкаць* 'тс' (ТС). Відаць, экспрэсіўнае ўтварэнне ад *сеўкаць, сяўкаць* (гл.) па тыпу



*шаўкаць, шаўрыкаць*, гл. Параўн., аднак, польск. *siewrać* 'гаварыць мовай злодзеяў' (Каня, Słownik), аргат. *siwrać* 'гаварыць', якое параўноўваецца з рус. аргат. *сéврить* 'разумець', што выводзіцца з новагрэч. *(e)skeurō* (Варш. сл.).

**Сяўцы́** 'сузор'е Стажары' (ашм., Сл. ПЗБ). Калька літ. *sė́jkai* 'сейбіты' (Грынавяцкене, Мацкевіч, Baltistica, 26, 2, 169).

*__Сяхаціць__, *сяхотíты* 'бліскаць; блішчаць', *сяхóтня* 'маланка' (Сл. Брэс.), *сяхоты́ты* 'ззяць': *зоры сяхотят* (кам., ЖНС). Гл. *зіхацець*.

**Сяцёр** 'асётр' (Юрч. Вытв.). Фанетычны дыялектны варыянт з адсячэннем пачатковага *а-* ад *асяцёр* (гл. *асетр*).

**С'яць** 'ззяць, зіхацець' (Пятк. 2), *зьяць (źjać)* 'блішчэць, ільсніцца' (Тур.), ст.-бел. *сьяти* 'тс' (Альтбаўэр). Параўн. укр. *ся́ти* 'ззяць', рус. *зьять* 'тс', серб.-харв. *cjȁти* 'тс', макед. *cjae* 'тс'. Прасл. *sьjati 'ярка свяціць, блішчэць, прамяніцца' (Борысь, Etymologie, 576). Гл. *сіяць, ззяць*.

**Сячкáрня** 'саломарэзка' (ТСБМ, Некр. і Байк., Гарэц.; лях., Янк. Мат.; Сцяшк., Сл. ПЗБ, Варл.), *сечкáрня* 'тс' (ТС, Арх. Вяр., Сл. ПЗБ), *сячкáрка* 'тс' (Некр. і Байк., Мат. Гом.). Да *сечка*$_1$ (гл.); магчыма, запазычанне з польскай, дзе першапачаткова, паводле словаўтварэння, – суф. *-arnia*, параўн. *suszarnia, sieczkarnia* 'памяшканне, дзе захоўваюць або рэжуць сечку', пазней 'машына для рэзання сечкі', замест *sieczkarka* 'тс' (Варш. сл.).

**Сячы** 'раздзяляць на часткі; рубаць, ссякаць', 'хвастаць, сцябаць, кусаць (пра насякомых)', 'валіць, спілоўваць лес' (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Касп., Стан., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ, Сцяшк., Бяльк.; слуц., мін., маладз., ЛА, 5) *сеч* 'тс' (Бяльк., Шымк. Собр., Рам. 5; маг., ЛА, 5; ЛА, 1), *сéкчы* 'рубаць' (ЛА, 1), *сéкці* 'здрабняць; рубаць (дровы)' (ТС, ЛА, 5, ЛА, 1, Сл. ПЗБ, Некр. і Байк., Ян.), ст.-бел. *сѣчи* 'рубаць, біць' (Альтбаўэр). Укр. *сíкти*, рус. *сечь*, старaж.-рус. *сѣчи*, польск. *siec*, н.-луж. *sec*, палаб. *sect*, чэш. *síci*, серб.-харв. *сијѐћи*, славен. *sẹ́či*, балг. *секá*, макед. *сека*, ст.-слав. сѣщи, сѣкѫ. Прасл. *sěkti – першапачаткова атэматычны дзеяслоў, роднасны ст.-літ. *įsekti* 'насячы', *išsekti* 'высячы', лац. *secō* 'абразаю', ірл. *ésgid* 'ён адсякае', ст.-в.-ням. *seganse* 'каса' і г. д. ад і.-е. *sek- 'аддзяляць вострай прыладай' (Бязлай, 3, 221–222; Міклашыч, 290; Фасмер, 3, 593 з літ-рай; Махэк$_2$, 540; Шустар-Шэўц, 1393–1394; Борысь, 545; ЕСУМ, 5, 252).

**С'я́чык** старое 'брошка' (Сл. Брэс., Сакал.). Магчыма, вытворнае ад *с'яць* 'ззяць, зіхацець' (гл.).

**Та₁** 'то' злучнік (Сержп.; гродз., Нар. лекс.), *та* 'гэта' (Ян.). Укр. *та* 'і; але', стараж.-рус. *та* 'і; і, ды', серб.-харв. *та* 'ды, так, от жа', макед. *та* 'і, ды', балг. *та* 'і, ды; таму, каб', ст.-слав. **тА** 'і, ды'. Відаць, стары дублет *то* (гл.), што ўзыходзіць да прасл. займенніка **тъ* 'той', роднаснага літ. *tuojaŭ*, *tuõj* 'зараз, адразу, неадкладна', грэч. τῶ 'тады, потым'; далей да хец. *ta* 'і', ст.-інд. *tāt* 'у выніку чаго' (Фасмер, 4, 5; ESSJ SG, 2, 627–631; Сной₁, 651; ЕСУМ, 5, 498). Адносна магчымай сувязі са злучнікам *да* 'ды' (Бяльк.), 'ды, і; а потым, але' (ТС) гл. Копечны, Этымалогия – 1967, 26–27.

**Та₂**. Гл. *тая*.

**Таба́ка₁** 'тытунь', (ТСБМ, Пятк. 2, Бяльк., Растарг., Федар. 4, Юрч., Шат.), 'цёрты тытунь для нюхання' (Нас., Ласт.), 'расліны Nicotiana tabacum L., Nicotiana rustica L.' (Касп., Кіс.), 'травяністая дэкаратыўная расліна сямейства паслёнавых з пахучымі кветкамі' (ТСБМ), *таба́к* 'тытунь' (Кіс., Сцяшк.), сюды ж дэмінутыў *тобочо́к* 'стрэлкі, Capsella bursa pastoris L.' (Бейл.), а таксама далейшыя дэрываты *таба́чыць* 'курыць' (Нар. Гом.), *табачко́вы* 'колеру тытуню' (Нас., Сцяц. Сл.; ашм., беласт., Сл. ПЗБ), семантычна непразрыстае *таба́чны сук* 'першы ад зямлі сухі сук на лісцевых дрэвах' (Нар. лекс.) і перан. *таба́ка* 'колкі папрок': *дав я ему табакі, аж нос завернув* (Нас.). Укр. *таба́к*, *таба́ка* 'табака', рус. *таба́к* 'табака, тытунь', *табачные сучья* 'ніжнія сукі, якія, гніючы, псуюць дрэва' (Даль), польск. *tabaka* 'табака', *tabak* 'лісты тытуню', н.-луж. *tubak* 'тытунь', в.-луж. *tobak* 'тс', чэш. *tabák* 'тс', славац. *tabak* 'тс', славен. *tobak* 'тс', серб.-харв. дыял. *tàbāk* 'тс' (звычайна *ду̏ва̄н*). Слова распаўсюдзілася ў Еўропе з пачатку XVII ст., у старабеларускай мове *табака (табакъ)* 'махорка' зафіксавана ў 1638 г. як запазычанне са ст.-польск. *tabaka* (1621 г.). Першакрыніцай заходнееўрапейскіх слоў, адкуль адбылося паўторнае запазычанне ў беларускую, менавіта ням. *Tabak* 'тытунь', франц. *tabac* 'тс', нідэрл. *tabák* 'тс' – з'яўляецца ісп. *tabaco* 'тытунь'. Усходнім славянам слова стала вядома раней, чым адпаведныя расліны з'явіліся на іх землях, – ад падарожнікаў, наёмных салдат-замежнікаў і інш. (Чарных, 2, 223; Булыка, Лекс. запазыч., 151; ЕСУМ, 5, 498).



**Таба́ка₂** 'спарынне' (Сцяшк.), 'галаўня' (Сл. ПЗБ), 'захворванне пшаніцы, пры якім зерне ператвараецца ў чорны парашок' (Скарбы), 'сажа ў просе' (Лекс. Бел. Палесся), *табака́* 'галаўня ў просе, ячмені, пшаніцы' (зах.-бел., ЛА, 2). Укр. *таба́ка кукуру́зяна* 'сажка кукурузы, Ustilago maydis'. Перанос назвы (гл. папярэдняе слова) на паразітныя грыбы з-за знешняга падабенства (чорны пылок на коласе), гл. Выгонная, Лекс. Палесся, 76; ЕСУМ, 5, 498.

**Табаке́рка** 'скрыначка для табакі' (ТСБМ, Шн. 2, Касп.; ашм., Стан.; Бяльк., Федар. 4), *тобаке́рка, тобакі́рка*, *тобаке́рочка* 'зробленая з кары каробачка для тытуню, для захавання дробных рэчаў накшталт іголак, нітак і інш.' (палес., З нар. сл.; ТС). Укр. *табаке́рка* 'табакерка', рус. *табаке́рка*, польск. *tabakiera*, *tabakierka*, серб.-харв., балг. *табаке́ра*, макед. *табаке́ра*, *табаке́рка* 'тс'. Праз польскую мову з франц. *tabaquière* 'табакерка' (форма, вядомая з XVII ст.) < *tabac* 'тытунь' (Фасмер, 4, 5; Чарных, 2, 223; ЕСУМ, 5, 498). Параўн. *табацірка* (гл.).

**Табаку́р** 'курэц' (ТСБМ, Гарэц.). У выніку гаплалогіі з **табакакур* (гл. *табака, курыць*).

**Табала́₁** 'натоўп, гурт' (Ласт., Кал.; дзярж., Нар. сл.), 'воўчая гайня; руя (многа) дзяцей' (віл., ЛА, 5), 'вялікая зграя' (віл., Сл. ПЗБ), з семантычным працягам 'набор жартаўлівых песень' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Параўн. аналагічныя ўкр. *та́бала* і *табала́* 'натоўп, гурт, зграя', якія, паводле ЕСУМ (5, 499), запазычаны з рум. *tábără* 'маса, натоўп', апошняе ў сваю чаргу – да *табар₁*, гл. Аднак паўночна-заходні арэал распаўюджанасці беларускіх найменняў не дазваляе прама звязваць іх з украінскімі, а хутчэй прыводзіць да думкі аб тыпалагічнай тоеснасці фанетычнай субстытуцыі санорных ў запазычанай лексемы, гл. *табар₂*. Больш імаверна, згодна з Лабко (БЛ, 14, 67–68), звязаць іх з літ. *tabala* 'цурбанны вечар, куцця', што да *tabala* 'калодка, якую цягалі хлопцы і дзеўкі на Каляды', *tabalaĩ* 'народны музычны інструмент у выглядзе падвешаных дошчачак, якія выдаюць гукі рознай вышыні' (параўн. Экерт, Зб. Бернштэйну, 33–35; Велюс, Балто-слав. иссл., 337; Грэймас, Этн., 281), адсюль значэнне 'натоўп, гурт' адносна ўдзельнікаў шматлікай і шумнай святочнай працэсіі. Падобны звычай пад назвай "валачыць калодку" на масленіцу (Касп., Дабр., Растарг. і інш., падрабязна гл. Антропаў, Зб. памяці Талстога, 21–33) вядомы таксама ва Украіне, Славеніі і ў цэнтральнай Еўропе, параўн., напрыклад, градзішч.-харв. *rast vleć* 'вала-

чыць дуба', *bor vleći* 'цягнуць сасну', *korito vloć* 'цягнуць карыта', што, магчыма, звязана са старой еўрапейскай каляднай традыцыяй, якая ўзыходзіць да рымскіх часоў, параўн. Агапкіна, Основы, 203–244; Плотнікава, Слав. языкозн., XIV, 415. Таму нельга выключыць сувязь з лац. *tabula* 'дошка', на падабенства якога з літоўскімі словамі звярнуў увагу Шмітляйн, Revue International d'Onomastique (Paris), 24, 208.

**Табала́**$_2$ 'пустамеля' (віл., Жд. 2), 'недарэка, звягала, што лаецца і крычыць' (Варл.). Рус. дыял. *табалу́ бить* 'бадзяцца без справы, гарэзіць' і вытворныя *табалы́га* 'бадзяга, гультай', *табалы́жить, табалы́жничать* 'бадзяцца без справы; гультаяваць' (Даль; без тэрытарыяльных памет). Фасмер (4, 5–6) параўноўвае з літ. *tabalóti, -óju* 'кульгаць; блытаць', *tabalùs mùšti* 'куляцца', але яны, на думку Брукнера, запазычаны са славянскіх моў (там жа; але без адпаведных славянскіх лексем), супраць чаго па фанетычных паказчыках Фрэнкель (1048), які да літ. *tabalús mušti*, *tabaluoti* дадае яшчэ старое літ. *tabalka*. Аднак ён не выключае магчымасці калькавання дзеяслова з рус. *табалу́ бить* у літ. *tabalús mušti*, што падаецца даволі сумніўным. Улічваючы фіксацыю, ёсць падставы выводзіць беларускае слова непасрэдна з літ. *tabalas* 'тое, што боўтаецца', 'бірулька' з цалкам натуральным семантычным пераасэнсаваннем літ. *tabalúoti* 'матляць' – 'балбатаць', да семантыкі параўн. *целяпацца – целяпень*, гл. Лабко, БЛ, 14, 67 і папярэдняе слова.

**Табалі́ска** *(табалі́ско)* 'агароджанае стойла для жывёлы ў лесе або на полі' (навагр., Сцяшк.). Да зафіксаванага там жа *табо́р* 'тс' з менай санорных $р \rightarrow л$, што цалкам у межах фанетычнага вар'іравання пры запазычанні, параўн. *табала́*$_1$. Аналагічнае развіццё ва ўкр. *та́борисько* 'табар, месца табару, бівак' < *та́бір*.

**Та́бар**$_1$ 'стан або абоз цыганоў', 'умацаваны лагер з абозам', 'часовая стаянка; бівак' (ТСБМ, Нас., Ласт.), *табо́р* 'тс' (Вруб.), сюды ж вытворныя *та́барышча* 'месца стаянкі цыганоў; выган, паша' (Бяльк.), 'скопішча, стан' (Нас.), *та́бірышча* 'месца жыхарства' (барыс., Сл. ПЗБ), *табо́ры* мн. л. 'лагер' (вільн., Сл. ПЗБ), *та́барыцца* 'сяліцца' (віл., Сл. ПЗБ). Укр. *та́бір, та́бур*, рус. *табо́р*, польск. *tabor*, чэш., славац. *tábor*, славен. *tábor*, серб.-харв. *та̂бор*, балг. *та́бор* 'тс', макед. *табор*. Ст.-бел. *таборъ* 'абоз, табар' запазычана ў канцы XVI ст. са ст.-польск. *tabor*, якое,



у сваю чаргу, лічыцца запазычаннем XV ст. са ст.-чэш. *tábor*. Першапачаткова азначала гусіцкі лагер і паходзіла ад аднайменнай назвы заснаванага гусітамі горада *Tábor*, якая ад наймення біблейскай гары *Thabor* (Фавор у Назарэце), гл. Трубачоў, Дополн. (4, 7, з літ-рай.), Голуб–Ліер, 475; Рэйзак, 648. Мажліва, таксама з крым.-тат. *tabur* 'вайсковы абоз' (Фасмер, 4, 6–7; ЕСУМ, 5, 499; Булыка, Лекс. запаз., 122), дзе з польск. *tabor* або венг. *tábor* (Брукнер, 563). Вывядзенне з тур. *tabur* 'полк, батальён, пастроены ў выглядзе квадрата', першапачатковая семантыка 'месца, прастора, якую атабарыў полк' (Сной$_1$, 651), абвяргаецца цюрколагамі, гл. Немет, Acta Ling. Hung., 3, 431–436; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 387. Параўн. *атабарыцца*, гл.

**Та́бар**$_2$ 'гайня ваўкоў' (чашн., круп., ЛА, 1), 'гайня, зграя ваўкоў і сабак' (Жыв. св.). Метанімічны перанос з *та́бар*$_1$ са значэннямі 'група; скопішча'.

**Табато́ж** (*табато́ш*) 'так, але, ага; сапраўды' (Скарбы). У выніку ўнівербацыі спалучэння **то бо то же*, параўн. з іншым парадкам *тож ба то* 'ў тым та і справа, вось так' (ашм., Стан.), *tož-by-to* 'тс' (Варл.) або з усечанай формы спалучэння *то-бо-то-што* 'тс' (Некр. і Байк.). Параўн. *то-бо-то, тож бо то, тобта, то, тож*, гл.

**Табацёр** 'пасудзіна, у якой расціралі табаку для нюхання', 'чалавек, што расціраў табаку' (Нік. Очерки). У выніку гапалогіі з *табака* і *церці* (гл.), магчыма, пад уплывам наступнага слова (гл.), народнаэтымалагічна збліжана з *макацёр*, гл.

***Табаці́рка**, *тобаці́рка, тубаці́рка* 'зробленая з кары каробачка для тытуню, для захавання дробных рэчаў накшталт іголак, нітак і інш.' (драг., бяроз., З нар. сл.). Укр. *табате́рка, табаті́рка* 'табакерка', чэш. *tabatěrka*, славац. *tabatierka* 'тс'. Праз украінскую мову з франц. *tabatière* 'табакерка', параўн. *табаке́рка*, гл.

**Таба́чны сук** 'першы ад зямлі сук на лісцевых дрэвах' (навагр., Нар. лекс.). Параўн. рус. *таба́чные су́чья* 'ніжнія сукі, якія, гніючы, псуюць дрэва' (Даль). Відаць, да *табака* (гл.), аднак матывацыя не зусім празрыстая.

**Табе́**, Д. і М. скл. займенніка *ты* (гл.), Тв. скл. *табо́ю/табо́й* (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк.), ст.-бел. *тобѣ, тобе* (Карскі, 2–3, 191), *tobie, tebe* (Хроніка Быхаўца). Параўн. укр. *тобі́*, польск. *tobie*, чэш. *tobě*, стараж.-рус. *тобѣ*, што на фоне рус. *тебе́*, в.-луж. *tebi*, н.-луж. *tebje*, славац. *tebe*, славен. *tebi*, серб.-харв. *тѐби*, балг.

*тéбе*, макед. *тебе*, ст.-слав. тєбѣ 'тс' (гл. *цябе*) разглядаюцца як другасныя формы, узнікшыя па аналогіі з формамі Тв. скл. адз. л. у якасці паўночнаславянскай інавацыі, гл. Цітка, Kronika, 128.

**Тáбель** 'паслядоўны спіс, пералік; лісток пасляховасці вучняў', 'дошка (або кніга) для ўліку прысутнасці на працы' (ТСБМ), *тáбэль* 'тс' (Некр. і Байк.). Укр., рус. *тáбель* 'табель', польск., в.-луж. *tabela* 'табель; табліца', чэш. *tabela* 'табліца', славац. *tabela* 'табель; табліца', славен. *tabéla* 'тс', серб.-харв. *табѐла* 'тс', макед. *табела* 'тс', балг. *табéла* 'таблічка, дошчачка з надпісам'. У старабеларускай мове з 1710 г. фіксуецца памяншальнае *табелька* 'рэестр лічбавых дадзеных' са ст.-польск. *tabela* (Булыка, Лекс. запазыч., 57), сучаснае *табэ́лка* 'табліца множання' (Сцяшк. Сл.) з польск. *tabelka* 'таблічка'. Паўторнае запазычанне праз рус. *тáбель*, якое ад часоў Пятра I (*табель о рангах*) з нідэрл. *tabel* 'табліца; табель' < лац. *tabella* 'дошчачка, таблічка' < *tabula* 'дошка, табліца', звязанага з умбр. *tafle* 'на дошцы'; (Фасмер, 4, 6; ЕСУМ, 5, 499). Аб далейшых сувязях гл. Брукнер, 562–563; Махэк$_2$, 633.

**Табін**, ст.-бел. *табинъ* 'гатунак тоўстай шаўковай тканіны', *табинокъ* 'тая ж тканіна з прымессю воўны' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *тáбін*, *табíн*, 'гатунак шаўковай тканіны', рус. *табенек*, *полутабенек* 'від шаўковай тканіны'. Старабеларускія і польскія словы Булыка (Лекс. запазыч., 115; БЛ, 17, 64–65) выводзіць непасрэдна з тур.-перс. *tabin* = *tabi* 'тс'. Украінскае і рускае словы лічацца запазычаннямі адпаведна праз польск. дыял. *tabin* 'гатунак шаўковай тканіны' або ням. *Tabin* 'тс' з франц. *tabis* (у XIV ст. *atabis*) 'муараваная шаўковая тканіна' праз ісп. *tabí* 'тс' з араб. *attābī* 'тс'. Арабская назва тканіны паходзіць ад *at-Attābīyah*, назвы квартала, дзе яна выраблялася (ЕСУМ, 5, 499; Фасмер, 4, 6; Брукнер, 563).

**Таблéтка** 'плоскі шарык з лекавага парашку' (ТСБМ), 'тс' (навагр., Сл. ПЗБ). Укр., рус. *таблéтка*, польск. *tabletka*, чэш., славац. *tableta*, *tabletka*, славен. *tablẹ̑ta*, *tablẹ̑tka*, серб.-харв. *таблѐта*, макед. *таблета*, балг. *таблéтка*. Праз нямецкую з франц. *tablette* 'плітка, таблетка' – памяншальнай формы ад *table* 'дошка, пліта, табліца' < лац. *tabula* 'тс'. (Брукнер, 563; Голуб–Ліер, 475; Сной$_1$, 651; ЕСУМ, 5, 500).

**Табліца** 'пералік лічбавых ці іншых даных па графах' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'дошка, пліта з надпісамі' (Ласт.), 'паказальнік да-



рог' (Касп., Сл. ПЗБ), 'класная дошка' (Некр. і Байк., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'дошка аб'яў' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *таблица* 'пліта, табліца, шахматная дошка' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *таблúця*, рус. *таблúца*, польск. *tablica* 'табліца; дошка', н.-луж. *tablica* 'плітка, дошчачка', чэш. *tabulka* 'табліца; дошка', славац. *tabuľka* 'табліца', *tablica* 'дошка', *tabla* 'тс', славен. *tȃbla*, *tȃblica* 'таблічка, дошчачка (з надпісам)', серб.-харв. *тȁблица* 'табліца; дошчачка, таблічка; грыфельная дошка', макед. *таблица* 'грыфельная дошка', балг. *тáблица* 'табліца'. Ст.-бел. *таблица* 'пліта, табліца' < ст.-польск. *tablica* фіксуецца з XV ст. (Булыка, Запазыч., 315). У польскай з нар.-лац. *tabla* 'дошка, табліца' < лац. *tabula* 'тс' (Борысь, 624).

**Таблó** 'шчыт са светлавымі сігналамі або надпісамі' (ТСБМ). Праз рускую мову з франц. *tableau* 'карціна, выява; табліца, дошка', якое з'яўляецца памяншальнай формай ад *table* 'дошка, табліца' < лац. *tabula* 'тс' (ЕСУМ, 5, 500; Голуб–Ліер, 475).

**Табляваць** 'пракручваць, свідраваць дзіркі, заганяючы ў іх драўляныя гвазды' (дзятл., Сл. ПЗБ), *тэблеваты* 'свідраваць' (бяроз., Шатал.). Вытворнае ад *тэбель*, гл.

**Табляк**: *на табляку* 'не апіраючыся, не дакранаючыся': *трымая карова нагу на табляку* (слонім., ЖНС). Няясна; параўн. *тальмах*, гл.

**Табола**, ст.-бел. *тобола* 'клунак, цюк' (XV ст., КГС.). Параўн. укр. *тобíлка* 'скураная сумка', рус. *тобóлка* 'сумка, клунак', польск. *tobola*, *tobół* 'тс', в.-луж. *tobola* 'торба', н.-луж. *toboła* 'сумка пастуха', чэш. *tobola* 'торба', славац. *tobolka* 'кашалёк', славен. *tobȏlec* 'кашэль, сумка', серб.-харв. *тȍболац* 'скураны мяшочак, кашалёк; калчан', балг. *тобóлец* 'скураная сумка'. Прасл. **tobola* 'торба, мяшок; кашалёк' без пэўнай этымалогіі (ЕСУМ, 5, 585; Борысь, 636).

***Табóйта**, *тобóйто* 'вось іменна, так' (ТС). Універбаванае спалучэнне **то бо і то* (гл. *то*, *бо*), параўн. *тóбта*, гл.

**Табóр** 'агароджанае стойла для жывёлы ў лесе або на полі' (Сцяшк.), *тáбар* 'загарадка для жывёлы' (Сцяшк. Сл.). Метанімічны перанос з *тáбар*$_1$, гл.

**Табóрак**, *табóрка* 'маленькая табурэтка' (Сцяшк.). Гіпакарыстычная трансфармацыя *табурэ́тка* (гл.): усячэнне часткі асновы, асэнсаванай як суфікс, з адначасовым перасоўваннем

націску на “ўзноўлены” такім чынам корань і пашырэннем (*у* → *о*) націскнога галоснага. Гл. *табурэт.*

**Тáбу** ‘быццам бы, як бы’: *ад зямлі тáбу адсырвае* (мазыр., ГЧ). Кандэнсацыя выразу *так бы* ‘як бы’ ці **то бы* (гл. *то*, *бы*) з дыялектным пераходам *ы* → *у* ў фіналі.

**Табý** ‘забарона’, ‘забарона на пэўнае слова, дзеянне, прадмет’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рус. *табý* ‘тс’ з англ. *taboo, tabu* ‘табу, забарона’, што, у сваю чаргу, запазычана з палінэзійскіх моў, дзе *tapu* ‘свяшчэнны, недатыкальны’ літаральна азначае ‘асаблівым чынам адзначаны’ і складаецца з дзвюх частак *ta* ‘адзначыць’ і *pu* ‘надта, надзвычай’ (ЕСУМ, 5, 500).

**Табýн** ‘статак жывёл, гурт’, ‘чарада (птушак)’, ‘натоўп’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., ТС, Сцяшк., Цых., Сл. ПЗБ), ‘гайня, зграя ваўкоў’ (Сл. ПЗБ, ЛА, 1), ‘статак кароў і авечак на пашы’ (Жыв. св.), *таўбýн* ‘тс’ (Жд. 2), *табуніць* ‘збіраць у адно месца’ (Сцяшк. Сл.), *табуніцца* ‘збірацца разам, збівацца ў табун, статак’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл.), ‘збірацца ў чараду (пра птушак)’ (ТС), ‘гайняваць, знаходзіцца ў стане цечкі (пра ваўкоў)’ (валож., бялын., бых., Жыв. св.), *табýніцца* (пра кароў) (полац., ЛА, 1), ‘збірацца ў чароды (пра птушак)’ (івац., ЖНС). Укр. *табýн*, рус. *табýн*, стараж.-рус. *табун*, польск. *tabun* ‘статак коней або (радзей) быдла’, балг. *табýн*, серб. *тàбӯн* ‘статак коней (жарабцоў)’. Польскае і паўднёваславянскія словы лічацца запазычаннямі з усходнеславянскіх моў. У апошніх – з цюркскіх; звычайна параўноўваюць з адзначанымі Радлавым (Опыт, 3, 1, 978) тат., чагат. *табун* ‘статак (коней)’ і дададзеным Фасмерам (4, 7) крым.-тат. *табым* ‘табун; натоўп’, якія далей супастаўляюцца з манг. *tabun* ‘пяць’, што звязваецца з пяццю відамі жывёл у статках манголаў (Анікін, 520). Чарных (2, 223), аднак, зазначае, што ў сучасных цюркскіх мовах гэта вельмі рэдкія словы, у старажытнацюркскіх тэкстах яны не знойдзены, таму не маюць надзейнай этымалогіі.

**Табýр** ‘качарга’ (брасл., Сл. ПЗБ). Няясна. Малаверагодная сувязь з сіб. *табýрка* ‘скобка, якая паказвае вагу на бязмене’, ‘драўляны завостраны стрыжань’ без пэўнай этымалогіі, параўн. Анікін, 520.

**Табурэ́т**, *табурэ́тка* ‘род мэблі для сядзення, столак’ (ТСБМ, Касп., Янк. 1, Сл. ПЗБ), сюды ж формы з фанетычнымі ваганнямі



рознага кшталту (асіміляцыя, субстытуцыя галосных кораня і г. д.): *табарэ́тка* (Скарбы, Сл. Брэс., Жд. 2), *табарэ́зік*, *тубарэ́тка* (Сл. Брэс.), *табарэ́чык* ‘тс’ (Жд. 3), *табарэ́тачка* ‘маленькі столак’ (Сцяшк.). Хутчэй за ўсё, праз польск. *taboret* з франц. *tabouret*, якое да сярэдзіны XVI ст. ужывалася ў першасным значэнні ‘круглая падушачка для іголак’ і з’яўлялася памянш. формай ад *tabour* (< *tambour*) ‘барабан’. Пазнейшае значэнне франц. *tabouret* ‘табурэт’ з’явілася на падставе круглай формы мяккага сядзення, у польскай мове дагэтуль абазначае столак менавіта з круглым сядзеннем. З французскай ням. *Taburett* ‘табурэт’, якое лічыцца непасрэднай крыніцай запазычання для рускай мовы (Фасмер, 4, 7; Чарных, 2, 224), а таксама і для часткі беларускіх слоў.

**Табэ́лек** ‘свярдзёлак’ (Сцяшк.), *табэ́ляк* ‘невялікі свердзел’ (Скарбы). Памяншальнае ад *тэбель*, гл.

**Тавалга**, ст.-бел. *таволга* ‘дзяржанне пугі або аршын, зробленыя з вятроўніку’ (1578 г.; Булыка, Лекс. запазыч.). З цюркскіх моў, параўн. чагат. *tabulγu*, тат., баш. *tubylγy* ‘вятроўнік, бружмель’ (Булыка, там жа, 105). Параўн. і рус. *таволгá, тáволга* ‘расліна Spiraea’ таксама цюркскага паходжання, абазначае розныя расліны з вельмі моцнай драўнінай (Фасмер, 4, 8; Анікін, 521).

**Тавáр**$_1$ ‘свойская рагатая жывёла’ (ТСБМ), ‘худоба, статак’ (Некр. і Байк.), ‘буйная рагатая жывёла’ (Янк. Мат., Мат. Гом.), ‘каровы; быдла’: *kózy nie tavár* (Пятк. 2), *товáр* ‘тс’ (ТС, ПСл, Маш.), ‘каровы і коні’ (Горбач, Зах.-пол. гов.), ст.-бел. *таваръ* ‘маёмасць’: *а таваръ их на грабежь* (Альтбаўэр); сюды ж вытворныя *тавáрац*, *товáрац* ‘каровы’, ‘рагатая жывёла’ (Нар. Гом., ТС), ‘жывёла, свойская скаціна (каровы, авечкі)’ (Нар. Гом.), *тавáрына, товáрына* ‘(адна) карова’ (Мат. Гом., ТС), *тавáраччы* ‘каровін’, *тавáрачэ м’ясо* ‘ялавічына’ (лельч., Жыв. сл.). Укр. *товáр* ‘свойская рагатая жывёла’, рус. паўдн. *товáр* ‘гурт рагатай жывёлы’. Да прасл. дыял. (усходняга) **tovarъ* ‘свойская жывёла’, ‘маёмасць’, прычым другое значэнне развіваецца ў ‘прадукт працы, выраблены на продаж’ (гл. наступнае слова) і мела, безумоўна, вытворны ад першага характар, г. зн. ‘маёмасць у выглядзе свойскай жывёлы’. Менавіта ў гэтых першасных значэннях запазычана з цюркскіх моў, параўн. тур. *davar*, *tavar* ‘дробная хатняя жывёла, авечкі; хатняя жывёла; маёмасць’, ка-

раім., тат. *тувар* 'хатняя жывёла; жывёліна', 'уючная жывёліна' і інш., дзе яны захаваліся. Але ўжо раней назіраюцца натуральныя семантычныя зрухі: 'маёмасць у выглядзе свойскай жывёлы' → 'маёмасць', 'багацце', параўн. ст.-цюрк. *tawar*, *tïwar* 'хатняя жывёла; маёмасць', *ed tavar* '(пагалоўе) жывёлы', *tavar* 'маёмасць; даніна; дар', 'дабро, багацце; тавар', *tavarluq* 'скарбніца, казна' і пад. (Ёлкіна, ЭИРЯ, 2, 116–129; Фасмер, 4, 67–68; Чарных, 2, 247; ЕСУМ, 5, 586 з далейшай літ-рай.). На думку Мартынава (Лекс. Палесся, 9), на поўдні Беларусі выцесніла старое *гавя́да* (гл.). Ст.-бел. *товаръ* 'свойская жывёла' фіксуецца толькі ў XVII ст. і запазычана са ст.-укр. *товаръ* 'скаціна, пераважна рагатая' (Зяневіч, АКД, 6).

**Тава́р**₂ 'прадукт працы, выраблены на продаж; прадмет гандлю' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ, Федар. 4), ст.-бел. *товар* 'тс': *выдеръ пять, бобръ и иншый товаръ весь у целости есть* (пач. XV ст., КГС). Укр. *товар* 'тс', рус. *товар* 'тс', польск. *towar* 'тс', чэш. *tovar* 'выраб; тавар', старое н.-луж. *towara* 'тс', славен. *tovor* 'груз; ноша', серб.-харв. *то̀вар* 'тс', балг. *това́р* 'груз; паклажа', макед. *товар* 'тс'. Вынік ранняга семантычнага развіцця прасл. **tovarъ* ад 'свойская жывёла' да 'маёмасць' і 'тавар', пераходны этап дэманструе макед. *товар* 'мера вагі (у тым ліку збожжа, віна, солі, дроў і інш., што пераносіў наўючаны асёл)', параўн. грэч. γομάρι 'паклажа, груз' і 'асёл', паводле Ілііеўскага (Прилози, 22, 1–2, 22), прасл. **tovar* роднаснае тур. *davar*, *tavar* 'свойская жывёла, маёмасць'. Гл. таксама Шустар-Шэўц, 1522; Глухак, 634 (зыходным лічыць 'паклажа на кані або асле, адкуль 'груз, ноша' і 'асёл').

**Тава́р**₃ 'вырабленая скура на абутак' (ТСБМ, Сл. ПЗБ; узд., Жд. 1), 'суцэльныя загатоўкі на боты' (Сцяшк.), 'матэрыял; вырабленая скура на боты, туфлі' (навагр., ЖНС), 'фабрычная тканіна' (карэліц., Шатал.), 'фабрычная матэрыя' (лях., Янк. Мат.), *тува́р* 'суцэльныя загатоўкі для ботаў' (Сакал.). Рус. дыял. *това́р* 'вырабленая скура; скура для абутку'. Звужэнне са спецыялізацыяй значэння *тавар*₂ (гл.), параўн. наступнае слова.

**Тава́р**₄ 'бярвенне (на плыту)' (лоеў., чач., Мат. Гом.). Параўн. рус. разан. *това́р*, *това́р пи́льнай* 'першасна апрацаваны матэрыял (галоўным чынам пра піламатэрыялы)'. Метанімічны перанос з *тавар*₂ (гл.) у значэнні 'маёмасць'.



**Тава́ранка** 'назва грыба' (Нар. Гом.), *тава́рынка*, *тава́ранак* 'грыб малачай звычайны, Lactarius trivialis Fr.' (мазыр., рагач., Сярж.-Яшк.). Да *тавар*₁ (гл.), параўн. *таварачы*; відаць, з-за малочнага соку, які выдзяляецца на зломе, параўн. іншыя назвы гэтага віду грыбоў: *кароўка*, *кароўнік* і пад.

***Тава́рач**, *това́рач* 'расліна шальнік, Alisma' (ельск., Жыв. сл.). Няясна, магчыма, да наступнага слова (гл.) з семантыкай 'неядомы, шкодны', таму што ён атрутны, параўн. укр. *жабник* 'шальнік'.

**Тава́рачы**, *таварaччы* 'каровін' (Мат. Гом.), *това́рэчы* 'каровін, каровячы' (ТС), сюды ж словаспалучэнні з прыметнікам: *тава́рачы рыжок*, *тава́рычы рыжкі* 'грыб ваўнянка, Lactarius torminosus Fr.' (ельск., ЛА, 1; Расл. св.), *тава́рачы грыб*, *тава́рачыя грыбу́* 'грыбы, якія ядуць каровы, авечкі' (мазыр., Жыв. сл.), *това́рачы бобо́ўнік* 'расліна бабок трохлісты, Menyanthes trifoliata' (лельч., Нар. лекс.). Утварэнні ад *тавар*₁ (гл.), прыметнік таксама ў пераносным значэнні 'неядомы, шкодны, дзікі', параўн. назвы грыбоў і раслін з азначэннямі *конскі*, *сабачы*, *воўчы*, *жабечы*, *вужовы* і *благі*, *дрэнны*, *паганы*, *нічогі*.

**Тавары́ства** 'сукупнасць людзей аднаго рамяства або звання' (Нас.), 'група людзей, аб'яднаных агульнымі інтарэсамі', 'блізкасць, заснаваная на такіх адносінах', 'арганізацыя, у якую ўваходзяць раўнапраўныя ўдзельнікі' (ТСБМ), 'асацыяцыя, суполка' (Ласт., Некр. і Байк.), 'кампанія; людзі аднаго ўзросту' (Сержп. Прымхі; узд., Жд. 1), *тавары́ство* 'аднагодкі, равеснікі' (іўеў., чэрв., капыл., лях., пух., Сл. ПЗБ), 'дружбакі, сябры' (ваўк., лях., пух., Сл. ПЗБ). Дапускаецца запазычанне з польск. *towarzystwo* з шырокім колам значэнняў, аднак, паводле Векслера (Гіст., 176), у выніку адзначанага ў XV–XVI стст. спрашчэння збегу зычных шляхам адпадзення пачатковага *ш* перад *с*: *таварыш* > *таварыства*, параўн. у Насовіча: *тавары́шства (товари́штво)* побач з *тавары́ства (товари́ство)* 'прыяцельства, сяброўства', 'група людзей аднаго рамяства або звання' (Нас.). Гл. наступнае слова.

**Тава́рыш** 'друг, прыяцель, паплечнік, калега', 'равеснік, аднагодак' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Ласт., Бяльк., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ), *това́рыш* 'сябар' (ТС), *таварышо́к* 'пры неафіцыйным звароце' (Нар. Гом.), сюды ж карэляты ж. р. *тава́рышка* 'сяброўка, саўдзельніца', 'спадарожніца', 'равесніца, з якой тава-

рышавала' (Янк. 2), 'сяброўка, аднагодка' (Касп., Растарг., Сл. ПЗБ, Жд. 2), *товáрышка* 'тс' (ТС), *таварышавáць* 'сябраваць, дружыць' (ТСБМ, Сержп. Прымхі), *таварышкавáць* 'тс' (Сцяц.), *таварышовáць*, *товарыўшыць* 'тс' (Нас., ТС), ст.-бел. *товаришь* 'прыяцель; супольнік' (Альтбаўэр), *товаришъ*, *товáрышъ*, *таваришъ*, *таварышъ*, *товарышка* 'супольніца', *товаришити* 'дружыць, быць у адной суполцы' (Карскі, 2–3, 277, 394). Укр. *товáриш* 'прыяцель, супольнік', рус. *товáрищ* 'тс', польск. *towarzysz* 'тс', каш. *towařěš*, н.-луж. *towariš* 'тс', в.-луж. *towarš* 'тс', ст.-чэш. *tovaryš*, *towařiš*, чэш. *tovaryš* 'падмайстар', 'супольнік', славац. *towariš*, славен. *towâriš* 'тс'. Адзінага меркавання адносна паходжання слова няма. Чарных (2, 247) выводзіць са стараж.-рус. *товаръ* (гл. *тавар*$_1$) з, магчыма, старэйшым на ўсходнеславянскай глебе значэннем 'стан; вайсковы лагер'. Суфікс *-išč-ь* замест **-iš-ь/*-yš-ь*, які адзначаецца ў іншых славянскіх мовах і сярэднерускіх гаворках, можа, такім чынам, тлумачыцца ўплывам стараж.-рус. *товáрище* 'стан' (паводле Сразнеўскага, найбольш ранняя фіксацыя пад 992 г.), паводле Карскага (2–3, 394), апошнія ў выніку спрашчэння. Часцей слав. **tovarišь* або **tovariščь* лічыцца запазычаннем з цюркскіх моў, у якіх слова складаецца з дзвюх частак: тур., чагат. *tavar* 'маёмасць; скаціна; тавар' і *eš* (*iš*) 'сябар, таварыш' (Фасмер, 4, 68; ЕСУМ, 5, 586; Борысь, 639).

**Тавóт** 'густая змазка для машын і механізмаў' (ТСБМ), 'салідол' (Сцяшк.). Праз рус. *тавóт* або польск. *towot* 'змазка'. SWO першакрыніцай лічыць французскае прозвішча *Tovotte*, аднак сувязь з апошнім не патлумачана.

**Тага-** (*таго-*) – ненаціскны элемент складаных слоў *тагабóчны* 'які жыве на тым баку', *тагагóдні* 'мінулагодні', *тагарóчны* 'тс' (Нас.), *тагасвéтны* 'незямны, пасмяротны', *тагачáсны* 'які існаваў у мінулым' (ТСБМ), *тагочáсны* 'тадышні' (Ласт., Бяльк.). Да *той* (гл.), на базе спалучэнняў *з таго боку*, *з таго свету*, *з таго року* і пад., параўн. *таго-часу* 'зараз жа' (Нас.). Гл. *таго*.

**Тагáн**$_1$ 'падстаўка на ножках пад кацёл, чыгунок, вядро і пад. пры гатаванні ежы на агні' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк.), 'трыножак, на які вешаюць калыску з дзіцем у час жніва' (леп., ЛА, 3; Ян.), *таганы́* 'тс' (ТСБМ, Касп.; докш., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.; ушац., леп., ЛА, 3), 'трыножнік для падвешвання ў полі люлькі, катла' (ТС), *таганóк* 'невялікі металічны кацялок з дзяржаннем для варкі ежы ў полі' (Растарг.). Укр. *тагáн* 'трыножнік для катла', *таганú* 'прыстасаванне для падвешвання калыскі ў час працы на полі', рус. *тагáн* 'падстаўка для катла, трыножнік', серб.-харв. *тѝгāњ* 'патэльня', балг. *тигáн* 'тс', ст.-слав. **таганъ**, **тиганъ** 'тс'. З цюркскіх моў, дзе тат. *qazan taγapy* 'козлы для падвешвання катла', крым.-тат. *tyγan* 'жароўня', якія далей звязваюць з грэч. τηγανον 'патэльня', новагрэч. τηγάνι(ον) 'тс' (Фасмер, 4, 9; ЕСУМ, 5, 502; Анікін, 521).

**Тагáн**$_2$ 'катаванне, строгі допыт': *возьми его на таганъ, дакъ и признаецца* (Нас.). Рус. смал. *натагáн* 'у розныя бакі, урасцяжку', 'на расправу' (Дабр.). Відаць, да папярэдняга слова (гл. *таган*$_1$), якое мела і спецыфічнае значэнне 'прылада для катавання', захавалася толькі ў спалучэннях з прыназоўнікам (прыстаўкай) *на*: *на тагáн*, *натагáн* 'паддаць расправе, катаванню'.

**Тагáніць** 'цягаць'(Нас.), *тъгáніць* 'несці, валачы' (мёрск., Нар. лекс.). Да *тагáн* (гл.) з мяркуемым значэннем 'расцяжка'. Параўн. *натаганіць* (гл.).

**Тагды́** 'тады; часам, калі-нікалі' (ТСБМ), 'тады; потым' (Сцяц., Ян.), 'тады' (Сержп. Прымхі; віл., Жд. 3), 'у той час, перыяд' (Сл. ПЗБ), *тогды́* 'тс' (ТС, ПСл), 'у той час, пасля таго' (пруж., беласт., Сл. ПЗБ), *тогды́-сёгды* 'час ад часу' (ТС), *тагды́-сягды́* 'калі-нікалі' (в.-дзв., Шатал.), сюды ж фанетычныя варыянты *тагдэ́* 'пасля таго, потым' (Сл. ПЗБ), *тогдэ́* 'ў той час, пасля таго' (кам., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.), *тоўды́* 'тс' (ПСл), *товді* 'тс' (Сл. Брэс.), а таксама *тагды́шні* 'тадышні' (Нас.); ст.-бел. *тогды*, *тагды* 'тады' (Альтбаўэр, КГС). Укр. *тогді́*, дыял. *товді́*, *тоўді́*, рус. *тогдá*, дыял. *тогды́*, *товды́*, *тóжды*, стараж.-рус. *тогда*, *тъгда*, *тъгды*, *тогды*, *толды*, ст.-польск. *tegdy*, в.-луж. *tehdy*, н.-луж. *tegdy*, чэш., славац. *tehda*, *tehdy*, балг. *тогá(ва)*, макед. *тога*, *тогай*, *тогаш*, ст.-слав. **тогда**, **тъгда**, **тогъда**, **тьгда**, **тодга** 'тады, у той час'. Прасл. варыянты **togdy/*tъgdy* 'тады' з указальнага займенніка **to* (Шустар-Шэўц, 1502 да **to-* дадае яшчэ **te-* і *tъ-* з дыялектнай дыферэнцыяцыяй у славянских мовах яшчэ з праславянскіх часоў) і фарманта *-gdy* (ESSJ SG, 2, 667–671) або **gъdy* (Борысь, 630). Паводле Карскага (2–3, 417), тут выступае форма Тв. скл., як і ў ст.-бел. *всегды* 'заўсёды', *иногды* 'часам' і пад. Першая частка звычайна супастаўляецца з літ. *tadà, tad* 'тады', усх.-літ. *tadù*, ст.-інд. *tadā́*, , вед. *tadānīm*, *tadāmm*, авест.

*таба* (Фасмер, 4, 68–69; ЕСУМ, 5, 590). Адносна другой часткі **-gdy* на падставе лат. *tagad* (< **tagadi*) 'цяпер', укр. *тогід* 'у мінулым годзе' мяркуецца, што гэта склонавая форма ад прасл. **godъ*, менавіта Р. скл. адз. л. **goda* (Мюленбах–Эндзелін, 4, 122–123; другасны ўплыў іменных склонавых флексій у адносінах да фіналі прасл. **kǫdy* дапускае ЭССЯ, 12, 53; гл. таксама Карскі, 1, 103), але невытлумачальным, на думку Фасмера (там жа), застаецца перасоўванне націску на канчатак. Верагоднасць іншых версій (кантамінацыі **toga/*tъga* + **toda/*tъda* ці існаванне зыходнага **to-kъda*) цяжка давесці. Гл. *тады́*.

**Таго́**$_1$ – Р. і В. скл. займенніка *той* (гл.), ст.-бел. *того* (XVI ст., Статут 1529). Параўн. укр. *того́*, рус. *того́*, стараж.-рус. *того*, чэш. *toho*, славац. *toho*, серб.-харв. *tȍg(a)*, старое балг. *того́зи*, ст.-слав. **тогo**. Прасл. **togo* ад указальнага **tъ* з няяснай па паходжанні фіналлю *-go*, партыкулай, якая праціпастаўлялася часціцы **so*, параўн. ст.-слав. **чьсо** 'што', першапачаткова прадстаўленай у і.-е. **tó-so* або **to-si̯o* 'гэтага', параўн. ст.-інд. *tásya* 'тс' і пад. Жэлезнікер (WsJb, 10, 69 і наст.) ідэнтыфікуе *-g-* з элементам, прадстаўленым у прасл. **-gda*, **-gdy* (гл. *тагды*); аналагічна Фасмер (4, 69), які следам за Шмітам (KZ, 23, 292) бачыць у ім канцавы элемент прасл. **inogъ*, **četvьrgъ* (гл. *чацвер*).

**Таго́**$_2$ 'таму' (Юрч. СНС). Укр. *того́* 'тс', рус. *того́*, *оттого́* 'тс'. Форма Р. або В. скл. займенніка *той* – вынік адвербіялізацыі (ЕСУМ, 5, 590; Фасмер, 4, 69). Параўн. адвербіялізаваную форму Д. скл. гэтага ж займенніка *таму́*, гл.

**Таго́ны** 'той' (Сцяшк. Сл.). Адзайменнікавы прыметнік ад *той* 'ён' (гл.), утвораны па тыпу *ягоны*, гл.

**Та́дны** 'танны' (дзятл., Жыв. сл.; ЛА, 3). Дыялектная дысіміляцыя (*н* > *д*) доўгага (з падвойнага) санорнага, параўн. тое ж у *тайны*$_2$ (гл.).

**Тады́** 'ў той час, у той момант', 'пасля таго' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Касп., Ласт., Некр. і Байк., Бяльк.), сюды ж фанетычныя варыянты *тоды́* 'тс' (калінк., Сл. ПЗБ) і *тадэ́* 'тс' з дыялектнай субстытуцыяй націскнога (Сцяшк.). Ужо ў ст.-бел. з пачатку XV ст. фіксуецца форма без выбухнога *тоды* 'тады' (КГС). Укр. *тоді*, дыял. *тоди́*, рус. дыял. *тоды́, тады́*, *тада́*, польск. *tedy*, *wtedy*, ст.-польск. *teda*, каш. *tedë*, палаб. *tådě*, *tüdě*,



чеш. *tedy*, ст.-чэш *teď*, *tedě*, славац. старое і дыял. *tedy*, в.-луж. (размоўнае), н.-луж. *tedy*, *ted*, серб.-харв. *тӓд*, *тàда*, *тàдā*, славен. дыял. *tǫ̑di*; усе з базавым значэннем 'тады; у той час, тыя часы'. Праўдападобна, што яшчэ на праславянскай глебе на базе першапачатковых спрадвечных форм **togda/*tъgda* // **togdy/*tъgdy* ўзніклі іх дыялектныя варыянты без выбухнога як вынік аналогіі з найменнямі тыпу **kǫdy* і пад. альбо на падставе ўласна фанетычнага развіцця каранёвага спалучэння зычных *-gd-*, менавіта дысіміляцыі, якая спачатку прывяла да з'яўлення на месцы выбухнога фрыкатыўнага гука, а потым з паступовым аслабленнем і да яго поўнай рэдукцыі. Параўн. *тагды*, гл., а таксама ESSJ SG, 2, 667–671 з літ-рай; ЕСУМ, 5, 590.

**Тады́ка** 'тады' (маст., Сцяшк.). Да *тады* (гл. папярэдняе слова) і часціцай *-ка* з наяўнай экспрэсіяй. Параўн. блізкія формы з *-к-*: старое серб.-харв. *tadaka*, *tadeka*, *tadaker*, чэш. дыял. *tedyk* 'тады', харв. *tedéky* 'зараз' (ESSJ SG, 2, 668). З іншымі нарашчэннямі (т. зв. "пустымі" суфіксамі, гл. Шуба, Прыслоўе, 62), *тады́нака* 'тады, туды' (Жд. 2), параўн. з н.-луж. дыял. *tedyn*, *tejdyn* 'тут; зараз; тады' і старое серб.-харв. *tьdinak* 'тады'; *тады́х* 'тады' (мядз., Жд. 3); *тады́ча* 'тады' (шчуч., З нар. сл.), параўн. харв. *tedečky*, *tedečke* 'зараз'.

**Тады́-сяды́** 'час ад часу, калі-нікалі, іншы раз' (ТСБМ), 'часам, калі-нікалі' (Касп., Варл.). Рыфмаванае спалучэнне да *тады* (гл.), параўн. *сюды-туды*, *туды-сюды*, гл. *сюды*, *туды*. Другая частка спалучэння ўзыходзіць да ўказальнага займенніка **sь*, гл. *сей*.

**Тады́шні** 'які існаваў задоўга да цяперашняга часу; той' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), 'тагачасны' (Касп.). Укр. *тодішний*, *тодішній*, рус. *тогда́шний*, дыял. *тады́шний*, *тады́шный* 'папярэдні, тагачасны; той', серб.-харв. *тàдашњӣ*, славен. *tedašnji* 'тагачасны'. Да *тады* (гл.) з інфіксам першапачаткова экспрэсіўнага характару. Параўн. стараж.-рус. *тъгдашьнии*, *тогдашнии* 'які быў у той час, тычыцца таго часу', вядомыя з самых ранніх помнікаў (XI ст., Сразн.), што дазваляе лічыць названыя формы агульнымі для ўсходнеславянскіх і паўднёваславянскіх дыялектаў інавацыямі познепраславянскага перыяду.

**Та́ек** *(та́як)* 'як, як быццам' (слуц., Нар. словатв.). Утворана на базе спалучэння *так як* з пропускам зычнага *-к-* у алегравых формах (Шуба, БЛ, 18, 64), гл. *так, як*. Аналагічна заходнеславянскі дыял. злучнік *tajak* – скарочана з *tak jak* (ESSJ SG, 2, 634). Параўн. *татак* 'тс', гл.

**Тае́мнік₁** 'шматгадовая травяністая расліна, якая паразітуе на каранях ляшчыны, вольхі і пад.' (Байк. і Некр., ТСБМ), 'расліна Lathraea' (Кіс.). Відаць, штучна створаная (не народная) назва ад *тае́мны* (гл.) на базе лацінскай назвы, якая паходзіць ад *lathraeos* 'хаваць', параўн. тыпалагічна тоесныя ўкр. *потаенниця* 'расліна Lathraea squamaria L.' (Аненкаў), серб. *по̀та̄јница* 'Lathraea'.

**Тае́мнік₂** 'патаемнае месца, тайнік' (Нас.). Да *тае́мны*, гл. наступнае слова.

**Тае́мны** 'тайны, скрыты, невядомы; непрыкметны; загадкавы' (Нас., ТСБМ, Ласт., Стан.), *таёмный* 'тс' (Бяльк.), ст.-бел. *таемный* 'тс' (КГС), *таёмный* 'тс' (XV ст., Карскі, 2–3, 233). Укр. *тає́мний* 'таемны', польск. *tajemny* 'таемны, сакрэтны; невядомы', чэш. *tajemný* 'тс', славац. *tajomný* 'таемны, сакрэтны'. Паводле Карскага (Труды, 314), з польск. *tajemny* 'тс', якое Атрэмбскі (SOc, 19, 455–456) лічыў вынікам кантамінацыі старога дзеепрыметніка **tajetъ* (гл. *таім*) і прыметніка **tajьnъ* (гл. *тайны*) і агульнай заходнеславянскай інавацыяй. Гл. таксама Басай-Сяткоўскі, Słownik, 388.

**Та́ечка** 'прыяцелька' (Ласт.), 'сяброўка' (Мат. Гом.), *та́ічка* 'таварышка, кума' (Бяльк.). Гл. *тайка*.

**Таёж**, ст.-бел. *таёжь* 'таксама' (?): *таёжь соу(ть) та(мъ) многіє комары и ї̈аскїне подземьне* (XV ст.; Карскі, 2–3, 455). Параўн. польск. *też*, каш. *tёž*, *tăiš*, *teiš*, чэш. *též*, славац. *tiež*, в.-луж. *též*, дыял. *tejž*, *täž*. З **toje-že* 'тс', гл. *той* (ESSJ SG, 2, 672).

**Таёмства** 'таямнічасць, недасягальнасць для розуму, пазнання' (1910 г., КСНН). Магчыма, багемізм, параўн. ст.-чэш. *tajemstvie*, рэдкае польск. *tajemstwo*, параўн. Басай-Сяткоўскі, Słownik, 388.

**Таз** 'шырокая пасудзіна, мядніца' (ТСБМ), 'вялікая міска' (Сцяшк., Бяльк.), 'гаршчок' (Вруб.). Запазычана, хутчэй за ўсё, праз рускую з цюркскіх моў, параўн. тур., крым.-тат. *tas* 'міска', дзе з араб. *tast* 'кубак; таз' < перс. *täsht* (*tæʃt*) 'тс' (Фасмер, 4, 10; Чарных, 2, 224; ЕСУМ, 5, 502–503 з літ-рай). Параўн. *таца*, гл.



**Таза́к** 'партупея; рэмень праз плячо для нашэння шаблі' (Ласт.). Запазычанне, параўн. ст.-цюрк. *tušaγ* 'путы' (параўн. Анікін, 561).

**Таі́м** 'патаемна, употайкі' (Бяльк.). У аснове прасл. **tajetъ*, дзеепрыметнік залежнага стану ад *таіць* (гл. наступнае слова), параўн. *таемны* (гл.).

**Таі́ць** 'трымаць у тайне, хаваючы ад другіх, утойваць' (Сл. ПЗБ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., ТС), *таі́цца* 'скрываць; утойваць; хавацца, скрывацца', *таіті* 'ўтойваць', *таітіс'е* 'падпільноўваць, цікаваць' (Вруб.), 'запірацца' (Нас., ТСБМ, Некр. і Байк., Касп., Ласт., Сл. ПЗБ, Сержп. Прымхі, Варл., ТС, Ян.), ст.-бел. *таити* 'ўтойваць' (XV ст., КГС). Укр. *таї́ти, таї́тися*, рус. *таи́ть, таи́ться*, польск. *taić* (*się*), в.-луж. *tajić* (*so*), н.-луж. *tajiś* (*se*), *tawiś*, чэш. *tajit* (*se*), славац. *tajiť* (*se*), славен. *tajiti* (*se*), серб.-харв. *та̏јити* (*се*), *tȁjati*, харв., чак. *tōjȁt*, балг. *тая́*, макед. *таи*, ст.-слав. **таити, таити сѧ** 'хаваць, утойваць'. Да прасл. **tajiti*, дыял. **tajȁti* (рэканструкцыя Фурлан у Бязлай, 4, 147), якія з'яўляюцца вытворнымі ад **taj* 'таямніца, тайна', 'таямніча, скрытна' (роднаснага **tatь* 'злодзей'), параўн. старое серб.-харв. *tȃj*, *tȁja*, *tāja* 'таямніца', ст.-слав. **таи** 'таемна, употайкі, скрытна', чэш. *taj* 'таямніца; невядомае'. Махэк (634) прапануе, аднак, некалькі іншае развіццё: **tajǫ* < **taj-jǫ* < **taj-ī-tei*. Далейшыя сувязі бачаць у хец. *taje/a* 'красці', ст.-інд. (*s*)*tāyú-ḥ-* 'злодзей', авест. *tāiiu*/*tāyu-* 'тс', ст.-ірл. *táid* 'тс', грэч. τήτη 'нястача', τητάω 'пазбаўляю, адбіраю, рабую', якія працягваюць і.-е. *(*s*)*tă-i-* (Покарны, 1010); гл. таксама: Фасмер, 4, 11; Борысь, 625; Чарных, 2, 224; ЕСУМ, 5, 503 з літ-рай; Рэйзак, 649.

**Тай** 'ды': *тай іде там ён возьме!* (Растарг.). Параўн. укр. дыял. *тай* 'тс', польск. дыял. *taj* 'ды, ды і' (Варш. сл.). Спалучэнне злучніка *та* з *і* (ESSJ SG, 2, 633–634).

**Тайба́** 'трыманне ў тайне, тайна', 'утойванне, хаванне': *тайба грошай* (Нас.). Прамая паралель у сучасных славянскіх мовах толькі ў славен. дыял. *tȃjba* (гл. Фурлан у Бязлай, 4, 147), што можна разглядаць як сепаратную беларуска-славенскую ізаглосу. Параўн., аднак, ст.-слав. **таибьна** 'тайна', **таибьно** 'таямнічы, таемны', **таибьникъ** 'асоба, якая валодае тайнай, жрэц, святар' (толькі ў Супрасльскім кодэксе), стараж.-рус. *таиба* 'тайна'.

Непасрэдна да прасл. **tajьba* (сінанімічнага **tajьna*, гл. *тайна*), якое з'яўляецца вытворным з суфіксам *-ьba* (аб ім, але без кантынуантаў **taj-* гл. Слаўскі, SP, 1, 61–62) ад **tajь* 'таямніца, тайна', 'таямніча, скрытна' (< **tajiti*, гл. *таіць*). Гл. яшчэ Скок, 3, 434.

**Тайга́** 'хвойныя лясы Поўначы' (ТСБМ). З рус. *тайга́* 'тс', запазычанае сібірскае слова, непасрэднай крыніцай якога з'яўляецца цюрк.-манг. (Мурзаеў, РР, 1969, 1, 90 і наст.) або мясцовае тат. *taiga* 'лес' (найменне зафіксавана каля 1735 г., але першая пісьмовая фіксацыя ў А. Радзішчава) з семантычным пераходам 'лес, тайга' < 'скалістыя бязлесныя горы' (падрабязна Анікін (524–525 з літ-рай) і слушным абвяржэннем версіі аб якуцкай крыніцы *tai̯ga~tai̯ya* 'лес; залатыя прыіскі', якая хутчэй ужо з рускай мовы. Гл. таксама Фасмер, 4, 11; Чарных, 2, 224–225; ЕСУМ, 5, 503.

**Та́йка** 'сяброўка, таварышка' (Бяльк., ПСл, Мат. Гом.), 'сяброўка (у звароце)' (брагін., З нар. сл.; Нар. словатв.), 'сяброўка, якой давяраюць патаемныя думкі' (Нар. Гом.), 'сардэчная сяброўка' (слуц., маг., Стан.), 'зварот да жанчыны, пераважна да дзяўчыны' (Ян., Растарг.), 'даверлівы зварот да дзяўчыны, жанчыны аднаго ўзросту' (ТС), памяншальныя *та́енька*, *та́ечка* 'тс' (Кос., ТС), *та́ічка* 'сяброўка' (Мат. Маг.), 'таварышка, кума' (Бяльк.), *та́ечка* 'даражэнькая, мілая, сяброўка, дзяўчынка' (Растарг.), 'сяброўка, прыяцелька, паверніца тайн' (Ласт.), сюды ж *тэ́йка* 'сяброўка, таварышка' (калінк., Мат. Гом.). Параўн. укр. палес. *та́я* 'абазнаная ў шмат якіх тайнах жанчына; сяброўка-суседка'. Няясна; у народнай свядомасці звязваецца з *таіць*, *тайна* (гл.), параўн. *не мажэ таіцца да й кажэ* (Сержп.), *та́йнік*, *тайка* 'той, перад кім няма сакрэту, нічога тайнага' (Ласт.). Аднак, відаць, не можа разглядацца асобна ад серб.-харв. *tȃjka*, *tájko*, *tȃjko* 'татка', балг. *та́йко*, *те́йко* 'татулька', н.-луж. *tejka* 'бабуля' і асабліва балг. дыял. *а́йкъ* 'сяброўка з маладых гадоў': *с нейъ бе́хме а́йки* (БД, 5, 107), што належаць да т. зв. дзіцячых слоў гукапераймальнага паходжання, параўн. Шустар-Шэўц, 1502.

**Таймава́ць** 'супакойваць, стрымліваць' (Сцяшк. Сл.), часцей *утаймава́ць*, гл. З польск. *tamować* 'рабіць запруду, гаціць', перан. 'суцішаць', гл. *тамаваць*, *тама*.

**Та́йна** 'сакрэт; тое, што яшчэ не пазнана, неразгадана' (ТСБМ; 1913 г., КСНН; Ласт., Некр. і Байк.), 'таямніца' (Бяльк., Вруб.), сюды ж суфіксальныя дэрываты з той жа самай семантыкай *та́йносць* (ТС), *та́йнысьць* (Бяльк.), ст.-бел. *тайна* 'таямніца' (канец XV ст., КГС). Укр. *та́йна*, *таїна́*, *та́йня*, рус. *та́йна* 'таямніца', стараж.-рус. *та́ина* 'тс', польск. старое паэт. *tajnia*, в.-луж. *tayeńo*, 'выгляд, прытворства', *tajenje* 'таямніца', серб.-харв. *tȃjna*, славен. *tajna* 'тс', ст.-слав. **таина** 'тс'. Да прасл. **tajьna* < **taj*, якое, у сваю чаргу, з **tajiti*, гл. *таіць*; параўн. укр. *ота́й*, *пота́й* 'употайкі', серб.-харв. старое *tȃj*, *tȁja*, *tāja* 'таямніца', чэш. *taj* 'таямніца; невядомае' + *-ьna*, аналагічна **vojna* (аб суфіксе, але без кантынуантаў **taj-* гл. Слаўскі, SP, 1, 137). Наяўнасць гістарычных паралеляў і дэрыватаў адназначна сведчаць на карысць спрадвечнасці наймення. Параўн. *тайба*, гл.

**Та́йнік** 'агент тайнай паліцыі, сышчык, шпік' (вілен., Стан.), 'шпіён' (глыб., Жыв. НС). Семантычная кандэнсацыя словаспалучэння *та́йны агент*. Сюды, відаць, і *та́йнік* 'сябар, супольнік, памочнік' (Ласт.), параўн. польскае *wtajemniczony* 'ўведзены ў курс справы'. Да *тайны*$_1$ (гл.).

**Тайні́к**$_1$ 'тайнае сховішча' (ТСБМ). Запазычанне з рус. *тайни́к* 'памяшканне, месца, якое служыць таемным прыбежышчам або сховішчам'; у гэтым значэнні ст.-рус. *таиникъ* фіксуецца з канца XV ст. (Срзн.).

**Тайні́к**$_2$ 'падучая хвароба' (Касп). Семантычная кандэнсацыя словаспалучэння *та́йная хвароба*, дзе семантыка *тайны*$_1$ (гл.), хутчэй за ўсё, 'няясны па паходжанні', г. зн. не маючы знешніх прыкмет; унутраны. Сярод апісаных найбольш прадуктыўных славянскіх семантычных мадэлей эпілепсіі (Усачова, Слав. др., 3, 611–612) матыў 'тайны' з такім разгалінавым напаўненнем не адзначаны, таму яго трэба лічыць уласна беларускім этналінгвістычным феноменам. Часцей, у прыватнасці ў замовах (жлоб., карм., нараўл., БНТ, Зам.), *патайнік*, гл.

**Тайніца** (*tajnica*) 'тое, куды няма доступу іншым; самае запаветнае, патаемнае месца; тайнік' (1910 г., КСНН). Карэлят ж. р. да *тайні́к*$_1$ (гл.); верагодна, штучнае ўтварэнне.

**Та́йны**$_1$ 'вядомы нямногім, загадкавы, таямнічы' (ТСБМ, брасл., Сл. ПЗБ), 'скрытны (пра чалавека)' (Ян.; люб., Жыв. НС), 'падпольны' (Ласт.), ст.-бел. *тайныи* 'тайны' (1457 г., КГС), сюды ж прыслоўе *та́йна* 'таемна, скрытна ад іншых' (ТСБМ, Бяльк.), 'патаемна' (Сл. ПЗБ), *тайно* 'тс' (ТС). Укр. *та́йний*, рус. *та́й-*

*ный*, стараж.-рус. *таиныи* 'тс', польск. *tajny*, *tajni*, чэш., славац. *tajný*, серб.-харв. *tȃjnī*, старое славен. *tajne* 'тайны, схаваны', ст.-слав. **таинѣ** 'таемна, скрыта'. Да прасл. **tajьnujь*, прыметнікавага дэрывата ад **tajьna*, гл. *тайна*, *таіць*.

**Та́йны**$_2$, *та́йный* 'танны' (бяроз., ЛА, 3). Змена *н* > *й* у выніку дыялектнай дысіміляцыі падоўжанага санорнага. Аналагічны працэс з іншай субстытуцыяй зычных у *тадны*, гл.

**Та́йстра** 'клунак, хатуль, мяшочак' (Нас., Гарэц.), 'кайстра, торбачка' (Бяльк.), 'кайстра, торба, саквяж, дарожны мяшок', 'кашэль', 'паднос', 'сподак' (Ласт.), *та́йстрачка* 'торбачка' (Некр. і Байк.), ст.-бел. *тайстра*, *стайстра* 'кайстра; торба' (1556 г., Булыка, Запазыч., 316; Ст.-бел. лексікон). Укр. *та́йстра*, дыял. *стра́йста* 'торба, з якой кормяць коней', рус. смал. *та́йстра* 'вялікі мяшок', *тра́йста* 'кашэль', старое польск. *tajstra* 'мяшок для прадуктаў (паляўнічы, салдацкі)'. Запазычанне з польск. (ст.-польск.) *tajstra* (Булыка, там жа), якое Брукнер (564) адносіў да чэш. *tanistra* '(вайскавы) ранец' з далейшымі нямецкімі і лацінскімі роднаснымі паралелямі; падрабязней гл. Фасмер, 4, 12; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 388, а таксама *ка́йстра*. Больш верагодны шлях, паводле Враб'е (Зб. Расэці, 994–995), праз украінскую з рум. *tráistă* 'торба, мяшок, сумка'. Карпацкі балканізм, параўн. алб. *tráistë* 'тс', якое, у сваю чаргу, з візант.-грэч. τάγιστρον 'мяшок для фуражу' (ЕСУМ, 5, 504).

**Тайфу́н** 'трапічны цыклон, ураган вялікай разбуральнай сілы' (ТСБМ; 1914 г., КСНН). Праз рус. *тайфу́н* 'тс' з англ. *typhoon* (адсюль і ў іншыя еўрапейскія), першакрыніцай якога з'яўляецца кіт. *tai fêng* 'вялікі вецер, цыклон' (Фасмер, 4, 12; Чарных, 2, 225; ЕСУМ, 5, 504). Паводле Акуленкі (Мовознавство, 1997, 1, 16), кантамінаванае з араб. *ṭūfán* 'віхор' (< грэч. τυφῶν).

**Так** 'такім чынам', 'у такім стане, выглядзе', 'у такой ступені', 'без прычыны, мэты, намеру' (ТСБМ, Стан.), 'як ёсць, без змен' (Юрч. СНС), 'так, гэтак' (ТС), 'гэтак', 'дарма' (Варл.); таксама часціца і злучнік з шэрагам значэнняў (ТСБМ). Укр., рус. *так* 'гэтак', стараж.-рус. *тако*, *такъ* 'гэтак', польск., каш., чэш., славац., в.-луж. *tak*, н.-луж. *tak*, *tako*, палаб. *tok*, славен. *takó*, серб.-харв. *та̏ко*, *та̀ко*, *та̀ко̄*, балг. *така́*, макед. *така*, ст.-слав. **тако** 'тс', **такъ** 'такі'. Да прасл. прыслоўя **tako* 'гэтак' і прыметніка **takъ* 'такі', якія ўтвораны ад займеннікавай асновы **ta-* (< і.-е. **tō-*, што адлюстравана таксама ў літ. *tóks*, дыял. *tókias*, *tokiàs*, ж. р. *tokià*, *tóki* 'такі, такая', ст.-хец. *ta-kku* 'калі'), роднаснай указальнаму займенніку**tъ* (гл. *той*), злучанай з суфіксам *-ko* (ESSJ SG, 2, 634–641 з літ-рай; ЕСУМ, 5, 504 з літ-рай; параўн. Смачынскі, 681; Іванаў, Зб. Ісачанку, 193). Гл. *такі*.



**Такава́сты**, *такова́сты* 'такі' (Нар. Гом.). Наватвор з экспрэсіўнай суфіксацыяй, параўн. *галавасты*, *рукасты* (гл. Карскі, 2–3, 44), да *таковы*, гл.

**Такава́цца** 'згаворвацца, дамаўляцца' (Ян.), *токова́ць* 'балбатаць, гаварыць, даказваць' (ТС). Магчыма, да *такава́ць* (гл.), параўн. польск. *tokować* 'прываблівацъ самку спевам і рухамі (пра птушак)' і перан. 'балбатаць, плявузгаць' (Варш. сл.); апошняе значэнне дае, відаць, падставы разглядаць рус. аргат. *токова́ть* 'такаваць, гаварыць без перапынку' ў якасці паланізма (Віткоўскі, Słownik, 186), што цяжка давесці. Для зваротнага дзеяслова нельга выключыць магчымасць вывядзення з *такаць*$_1$, гл.

**Такава́ць** 'падклікаць спевам і рухамі самку ў перыяд спарвання (пра глушца і цецерука)' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.; віц., Яшк. Мясц.), *токова́ць* 'тс' (ТС). Укр. *токува́ти*, рус. *токова́ть*, польск. *tokować* 'тс' (з XVIII ст.), каш. *tokowac* 'праяўляць жаданне супакоіць праявы хцівасці (пра суку)', в.-луж. *tokać* (з чэшскай мовы: Шустар-Шэўц, 1512), чэш. *tokat* 'прывабліваць самку (пра цецерукоў)', старое *tokovati*, славац. *tokať* 'тс'. Выводзіцца паходжанне слова ад гукаў, якія самцы ўтвараюць падчас любоўнай узбуджанасці (Міклашыч, 358; гл. таксама Махэк$_2$, 646; Рэйзак, 665); гукі самца-глушца параўноўваюць са шчоўканнем пазногця аб няпоўны пачак запалак (Федз.-Доўб., 37–38, 44) Параўн. акрамя чэшскіх і славацкіх дзеясловаў рус. пск. *то́кать* 'тукаць, стукаць, пастукваць', таксама '(пра цецерукоў) такаваць', укр. *то́кот* 'сэрцабіцце', *токота́ти*, *токоті́ти* 'мерна і часта стукаць' і н.-луж. пераноснае *tokotaś*, *tokontaś* 'увесь час спатыкацца, хістацца'. Словаўтварэнне, як у *кукаваць* (гл.); адносіны да *ток*$_5$ 'такаванка, такавішча (птушак)' (гл.), з якога выводзілі дзеяслоў Брандт (РФВ, 25, 29–30) і Брукнер (573), застаюцца нявысветленымі. Гл. таксама Борысь, 637.

***Такаву́ткі**, *такову́ткі* 'такі самы' (беласт., Сл. ПЗБ). Гл. *таковы*, да словаўтварэння параўн. Карскі, 2–3, 44 (магчыма, пад уплывам польскай мовы).

**Така́рня** ‘такарная майстэрня’ (ТСБМ), ‘саматужны такарны станок для апрацоўкі дрэва’ (Скарбы), ‘прымітыўны такарны станок для вырабу калаўротаў’ (гродз., Нар. сл.), ‘станок, на якім точаць калодкі для колаў’ (Жд. 2). Укр. *тока́рня* ‘майстэрня токара; такарны станок’, дыял. ‘станок для абточкі калодак для колаў’, рус. *тока́рня, тока́рная* ‘такарная майстэрня’, польск. *tokarnia* ‘такарная майстэрня’ (Варш. сл.). Да *токар* (гл.); у першым значэнні, магчыма, запазычана з польскай мовы, дзе ў значэнні ‘такарны станок’ ужываецца *tokarka*. Параўн. *сячкарня*, гл.

***Та́кася**, *та́кося* ‘таксама, гэтак’ (ТС). Укр. *та́кось* ‘гэтак’. Параўн. старое чэш. *taksi, taks* ‘тс’. Да **tako* (гл. *так*) і **si* (гл. *-сь*), параўн. ESSJ SG (2, 635); а таксама ЕСУМ (5, 505), дзе дапускаецца ўплыў *якось* з выразу *якось-та́кось буде* ‘неяк будзе’. Канец слова фармальна набліжаны да прыслоўяў тыпу *інося, усялякся* і пад., параўн. Карскі, 2–3, 71 (гл. *-ся*).

***Такаўны́**, *токоўный* ‘гразкі’: *токоўнэ булото, можно по ім ходіть* (лун., Шатал.). Сюды ж *токо́васты, токо́ваты* ‘цвёрды, як ток’ (ТС). Да *ток*$_2$, гл.

**Такаўня́**, *тукуўня́, тъкаўня́* ‘ток (глінабітная пляцоўка)’ (полац., ушац., віц., віл., маладз., кругл., бярэз., ЛА, 4; Мат. Гом.), ‘нямшоны, халодны канец току ў адрозненне ад імшонай асеці’ (полац., Нар. лекс.), ‘ток, дол, выбіты глінай’ (Барад.), *тако́ўня* ‘трохсценная прыбудоўка да ёўні’ (Касп.), *токовня* ‘будынак для прасушвання і малацьбы снапоў’ (барыс., Яшк. Мясц.). Укр. чарніг. *тако́вня* ‘памяшканне для малацьбы’, рус. *токовня́* ‘тс’. Да *ток*$_2$ (гл.); аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 63, 172.

**Та́каць**$_1$ ‘часта ўжываць слова *так*, падтакваць’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.). Укр. *та́кати* ‘згаджацца; падтакваць’, рус. *та́кать* ‘тс’. Да *так*, гл. Паводле Фасмера (4, 12), стараж.-рус. *такати* ‘згаджацца’ ўтворана ад *тако* ‘гэтак’; сюды ж аналагічнае рус. *да́кать*.

**Та́каць**$_2$ ‘рытмічна тахкаць, стукаць’ (ТСБМ). Укр. *та́кати* ‘тс’, дыял. ‘кракаць, кахкаць (пра гусей)’, дзіц. *так-так* ‘качка’ (Горбач, Дитяч.), рус. *та́кать* ‘тахкаць’. Гукаперайманне.

**Така́я** ‘цяжарная’ (Сл. рэг. лекс.). Эўфемізм, параўн. у аналагічным значэнні укр. *така́*, серб. *таква je* і пад. Пра “табу страха” і “табу ветлівасці” пры называнні цяжарнасці спецыяльна Ваян, RIEB, 3, 254–256. Гл. *такі*.



**Таквéле** ‘столькі’ (гродз., ЛА, 5), *таквéля* ‘тс’ (карэліц., навагр., капыл., Жыв. сл., Скарбы, Сцяшк., Жд. 2, Сл. Брэс.; нясвіж., Жд. 2; стаўб., Нар. сл.), ‘столькі (многа), так шмат’ (Сцяц. Сл.), ‘ледзьве’ (клец., Жд. 1), *таквéля таго* ‘хай сабе’ (Марц.), *таквéля бяды́* ‘такой бяды’ (узд., Мілк.). Штучны паланізм, утвораны на мясцовай глебе з *так* і *веле* (гл.) або на глебе “пальшчызны крэсовай” спалучэннем польск. *tak* і *wiele* з развіццём семантыкі: ‘гэтак многа’ → ‘столькі’. Параўн. *такеля*, гл.

**Такée** ‘такое’ (хойн., Шатал.), *такéй* ‘такі’ (Нас., Юрч. СНС). Дыялектныя формы ад *такі* (гл.) па тыпу *тэе, тэй* ‘тое, той’ (гл.), што ўзніклі, паводле Карскага (1, 155), фанетычным шляхам з адпаведных форм на *-ой*.

**Такéля** ‘толькі’ (Сцяшк.), ‘не; яшчэ; усяго толькі’ (іўеў., Яшк. Мясц.). Да *тыкеле* (гл.), мена пад уплывам *так, таквеле*, гл. Не звязана, відаць, са штучна ўтвораным *тáкель* (Ласт.), да *такаць*$_1$ (гл.) з рэдкім суф. *-ель*, па тыпу *вярзель, круцель* (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 38).

**Такі**$_1$, займеннік ‘менавіта гэты, падобны да гэтага або да таго, пра які гаварылася раней ці гаворыцца далей’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Касп., Федар., 4, Сл. ПЗБ, ТС), *такíй* ‘такі, гэтакі’ (Бяльк.), ст.-бел. *такий* ‘такі’ (КГС). Сюды ж вытворныя са значэннямі павелічальнасці ці памяншальнасці: *такéнны* ‘такі (вялікі)’ (Ян., Растарг.), *такéзны* ‘тс’ (ТС), *такéнькі, такéнечкі, такéсенькі* ‘такі (малы)’ (Сцяшк. Сл., Ян., Растарг.). Укр. *такú*, стараж.-рус. *таки, такы* ‘тс’, польск., славін. дыял. *taki*, в.-луж. *tajki*, н.-луж. *taki*, серб.-харв. *тàкӣ*, чэш. *taky*, славац. *taký(to)* ‘такі’. Да прасл. **takъjь*, што працягвае прасл. **takъ* ‘тс’ (гл. *так*).

**Такі**$_2$, *-такі* – прыслоўе і часціца, што выкарыстоўваюцца пры знамянальных словах, падкрэсліваючы іх значэнне: ‘аднак’, ‘аднак жа’, ‘зрэшты’, ‘тым не менш’, ‘усё ж’, ‘усё-такі’ (ТСБМ, Нас., Чач., Ласт.), ‘аднак, хоць’ (Некр. і Байк.), *тыкі* ‘аднак жа’ (чавус., Яшк. Мясц.), уваходзіць у склад некаторых слоў: *даволі-такі, зноў-такі, так-такі* і пад. (ТСБМ). Укр. *таки*, рус. *таки́*, стараж.-рус. *такы* ‘таксама; усё ж; пастаянна’. Паводле Карскага (2–3, 84, 419), Тв. скл. мн. л. ад *так* (гл.); гл. таксама Фасмер, 4, 13. Сюды ж *такíта* ‘дарэчы, дык, сапраўды’ (Некр. і Байк.), ускладненае часціцай *то (та)*, гл.

**Такімісты** ‘такі’: *с такимиста усами* (Нар. Гом.). Тв. скл. мн. л. ад *такі*$_1$ з суфіксальным нарашчэннем, абумоўленым экспрэ-

сіўнымі мэтамі: суф. *-ст-*, параўн. *каласісты*, або часціцай *-сты* (параўн. *такавасты*, гл.) няяснага паходжання, параўн. рус. *-ста* (Фасмер, 3, 741).

**Такі́-сякі́** 'нядобры, нікчэмны; некаторы'; 'нейкі' (ТСБМ, Нас.), *такі́-гэткі* (пра чалавека з заганамі) (Варл.). Гл. *такі*, *сякі*, *гэты*, перанос 'такі' > 'дрэнны' грунтуецца на эўфемізацыі, параўн. балг. *такъ́в* 'такі' і 'дрэннай якасці', серб. *та̏кши* 'горшы', параўн. Огледна св., 71.

**Та́кмань**, *та́кман* 'цяпер, нядаўна' (пруж., Сл. Брэс.), *такма́нь* 'толькі што' тэрытарыяльна проціпастаўленае *якма́нь* 'тс' (Бос.). Параўн. серб. *та̏кмен* 'з якім можна параўноўваць; аднолькавы, роўны', ст.-слав. **тъкъмьнь** 'роўны, аднолькавы'. Прыслоўе ад *токма* (гл.) з часціцай *-нь*, гл.

***Такмачы́**, *токмачі́*, *тукмачі́*, *тукмачы́*, *тумачі́* 'тоўчаная бульба' (Сл. Брэс.), *токмачі*, *тукмачі*, *томочі* 'бульбяная каша, таўканіца' (жабін., драг., малар., ЛА, 4; Лекс. Бел. Палесся). Відаць, мясцовае ўтварэнне на базе дзеяслова тыпу укр. *токма́чити* 'ўтоптваць; біць, прыцікаць', рус. *токма́чить* 'біць, таўчы', вытворных ад тур., тат. *toktak* 'даўбешка' (< *toqi-/toqu* 'біць, стукаць'), гл. Фасмер, 4, 70; ЕСУМ, 5, 592.

**Tакóвы** 'такія': *таковы справы* (Ласт.), ст.-бел. *таковый* 'такі' (КГС), сюды ж *такаво́* 'так сабе' (Сцяшк.), *такаво́-сякаво́* 'абы-як, хоць як, як ні ёсць' (Нас.). Параўн. укр. *токо́вий*, дыял. *тако́в* 'такі', рус. *тако́в*, польск., н.-луж. *takowy*, чэш. *takový*, славен. *tákov*, серб.-харв. *та̀кав*, балг. *такъв*, макед. *таков*, ст.-слав. **таковын** 'тс'. Прыметнік і прыслоўе ад **tak(o)* (гл. *так*, *такі*), параўн. суфіксальныя наватворы *такоўскі*, *таковасты*, *такаву́ткі*. Гл. ESSJ SG, 2, 643; Фасмер, 5, 13, а таксама *сякаво*.

**Такóлечы** 'нядаўна, толькі што' (Сцяшк.). Няясна; другая частка слова адпавядае *-колечы* (гл.), прадстаўленаму ў спалучэннях *калíколечы* (гл.), *хто-ко́лечы* 'хто-небудзь', *што-ко́лечы* 'што-небудзь', утворанаму са спалучэння часціц **-kole* (ESSJ SG, 1, 318) і ўзмацняльнага *-чы* (параўн. *цяперачы*) або з **tako-lě-či*, гл. *так*, а таксама ESSJ SG, 1, 305, 319.

**Такóўня** 'пляцоўка для малацьбы' (Касп.). Гл. *такаўня*.

**Такóўскі** *(такóвский, такóвський)* 'падобны', 'гэтакі' (Нас.), 'які заслугоўвае ўвагі, пахвалы або неадабрэння – асаблівы' (ТСБМ), 'такі' (Ласт., Сцяшк., Кал., Скарбы), *такíвськый* 'найбольш



зручны ў дадзены момант' (Сл. Брэс.), ст.-бел. *таковськиі* 'такі' (XVI ст., Карскі, 2–3, 54). Наватвор на базе **takovъ* (Карскі, там жа; ESSJ SG, 2, 643), гл. *таковы*.

**Такрóк** 'летась' (навагр., Жыв. сл.; Нар. словатв., Скарбы; карэліц., Янк. Мат.; Сцяшк.; шчуч., З нар. сл.; Сл. ПЗБ; вілен., гродз., ЛА, 2), *такрíк* 'тс' (брэсц., ЛА, 2), *такру́к* 'летась' (лях., ЛА, 2; Сл. ПЗБ), ст.-бел. *такрок* 'у мінулым годзе' (1579 г.), *такрочны* 'леташні', сюды ж *такро́чны* 'леташні, мінулагодні' (Скарбы, Сцяшк.), *такро́чны, такро́чні, такро́шні* 'мінулагодні' (Сл. ПЗБ), *такро́шні гот* 'летась' (навагр., ЛА, 2), *такрíчнэ лíто* 'тс' (кам., ЛА, 2), *такро́чні цялю́к* 'цяля-перазімак' (воран., ЛА, 1). Запазычана з польск. *tak rok* 'год таму, летась', *tak roczny* 'мінулагодні, леташні', навагодняе пажаданне *na tak rok!* 'каб так за год дачакацца' (Варш. сл.), у спалучэнні з іншымі назоўнікамі: *tak miesiąc* 'месяц таму', параўн. таксама чэш. мар. *tak rok* 'год таму'. Гл. *так*, *рок*$_1$, параўн. *тарок* (гл.). Пацюпа (Станкевіч, Язык, 1164) на падставе выразу *тот рок* (Баркулабаўскі летапіс) лічыць самастойным утварэннем, што сумніўна. Параўн., аднак, *такро́к* 'штогод': *то ж ён такрок прыезджаў к матцы* (Мат. Гом.), калі гэта не памылковая семантызацыя, то яго можна разглядаць як незалежнае ўтварэнне ці другаснае пераасэнсаванне запазычання.

**Та́кса**$_1$ 'расцэнка тавараў або памер аплаты' (ТСБМ), сюды ж *таксава́ць* 'вылічаць, ацэньваць' (Нас., ТСБМ, Некр. і Байк.), *таксо́ўшчык* 'ацэншчык' (Байк. і Некр.), *такса́тар*, *таксо́ўнік* 'тс' (Некр. і Байк.), відаць, працяг ст.-бел. *такса* 'такса, расцэнка' (1563 г.) < ст.-польск. *taksa*, што да с.-лац. *taxa*; са ст.-польск. *taksować* і ст.-бел. *таксовати* (Булыка, Лекс. запазыч., 78, 81). У сучасныя мовы, хутчэй за ўсё, запазычана з заходнееўрапейскіх моў, параўн. франц. *taxer* 'устанаўліваць цвёрды кошт' – з лац. *taxāre* 'ацэньваць, вызначаць кошт', уласна 'абмацваць (прыцэньваючыся)', што этымалагічна звязана з лац. *tangere* 'датыкацца, чапаць, спрабаваць', ням. *Taxe* 'ацэнка, расцэнка' і інш. (Чарных, 2, 225–226; Фасмер, 4, 13; ЕСУМ, 5, 505).

**Та́кса**$_2$ 'сабака Canis vertagus' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Выводзіцца (праз рус. *такса*?) з ням. *Dachshund* 'такса', якое літаральна азначае 'барсуковы сабака', спецыяльная парода сабак, выведзеная для палявання на звяроў, што хаваюцца ў норах (ЕСУМ, 5, 505; Чарных, 4, 13; Фасмер, 4, 13).

**Таксáма** ‘такім самым, падобным чынам, гэтак жа’ (ТСБМ, Гарэц., Некр. і Байк., Бяльк., Нік. Очерки), ‘такім спосабам’ (Сл. ПЗБ), ‘аднолькава’ (Варл.), *таксáмо* ‘гэтак, падобным чынам’ (ТС). Параўн. укр. *таксáмо* ‘тс’, польск. *tak samo* ‘тс’. Спалучэнне *так* (гл.) і *сама* (гл. *сам*) у ідэнтыфікацыйнай функцыі, параўн. *такісáмы* ‘гэтакі ж, такі ж’ (Вруб.), *такі самы* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), што, паводле ESSJ (SG, 2, 590), прадстаўляе т. зв. агульнаеўрапейскі тып спалучэнняў, параўн. ням. *derselbe* ‘той жа, той самы’, англ. *the same* ‘тс’, франц. *le même* ‘тс’, фін. *tämä sama kirja* ‘тая самая кніга’ і пад.

**Таксі** ‘аўтамабіль, прызначаны для перавозкі пасажыраў або грузаў з аплатай па таксометру’ (ТСБМ), ‘легкавы аўтамабіль’ (швянч., воран., Сл. ПЗБ), адаптаванае *таксó* н. р., *таксá* ж. р. ‘таксі’ (Мат. Маг. 2). Запазычанне савецкага часу з заходнееўрапейскіх моў са скарачэння *taxi* на французскай глебе слова *taximètre*, першапачаткова ‘аўтаматычны лічыльнік для машын гарадскога транспарту з указаннем кошту праезду’, пазней ‘аўтамашына з такім лічыльнікам’ (Чарных, 2, 226).

**Таксóўка** ‘легкавы аўтамабіль’ (Скарбы, Сцяц. Сл., Сцяшк.), *таксóўка, таксýвка* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *таксýфка* ‘тс’ (Сцяшк.). З польск. *taksówka* ‘таксі’ з пераасэнсаваннем на заходнебеларускай глебе ‘найбольш распаўсюджаны від транспарту для пасажыраў’ (гл. *таксі*).

**Так-сяк** ‘нейкім чынам’, ‘абы-як’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Варл., Арх. Вяр.), ‘як-небудзь’ (ТС). Спалучэнне *так* (гл.) з *сяк*$_1$ (гл.).

**Такт** ‘мерны рух; лад; пачуццё меры’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), *тахт* ‘рытм, рытмічнае суправаджэнне’ (Сл. ПЗБ, Цых.), *тáхта* ‘тс’ (Стан.). Запазычана з заходнееўрапейскіх моў, відаць, праз польск. *takt* ‘рытм; далікатнасць’, ‘рытм (у музыцы, руху)’, што з лац. *tāktus* ‘дотык; адчуванне дотыку’ (ЕСУМ, 5, 506; Фасмер, 4, 13; Голуб–Ліер, 476; Брукнер, 564). Сюды ж *тактóўны* ‘які мае такт’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.).

**Тáк-такі** ‘аднак, усё-такі, усё ж’; ‘на самай справе, сапраўды’ (ТСБМ). Гл. *так*, *такі*$_2$.

**Тáктыка** ‘майстэрства падрыхтоўкі і вядзення бою, змагання; лінія паводзін’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), *тактьíчны* ‘звязаны з правядзеннем бою, барацьбы’ (ТСБМ). Праз польск. *taktyka*, *taktyczny* з ням. *Taktik* або франц. *tactique* з тым жа значэннем з лац. *tactica (ars)*, грэч. τακτικός, -η (τέχνη)/τάξις ‘строй, лад’ (Фасмер, 4, 13).



**Тал** ‘праталіна’ (Гарэц., Байк. і Некр.), *тáло* ‘зямля, дзе сышоў снег’ (ТС), *тaлó* ‘палонка, у якой багата рыбы’ (Касп.). Архаізмы на базе першаснай формы назоўніка, тоеснай кароткай форме прыметніка м. і н. р., параўн. поўную форму *талы*, гл.

***Талабéнь**, *толобéнь* – слова з няяснай семантыкай у традыцыйнай формуле сватання: *Надобéнь толобéнь? а як недоўбéнь, то я дале подоўбень* (ТС). Відаць, метафарычная назва асобы з суф. *-ень* ад *толуб* ‘фігура, тулава; аснова лапця’ (гл. *тулаб*), параўн. укр. *тóлоб* ‘кадаўб’. Меркаванне Коваля (Бел. эрот. фольклор, 119) пра трансфармацыю зыходнага *таўкáч* у якасці эўфемізма не пераконвае. Магчыма, “звонкі” варыянт ад *талапень* ‘някемлівы чалавек, ёлупень’ (гл.). Гл. і наступнае слова.

**Талабóніць** ‘балбатаць, несці лухту’ (нясвіж., Сл. ПЗБ), *толобáніць, талебéніць* ‘гаварыць, балбатаць’ (ТС). Параўн. укр. *талабáнити* ‘плявузгаць, гаварыць, балбатаць’, рус. дыял. *талабóнить, талабáнить* ‘балбатаць, тарабаніць’. Відаць, не можа разглядацца асобна ад іншых імітатываў з пачатковымі *тала-* *(тале-, толо-)* і пад. З экспрэсіўным нарашчэннем *-бон-/-бан-* параўн. *балабоніць, балабаніць*, гл. Параўн. ЕСУМ, 5, 506.

**Талавáць** ‘вытоптваць, вытраўляць; утоптваць, трамбаваць’ (Гарэц., Юрч.), ‘мучыць, цягаць’ (Сцяшк. Сл., Янк. 1), *тáловаць* ‘таптаць, мяць’ (ТС), *тáловать* ‘знішчаць’ (Альп.), *тáловаты* ‘цягаць, сцягваць у адно месца’ (Арх. Вяр.), *талавáцца* ‘тоўпіцца’ (Юрч., Ян.). Параўн. укр. *талувáти* ‘таптаць, утоптваць; нядбала ставіцца’, рус. *таловáть* ‘красці’, *истáловать* ‘знішчаць’. Згодна Вярэнічу (Арх. Вяр., 452), палеская форма суадносіцца з *тáлыты* ‘сцягваць у адно месца; траціць’. Гл. *таліць*.

**Талагóйды** ‘дранікі’ (Сцяшк. Сл.). Няясна

**Талагóніць** ‘лапатаць, балбатаць’, *талогýніцца, тологýніцца* ‘марудзіць, валаводзіцца, не спяшацца’ (ТС). Імітатыў ад гукапераймальнай асновы *тала-х* (гл. *талахкаць*) з экспрэсіўным *-оні-*, параўн. *галагóн* ‘балабон’, *галагóніць* ‘балабоніць’ (ТС); да словаўтварэння гл. Борысь, Leksyka słow., 30–31. Дапускаецца азванчэнне *х* > *г* у інтэрвакальным становішчы.

**Таладáхаць**, *таладáхатэ* ‘боўтаць (пра вадкасць)’ (драг., Нар. лекс.). Імітатыў (гукаперайманне) з т. зв. “вертыкальнай заменай” *л/д*, параўн. *талалыхаць*, гл.

**Талака́**$_1$ ‘калектыўная дапамога пры выкананні сельскагаспадарчых работ’; ‘група людзей, запрошаных на дапамогу’ (Нас., Шымк., ТСБМ, Некр. і Байк., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ), ‘грамадская дапамога ў працы’ (Сцяшк:, Бяльк.), ‘дадатковая праца па жаданні ў часы прыгону’ (Федар. 4), ‘грамадская дапамога аднаму чалавеку нешта перавозіць’ (Варл.), ‘пасьба коней ноччу’ (Мат. Гом.), *талака́* і *тало́ка* ‘дапамога ў працы гуртам’ (Ласт.), *тала́ка* ‘праца грамадой за пачастунак’ (Ян.), ‘дапамога’ (Касп.), *то́лака* ‘паншчына’ (капыл., ЛА, 3), *то́лока́* ‘група людзей, запрошаных на дапамогу’ (ТС), *толо́ка* ‘тс’ (Вруб.), *талако́ю* ‘гуртам’ (калінк., З нар. сл.). Укр. *толо́ка́* ‘праца гуртам для хуткага выканання вялікай па аб’ёме справы, на якую клічуць суседзяў, сваякоў, сяброў (без платы, за пачастунак’)’, рус. дыял. *толо́ка* ‘тс’, польск. *tłoka*, каш. *otłoka* ‘ўзаемная суседская дапамога на жніве’, славен. *tláka*, серб.-харв. *тла̀ка*, балг. *тлака́*, макед. *тлака* ‘тс’. З прасл. **tolka* ‘тс’, звязанае з **tolkti* ‘таўчы’. Адносна матывацыі параўн. *талакня́* ‘таўкатня’ (Жд. 2), *тало́к* ‘натоўп’ (Сл. Брэс.). Сярод індаеўрапейскіх адпаведніікаў літ. *talka* ‘талака’, лат. *tàlka* ‘тс’, з іншым вакалізмам літ. *telkti* ‘збіраць на талаку’, гэта, паводле Мартынава (Лекс. балтызмы, 25), дае падставы лічыць слова пранікненнем з балтыйскіх моў (гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 24), што, аднак, немагчыма давесці (гл. Анікін, Опыт, 287 з літ-рай), як і адваротнае (Брукнер, 571–572). Старажытнае значэнне слова, відаць, звязана з архаічным спосабам калектыўнай малацьбы пры дапамозе жывёлы, гл. Мяркулава, Этимология – 1974, 72. Агляд версій – Янышкава, Studia Etym. Brun., 6, 139–141. Параўн. *талок*, гл.

**Талака́**$_2$ ‘ялавіна’ (Мат. Гом.), *толока́* ‘выган’ (Сл. Брэс.), *тала́ка* ‘поле пад папарам’ (Ян.), *тало́ка* ‘абложная зямля’ (б.-каш., добр., ЛА, 5), ‘папар’ (гом., ЛА, 2), ‘паша’ (паст., там жа), *толо́ка* ‘папар’ (рэч., там жа), сюды ж *талако́ўе (tałakóŭja)* ‘патаптаныя логвы ў збожжы ці ў вялікай траве’ (Варл.), *талакава́ць* ‘пуставаць некалькі гадоў (пра зямлю)’ (Ян.), *толокова́ць* ‘таўчыся; бубнець’ (ТС). Укр. *то́ло́ка* ‘пакінутае пад папар поле, на якім пасуць скаціну; вольная дзялянка каля сяла, дзе моладзь збіралася гуляць’, *толо́ка* ‘горная раўніна, паша’, *толокува́ти* ‘быць пад папарам (пра поле)’. З прасл. **tolk-* ‘таўчы, мяць, таптаць’, гл. папярэдняе слова (ЕСУМ, 5, 594; Фасмер, 4, 72; Брукнер, 571–572; Голуб–Ліер, 386; Махэк$_2$, 644).



**Талакава́нне** *(талакава́ння)* ‘перыяд цечкі ў ваўкоў’ (смарг., Сл. ПЗБ). Гл. *талака*$_1$ ў значэнні ‘гуртаванне’.

**Талакно́** ‘мука з ачышчанага пражанага аўса; страва з такой мукі’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Касп., Серб. Вічын, Шат., Бяльк., Сержп. Прымхі, Пятк. 2, Сл. ПЗБ, ЛА, 4), ‘страва з аўса’ (Жд. 3), ‘кісель з аўсянай мукі’ (полац., ЛА, 4), ‘заціркa з цёртага канаплянага семені’ (Мат. Гом.), ‘страва, прыгатаваная з грэцкай мукі і кіслага малака’ (лях., Сл. ПЗБ), *талакно́, толокно́* ‘страва з аўсянай мукі або патоўчанага канаплянага семені’ (Лекс. Бел. Палесся), *толокно́* ‘страва з аўсянай мукі’ (ТС). Параўн. укр. *толокно́* ‘мука з падсушанага аўса, тоўчаных сухароў’, рус. *толокно́* ‘тоўчаная аўсяная мука, каша з гэтай мукі’, польск. *tłokno* ‘ежа з аўсянай мукі, гарачай вады і малака’. Паводле Сноя (гл. Бязлай, 4, 187), сюды ж славен. **tlakno* ‘нейкая мучная ежа’, рэканструяванае на падставе запазычання ў ням. бавар. *Talken* ‘аўсяныя крупы’, што да **tolkъno*, з якога праз усходнеславянскія мовы было запазычана фін. *talkkuna* ‘аўсяная каша’ (Фасмер, 4, 73). Звязана з *таўчы* (гл.), паколькі рэдкая словаўтваральная мадэль з суф. *-ъno* (параўн. *сукно*, *валакно* і пад.) характэрна для старых назваў вынікаў дзеяння, выражаных зыходным дзеясловам.

**Талакня́нка**$_1$ ‘вечназялёная паўзучая расліна з чырвонымі ягадамі’ (ТСБМ), ‘расліна Arctostaphylos Adans.’ (Кіс., Бяльк.), ‘расліна мядзведжыя вушкі, Arctostaphylos uva-ursi (L.) Spreng’ (Дары); іншыя назвы *талакня́нік* (Сл. ПЗБ), *талако́ннік*, *тала-ча́льнік* (Шмярко). Параўн. укр., рус. *толокня́нка* ‘тс’. Вытворныя ад *талакно* (гл.), паколькі плод расліны ўяўляе шарападобную мучністую касцянку, што адлюстравалася і ў іншай народнай назве *мучаннік* (гл. *мучан*), параўн. Кісялеўскі, Аб нек. асабл., 30–31. Спробы Штэйнгольд (Этимология – 1994–1996, 135–140) вывесці назву расліны з рус. сіб. *талага́нник* (ад якуц. *талах* ‘расліна гарчак’) не пераконваюць.

**Талала́** *(тылыла́, тылылы́)* ‘пра балбатню’ (мсцісл., Нар. лекс.). Гукаперайманне, параўн. *та-та-та* ‘пра тарахценне, балбатню’ (там жа) і *ла-ла-ла* (гл.), сюды ж з рознымі нарашчэннямі *талало́й* ‘крык, гам, шум’ (ТС), *талало́м* фігуральна ‘шумная гульба’ (Пятк. 2), *талалёх: а мужык талалёх, талалёх, гдзе напіўся, там і лёг* (Астравух, Ідыш-бел. сл.); сюды ж *талала́хаць*,

*талала́хкаць* ‘балбатаць’, *талала́канне* ‘балбатня’, *талала́й* ‘балбатун’, *талала́йства* ‘зброд’ (гл.). Параўн. укр. *талала́й* ‘балбатун’, *талала́йство* ‘набрыдзь’, рус. *талала́* ‘картавы’ *талалы́* ‘балбатня, пустаслоўе’, *талала́кать* ‘балбатаць, гаварыць’, польск. *tałałajstwo* ‘набрыдзь, навалач, галота’, літ. *talala* (выгук), *talalúoti* ‘балбатаць, трашчаць’ і інш. Паралельныя ўтварэнні ў асобных мовах, аднак звяртае на сябе ўвагу паўночнаславянскі арэал іх распаўсюджання, гл. таксама Фасмер, 4, 14; ЕСУМ, 5, 507; Махэк$_2$, 649.

**Талала́й** фігуральна ‘язык’: *за сценою косценою брэшэ талалай* (загадка) (ТС), ‘тс’: *миж белиньких бярозак Та$^{ы}$лалай брэша* (барыс., Ляц.), ‘брахлівы, звяглівы сабака’ (слуц., Жыв. НС). Укр. *талала́й* ‘язык’: *за билою березою талалай плеще* (Грынч.), рус. смал. *талалу́й* ‘тс’. Вытворнае ад *талала́* (гл.) (ЕСУМ, 5, 507; Фасмер, 4, 14).

**Талала́йства** (*талала́йство*) ‘зброд’ (беласт., Сл. ПЗБ), *тала-ла́ства*, *талала́йства* ‘зборышча, вечарынка’ (слаўг., Яшкін, вусн. паведамл.). Укр. *талала́йство* ‘набрыдзь’, ‘няпэўныя людзі’, *талала́йство* ‘зборышча, натоўп’, польск. *tałałajstwo* ‘навалач, набрыдзь, зброд’, *tałalejstwo*, *taładajstwo*, *tałatajstwo* ‘тс’ (Варш. сл.). Вытворныя ад *талалой* ‘крык, шум, гам’, гл. *талала* з т. зв. “вертыкальнай заменай” гукаў, магчыма, як вынік кантамінацыі. Звяртае на сябе ўвагу падабенства са славен. *tolovȃjstvo* ‘разбой’, вытворнае ад *tolovȃj* ‘бандыт, разбойнік’ з венг. *tolvaj* ‘злодзей’ (Сной у Бязлай, 4, 195), аднак магчымая сувязь з ім застаецца няяснай. Фанетычна ненадзейнае вывядзенне адпаведных польскіх слоў з *tałędać*, *tałyndać się* ‘валэндацца, валачыцца’, прапанаванае Брукнерам (564). Гл. і ЕСУМ, 5, 507.

**Талало́й**, *тололо́й* ‘крык, шум, гам’, ‘гармідар, беспарадак’ (ТС). Гл. *талала*. Сюды ж *талалу́й* ‘вадкая мучная страва; балбатун, бесталковы чалавек’ (Касп.), ‘дуркаваты чалавек’ (Шатал., Сл. рэг. лекс.).

**Талалы́хаць** *(тъ́лалыхъць)* ‘ісці кульгаючы’ (мёрск., Нар. сл.). Гл. *талыхаць*.

**Талалю́каць** ‘крычаць «талалю»!’ (Байк. і Некр.). Гукапераймальнага паходжання. Гл. *талала*.

**Тала́мкаць** ‘малоць языком, плявузгаць’ (жыт., Жыв. сл.), *тала́мкаць, таля́мкаць* ‘лапатаць, балбатаць’, экспр. ‘несці’ (ТС).



Дзеяслоў на базе выклічніка **талам!*, што перадае боўтанне, параўн. *талало́м*, гл. *талала*.

**Тала́н$_1$** ‘удача, шанцаванне; лёс, доля; шчасце’ (Нар. Гом., Ян., ПСл, Пятк. 2), ‘талент’ (Касп.), ‘разумнік, шчаслівчык’ (Яўс.), *тала́н, тала́нь* ‘удача, шчасце’ (Мат. Гом., Растарг.), *тала́н, тала́нт* ‘лёс, шчасце, удача’ (ТС), *тала́нь* ‘дараванне, шчасце, доля’ (Байк. і Некр.), ‘лёс’ (чач., Жыв. НС), ‘талент; шчасце, доля’ (Нас., Бяльк.), ‘шанцаванне’ (Юрч.), *тала́ня* ‘ўдача’ (Касп.; б.-каш., ЛА, 3). Сюды ж *тала́ніць* ‘удавацца, мець удачу’ (Нас., Касп.), ‘шанцаваць, шчасціць’ (Некр. і Байк., Юрч. Вытв., ТС, Мат. Гом.; светлаг., б.-каш., ЛА, 3), *тала́нлівы* ‘ўдачлівы’ (Нар. Гом.), ‘шчаслівы; таленавіты, адораны’ (Нас.), *тала́нны* ‘здольны’ (Жд. 3). Укр. *тала́н* ‘доля, жыццёвы шлях’, рус. дыял. *талан* ‘шчасце, удача; прыбытак, знаходка’. З цюркскіх моў, дзе тур. *talan* ‘грабеж; здабыча’, кірг. *талан* ‘шчасце’ якія паходзяць ад цюрк. *tala* ‘рабаваць, нішчыць’ (ЕСУМ, 5, 507; Фасмер, 4, 14; Анікін, 529). Дапускаецца змяшэнне народнага *тала́н, тала́нь* з рус. *талант*, гл. *талент*.

**Тала́н$_2$** ‘участак, няпэўная мера плошчы’ (карэліц., З нар. сл.). Няясна.

**Тала́н$_3$** ‘званок, які чапляецца на шыю карове’ (докш., Сл. ПЗБ). Хутчэй за ўсё, гукапераймальнага (імітатыўнага) паходжання, параўн. укр. дыял. *тала́нтати* ‘боўтацца, хістацца’.

**Тала́н$_4$** ‘тоўсты, мажны’ ў параўнанні: *сыты, як талан* (Шат., Стан.). Магчыма, да *талан$_1$* (гл.) са значэннем ‘удача’.

***Талані́ць**, *толоні́ць* ‘гаварыць недарэчнае’ (ТС). Звязана з *талала* (гл.); утварэнне ад гукапераймальнай асновы з экспрэсіўным суф. *-ані-* *(-оні-)*, параўн. аналагічнае ўтварэнне ад пашыранай асновы *талатоніць*, гл.

**Тала́нт** ‘самая вялікая адзінка вагі і грашовая адзінка ў Старажытнай Грэцыі і на Усходзе’ (ТСБМ), ст.-бел. *талантъ* ‘тс’: *два таланты* (1616 г., Карскі, 2–3, 334), *талентъ*, *талантъ* ‘тс’ (Сл. Скар.). Праз ст.-слав. **таланътъ** ‘тс’ з грэч. τάλαντον з індаеўрапейскім коранем **tel-* ‘падымаць (на вагі), узважваць’, што мела значэнні: ‘адзінка вагі ў 26,2 кг’, ‘грашова-разліковая, але не манетная адзінка, срэбная або залатая’, ‘вагі’. З грэч. τάλαντον – лац. *talentum* (у значэнні грэчаскай меры). Усходнія славяне з XI–XII стст. ведаюць словы *талантъ*, *таланто* ў значэннях

‘вага і манета ў старажытных грэкаў і рымлян’ і ‘талент’ (Сразн., 3, 921; Чарных, 2, 226; Фасмер, 4, 14–15). Гл. *та́лент.*

**Тала́нта** ‘другі крок у гульні ў цурку’ (ТС), *тала́нты* ‘дзіцячая гульня: з круга большай палачкай падымаецца з зямлі і адбіваецца ўбок меншая палачка, якую другі ўдзельнік гульні павінен злавіць і ўкінуць у круг’ (слуц., Нар., словатв.). Няясна; відаць, не можа разглядацца асобна ад іншых падобных па структуры гульневых тэрмінаў, параўн. *бала́нта* ‘дзіцячая гульня ў цурку’ (ТС), *паля́нта* ‘від гульні, лапта’ (Скарбы). Магчыма, да лац. *tālea* ‘дубец, кол’ аналагічна да іт. *palla* ‘шар, мяч’ > польск. *palant* ‘кій, якім б’юць па мячу’, параўн. *палянт* (гл.).

**Тала́ны** ‘плямы’ (Чэрн.), *талані́сты* ‘плямісты’ (Чэрн., Сл. рэг. лекс.). Няясна; магчыма, да *талы* (гл.), г. зн. ‘з пралалкам’.

**Таласа́** ‘дробныя хвалі на вадзе, зыб’ (слаўг., Яшкін, Слоўнік), ‘дробныя зморшчыкі, хвалі на вадзе’ (Ласт.), *тало́сіцца* ‘злёгку хваляваўца, зыбацца (пра ваду)’, *таласі́ць* ‘мігацець, мітусіцца (у вачах)’ (Ласт.). Нягледзечы на наяўнасць у гаворках некаторых міжземнаморскіх тэрмінаў (параўн. *трымуктан*, гл.), наўрад ці звязана з балканскім тэрмінам, параўн. макед. *талас* ‘хваля, вал’, серб.-харв. *та̏лас* ‘вал’, што ўзыходзіць да грэч. θάλασσα ‘мора’ праз тур. *talaz/talas/tales* ‘хваля, вал’, параўн. таксама харв. *talàsati* ‘пераліваўца (пра ваду, збожжа на полі)’, гл. Скок, 3, 438; Зайкоўскі, Слов. етим., 183; спец. пра грэчаскае слова гл. Ньюман, Arctos (Helsinki), 14, 51–78. Хутчэй звязана з наступным словам, гл.

**Таласка́ць** ‘тузаць, цягаць’ (Юрч., Бяльк.), ‘тармасіць’ (Растарг.), ‘цягаць за валасы’ (Нас.), ‘штурхаць і цягаць адначасова’ (Нас.), *талы́скаць* ‘штурхаць з боку ў бок’ (Ян.), *таласну́ць* ‘тузануць, пацягнуць рыўком’ (Бяльк., Юрч. Вытв.). Паводле Шустара-Шэўца (1509–1510), роднаснае чэш. мар. *tláskat’*, славац. *tloskat’* ‘шчоўкаць’, балг. *тласкам* ‘піхаць, штурхаць’, макед. *тласка* ‘тс’ і звязана аблатыўнымі адносінамі з в.-луж. *tłuskać* ‘ціснуць, прышчамляць, чавіць’, н.-луж. *tłuskaś* ‘біць, трэсці’, што дазваляе рэканструяваць прасл. дыял. **tolskati*, **tъlskati*, хутчэй за ўсё, гукапераймальнага паходжання. Гл. таксама Махэк$_2$, 645.

**Талато́ніць** ‘плявузгаць, гаварыць’ (ТС). Параўн. рус. *талата́* ‘хто невыразна гаворыць’. Звязана з *талала́* (Фасмер, 4, 15), утварэнне ад гукапераймальнай асновы **талатаць* з экспрэсіўным



суф. *-оні-*, параўн. польск. *faflonić* ‘гаварыць, плявузгаць’ (адносна словаўтварэння параўн. Борысь, Leksyka słow., 30).

**Тала́хкаць** ‘стукаць, грукаць’ (ТС), *толоха́ты* ‘балбатаць, малоць языком’ (бяроз., Шатал.), *талахну́ти* ‘крутануць; узбоўтаць’ (Клім.), *тало́хнуцца* ‘штурхануцца, стукнуцца’ (Ласт.). Ад гукапераймальнага імітатыва **талах* (гл. *талых*), аналагічнага *тарах, тарарах* (гл.), першапачаткова, відаць, з *талала́хаць*, гл. Сюды ж *талахлі́вы* ‘паспешлівы, неразважлівы’, *талахава́ты* ‘дураслівы, нявытрыманы’ (Сцяшк. Сл.). Параўн. чэш. *tlachati* ‘балбатаць, малоць языком’, славац. *tláchat’* ‘тс’, якія Махэк$_2$ (644) разглядае як “ch-інтэнсівы” ад *tlapati* ‘ступаць, крочыць’ (гл. *толапень*).

**Талача́нін** ‘удзельнік талакі – калектыўнай дапамогі’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Тур.), *талачанíн* ‘тс’ (Шымк. Собр., Касп.). Сюды ж *талача́нка* ‘ўдзельніца талакі’ (Нас., Шымк. Собр.), *талача́нік* ‘удзельнік талакі’ (Сл. ПЗБ), *талача́не* ‘ўдзельнікі талакі’ (Касп.). Яшчэ Шымкевіч параўноўваў са славен. *tlazhanin* ‘работнік’ (Шымк. Собр.), сучаснае *tlačan* ‘прыгонны’, *tlačanka* ‘прыгонная, нявольніца’, *tłoczanie* ‘ўдзельнікі талакі’, што ад **tolka* (гл. *талака*) з суф. *-ěninъ/-janinъ* і *-ěne/-jane*, параўн. Трубачоў, Этимология – 1980, 11 і наст.

**Талача́нка** ‘ружа, шыпшына, Rosa cinnamomea L.’ (маг., Кіс.), рус. смал. *талача́нка* ‘тс’. Паводле Фасмера (4, 15), няяснага паходжання; магчыма, да *талакно* (гл.) пад уплывам вядомага на той жа тэрыторыі *талача́ннік* ‘талакнянка’ (Кіс.), што звязана з падобнай кансістэнцыяй пладоў ці выкарыстаннем суквеццяў, параўн. навуковую назву *ружа кары́чная*, рус. *роза кори́чная* (ад *карыца*, гл.).

**Талачня́** ‘цісканіна, таўкатня’ (Ласт.). Гл. наступнае слова.

**Талачы́ць** ‘выконваць талакою працу (вывозіць гной, вазіць бярвенне і пад.)’, ‘святкаваць заканчэнне працы’, ‘таптаць, мясіць, есці на корані (пра пасевы, траву)’ (ТСБМ), ‘таптаць пасевы, траву’ (Некр. і Байк., Шат., Растарг.), ‘збіваць, таптаць, мяць, ламаць нагамі (пасевы хлеба, гародніну, сенакос)’ (Нас.), *талачы́ць*, *тало́чыць* ‘удзельнічаць у супольнай працы’ (Сл. ПЗБ), *талачы́цца* ‘важдацца’ (Жд. 2); сюды ж *талачня́* ‘цісканіна, таўкатня’ (Ласт.), *тало́ча* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *талачэ́ча* ‘таўкатня, бязладдзе’ (Адм.). Параўн. укр. *толо́чити* ‘мяць, таптаць (пасевы, расліны); цягнуць,

валачы', рус. *толочи́ть* 'вытоптваць траву, пасевы', польск. *tłoczyć* 'ціснуць; прыгнятаць, гнясці; таптаць', 'пакідаць адлогам (поле)', славац. *tlačiť* 'набіваць, напіхваць', чэш. *tlačiti* 'ціснуць, піхаць, прыгнятаць', в.-луж. *tłóčić* 'ціснуць, гнясці', н.-луж. *tłocyś* 'таптаць, ціснуць', серб.-харв. *тла̏чити* 'ціснуць; таптаць; прыцікаць, гнясці', славен. *tlačiti* 'тс', ст.-слав. **тлачити** 'біць, таўчы, прыгнятаць'. Прасл. **tolčiti* 'ціснуць, гнясці, прыцікаць' – шматкратны дзеяслоў ад прасл. **telkti* 'біць, таўчы, гнясці' або ўтварэнне ад назоўніка **tolkъ* (гл. *толак*), гл. Борысь, 634; паводле Шустара-Шэўца (1509), каўзатыў ад **telkti* (гл. *таўчы*).

**Талдо́ніць** 'балбатаць' (жлоб., Жыв. сл.), 'настойліва павучаць, паўтараючы адно і тое ж' (Юрч. Вытв.), *талдо́ненне* 'балбатня' (Юрч. СНС). Рус. *толдо́нить* 'паўтараць адно і тое ж'. Экспрэсіўнае ўтварэнне, аналагічнае *тал(а)тоніць* (гл.), пачатак слова можа быць зменены пад уплывам рус. *талды́чить* 'тс'.

***Тале́віць**, *тэле́выты* 'кеміць, разумець' (пін., ЖНС), *тэлэ́выты/тэлэ́мыты* 'тс' (Арх. Вяр.). Няясна.

**Талёвы** 'высокі, стройны чалавек' (Жд. 3). Паланізм, параўн. *taljowy*, прым. ад *talja* 'талія, стан' (гл. *талія*), параўн. *талісты* 'стройны, зграбны' (Сцяшк. Сл.).

**Та́лент** 'надзвычайныя здольнасці'; 'чалавек з надзвычайнымі здольнасцямі' (ТСБМ), 'прыродны дар, здольнасць', 'пакліканне' (Ласт., Сл. ПЗБ), *тале́нт* 'тс' (Байк. і Некр.), *та́лінт* 'здольнасць да нейкага майстэрства ці мастацтва' (Варл.). Праз польск. *talent*, з франц. *talent* 'здольнасць, прыродны дар', што да лац. *talentum* 'грэчаская мера вагі і грашовая адзінка' < грэч. *ταλαντον* 'тс', гл. *талант*. Развіццё значэння ад 'каштоўная манета', 'каштоўны дар' да 'прыродны дар', 'выключныя здольнасці' (Брукнер, 564; Длугаш–Курчабова, 493).

**Та́лер$_1$** 'старажытная нямецкая манета' (ТСБМ), 'манета ў 90 кап. серабром, што ўжываецца ў Літве' (Нас.), 'манета' (Касп., Бяльк.), *та́лер, та́ляр* 'тс' (Сл. ПЗБ), *та́ляр* 'тс' (Кольб.): *try talàry* (Федар. 6). Ст.-бел. *талеръ, таляръ* 'сярэбраная манета; вагавая адзінка для вырабаў са срэбра, што адпавядае масе талера' (Ст.-бел. лексікон) згадваецца ў пісьмовых дакументах з 1555 г. і запазычана са ст.-польск. *taler, talar* 'тс' (Булыка, Запазыч., 316), куды трапіла з ням. *Táler* 'старажытная нямецкая срэбная манета', вынік скарачэння першаснага *Joachimstaler* 'тс' ад *Joachimstal* –



горада ў Чэхіі, дзе здабывалі срэбра і ўпершыню вырабілі гэту манету (ЕСУМ, 5, 510; Голуб–Ліер, 484; Брукнер, 564).

**Та́лер$_2$** 'вялікая, ёмістая талерка' (капыл., Жыв. сл.). Ст.-бел. *талеръ, тарелъ* (Ст.-бел. лексікон), *талеръ, таліръ, тарель* 'талерка' (фіксуецца з 1506 г., Булыка, Лекс. запазыч., 102) запазычанне са ст.-польск. *talerz* 'тс', якое трапіла ў польскую са ст.-в.-ням. *talier*, што з іт. *tagliere* 'дошка для рэзання мяса'. Параўн. пазнейшае запазычанне *та́леж* (іван., Жыр. сл.; Сл. Брэс.). Магчыма, другаснае ўтварэнне ад *талерка* (гл.), успрынятага як памяншальнае па тыпу *бутаць* і *бутэлька*, гл.

**Талера́нтны** 'цярпімы' (ТСБМ); сюды ж *толера́нтнасьць* 'верацярпімасць' (Ласт.). Т. зв. еўрапеізм, шляхі пранікнення няясныя, магчыма, ад польск. *tolerant* 'памяркоўны чалавек' (Варш. сл.). З заходнееўрапейскіх моў, дзе ням., англ. *tolerant*, франц. *tolérant* 'талерантны' ад лац. *tolerans, -ntis* 'які церпіць' (ЕСУМ, 5, 593; Голуб–Ліер, 484).

**Тале́рка** 'плоская сталовая пасуда круглай формы, міска' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Ласт., Байк. і Некр., Нік. Очерки, Касп., Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.; ЛА, 4), *тарэ́лка* 'тс' (Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *талі́рка* 'тс' (Сл. ПЗБ), *талі́рок* 'тс' (Сл. Брэс.), *тале́рка* 'металічны кружок над вісячай лямпай' (Сцяшк. Сл.), *тале́ркі* 'дыскі' (Кал.). Паводле Карскага (1, 315), з ням. *Teller* 'талерка' (гл. *талер$_2$*) з захаваннем характэрнага для беларускай мовы спалучэння *л–р* (без метатэзы, параўн. укр. *тарілка*, рус. *тарелка* 'тс'), магчыма, пад уплывам польск. *talerzyk*, дыял. *talerka* 'тс', асабліва *talarek* 'малы кружок'. Параўн. адаптаванае ў народнай мове *тэро́лка* 'талерка' (бяроз., Шатал.).

**Талет**, ст.-бел. *талеть* 'гатунак шаўковай тканіны, затканай золатам' (Ст.-бел. лексікон). Фіксуецца з 1592 г. і запазычана са ст.-польск. *talet* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 110). Далейшыя сувязі няясныя.

**Тале́хаць** *(тале́хаты)* 'абгаворваць' (Сл. Брэс.). Відаць, скарочанае ад *талалахаць*, гл. *талала*.

**Талі́й** 'хвароба авечак': *талій на овац напаў* (драг., Ск. нар. мовы). Няясна.

**Та́лік,** *та́лька* 'гестка, какетка' (Лекс. Бел. Палесся), *то́лька* 'жаночая вопратка кароткага памеру з самаробнага сукна' (Ян.). Параўн. польск. дыял. *talik* 'невялікі кавалак поля, адрэзаны па-

7 Зак. 3415

пярок вузкага загону', *tal* 'тс' (Варш. сл.), што, магчыма, ад ням. *Theil* 'частка', параўн. Брукнер, 564. Аднак, верагодней за ўсё, звязана з *талія*₁ (гл.) з семантыкай 'адрэзаная частка', параўн. іншую назву *перарэ́з* 'гестка' (Лекс. Бел. Палесся).

**Таліна́** 'праталіна' (ТС; беласт., Сл. ПЗБ), *та́ліна* 'мясціна, дзе сышоў снег' (Варл.), *толына́* 'праталка' (Сл. Брэс.), *та́леніна* 'зямля, што паказваецца з-пад снегу' (Арх. Федар.). Укр. *талина́* 'расталая санная дарога', польск. дыял. *talina* 'плеш на полі, пустое месца, дзе загінула збожжа', славен. *talina* 'адталая зямля'. Утворана пры дапамозе суф. *-ina* ад **talъ*, гл. *талы*.

**Талісма́н** 'прадмет, які прыносіць яго ўладальніку шчасце, удачу' (ТСБМ). З заходнееўрапейскіх моў, параўн. ням. (XVIII ст.) *Tálisman* з франц. (XVII ст.) *talisman*, якое з ісп. *talismán*. Ісп. *talismán* разам з парт. *talismā* або непасрэдна з араб. *tal(l)asm* 'магічныя знакі, магічная выява, заклінанне' ці з перс. *тэлесм* < араб. *tal(l)asm* (Чарных, 2, 226; Фасмер, 4, 15).

**Та́ліць** 'прасці вельмі тонкай ніткай, высакаякасна' (мёрск., Ск. нар. мовы). Гл. *талька*.

***Талі́ць**₁, *толыты* 'насычаць, карміць' (драг., Бел.-укр. ізал.), часцей у прыставачных утварэннях *наталіць* (гл.): *яго нічым ні наталіш* (Сержп. Прымхі), *утолі́ць* 'задаволіць, насыціць' (ТС). Параўн. укр. *толи́ти* 'заспакойваць', палес. *толи́ть* 'раскормліваць, пічкаць', рус. *толи́ть* 'тс', ст.-польск. *tolić* 'тс', славац. *táliť sa* 'добра харчавацца', серб.-харв. *то̀лити* 'заспакойваць', славен. *toliti* 'сунімаць, супакойваць'. Прасл. **toliti/*taliti*, каўзатыў ад **tьlěti* (гл. *тлець*), параўн. літ. *tìlti* 'стаяць моўчкі', лат. *tilinât* 'распешчваць (дзіця)', ст.-ірл. *tuiti* 'спаць', магчыма, ст.-в.-ням. *stilli* 'ціхі' (Фасмер, 4, 71; Бязлай, 4, 194; Варбат, Этимология – 1970, 59; ЕСУМ, 5, 593). Гл. таксама *ўталяць*.

***Талі́ць**₂, *толі́ць* 'збіраць, хаваць': *толіць тые грошы* (ТС), *та́лыты* 'сцягваць у адно месца; траціць' (Арх. Вяр.), сюды ж дзеяслоў шматкратнага дзеяння *талаваць*, гл. Лічыцца адаптаваным запазычаннем з цюркскіх моў, у якасці крыніцы прапануецца крым.-тат. *тала* 'дзерці, рабаваць', роднаснае манг. *tala* 'рабаваць' і пад. (Фасмер, 4, 15; ЕСУМ, 5, 509).

**Та́лія**₁ 'частка тулава, стан', 'вузкая частка адзення ў пасе' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *таль* 'прылягаючая да стану частка сукенкі' (Сцяшк. Сл.), *та́ля* 'стан' (Сцяшк.). З польск. *talia*, якое праз ням. *Taille* або непасрэдна з франц. *taille* 'талія' < *tailler* 'абразаць, выкройваць; абчосваць, граніць, шліфаваць' < нар.-лац. *taliāre* 'тс' (Чарных, 2, 226–227; Фасмер, 4, 15).

**Та́лія**₂ 'камплект ігральных карт з дзвюх калод' (ТСБМ), 'калода карт' (Нас., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *та́льля* 'тс' (Байк. і Некр.). З франц. *taille* 'талія' < нар.-лац. **taliare* 'рубіць, адцінаць' < лац. *tālea* 'прут, кол; атожылак, парастак, саджанец', да семантыкі параўн. укр. *талюва́ти* 'тасаваць карты, трымаць банк, дзяліць на роўныя часткі', гл. ЕСУМ, 5, 510.

**Талкава́ць** 'гутарыць, гаварыць; растлумачваць' (ТСБМ), 'разважаць, доўга і шматслоўна даводзіць': *толкуе – німа чаго слухаць* (Федар. 4, Цых.), *толкова́ць* 'размаўляць, абмяркоўваць' (ТС), ст.-бел. *толковати* 'тлумачыць, гаварыць, казаць' (КГС), сюды ж *талкаві́та*, *талкаві́ста* 'разумна, разважна' (Мат. Маг., Юрч. Вытв.), *талко́вы* 'змястоўны, разумны, дзелавы, удалы' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Цых.). Да *толк*, гл.

**Талма́к** у выразе: *на талмаку ног не павалаку* (Сержп. Прык.), у іншым варыянце: *на талаку ног не павалаку* (там жа), *па малаку ног не павалаку* (капыл., Рабк.). Няясна; параўн. тат. *talamak* 'рабаваць'.

**Талма́ч** 'перакладчык' (Некр. і Байк., Варл., Скарбы), *то́лмач* 'тс' (Янк. 1), ст.-бел. *толмачъ* 'перакладчык, тлумачальнік' (Ст.-бел. лексікон); сюды ж *талма́чыць* 'перакладаць' (Варл.), 'тлумачыць' (Ян.), *толмачыць* 'тс' (ТС). Укр. *товма́ч*, *толма́ч*, рус. *толма́ч*, польск. *tłumacz*, в.-луж. *tołmač*, чэш. *tlumač*, славац. *tlmač*, славен. *tolmá*, серб.-харв. *ту̑ма̄ч*, балг. *тълма́ч*, макед. *толмач* 'перакладчык, тлумачальнік'. Старажытнае запазычанне, мяркуецца прасл. **tъlmačь*, з цюркскіх моў, найбольш блізкімі да славянскіх формаў з'яўляецца палавец. і караім. *tolmač* 'перакладчык, тлумач' (Булыка, БЛ, 23, 67), параўн. таксама кыпч. *tylmač*, казах. *tilmäč*, тур. *dilmač*, ст.-цюрк. *tïlmači* 'тс', што звязаны з цюрк. *til* 'мова' (ЕСУМ, 5, 588; Фасмер, 4, 72; Брукнер, 572). Паводле Глухака (643), вандроўны тэрмін, які ў цюркскіх мовах зблізіўся з *dyl*, *dil* 'мова' і мае аналагічныя семантычныя адпаведнікі ў іншых мовах.

**Талма́чыць** 'тармасіць' (узд., Жд. 3). Параўн. смален. *талмата́* 'шум, мітусня', якое Ліўканен (Отглаг. сущ., 172) узводзіць да **tьlmъ*, гл. *тлум* (< **tьlp-mъ*), што сумніўна. Паводле

Фасмера (5, 15), з **тълмота*. Параўн. фанетычна блізкае няяснага паходжання *талмак* (гл.).

**Талму́д** 'звод бытавых, прававых прадпісанняў і правіл у іудзеяў', 'вялікі рукапіс, кніга' (ТСБМ), 'свяшчэнная кніга веруючых яўрэяў; цяжкі для разумення тэкст, пісанне' (Скарбы), *тальму́д* 'свяшчэнная кніга ў іудзеяў' (Некр. і Байк.). Ст.-бел. *талмутъ*, *талматъ*, *талмотъ*, *толмутъ* 'тс' запазычана ў канцы XV ст. або непасрэдна з ідыш *Talmud* 'вучэнне; святая кніга ў габрэяў' (Астравух, Ідыш-бел. сл.), або адтуль жа праз ст.-польск. *talmud*, *talmut* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 175, 184), што да іўр. *talmū́dh* 'вучэнне' < *lāmā́dh* 'вучыўся' (ЕСУМ, 5, 509; Голуб–Ліер, 477).

**Талму́дзіць** 'падманваць, абдурваць' (Бяльк.), 'вярзці абы-што' (Касп.), *талму́дзіцца* 'валаводзіцца, марудзіць' (Мат. Гом.), *талму́дка* 'балбатуха' (Касп.), *талму́дны(й)* 'цяжкі': *работа вельмі талмудная* (Мат. Маг. 2). Экспрэсіўныя ўтварэнні ад *талмуд* (гл.), магчыма, пад уплывам *мудзіць* 'гаварыць недарэчнае', 'цягнуць' і пад. (гл. *мудак*).

**Талму́ды** 'рэчы (адзенне, абутак), кінутыя абы-дзе' (Сл. рэг. лекс.), *талму́ты* 'адзенне' (люб., Нар. словатв.). Да папярэдняга слова ў значэнні 'нешта заблытанае, паблытанае', канец слова набліжаны з мэтай экспрэсіі да *муды* (гл.) або *мута* 'блытаніна', гл.

**Тало́** 'пальнння, багатая на рыбу' (Касп.). Гл. *тал*.

**Тало́к** 'натоўп' (Сл. Брэс.). Гл. *талака́*$_1$; форма м. р., магчыма, пад уплывам польск. *tłok* 'ціск; тлум, ціжба'. Параўн. *толак*, гл.

**Тало́ка** 'поле пад папарам, дзе пасецца статак' (Бяльк., Мат. Гом.). Гл. *талака́*$_2$.

**Тало́н** 'кантрольны лісток' (ТСБМ, Вруб.), *талён* 'цэтлік' (Некр. і Байк.). З заходнееўрапейскіх моў, дзе англ. *talon* 'талон', ням. *Talon* 'тс' і інш. з франц. (XII ст.) *talon* 'прыкуп у картачнай гульні; цэтлік у чэкавай, квітанцыйнай кніжцы', што праз нар.-лац. *talo* (В. скл. *talonem*) < лац. *tālus* 'пятка; костачка', 'ігральная косць' (Чарных, 2, 227; Фасмер, 4, 16). Запазычана праз рускае або польскае пасрэдніцтва, параўн. рус. *тало́н*, польск. *talon* 'кантрольны лісток'.

**Тало́начка** 'драўляная лыжачка' (Сл. рэг. лекс.). Няясна; магчыма, звязана з польск. *talon* 'парожак у смычка' (да лац. *tālea* 'палачка, дубец'?).



**Тало́піцца**$_1$ 'тоўпіцца' (Сцяшк.). Параўн. польск. дыял. *tłopić się* 'пхацца, ціснуцца, набівацца', чэш. *-tĕloupit se*, *-taloupit se* 'ўскокваць; прарывацца', славац. *ťalúpiť sa* 'брысці', серб.-харв. *тла́пити* 'мроіць, трызніць', балг. радоп. *тлапу́вам* 'тс'. Роднаснае *тоўпіцца* (гл.), далейшыя сувязі з літ. *tilpti* 'змяшчацца', дыял. *tùlpinti* 'змяшчаць, упіхваць; збіраць', лат. *tulpîtiês* 'збірацца', параўн. Брукнер, 572; Махэк$_2$, 639; Скок, 3, 477 (сербскае слова выводзіць з *кла́пити*, відаць, беспадстаўна); Дурыданаў, ЕЛ, 37, 3, 65–70. Гл. яшчэ *таўпа* і наступнае слова.

**Тало́піцца**$_2$, *тало́піць (талупіць) вочы* 'засяроджана глядзець, пазіраць' (Ласт.). Відаць, да папярэдняга слова, бліжэйшы адпаведнік, што тлумачыць семантыку, польск. дыял. *tłopić się* 'гвалтам набівацца'. Гл. *уталопіцца*.

**Тало́сіцца** 'злёгку хваляваццa, зыбацца' (Ласт.). Гл. *таласа*.

**Тало́хнуцца** 'штурхануцца, стукнуцца': *талохнуліся чаркамі* (Ласт.). Гл. *талахкаць*.

**Тало́ць** 'таўчы' (?): *буду табе і талоць і малоць* (бялын., Жарт. песні). Магчыма, захаваная ў песні поўнагалосная форма, што ўзыходзіць да прасл. **telťi*, гл. *таўчы*. Аднак нельга выключыць змену слова ў выніку рыфмоўкі.

**Тало́ча** 'таўканіна; вялікі натоўп' (Сцяшк.), *тало́чыць* 'удзельнічаць у супольнай працы' (Сл. ПЗБ). Гл. *талака*$_1$, *талачыць*.

**Тало́шыцца** 'мітусіцца, кідацца' (Ласт.). Няясна.

**Талсто́ўка** 'шырокая, доўгая мужчынская кашуля ў складку з поясам' (ТСБМ), *таўсто́ўка* 'тс' (Кал.), *таўсто́лка* 'верхняя мужчынская кашуля з даматканага палатна' (Ян.). Запазычана з рус. *толсто́вка* 'доўгая верхняя мужчынская кашуля', што ад прозвішча пісьменніка Л. Талстога.

**Талха́ць** 'штурхаць' (шарк., ЛА, 2), 'запіхваць' (красл., Сл. ПЗБ), *талхану́ць* 'стукнуць, ударыць' (бярэз., Сл. ПЗБ). Гл. *талахкаць* ад імітатыва **талах*, варыянт **талх* пабач з *талых*, гл. Параўн. *таўхаць*, гл.

**Та́лы** 'які злёгку падтаў, зрабіўся цёмным ад раставання снегу або лёду' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), *та́лый* 'тс' (Бяльк.). Т. зв. "элавы" дзеепрыметнік ад *таць*, гл. таксама *таяць*.

**Талы́заць** 'цягаць, тузаць, біць', *талы́знічаць* 'цягацца, марнатравіць' (Нас., Байк. і Некр.), сюды ж *талы́знік* 'марнатравец' (Нас.). Параўн. рус. пск. *талы́зина* 'тоўстая дубіна, друк'. Яшчэ

Насовіч (632) выказаў меркаванне пра запазычанне з літ. *talziti* 'кідаць, кідаючы біць'; паводле Карскага (Труды, 394), з літ. *talãžyti, tàlažuoti* 'боўтаць' або з літ. *tálžyti*, лат. *tâlzît* 'біць' (Кіпарскі, Лекс. балтызмы; Лаўчутэ, Балтизмы, 56). Анікін (Опыт, 285) лічыць гэта непрымальным з фармальных прычын і мяркуе пра экспрэсіўнае ўсходнеславянскае ўтварэнне, параўн. *таласкаць*, гл. Параўн. таксама Фасмер (4, 14), дзе абмяркоўваюцца і іншыя спробы этымалагізацыі слоў.

**Талы́скаць** 'штурхаць з боку ў бок' (Ян.). Гукапераймальнага паходжання, аналагічнае да *талыхаць* (гл. наступнае слова), параўн. *таласкаць*, гл. Фасмер (4, 16) звязвае смал. *талы́скаць, поталы́скать* 'пабіць' з *талы́заць* (гл.), параўн. і рус. прыбалт. *талы́згать* 'прыгнятаць, трапаць', якое Анікін (Опыт, 284–285) лічыць экспрэсіўным наватворам, узнікшым на славянскай глебе.

**Талы́х** – імітатыў, перадае язду па няроўнай паверхні: *талых-талых-талых* (полац., Нар. лекс.), *талы́хаць (талхъць)* 'ісці кульгаючы' (мёрск., там жа). Гукаперайманне, параўн. *талалыхаць*, гл.

**Таль** 'талія ў сукенцы' (Сцяшк. Сл.). Гл. *талія*.

**Тальва́** 'падгорле ў каровы' (зах.-палес., Бел.-укр. ізал.). Паводле Дзендзялеўскага (там жа, 25), палескі рэгіяналізм няяснага паходжання.

**Тальк**, *талька* 'слаісты мяккі мінерал у тэхніцы і медыцыне ў выглядзе парашку' (ТСБМ). Праз ням. *Talk* 'тс' з франц. *talc* < ісп. *talque* < араб. *ṭálaq, talq* 'тс', гл. Фасмер, 4, 16; ЕСУМ, 5, 510.

**Та́лька₁** 'маток пражы або нітак рознай велічыні' (ТСБМ), 'маток нітак для вышывання' (лях., Янк. Мат.; кобр., Жыв. сл.), 'тонка спрадзеныя ніткі' (Нас., Касп.; чэрв., Нар. лекс.), 'самая тонкая пража' (ТС, ЛА, 4), 'танюсенькая нітка, што пралі ў часы прыгону для двара' (Варл.), 'фабрычныя ніткі' (Сл. ПЗБ, Шат.; ЛА, 4), 'патаўшчэнне і патанчэнне на нітцы' (баран., пух., івац., ЛА, 4), 'маленькі маточак вышывальных нітак' (лях., Янк. Мат.), 'няроўна спрадзеныя ніткі' (Сл. ПЗБ, Жд. 1), 'стоненая частка ніткі' (івац., Нар. сл.), 'матавіла' (Жд. 1), 'кужэльнае палатно' (бых., слаўг., мсцісл., краснап., узд., клец., ЛА, 4), 'маток з дваццаці пасмаў тонкіх нітак' (Сл. ПЗБ), 'маток нітак пэўнай меры' (Ласт., Стан.), сюды ж *ста́лька* 'тонкая пража' (пін., ЛА, 4). Укр. *та́лька* 'маток пражы, нітак', дыял. 'шэрая нітка, з якой



вырабляюць невад', рус. *та́лька* 'матавіла; 10 пучкоў пражы', польск. *talka, tala, tal(e)k* 'маток пражы', каш. *tal* 'тс'. Паводле Фалінскай (Бел.-польск. ізал., 138, 141), запазычана з ням. прус. *Tall* 'маток пражы', што, мажліва, з с.-н.-ням. *tallige* 'мера льняной пражы' < іт. *taglia* 'зарубка; падатак' (Фасмер, 4, 16; Трубачоў, Ремесл. терм., 104). Памылкова Горбач (Зах.-пол. гов., 55) выводзіць з *(мо)талька*, відаць, ад *мотати* 'матаць'.

**Та́лька₂** 'кароткая жаночая вопратка з саматканага сукна' (Ян.). Гл. *талік*.

**Та́лька₃** 'зараснік вярбы размарыналістай' (рэч., Расл. св.). Укр. *тал, та́льник* 'вярба, вербалоз', рус. *тал, тали́на, тальни́к* 'вярба Salix arenaria'. Запазычанне з цюркскіх моў, параўн. тат., караім. *tal* 'вярба, вербалоз' (Фасмер, 4, 14; ЕСУМ, 5, 506). З-за адзінкавай фіксацыі, відаць, запазычана праз украінскую або рускую мову. Спробы звязаць з *талакнянка* (гл.) у Штэйнгольд, Этимология – 1994–1996, 139.

**Та́льма** 'жаночая доўгая накідка без рукавоў' (ТСБМ). Відаць, праз рускую мову ад уласнага імя *Та́льма* – прозвішча французскага акцёра Francois-Joseph *Talma* (ЕСУМ, 5, 510; Фасмер, 4, 16).

**Тальма́х** 'палоска матэрыі для падтрымання параненай або пашкоджанай рукі' (ТСБМ), *тальма́к* 'перавязь; прывязь, прычэп' (Скарбы). Хутчэй за ўсё, з польск. *temlak, temblak* 'прывязь у халоднай зброі', 'перавязь для падтрымання хворай рукі' – у выніку перастаноўкі зычных у сярэдзіне слова *(ml > lm)*, што выводзяць з цюркскіх моў, параўн. тат. *tämlik* 'партупея для шаблі' (Фасмер, 4, 40; Брукнер, 568; ЕСУМ, 5, 543). Гл. *цямляк*.

**Талья́нка** 'аднарадны рускі гармонік' (ТСБМ). Укр., рус. *талья́нка* 'тс'. З рускай мовы, дзе першапачаткова было *италья́нка* 'італьянка', 'італьянскі гармонік' < *Италия* (ЕСУМ, 5, 510; Фасмер, 4, 17).

**Талэпа́** 'месца, крыху прыкрытае снегам' (Сл. Брэс.). Магчыма, да *тал, та́лы* (гл.) з экспрэсіўнай суфіксацыяй, параўн. смал. *талоба́*: *во за́иччая тылаба́* 'месца, дзе заўсёды водзіцца дзічына, якая пакідае сляды на снезе' (Дабр.). Не выключана, што гэта гукапераймальнае ўтварэнне ад **талэ́п*, параўн. укр. *тала́п* 'пра капанне ў чым-небудзь рэдкім', дыял. *таля́п* 'тс', ад якіх паходзяць *тала́пати* 'ўтвараць характэрныя гукі, ходзячы ў растаптаным або завялікім абутку', дыял. 'каламуціць ваду,

плюхаючыся ў ёй; брудзіць’, чэш. *tlapati* ‘шлёпаць, ступаць, крочыць’, якое Махэк$_2$ (645) узводзіць да **telp-* (гл. *целяпаць*), не зусім яснае польск. дыял. *tałapać się* ‘плёскацца, хлюпаць у вадзе’ (магчыма, усходнеславянскага паходжання). Гл. таксама Фасмер, 4, 15; ЕСУМ, 5, 507–508.

**Талябе́ніць** *(талебе́ніць)* ‘гаварыць адно і тое ж, балбатаць’ (ТС). Гл. *талабаніць* (з экспрэсіўным змякчэннем).

**Талялёхаць** ‘калыхаць’ (Мат. Гом.). Імітатыў на базе гукапераймання, параўн. *талалюкаць* (гл.), *танянёх* і пад.

**Таля́пацъ** ‘клекатаць (пра бусла)’ (віц., Жыв. св.), як і ўкр. *таля́пати* ‘пляскаць, хлюпаць’, чэш. *tlapati* ‘ступаць, крочыць, шлёпаць’ гукапераймальнага паходжання, параўн. ЕСУМ, 5, 508; Махэк$_2$, 645.

**Таля́р** ‘талер (манета)’ (ігн., паст., лід., маст., Сл. ПЗБ). Гл. *та́лер*$_1$.

**Таляха́ць** *(таляха́ты)* ‘абгаворваць’ (кобр., Нар. лекс.). Дзеяслоў гукапераймальнага паходжання, гл. *талахаць, талахкаць*.

**Там** ‘у тым месцы, не тут’; ‘потым, затым, далей’; узмацняльная часціца ў спалучэннях (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Варл., Федар. 4; калінк., З нар. сл.; Вруб.), *та́ма* ‘тс’ (Нас., Бяльк., Растарг.; калінк., З нар. сл.; Скарбы, Шатал., Мат. Гом., Мат. Маг., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 5), *та́ме, та́мма* ‘там, вунь там, у тым месцы’ (ТС), ст.-бел. *тамъ, тамо* ‘тс’ (Альтбаўэр); сюды ж ускладненыя часціцамі *та́мака* ‘тс’ (Нас., Касп., Шат., Стан., Ласт.; калінк., З нар. сл.), *та́макава, та́макай* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *та́майка* ‘тс’ (Скарбы), *та́мка* ‘там, трохі далей’ (Сл. ПЗБ, Варл.), *та́макі* ‘тс’ (ТС, Мат. Гом.), *та́мачы* ‘тс’ (Жыв. сл., Сл. ПЗБ), *та́мацька* ‘тс’ (Нас., Бяльк.), *та́мачка, та́мачкі* ‘тс’ (Ласт., Сержп. Отч., Сцяшк. Сл., Касп.), *та́мочка* ‘тс’ (ТС). Укр. *там, та́мо, та́м'е* ‘тс’, рус. *там* ‘тс’, польск. *tam* ‘там; туды’, н.-луж. *tam* ‘там; туды’, в.-луж. *tam, tamle* ‘тс’, чэш. *tam* ‘тс’, славац. *tam* ‘тс’, славен. *tam, tamkaj* ‘там’, серб.-харв. *та̏мо* ‘там; туды’, балг. *там, та́мо, таме́* ‘тс’, макед. *таму* ‘там, туды’, ст.-слав. **тамо** ‘там’, рэдка ‘туды’. Прасл. **tamo*, дзе корань **ta-* той жа, што ў прасл. **tako > так* (гл.) і ў аблаўце – у прасл. **tъ > той* (гл.), а суфікс *-*mo* той жа, што ў прасл. **semo* ‘тут; сюды’, **kamo* ‘куды’, **ovamo* ‘ў той бок’. Праславянскі корань **ta-* ўзводзяць да індаеўрапейскага



займеннікавага кораня **to-*, **tā-*, **tio-* (Покарны, 1086–1087) і супастаўляюць праславянскае слова з лат. *пио tām* ‘адтуль’, грэч. τημος ‘тады, у той час’ (Фасмер, 4, 17; Чарных, 2, 227; Борысь, 626).

**Та́ма** ‘гаць, грэбля, стаў, ставок’ (Некр. і Байк.), ‘запруда’ (Вруб., Ласт.), сюды ж *тамова́ті* ‘затрымліваць, замаруджваць, запруджваць’ (Вруб.), *тамава́ньнё* ‘гаць пры беразе ракі’ (карэліц., З нар. сл.), *тамава́не* ‘ўмацаванне берагоў ад размыву’ (Скарбы), ст.-бел. *тамовати* ‘стрымліваць’. Праз польск. *tama* ‘запруда, грэбля, дамба’, *tamować* ‘прыпыняць, стрымліваць’, з с.-в.-ням. *tam* ‘дамба, грэбля, гаць, запруда’, ням. *Damm* ‘тс’, *dämmen* ‘запруджваць, падпіраць’, роднасных англ. *dam*, ст.-ісл. *dammr* ‘запруда’, гоц. *faúr-dammjan* ‘загароджваць’, і, як мяркуюць, грэч. υέμευλα ‘падмурак’ (Брукнер, 564; ЕСУМ, 5, 511; Булыка, Лекс. запазыч., 198). Гл. таксама *ўтаймаваць*.

***Тамава́ты**, *томова́ты* ‘дурны’ (ТС). Ад ідыш *tam* ‘разява, дурненькі’ (Астравух, Ідыш-бел. сл., 909).

**Тамава́ць** ‘стамляць, нудзіць, мучыць; збіваць з толку’ (Нас., Стан., Байк. і Некр.). Гл. *таміць*.

**Тамада́** ‘асоба, якая вядзе банкет’ (ТСБМ). Укр., рус. *тамада́* ‘тс’. Праз рускую з груз. თამადა ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 511).

**Та́мака**. Гл. *там*.

**Тама́лка** ‘ануча’ (Сцяшк. Сл.). З першаснага **отымалка*, ад незафіксаванага **адыма́лка*.

**Тама́т** ‘памідор’, ‘паста, соус з памідораў’ (ТСБМ), *тама́ты* ‘памідоры’ (Некр. і Байк.). Відаць, праз рус. *тома́т* з франц. *tomate* ‘тамат’ < ісп. *tomate (tomata)* ‘тс’, якое ад ацтэк. мекс. *tomati* < *tomana* ‘набрыняць’ (ЕСУМ, 5, 595; Чарных, 2, 249; Фасмер, 4, 75; Голуб–Ліер, 484).

**Та́мацька**, *та́мацькі* ‘там’ (Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ; бых., Яшк. Мясц.; Яўс.). Да *там, тамака* (гл.); Карскі (2–3, 69) дапускае паходжанне “ласкальнага” мяккага *ц* як з *т*, параўн. *та́матка* (рагач., Мат.), так і з *ч*, параўн. *та́мачка* (Мат. Гом.), пры гэтым геаграфія слоў схіляе да прыняцця апошняга (зона т. зв. цокання ў паўночна-ўсходняй Беларусі).

**Тамаша́** ‘крык, гармідар’ (Мат. Гом.). Параўн. рус. *томаша́* ‘суталака, суматоха’, старое ‘барацьба, відовішча’, якое выводзяць з тат.-баш. *tamaša* ‘суталака, сціжма; відовішча’ (Фасмер, 4, 75).

7а Зак. 3415

**Та́машні** ‘які знаходзіцца там; тамтэйшы’ (ТСБМ), *та́мошні* ‘тс’ (беласт., Сл. ПЗБ), *та́мошны* ‘тс’ (Вруб.), *та́машнік (та́мъшнік)* ‘чалавек стуль, адтуль’ (мёрск., Нар. сл.), ст.-бел. *тамошний* ‘тамашні’ (1480 г., КГС). Укр. *та́мо́шний* ‘тамашні’, рус. *та́мошний* ‘тс’. Ад *там* (гл.), як *леташні, сённяшні* і пад. Ст.-бел. *тамечный, тамочный* ‘тамашні’ (1501 г.) разглядаецца як запазычанне са ст.-польск. *tameczny* ‘тс’, утворанага па падобнай схеме (Булыка, Лекс. запазыч., 195).

**Та́мба** ‘зямельны насып’ (Растарг.), ‘укапаныя ў зямлю слупы, да якіх прывязваюцца плыты’ (віц., Нар. сл.). Гл. *дамба*.

**Тамба́к** ‘сплаў медзі з цынкам, бронза’ (Байк. і Некр., Ласт., Нас.). Гл. *тампак*.

**Та́мбур₁** ‘прыбудова, частка памяшкання перад галоўным уваходам, прысенак’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *та́мбор* ‘ганак’ (Лекс. Бел. Палесся). Праз рус. *та́мбур* ‘тс’ або польск. *tambor* ‘тс’ з французскай мовы, дзе архітэктурны тэрмін *tambour* з’явіўся ў выніку метанімічнага пераносу значэння слова *tambour* ‘барабан’ (ЕСУМ, 512; Фасмер, 4, 17–18), гл. *тамбу́р*.

**Та́мбур₂** ‘род вязання або вышывання вочка ў вочка’ (ТСБМ), ‘кручок для вязання або пляцення’ (Касп.; мсцісл., бых., ЛА, 4; Бяльк.), *тамбу́р* ‘кручок для пляцення карункаў’ (Стан.), *тамбу́рка* ‘тс’ (Касп., Бяльк.), *та́мбурка, та́мбарка, та́нбурка* ‘кручок для вязання’ (Шатал., Мат. Гом., Сл. ПЗБ; ЛА, 4), *та́мбурак* ‘тс’ (в.-дзв., паст., рас., ЛА, 4), *тамбу́рак* (Шатал., ЛА, 4), *та́мбырка, та́нбырка* ‘прылада для вязання’ (Мат. Маг.), сюды ж *та́мбурны* ‘ланцужковы (шоў)’ (Мат. Гом.). Праз польск. *tambor, tamborek, tamburek* ‘пяльцы’ з франц. *tambour* ‘тс’, якое сталася вынікам метанімічнага пераносу паводле падабенства з *tambour* ‘барабан’ (ЕСУМ, 5, 512; Фасмер, 4, 17–18). Гл. *тамбу́р*.

**Та́мбур₃** ‘падстаўка для вядра каля калодзежа’ (Сл. Брэс.). Перанос значэння з *тамбу́р₁* (гл.) паводле знешняга падабенства.

**Тамбу́р** ‘барабан’ (ТСБМ), сюды ж *та́мбор* ‘вялікі і малы барабаны ў ваўначосцы’ (ТС). З франц. *tambour* ‘барабаншчык’, роднаснага да нар.-лац. *ṭanbūr* ‘лютня, мандаліна’ (ЕСУМ, 5, 511–512; Голуб–Ліер, 477; Фасмер, 4, 17–18). Стахоўскі (Этимология – 1965, 209) звязвае з с.-тур. *tambur* ‘шасціструнны музычны інструмент’, што суадносіцца з араб. *tunbūr* ‘тс’. Магчыма пасрэдніцтва ўкраінскай мовы, дзе *тамбу́р* ‘ударны ўсходні інструмент, старажытны музычны струнны інструмент’; тэхнічны тэрмін, відаць, з польск. *tambor* ‘барабан’ (у тым ліку ў тэхнічным значэнні).



**Тамга́** ‘кляймо, метка, пячаць, пячатка’, ‘гандлёвая пошліна’ (ТСБМ), ст.-бел. *тамга, томга* ‘гандлёвае мыта’ (Ст.-бел. лексікон). З рускай мовы, параўн. стараж.-рус. *тамга*/*тамъга* ‘кляймо; пячатка; від падатку, уведзенага на заваяванай тэрыторыі Старажытнай Русі татара-манголамі’, пазней, у Маскоўскім княстве, – ‘гандлёвая пошліна’. Ст.-цюрк. *tamγa* ‘пячатка, адбітак’, сучасныя манг. *тамга́* ‘пячатка; штэмпель; штамп’, ‘кляймо, таўро’, ‘туз (у картах)’, каз.-тат. *тамга́* ‘метка; таўро, кляймо; пячатка’, тур. *damga* ‘кляймо, штэмпель; пломба; проба (на каштоўных вырабах)’ і інш. (Чарных, 2, 227; Фасмер, 4, 18; Анікін, 531).

**Та́мдзяка** ‘там’ (Сл. Брэс.). Спалучэнне *там* з *дзе* (гл.), аформленае па тыпу *тамака* (гл. *там*).

**Таміць** ‘мучыць, знясільваць’, ‘турбаваць, гнясці, нудзіць’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘мучыцца, знемагаць’ (Ян.), ‘марыць, мучыць’ (Ласт.), ‘мардаваць’ (Нас.), *то́міць* ‘мучыць’ (Сл. ПЗБ), *та́міцца* ‘стамляцца’ (Нас., Сержп. Прымхі), *томі́цца* ‘не гарэць агнём’ (ТС), сюды ж *то́млены* ‘атрыманы тамленнем’ (ТСБМ), *таме́нне* ‘мардаванне’ (Нас.), *тамлёнка* ‘тушаная бульба’ (Мат. Гом.). Укр. *томи́ти* ‘даводзіць да стомы, знясільваць; падвяргаць працягламу награванню’, рус. *томи́ть* ‘мучыць; стамляць; парыць; награваць’, славен. дыял. *tomljáti* ‘бадзяцца, сланяцца’, серб.-харв. *то̀мити* ‘прыціскаць’, балг. *томи́телен* ‘пакутлівы, нудны’, ст.-слав. **томити** ‘мучыць’. З прасл. **tomiti* ‘мучыць’, роднаснага ст.-інд. *tamáyati* ‘душыць, пазбаўляць паветра’, *tā́myati* ‘страчвае прытомнасць, слабее’, лац. *tēmulentus* ‘п’яны’, *tēmētum* ‘хмяльны напой, віно’, ст.-ірл. *tām* ‘хвароба; смерць’, *tamaim* ‘спачываю (мёртвы)’, нова-в.-ням. *dämisch, dämlich* ‘дурнаваты, ачмурэлы, прыгаломшаны’ (Чарных, 2, 249; Фасмер, 4, 75–76; ЕСУМ, 5, 595–596; Бязлай, 4, 196).

**Та́мкаць** ‘размаўляць павольна, паціху’ (Юрч. Вытв.). Няясна; відаць, гукапераймальнага паходжання.

**Тамлёнка** ‘тушаная бульба’ (добр., Нар. словатв.). Ад *то́млены* ‘тушаны’, гл. *таміць*.

**Тамóжня** 'мытня' (ТСБМ). Русізм, зыходнае ст.-рус. *тамъга* (гл. *тамга*), ад якога прыметнік *таможьный* (< *тамъжьный) 'той, які мае адносіны да тамгі', што паслужыў асновай для ўтварэння назоўніка на *-ня* па ўзору *овчарня* і пад. (Чарных, 2, 227).

**Тампáк** 'сплаў медзі і цынку залацістага колеру' (ТСБМ), *тамбáк* 'тс' (Нас., Байк. і Некр., Ласт.), *тамбакóвы* 'тампакавы, бронзавы' (Байк. і Некр.). Укр. *томбáк* 'сплаў медзі і цынку', рус. *томпáк* 'тс', польск., чэш., славац. *tombak* 'тс'. Запазычана праз польскую або рускую мову з заходнееўрапейскіх моў, дзе ням. *Tómbak*, франц., англ. *tombac* 'тс' < малайск. *tambaga* (*tĕmbaga*) 'медзь' < ст.-інд. *tāmrakaḥ* 'тс' (ЕСУМ, 5, 595; Фасмер, 4, 76; Голуб–Ліер, 484; Махэк$_2$, 647).

**Тампáмка** 'паліца' (Мат. Гом.). Няясна; выглядае як штучнае слова або моцна дэфармаванае запазычанне.

**Тампóн** 'стэрылізаваны кавалачак ваты або марлі' (ТСБМ). Запазычана праз рус. *тампóн*, польск. *tampon*, з франц. *tampon* 'корак, затычка; тампон'; яно з'яўляецца назалізаванай формай слова *tapon* 'жмут адзення, бялізны', якое, у сваю чаргу, уяўляе сабой утварэнне з суфіксам *-on* ад франк. *tappo, што роднаснае ст.-в.-ням. *zapho* 'затычка', ням. *Zapfen* 'тс', ст.-англ. *tæppa* і англ. *tap* 'тс' (ЕСУМ, 5, 513; Голуб–Ліер, 477).

**Тамсáма** 'ў тым жа месцы' (Варл.). Спалучэнне *там* з *сам*, *самы*, гл.

**Там-ся́м,** *там і сям* 'дзе-нідзе, зрэдку' (ТСБМ), *там-сям* 'у іншых мясцінах' (Варл., Арх. Вяр.), *там і сям* 'у розных месцах' (Вруб.). Спалучэнне *там* і *сям* (гл.), параўн. *сям-там* 'дзе-нідзе' з адваротным парадкам элементаў.

**Тамтáм** 'ударны музычны інструмент, разнавіднасць гонга' (ТСБМ). З франц. *tam-tam* 'тамтам' (праз рускае або польскае пасрэдніцтва) < хіндзі *ṭamṭam* 'барабан', якое з'яўляецца гукапераймальным утварэннем (ЕСУМ, 5, 513; Голуб–Ліер, 477; Фасмер, 4, 18).

**Тамтóй** 'той' (Сцяшк. Сл., Вруб.; беласт., Сл. ПЗБ), *там-той* 'вунь той' (Байк. і Некр.), *тáмты* 'той, той там, той вунь там': *тáмты хлапéц* (Ласт.), *тамтóй*: *в тамтóму рóці, в тамтóму годý* 'летась' (пін., ЛА, 2), *тамтóје* 'тое' (Вруб.): *тáмтая лéта* 'летась' (астрав., ЛА, 2), *тáм-тэй* 'вунь той' (Нас.), ст.-бел. *тамтый* 'той' (Ст.-бел. лексікон), фіксуецца ў старабеларускай



мове з канца XV ст. (КГС); сюды ж вытворнае *тамтэ́йшы* 'немясцовы, нетутэйшы' (Ласт.). Калька са ст.-польск. *tamten*, дзе *tam* 'там' і *ten* 'той', гл. *там* і *той*. Карскі (2–3, 91) адносіць сюды і іншыя ўтварэнні з пачатковым элементам *там*: ст.-бел. *тамтотъ*, *тамтого*, складанае прыслоўе *тамто* і інш., што ўзніклі пад польскім уплывам (гл. *то*). Параўн. ЕСУМ, 5, 513.

**Тамý** 'па гэтай прычыне, вось чаму', 'з гэтай (такой) мэтай' (ТСБМ, Байк. і Некр., Ласт.), 'з той прычыны' (Бяльк.), *том* 'тс' (гродз., Рам. Мат. Гр. 1). Укр. *томý*, рус. *потомý*, ст.-польск. *temu*. З прасл. *tomu – адвербіялізаванай формы Д. скл. (т. зв. давальны прычыны і мэты) указальнага займенніка *tъ 'той'. Параўн. адвербіялізаваную форму М. скл. *po tomь, гл. *пóтым* (ESSJ SG, 2, 683; ЕСУМ, 5, 596). Скарочаная форма, паводле Карскага (2–3, 420), пад уплывам *чом*, гл.

**Тан** 'танцы, скокі' (Сцяшк.), 'танец' (Ласт.). З польск. *tan* 'танец', другаснага ўтварэння ад ст.-польск. *taniec* (гл. *тáнец*), паводле народнай этымалогіі ўспрынятага як суфіксальнае ўтварэнне з суф. *-ec* (Брукнер, 565; Длугаш-Курчабова, 495). Параўн. *танок*, гл.

**Тананá** 'гурт, натоўп, чарада' (Растарг.). Цёмнае слова. Магчыма, гукапераймальнае ўтварэнне, параўн. укр. *тананá* 'выгук здзіўлення', рус. дыял. *танáкать*, *тананы́кать* 'прыпяваць', польск. *tana* 'прыпеў у песні', балг. *тананúкам*, макед. *тананúка* 'прыпяваць, спяваць сабе пад нос', параўн. *талалой* 'шум, гам' і *талалойства* 'зборышча, натоўп', гл. Параўн. ЕСУМ, 5, 513.

**Танáць** 'тануць' (кіраў., Нар. сл.; карэліц., Нар. словатв.). Абстрагаванае ад шматкратнага *патанáць* 'тс' (ТСБМ). Гл. *тануць*.

**Тáнбурка** 'кручок' (Сл. ПЗБ), *тáнбарка* 'кручок для вязання' (Бяльк.). Гл. *тамбур*$_2$.

**Тáнга**$_1$ 'парны бальны танец' (ТСБМ). Запазычана з заходнееўрапейскіх моў, дзе з аргентынскага ісп. *tango* 'тс', магчыма, гукапераймальнага паходжання (Сной$_2$, 750).

**Тáнга**$_2$ 'танк' (Сл. ПЗБ), *тáнга, тáнка* 'тс' (Сцяшк. Сл.). Гл. *танк*. Фанетычныя і марфалагічныя змены (ж. р.), відаць, з-за нехарактэрнай для беларускай народнай мовы фіналі *-нк*.

**Тандэ́м** 'размяшчэнне адно за другім', 'двухмесны веласіпед' (ТСБМ). Праз польск. *tandem* 'двухколавы вазок, запрэжаны цугам, адзін за адным, коньмі', 'веласіпед з двума сядзеннямі',

з англ. *tandem* ‘размяшчэнне гужам, адно за адным; веласіпед для дзвюх асоб, якія сядзяць адна за адной’ < лац. *tandem* < **tamdem* ‘урэшце, урэшце рэшт’, што трансфармавалася ў значэнне ‘ў даўжыню’, ‘у працяг’, г. зн. ‘адзін за адным’ (Сной₂, 750).

**Тандэ́т** ‘дрэнная танная рэч; нізкаякасны выраб’ (ТСБМ, Варл.), ‘дзяшоўка; таўкучка’ (Байк. і Некр.), ‘месца гандлю старымі, ужыванымі рэчамі’ (Жд. 3), ‘таўкучка, дзе ўсё можна купіць танна’ (Нас.), *на тандэ́т* ‘абы-як’ (Сл. ПЗБ), *на тандэ́та* ‘на скорую руку, абы-як’ (ТС), *тандэ́тны* ‘танны, лубочны’ (Байк. і Некр.), ‘танны, нетрывалы, зроблены не на заказ’ (Касп., Стан.), ‘нястала, похапкам зроблены, танны’ (Нас.), ст.-бел. *тандéта* ‘базар, таўкучка’ (XVI ст., КГС). Праз польск. *tandet, tandeta* ‘няякасны тавар, рыззё, халтура; барахолка’ або непасрэдна з мовы ідыш – з *tandet* ‘тс’, *tandetne(r)* ‘халтурны’ (Шульман, Полымя, 1926, 8, 213), параўн. *nejen af tandet* ‘хутка і кепска (шыць)’ (Астравух, Ідыш-бел. сл. 789), што звязана з ням. *Tändelmarkt* ‘таўкучка’, якое ад *Tand* ‘дробязь, драбяза’; фіналь *-eta* на польскай глебе па аналогіі з *wendeta* ‘таўкучка’ (Брукнер, 565). Не выключана паходжанне тэрміна з раманскіх моў, параўн. ісп. *tanto* ‘пакупная цана; грошы для гульні’, што ўзыходзіць да лац. *tantym* ‘столькі, такая колькасць’, гл. Фасмер, 4, 18; ЕСУМ, 5, 514.

**Тане́й** ‘танней’ (Байк. і Некр., Сл. ПЗБ; Нас.), *тане́йшы* ‘таннейшы, больш танны’ (Байк. і Некр., Сл. ПЗБ). Гл. *танны*.

**Та́нец** ‘рытмічныя рухі пад музыку, скокі’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Федар. 4, Сл. ПЗБ), *та́нэць* ‘тс’ (драг., Сл. ПЗБ, Вруб.), *под той танец* ‘у той час’ (Ян.), ст.-бел. *танець* ‘скокі’ (Альтбаўэр; 1518 г., КГС). Праз польск. *taniec* (да XVI ст. *tańc*) або непасрэдна з ням. *Tanz* ‘танец’, *tanzen* ‘танчыць’ < ст.-франц. *dancier* ‘тс’ (> франц. *danser* ‘тс’) < франк. **dansôn* ‘цягнуць; выцягвацца; станавіцца ў лінію’. Другаснае ўключэнне запазычання ў групу назоўнікаў, утвораных з суф. *-ьсь*, магло адбыцца ў славянскіх мовах незалежна (Басай-Сяткоўскі, Słownik, 390). Гл. Борысь, 626; Фасмер, 4, 18–19.

**Та́нець** ‘дзешавець’ (Нас.), *тане́ць* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *танне́ць* ‘тс’ (ТСБМ), *таніе́ті* ‘тс’ (Вруб.; беласт., Сл. ПЗБ), *та́ннець* ‘тс’ (Ласт.). Гл. *танны*; перанос націску, магчыма, пад уплывам *дзешаве́ць* (гл. *дзёшава*). Параўн. *та́ніць*, гл.



**Таніна́** ‘танчыня’ (Ян.), ‘тонкасць’ (Бяльк.), ‘тонкая галінка’ (мёрск., ЛА, 1), *таніня́* ‘тонкасць, танклявасць’ (Варл., Барад.). Параўн. укр. *тонина́* ‘тс’. Дублетныя адпрыметнікавыя ўтварэнні ад *тонкі* (гл.) як вынік канкурэнцыі блізкіх па семантыцы суф. *-ін-а* і *-ін-я*, праціпастаўленых на частцы моўнай тэрыторыі; апошні мае пераважна паўночную арыентацыю, што, паводле Сцяцко (Афікс. наз., 138), звязана з націскам на аснове, параўн. *танкі́* ‘тонкі’ (вільн., паст., мядз., Сл. ПЗБ). Станкевіч (Язык, 634) беспадстаўна меркаваў, што мае месца семантычная дыферэнцыяцыя *таніна* (ад *танны*, гл.) і *таніня* (ад *тонкі*, гл.). Пра пашырэнне суф. *-ін-я* ў літаратурнай мове гл. Пацюпа ў Станкевіч, Язык, 1169–1170.

**Та́ніць** ‘прадаваць танней за належнае’ (Байк. і Некр.), *таніць* ‘паніжаць цану’ (Сцяшк.), ‘збіваць кошт, цаніць затанна’ (Нас.), *та́ніцца* ‘танна аддаваць пры пакупцы’ (Нас.). Гл. *танны*.

**Танк** ‘баявая бронемашына’, ‘цыстэрна для транспарціроўкі і захоўвання вадкасцей’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), ‘баявая бронемашына’ (Некр. і Байк., Вруб.), *та́нка* ‘тс’ (Янк. 2, Сцяшк. Сл., Мат. Маг.). У славянскія мовы (як і ў заходнееўрапейскія: франц. *tank*, ням. *Tank* паралельна з *Panzer* і інш.) – з англ. *tank* ‘вадаём; цыстэрна, бак, чан’, а ў канцы 1916 г. – ‘танк’; спецыялізацыя значэння звязана са знешнім падабенствам. Англ. *tank* у першасным значэнні звязваюць з с.-англ. *stanc* ‘басейн, сажалка’ (Фасмер, 4, 19) або парт. *tanque* ‘рэзервуар; вадаём; затока’, якое этымалагічна звязана са ст.-франц. *estanc*, франц. *étang* ‘затока’, лац. *stagnum* ‘балота; затока; вада, што выйшла з берагоў; лужына; штучная затока; басейн’ (Черных, 2, 228). Менш пераконваюць меркаванні, што англ. *tank* ‘баявая машына’ паходзіць ад прозвішча вынаходніка *Танка* (Фасмер, 4, 19).

**Та́нка** ‘вершаліна дрэва’ (Сл. ПЗБ). Магчыма, да *тонкі*, гл.

**Танка́ль** ‘танканогі высокі чалавек’ (стаўб., Нар. сл.). Гл. *танклявы*.

**Танкано́г** ‘від травы (расце на балотах)’ (Ян.), *тонконо́г* ‘травяністая расліна з высокім цвёрдым сцяблом і вузкім лісцем’ (ТС), ‘расліна Koeleria Pers.’ (Кіс.), ‘асака’ (лоеў., Расл. св.). Параўн. укр. *тонконі́г* ‘расліна Koeleria cristata Pers.’, рус. *тонконо́г* ‘расліна Koeleria Pers.’. Паводле знешняга выгляду, гл. *тонкі* і *нага* ў значэнні ‘сцябло’.

**Танкано́жка**$_1$ ‘смаржок звычайны’ (бераст., ЛА, 1), ‘смаржок стажкаваты’ (бераст., ЛА, 1), ‘апенька несапраўдная’ (іван., Расл. св.), *танкано́жкі* ‘смаржкі’ (бераст., Расл. св.). Гл. папярэдняе слова, параўн. *сухано́жкі* ‘апенькі несапраўдныя’ (Скарбы).

**Танкано́жка**$_2$ ‘сараканожка’ (смарг. Жыв. св.; петрык., ЛА, 1). Аналагічна да папярэдніх слоў (гл.), параўн. *станога, станог*, гл.

***Танкапра́лля**, *тонкопральля* ‘мастачка прасці’ (Нар. Гом.), *тонкапря́ха* ‘тс’ (віц., ЛА, 3), *ťонкопра́духа* ‘танкапраля’ (Уладз.). З *тонкі* і *пралля*$_1$, *прадуха*$_2$, гл.

**Та́нкер** ‘судна для перавозкі вадкіх грузаў’ (ТСБМ, БРС). Праз рус. *та́нкер* з англ. *tanker* ‘налiўное судна’ ад *tank* ‘рэзервуар, цыстэрна’ (гл. *танк*).

**Танке́ткі** лёгкі жаночы абутак, басаножкі’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл.), *танке́тка* ‘суцэльная падэшва, якая патаўшчаецца ад наска да пяткі’ (ТСБМ). Вобразнае збліжэнне з *танке́тка* ‘лёгкая баявая гусенічная бронемашына’ (ТСБМ), памянш. ад *танк* (гл.).

**Танкі́** ‘тонкі’ (Сл. ПЗБ). Гл. *то́нкі*.

**Танкля́вы** ‘не зусім тонкі, танкаваты’ (ТСБМ), ‘танкаваты, стройны’ (Варл.). Ад *тонкі* (гл.) аналагічна да *сухарлявы, хударлявы*, гл. У якасці словаўтваральнай базы можна разглядаць назоўнік *танка́ль* ‘танканогі высокі чалавек’ (Нар. сл.) або незафіксаванае **танкля* ‘тс’; адносна суф. *-аль* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 94; Саевіч, Derywacja, 382.

**Та́нны** ‘дзяшовы, недарагі’, ‘малакаштоўны, пусты’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Ласт., Некр. і Байк., Касп., Сл. ПЗБ; зах.-бел., ЛА, 3), *та́нна* ‘дзёшава’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп.), *та́нно* ‘тс’ (Федар. 4, Сл. ПЗБ), *та́на* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *та́нні* ‘дзяшовы’ (Сл. ПЗБ), *та́ны* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *та́нный* ‘тс’ (Бяльк.), сюды ж *танне́й* ‘дзешавей’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *тане́й* ‘тс’ (Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *та́нняй* ‘тс’ (паст., вільн., Сл. ПЗБ), *тане́йшы*, *та́ньшы* ‘тс’ (Байк. і Некр.), ст.-бел. *таний* (1637 г.), *тане* (1616 г.), *таней*, *танший* (КГС). Геаграфія і гісторыя ўжывання слова сведчаць пра запазычанне з польск. *tani*, дыял. *tanny* ‘тс’, якое разглядаецца як граматычны гіперызм, што ўзыходзіць да прасл. **tunjь* ‘танны’, гл. Фасмер, 4, 19; спецыяльна: Борысь, Etymologie, 471–474; Шустар-Шэўц, Зб. Бернштэйну, 474–480; Этимология – 1967, 74 (збліжае польск. *tani* з **tъnъk* ‘тонкі’). Параўн. *тунны*, гл.



**Тано́га** ‘смутак, трывога’: *танога на сэрцы* (Мат. Гом.), *тано́жыць* ‘таміць, стамляць’ (Ян.). Параўн. укр. палес. *тоно́жит* ‘мучыць’. Няясна.

**Тано́к** ‘карагод’ (Бяльк., Ян., Растарг., Арх. Вяр.), ‘хаджэнне шырокімі радамі жанчын, якія ўзяліся за рукі’ (у час “ваджэння стралы”) (Земляроб. каляндар), ‘карагод, танец’ (чашн., Нар. сл.), ‘танец’ (Ласт.), памянш. *тано́чак (таночекъ)* ‘тс’ (часцей у песнях) (Нас.), мн. л. *танкі* ‘скокі’ (Сержп. Прымхі), *тано́к вадзі́ць* ‘харавод вадзіць’ (Нар. Гом.), *танка вадзіці* ‘тс’ (гом., Д.-Хадак.). Да *тан* (гл.) пад уплывам польск. дыял. *tanek* ‘танец’ (Фасмер, 4, 19), гл. *та́нец*.

**Танта́цыя** *(тантáцiя)* ‘цяга, прыхільнасць’: *Янук мае тантацыю да маей Анэткі* (Ласт.). Відаць, мясцовае ўтварэнне на базе польск. *tantonić się* ‘палаць’, магчыма, звязанага з польск. *tantny* ‘які многа можа, здолее; ганарысты, непакорны’, што з лац. *tantus* ‘такі вялікі’ (Брукнер, 565). Параўн. таксама чэш. *tantovat* ‘льсцівымі словамі прываблiваць’ ад ст.-чэш. *tant* ‘балбатня; драбніца’ з ням. *Tand* ‘пустая балбатня, жарты’ (Махэк$_2$, 636).

**Та́нуць** ‘раставаць’: *снежок до вечэра тане* (ТС). Параўн. укр. *та́нути* ‘таяць’. Дзеяслоў з *-ну-* ад *таць* ‘таяць’, гл. Параўн. *таяць*, гл.

**Тану́ць** ‘гінуць, паміраць, ідучы на дно; тапіцца’, ‘вязнуць’ (ТСБМ), ‘заліванцца вадой’ (Некр. і Байк., Шат., Бяльк., Сержп. Прымхі, Федар. 4, Сл. ПЗБ, ТС), *тана́ць* ‘тануць’ (карэліц., Нар. словатв.; кіраў., Нар. сл.), *то́пнуць*, *то́нуць* ‘тс’ (Ласт.), *тону́ті* ‘тс’ (Вруб.), ст.-бел. *тонути*, *танути* ‘тс’ (канец XV ст., КГС). Укр. *тону́ти* ‘тс’, рус. *тону́ть* ‘тс’, польск. *tonąć* ‘тс’, н.-луж. *toniś*, чэш. *tonouti* ‘тс’, славац. *tonút’* ‘тс’, славен. *toniti* ‘тс’, серб.-харв. *то̀нути* ‘тс’, балг. *тъ́на* ‘патанаць’, дыял. *то́на*, макед. *тоне* ‘тс’. З прасл. **tonǫti* < **topnǫti* ‘тануць’, звязанага з **topiti* ‘тапіць’ (Фасмер, 4, 77; Брукнер, 573; Махэк$_2$, 647; Голуб–Ліер, 367; Шустар-Шэўц, 1516; ЕСУМ, 5, 597; Борысь, 637; Рачава, Этимология–2003–2005, 186). Гл. *тапі́ць*$_1$.

**Танцава́ць** ‘выконваць танец; танчыць’, ‘скакаць’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Бяльк., Федар. 4, Сержп. Прык., Сл. ПЗБ), *танцова́ць* ‘тс’ (ТС), *танцэва́ць* ‘тс’ (брасл., Сл. ПЗБ), *танцёва́ті* ‘тс’ (беласт., Сл. ПЗБ; Вруб.), ст.-бел. *танцова́ти*, *танцева́ти* ‘танцаваць’ (1518 г., КГС); сюды ж *танцо́р* ‘мужчына, які ўмее

добра танцаваць' (Ласт., Арх. Вяр., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *та́нцар* 'тс' (Федар. 4), *танцо́рка* 'дзяўчына, жанчына, што добра танцуе' (Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *танцэ́рка* 'тс' (Федар. 4), *танцёрка* 'тс' (Сл. ПЗБ), *танцые́рка* 'тс' (Сцяшк. Сл.). Запазычанні з польскай мовы, гл. старое *tańcować* 'танцаваць' (суч. *tanczyć*, гл. *танчыць*), *tancerka*, *tancerz* 'хто добра танцуе', у апошнім адбылася замена суф. *-erz* на *-or (-ор)*, магчыма, яшчэ на частцы польскамоўнай тэрыторыі, параўн. польск. мазав. *tancor* 'тс', адносна чаго Смулкова, Бел.-польск. ізал., 116. Падрабязней пра польскія формы гл. Борысь, 626; Длугаш-Курчабова, 495; запазычанне ў рускую – Фасмер, 4, 19; Віткоўскі, Słownik, 184.

**Танцо́ўка**$_1$ 'танцорка' (Нас., Байк. і Некр.). Утворана ад *танцаваць* (гл.) па тыпу польск. *tańcownica*, *tańcowniczka* 'тс' у пары з *tańcownik* 'танцор'. Ст.-бел. *танцо́вница*, *тане́чница* 'танцорка' (пач. XVI ст., КГС) з'яўляюцца непасрэднымі запазычаннямі, параўн. яшчэ польск. *taneczniса* 'танцорка'.

**Танцо́ўка**$_2$ 'апенька лугавая, жывунец падарожны' (ваўк., Расл. св., Сярж.-Яшк.). Відаць, да папярэдняга слова, што звязана з размяшчэннем ("утварае карагод") або са знешнім выглядам (іншая назва *сухано́жка*, мае часам выгнутую ножку).

**Танцу́шка** 'апенька лугавая' (ваўк., Расл. св.), *танцу́шкі* 'неспажыўныя грыбы' (Сцяшк.). Аналагічна да папярэдняга, параўн. *танцу́ха* 'танцорка' (ТС).

**Танцюры́стка** 'танцорка' (Мат. Гом.), *танцюрі́ст* 'танцор' (кам., ЖНС). Параўн. укр. *танцюристка*, *танцюри́ст* 'хто добра танцуе', што паводле ЕСУМ (5, 516), вытворныя ад *танцю́ра* 'тс', адкуль і назва грыбоў *танцю́рка* 'мухамор', што адлюстроўвае іх знешні выгляд (на доўгай тонкай ножцы), параўн. папярэднія словы, гл. Арэальныя ўтварэнні, звязаныя з украінскай мовай, паколькі для беларускай мовы ўтварэнні на *-ура (-юра)* і *-іст (-ыст)* для характарыстыкі асоб нехарактэрны, параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 70; Саевіч, Derywacja, 401, 409.

**Танчо́вы** 'шматкаляровы, колеру вясёлкі' (шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. *tęczowy* 'вясёлкавы' < *tęcza* 'вясёлка'.

**Та́нчык** 'танец' (Ян.), *та́ньчык* 'танец, скокавыя спевы' (Байк. і Некр.). З польск. *tańczyk* 'невялікі музычны твор' (з XVII ст.) або самастойнае ўтварэнне ад *танчыць*, гл.

**Та́нчыць** 'танцаваць' (астрав., Нар. словатв.; Гіл., Жд. 3, Сл. ПЗБ), 'танцаваць, скакаць' (Сцяшк.), 'танцаваць; заляцацца' (Нас.),



*та́нчыць (та́ньчыць)* 'танцаваць у кругу, у карагодзе' (Нар. Гом.), *та́ньчыць* 'танцаваць' (Байк. і Некр.), сюды ж *та́ньчык* 'танец, песня да танцаў' (Байк. і Некр.), *та́нчыцца* 'важдацца, займацца' (Нас.), *та́ньчыцца* 'цешыцца, вазіцца' (Байк. і Некр.). З польскай мовы, дзе *tańczyć* 'танцаваць' (з XVI ст.), звязанае з *taniec* 'танец' (Брукнер, 565; Борысь, 626; Длугаш-Курчабова, 495). Параўн. *танцаваць*, *танец*, гл.

**Таня́** 'месца, дзе можна закінуць невад; адна закідка невада' (полац, З нар. сл.). Гл. *то́ня*.

**Танянё́х** 'выгук пры няньчанні дзіцяці' (Нас., Касп.); *танянёха* 'дзіця, якое любіць, каб яго песцілі', *танянёхаць* 'песціць, няньчыць', *танянёшыць* 'тс' (Нас.), *танянёхацца* 'непамерна песціць' (полац., Нар. лекс.), *танянёшыцца* 'нянькацца, вазіцца' (Нас.). Гукапераймальнае, параўн. укр. *танана́* 'выгук здзіўлення', балг. *танани́кам* 'падспеўваць', макед. *тананика* 'тс' і пад.

**Тапа́з** 'від каштоўных камянёў' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз польск. *topaz* 'тс' або рус. *топа́з* (з польскай, гл. Віткоўскі, Słownik, 186) з франц. *topaze* і с.-лац. *topazus*, што, у сваю чаргу, з грэч. τόπαζος (с.-грэч. τοπάζιον), якое паходзіць ад назвы вострава *Topazus* у Чырвоным моры, дзе, магчыма, упершыню знойдзены гэты камень (Фасмер, 4, 77–78; ЕСУМ, 5, 598; Голуб–Ліер, 484).

**Тапарашчы́ць** 'вырачаць', *тапара́шчыцца* 'выпучваць вочы', 'тырчаць', 'упірацца' (віл., Стан.). Магчыма, кантамінацыя *таporшчыць* (гл.) і *тарашчыць*, гл.

**Тапаркі́** 'расліна, якая расце ў жыце і мае сінія кветкі ў выглядзе сякеркі' (Нас.), 'пустазелле ў жыце' (Байк. і Некр.), 'рагулькі' (Кіс.). Названа па знешняму выгляду кветак, параўн. укр. *топі́рчики* 'браткі', рус. *топо́рник* 'вязель', да *тапор*, гл.

**Тапарня́к** 'танкаствольны лес, які высякалі сякерай' (астрав., баран., Сл. ПЗБ). Гл. *тапорнік*.

**Тапаро́вы** 'староста арцелі лесарубаў' (беласт., Ніва, 1973, 11 лістап.). Утворана ад *тапор* (гл.) па мадэлі, характэрнай для польск. *szeregowy* 'радавы' і пад.

**Тапары́ска** 'тапарышча' (Шатал., Сл. ПЗБ), *тапары́ско* 'тс' (Скарбы, Сцяшк., Шатал., Сл. ПЗБ), *топоры́ско* 'тс' (Шатал., Сл. Брэс., Сл. ПЗБ), *toporýšče/toporýsko* 'тс' (Арх. Вяр.). Гл. наступнае слова.

**Тапары́шча** ‘дзяржанне сякеры’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сцяшк., Стан.), *тапары́шчо, тапары́шчэ* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *топо́рышчэ* ‘тс’ (Вруб.), *топоры́шчэ* ‘тс’ (ТС, Горбач, Зах.-пол. гов.), ст.-бел. *топорище* ‘тс’, ‘адзінка вымярэння даўжыні ў цесляроў’ (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *топори́ще* ‘тс’, рус. *топори́ще* ‘тс’, в.-луж., н.-луж. *toporišćo* ‘дзяржанне, ручка (напр., сякеры)’, харв. *toporišće* ‘дзяржанне сякеры’, дыял. *toporišče* ‘чаранок матыкі’, славен. *toporišče* ‘тс’, таксама дыял. ‘чаранок лапаты’, ‘ручка цэпа, цапільна’, балг. *топори́шка* ‘дзяржанне сякеры’, дыял. *топори́ште* ‘дзяржанне вялікага молата, якім збіваюць сукно ў валюшы (сукнавальні)’. На значнай частцы моўнай тэрыторыі ўжываецца паралельна з *тапарыска* (гл.), якое мае адпаведнік у польск. *toporzysko* ‘дзяржанне сякеры’, чэш. *topořisko* ‘тс’, славац. *toporisko* ‘тс’, што несумненна ўяўляе пазнейшую інавацыю ў славянскіх мовах. Шустар-Шэўц (1518) рэканструюе дзве праславянскія формы **toporišče* і **toporisko*, вытворныя ад **toporъ* (гл. *тапор*). На беларускай і ўкраінскай тэрыторыі формы *тапары́ска* і *топари́сько* ‘дзяржанне сякеры’ з’яўляюцца пранікненнямі з польскай мовы, падтрыманымі экспансіяй суф. *-isko*.

**Тапарэ́ц** ‘харыус’ (гродз., Жукаў). Параўн. польск. *toporek* ‘тс’. Падаецца яшчэ *топо́р* ‘тс’, польск. *topór* ‘тс’, які атрымаў назву з-за таго, што пячонка гэтай рыбы мае форму сякеры, гл. Усачова, Слав. ихт. терм., 156. Гл. таксама Брукнер, 573.

**Та́паць** ‘лапаць’, ‘сандаля’ (Яўс.). Гл. *тапці*.

***Тапа́ч**, *топа́ч* ‘той, які тоне’: *е дуб топач* (ТС). Рэдкае ўтварэнне з суф. *-ач* (прыдае значэнне выніку дзеяння, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 32) ад *тапіць*$_1$, параўн. *топля́к* ‘патанулая калода’, *то́пленікі* ‘затанулыя ў вадзе лесаматэрыялы’ (ТС).

**Та́пачкі** ‘лёгкі хатні або спартыўны абутак’ (ТСБМ), *та́почкі* (Арх. Вяр., Вруб.). Запазычана з рус. *та́почки* ‘тс’, параўн. *тапці*, гл.

**Тапе́лец** ‘чалавек, які ўтапіўся або топіцца’ (ТСБМ). Запазычана літаратурным шляхам (Купала) з польск. *topielec* ‘тс’, ‘істота, што жыве ў вадзе і зацягвае туды грэшнікаў; вадзянік’, што ад *topiel* ‘глыбокае месца ў рацэ, у возеры, топкае балота’. Гл. наступныя словы.

**Тапе́ль** ‘топкае балота’ (в.-дзв., ЛА, 2), ‘балота, якое зарасло густым хмызняком’ (в.-дзв., ЛА, 5), ‘багна, твань’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *то́пель* ‘глыбокае месца’, *топі́ль* ‘вір’, рус. *то́пель, то́пиль* ‘грузкае балоцістае месца’, польск. *topiel* ‘вір; багна’, ст.-польск. ‘разліў, возера; багна, небяспечная глыбіня’, каш. *topél* ‘топкае балота, багна, твань’ і, магчыма, палаб. *tüöpéina* ‘балоцістая мясцовасць’. Вытворныя ад *тапіць*$_1$ або ад *то́пкі* ‘балоцісты, гразкі’, што характэрна для рэгіянальнага словаўтварэння, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 98; сюды ж са складаным суф. *-ельня* *топе́льня* ‘гразкае месца’ (ТС). Адносна польскіх слоў гл. Борысь, 638. Талстой (Геогр., 170) мяркуе пра зыходнае **top-*, параўн. рус. *топь*, гл. *топ*.



**Тапе́льнік** ‘тапелец’ (Гарэц., Байк. і Некр.). Гл. *то́пленік* ‘тс’.

**Тапе́р** ‘цяпер’, *тапе́ра* ‘тс’, *тапе́ря* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *тапе́рамо, тапэ́р* ‘тс’ (пруж., Сл. ПЗБ), *тапе́рачка* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *тапе́рыка, тапе́рыцька, тапе́рыча, тапе́рычка, тапе́рычкі, тапе́рь, тапе́ря* ‘тс’ (Растарг.), *топі́ро* ‘цяпер, зараз’ (драг., Нар. словатв.), *топы́ро* ‘тс’ (кам., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. дыял. *топі́ро, тупі́р, топі́рики* ‘тс’, рус. дыял. *тополе́ре*, *топе́рво* ‘тс’, польск. *dopiero* ‘толькі што’, макед. *допрва* ‘толькі цяпер; надалей’, ст.-слав. **топръво** ‘ўпершыню цяпер, зараз’. Прасл. **topьr̥vo* < **to pьr̥vo* ‘гэта ўпершыню’ з **to* (гл. *тое*) і **pьr̥vъ* (гл. *першы*) (Фасмер, 4, 43–44; Слаўскі, 1, 156; Борысь, 119; ЕСУМ, 5, 600).

**Тапе́шка** ‘тоўстая жанчына’ (Бяльк.). Няясна, параўн. рус. *тапе́шка* ‘ляпёшка’, якое Фасмер (4, 19) выводзіць з **топежка* (< **топи́ть*, відаць, са значэннем ‘растапляць, раствараць’, гл. *тапіць*$_2$); магчыма, з *таўпешка* ад *то́ўпіць* ‘набіваць, папаўняць’, гл.

**Тапі́ла**, *топі́ло* ‘невялікі вадаём, у якім летам вада не высыхае’ (лун., Шатал.), ‘невялікі прыродны вадаём’ (бабр., ЛА, 2), ‘багна’ (Мат. Гом.), ‘вадзяное месца на лузе’ (Мат. Маг.), ‘топкае месца на балоце; твань’ (бабр., рэч., ЛА, 5), ‘гразкае месца’ (ТС), ‘вадаём са стаячай вадой; ставок’ (рагач., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), ‘прорва’ (лун., ЛА, 5), *тапі́лы* ‘багна, твань’ (пруж., Сл. ПЗБ), *то́піла* ‘багна’ (рас., Шатал.). Параўн. укр. *топило* ‘лажбіна з вадой, куды сцякае вясенняя вада; карставы правал, дзірка, куды сцякае вада’. Адносна распаўсюджання, семантыкі і паходжання гл. Талстой, Геогр., 169, 243 (рэканструюе ўсх.-слав. **topilo*). Казлова (БЛ, 21, 63) параўноўвае з балг. дыял. *топи́ло* ‘сажалка ці месца ў рацэ, дзе мочаць каноплі’, макед. *топило* ‘тс’ і ўзводзіць усе формы да прасл. **topidlo*, звязанага з **topiti*, гл. *тапіць*$_1$.

**Тапіна́** ‘топкае месца на балоце’ (ветк., ЛА, 5), ‘топкае месца, твань’ (касцюк., ЛА, 5), ‘багна, твань’ (Байк. і Некр., Юрч. Вытв.), ‘топкае, гразкае месца, багна’ (Нас.). Параўн. рус. смал. *топина́* ‘гразь’, пск. *топи́на* ‘дрыгва’. Адносна распаўсюджання і семантыкі гл. Талстой, Геогр., 169. Да *тапіць*$_1$, гл.

**Тапіна́мбур** ‘сланечнік клубяносны, земляная груша, Helianthus tuberosus L.’ (ТСБМ, Кіс.). Праз рус. *топина́мбур* ‘тс’ з франц. *topinambour* ‘тс’ < парт. *topinambo*, якое з’яўляецца назвай індзейскага племені ў Паўднёвай Амерыцы (ЕСУМ, 5, 599; Голуб–Ліер, 484).

**Тапі́ць**$_1$ ‘апускаць у ваду, прымушаць тануць, губіць’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Ян., Бяльк., Федар. 4): *тапіць русалку* ‘(траецкі) звычай’ (Сержп. Прымхі), ‘навадняць, залівацъ вадой’ (Нас.), *топі́ць* ‘губіць у вадзе’, ‘затапляць, заліваць вадой’ (ТС), *тапі́цца* ‘гінуць у вадзе’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., Федар. 4), ‘ехаць па гразкай дарозе’ (Нас.), *топі́цца* ‘гінуць у вадзе’ (ТС), *топі́міс’е* ‘тс’ (Вруб.). Укр. *топи́ти* ‘прымушаць захлынуцца; заліваць (пра ваду)’, рус. *топи́ть* ‘прымушаць тануць’, польск., в.-луж. *topić* ‘засоўваць у ваду’, н.-луж. *topiś* ‘тс’, чэш. *topiti* ‘тс’, славац. *topit’* ‘тс’, славен. *topiti* ‘акунаць’, серб.-харв. *то̏пити* ‘затапляць’, макед. *топи* ‘засоўваць у ваду’, балг. *топя́* ‘тс’. З прасл. **topiti* ‘тапіць’, якое звязана з **topnǫti* ‘тануць’. Корань **top-* у гэтым значэнні Фасмер звязвае з аманімічнымі прасл. **top-* ‘награваць’ і **торь* ‘балота’, ‘месца, дзе растаў снег, лёд’ (Фасмер, 4, 78–79). Паводле Шустара-Шэўца (1504), схема развіцця семантыкі ‘награваць’ > ‘расплаўляць’ > ‘затапляць’ > ‘тапіць’. Паводле Борыся (638): ‘растапляць’ – ‘апускаць у растопленае’ – ‘пагружаць у ваду’. Праславянскі корань **top-* супастаўляюць таксама з прасл. **tep-* ‘біць’ > польск. *tepać* ‘тс’ (Брукнер, 573; Младэнаў, 636; Варбат, ОЛА, Исследов. 2003–2005, 220) з развіццём значэння ‘біць, прыбіваць’ – ‘трамбаваць’ – ‘тапіць’.

**Тапі́ць**$_2$ ‘награваючы, распускаць, расплаўляць; вытопліваць або пeратoпліваць (масла, сала і пад.)’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *топі́ць* ‘тс’ (ТС). Укр. *топи́ти* ‘расплаўляць’, рус. *топи́ть*, польск. *topić* ‘растопліваць, плавіць’, чэш. *topiti* ‘тс’, славац. *topit’* ‘растопліваць, плавіць’, славен. *topiti* ‘награваць, плавіць’, серб.-харв. *то̏пити* ‘растопліваць, плавіць’, макед. *топи* ‘тс’, балг. *топя́* ‘тс’. З прасл. **topiti* ‘награваючы, распускаць, расплаўляць’, паводле Борыся (638), каўзатыва ад незахаванага прасл. **tepti* ‘быць цёплым’, параўн. **teplъ* (гл. *цёплы*) і далей роднасныя ст.-інд. *tápati (tápyati)* ‘награвае і награвaецца, гарыць’, *tāpáyati* ‘спальвае’, авест. *tāpayeiti* ‘тс’, лат. *tepeo, -ēre* ‘быць цёплым’ да і.-е. **tep-* ‘быць цёплым’. Гл. таксама Фасмер, 4, 78; Брукнер, 62; Махэк$_2$, 647; Голуб–Ліер, 484; Глухак, 633; ЕСУМ, 5, 599.



**Тапі́ць**$_3$ ‘паліць (у печы і пад.)’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Барад., Пятк. 2, Жд. 1; усх.-бел., палес., ЛА, 4): *баню тапіць* (гом., Д.-Хадак.), ‘палячы дровы, ацяпляць’ (Сл. ПЗБ), *топі́ць* ‘паліць у печы’ (ТС), *топі́ті* ‘тс’ (Вруб.), *топі́ты*, *топи́ты* ‘паліць у печы’ (Сл. Брэс.), *тапі́цца* ‘ацяпляцца’ (Мат. Гом.), *топі́цца* ‘паліцца (пра печ)’ (ТС). Параўн. укр. *топи́ти* ‘падтрымліваць агонь’, рус. *топи́ть* ‘паліць (у печы і пад.)’, польск. дыял. *topić (w piecu)* ‘паліць (у печы)’, в.-луж. *tepić* ‘паліць, апальваць’, н.-луж. *topiś* ‘тс’, чэш. *topit* ‘тс’, славен. *topiti* ‘награваць’. Ад прасл. **topiti* з сінкрэтычным значэннем ‘награваць, абпальваць; плавіць’, з далейшымі роднаснымі сувязямі (гл. *тапіць*$_2$) да і.-е. **tep-* ‘быць цёплым’ (ЕСУМ, 5, 599; Фасмер, 4, 78; Брукнер, 62; Махэк$_2$, 647; Голуб–Ліер, 484). Няясныя адносіны з *тапіць*$_1$ тлумачаць развіццём семантыкі праз стадыю *тапіць*$_2$ (асабліва ў адносінах да снегу, лёду) і прыродных наступстваў гэтага працэсу (затапленне, паводка). Ластоўскі (Выбр. тв., 417) меркаваў пра табуізацыю слова *паліць* (параўн. *палаць* ‘гарэць буйным полымем’, гл.) шляхам замены яго словамі *тапіць* (“быццам кідаць агонь у ваду”) і *цепліць* (гл.) з мэтай пазбегнуць т. зв. слоўнай магіі (каб не запалілася хата), параўн. *мокнуць* у значэнні ‘гарэць’.

**Та́пкі** ‘пантофлі, лёгкія туфлі без абцасаў’, адз. л. *та́пка* (ТСБМ; карэліц., Дзіц. фальклор), адз. л. *та́пак: пакласці ў тапак, насіць у тапку* (мазыр., Нар. медыцына). Укр. *та́почки*, рус. *та́пки*. З рус. *та́пкі* ‘тс’, параўн. *тапачкі*, *тапці*, гл. Параўн. таксама серб.-харв. *то̏пук* ‘сялянскі абутак, пасталы’ (< тур. *topyk* ‘пята’, Скок, 3, 483).

**Тапкі́** ‘гразкі, багністы’ (віл., Сл. ПЗБ). Гл. *то́пкі*$_1$.

**Таплёвачкі** ‘пупышкі на таполі’ (Барад.). Відаць, да *топіль* ‘суквецце таполі’ (Расл. св.), ад *тапoля*, *топаль*, гл.

**Таплёнка** 'топленае малако' (Гіл.), 'кіпячонае малако' (бых., ЖНС; в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'парное малако' (Касп.). Семантычны дэрыват ад *таплёнае малако*, параўн. *таплёны* 'кіпячоны' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Гл. *тапі́ць*$_2$.

***Тапло́**, *топло́* 'гразкае месца' (ТС). Гл. *тапіла*.

**Та́пля**$_1$ 'пліта (кавалак шкла і пад.)' (карэліц., З нар. сл.). З польск. *tafla* 'тс' з заканамернай заменай *ф* на *п* у народнай мове, параўн. *фасо́ля/пасо́ля* і пад., польскае слова з ням. *Tafel* 'дошка, пліта, панель', што ўрэшце ўзыходзіць да лац. *tabula* 'тс' (Брукнер, 563; ЕСУМ, 5, 528).

**Та́пля**$_2$ 'чапля' (Мат. Гом.). Відаць, дэфармаванае *чапля* 'тс' (гл.), зблі́жанае да *тапі́ць* 'акунаць у ваду' (гл. *тапі́ць*$_1$).

**Тапля́к** 'бервяно, якое доўгі час праляжала пад вадой' (ТСБМ), 'дрэва, якое ляжала ў вадзе' (віц., Нар. сл.; барыс., Сл. ПЗБ), 'патанулае дрэва' (лельч., Расл. св.), *топля́к* 'патанулая калода' (ТС, ПСл). Ад *тапі́ць, тапі́цца*, гл. *тапі́ць*$_1$.

**Тапне́ць** 'змяншацца': *стог тапне́ў* (Сцяшк.), *тапне́е* 'растае' (воран., ЛА, 2). Дзеяслоў з польск. *topnieć* 'плавіцца, таяць', перан. 'змяншацца, убываць', роднасны да *тапі́ць*$_2$, гл.

**Тапо́ля** 'дрэва сямейства вярбовых, Populus L.' (ТСБМ, Некр. і Байк.; лях., Сл. ПЗБ; Кіс., Расл. св.), *тапо́ля* 'тс' (ТС), *тапо́ль* 'тс' (Ян., Кіс.; пруж., Сл. ПЗБ), *топ͡уоль* 'тс' (Вруб.), *то́паль* 'тс' (Сцяшк., Кіс.), *то́поль* 'тс' (ТС, Арх. Вяр.), *то́мпель* 'таполя' (свісл., ЛА, 1), *то́пель* 'тс' (Шат., Мат. Гом., Расл. св.), *то́піліна* 'тс' (віц., ЛА, 1; віц., Расл. св.), *топілы́на* 'тс' (дзярж., ЛА, 1), *то́піль* 'тс' (кобр., ЛА, 1, Касп., Расл. св.), *то́фель* 'тс' (лаг., Жд. 3), *то́філь* 'тс' (мёрск., ЛА, 1), *тофліна* 'тс' (Барад.), *то́пля* 'тс' (ганц., ЛА, 1; Расл. св., Сл. ПЗБ). Укр. *топо́ля*, рус. *то́поль*, польск. *topola*, н.-луж. і в.-луж. *topoł*, чэш. *topol*, славац. *topoľ*, славен. *topol*, серб.-харв. *то̀пола*, макед. *топола*, балг. *топо́ла*. Прасл. **topolъ*, **topolь*, а таксама **topoľa*, **topola*; ёсць меркаванне, што гэтае найменне запазычана ў праславянскую мову з лац. *pōpulus* (с.-лац. *papulus*) 'тс', пры гэтым адбылася міжскладовая дысіміляцыя *p:p > t:p*. Літ. *tapalas* 'тс' і алб. *tupli* 'тс' лічацца запазычаннямі са славянскіх моў. З лацінскай выводзяцца і заходнееўрапейскія назвы расліны, напр. дац., швед. *poppel*, іт. *pioppo*, франц. *peuplier*, ням. *Pappel*; старое літ. *tú̃ora* 'тс' мае роднасныя сувязі з лац. *pōpulus*, паходжанне якога застаецца цьмяным (Махэк$_2$, 647: "праеўрапейскае"). Глухак (634) мяркуе, што спалучэнні гукаў *p-p-l*, *t-p-l* перадаюць трапятанне лісцяў, таму ў аснове бачыць анаматапею. Не пераконвае спроба Шустара-Шэўца (1518) звязаць славянскія назвы з коранем **tep-*, **top-* (гл. *топаць, тэпаць*). Варыянтнасць гэтых назваў, у тым ліку і беларускіх, сведчыць пра запазычанасць. Гл. яшчэ Брукнер, 317; Фасмер, 4, 79; Борысь, 638; ЕСУМ, 5, 601. Спробай "каранёвай" этымалогіі з'яўляецца ўзвядзенне назвы да і.-е. **pel-* 'шэры' з-за з шэрага колеру кары таполі, тады на лацінскай глебе адбылося няпоўнае падваенне гэтага кораня (Покарны, 804); параўн. проціпастаўленую назву *таполя чорная* 'ясакар, Populus nigra L.' (Кіс.), вядомую і іншым славянскім мовам, у тым ліку старапольскай (Басай-Сяткоўскі, Słownik, 394), у гаворках у сцягнутай форме *тапо́ля* 'назва расліны Populus nigra' (Янк. 2).



**Тапо́р**$_1$ 'сякера', 'старадаўняя баявая зброя' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'сякера' (Касп., Сержп. Прымхі, Бяльк., Сл. ПЗБ; рагач., Рам. 3), 'сякера з шырокім лязом' (беласт., Ніва, 1973, 11 лістап.; ЛА, 2), 'сякера з крывым лязом, склюд' (Нік. Очерки; ЛА, 2), *топи́р* 'сякера калоць дровы' (Горбач, Зах.-пол. гов.). Укр. *то́пір* 'сякера з доўгім дзяржаннем, якая выкарыстоўвалася ў якасці зброі', рус. *топо́р* 'сякера', польск. *topór* 'тс', в.-луж. *toporo* 'тапарышча, дзяржанне сякеры', старое н.-луж. *topor* 'тс', чэш., славац. *topor*, старое славен. *tópor* 'дзяржанне сякеры', старое балг. *топо́р* 'баявая сякера'. З прасл. **toporъ* 'сякера', наконт якога няма агульнапрынятай этымалогіі. Звязваюць з прасл. **teti* (< **tepti*), **tepǫ* 'біць, высцінаць', адпаведна ст.-слав. **тєти, тєпѫ** (Фасмер, 4, 79; Чарных, 2, 250–251; Борысь, 638 і інш.); з укр. *тепо́рити* 'цягнуць з цяжкасцю', прасл. **top-*, гл. *то́паць, таптаць* (Шустар-Шэўц, 1518–1519), што малапераканальна. Іншыя лічаць старажытным запазычаннем з іранскіх моў і параўноўваюць са ст.-перс. **tapara-* 'баявая сякера з доўгім дзяржаннем', перс. *teber*, бялудж. *tapar* (адкуль арм. *tapar* 'тс'), курд. *tefer* (Трубачоў, Ремесл. терм., 152; Брукнер, 573; Махэк$_2$, 647; Голуб–Копечны, 387 і інш.). Паводле Мартынава (Балто-слав. иссл., 1980, 26), з іран. **tapara* < **tarata* 'тс', асец. *faeraet* 'тс' праз скіфскую ў славянскія мовы.

**Тапо́р**$_2$ 'поле; былая надзельная сялянская зямля' (мазыр., ГЧ). Няясна. Відавочна, нейкім чынам звязана з *тапо́р*$_1$ (гл.),

параўн. ст.-бел. *топорище* ‘адзінка вымярэння даўжыні ў цяслярскай справе’ (Ст.-бел. лексікон), якая выкарыстоўвалася таксама для вымярэння зямлі, параўн.: *по два сажни и по два топорища* (Скурат, Меры, 25–26). Гл. *тапарышча*.

**Тапóрнік** ‘падлесак, які можна сячы сякерай’ (Юрч. Фраз. 2), ‘дровы, для якіх піла не патрэбна, іх сякуць тапаром’ (Барад.; ст.-дар., Ск. нар. мовы), ‘дровы, падрыхтаваныя для паліва’ (пух., Сл. ПЗБ), ‘малады танкастволы лес, які высякаецца сякерай’ (шчуч., нясвіж., слаўг., Расл. св.), *тапарня́к* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Ад *тапóр*$_1$, гл.

**Тапóршчыць** ‘тапырыць’ (ТСБМ), ‘надуваць, крывіць (вусны, пысу)’ (Нас., Байк. і Некр.), ‘выпінаць, вылупляць’ (Ласт.), *тапóршчыцца* ‘надувацца, натапырвацца’ (Байк. і Некр.), ‘паміраць (з’едліва-жартаўлівае)’ (Нас.). Параўн. рус. *топóрщить* ‘выстаўляць, натапырваць’. Звязана з *тапырыць* (гл.), параўн. *тапарашчыць*, гл.

***Таптáйла**, *топтáйло* ‘той, хто ходзіць без мэты, без пэўных заняткаў’ (ТС). Ад *таптáць*$_1$ (гл.); паводле Сцяцко (Афікс. наз., 94), фармант *-айла (-айло)* мог быць вынікам перараскладання асновы цяп. ч. на карысць суф. *-л-а (-л-о)*.

**Таптáк** ‘прымітыўны рухавік’ (гродз., Нар. сл.). Гл. *тапчак*.

**Таптáркі** ‘грыбы’ (?): *таптаркі прама на поле выбягаюць* (Мат. Гом.), *тапчáнік* ‘падрашэтнік, Suillus piperatus (Fr.)’. Няясна, магчыма, з-за знешняга выгляду (з пляскатай шапачкай, як бы “растаптаныя”), да *таптаць*$_1$, гл.

**Таптáць**$_1$ ‘прымінаць нагамі, дратаваць’, ‘зношваць абутак’, ‘груба зневажаць, прыніжаць’, ‘наспех упіхваць, складваць’ (ТСБМ, Ласт.), ‘тупаць, мясіць’ (Некр. і Байк.), ‘уціскаць, ушчыльняць нагамі’, ‘драць абутак’ (Варл.), ‘утрамбоўваць, націскаць’, ‘выконваць хатнюю працу’ (Сл. ПЗБ), ‘есці ўсухамятку’ (Марц.), ‘есці’ (Сл. рэг. лекс.), ‘выціскаць мёд з сотаў’ (ст.-дар., ЛА, 1), ‘заганяць рыбу ў сетку, боўтаючы нагамі’ (полац., З нар. сл.), *топтáць* ‘утрамбоўваць, ушчыльняць’, экспр. ‘есці’ (ТС), ст.-бел. *топтати* ‘наступаць нагой’ (Сл. Скар.), ‘нацягваць, націскаць’ (Альтбаўэр). Укр. *топтáти*, рус. *топтáть*, польск. *deptać*, чэш. *deptati*, славац. *deptat’*, в.-луж. *teptać*, н.-луж. *teptaś*, славен. *teptáti* ‘наступаць нагамі’, балг. *тъптя́, тъ́пча* ‘тс’, ‘пічкаць, есці’, ст.-слав. **тъпътати** ‘ступаць, гнясці’. З прасл. **tъpъtati* ‘тс’, праз чарга-



ванне галосных звязана з **tupati* ‘тупаць’. Гукапераймальны дзеяслоў, паралельны да **topati* ‘топаць, тупаць’. Далей супастаўляюць са ст.-інд. *tupáti, tópati, túmpati, tumpáti* ‘раніць’, з грэч. τύπτω ‘б’ю, сяку’, лат. *staìpe* ‘сляды конскіх капытоў’ (Фасмер, 4, 80; Брукнер, 87; Махэк$_2$, 115; ЕСУМ, 5, 601).

**Таптáць**$_2$ ‘апладняць (пра птушак)’ (Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *таптáцца* ‘блуднічаць, тварыць пералюбы’ (Ласт.), сюды ж *топтýн* ‘певень’ (Мат. Маг.). Параўн. польск. дыял. *deptać* ‘тс’, каш. *deptać*, *dejptać* ‘апладняць (пра птушак)’. Эўфемізм, утвораны праз звужэнне або канкрэтызацыю значэння дзеяслова *таптáць*$_1$ (гл.).

**Таптóнікі** ‘бульбяная каша’ (брагін., Нар. словатв.). Гл. *топтанка*.

**Таптóрыць** ‘празмерна многа класці’, іран. ‘есці’, *таптóрыцца* ‘напіхвацца, накладвацца’ (Юрч. Вытв.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *таптáць*$_1$ (гл.), да словаўтварэння параўн. *бухцець* > *бухторыць*, гл.

**Таптуны́** ‘бліны’ (Барад.). Ад *таптáць* ‘размінаць (бульбу)’ (гл. *таптаць*$_1$).

**Таптýха**$_1$ ‘рыбалоўная снасць’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Шат., Сцяшк.), ‘венцер’ (барыс., глус., ЛА, 1), *топтýха* ‘тс’ (ТС, Крыв.; нараўл., З нар. сл.), *тóптух* ‘рыбацкая прылада’ (Дэмб. 2), сюды ж *таптýн* ‘тс’ (Касп., Нік. Очерки, Мат. Гом.; віц., Яшк. Мясц.), *тапчáнка* ‘рыбалоўная снасць, якую ўтоптваюць у гразь для лоўлі ўюноў’ (Нас.), *тапчáк* ‘від рыбалоўнай сеткі’ (ТСБМ). Ад *таптаць*$_1$, гл.

**Таптýха**$_2$ ‘тоўчаная вараная бульба, камы’ (Бяльк.), ‘бульбяная каша’ (Лекс. Бел. Палесся; ПСл, Мат. Гом.). Ад *таптáць*$_1$, гл.

**Таптýха**$_3$ ‘ступа’ (Бяльк.). Ад *таптáць*$_1$, гл.

**Тапý** выкл. ‘пра пачатак хадзьбы’, часцей падвойваецца *тапу-тапу*: *тапý-тапý і пайшоў* (Юрч. Вытв.), *шэранькая козачка тапу-тапу скоранька* (лаг., Дзіц. фальклор). Да *топаць*, гл.

**Тапýн** ‘наш нацыянальны танец’ (Варл.). Ад *топаць*, гл.

**Тапýрыць** ‘паднімаць, растапырваць пер’е і інш.’ (ашм., Стан.), *тапýрыцца* ‘выстаўляцца, фарсіць’ (Сцяшк. Сл.). Параўн. рус. дыял. *топóриться* ‘тс’, макед. *топори се* ‘задзірацца; выстаўляцца, задзіраць нос’, ‘тырчаць’. Відаць, таго ж паходжання, што і *тапырыць* (гл.), параўн. Фасмер, 4, 80.

**Тáпці** ‘лёгкі хатні абутак’ (ваўк., ЛА, 4), ‘тапкі’ (чэрв., Сл. ПЗБ), адз. л. *тáпаць* ‘лапаць; сандаля’ (Яўс.), *тóпці* ‘тапачкі’

(ТС), *тэ́пці* 'тапкі' (чэрв., Сл. ПЗБ). Відаць, утварэнне ад *тапкі* (гл.), зменена пад уплывам *лапці, топаць, тэпаць*, гл. Непразрыстыя адносіны да семантычна блізкіх польск. *kapcie* 'хатні абутак' (з XVI ст.), дыял. *papcie* 'тс', славац. *kapce* 'сукóнны абутак з халяўкамі' няяснага паходжання (Слаўскі, 2, 52).

**Тапчагí** 'нары' (Ласт.). Няясна; у сувязі з адзінкавай фіксацыяй, магчыма, аўтарскае ўтварэнне Ластоўскага на базе *тапчан* (гл.), мн. л. пад уплывам *нары*.

**Тапча́к** 'род коннага прывода', 'малатарня, што рухалася ад таптання валоў' (Варл.), 'крупадзёрка' (Мат. Гом.), *таптáк* 'прымітыўны рухавік для рэзання сечкі' (Скарбы), *топчаны́* 'прылада для памолу зерня, што прыводзіцца ў рух коньмі' (ПСл). Ад *таптáць*₁ (гл.), параўн. *таптальная малатарня* 'малатарня з драўляным колам, якое прыводзілася ў рух валамі ці коньмі, якія рухаліся на адным месцы' (вілен., віц., Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. Мінск, 1974, 69).

**Тапча́н** 'нізкі ложак з дошак на козлах', 'пакаёвая шырокая лаўка са спінкай' (ТСБМ, Шымк. Собр., Ласт.), 'шырокая лава' (Касп., Гарэц., Сержп. Прымхі), 'простая шырокая лава для качання бялізны' (Нас., Байк. і Некр.), 'канапа' (Сцяшк., Вруб., Сл. ПЗБ), *топчáн* 'тс' (ТС). Укр. *тапчáн, топчáн*, рус. *топчáн*, польск. *tapczan* 'тс'. Цюркізм, з тат. *tapčan* 'узвышэнне, трон; ляжанка'. Анікін (554) мяркуе, што значэнне 'канапа' сведчыць пра польскае пасрэдніцтва. Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 517.

**Тапчанí** 'тоўчаная бульба' (Ян.). Гл. *тапчóнікі, топчанка*.

**Тапча́нка**. Гл. *таптуха*₁.

**Тапчэ́й** зневаж. 'пра таго, хто паволі, марудна ходзіць' (рагач., Сл. ПЗБ). Утварэнне ад *таптаць*₁ (гл.) з суф. *-эй*, што абазначае асобу па схільнасці да пэўнага дзеяння з экспрэсіяй асуджэння (Сцяцко, Афікс. наз., 36).

**Тапы́ршчыць** 'тапырыць' (ТСБМ). Параўн. *тапарашчыць* (гл.), да наступнага слова.

**Тапы́рыць** 'паднімаць, ставіць тарчма, настаўляць (валасы, шэрсць і пад.)' (ТСБМ, Нас., Ласт., Гарэц.), *тапы́рыць* 'апранаць з шыкам' (Нас.), *тапы́рыць вýшы* 'стрыгчы вушамі (пра каня)' (Жыв. св.), *тапы́рыцца* 'стаяць тарчма, напружвацца, супраціўляцца' (ТСБМ), 'распускаць пер'е, настыбурчвацца' (Шат., Гарэц., Нас.), 'гневацца, злавацца', 'апранацца з шыкам' (Нас.), 'задавацца, фанабэрыцца' (Некр. і Байк.), сюды ж *тапы́ря* 'капрызнік, капрызніца' (Юрч. Фраз. 2), *тапы́рны* 'горды, напышлівы, вычварны' (Шпіл.). Укр. дыял. *топи́рити* 'натапырваць', рус. *топы́рить* 'падымаць дыбка, натапырваць'. Да *пы́рыць* (гл.), якое, як мяркуюць, роднаснае да *пярó, пéр'е* (ЕСУМ, 5, 598; Фасмер, 4, 81; Махэк₂, 98), што неабавязкова. Пачатак слова ідэнтыфікуюць з экспрэсіўным *-то-* ў рус. *растопы́рить* 'развесці, расставіць' (Фасмер, 3, 446; сумненні гл. Пятлёва, Этимология – 1978, 66), або выводзяць з прыстаўкі *ото-* ў рус. *отопы́риться* 'надуцца, наставіцца, распушыць пер'е', гл. Тадораў, Зб. Варбат, 361: тут адмаўляецца агульнае паходжанне з рус. *топорщить* 'тс' (гл. *тапоршчыць, тапыршчыць*). Несумненна збліжэнне некалькіх этымалагічна розных, але блізкіх па значэнні слоў, параўн. яшчэ *тапарашчыць, тапурыць*, гл.



**Тапэ́та** 'шпалера' (Сцяшк. Сл.). З польск. *tapeta* 'тс' праз ням. *Tapete* 'тс', іт. *tappeto* 'кілім', лац. *tapēs* 'тс', грэч. τάπης (Р. скл. τάπητος) 'тс', іранскага паходжання (гл. Брукнер, 565; ЕСУМ, 5, 516).

**Тар** 'паром' (Байк. і Некр.), 'паром, транспартны плыт з бярвення' (Нас.): *спрадвеку карысталіся тарам праз Дзьвіну* (Полымя, 1998, 1), *тáра* 'плыток для пераезду', *торóк* 'невялікі плыт для пераправы праз возера, праз ваду ў паводку' (ТС), 'плыт з 4–5 бярвенняў' (лельч., Жыв. НС), 'від плыта для сплаўкі лесу: на два доўгія бервяны ўкладваюць упоперак кароткія бярвёны і замацоўваюць іх' (Маслен.), *тарóк* 'кладка праз рэчку з бярвенняў': *зьвізалі тарок* (Бяльк.), 'звязка плыта': *лес у таркі вяжуць* (Мат. Гом.), 'адзін рад змацаваных бярвенняў у плыце' (кіраў., Нар. сл.). Параўн. укр., рус. *тóрок* 'невялікі плыт', старое рус. *тара* 'тс' (Нас.). Няясна; семантыка слоў сведчыць на карысць сувязі з *тарáк, тарóкі* 'матуз, шнур' (гл.) і адсюль 'звязаныя, злучаныя разам бярвенні'. Суадносяць таксама з *тор* 'дарога, каляіна, след' (гл.) са зменай значэння (Фасмер, 4, 84; ЕСУМ, 5, 606); гэта дае падставы для рэканструкцыі прасл. **tarъ* ад прасл. **toriti* 'пракладаць, праводзіць дарогу' (гл. *тарыць*), што ўрэшце да **terti* (гл. *церці*), гл. Варбат, Морфон., 40 і наст.; параўн. таксама каш. *tar* 'прэтораная дарога' (SEK, 5, 132–133). Здзіўляе семантычная блізкасць да разглядаемых слоў роднасных ст.-інд. *tárati* 'пераправляць, пераадольваць, падганяць', авест. *tar-* 'пераадольваць', ст.-перс. *vi-tar-* 'перапраўляцца' (Варбат, Этимология – 1982, 27).

**Тáра**$_1$ ‘ўпакоўка тавару’, ‘вага ўпакоўкі’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.). З ням. *Tára* ‘тара; упакоўка; вага ўпаковачнага матэрыялу’, якое з італ. *tara* ‘тара; зніжка, вылік, адлічэнне’ < араб. *ṭarḥ* ‘зніжка, вылік, адлічэнне’ < *ṭaraḥa* ‘ён адсунуў, адклаў’ (Фасмер, 4, 20; ЕСУМ, 5, 517; Черных, 2, 228; Голуб–Ліер, 477).

**Тáра**$_2$ ‘плыток для пераезду’ (ТС). Гл. *тар*.

**Тарабáй** ‘трактар’ (ТС). Гукапераймальная назва, магчыма, іранічная. Гл. наступнае слова.

**Тарабáйка** ‘балаболка’ (хойн., Шатал.), ‘бразготка’, ‘лапатуха’ (Ян.), *тарабáлка* ‘балбатуха’ (парыц., Янк. Мат.). Ад *тарабаніць*$_1$ (гл.), пад уплывам *баяць, байка*, гл.

**Тарабáн**$_1$ ‘кош, сплецены з дранкі’ (Сл. Брэс.). Магчыма, ад *тарабаніць*$_2$, гл.

**Тарабáн**$_2$ ‘барабан’ (Байк. і Некр.). Укр. *тарабáн* ‘барабан; бразготка на шыю скаціне, што пасецца без дагляду’, рус. дыял. *тарабáн* ‘барабан’, польск. *taraban* ‘вялікі турэцкі барабан’. З тат. *дарабáн* ‘барабан’ шляхам аглушэння пачатковага зычнага ў выніку дыстантнай асіміляцыі ўтворана *барабáн* (Фасмер, 4, 20; ЕСУМ, 5, 517). Сюды ж *тарабáн* ‘балбатун’ (Сцяшк. Сл.) як метафара або адваротны дэрыват ад *тарабаніць*$_1$, гл.

**Тарабáн**$_3$ ‘музычны інструмент з 24 струнамі, якi вісеў на грудзях; музыка надзяваў на пальцы адмысловыя кіпці і перабіраў струны’ (Варл.). Гл. *тарбан*.

**Тарабáніць**$_1$ ‘моцна стукаць, утвараючы шум, грукат’ (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр.), ‘аднастайна грукаць, стукаць’, ‘валачы, цягнуць, везці з грукатам’ (Янк. 2), ‘балбатаць’ (Шатал.), ‘бразгаць; балабоніць’ (Ян.), *тарабáніць языком* ‘па-пустому, многа і гучна гаварыць’ (Янк. 2), *тарабáніць, торобáніць* ‘тарахцець, барабаніць; балбатаць’ (Мат. Гом.), *тырібáніць* ‘тарабаніць, тараторыць, крычаць, шумець’ (Бяльк.), *тарабáніті* ‘барабаніць’ (Вруб.), *тарабанітэ* ‘тс’ (драг., Нар. словатв.), *тарабáніць, тарабóніць, торобéніць* ‘барабаніць, бразгатаць’ (пра дождж, стук і г. д.)’, ‘тараторыць, балбатаць, малоць языком’ (ТС), *тарабáнькаць* ‘тарахцець, стукаць; гаварыць безупынна’ (ТС). Укр. *тарабáнити* ‘грукатаць’, дыял. ‘балакаць’, рус. *тарабáнить* ‘грукаць; барабаніць’, польск. дыял. *tarabanić* ‘тс’. Ад *тарабáн* ‘барабан’ (гл. *тарабан*$_2$), значэнне ‘балбатаць’ пераноснае (Фасмер, 4, 20; ЕСУМ, 5, 517). Параўн. структурна аналагічнае *талабáніць* ‘балбатаць’, гл. *талабоніць*.



**Тарабáніць**$_2$ ‘несці цяжкае, вялікае, грузнае’ (ТСБМ, Мілк., Мат. Гом.), ‘несці на плячах’ (Яўс.), *тарабáніць (търъбáніць)* ‘несці цяжкі груз’ (мёрск., Нар. лекс.), ‘цягнуць, валачы’ (Ласт.; петрык., Яшк. Мясц.; мядз., Сл. ПЗБ), ‘цягнуць з шумам і грукатам’ (Варл.), *тарамбáніць* ‘тс’ (Сл. рэг. лекс.). Укр. *тарабáнити* ‘везці або несці нешта важкае і вялікае’, *тарабáнитися* ‘ісці або ехаць далёка; ехаць марудна, з цяжкасцю’, рус. дыял. *тарабáнить, тарбáнить* ‘цягнуць, валачы’, польск. дыял. *tarabaniać się* ‘з цяжкасцю ісці, рухацца; увальвацца, караскацца’, каш. *torbańic są* ‘караскацца; кешкацца, марудзіць’, чэш. *tarabit* ‘з цяжкасцю несці’, *tarabotit se* ‘пра цяжкую язду воза’. Апошнія словы Махэк$_2$ (636) выводзіць з чэш. *těpiti* ‘несці’, *těpati* ‘насіць’, роднасных лат. *stiept* ‘з цяжкасцю несці, валачы’, ‘з цяжкасцю або паспешліва бегчы’, ‘намагацца, высільвацца’ і літ. *stiẽpti, stiẽbti* ‘цягнуць уверх’, укр. *тепóрити* ‘з цяжкасцю цягнуць’, ускладненых “інтэнсіўнымі” суфіксамі, што не пераконвае. Спробы вывесці з літ. *tarabãnyti* ‘цягнуць, валачы’, *tarabénti* ‘несці, валачы’ (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1971, 1, 95) сустракаюць сур’ёзныя пярэчанні (Лаўчутэ, Балтизмы, 149). Няясна. Дапускаюць афіксальнае ўтварэнне ад укр. дыял. *терéбити* ‘цягнуць; несці што-небудзь цяжкае’ (гл. *церабіць*), *притерéбити* ‘даставіць, прынесці’ (ЕСУМ, 5, 517), што не пераконвае; або параўноўваюць з рус. дыял. *тáрабіць* ‘цягнуць’ (Фасмер, 4, 20). Кашубскае слова лічаць экспрэсіўнай трансфармацыяй *tarmolëc są* ‘ўвальвацца (пра няпрошанага госця)’ пад уплывам *torba* (гл. *торба*), у пераносным значэнні ‘дурань, няздара, недарэка’ (SEK, 5, 156). Больш верагоднае развіццё семантыкі ад *тарабáніць*$_1$ ‘грукатаць’ да ‘цягнуць з грукатам што-небудзь цяжкае’ або ўтварэнне ад *тарнáбіць* ‘валачыць, цягнуць, несці з цяжкасцю’ (гл.) з перастаноўкай зычных у сярэдзіне слова і характэрнай для экспрэсіўных слоў сінкопай (пропускам галоснага).

**Тарабáрскі** ‘незразумелы, пазбаўлены сэнсу, бязглузды’, *тарабáршчына* ‘агульнае незразумелае гаварэнне, гоман’, *тарабáрыць* ‘займацца пустымі размовамі, балбатаць’ (ТСБМ). Параўн. укр. *тарабáрщина, тарабáрити* ‘тс’, рус. *тарабáрский* ‘незразумелы, пазбаўлены сэнсу’, *тарабáрщина* ‘нешта незразумелае’, *тарабáрить* ‘балбатаць, займацца пустымі размовамі’, ст.-рус. *тарабарская грамота* (XV ст.) ‘сістэма тайнапісу’. У аснове

ўтварэнняў спалучэнне *тары-бары* (гл.), зыходным лічыцца рус. *тарабáр* 'балбатун' (Фасмер, 4, 20; Новое в рус. этим., 230), вытворнае ад адпаведнага дзеяслова.

**Тарабíчыць** *(тарабíчыты)* 'цягнуць, несці' (пін., ЖНС). Параўн. рус. *тáрабить* 'цягнуць', чэш. *tarabit* 'з цяжкасцю несці', *tarabit se* 'з цяжкасцю ехаць (пра воз)'. Відаць, да гукапераймальнага **тараб* (< **torb*-?), параўн. *тарабкаць*, гл. Параўноўваюць з *тарабаніць* (гл. Фасмер, 4, 20), укр. дыял. *тéпорити* 'з цяжкасцю несці, цягнуць' (Махэк$_2$, 636), апошняе сумніўна, гл. ЕСУМ, 5, 548. Прапанаваная для чэшскіх слоў рэканструкцыя **torbiti* сустракае цяжкасці з фанетычнага боку (Варбат, Этимология – 1973, 27), якія знімаюцца, калі прыняць гукапераймальную аснову слоў. Параўн. *тарбічыцца*, гл.

**Тарáбкаць** 'барабаніць, тарахцець, звінець' (ТС), *тарáбнуць* 'стукнуць, загрымець': *цэпом тарабнуў, отмукае лотку* (ТС), *тарáбканье* 'пустая размова' (ТС). Вытворнае ад гукапераймання **тараб!*, звязанага з *тарабаніць*, гл.

**Тарабосíць** 'тараторыць, гаварыць абы-што' (ТС). Звязана з *тарабáніць$_1$* (гл.), утварэнне з экспрэсіўным суф. *-ос-*, параўн. славен. *trbosati* 'стукаць дзвярыма'; першапачаткова, магчыма, у назоўніку **тарабос*, як у *фігос*, *п'янтос*, гл.

**Тарабýн**: *рак-тарабун* '?' (БНТ, Жыв.). Відавочна, звязана з імітатывам **тараб!*, што перадае цяжкі рух або гук (гл. *тарабкаць*, *тарабаніць$_2$*), ад якога пры дапамозе суф. *-ун* утвораны назоўнік.

**Таравáты** 'памяркоўны; не скупы' (карм., ЛА, 3), 'шчодры' (Янк. БП), *тырывáтый* 'добры, шчодры' (Бяльк.), сюды ж *таравáціцца (торовáцицьца)* 'дэманстраваць шчодрасць', 'абяцаць; прапанаваць мала' (Нас.). Рус. *таровáтый*, *торовáтый* перакладаюць як 'спрытны, дасціпны; шчодры, гасцінны' (Некр. і Байк.), 'маторны' (Ласт.). Звязваюць з *тор* 'дарога, шлях; след', *тарыць* 'пракладваць след, шлях' (гл.), што да **torъ*, **toriti*, родных да **terti* (гл. *церці*), гл. Фасмер, 4, 84; Новое в рус. этим., 233. Да семантыкі параўн. *запратóрыць* 'закінуць, падзець невядома дзе', славен. *tóriti* 'рассыпаць, растрачваць'.

**Тараґáн** 'прусак, рыжы таракан' (лях., Янк. Мат.). Гл. *таракáн*.

**Тараганéць** 'тарахцець' (ТС), *тарагонéть* 'барабаніць, стукаць' (Альп.), *таргніць* 'хутка гаварыць' (Сл. Брэс.). Параўн.



серб.-харв. *тордгоња* 'крыклівая баба'. Апошняе, паводле Скока (3, 745), ад *tordkati* 'крычаць' (гл. *тарокаць*) з няясным пераходам *к* > *г*. Гукапераймальнае, можна разглядаць як варыянт дзеяслова тыпу *тарах(а)нець* 'тарахцець, бразгатаць' з азванчэннем зычнага ў інтэрвакальным становішчы, гл. *тарах*.

**Тарадáйка$_1$** 'воз, калёсы, брычка' (драг., Нар. лекс.), 'таратайка, лёгкая павозка' (Байк. і Некр.), 'лёгкі летні вазок' (Нас.), 'двухколка' (ТС), 'воз на двух колах для выезду ў поле; стары, паламаны воз' (беласт., Сл. ПЗБ), 'разбіты воз' (драг., Ск. нар. мовы), *тарадэ́йка* 'старая рэч' (Шатал.), 'вазок' (Касп.), 'стары, пабіты грузавік' (Яўс.). Параўн. укр. *тарадáйка* 'лёгкі двухколавы вазок', польск. дыял. *taradajka*, *taradejka* 'брычка'. Гл. *таратáйка*.

**Тарадайка$_2$** 'кошык з сасновай дранкі' (Сл. Брэс.), 'чатырохвугольная каробка для ягад, грыбоў, зробленая з дранкі, 'двухкалёсны вазок; трашчотка' (ТС), *тарадэ́йка* 'від трашчоткі' (Др.-Падб., Стан.), 'прылада ў выглядзе шасцярні і дошчачкі, каб утвараць шум, трэск' (Варл.), 'балбатун' (Рагаўц., Мат. Маг.), 'балаболка' (Шатал.), 'частушка' (Мат. Гом.). Вытворныя ад дзеясловаў гукапераймальнага паходжання, параўн. выклічнік польск. дыял. *tarada!* (здагадка), *taradáj* 'балбатун, трапло', *taradajka*, *taradejka* 'трашчотка; шумлівая баба', гл. *тарадахаць*, *тарадэіць* і пад.

**Тарадáхаць** *(тарадáхатэ)* 'тарахцець, тарабаніць, стукаць' (драг., Нар. лекс.), *тарадэ́ніць* 'гаварыць шмат, не да месца' (мёрск., Нар. лекс.), *тарадон* 'пустабрэх, трапло' (Барад.). Гукапераймальнае, параўн. *тырайда*, *таранда*, гл. папярэдняе слова.

**Тарады́нка**, 'жалезны хамуцік, які замацоўвае перадок воза' (маст., Шатал.), *тороды́нка* 'тс' (бяроз., Шатал.; драг., Жыв. сл.; Сл. Брэс.), *тырыды́нка* 'тс' (драг., Жыв. сл.), *тарадынка* 'жалеза, якое падбіваецца пад кола ў возе, каб яно не цёрла ступіцу' (Варл.), *тарады́нкі*, *трады́нкі*, *трады́лкі*, *тэрындэ́лькі* 'рэхвы на калодцы кола' (малар., Нар. словатв.). Параўн. укр. дыял. *трады́нка* 'жалезны хамуцік, якім мацуюцца вось, падушка і падвоснікі ў возе', польск. дыял. *taradany* 'рэхвы на коле каля спіц', чэш. мар. *tradlina* 'бляха над воссю ў возе'. Паходжанне апошняга, паводле Махэка$_2$ (648), няяснае. Пра спробы этымалагізаваць на славянскай глебе гл. Бязлай, Eseji, 83; сумненні ў Сноя

(Бязлай, 4, 208). Варыянтнасць назвы сведчыць пра запазычанне. Гл. *тарарýнка*.

**Тарадзíць** ‘ляскатаць трашчоткай’ (Др.-Падб.), ‘весці пустыя размовы, гаварыць шмат, не да месца’ (мёрск., Нар. лекс.; мсцісл., Нар. ск.); сюды ж *тарадзéй, тарадзéя* ‘балбатун, балбатуха’ (Чал.). Параўн. польск. дыял. *taradaj* ‘балбатун, пустабрэх’. Гукапераймальнае, у аснове выклічнік **тарада* або **тарата*, гл. *тарадахаць, тараторыць*.

**Тарайдá** ‘дурань’ (астрав., Сл. ПЗБ). Няясна; магчыма, звязана з папярэднім словам.

**Тарáк**$_1$ аргат. ‘сыр’ (Этимология – 1980, 73). Параўн. польск. аргат. *tyrok* ‘сыр, тварог’. Звязваецца з грэч. τυρί ‘сыр’ (Бандалетаў, там жа).

**Тарáк**$_2$ ‘матуз, лямка’ (Шатал.). Гл. *тарокі*.

**Таракáн** ‘насякомае чорнай або рыжай афарбоўкі’, ‘смярдзючы чорны жук’ (Ласт.), ‘падобны на прусака, але чорны’ (Некр. і Байк., Арх. Вяр., Сержп. Прымхі, Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТСБМ, Касп.; кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.), ‘прусак, рыжы таракан’ (валож., Жыв. св.), *таракóн* ‘прусак’ (ігн., Сл. ПЗБ), *таратан* ‘тс’ (лях., Янк. Мат.), *таракáн* ‘тс’ (Нас.), ст.-бел. *таракан* ‘тс’ (1640 г., КГС). З рус. *таракáн* ‘тс’, у якой вядома з XVI ст., запазычанне з цюркскіх моў, відаць, з тат. *таракáн (tarakan)*, звязваюць таксама са ст.-рус. *тóрхан, тáрхан* (ганаровы тытул), што са ст.-цюрк. *таркан* (гл. Дабрадомаў, Бел. лекс., 43; Фасмер, 4, 20; ЕСУМ, 5, 518; Чарных, 2, 228; Орлась, RS, 32, 1, 31–37).

**Таракцéць** ‘тарахцець, грукатаць’, ‘балбатаць, балабоніць’ (астрав., мядз., Сл. ПЗБ). Гл. *тарахцéць, тарарáх*, *к* < *х* пад уплывам балтыйскага субстрату.

**Таралáкаць** ‘утвараць шум пры дапамозе сукала і пад.’ (ТСБМ), *таралáць* ‘тарахцець’ (Касп.), сюды ж *таралá* ‘зневажальнае слова на чалавека, які моцна крычыць і лаецца без патрэбы’ (Варл.). Гукапераймальнае ўтварэнне, параўн. укр. (выклічнік) *таралáй*, гл. ЕСУМ, 5, 518; чэш. *trala, tralala* – выклічнік, што перадае радасць, весялосць, гл. Махэк$_2$, 649.

**Таралóм** ‘тарчма (ТСБМ, Янк. 3), ‘тарчма, у беспарадку, дагары нагамі’ (Сцяшк. Сл.). Прыслоўе ад назоўніка *таралá* (гл. папярэдняе слова) па тыпу *старчаком* (гл. *старчак*) і пад.

**Таралýшка** ‘дэталь у калаўроце’ (мёрск., Ск. нар. мовы). Няясна; магчыма, ад *таралáць* ‘тарахцець’, гл. *таралакаць*.



**Тарамбáніць** ‘несці, цягнуць цяжкае, вялікае, грузнае; тарабаніць’ (Сл. рэг. лекс.). Гл. *тарабáніць*; устаўка *м* пад уплывам выклічніка *тарáм*, параўн. *тарарам*, гл.

**Тарáмкаць** ‘званіць (пра царкоўны звон)’, ‘гаварыць, расказваць абы-што’ (ТС). Ад гукапераймальнага выклічніка *тарáм* (гл. *тарарам*), параўн. таго ж паходжання ўкр. *тарамтíти* ‘кідаць з брынканнем туды і сюды’ (гл. ЕСУМ, 5, 518), рус. *тарáмкаться* ‘плясціся, брысці’ (паводле Фасмера, 4, 21: няясна).

**Тарáн**$_1$, *тарáнка* ‘разнавіднасць плоткі, якую спажываюць у салёным і вяленым выглядзе’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Растарг.), *тарáн* ‘вобла’ (Яруш.), ‘сушаная або вэнджаная рыба; худы, знясілены чалавек’ (парыц., Янк. Мат.), ‘сушаная рыба’ (Касп., Сержп. Казкі), ‘плотка’ (чэрв., слаўг., Жыв. св.), ‘худы чалавек’ (Жд. 2, Мат. Гом.), *тарáнка, тарáнь* ‘сушаная рыба’ (ТС), *тарáнка, тарáнька* ‘тс’ (Мат. Гом.). Укр. *тарáня* ‘рыба Rutilus rutilus’, рус. *тарáнь* ‘тс’, польск. *tarań* ‘тс’, чэш. дыял., славац. дыял. *taran* ‘рыбец’, балг. *тарáн* ‘таранка’. З цюркскіх моў, параўн. казах. *тыран* ‘лешч’. Значэнне ‘худы чалавек’ пераноснае (Фасмер, 4, 22; ЕСУМ, 5, 519). Няяснымі застаюцца адносіны да чэш., в.-луж. *tarant* ‘карп’ (< ням. *Tharant*, гл. Усачова, Слав. ихт. терм., 18; параўн. Брукнер, 565).

**Тарáн**$_2$ ‘старажытная прылада, якой разбівалі крапасныя сцены, мела выгляд бервяна з металічным наканечнікам’, ‘прамы ўдар носам карабля, вінтом самалёта па варожай машыне ў час бою’ (ТСБМ), ‘муралом’ (Некр. і Байк.), ‘тоўсты абрубак дрэва для збівання алею ў алейніцы’ (Дэмб. 2), ‘бервяно’ (Растарг.), ст.-бел. *таран* ‘таран’: *били на мур тараны*. Укр., рус. *тарáн*, стараж.-рус. *таранъ* (XIII ст.) ‘прыстасаванне для разбівання сцен у выглядзе бервяна з завостраным металічным канцом’, польск. *taran* ‘тс’, чэш *taran* ‘баба для забівання паляў’. Дапускаецца запазычанне праз польскую мову з с.-в.-ням. *tarant* ‘аблонжы механізм; скарпіён; дракон’ < італ. *taranto* < *tarantola* ‘тарантул’ (Фасмер, 4, 21; ЕСУМ, 5, 518; Махэк$_2$, 636; Віткоўскі, Słownik, 184). Менш верагодна кантамінацыя ст.-рус. *баранъ* ‘сценабітная прылада’ і *тълкнути, тыкати, търгати* (Чарных, 2, 229) або сувязь з польск. *tarać się* ‘качацца’ (Брукнер, 565), гл. *церціся*, параўн. чэш. *beran* ‘таран’ і ‘баран’, серб.-харв. *óван* (< прасл. **ovьnъ*) ‘таран’ і ‘баран’.

**Таранава́ць** ‘непакоіць’: *чаго́ цібе́ тарану́я* (ветк., Ск. нар. мовы). Гл. *тарнаваць*$_3$.

**Таранда́** ‘беларускі воз’ (Шпіл.), ‘балбатун або балбатуха, што стракоча не змаўкаючы’ (ашм., Стан.), *таранда́с*, *тарында́* ‘воз з высокімі драбінамі для перавозкі сена’ (Шатал.), *таранд́оха* ‘жанчына, якая хутка і шмат гаворыць’ (драг., Нар. лекс.). Вытворныя ад *тарандзіць* (гл.), параўн. *таранта*, гл.

**Тарандзі́ць** ‘тарахцець; балбатаць, балабоніць’ (паст., Сл. ПЗБ), ‘балбатаць хутка, не змаўкаючы’ (ашм., Стан.), *тарандзі́ці* ‘трашчаць; несці лухту’ (Чэрн.), *таранді́ты* ‘балбатаць’ (брэсц., Нар. лекс.; Сл. Брэс.), ‘трашчаць, стракатаць, адстукваць’ (Клім.). Параўн. укр. дыял. *таранді́ти* ‘балбатню разводзіць, балбатаць’, *тиринді́ти* ‘тс’, рус. дыял. *та́рандать*, *ты́рандать* ‘трашчаць’, ‘скрыпець, гаварыць пустое’, чэш. *trandati* ‘балбатаць’. Гукапераймальныя ўтварэнні (Фасмер, 4, 21; ЕСУМ, 5, 571; Махэк$_2$, 649: вытворныя ад зыходнага **tratoriti* з новым фармантам *-ndati*), гл. *тараторыць*.

**Та́ранікі** ‘аладкі з бульбы, дранікі’ (Ян.), адз. л. *та́ранік* ‘тс’, *та́ранка* ‘бабка’ (Мат. Гом.), *та́рнікі* ‘аладкі’ (Сцяшк.). Утворана ад *та́раны* ‘цёрты на тарцы’ (навагр., З нар. сл.; Сцяшк. Сл.), гл. *тарыць*. Запрудскі (дыс., 112) параўноўвае з серб.-харв. *та̀рана* ‘цёртае цеста’, макед. *тарана* ‘сушаныя крупы з цеста і ежа з іх’ (відаць, памылкова, бо гэта балканскі турцызм з тур. *tarhana* ‘тс’; Скок, 3, 444) і (з пытальнікам) рус. *та́рань* ‘зброд, выродкі’ (без пэўнай этымалогіі, гл. Фасмер, 4, 22); фармальна супадае з серб.-харв. *та́рањ* ‘бандарны інструмент для стругання клёпак’, што, паводле Скока (3, 512), звязана з *tr̥ti (тр̏ти)*, гл. *церці*. Магчыма, сюды і чэш. дыял. *taraňa* ‘сухія грушы, размятыя ў малацэ’ (Махэк$_2$, 636: няясна). Незвычайная рэфлексацыя слова можа сведчыць пра польскі ўплыў.

**Тара́ніць$_1$** ‘біць, удараць тараном або корпусам баявой машыны’ (ТСБМ), ‘біць, разбіваць цэпам перавязь у снапоў дзеля лепшага абмалоту’ (Нас., Байк. і Некр.). Апошняе значэнне Насовіч (Нас., 633) звязваў з *таран*$_2$ (гл.), на якім грунтуецца і літаратурнае слова, магчыма, запазычанае з рус. *тара́нить*.

**Тара́ніць$_2$** ‘вешаць рыбу для сушкі’ (Ян.). Параўн. укр. дыял. *тара́нити* ‘выбіраць рыбу з невада’. Адсубстантыўны дзеяслоў ад *тара́н*$_1$, гл.



**Тара́ніць$_3$** ‘несці’ (Юрч.), *тара́нічча* жарт. ‘ісці’ (Юрч. Вытв.). Відаць, пераноснае ўжыванне *тараніць*$_1$, якое суадносіцца з *тарнаваць*$_2$ ‘малаціць перагорнутыя неразвязаныя снапы’ (гл.), або скарочанае з *тарабаніць*, гл.

**Тара́нка$_1$** ‘сплецены з саломы і лазы посуд для вымярэння збожжа’ (Скарбы). Няясна.

**Тара́нка$_2$** ‘сушаная рыба, таран’ (ТС, Растарг.). Гл. *тара́н*$_1$.

**Тарано́ўка** ‘вялікая шарсцяная хустка ў яркія кветкі, звычайна фабрычнай работы’ (Бел. нар. адзенне, Сцяшк. Сл.; слуц., Нар. словатв.; Мат. Гом., Сл. Брэс.), ‘вялікая квяцістая хустка з махрамі’ (Жд. 2), ‘вялікая квяцістая хустка ядвабнай работы’ (Паўл.), *тарно́вка*, *тэрно́вка* ‘шарсцяная хустка ў кветкі’ (Сл. Брэс.), *тарыну́ка* ‘невялікая хустка з воўны’ (навагр., З нар. сл.), *церно́ўка* ‘шаліноўка’ (ТС), *тарыно́ўка*, *терыну́ўка*, *терно́ўка*, *таріно́ўка*, *тарно́ўка*, *церно́ўка* ‘шарсцяная хустка са шлякам’ (Лекс. Бел. Палесся). Варыянтнасць сведчыць пра запазычанасць зыходнай формы. Звычайна звязваюць з імем французскага ўладальніка мануфактуры *Тарно (Ternaux)*, адкуль ням. *Ternauxwelle*, рус. *терно́* ‘тонкая тканіна з шэрсці казы, кашамір’ (Фасмер, 4, 49; ЕСУМ, 5, 556). На ўтварэнне “поўнагалосных” форм і асабліва формы *тарнатоўка* (гл.), магло паўплываць збліжэнне са ст.-бел. *тарантова́тый* ‘у яблыкі (конь)’ (Булыка, Лекс. запазыч., 124), *таранта́вый* ‘белай масці з чорнымі або гнядымі плямамі’ (1565 г., КГС), што з польск. *tarantowy* ‘стракаты, белы, з чорнымі плямамі’ (першапачаткова пра масць), параўн. укр. *таранова́тий*, *таранкува́тий* ‘плямісты, стракаты, белы, з чорнымі або іншага колеру плямамі’, адносна паходжання якіх гл. Брукнер, 565; ЕСУМ, 5, 519.

**Таранта** ‘звычайны воз’ (петрык., Яшк. Мясц.). Параўн. рус. *таранта́* ‘балбатун’, *таранти́ть* ‘балбатаць’. Утворана на базе гукапераймання, параўн. *таранда*, *тарандзіць*, гл. (параўн. Фасмер, 4, 21). Паводле Махэка$_2$ (649), у іх аснове прасл. **tratoriti* (гл. *тараторыць*) з новымі экспрэсіўнымі суфіксамі, параўн. укр. дыял. *тарамті́ти* ‘з брынчаннем кідаць’ і пад.

**Таранта́с** ‘дарожная павозка на чатырох колах, звычайна крытая; каламажка’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘вялікі воз для перавозкі сена і снапоў’ (Касп.; в.-дзв., Шатал.), ‘чатырохкалёсная гаспадарчая павозка’ (в.-дзв., паст., брасл., лудз., глыб., Сл. ПЗБ). Укр.,

рус. *тарантáс*, польск., чэш., славац. *tarantas*, славен. *tarantás*, серб.-харв. *тарантас*, балг. *тарантáс*. Магчыма, цюркізм, параўн. тат. *тарантас* 'тс' (ЕСУМ, 5, 519). У якасці вытворнай асновы называлася таксама рус. *тарантúть* 'трашчаць, стракатаць'; *таратóрить* 'трашчаць' (Гараеў, 360). На магчымае гукапераймальнае паходжанне ўказвае Фасмер (4, 22), параўноўваючы з *таратайка* (гл.) пры наяўнасці ў апошняга значэння 'балбатун'. Параўн. *таранта*, *таранда*, гл. Ластоўскі для рус. *тарантáс* 'павозка на доўгіх зыбучых планках' прыводзіць уласныя адпаведнікі *зы́баўка*, *гóйдаўка* (Ласт.).

**Тарáнтул** 'ядавіты павук, Lycosa Tarantula' (ТСБМ), *тарантýл* 'тс' (Некр. і Байк.). Укр., рус. *тарáнтул*, польск. *tarantula*. Праз рускую або польскую мову (гл. форму з націскам на канцы слова) з заходнееўрапейскіх або непасрэдна з с.-лац. *tarantula* 'тарантул' < італ. *tarantola* 'тс'; апошняе – ад назвы горада *Taranto* < лац. *Tarentum*, дзе быў пашыраны гэты від павука (ЕСУМ, 5, 519; Фасмер, 4, 22; Голуб–Ліер, 477). Ластоўскі падае ў якасці народнага адпаведніка *мізгíр* 'ядавіты земляны павук', гл.

**Тарантэ́ла** 'італьянскі народны танец, а таксама музыка да гэтага танца' (ТСБМ). Культурнае запазычанне, магчыма, праз польск. *tarantela* 'неапалітанскі танец' з італ. *tarantella* 'тс', утворанага ад назвы паўднёваітальянскага горада *Taranto* < лац. *Tarentum*, дзе ўзнік гэты танец (ЕСУМ, 5, 519; Голуб–Ліер, 477).

**Тарáнчыць** 'траціць' (Ян.), 'балбатаць' (мсцісл., Нар. ск.), *тарэ́нчыць* 'несці што-небудзь аб'ёмнае і цяжкае перад сабой' (лаг., Гіл.). Да *тарáчыць* (гл.) з экспрэсіўнай назалізацыяй; значэнне 'балбатаць' ад *тарачы́ць* (гл.), магчыма, пад уплывам фразеалагізма *тараны варыць* 'гаварыць без толку' (гом., Полымя, 1978, 5, 255).

**Тáраны** 'цёрты на тарцы' (навагр., З нар. сл.). Гл. *тáрыць*.

**Тарапáны** 'здані, страх' (навагр., Сл. ПЗБ), 'мітусня, мільгаценне ў вачах' (лід., Сл. ПЗБ). Гл. *тарапачэ́*.

**Тарапáт** 'спех, таропкасць' (Барад.), сюды ж *тарапáты* 'нявытрыманы, прыдзірлівы' (Сцяшк. Сл.), 'дурнаваты' (люб., Сл. ПЗБ). Гл. *торап*, *тарапíцца*.

**Тарапáта** 'гора, бяда' (Сцяшк. Сл.), *тарапáты* 'клопат, турботы' (беласт., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тарапата* 'клопат, цяжкасць' (1606 г., КГС). Параўн. польск. *tarapata* 'шум, грукат; клопат, турботы', 'трашчотка', якое лічыцца крыніцай запазычання (Булыка, Лекс. запазыч., 137), далей выводзяць з ням. *Strapanze* 'цяжкая праца, клопат' (Брукнер, 565; ЕСУМ, 5, 520), што няпэўна. Звязваюць таксама з польск. *trapacić*, *trapacować* 'мучыць, гнясці, непакоіць', што з іт. *strapazzo*, *strapazzare* 'мука, мучыць' (Брукнер, 575).



**Тарапачэ́** 'здані, мітусня (у вачах)' (стаўб., Жыв. сл.), *тарпачэ́* 'тс' (карэліц., З нар. сл.), *тарапачэ́ станóвяцца* 'пра стан чалавека, гатовага кінуцца ў бойку' (стаўбц., Бел. дыял.); сюды ж, відаць, *тарапáны*, гл. Параўн. польск. дыял. *tarapacz* 'трашчотка'. Магчыма, звязана з прасл. **torpiti* 'мучыць; палохаць', якое роднаснае да **tьrpěti* 'цярпець' (рэканструкцыя – ЕСУМ, 5, 557). Параўн. *тарапíцца₂*, гл.

**Тарапíцца₁** 'спяшацца' (Бяльк.; паст., навагр., Сл. ПЗБ), сюды ж *тарóпкі* 'які спяшаецца' (ТСБМ), *тарапкí* 'паспешлівы, жвавы' (Ян.), *тарапóк*, *тарапýн* 'хто заўсёды спяшаецца' (Барад.), *тороп'я́к* 'паспешлівы, хапатлівы чалавек' (Клім.), *тараплíвы* 'хуткі ў рабоце' (дзятл., ЛА, 3), 'паспешлівы, хапатлівы' (паст., Сл. ПЗБ), *тороплúвий* 'тс' (Горбач, Зах.-пол. гов.). Укр. дыял. *торóпúти* 'прыспешваць', рус. *торопúть* 'тс', *торопúться* 'спяшацца', чэш. дыял. *trap* 'спех', серб.-харв. *тра̀пати* 'хутка ісці, спяшацца'. З прасл. **torpiti*, якое не мае агульнапрынятай этымалогіі. Звязваюць з **torpěti* 'бянтэжыцца, ніякавець, адчуваць нязручнасць' (Чарных, 2, 252; Анікін, ОЛА, Исследов., 1984, 287 і наст.); супастаўляюць з грэч. τρέπω 'паварочваю', лац. *trepit* 'паварочвае', ст.-інд. *trápatē* 'бянтэжыцца' (першапачаткова 'адварочвацца'), *tṛpráḥ* 'неспакойны' (Вальдэ–Гофман, 2, 702; Персан, Beitr., 954), адкуль першаснае значэнне 'вёрткі'; мяркуюць, што можа быць роднасным да літ. *tarpà* 'працвітанне, зрастанне', *tar̃pti* 'працвітаць', лат. *tãrpa* 'сіла, здатнасць', *tãrps* 'дужы', ст.-інд. *tṛ́pyati (tṛpṇṓti, tárpati)* 'насычаецца, атрымлівае задавальненне', грэч. τέρπω 'насычаю, радую' (Фасмер, 4, 85 і інш.). Звязваюць з літ. *stropė́ti* 'быць стараннным', *stropiti* 'зрабіцца старанным' (Махэк₂, 649). Пра магчымую сувязь з гукапераймальнымі словамі гл. Копечны, Зб. Младэнаву, 378. Гл. *тарапат*.

**Тарапíцца₂** 'ўглядацца, пужліва насцярожвацца (пра каня)' (Мал.), сюды ж *торопíеті* 'здрыгануцца, скалануцца', *торóпко* 'са страхам' (Вруб.), *тарóпно* 'страшна' (Скарбы). Укр. *торо-*

*nітися* 'баяцца', рус. *торопе́ть* 'бянтэжыцца, пужацца, палохацца', польск. *tropić się* 'бянтэжыцца, ніякавець', в.-луж. *trapić so* 'быць прыгнечаным; палохацца', славен. *trapiti* 'мучыць; дакучаць', балг. *тра́пен* 'збіты з панталыку, азадачаны'. З прасл. **torpěti* 'палохацца', якое звязана з **torpiti* 'прыспешваць', **tьrpěti* 'цярпець'. Роднаснае да лац. *torpeo* 'знаходжуся ў здранцвенні, аслупяненні', літ. *strópti* 'рабіцца сухім, цвёрдым (пра печыва)' з развіццём семантыкі 'цвёрды' – 'здранцвелы' – 'спалоханы' (Фасмер, 4, 85–86; Брукнер, 575; Чарных, 2, 252; ЕСУМ, 5, 607; Голуб–Ліер, 487, 491; Шустар-Шэўц, 1525). Гл. *торап*.

**Тарапо́м** 'няшчыльна; абы-як': *сена не таптали, тарапом у брыку накідалі* (мядз., Нар. словатв.), можна зразумець і як 'спехам, спяшаючыся'. Тады да *тарапіцца*$_1$, *торап*, гл. У сувязі з гэтым вывядзенне з літ. *tarpas* 'прамежак' (гл. *тарпа*$_1$), якое прапануе Санько (Крыўя, 1996, 1, 92), здаецца неабавязковым.

**Тарап'я́** 'спяшаючыся, у спешцы' (Ян.). Гл. *тарапіцца*$_1$.

**Тарапя́нка** 'страціўшая раўнавагу'. Да *тарапіцца*$_2$.

**Тара́** 'пра гук барабана; шматслоўная балбатня' (Нас.). Параўн. укр. *тара́* 'выгук, які перадае крык курыцы', рус. *тара́*, *тары́* 'балбатня', польск. *tarara* 'пра гук трубы'. Гукаперайманне.

**Тарара́йка** 'таратайка' (клец., Нар. лекс.). Аналагічна да *таратайка* (гл.) пад уплывам папярэдняга слова, параўн. *тарарай, калёсы, тарарай* (гом., Рам. 8–9).

**Тарара́ка** 'цвёрдая частка пяра (з крылаў і хваста)' (слуц., ЛА, 1), 'рагавы стрыжань пяра' (слуц. Жыв. св.). У аснове назвы – гукаперайманне, параўн. *та́ркаць* 'крычыць (пра гусей)', гл. Цвёрдая частка пяра выкарыстоўвалася для свісткоў і дудачак: "Гогого, гусачок! // Зрабі хлопчыку свісток // З беласнежнага крыла // Ды з бліскучага пяра" (саліг., Дзіц. фальклор, 137).

**Тарара́м** 'шум, грукат; сварка, скандал' (ТСБМ), параўн. укр., рус. *тарарам* 'тс'. Пашыранае нарашчэннем *-м* гукапераймальнае *тара́*, гл.

**Та́ра-ра-ра-ра** 'перадача грукату колаў аб камяні' (вільн., Сл. ПЗБ). Гукаперайманне, да папярэдняга з паўтарэннем апошняга склада, што перадае інтэнсіўнасць і працяглaсць гучання.

**Тарара́х** – выклічнік для абазначэння моцнага, раскацістага гуку, суадносны з адпаведнымі дзеясловамі (ТСБМ, ЭШ), 'гук, які азначае бой у барабан або ў што-небудзь падобнае' (Нас.), сюды ж *тарара́хаць* 'грукатаць, грымець, стукаць' (ТСБМ), 'тарахцець' (Касп.), *тарара́хнуцца* 'з сілай стукнуцца, з шумам упасці' (ТСБМ), *тарара́хнуць* 'загрукацець, загрымець; моцна стукнуцца; моцна ўдарыць; выстраліць', *тарара́хтаць* 'тарахцець' (там жа), *тарара́ха* 'балбатуха' (Ян.). Укр. *тарара́х,* рус. *тарара́х*. Гукапераймальныя ўтварэнні (Фасмер, 4, 23; ЕСУМ, 5, 521). Карскі (1, 254) у дзеясловах бачыў падваенне склада ў зыходных *тара́хаць*, *тра́хаць*, што да выклічніка *тарах*, *трах*, гл.

**Тарара́шкі**, *тарару́шкі* 'месца забаў з танцамі, музыкай і пад.' (Нас.), ст.-бел. *тарарушка, тарарычка* 'бразготка' (1596 г., КГС, Ст.-бел. лексікон). Параўн. польск. *tararuszki* 'драбяза, глупства, забаўка'. Да *тарара, тарарах* (гл.); меркаванне пра старое запазычанне з польскай мовы (Булыка, Лекс. запазыч., 103), як і вывядзенне непасрэдна з літ. *tařti* 'гаварыць' (параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 149), не маюць падстаў.

**Тарары́нка** 'від клямара, скабы (у коле воза)' (нясвіж., Нар. словатв.), *тарары́лка* 'дэталь у возе' (шарк., Цыхун, вусн. паведамл.). Укр. дыял. *тараре́нька*, *тарари́нька* 'жалезны хамуцік, якім змацоўваецца вось, падушка і падвосьнікі ў возе; хамуцік на восі воза, які не дае змазцы пыліцца і выцякаць', палес. *тари́нка*, *тари́нок*, *три́нка*, *трайри́нок* 'жалезнае колца, што злучае вось з навосьнікам і насадам', *тарaлі́нка* 'ўнутраная гайка восі' (Нікан., Трансп.), польск. дыял. *trarynki* 'кольцы, якімі насад у возе мацуецца да восі'. Слова нямецкага паходжання, параўн. н.-ням. *Teerring* 'дзягцярнае кола', старое 'дзягцярнае кола на восі воза' складаецца з *Teer* 'дзёгаць, смала' і *Ring* 'круг; кола' (ЕСУМ, 5, 520). Гл. таксама *тарадынка*, *тардынка*.

**Тарарычка** 'бразготка, бубен' (у камедыйных творах XVII–XVIII стст., Праблемы філал., 12; Ст.-бел. лексікон). Ад гукапераймальнага *тарара*, гл.

**Тарарэ́йка** 'стары, пабіты грузавік' (Яўс.). Гл. *тарарайка*.

**Тарас**, ст.-бел. *тарасъ* 'рухомае абложнае прыстасаванне; заслона' (1568 г., КГС), 'заслона; турма' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *та́ра́с* 'хмызняк; галлё для гаці', рус. *та́рас* 'апора', ст.-рус. *тарасъ* 'рухомае прыстасаванне пры аблозе', польск. *taras* 'штучны насып; тэраса; вежа, турма'. Выводзяцца праз польскую мову з с.-в.-ням. *tarraz* 'земляны насып', франц. *terrasse* 'тс' з нар.-лац.

*terrācea ад лац. *terra* 'зямля' (Брукнер, 565; Булыка, Лекс. запазыч., 190; Трубачоў, Дополн., 4, 23; ЕСУМ, 5, 521; Махэк₂, 636). Параўн. *тэраса*, гл.

**Тара́с₂** 'пра жанчыну або дзяўчыну, што сваім выглядам або паводзінамі падобна да мужчыны' (мазыр., Грыгор'еў, вусн. паведамл.). Да мужчынскага імя *Тарас* (< грэч. Τεράσιος), магчыма, пад уплывам *Кур'ян* (Бірыла, Бел. антр. 2), суадноснага з *кур'ян* 'курыца з прыкметамі пеўня', гл.

***Тара́скацца**, параўн. прыставачныя ўтварэнні *оттара́скатысь* 'адвязацца, адчапіцца' (Клім.), *отара́скатыса (otar'askatysa)* без указання семантыкі (зах.-палес., Арх. Вяр.), відаць, суадносныя з *караскацца* 'лезці ўгору, чапляцца' (гл.) без пэўнай этымалогіі і надзейных адпаведнікаў. Магчыма, роднаснае рус. дыял. *тара́щиться* 'ўпірацца, супрацьўляцца', 'лезці кудысьці і па штосьці', 'вылупляць (вочы)' (гл. *тарашчыць*), чэш. дыял. *trškať* 'палоць' *otrškať (ofce)* 'абстрыгчы' (авечку) і пад., якія Варбат (Этимология – 1971, 14) узводзіць да прасл. **torščiti*, **trskati* < **ter-* 'драць' з пашырэннем *sk*, параўн. літ. *taršyti* 'скубаць, драць, калашмаціць', якое дакладна адпавядае **toršiti* 'тс'.

**Тарата́йка** 'лёгкая павозка на двух колах' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'разбітая, старая брычка' (Скарбы), 'лёгкая выязная каляска' (Сцяшк.), *тарата́йка* 'балбатун' (жытк., Жыв. НС). Укр. *тарата́йка* 'лёгкі вазок на двух колах', дыял. 'расхістаная мэбля; дзіцячая цацка', рус. *таратайка* 'лёгкі вазок', балг. разм. і дыял. *тарата́йка* 'старая павозка', макед. *таратайка* 'тс'. Мяркуюць, што можа быць звязана з *таранта́с*, гл. (Фасмер, 4, 23; ЕСУМ, 5, 518); аднак, несумненна, звязваецца з гукапераймальнымі па паходжанні словамі *тарата*, *таранда*, *таранта* і пад., гл.

**Тарата́рыць** 'весці пустыя размовы, балабоніць' (Нас., Некр. і Байк.). Гл. *тараторыць*.

**Таратаўня́** лаянк. 'тоўстая кабета' (Сержп. Прык.). Няясна; магчыма, да гукапераймальнага *тарата* (гл.), параўн. польск. *taratan* 'выгук, што імітуе голас трубы' і *трубло* 'абжора', гл.

**Тарато́рыць** 'гаварыць вельмі хутка, скорагаворкай' (ТСБМ), 'гаварыць хутка, гучна' (мёрск., Нар. лекс.), 'балбатаць, гаварыць абы-што' (Ласт., ТС), *тарахто́рыць* 'балбатаць, лапатаць, сакатаць' (Скарбы); сюды і *тарата́рыць*, гл. Параўн. укр. дыял. *тарато́рити* 'балбатаць, плявузгаць', рус. *тарато́рить* 'лапатаць', чэш. *trátořiti*, славац. *trátoriť* 'шмат гаварыць, балбатаць'. Прасл. дыял. **tortoriti* з прасл. **tortor-* , якое з'яўляецца падвоеным індаеўрапейскім коранем **tor-* 'гучны; выразны', магчымы варыянт **ter-* (Анікін, ОЛА, Исследов., 1984, 284–286). З непадвоеным коранем у серб.-харв. *тр̀тосити* 'балбатаць не змаўкаючы', рус. дыял. *бато́рить* 'балбатаць', гл. таксама *гутарыць*, што да **toriti*, гл. ЭССЯ, 1, 166; Атрэмбскі, Зб. Раманскаму, 72; параўн. таксама славен. *trtrati* 'шумець, мармытаць' < **tьr-tьr-* (Куркіна, Диал. структура, 86: узводзіць да **terti*, гл. *церці*). Індаеўрапейскія адпаведнікі: літ. *tarýti* > *tar̃ti* 'вымавіць; сказаць', грэч. τορός 'прарэзлівы', *τορέω* 'выразна абвяшчаю; прабіваю', ст.-інд. *tārá-* 'гучны; праніклівы', хец. *tar-* 'казаць; называць' (Фасмер, 4, 86–87; Махэк₂, 636; Карскі, 2–3, 87; Чарных, 2, 229; Новое в рус. этим., 230; ЕСУМ, 5, 521).



**Тарату́н** 'балбатун', *тарату́ха* 'балбатуха' (Нас., Некр. і Байк.). Да гукапераймальнага *тарата*, гл. *тарара*.

**Тарато́нты** 'розныя асабістыя, уласныя справы' (Нас.). Відаць, эўфемізм, аформлены экспрэсіўным суф. *-энты* на польскі лад, зыходнае, магчыма, **таратуты* ад гукапераймання, параўн. укр. *тарату́та* 'выклічнік, што передае стук пры таўчэнні ў ступе', параўн. ЕСУМ, 5, 521. Параўн. таксама *тарэмтанды*, гл.

**Тара́х** 'бух, тарарах' (беласт., Сл. ПЗБ), сюды ж дзеясловы *тара́хаць* 'ляскатаць, стукацець' (Касп.), *тара́хати* 'біць, стукаць' (кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.), *тара́хкаць* 'тарахцець, бразгацець, брынчаць; трашчаць, гаварыць упустую', *тарахне́ць* 'тарахцець, бразгатаць' (ТС), *тара́хнуць* 'моцна ўдарыць' (Растарг.), *тарахце́ць* 'утвараць рэзкія раскацістыя гукі', 'хутка, гучна, несупынна гаварыць; балбатаць' (ТСБМ, ТС), 'бразгатаць, ракатаць, бурчаць' (Яўс., Варл.), 'ехаць з грукатам, грымець, лескатаць' (Некр. і Байк.; ашм., Стан.; Федар. 1, Бяльк.): *Ілля па небу тарахціць* (Сержп. Прык.), 'стукацець': *жаўна тарахціць дзюбам* (Сержп. Прымхі). Параўн. укр. *тара́х*, *тара́хкати*, *toро́х*, *торохті́ти* 'грукаць, грукацець', рус. *тарахте́ть* 'грымець (пра экіпаж)', дыял. *торохну́ть* 'грымнуць', польск. дыял. *tarach* 'вывараценъ', *tarachnąć* 'грымнуць', што параўноўваюцца з *трахнуць* (Брукнер, 565). Гукаперайманне (Фасмер, 4, 23), гл. *тарарах*.

**Тарахцёлка** 'бразготка' (Байк. і Некр.). Ад *тарахцець*, гл. папярэдняе слова.

**Тарачу́шка** ‘сакатуха (курыца, самка)’ (бялын., Жыв. св.). Да *таро́чыць*$_2$, гл.

**Тара́чыць** ‘цягнуць’ (Нар. Гом.), ‘несці’ (Юрч.): *скачы не скачы, а грошы тарачы* (Сержп. Прык.), *тыра́чыць* ‘везці ў маленькай калясачцы’ (Бяльк.). Гл. *тарочыць*$_1$.

**Тарачы́ць**$_1$ *(торочы́ті)* ‘многа раз паўтараць’ (Шатал.), ‘сакатаць; бурчаць, сварыцца; размаўляць з прыемнасцю’ (Яўс.). Гл. *тарочыць*$_2$.

**Тарачы́ць**$_2$ ‘сохнуць (у горле)’ (навагр., Сл. ПЗБ). Няясна; семантыка, відаць, вызначана недакладна, параўн.: *што-та горла тарачыць* (там жа), г. зн. ‘дзярэ’. Тады, магчыма, да прасл. **torščiti*, параўн. рус. дыял. *торо́щить* ‘часаць’, значэнне якога, паводле Варбат (Этимология – 1971, 14), блізкае да значэння ‘скрабсці’ ў зыходным прасл. **toršiti*, **tьrxati*, што да асновы і.-е. **ter-* ‘драць’ (Варбат, Супр. чыт., II, 17). Гл. наступнае слова.

**Тара́шчыць** ‘шырока раскрываць (вочы); здзіўлена або спалохана глядзець’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *тарэ́шчыць* ‘вылупляць (вочы)’ (дзісн., Нар. сл.); сюды ж *тарашча́ка* ‘вірлавокі, лупаты, зіркаты’ (Ласт.). Укр. дыял. *тара́щити* ‘вытрэшчваць, вылуплівація’, рус. *тара́щить* ‘тс’, дыял. ‘растапырваць’, *тара́щиться* ‘цягнуцца, плясціся’. Варбат (Этимология – 1971, 14) рэканструюе **torščiti* як ітэратыў да **tьrskati*, гл. *тараскаць*. Сувязь з *вы́трашчыць* (гл.), укр. *витріща́ти* ‘вытрэшчваць’, польск. *wytrzeszczyć* ‘вытрашчыць’, чэш. *vytřeštiti* ‘тс’, славац. *vytreštit'* ‘тс’ застаецца праблематычнай, гл. Фасмер, 4, 23; ЕСУМ, 5, 522. Параўн. *тапарашчыць*, гл.

**Тарба́н** ‘струнны шчыпковы музычны інструмент, блізкі да бандуры’ (ТСБМ), параўн.: “белорусский торбан (нечто вроде гитары)” (Шпіл., Путешествие, 115), *тараба́н* ‘музычны інструмент з 24 струнамі, які вісеў на грудзях’ (Варл.), сюды ж, магчыма, *тараба́йка* ‘від гітары’ (Вруб.). Укр. *то́рба́н* ‘музычны інструмент, падобны да бандуры’, рус. *торба́н*, польск. *tyorba*, *torban, teorban* ‘вялікая лютня; бандура’. Праз польскую мову з італ. *tiorba* ‘лютня’. Інструмент вынайдзены ў XVI ст. у Фларэнцыі, паходжанне італьянскага слова невядома (Брукнер, 568; Фасмер, 4, 82; ЕСУМ, 5, 602). Агляд версій гл. Праці, 984–985. У народнай мове збліжана з *тарабан* ‘барабан’, гл.

**Тарбано́шка** ‘скураная сумачка’ (Байк. і Некр.), *торбано́шка*, *тырбано́шка* ‘скураная машна для грошай, якую носяць на поясе’ (Нас., Бяльк.). Складанае слова з *торба* (гл.) і *насіць*, *ноша* (гл.), параўн. *механоша*, гл.



**Тарбатро́с** ‘бессумленны ліхвяр, што самых бедных людзей рабуе’, ‘жабрак, бядняк, што торбамі трасе’ (Варл.), *торбатруо́с* ‘жабрак’ (мазыр., Мат.). Параўн. укр. дыял. *торбатра́с* ‘тс’. Лакальнае ўтварэнне ад *торба* (гл.) і *трасці* (гл.); у абагуленым запісе, прынятым у АЛА, – **torbotręsъ* (ОЛА, 8, к. 59).

**Тарбахва́т** ‘злодзей, рукаты’ (Янк. 2); ‘злодзей, той, хто займаецца дробнай кражай’, ‘хабарнік, казнакрад’ (Янк. 3), ‘хапуга’ (Юрч. Вытв.), ‘дробны злодзей’ (Варл.), ‘кар’ерыст’, ‘злодзей’ (Яўс.). Ад *торба* (гл.) і *хватаць* (гл.) з далейшым семантычным развіццём да ‘хабарнік, кар’ерыст’.

*****Тарбе́не**, *торбе́не* н. р. ‘целяпень’ (ТС). Ад *торба* (гл.) з семантыкай ‘маларухомы, тоўсты чалавек’ і рэдкай суфіксацыяй, параўн. *разявеня* ‘разявака’ (гл. *разява*). Адносна магчымага балтыйскага уплыву ва ўтварэннях на *-еня* гл. Лаўчутэ, Лекс. балтызмы, 20.

**Тарбі́чыцца** *(тырбі́чыцца)* ‘спрабаваць уціснуцца (у натоўп, зараслі і пад.)’ (васіл., Лаўшук, вусн. паведамл.), *торбі́чыць* ‘скідаць’ у прымаўцы: *прыдзе вербіч (= вербніца), то кожуха торбіч* (ТС, тлумачэнне ‘апранаць’, відаць, памылковае); сюды ж, магчыма, і *торбу́ць* – выклічнік да ‘кінуць, скінуць’: *торбуць ту просцілку* (ТС). Параўн. рус. смален. *тарбува́ть* ‘гнаць коней з пашы’ (Дабравольскі), паводле Фасмера (4, 23), няяснае па паходжанні. Цьмяныя словы, магчыма, звязаны з *тарабічыць*, гл.

**Тарбу́ль** ‘цяжкі клунак’, ‘здаровы хлопчык’ (Яўс.), ‘кавалак бервяна’ (Мядзв., Мат. Гом.). Няясна; сувязі з *торба* могуць мець другасны характар. Параўн. славен. *trban* ‘злёгку абчасанае бервяно; дурань’ (да **tьrbati* ‘рубаць’, гл. Варбат, Этимология – 1973, 26; гл. *церабіць*). Параўн. *турпыль*, гл.

**Тарбэ́чнік** ‘бедны, гаротны чалавек’ (мёрск., З нар. сл.), *тарбэ́чнік*, *тарбе́чнік* ‘бедны, жабрак’, ‘злодзей, тарбахват’ (Янк. 3), *тарбэ́шнік* ‘бедны, гаротны чалавек, жабрак’ (Мат. Маг.), *тарбе́чнік*, *тарбэ́тнік* ‘жабрак’ (Сцяшк. Сл.), *торбе́шнік* ‘спекулянт’ (Мат. Гом.), ‘сярмяжнік, бедны чалавек’, сюды ж *тарбе́шнічаць* ‘выпрошваць’ (Яўс.), *тэрбе́шніца* ‘жабрачка’ (акц., ЛА, 3). Укр. *торбе́шник* ‘жабрак’. Лакальнае ўтварэнне ад *торба* (гл.) з экспрэсіўнай суфіксацыяй у назвах асоб (пра суф. *-ешнік* гл. Сцяцко,

Афікс. наз., 153), параўн. *торбачнік* 'чалавек, які ходзіць з торбай' (люб., Нар. словатв.).

**Таргава́ць** 'прыцэньвацца, дамаўляцца аб цане; займацца купляю і продажам' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Стан., Федар. 4, Сержп. Прымхі), *таргува́ць, тыргува́ць* 'тс' (Бяльк.), *торгова́ць* (ТС), ст.-бел. *пустили търговатъ, поидеть торговатъ* (1341 г., Карскі, 2–3, 400). Гл. *торг*.

**Тарга́нка** 'конная малатарня' (Сл. Брэс.). Магчыма, на базе ўкр. *тарга́нити* 'цягнуць, валачы', што з польск. *targać* 'смыкаць, цягнуць, рваць', параўн. польск. *targanka* 'мятая салома'; па лінгвагеаграфічных прычынах менш верагодна самастойнае ўтварэнне ад *тарга́ць*, гл.

**Таргану́ць** 'рэзкім рухам пацягнуць, штурхануць', 'зрабіць рэзкі неадвольны рух' (ТСБМ), 'рушыць з месца' (шальч., Сл. ПЗБ). Аднакратны дзеяслоў ад *торгаць*, гл.

**Та́ргаць** 'трымаць': *не хачу, каб мяне таргалі* (гродз., Сл. ПЗБ). Імаверна, з польск. *targać* 'смыкаць, цягаць, разрываць' з семантычнымі зменамі (недакладная семантызацыя або ўжыванне слова).

**Тарга́ць** 'тузаць, смыкаць, церабіць' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.), 'тузаць, торгаць' (Стан.). Да *торгаць* (гл.) з адлюстраваннем акання ў першым складзе ў сувязі з канцавым націскам, хутчэй за ўсё, паводле *сказа́ць – сказану́ць*, гл. *тарганудь*. Параўн. рус. *расторга́ть – расто́ргнуть* 'разарваць', гл. Фасмер, 4, 83.

**Таргі́** 'торг; пакупнікі' (Ян.). Гл. *торг*.

**Таргі́каць** *(таргікъць)* 'ісці кульгаючы' (мёрск., Нар. сл.), *татаргі́к-татаргі́к* 'перадае кульгавасць' (Барад.). Экспрэсіўныя ўтварэнні, суадносныя з выклічнікам *таргі́к*, да *торгаць*, гл.

**Таргоўля** 'торг, купля' (Байк. і Некр.), 'гандаль' (Бяльк.), 'гандлёвая сетка' (даўг., Сл. ПЗБ), 'гандлёвая дзейнасць' (брасл., Сл. ПЗБ). Укр. *торгівля* 'гандаль', рус. *торго́вля* 'тс'. Усходнеславянскае арэальнае ўтварэнне ад *таргаваць* (гл.) па тыпу *гадоўля* (ад *гадаваць*), *галадоўля* (ад *галадаць*) і пад.; адносна ўтварэнняў з суф. *-оўл-я* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 91. З захаду беларускага моўнага арэала актыўна выцяснялася германізмам (ідышызмам?) *гандаль*.

**Таргу́н** 'расліна агурочнік, якую кладуць у агуркі, калі нарыхтоўваюць іх на зіму' (Растарг., Расл. св.). Параўн. укр. дыял. *тургу́н* 'эстрагон, Artemisia dracunculus L.', *торгу́н* 'птарміка, Achillea ptarmica', рус. *таргу́н, тургу́н* 'эстрагон', польск. *tarhun, torhon, toruń ziele* 'тс'. Запазычана з тур. *tarhun* 'тс', што з араб. *tarhun (tharkun)* 'тс' (Брукнер, 21; ЕСУМ, 5, 679), шляхі пранікнення няясныя (Папоў, Из истории, 73).



**Таргупаны** 'звычай пры дабіранні канапель' (бягом., Яшк. Мясц.). Няясна; пачатак слова, відаць, звязаны з *торгаць*, гл.

**Тарды́нка** *(тырды́нка)* 'жалезны абручык, які набіваецца на калодку кола' (кам., Шатал.). Гл. *тарарынка*.

**Та́рка** 'прадмет кухоннага ўжытку, які служыць для раздраблення, расцірання' (ТСБМ, Нас., Шымк., Касп., Растарг., Варл., Сержп. Грам., Арх. Вяр.), сюды ж 'дошка для мыцця бялізны' (Сцяц. Сл., Сцяц.; ваўк., Сл. ПЗБ), 'церніца (лён церці)' (трак., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тарка* 'тарка': *тарку купили в дорогу* (1682 г., КГС); *таркава́ць* 'церці на тарцы' (Скарбы, Сцяшк., Янк. 2, Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *таркава́ць* 'тс' (ТС, ЖНС, Лекс. Бел. Палесся), *таркава́ны* 'сцёрты на тарцы' (Сцяшк.; паст., швянч., Сл. ПЗБ; лун., Шатал.), *таркава́ная ка́ша* 'бабка (страва)' (паст., ЛА, 4). Запазычана з польск. *tarka* 'кухонная прылада' (Цвяткоў, Запіскі, 2, 58).

**Тарка́н** 'таракан' (Нас., Жд. 1), *тарка́нік, тарканóк* 'малады таракан' (Нас.). Гл. *таракан*; адсутнасць поўнаналосся тлумачыцца "падтрымліваючым уплывам" цюркскіх моў, калі прыняць сувязь са ст.-цюрк. *таркан* 'ганаровы тытул', гл. Дабрадомаў, Бел. лекс., 43.

**Тарканóк** 'шпілька для валасоў, заколка' (Касп.). Да папярэдняга слова, параўн. *жуковіна* 'пярсцёнак', гл.

**Таркану́ць** 'торкнуць' (ТСБМ), 'крануць' (Варл., Пятк. 2), 'крануць (каня лейцамі)' (Янк. 2), 'крануць, варухнуць, чапануць', 'клюнуць (рыбацкае)' (Янк. 3), *торкену́ць* 'таўхануць, штурхнуць', *торкну́ць* 'крануць, 'штурхнуць'. Гл. *тарка́ць*.

**Тарката́ць** 'выдаваць бесперапынныя гукі, трэлі' (ігн., Сл. ПЗБ). Укр. *торкота́ти* 'тарахцець', польск. *tarkotać* 'грукатаць (пра матор, цягнік)', славац. *trkotat'* 'балбатаць'. Гукапераймальнае ўтварэнне, аналагічнае да *туркатаць*, гл.

**Та́ркаць** 'крычаць (пра гусей)': *гусі таркаюць так: тыр-тар* (в.-дзв., Шатал.), *та́ркаюць, тэ́ркаюць* 'гагочуць (гусі)' (паст., карэліц., стаўб., ЛА, 1). Гукапераймальнае, параўн. *таркатаць*, гл.

**Тарка́ць** 'соваць, торкаць', 'штурхаць, будзіць' (ТСБМ, Нас.), 'кляваць (пра рыбу)' (мазыр., ГЧ), 'рухаць' (Шпіл.), *та́ркаць*

‘штурхаць’ (Сцяшк. Сл.), *торка́ць* ‘чапаць, кратаць’, ‘кляваць’ (ТС), *тарка́цца* ‘торкацца’ (Растарг.), *торка́цца* ‘варушыцца, калывацца’ (ТС). Укр. *торка́ти* ‘кратаць, кранаць, чапаць; закранаць’. Гл. *торкаць*.

**Та́ркі** ‘прыстасаванне ў млыне для вырабу круп’ (стаўб., З нар. сл.). Да *тарка* (гл.) у мн. л. як тэхнічны тэрмін.

**Тарко́ванка** ‘бабка (з дранай бульбы)’ (люб., слуц., Нар. словатв.; асіп., слуц., салiг., ЛА, 4), ‘бульбяная каша’ (Сл. рэг. лекс.), ‘бабка, дранка, каша з дранай бульбы’ (чырв., З нар. сл.), ‘сырая драная бульба’ (жытк., ЖНС; Вешт.), *тарко́ванне* ‘бабка’ (лун., ЖНС). Ад *таркава́ць* ‘церці на тарцы’ < польск. *tarkować* ‘тс’, гл. *тарка*.

**Тарля́цца** ‘хадзіць без справы’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *tarlać się* ‘валяцца’, роднаснага *tarzać się* ‘куляцца, валяцца’, што да *trzeć* (Брукнер, 565), гл. *церці*. Меркаванне пра запазычанне з літ. *terliótis* ‘пэцкацца; валтузіцца’ (Грынавяцкене, LKK, 22, 196), дзе асноўнае значэнне ‘брудзіць, пэцкаць’, здаецца менш верагодным, паводле Смачынскага (672), першапачаткова ‘распасцерці на зямлі’. Нельга выключыць і гукапераймальнае (імітатыўнае) паходжанне, параўн. серб.-харв. *то̀рлати* ‘моцна крычаць; выстаўляцца, хваліцца’ (інакш, як узнікшае на базе турцызма *то̀рлак*, разглядаецца Скокам, 3, 484).

**Тармазі́ць** ‘запавольваць, спыняць рух’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *тормозі́ті* ‘тс’ (Вруб.), *тормозі́ць* ‘хваляваць, парушаць; уплываць на нармальную працу’ (КСТ), *тормозова́ць* ‘тузаць, тармасіць’ (ТС); сюды ж *то́рмаз* ‘механізм для тармажэння’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *тармаза́* ‘непаседа’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *тармазы́* ‘падрэзы (ў санях)’ (лудз., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. *тормози́ть* ‘запавольваць, спыняць рух’, дыял. *тормози́ть* ‘гаварыць глупствы, несці лухту’, *тормози́ться* ‘хвалявацца, непакоіцца’, серб.-харв. *тр̀мизати* ‘рухацца, кранацца’, балг. *тормо́зя* ‘затрымліваць развіццё, перашкаджаць’, ‘гнясці, прыгнятаць’ (маральна). Словы без пэўнай этымалогіі. Тэхнічны тэрмін выводзяць з грэч. τορμος ‘устаўленае ў адтуліну; дзірка з затычкай, цвіком, калочкам’ (сумніўна, гл. Трубачоў, Дополн., 4, 84) або з цюрк. *turmaz* ‘падкладка пад калёсы арбы’ (там жа), што, відаць, запазычана з рускай мовы. Дзеясловы з больш шырокай семантыкай Куркіна (Этимология – 1974, 44–45) зблізкае з **tьrm-* з пашыральнікам *-z-*,



што ўрэшце да і.-е. *ter-* са значэннем ‘церці’. Няпэўна; цяжка семантычна адмежаваць ад *тармасіць* (гл.), параўн. і польск. дыял. *termożyć* ‘марудзіць, траціць час’.

**Тармантбо́ўка** ‘аўтаручка’ (Сцяшк. Сл.). З **атрамантоўка*, ад *атрамант*, гл.

**Тармасі́ць** ‘тузаць, торгаць’, ‘чапляцца’ (ТСБМ), ‘трасці, тузаючы; цягаць, рваць’ (Нас.), ‘трасці, тузаць’ (Ласт., Растарг.), ‘торгаць за валасы або вуха’ (Варл.), ‘растрасаць пражу пасля адпарвання’ (Жд. 2), *тармасі́ць* ‘тармазіць’ (Гарэц.), *тормосі́ті* ‘трасці’ (Вруб.), *тармасі́ць, тармашы́ць* ‘торгаць’ (Некр. і Байк.), *тармасну́ць* ‘трасануць’ (Юрч. Вытв.), *тармса́ць* ‘тузаць, торгаць, трапаць’ (ТС); ст.-бел. *тармоси́ти, тормоси́ти* ‘тармасіць’ (1597 г., КГС); сюды ж *тармаса́* ‘валтузня, важданіна, тармашэнне’ (Нар. словатв., Федар. 4), *тармасава́цца* ‘валтузіцца’ (Яруш.; навагр., Шн. 2), укр. *термо́сити*, дыял. *тормо́сити* ‘цягаць, тузаць, трэсці; хістаць’, *тирмо́сити* ‘тармашыць’, рус. *тормоши́ть* ‘тс’, польск. *tarmosić*, дыял. *termosić* ‘тузаць, трасці; мяць, гнясці’, славац. *trmosiť sa* ‘трэсціся, тузацца’, а таксама фармальна адрозныя без суф. *-os-*, што інтэнсіфікуе дзеянне, укр. дыял. *те́рмати* ‘тармашыць, тузаць, трасці’, чэш. *trmácet* ‘мучыць, стамляць’, дыял. *trmati* ‘тс’, славац. *trmat’* ‘вырываць, тармасіць, тузаць’. На падставе апошніх выводзіцца магчымае прасл. **tr̥mati* ‘тузаць, рваць’, што з першаснага **tr̥m-* < і.-е. **ter-* з пашыральнікам *-m-* і значэннем ‘церці’ (Борысь, 628). Мяркуюць, што можа быць аддалена роднасным да грэч. τρέμω ‘трымчу, трасуся’, лац. *tremo, -ere* ‘трымцець’, тахар. A *träm* ‘тс’, тахар. B *tremem* ‘трымценне, дрыжыкі’, алб. дыял. *trem* ‘палохаюся’, літ. *trìmti* ‘дрыжаць ад холаду’ (Фасмер, 4, 84; Махэк$_2$, 651; ЕСУМ, 5, 554).

**Тармасу́ха** ‘назва танца’: *полька-тармасуха* (Барад.). Да папярэдняга слова.

**Тармашы́ць** ‘тузаць, трасці’ (Гарэц.), *тармашы́ць* ‘тс’ (Бяльк.), сюды ж *тармашэ́нне* ‘тузанне, торганне’ (ТСБМ). Параўн. рус. *тормоши́ть* ‘тузаць, трасці’. Фанетычна зmененае *тармасіць* (гл.) па аналогіі да формы 1-й ас. адз. л. *тармашу*, польск. *tormoszę* і пад.

**Тарна́біць** ‘валачы, цягнуць, несці з цяжкасцю’ (Скарбы), сюды ж, магчыма, *тарнэ́піць* ‘валачы, несці, везці’ (карэліц., Нар. сл.). Мажліва, ад *тарабаніць$_2$* (гл.) з перастаноўкай зыч-

ных *б(п)* і *н* і пропускам галоснага або з экспрэсіўнай устаўкай з *тараніць*₃ 'несці', гл.

**Тарнава́ць**₁ 'малаціць перавернутыя неразрэзаныя снапы' (Нас.), 'малаціць неразвязаныя снапы' (Байк. і Некр.), 'малаціць перакуленыя неразрэзаныя снапы', 'адбіваць калоссе і адкідваць яго ўбок' (Касп., Стан.). Параўн. рус. дыял. *тарнава́ть* 'малаціць збожжа ў снапах, паперамена іх пераварочваючы', *торно́вка* 'малацьба звязаных снапоў'. Гл. *тара́ніць* 'біць, разбіваць цэпам перавязь у снапоў дзеля лепшага абмалоту' (гл.), паводле Насовіча (Нас.), звязана з *таран*₂ (гл.). Няясна. Рускія словы выводзяць са *сторновать* 'тс', якое суадносяць са *стернь* (Праабражэнскі, 2, 385; Фасмер, 4, 84), гл. *сцёран*₂, *стырня*, або са *сторона* (Новое в рус. этим., 219), гл. *старана*.

**Тарнава́ць**₂ 'табаніць, прычальваць, прыставаць да берага' (Ласт.), 'кіраваць, накіроўваць у пэўным напрамку' (віл., шальч., Сл. ПЗБ), 'тармазіць, затрымліваць (плыт)' (віл., іўеў., брасл., Сл. ПЗБ), *тарнава́цца* 'швартавацца' (карэліц., ЖНС). З мовы плытагонаў, параўн.: "Гануля тарнуй: выкрык плытнікаў на Нёмане, азначаючы каманду прыбіваць плыт да берагу" (Ласт., 698). Няясна; мяркуюць пра сувязь з ням. *steuern* 'кіраваць' (Сл. ПЗБ, 5, 90). Гл. таксама *тарно*, *тарнавы*.

**Тарнава́ць**₃ 'біцца ў канвульсіях': *тарнуя кунвурсія; тарнуе* (пра эпілепсію) (чэрв., Сл. ПЗБ; ЛА, 3), 'трэсціся ў ліхаманцы' (Жд. 1), 'турбаваць, хваляваць' (Растарг.), *тарнава́цца* 'калаціцца ад злосці, страху' (Жд. 1), 'мардавацца' (жлоб., Нар. словатв.), 'неспакойна стаяць, кідацца ва ўсе бакі' (чач., ЖНС), 'насіцца, бегаць' (Ян.), 'гарэзіць, шумець (пра дзяцей)' (ветк., Ск. нар. мовы), сюды ж *таранава́ць* 'пра стан, калі чалавек неспакойна сябе паводзіць' (там жа). Запазычанне, параўн. польск. дыял. *tarny* 'мурашкі, дрыжыкі (на целе)', *tarnieć* 'дранцвець', *tarnąć* 'церпнуць', што, паводле Брукнера (566), з першаснага **tarpnąć*, гл. *цярпець, церпнуць*.

**Тарнава́ць**₄ 'прыстасоўваць, прымяняць' (Стан.), 'адносіць; рабіць прыгодным для выкарыстання, прымянення': *ён гэта тарнуе да мяне* (віл., Стан.), *тарнава́цца* 'прыстасоўвацца' (Гарэц., Байк. і Некр.), 'уладкоўвацца, размяшчацца', 'прыстасоўвацца, дапасоўвацца' (віл., Стан.). Наватвор 20-х гадоў на базе *тарнаваць*₃ з першасным значэннем 'турбаваць, хваляваць'; зафіксавана ў першым выданні слоўніка братоў Гарэцкіх (Гарэц. 1) у прыставачным дзеяслове *прытарно́ўваць* 'прыстасоўваць, дапасоўваць', параўн. у сучасным ужыванні *тарнаванае мастацтва* 'ўжытковае, прыкладное мастацтва' (Беларусіка, 19, 226), з далейшым развіццём значэння 'дастасоўвацца, датычыцца'.



**Тарнава́ць**₅ 'цягнуць, несці, везці цяжкае ці вялікае' (Мілк.). Відаць, звязана з *тараніць*₃ 'несці', гл.

**Тарнавы́** 'плытагон, які кіруе плытом з дапамогай жэрдкі-руля' (Скарбы), 'чалавек, які кіруе плытом пры дапамозе доўгага весла – апачыны' (гродз., Нар. сл.), *тарно́вы* 'плытагон, які пры дапамозе завостранага кала затрымлівае плыт' (маст., Жыв. сл.). Відаць, тое ж, што і *стырнавы́* 'галоўны плытнік, што кіруе плытом' (ТСБМ), ад *стыр*, *стырно́* 'рулявое весла' (гл.); параўн. таксама *тарнаваць*₂, гл.

**Тарна́да** 'назва смерчаў у ЗША' (ТСБМ). Культурнае запазычанне новага часу праз англ. *tornado* 'тс' з ісп. *tornado* 'смерч, моцны вецер' < *tronada* 'навальніца' < *tronar* 'грымець'. Слова *tronada* 'навальніца' трансфармавалася пад уплывам іспанскага дзеепрыметніка *tornado* < *tornar* 'круціцца', які звязваюць з лац. *tornare* 'абточваць' (Голуб–Ліер, 446; ЕСУМ, 5, 605–606).

**Тарнато́ўка** 'тонкая шарсцяная хустка чорнага або белага колеру ў чырвоныя кветкі' (стаўб., Нар. сл.). Гл. *тараноўка*.

**Та́рнікі** 'аладкі' (Сцяшк.). Гл. *таранікі*.

**Тарні́стар** 'каністра' (шчуч., Сл. ПЗБ). Праз польск. *tornister* 'ранец' з ням. *Tornister* 'вайсковы ранец'; крыніца ў візант.-грэч. τάγιστρον 'торба для фуражу' або лац. *canistrum* 'торба, кошык'. Шляхі запазычання і пасрэдніцтва (чэшскае, венгерскае) застаюцца няяснымі (Махэк₂, 635; Голуб–Ліер, 485; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 388). Гл. таксама *каністра, кайстра, тайстра*.

**Тарні́тка** 'жалезная бляшанка для збору смалы, прыбітая да хвоі' (Сцяшк. Сл.), *тарні́ткі* 'гліняныя конусападобныя чарачкі для збірання смалы пры падсочцы' (лаг., Полымя, 1970, 12, 129). Няясна; відаць, звязана з папярэднім словам.

**Тарні́ца** 'церніца (для лёну)' (вільн., Сл. ПЗБ). Пераробка ў т. зв. простай мове пад польскім уплывам *це́рніца* 'тс' (гл.), параўн. *та́рліца* 'тс' з польск. *tarlica* 'тс'.

**Тарні́ць** 'складаць сена ў гумно' (Жд.2), 'складваць, парадкаваць' (Сцяшк. Сл.). Звязана з *тарнава́ць*₁?

**Тарнó** ‘чал, вярòўка, якой вадаплаў прымацаваны да берага’ (Ласт.). Відаць, наватвор Ластоўскага на аснове *тарнавáць*$_2$ (гл.) па тыпу *стырно* (гл.), *карнó* ‘карма’ (Ласт.) і пад.

**Тарнóўка** ‘тонкая шарсцяная хустка з кветкамі’ (карэліц., Жыв. сл.). Гл. *тараноўка*.

**Тарнýе** ‘кідае (пра эпілепсію)’ (чэрв., ЛА, 3). Гл. *тарнаваць*$_3$.

**Тáрны** ‘гульня ў мяч’ (Шпіл.). Няясна.

**Тарнэ́піць**, *прытарнэ́піць* ‘валачы, несці, везці’ (стаўб., Нар. сл.). Гл. *тарнабіць*.

**Тарóйкацца** ‘доўга гаварыць, дамаўляцца, спрачацца; валаводзіць, марудзіць, спрачаючыся’ (ТСБМ), ‘гутарыць, спрачацца’ (Шат., Варл., Гіл.), ‘бавіцца; спрачацца’ (Жд. 3), ‘важдацца, займацца’ (паст., Сл. ПЗБ), ‘безвынікова мітусіцца па якой-небудзь справе’ (мядз., Нар. словатв.). Экспрэсіўны варыянт *тарóкацца* ‘спрачацца, доўга дамаўляцца’, гл. *тарокаць*.

**Тарóк** ‘звязка плыта’ (Мат. Гом.), ‘адзін рад змацаваных бярвенняў у плыце’ (кіраў., Нар. сл.), ‘звязка для сплаву плытоў тарцом уперад’ (Дэмб. 2), ‘тарэц (канец бярвенняў у плыце)’ (віц., Нар. сл.), ‘кладка праз рэчку з бярвенняў’ (Бяльк.). Укр. дыял. *тóрок* ‘невялічкі плыт’, рус. дыял. *тóрок* ‘тс’. Гл. *тар*.

**Тарóкаць** ‘размаўляць памяркоўна, спакойна, пра не вельмі важнае’ (Янк. 3), *тарóкъць, тарóкъцца* ‘марудзіць, затрымлівацца’ (мёрск., Нар. сл.), *тарóкацца* ‘доўга гаварыць, дамаўляцца, спрачацца, марудзіць’ (ТСБМ), ‘таргавацца, доўга дамаўляцца, упірацца’ (Кал., Барад.), ‘спрачацца’ (Жд. 2), ‘барукацца’ (швянч., Сл. ПЗБ), сюды ж *торóка* ‘балбатуха’ (іван., бяроз., ЖНС). Параўн. рус. дыял. *тарáкать*, *тарарáкать* ‘балбатаць’, серб.-харв. *тòрдкати* ‘балбатаць, пляткарыць’. Дзеясловы гукапераймальнага паходжання (Фасмер, 4, 21; Скок, 3, 485). Параўн. *тарочыць*$_2$ (гл.).

**Тарóкі** ‘рамяні каля задняй лукі сядла’ (ТСБМ), ‘паляўнічая сетка (для здабычы)’ (Сцяшк.), ст.-бел. *торока* ‘шаўковы шнур’ (Ст.-бел. лексікон), сюды ж *торочкі*, *трóчкі* ‘завязкі ў спадніцы, фартуху, штанах’ (Лекс. Бел. Палесся). Укр. *торокú* ‘рамяні ззаду сядла для прывязвання рэчаў; махры’, *тóрок* ‘махры; абляМоўка’, рус. *торокá* ‘рамяні ззаду сядла’, дыял. *торóка* ‘абляМоўка, махры’, стараж.-рус. *торокъ* ‘рамяні ззаду сядла’, ‘стужка, якая павязвалася на лоб’, польск. *trok, troki* ‘раменчыкі, матузкі; путы’, каш. *trok* ‘пала; паясок’, в.-луж., н.-луж. *trok* ‘матуз, завязка’, чэш. *trak, trák* ‘лямка’, старое *tráky* ‘падцяжкі, шлейкі’, славац. *trak, tráky* ‘тс’, славен. *trak* ‘стужка, вузкая палоска, тасёмка’, серб.-харв. *тра̏к, тра̏ка* ‘тс’, балг. дыял. *трак* ‘шнур у цадзілцы’, макед. *трака* ‘стужка’. З прасл. **torkъ* ‘матузок, завязка’, якое роднаснае прус. *tarkue (tarkne?)* ‘рэмень у вупражы’, лат. *tȩ̄rka* ‘матузок для прывязвання буйкоў у рыбалоўнай сеткі’, ст.-інд. *tarkúḥ* ‘верацяно’, грэч. ἄτρακτος ‘тс, лац. *torquēre* ‘круціць, віць’, *torques* ‘ланцуг’, ст.-в.-ням. *drāhsil* ‘токар’, нова-в.-ням. *drechseln* ‘тачыць’, алб. *tjerr* ‘праду’, ірл. *torc* ‘каса’ з і.-е. **tork-* ‘круціць, віць’, тады першаснае значэнне ‘шнур, скручаны з некалькіх пасмаў’, або і.-е. *terk-* з **ter-* ‘церці’ (Покарны, 1077; Міклашыч, 359; Фасмер, 4, 85; Махэк$_2$, 649; Голуб–Копечны, 388; Шустар-Шэўц, 1533; Борысь, 642; Сной$_2$, 776; SEK, 5, 171; Новое в рус. этим., 233–234; ЕСУМ, 5, 604).



**Тарóпіцца** ‘ўглядацца’ (ганц., Ск. нар. мовы), *тарóпіць* ‘утаропліваць (вочы)’ (ТСБМ, Нар. Гом.) звязана з *торап* ‘сполах, перапуд, страх’, першапачаткова ‘глядзець са страхам, застыўшы ад нечаканасці’. Гл. *тарапіцца*$_2$, *утаропіцца*.

**Тарóпкі** ‘які спяшаецца, робіць паспешна’ (ТСБМ). Гл. *тарапіцца*$_1$.

**Тарóпна** ‘страшна’ (Скарбы). Гл. *тарапіцца*$_2$.

**Тарóчыць**$_1$ ‘везці (з грукатам)’ (лях., Сл. ПЗБ), *тарáчыць* ‘цягнуць, несці, везці’ (Сержп. Прык., Бяльк., Юрч., Нар. Гом.). Параўноўваюць з літ. *taračkinti* ‘цягнуць, валачы’, *taračkénti* ‘цягнуць па зямлі з шумам’ (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1971, 1, 94), што наўрад ці магло быць крыніцай запазычання. Хутчэй гукаперайМальнае, гл. наступнае слова.

**Тарóчыць**$_2$ ‘сакатаць (пра курэй)’ (віц., сен., лёзн., ЛА, 1), ‘трашчаць’: *у выгарі лягушкі тарочуць* (Касп.), ‘квакаць, крахтаць (пра жаб)’ (лёзн., Жыв. св.), ‘гаварыць’ (гродз., ЖНС; Жд. 1), ‘балбатаць’ (Мат. Гом.), *торóчыць* ‘гаварыць абы-што, задурваць галаву’ (ТС), *торóчыті* ‘тс’ (Вруб.), *торóчыты* ‘расказваць, даказваць’ (Сл. Брэс.; Горбач, Зах.-пол. гов.), ‘гаварыць’, ‘дзяўбці’ (Клім.), ‘дурыць, абдурваць, казаць бязглуздасць’ (драг., Жыв. НС), ‘цвярдзіць, назаляць адным і тым жа’ (пін., Нар. лекс.), ‘дакучліва гаварыць, расказваць’ (драг., Нар. лекс.), *тарачыць* ‘сакатаць; бурчаць, сварыцца; размаўляць з прыемнасцю’ (Яўс.), ‘многа

раз гаварыць' (Шатал.). Параўн. укр. *торо́чити* 'гаварыць тое самае шмат разоў, гаварыць глупства', рус. *торо́чить* 'тс'. Гукапераймальнае, суадносіцца з *тарокаць*, гл.

**Тарпа́**$_1$ 'вялікая сцірта снапоў або саломы пад адкрытым небам' (ТСБМ, Ласт., Шат., Байк. і Некр.), 'куча снапоў, складзеная камлямі навонкі, а каласамі ў сярэдзіну' (Варл.), 'застаронак у гумне' (тураў., ЛА, 2), 'частка ў гумне, якая заложана адным відам збожжа' (кругл., валож., ЛА, 5), 'прыстаронак, месца ў гумне паабапал току, дзе складваецца збожжа' (Сл. ПЗБ, Шатал.), 'сціртa, складзеная ў гумне паміж дзвюх супрацьлеглых сцен вузкай паласой; дах на слупах без сцен, дзе складалі сена' (Касп.), *торп* 'сціртa снапоў у гумне' (ТСБМ, Тур., Сцяшк.; ашм., Стан.), 'адгароджаная частка гумна, застаронак' (Сл. ПЗБ), *тарпіна* 'застаронак' (гродз., Сл. ПЗБ), *торпі́на* 'сціртa (сена, саломы, збожжа)' (стол., ЛА, 2), ст.-бел. *торпъ* 'тс' і адзінка для вымярэння неабмалочанага збожжа'. Фіксуецца з 1539 г. і лічыцца запазычаннем з літ. *tárpas* (Буга, Rinkt. 2, 630; Булыка, Лекс. запазыч., 95; Лаўчутэ, Балтизмы, 34; Гутшміт, ZfSl, 19, 269), дзе развіццё значэння ад 'прамежак' да 'застаронак', гл. Анікін, Опыт, 288. Разглядаецца як балта-фрака-беларуская ізаглоса, параўн. фрак. *tarpas*, *terpas* 'зазор, прамежак', гл. Санько, Бел. гіст. агляд, 14, 1–2, 329.

**Тарпа́**$_2$ 'торф' (Сцяшк., Сл. Брэс., Янк. 2; дзятл., маст., брасл., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), 'тарфяное балота' (брасл., Сл. ПЗБ), *торпа́* 'торф, іл' (жыт., Жыв. НС). Адаптаванае ў народнай мове *торф* (гл.; замена *ф* > *п*, канчатак ж. р. *-а* з-за фанетычна не ўласцівага канцавога спалучэння *-рп*, перанос націску на канцавы склад), гл. таксама *торп*$_2$.

**Тарпа́к** 'спружыноўка', *тарпа́чыць* 'баранаваць спружыноўкай' (мёрск., ЖНС), сюды ж *тарпа́чык (тырпа́чык)* 'зламаны ножык' (Бяльк.). Няясна; параўн. польск. дыял. *tarpać* 'рваць, драць, тармасіць, тузаць', параўн. іншую назву спружыноўкі – *драпа́к* (ТСБМ).

**Тарпа́н** 'дзікі конь, які вадзіўся ў Еўропе і быў вынішчаны ў канцы XIX ст.' (ТСБМ). Праз рус. *тарпа́н* з кірг. *тарпан* 'дзікі конь; конь, які не церпіць на сабе вершніка', роднаснага да казах. *тарпан* 'наравісты конь', *тарпы* 'біць пярэднімі нагамі' (Фасмер, 4, 24; ЕСУМ, 5, 524).



**Тарпане́т** 'партаманет' (Растарг.). З метатэзай у народнай мове ад *партамент* 'тс', гл. *партаманет*.

**Тарпаты́на** 'сумесь смалістых рэчываў для атрымання шкіпінару і каніфолі, жывіца' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'шкіпінар' (Гіл., Скарбы, Сл. Брэс., Сцяшк., Сцяц. Сл., Сцяц.), *тарпаты́н* 'шкіпінар' (Сл. Брэс., Сцяшк.), *тарпаты́н* 'шкіпінар, тарпатына' (Сержп. Прымхі; шальч., стаўб., ганц., брасл., Сл. ПЗБ; лях., Янк. Мат.), *тарпанты́на* 'прадукт смалакурэння, шкіпінар' (гродз., Нар. сл.; ашм., Стан.), *тэрпанты́на* 'тс' (Некр. і Байк.), *тэрпаты́на* 'шкіпінар, тарпатына' (беласт., смарг., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *терпентина*, *терпетина* 'тэрпентын'; сюды ж *тарпаты́нніца* 'смалакурня' (шчуч., ЛА, 3). Праз ст.-польск. *terpentyna* 'тс' з с.-лац. *terpentinus* (Булыка, Лекс. запазыч., 149).

**Тарпачэ́** 'здані' (карэліц., З нар. сл.). Гл. *тарапачэ*.

**Тарпе́да** 'падводны сігарападобны снарад' (ТСБМ), сюды ж *тарпэ́ды* 'басаножкі' (Сцяшк.). Праз рус. *торпе́да*, польск. *torpeda* з англ. *torpedo* 'электрычны скат; тарпеда' < лац. *torpēdo* 'стан нерухомасці; электрычны скат'. У сучасным значэнні з пачатку XIX ст. (ЕСУМ, 5, 608; Черных, 2, 252; Голуб–Ліер, 485). Назва басаножак, хутчэй за ўсё, па знешняму падабенству. Меркаванні Лаўчутэ (Балтизмы, 133) аб запазычанні назвы з балтыйскіх моў, параўн. літ. *pė̃de*, *pėdžià* 'басаножка, падэшва з вяровак' < *pė̃da* 'ступа, ступня', пры няясным паходжанні пачатку слова не пераконваюць. Параўн. *танкеткі*, гл.

**Тарпі́на** 'застаронак' (ваўк., гродз., Сл. ПЗБ). Улічыўшы балтыйскае паходжанне зыходных *торп*, *тарпа* (гл.), магчыма дапусціць узнікненне назвы з суф. *-ін-а*, параўн. *тапі́на* 'багна', *закла́дзіна* 'падваротня' і пад. (Сцяцко, Афікс. наз., 42), пад уплывам літ. *tarpìnė* 'застаронак' (Сл. ПЗБ, 5, 91).

**Тарпэ́** 'мітусенне, мільгаценне ў вачах' (шчуч., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка мяркуюць пра сувязь з літ. *tarpaĩ* 'кругі', што сумніўна, гл. *тарапачэ*.

**Тарсі́нкі** 'лёгкія тапачкі' (Жд. 3). Утворана ад рус. *Торгси́н* 'гандлёвая кампанія па продажы дэфіцытных тавараў за валюту і каштоўныя металы ў савецкі час (20-я гады)' (размоўнае скарачэнне «Всесоюзное объединение по торговле с иностранцами»).

**Тарта́йка** 'балбатун' (жыт., ЖНС). Да *тарата́йка* (гл.) з сінкопай (пропускам галоснага).

**Тарта́к** ‘лесапільны завод’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Вруб.), ‘лесапілка’ (Жд. 2; пруж., Ск. нар. мовы), *тертáк* ‘тс’ (Вруб.). З польск. *tartak* ‘лесапільны завод’ ад дзеепрыметніка *tarty* ‘цёрты’ < *trzeć* ‘церці’ (гл. *церці*), старое значэнне ‘пілаваць’ (Борысь, 628; Трубачоў, Ремесл. терм., 377), параўн. *тарчыца* ‘дошка’, гл.

**Та́ртар** ‘у старажытнагрэчаскай міфалогіі – падземнае царства мёртвых’, ‘пекла’ (Некр. і Байк.). Укр., рус. *тáртар* ‘тс’. Стараж.-рус. *тартáръ*, *тарътаръ* праз ц.-слав. **тартаръ** з грэч. Τάρταρος, мн. л. Τάρταρα ‘падземная бездань, падземнае царства’. Паходжанне грэчаскага слова невядомае (Фасмер, 4, 25; ЕСУМ, 5, 524–525), але Шантрэн (1095) мяркуе пра ўсходнюю крыніцу запазычання.

**Тартары́ца** ‘вялікая спраўная жанчына’ (полац., Нар. лекс.). Няясна.

**Тарту́ра** ‘катаванне’ (Ласт.), *тортýры* ‘мардаванне; строгі допыт з катаваннем’ (Нас.), ‘мучэнне’ (Беларусіка, 19, 226). Праз польск. *tortura*, *tortury* ‘катаванне, мучэнне’ з лац. *tortūra* ‘мука, катаванне’ < *torquēre* ‘круціць; катаваць’ (Голуб–Ліер, 485; ЕСУМ, 5, 608–609).

**Тарці́на** ‘кавалак торфу’ (карэліц., Янк. Мат.). З *тарфіна* ‘тс’ (гл. *торф*) з прыпадабненнем зычных.

**Тарцыя́рка** ‘багамольная жанчына, якая дала абяцанне кожны дзень хадзіць у касцёл’ (Скарбы). З польск. *tercjarka* ‘прыналежная да ордэна св. Францыска’, ад *tercja* ‘кананічная гадзіна’ (< лац. *tertius* ‘трэці’, г. зн. ‘прыналежны да 3-й ступені ў ордэне’, гл. Брукнер, 569).

**Та́рча** ‘шчыт’ (Байк. і Некр., Нас.), ‘малы шчыт, у сярэдзіну якога прасоўвалася рука’ (Ласт.), ст.-бел. *тарча*, *тарчъ*, *тарчь* ‘шчыт’ (XV ст., Ст.-бел. лексікон, Карскі, 2–3, 456). Запазычана са ст.-польск. *tarcza*, *tarcz* ‘тс’ < с.-в.-ням. *tartsche* ад ст.-франц. *targe* ‘круглы скураны шчыт’ (Булыка, Лекс. запазыч., 68; Борысь, 627).

**Тарча́к** ‘галоўны корань дрэва, старчак’ (паст., Расл. св.), *тарчмáк* ‘тс’ (бялын., ЛА, 1). Назоўнікі ад *тарчáць*, паралельнага да *тырчáць* (гл.), параўн. яшчэ *старчáк* ‘тс’; апошняя форма пад уплывам *тарчма*, гл.

**Тарча́ць** ‘выпінацца, выдавацца, вытыркацца; знаходзіцца перад вачыма’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Бяльк.), *тарчэ́ць* ‘тс’ (барыс., Шн. 2; Касп., Сл. ПЗБ; дзісн., Нар. сл.), *торчáць* ‘тс’ (ТС). Укр. дыял. *торчáти* ‘тырчаць, выдавацца, выступаць’, рус. *торчáть* ‘тс’, стараж.-рус. *торчати* ‘тс’, польск. дыял. *terczeć* ‘тс’, каш. *tarčec* ‘тс’, чэш. *trčeti* ‘тс’, славац. *trčat’* ‘тс’, старое харв. *trčati* ‘тс’, славен. *trčati* ‘не расці, сядзець (пра дрэва)’. З прасл. **trčati*/ **trčeti*, роднаснага да **strčati*/**strčeti* (Фасмер, 4, 88; Бязлай, 4, 215; Борысь, 577; SEK, 5, 134; ЕСУМ, 5, 573, 609), гл. *тырчаць*, *стырчаць*.



**Тарчма́** ‘стаўма, старчаком’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр.), ‘строма, вертыкальна’ (Касп.), *тарчмакá* ‘тырчма’ (Бяльк.), *тарчмакóм* ‘старчаком, уніз галавой’ (Нас., Байк. і Некр.), ‘потырч’ (Касп.), *тарчмя́* ‘тырчма’ (Растарг.), *таршмá* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *тыршимакá* ‘ніц, на жываце’ (чашн., ЛА, 5), *тóрчма* ‘стрымгалоў’ (Нас., Некр. і Байк., Мат. Маг.). Параўн. укр. *торчмá* ‘старчаком’. Прыслоўі на *-ма (-мя)* ад *тарчаць* (гл.), аналагічныя да *бегма (бегчы)*, *крычма (крычаць)*, ускладненыя часціцамі і адвербіялізаванымі склонавымі формамі назоўнікаў (Шуба, Прыслоўе, 57–58).

**Тарчо́к**$_1$ ‘вясенні хвошч, таўкачык, Equisetum L.’ (круп., Сл. ПЗБ). Да *тарчáць*, *торч* (гл.), параўн. іншыя назвы расліны *стаўбунóчык* (маст., Расл. св.), *стырч* (лельч., Расл. св.), а таксама славен. *třček* ‘пень, сцябло’.

**Тарчо́к**$_2$ ‘смаржок звычайны’ (полац., круп., ЛА, 1; асіп., Сл. ПЗБ), ‘вужовік, Amanitopsis fulva W. G. Smith’ (круп., Серж.-Яшк.), ‘глузд веснавы, Gyromitra esculenta (Fr.) Fr.’ (полац., там жа). Параўн. укр. *торчáк*, *торчóк* ‘смарчок, Helvella esculenta Pers.’. Матывацыя, як і ў папярэдняга слова, параўн. іншую назву *старчóк* (акц., Сярж.-Яшк.), гл. *старчак*.

**Тарчо́к**$_3$ ‘мядзведка (насякомае)’ (докш., Янк. Мат.). Гл. *турчок* ‘тс’.

**Тарчы́ца**$_1$ ‘шырокая дошка’ (Некр. і Байк.; ашм. Стан.; Шат., Варл.), ‘доўгая, шырокая і даволі тоўстая дошка’ (Нас.), ‘вузкая дошка, цёс’ (Шымк. Собр.), *тарчы́цы* ‘тонкія дошкі’ (Касп.), *тыртьíця* ‘масніца’ (кобр., ЛА, 4). Ст.-бел. *тартица*, *тарцица*, *тарчица*, *торчица*, *тертица*, *терцица* ‘драніца’, ‘дошка’ (1555 г., Ст.-бел. лексікон, КГС) запазычана са ст.-польск. *tarcica* ‘неапрацаваная дошка’, што ад *tarty* ‘цёрты, пілаваны’, дзеепрыметніка ад *trzeć* ‘церці’ (Брукнер, 566; Борысь, 626).

**Тарчы́ца₂** *(тарчыця)* 'шчытападобная залоза' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *tarczyca* 'тс' што да папярэдняга слова або да *tarcza* 'шчыт' (гл. *тарча*) паводле знешняга падабенства.

**Та́рчыць** 'драць бульбу на тарцы' (мазыр., ЖНС), 'церці бульбу на тарцы' (Вешт.), сюды ж *тарча́нік* 'дранік' (Мат. Гом.). Гл. *та́рка₁*.

**Тарчэ́ць** 'тарчаць' (мёрск., Нар. сл., Касп.; смарг., Сл. ПЗБ). Гл. *тарчаць*.

**Таршы́на**, 'тарфіна, кавалак торфу' (Юрч.), *таршы́нка* 'брыкет торфу' (Ян.). Ад *торх* (гл. *торф*) як *порах – парушынка, парушына*, гл.

**Таршэ́р** 'свяцільня з абажурам на высокай падстаўцы, якая ставіцца на падлогу' (ТСБМ). Праз рус. *торше́р* 'тс' франц. *torchère* 'тс' < *torche* 'паходня'. Апошняе ад нар.-лац. **torca* < лац. *torquēre* 'віць, круціць' (ЕСУМ, 5, 609).

**Та́ры-ба́ры** 'пустая размова, балбатня' (ТСБМ), 'пустыя размовы' (дзісн., Нар. сл.); сюды ж *тараба́рыць* 'балбатаць' (ТСБМ), *тараба́рыцца* 'бязладна, шумна размаўляць' (Юрч. Вытв.). Укр. *та́ри-ба́ри* 'балбатня', дыял. *тараба́ри* 'інтымная размова; пустая балбатня', рус. *та́ры-ба́ры* 'балбатня', дыял. *тараба́ры* 'балбатня, размова'. Спалучэнне дзвюх рыфмаваных асноў не зусім высветленага паходжання, магчыма, гукапераймальнай прыроды. Першую з іх атаясамліваюць з элементам *та́р(ы/а)-* у *тарато́рыць* (гл.), суадносным з *тала-* ў *талатоніць* (гл.), другую – з *ба́р(ы/а)*, напрыклад, ва ўкр. *ба́ры* 'балбатня', у рус. *бараба́рить* 'тараторыць', паводле Саднік і Айцэтмюлера (2, 123), суадноснае з *бала-* (гл. *балакаць, балабоніць*), якія з'яўляюцца ўтварэннямі, што ўзыходзяць да і.-е. **bha-* (Фасмер, 4, 25; ЕСУМ, 5, 522; 1, 142–143; Мельнічук, Этимология – 1987, 61; Варбат, Этимология – 1982, 26). Паводле Варбат (Этимология – 1984, 38), значэнне 'гаварыць' для спалучэння другаснае, асноўнае – 'адходы вытворчасці', што да **toriti* (< **terti*, гл. *церці*) і **bьrati* (гл. *браць*). Праблематычна, хутчэй за ўсё, пераважала першаснае сінкрэтычнае значэнне.

**Тарыбу́шка** 'вясёлая жартаўлівая песня' (беласт., Сл. ПЗБ). Няясна, параўн. *тарару́шкі* (гл. *тарарашкі*).

**Тары́гаць** *(тары́гаци)* 'тузаць' (пруж., Чэрн.), *торы́гаць* 'торгаць' (ТС). Шматкратны дзеяслоў ад *торгаць*, гл.



**Тарыры́** 'крутня, ашуканства; штукі' (Шпіл.). Гукапераймальнае.

**Тары́ф** 'устаноўленая сума збораў, аплаты' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *тары́фа* 'тс' (Вруб.), 'спіс тавараў з расцэнкамі' (Ласт.), 'аплата згодна лічыльніку (у таксі)': *у тарыфе ездзіць* (гарад., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тарыфъ* 'цэннік' (1711 г., КГС). Запазычана з рус. *тари́ф* 'тс' або з польск. *taryfa* 'тс', *taryf* 'тс'; апошнія выводзяць з іт. *tariffa* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 84), сучасныя запазычанні праз рускую з франц. *tarif* 'тарыф', якое з італ., ісп. і парт. *tarifa* 'тс' < араб. *ta'rîf(a)* 'абвяшчэнне (платы)' < *'árrafa* 'ён абвясціў'. Выводзяць таксама з тапоніма *Тарыфа* – назва вострава ў Міжземным моры (Фасмер, 4, 24; ЕСУМ, 5, 522; Голуб–Ліер, 477).

**Та́рыць** 'драць бульбу' (Ян.), 'церці на тарцы' (навагр., З нар. сл., Сцяшк. Сл.), 'таркаваць' (капыл., Сл. ПЗБ). Магчыма, узыходзіць да прасл. **tariti*, звязанага чаргаваннем з **terti* 'церці' і ітэратывам **toriti*, параўн. серб.-харв. *та̀рити* 'церці (масла)', укр. *обта́ритися* 'вымазацца' і пад. (Варбат, Этимология – 1970, 58).

**Тары́ць** 'пракладваць яздой, хадзьбой (дарогу, шлях і пад.)' (ТСБМ, Растарг.). Параўн. укр. *тори́ти* 'пракладваць (шлях)', рус. *тори́ть* 'пратоптваць, пракладваць дарогу'. Прасл. **toriti* звязана чаргаваннем з **terti* 'церці' (Фасмер, 4, 81). Гл. *тор₁*.

**Тарэ́гулька** 'таратайка' (клец., Нар. лекс.). Няясна, магчыма, ад *тарыгаць* 'тузаць, торгаць', гл.

**Тарэ́лачка** 'астра' (б.-каш., ельск., лоеў., Расл. св.). Параўн. укр. дыял. *тарі́лка* 'тс', *тарі́лочка* 'хрызантэма'. З-за знешняга падабенства суквецця да талерачкі параўн. н.-луж. *talariki* 'астры' ад *talarik* 'талерачка' (ЕСУМ, 5, 523). Да наступнага слова, гл.

**Тарэ́лка** 'талерка, металічны абажур' (Сцяшк.), 'талерка' (Ян.; дзятл., астрав., Сл. ПЗБ), *тарэ́лка, тары́лка* 'фарфоравая ці металічная (раней і драўляная) пасудзіна для яды' (брэсц., гом., З нар. сл.), *тарэ́лка, таре́лка, тарэ́лочка* 'неглыбокая міска, талерка' (Вярэн.). З метатэзай да *талерка* (гл.) або пазнейшыя запазычанні з рускай мовы.

**Тарэ̀мтанды** *(tarèmtendy)* 'прыгаворка' (беласт., Федар. 4). Гукапераймальнае, параўн. *тарамкаць* (гл.), з няяснай другой часткай, а таксама *таратэнты*, гл.

**Тарэ́нчыць** 'несці што-небудзь аб'ёмнае і цяжкае перад сабой' (Сцяшк. Сл., Гіл.). Да *тарочыць*$_1$ з экспрэсіўнай назалізацыяй (імітацыя польскага вымаўлення?).

**Тарэ́скаўкі** 'клубніцы' (лід., Расл. св.). Да *трускаўкі* (гл.) з няяснай трансфармацыяй.

**Тарэ́ц** 'папярочны зрэз; бакавая старана', 'кароткі брусок для машчэння вуліцы' (ТСБМ), *торц* 'папярочны зрэз', *тарцава́ць* 'стругаць дрэва ўпоперак слаёў' (Ласт.). Укр. *торе́ць* 'тарэц', рус. *торе́ц, торц* 'тс'. З італ. *torso* 'торс, тулава (як частка статуі)'. У такім выпадку італьянскае слова набыло ва ўсходнеславянскіх мовах суфікс *-ец* пад уплывам іншых слоў з гэтым суфіксам. Акрамя таго, дапускаецца сувязь слова з прасл. *terti 'церці' (ЕСУМ, 5, 604; Фасмер, 4, 88).

**Тасава́цца** 'падыходзіць, дапасоўвацца' (брасл., Сл. ПЗБ). Відаць, набліжанае да *стасава́цца* 'знаходзіцца ў адпаведнасці' (гл.), успрынятага як прыставачнае ўтварэнне. Сюды ж, магчыма, *тасаваць* 'раўняць' (Сцяшк. Сл.).

**Тасава́ць**$_1$ 'перамешваць (ігральныя карты)' (ТСБМ, Янк. 1), *та́соваць* 'тасаваць (карты)' (ТС), *тасова́ті* 'тс' (Вруб.), *тусува́ць* 'мяшаць карты' (Бяльк.), сюды ж *тасо́ваны* 'перамешаны, пераблытаны' (ТС). Праз польск. *tasować* 'перамешваць карты', 'расстаўляць, распінаць, ставіць' з франц. *tasser* 'збіраць у кучу', звязанае з *tas* 'куча' (Фасмер, 4, 26; Брукнер, 566; ЕСУМ, 5, 526).

**Тасава́ць**$_2$ 'штурхаць, штыляць' (Янк. 1), 'штурхаць, біць' (Мат. Гом.), 'рыхліць, ускопваць' (Сцяшк. Сл.; карэліц., Шатал.), сюды ж *тасыну́ты* 'штурхануць, піхануць' (Клім., Сл. Брэс.). Відаць, роднаснае чэш. *tasiti* 'сячы; вымаць з похвы', якое Махэк$_2$ (637) лічыць ітэратывам ад *tesati* (гл. *цясаць*) і параўноўвае з лат. *test*, якое акрамя 'абчосваць' мае значэнне 'біць'. Сюды ж, магчыма, ст.-бел. *тасоване* '?': *ковалю за тасоване прутов осми и два новых... заплатили* (1686 г., КГС). Параўн. *таскаць, ташчыць*, гл.

**Тасава́ць**$_3$ 'зносіць, цягаць, кідаць' (рагач., Сл. ПЗБ). Няясна. Нагадвае чэш. *tasiti* 'цягнуць, валачы', якое Махэк$_2$ (637) параўноўвае з рус. *таска́ть* 'цягаць, валачы' (параўн. *таскаць*, гл.), роднасным літ. *tąsýti* 'торгаць, цягаць, валачы'; паводле аўтараў Сл. ПЗБ (5, 92), апошняе магло быць крыніцай слова, што не мае падстаў. Махэк$_2$ (там жа) лічыць чэшскае слова ізаляваным у славянскіх мовах, паколькі адсутнічае выхадны дзеяслоў.



**Тасе́мка** 'тасьма' (Байк. і Некр., Ласт., Сл. ПЗБ), 'вузенькая стужка, паясок' (Скарбы), 'вузкая каляровая тканіна, з якой даўней выкладалі ўзоры на сярмязе' (Варл.), 'пояс' (мёрск., стаўб., саліг., ЛА, 4), 'саматканы пояс без узораў' (Сцяшк.), *та́семка* і *тасёмка* 'тасьма' (Нас.), *тасёмка* 'тасьма'; 'завязка з тасьмы' (ТСБМ, Бяльк.), 'вузкая палоска, якую нашывалі на спадніцы, фартухі' (Жд. 2). Гл. *тасьма*.

**Таска́** 'туга' (пух., Сл. ПЗБ), *таскава́ць* 'тужыць па кімсьці без надзеі ўбачыцца' (Пятк. 2), *тоскова́ць* 'тужыць, нудзіцца' (ТС), *таскава́ць* 'тужыць, сумаваць' (Ласт.). Укр. *то́ска́* 'туга, сум', рус. *тоска́* 'тс', стараж.-рус. *тъска* 'туга, неспакой', *тоска* 'тс', польск. *tęsknić* 'вельмі хацець убачыць кагосьці, дасягнуць чагосьці', ст.-польск. *tesknąć* 'смуткаваць', чэш. *tesknit* 'тс', славац. *tesknit'* 'тс'. Прасл. *tъska 'туга, сум' адпавядае і.-е. *tus-/*teus- 'апаражняць, спусташаць'; формы з *-n-* вытворныя ад *tъsknъ 'сумны, тужлівы'. Індаеўрапейскімі адпаведнікамі лічаць літ. *taučiù, taũsti* 'тужыць', *tautà* 'туга' (Фасмер, 4, 88; ЕСУМ, 5, 609; Борысь, 632).

**Таска́ць** 'штурхаць' (жлоб., акц., ЛА, 2), *таска́цца* 'штурхацца' (рэч., ЛА, 2), *таскану́ць* 'штурхануць' (рэч., ЛА, 2), сюды ж, відаць, *таскатня́* 'перацягванне з аднаго месца на другое; хаджэнне па розных месцах, куды пасылаюць' (Нас.). Укр. *таска́ти* 'цягаць', дыял. *таска́ть* 'занадта хутка ехаць; гнаць (пра скаціну'; кідаць (што-небудзь цяжкае)', рус. *таска́ть* 'цягаць', польск. дыял. *taskać* 'тс', *taszczyć* 'тс' (з усх.-слав., Борысь, 628). Параўноўваючы з чэш. *tasit* 'сячы; вымаць з похваў', славац. *tasit'* 'тс', Махэк$_2$ (637) разглядае словы як вытворныя (т. зв. *sk*-intensivum) ад кораня *tes-*, параўн. чэш. *tesat* 'часаць', гл. таксама Голуб–Ліер, 478; Голуб–Копечны, 380), гл. бел. *часа́ць, цясля́р*. Магчыма, роднасныя да літ. *tąsýti* 'цягаць', якое з'яўляецца ітэратывам ад *tę̃sti* 'цягнуць', ст.-інд. *táskaraḥ* 'рабаўнік, злодзей', з і.-е. *ten- 'цягнуць' (ЕСУМ, 5, 525–526; Чарных, 2, 229; Фасмер, 4, 26). Малаверагодна вывядзенне са страчанага *taska 'мяшок, сумка', параўн. ст.-в.-ням. *tasca*, італ. *tasca* і пад. (Абаеў, Этимология – 1966, 244).

**Тастаме́нт** 'завяшчанне' (ТСБМ), *тэстамэ́нт* 'запавет' (Яруш.), *тэста́мэнт* 'запавет, завяшчанне' (Некр. і Байк., Ласт., Бяльк.), ст.-бел. *тастаментъ*, *тастамэнтъ*, *тэстамэнтъ*, *дастаментъ*

‘завяшчанне’ (1484 г., КГС). Са ст.-польск. *testament* ‘тс’, што з лац. *testamentum* ‘тс’ (Карскі, 1, 180; Булыка, Лекс. запазыч., 77).

**Тасува́цца** ‘соўгацца (між людзей)’ (мазыр., ГЧ). Няясна, магчыма, новае ўтварэ́нне ад *тусоўка*, *тусавацца* (гл.) або да *тасаваць*$_{1,2}$, гл.

**Тасцёва** ‘цешча’ (Скарбы; шальч., Сл. ПЗБ), *тасцява́* ‘тс’ (шальч., Сл. ПЗБ), *тасцява́я* ‘тс’ (гродз., Сл. ПЗБ). З польск. *teściowa* ‘цешча’ ад *teść* ‘цесць’, гл. *це́сць*.

**Тасьма́** ‘вузкая тканая ці плеценая палоска для аздаблення адзення або завязвання’ (ТСБМ, Байк. і Некр.), ‘вузкая стужка або тасёмка’ (Сцяшк., ТС), ‘пасма’: *тасьма́ – палоска на клубку ні́так* (воран., Сл. ПЗБ), *та́сьма* ‘тасёмка’, *тасма́* ‘тс’ (Нас.). Укр. *та́сьма́* ‘тасьма, аблямоўка’, рус. *тесьма́* ‘тасёмка, стужка’, ст.-рус. *тасма* ‘раменьчык’, польск. *taśma* ‘вузкая стужка, тканы паясок’. З цюркскіх моў, дзе з перс. *tasma* < манг. *tasma* (Анікін, 538). У старабеларускай мове фіксуецца з 1511 г. у форме *тасьма*, *тесма*, крыніцай запазычання якога лічыцца тур. *tasma* (Булыка, Запазыч., 318; Чарных, 2, 241; Фасмер, 4, 26; Брукнер, 566–567).

**Тась-тась-тась** ‘падзыванне гусей’ (брэсц., Нар. лекс.), ‘падзыванне качак’ (кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.). Укр. *тась-та́сь* ‘выгук для падклікання качак’, дыял. *та́ся-та́ся*, *тасю́-тасю* ‘тс’, *тась* ‘выгук для адгону качак’, рус. дыял. *тась-тась* ‘падкліканне качак’, польск. дыял. *taś taś* ‘тс’, *taśka* ‘качка’. Адносяць да гукапераймальных утварэнняў (ЕСУМ, 5, 526). Паводле Горбача (Дитяч., 6) з першаснага дзіцячага *та́ся* ‘качка’ < **птася* ‘птушка’, гл. *птах*.

**Та́та** ‘бацька’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Касп., Бяльк.), ‘тата (памяншальна-ласкальнае)’ (Растарг.), ‘бацька (дзіцячае слова)’ (Шымк. Собр.), *та́туль* ‘бацька’ (Сцяшк.), *та́тка* ‘бацька; ласкавы зварот не толькі да мужчын, але і жанчын’ (Ян.), *та́то*, *та* ‘бацька’ (ТС), *та́то* ‘тата, бацька’ (маст., пруж., кам., Сл. ПЗБ; Федар. 4; Горбач, Зах.-пол. гов.), *тату́ля* ‘бацька’ (Ласт., Мат. Маг.), ‘тата (памяншальна-ласкальнае)’ (Растарг.), *тату́лё* ‘хросны бацька’ (Сцяц. Сл., Сцяц.), *тату́ля, тату́ня* ‘ласкавы зварот да бацькі, святара і дзіцяці’ (Нас.), *тату́лька* ‘тата’ (Касп.), ‘хросны бацька’ (віл., Сл. ПЗБ), ‘пачцівы зварот да святара’ (Нас.), *тату́ленька* ‘бацюшка, святы айцец – зварот да святара; зварот да чужой асобы пры здзіўленні’ (Нас.), *тату́лечка* ‘тс’ (Нас.), *та́тусь* ‘бацька’ (Скарбы, Сцяц. Сл., Сцяшк.), ‘тата (ласкальнае)’ (воран., шчуч., Сл. ПЗБ), ‘хросны бацька’ (Мат. Маг.), ‘тата (зневажальнае)’ (Сцяц.), *тату́сь* ‘бацька’ (Ласт.), ‘хросны бацька’ (Сл. Брэс., ТС, Касп.), ‘бацюшка, святы айцец – пра святара’ (Нас.), *та́туська* ‘хросны бацька’ (Мат. Маг.), *та́тушко* ‘татка’ (Сцяц., Сцяц. Сл.), *тату́лечка, тату́лька, тату́сечка, тату́ся, та́тухна* ‘тата (памяншальна-ласкальнае)’ (Растарг.), ‘татуля (ўжываецца ў песнях)’ (Бяльк.), *та́ты* ‘тата’ (Сцяшк.), *та́тычка* ‘памяншальнае да тата’ (Бяльк.), ст.-бел. *тато* ‘тата’ (XVII ст., КГС). Укр. *та́то* ‘тата’, дыял. *та́та* ‘тс’, рус. дыял. *та́та* ‘тс’, польск., н.-луж. *tata, tato*, в.-луж. *tata*, чэш. *táta*, славац. *tata, tato*, славен. *táta, tátek*, серб.-харв. *тӓта, та́та, та́то*, дыял. *тӓте*, балг. *та́те, тато,* дыял. *та́та* ‘мой бацька’, макед. *тате* ‘татка, бацька (пры звароце)’, ст.-слав. **тата**. Прасл. **tata* ‘бацька, тата’ з першаснага дзіцячага падваення складоў, як і паралельныя ст.-інд. *tatáḥ* ‘тата’, *tātaḥ* ‘тата, сын, мілы’, хец.-лув. *tati-* ‘бацька’, грэч. τέττα, τάτᾱ – клічная форма (пры звароце да бацькі), лац. *tata* ‘тата’, карнуэлск. *tat* ‘тс’, літ. *tė̃tis, tė̃tė* ‘тс’, лат. *tētis, tēte* ‘тс’, прус. *thetis* ‘дзядуля’ (ЕСУМ, 5, 527; Фасмер, 4, 26; Брукнер, 567; Махэк$_2$, 637; Борысь, 629). Частка слоў адлюстроўвае клічныя ці ўсечаныя формы або ўскладнена памяншальна-ласкальнымі суфіксамі.

**Та-та** ‘абазначэнне мерных адрывістых гукаў, udaраў’ (ТСБМ), *та-та-та* ‘пра трэск, тарахценне’, ‘пра балбатню’ (мсціс., Нар. лекс.). Адсюль *тата́каць* ‘татахкаць’ (ТСБМ), *татака́нне* ‘адзывацца гукам, якi падобны да “та-та-та” ‘ (Нар. Гом.). Гукапераймальнае.

***Татаві́на**, *татові́на* ‘лісце на бураках’ (івац., Жыв. сл.), ‘націнне’ (Сл. Брэс.). Гл. *цяце́ўе*.

**Тата́к** ‘нібыта, быццам’ (Сцяшк. Сл.), ‘так як’ (Бузук, Паўдн.-бел.), *та́тык* ‘як бы, нібы’ (мін., навагр., Стан.), *татэ́к* ‘як’: *рыжы, татэ́к я́година* (ПСл). Параўн. балг. *та́тък* ‘там’, дыял. *та́така* ‘далей, туды’. Са спалучэння *та* і *так* (гл.), або *так як* з прыпадабненнем *к > т* у пачатку слова, параўн. *таек*, гл. Балгарскія формы не зусім пераканальна разглядаюцца як спалучэнне часціцы і злучніка *ta* (гл. *та*) з падвойнай партыкулай *t-k* (як у *тутака*), гл. ESSJ SG, 2, 647.

**Тата́р** ‘татарын’: *Устань мілы, татар едзіць, Татар едзіць – вайна будзіць* (з нар. песні; ушац., Полымя, 2001, 3, 270). Гл. *татарын*.

**Тата́рак** ‘бадзяк, пустазелле’ (Сцяшк.), сюды ж, магчыма, *тата́рнік* ‘Garduus tomentasus’ (?) (“близ дорог”, Меер Крыч.). Укр. *тата́рни́к* ‘чартапалох’, дыял. ‘бадзяк палявы’, рус. *тата́рин, тата́рник* ‘чартапалох; асот’. Ад *тата́рын, тата́ры* (гл.) з матывацыяй ‘небяспечны’, ‘шкодны’, ‘непрыемны’, што адлюстроўвае калючасць раслін. У аснове намінацыі этнонім з пераносным значэннем ‘не свой, чужы’, гл. Беразовіч, Язык и трад. культура, 409. Параўн. таксама ЕСУМ, 5, 527.

**Татаргі́к-татаргі́к** ‘кульгавасць’ (Барад.). Імітатыў (гукаперайманне) з падваеннем першага склада, параўн. *таргікаць*, гл.

**Тата́рка** ‘зялёная цыбуля’ (беласт., Ніва, 1977, 3 крас.), *татаркі* ‘пер’е цыбулі’ (кам., ЛА, 2). Укр. *тата́рка* ‘цыбуля батун, Allium fistulosum L.’, дыял. *татари́н* ‘тс’, рус. *тата́рка* ‘тс’, польск. *tatarka* ‘пер’е часнаку’. Ад этноніма *тата́рын, тата́ры* (гл.) з негатыўнай канатацыяй ‘з рэзкім пахам’ на базе першаснага ‘не свой, чужы’, гл. Беразовіч, Язык и трад. культура, 435; ЕСУМ, 5, 526; Брукнер, 567. Параўн. таксама *татарак, татарнік*, гл.

**Тата́рнік** ‘аер, Acorus calamus L.’ (лельч., Жыв. сл.; Бейл., ТС, ПСл; стол., лельч., ельск., ЛА, 1), ‘расліна Onopordon L.’ (Кіс.). Укр. *тата́р* ‘аер звычайны, Acorus calamus L.‘, дыял. *татара́к, тата́рка* ‘тс’, польск. *tatarak, tatarnik* ‘тс’, дыял. *tatar* ‘тс’, чэш. *tatarak* ‘тс’. Ад этноніма *тата́рын, тата́ры*, гл. Найбольш распаўсюджанае меркаванне пра паходжанне слова: расліна аер завезена татарамі (ЕСУМ, 5, 527; Жаримбеков, РР, 1975, 3, 107–111; Пастусяк, Pogranicze, 317), што не зусім адпавядае рэальнасці, паколькі расліна *calamus* у тым жа значэнні згадваецца яшчэ ў Плінія і Катона (234–149 г. да н. э.), гл. Ванякова, Studia Etym. Brun. 6, 404. Хутчэй прывязка да этноніма ў пераносным значэнні ‘не свой, чужы’ тлумачыцца рэзкім пахам расліны, параўн. укр. *жидівські лепехи* ‘аер’ аналагічна да *тата́рське зілля*, польск. *tatarskie ziele* ‘тс’.

**Тата́рушка** ‘прыстасаванне вешаць калыску’ (Мат. Маг. 2). Няясна.

**Тата́рын** ‘прадстаўнік аднаго з народаў цюркскай моўнай групы’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Федар. 4), *тата́р* ‘тс’ (ушац., Полымя, 2001, 3), *тата́ры* ‘народ, асноўнае насельніцтва Татарстана, а таксама некаторыя іншыя народнасці цюркскай моўнай групы’, гіст. ‘цюркскія, мангольскія і некаторыя іншыя плямёны Залатой Арды’ (ТСБМ), ‘спецыяльныя вайсковыя фарміраванні ў ВКЛ (“казакі, а менавіта татары”)’ (Arche, 2008, 1–2, 89), ст.-бел. *татаринъ, татарынъ* ‘татарын’ (1340 г., КГС), сюды ж *татарчу́к* ‘татарскае дзіця’ (Некр. і Байк.), ‘татарын’ (Сл. ПЗБ), *татарва́* зборн. ‘татары’ (там жа), *тата́ршчына* ‘нашэсце татар’ (ТС), *тата́рскі* прым. (ТСБМ, Некр. і Байк.), *тәта́рс'кі* ‘тс’ (Вруб.). Укр. *тата́ри́н, та́та́р* ‘тс’, рус. *тата́рин*, польск. *Tatar, Tatarzyn*, чэш. *Tatar*, славац. *Tatár*, славен. *Tatar*, серб.-харв. *Tàtar*, макед. *татар*, балг. *тата́рин*, ц.-слав. *татаринъ*. Запазычанне з цюркскіх моў, дзе тат. *татар* ‘татарын’, тур. *Tatar* ‘тс’, манг. *та́тар* ‘тс’, чув. *тутар* ‘тс’, чагат. *татар* ‘жыхары краіны, што на поўначы ад Кітая’, ст.-цюрк. *tatar* ‘мангол’, магчыма, звязанае з манг. *tatari*, калм. *tatr̥* ‘той, у каго іншамоўная вымова’ (Фасмер, 4, 27; Анікін, 539). Пачатковы кампанент цюркскага слова *tat-* першапачаткова значыў ‘іранец’ (ЕСУМ, 5, 527).



**Тата́хкаць** ‘утвараць мерныя адрывістыя гукі’ (ТСБМ). Гукапераймальнае, параўн. *тахаць*, гл.

**Татро́к** ‘у мінулым годзе’ (ашм., Сл. ПЗБ). Ад *такро́к* (гл.) шляхам прыпадабнення або з **том* ‘той’ і *рок* ‘год’, гл.

**Татуі́раваць** ‘рабіць татуіроўку’ (ТСБМ), *татуява́ць* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *татуава́ць* ‘тс’ (Ласт.). Запазычана праз рус. *тату́ировать* або польск. *tatuować* ‘тс’ з франц. *tatouer* ‘тс’, якое праз англ. *tattoo* ‘тс’ запазычана з палінезійскіх моў, дзе таіц. *tatau, tatu* ‘пракол, знак, зроблены на скуры’ (Фасмер, 4, 28; ЕСУМ, 5, 528; Голуб–Ліер, 481).

**Тату́лека**, *тату́ль* ‘адтуль’ (мазыр., ГЧ). Ад *адтуль* (у вымаўленні *аттуль*) з перастаноўкай пачатковага зычнага і галоснай.

**Тату́ля** ‘ласкавы зварот да бацькі’ (ТСБМ), а таксама ў звароце да дзіцяці (Нас.), ‘сын, вельмі падобны да бацькі’ (Яўс.), ‘хросны бацька’ (Сцяц. Сл.), *тату́ль* іранічнае ‘вялікі хлопец, старэйшы за іншых’ (беласт., Сл. ПЗБ). Гл. *тата*, з экспрэсіўнай суфіксацыяй, параўн. $матуля_1$, і ў пераносным ужыванні.

**Тату́р** ‘шырокі шыты золатам пояс’ (Ласт.). Параўн. рус. дыял. *татау́р* ‘шырокі пояс’, ст.-рус. *татауръ* ‘баярскі пояс, пояс святароў, манахаў; скураны пояс’, якое з манг. *tata-γur* ‘папруга, лейцы’ (Фасмер, 4, 27; Анікін, 540).

9 Зак. 3415

**Тату́рыцца** ‘глядзець з-пад ілба’ (Ласт.). Няясна, параўн. *та́тур* (*tátur*): *у маго́ тату́ра саба́чая нату́ра* (ваўк., Федар. 4), якое Федароўскі (там жа, 311) выводзіць з *тата* (*tàtur jest tàto zmieniony dla rymu*), гл.

**Тату́ся** ‘ласкавы зварот да бацькі’ (ТСБМ), *тату́сь*, *тату́ська* ‘пра святара’ (Нас.), *тату́сь* ‘хросны бацька’ (Касп., ТС, Мат. Маг.), *та́тусь* ‘зневажальна пра бацьку’ (Сцяц. Сл.). Да *тата*, гл. Форма з націскам на першым складзе запазычана з польск. *tatuś* ‘тс’, дзе падобныя формы вельмі распаўсюджаныя, параўн. *dziaduś*, *pradziaduś*; да семантыкі параўн.: “Czechowicza tatusiem nowokrzczeńców nazywa” (Варш. сл., 7, 34).

**Та́тык** ‘як быццам, нібыта’ (Стан.). Гл. *татак*.

**Татэ́**: *ек на татэ́* ‘як на зло’ (ТС). Відаць, падвоенае *тэ* ‘тое’ (гл.) або спалучэнне злучніка *та* (гл.) з ім. Гл. *татак*.

**Таўбу́н** ‘статак’ (Жд. 2). Гл. *табу́н*.

**Таўжэ́ш** ‘няўжо, хіба’ (Скарбы), *таўжэ́ш* ‘вядома, канечне’ (шчуч., З нар. сл). З **та-ўжэ-ж*, параўн. *та ўжэ(ж)* ‘няўжо ж, ды ўжо’ (Сцяшк. Сл.), гл. *та*, *ужо*, *ж(а)*; адрозненні ў семантыцы звязаны з інтанацыйным суправаджэннем.

**Таўка́н** ‘ятрышнік, Orchis latipolia L.’ (гродз., Кіс.), *таўку́н* ‘тс’ (Расл. св.). Няясна; магчыма, ад *таўчы* (гл.), бо клубеньчыкі расліны нярэдка выкарыстоўвалі з магічнымі і лекавымі мэтамі ў стоўчаным выглядзе, параўн. Пастусяк, Pogranicze, 303.

**Таўкані́ца**$_1$, *таўчані́ца* ‘бульбяная каша’ (ваўк., пруж., building., ЛА, 4), ‘тоўчаная бульбяная каша’ (Сцяшк.), *тыўкані́ца* ‘камы’ (Бяльк.), *тоўкані́ца* ‘тс’ (ТС), *товкані́ця*, *товканэ́ця*, *тоўкані́ца* ‘тоўчаная бульба’ (Сл. Брэс.), *таўкані́чкі* ‘бульбянікі’ (ашм., Сл. ПЗБ), *таўчо́нка* ‘бульбяная каша’ (Сл. ПЗБ, Мат. Маг., Растарг.; навагр., З нар. сл.). Ад *таўкці*, *таўчы*, гл.

**Таўкані́ца**$_2$ ‘невялікая бочка для захоўвання здору’ (Скарбы). Аналагічна папярэдняму (нутраное сала таўклі з соллю і прыправамі).

**Таўкану́ць** ‘штурхануць’ (асіп., ЛА, 2; Байк. і Некр.) *тыўкану́ць* ‘тс’ (хоцім., ЛА, 2), *таўкану́цца* ‘штурхануцца’ (асіп., ЛА, 2). Да наступнага слова.

**Таўка́ць** ‘штурхаць’ (Нас., Сержп. Прымхі; Растарг., Байк. і Некр.; навагр., мазыр., ЛА, 2), *тоўка́ць* ‘калыхаць на гушкалцы’ (стол., ЛА, 2), ‘кляваць, торкаць’ (ТС), *туўка́ць* ‘таўхаць,



піхаць’ (Бяльк.), *товка́ті* ‘тс’ (беласт., Сл. ПЗБ), *таўка́цца* ‘штурхацца’ (навагр., дзятл., касцюк., мазыр., ЛА, 2; Растарг., Байк. і Некр.), *тоўка́цца* ‘калыхацца на гушкалцы’ (стол., ЛА, 2), ст.-бел. *толка́ти* ‘штурхаць, піхаць’ (1541 г.), *толка́тися* ‘штурхацца’ (КГС), сюды ж *таўкну́ць* ‘штурхнуць’ (Байк. і Некр.), *тоўкну́ць*, *тоўкену́ць* ‘тс’ (ТС). Гл. *таўкці*, *таўчы*, параўн. *таўхаць*, гл.

**Таўка́ч**$_1$ ‘качалка з патоўшчаным круглым канцом, мяла’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Ласт., Касп., Бяльк., Сержп. Прымхі, Варл., Растарг., Сл. ПЗБ, Федар. 4), ‘пра някемлівага, дурнога чалавека’ (ТСБМ, Шат.), ‘пра непаваротлівага, няспрытнага чалавека’ (Скарбы), ‘той, хто замінае, таўчэцца пад рукамі; маруда’ (Сцяц. Сл.), ‘целяпень, нязграбны чалавек’ (Гіл., Мат. Гом.), *тоўка́ч*, *товка́ч* ‘мяла (у ступе), качалка’ (ТС, Арх. Вяр., Вруб., Сл. ПЗБ), *таўка́чка* ‘тс’ (Ян.), ст.-бел. *толка́ч* ‘тс’: *толкачи до них железныи два* (1518 г., КГС). Укр. *товка́ч* ‘тс’, рус. дыял. *толка́ч* ‘тс’, польск. дыял. *tłukacz* ‘мяла для размінання бульбы для свіней’, ст.-слав. **тлъкачь** ‘мяла’. Назоўнік, вытворны ад *таўчы*, што да прасл. **telkti*, гл. *таўкці*, *таўчы*. Меркаванне пра незалежны характар утварэння *таўка́ч* ‘дурань’ гл. Пацюпа ў Станкевіч, Язык, 1166: утварэнне з суф. *-ач*, што абазначае суб’ект дзеяння са значэннем непавагі, грэблівасці, відаць, суаднеснае з *таўчыся* ‘снаўдацца без справы’.

**Таўка́ч**$_2$ ‘пачатак кукурузы’ (Сл. ПЗБ), ‘катах рагозу’ (Сл. ПЗБ; дзятл., Жыв. сл.; ЛА, 1), *товка́ч* ‘галоўка чароту’ (драг., Нар. ск.), *таўка́чык*, *таўка́чыкі* ‘палявы хвошч, Equisetum arvense L.’ (Касп., Бяльк., Яўс., Бяльк., ЛА, 1), ‘насеннікі бярозы’ (свісл., Шатал.), *таўка́чыкі* ‘катахі рагозу’ (зэльв., слонім., ЛА, 1), ‘мох у выглядзе збаночкаў’ (Меер Крыч.), *таўка́чнік* ‘хвошч’ (Кіс.). Вобразны перанос з *таўкач*$_1$.

**Таўка́ч**$_3$ ‘плавальны пузыр’ (віл., Сл. ПЗБ), ‘пухір у рыбы’ (віл., лаг., ЛА, 1), *туўка́ч* ‘тс’ (шарк., мёрск., ЛА, 1), *талка́ч* ‘тс’ (полац., ЛА, 1). Відаць, з-за знешняга падабенства да *таўкач*$_1$, гл.

**Таўка́ч**$_4$ ‘круг, кальцо (каўбасы)’ (лід., Сл. ПЗБ). Аналагічна да папярэдняга слова, гл.

**Таўка́ч**$_5$ *(тыўка́ч)* ‘драўляны гузік прадаўгаватай формы’ (Шатал.), *таўкачо́к* ‘бірка (зашпілька)’ (Сл. ПЗБ; рас., в.-дзв., полац., шуміл., ЛА, 4). Да *таўкач*$_1$, гл.

**Таўкачы́₁** *(талкачэ́)* ‘галушкі з талакна’ (гродз., Сл. ПЗБ). Відаць, да *таўкці, таўчы*, гл.

**Таўкачы́₂** ‘фальбоны’ (Жд. 1). З-за знешняга падабенства да *таўкач*₁, гл.

**Таўке́ль** ‘штурханец’ (Сцяц. Сл.), ‘чалавек, які перашкаджае нешта рабіць’ (лях., ЖНС). Да *таўкаць* (гл.), магчыма, пад балтыйскім уплывам (пра аддзеяслоўныя ўтварэнні на *-ėlis* гл. Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 119–120), параўн. *таўку́нь, таўху́нь* ‘пра тоўханне’ (мсцісл., Нар. лекс.).

**Таўке́ня** ‘бульбяная каша’ (чэрык., ЛА, 4), *товке́ня, товкэ́ня, тоўчэ́ня* ‘тоўчаная бульба’ (Сл. Брэс.). Параўн. укр. палес. *товке́ня* ‘тс’. Да *таўкці, таўчы* (гл.), магчыма, пад уплывам назваў тыпу літ. *bulvienė* ‘суп з бульбы’ з характэрным суф. *-ен-я*, адносна апошняга ў назвах страў гл. Лаўчутэ, Лекс. балтызмы, 20. Параўн. *таўкуп* ‘пюрэ з бульбы’ (Мат. Гом.), *таўпеня* ‘тс’, гл.

**Таўке́шка** ‘нязграбная, нерухавая жанчына’ (Гіл.). З першаснага **таўкеша*, відаць, ад *таўкціся, таўкці*, гл.

**Таўко́та** ‘таўкатня’ (Ян.). Да *таўкаць* (гл.), утварэнне з суф. *-от-а*, для якога мяркуецца польскае паходжанне (Пацюпа ў Станкевіч, Язык, 1171), што па лінгвагеаграфічных прычынах малаверагодна.

**Таўку́н₁** ‘ятрышнік’ (Расл. св.). Гл. *таўкан.*

**Таўку́н₂** ‘цыбуля (тоўчаная)’ (Мат. Гом.), *тоўку́н* ‘страва з пер’я цыбулі’ (ПСл). Да *таўкці, таўчы* ‘мяць, расціраць’ (гл.), аналагічна *таўку́н* ‘пюрэ з бульбы’ (Мат. Гом.).

**Таўку́нчыкі** ‘камары’ (Сцяшк.), ‘камары, што мітусяцца ў паветры клубком, таўкуць мак’ (Скарбы), ‘від камароў’ (шчуч. Жыв. св.). Параўн. рус. дыял. *толку́н* ‘камарыны рой (у цёплы летні вечар)’. Да *таўчы́ся* ‘рухацца, таптацца на адным месцы’, гл. *таўкаць, таўчы*, адносна рускага слова гл. Фасмер, 4, 72 (параўноўвае з рус. *толку́чка*, гл. наступнае слова).

**Таўку́чка** ‘бойкае месца, дзе прадаюць рэчы з рук’ (ТСБМ), ‘кірмаш’ (Мат. Маг. 2), *товку́чка* ‘тс’ (Вруб.). З рус. *толку́чка* ‘тс’.

**Таўкці́** ‘таўчы’ (Нас., Некр. і Байк., Мат. Гом., Сержп. Прымхі; рагач., Сл. ПЗБ), ‘ціснуць алей’ (ельск., ЛА, 4), ‘таўчы; біць’ (Ян.), *тоўкці́* ‘таўчы; біць, штурхаць’ (ТС), *товкты́* ‘штурхаць’ (пін., ЛА, 2), ‘таўчы’ (Сл. Брэс.), *товкчи́* ‘абтоўкваць (проса, ячмень)’ (кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.), *таўкці́ся* ‘таўчыся’ (Ян.), ‘біцца, знаходзіцца ў стане цечкі (пра кабылу)’ (воран., Жыв. св.), *тоўкці́са* ‘тоўпіцца’ (ТС), *товкты́са* ‘штурхацца’ (пін., ЛА, 2). Параўн. укр. *товкти́*, рус. *толкти́*. Прасл. **tolkti*/**telkti* ‘біць, таўчы’, роднаснае да літ. *tèlkti* ‘стаць мірным, рахманым’, *telkti* ‘склікаць талаку’ (Фасмер, 4, 73; ЕСУМ, 5, 588). Гл. таксама *таўчы, талака.*



**Таўле́тка** ‘вялікае люстра, якое ставіцца на падлогу’ (гродз., ЖНС). Няясна; параўн. укр. дыял. *тавле́тка* ‘грыфельная дошка’, рус. *та́вель* ‘дошка, табліца’. Гл. *табліца.*

**Таўлі́нка** ‘берасцяная табакерка’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.). Параўн. укр., рус. *тавлі́нка* ‘тс’ з не да канца высветленым паходжаннем; звязваюць з *тавалга* (гл.; Фасмер, 4, 8), параўн. польск. *tawulina* ‘расліна з сям’і тавалгавых’.

**Таўлу́й** ‘гультай’ (Байк. і Некр., Сл. рэг. лекс., Сержп. Прык., Мілк.). Ад *то́ўла* ‘няўмелы, непаваротлівы’ (гл.) з суф. *-уй*, аналагічна да *талалуй* ‘дурнаваты’, адносна словаўтварэння гл. Сцяцко, Афікс. наз., 195.

**Таўма́к₁** ‘старчковы (галоўны) корань дрэва’ (воран., чэрв., ЛА, 1), ‘галоўны корань дрэва, старчак’ (слуц., Расл. св.). З **стаўма́к* ‘тс’, якое з *стаўмава́ты (корань)* (асіп., ЛА, 1) < *стаўма́* ‘вертыкальна’ (ад *стаяць, ставіць*, гл.), як *тарча́к, тарчма́к* ‘тс’ (там жа) з *тарчма́, торчма*, гл.

***Таўма́к₂**, *тоўма́к* ‘кулак; кухталь’ (Мат. Гом.). Фармальна блізкае польск. *tłumok* ‘клунак, цюк’, дыял. *tłomok* ‘валляк’, чэш. *tlumok* ‘ранец’, для якіх Борысь (636) выводзіць першаснае значэнне ‘нешта сціснутае ці набітае нечым’; суфіксальныя ўтварэнні ад *tłumić* ‘сціскаць, здушваць’, роднаснага укр. *то́вмити* ‘хаваць у сабе’, чэш. *tlumiti* ‘прыглушаць’ (з польскай, Махэк₂, 646), славац. *tlmit’* ‘тс’, што ўзыходзіць да прасл. **tъlmiti*/**tḷmiti*, магчыма, роднасных літ. *stelbti* ‘зацяняць, душыць, гнясці’ (Махэк₂, там жа). Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 588.

**Таўма́чка** ‘пюрэ (з бульбы)’ (Мат. Гом.), *товмачі́* ‘звараная тоўчаная бульба’ (кобр., Нар. лекс.), сюды ж *томачі́, тумачі́, токмачі́, тукмачі́* ‘страва з патоўчанай варанай бульбы’ (Лекс. Бел. Палесся). Параўн. укр. дыял. *товкма́ч* ‘тс’, *товкма́чити* ‘запіхваць; біць’ (разглядаюцца як вынік кантамінацыі *товкти́* і *токма́чити* ‘ўтоптваць, прыцiскаць’, гл. ЕСУМ, 5, 587), рус. смален. *талмата́* ‘шум, таўкатня’ (< **тълмота*, што да **tьlmъ*,

гл. Фасмер, 4, 15). Хутчэй за ўсё, да папярэдняга слова, некаторыя формы змяніліся ў выніку збліжэння з *таўкці* (гл. *таўчы*) і дээтымалагізацыі ў сувязі са стратай зыходнага дзеяслова, што ўзыходзіць да **tъlmiti* 'душыць, сціскаць'.

**Таўмо́рыць** 'мясіць; запіхваць' (Юрч. Вытв.), *таўмо́рыцца* 'тоўпіцца, вазіцца, кешкацца' (Юрч. Фраз. 1). Дзеяслоў, утвораны ад незахаванага **tъlmiti* (гл. папярэднія словы) з экспрэсіўным суф. *-ori-*, аналагічным да *-oli-* (чаргаванне гэтых суфіксаў характэрна для гукапераймальных і экспрэсіўных дзеясловаў, параўн. Борысь, Leksyka słow., 30). Параўн. *таўпіць*, *таўпорыць*, гл.

***Таўмы́га**, *тоўму́га* 'бязрогая карова', 'неахайны чалавек' (ТС). Аналагічнае да ўкр. *товпі́га* 'тоўстая асоба', рус. *толпы́га* (гл. *таўпека*), назоўнік з суф. *-ыг-а* (з дыялектнай зменай *ы>у*) ад незахаванага дзеяслова, што ўзыходзіць да **tъlmiti* 'сціскаць, душыць'. Да семантыкі параўн. *таўка́ч* 'бязрогая карова' (ельск., Жыв. сл.).

**Таўпа́** 'натоўп, тлум' (Нас., Ласт., Някр. і Байк., Бяльк., Федар. 4, Растарг.), *талпа́* 'натоўп' (Ян.), ст.-бел. *толпа* 'тс' (канец XV ст., КГС). Параўн. укр. *товпа́* 'тс', рус. *толпа́* 'тс', стараж.-рус. *тълпа* 'тс', чэш., славац. *tlupa* 'натоўп, тлум' (з рускай, гл. Махэк₂, 646), балг. *тълпа́* 'натоўп', макед. *толпа* 'тс'. Прасл. **tъlpa* або **tьlpa*, аддзеяслоўны назоўнік ад *tъlpiti* (гл. *тоўпіць*), роднасны літ. *talpà* 'ёмістасць, аб'ём', лат. *talpa* 'памяшканне', ст.-інд. *tálpuḥ* 'ложа, сядзенне', *talpā* 'тс' (Фасмер, 4, 74; ЕСУМ, 5, 588).

**Таўпе́ка** 'непаваротлівая, няўдалая жанчына' (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *товпі́га*, *товпі́га* 'тоўсты, нязграбны чалавек', рус. *толпы́га*, *толпе́га* 'хто пхаецца ў натоўпе; непаваротлівая, нязграбная асоба'. Хутчэй за ўсё, аддзеяслоўны назоўнік ад *таўпіць*, *таўпехацца*, гл. Украінскае слова звязваюць з *товба* (гл. *тоўба*, ЕСУМ, 5, 589), рускае – з *толпа* (гл. *таўпа*, Фасмер, 4, 74).

***Таўпе́ня**, *тоўпе́ня* 'тоўчаная бульба, камы' (ТС). Ад *таўпіць* (гл.), аналагічна да *таўкеня*, гл.

**Таўпе́сіцца** 'тоўпіцца' (Стан.), сюды ж *таўпясня́*, *таўпяшэ́нне* 'штурханне ў вялікай цеснаце' (Юрч. Вытв.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *таўпіцца* 'тс', гл. *таўпіць*.

**Таўпе́хацца** 'блытацца пад нагамі' (валож., Гіл.), 'таўхацца, хадзіць бязладна' (Сцяшк. Сл.), 'пхацца, лазіць між натоўпу' (Варл.). Аналагічна да папярэдняга слова, гл.



**Таўпі́ць** 'звальваць у адно месца; запіхваць у натоўп' (Нас.), *то́ўпіць* 'змяшчаць, месціць' (Ласт.), *таўпі́цца* 'змяшчацца; пхацца ў натоўп' (Нас.), 'стварaць натоўп', *то́ўпіцца* 'змяшчацца, збірацца; ісці клубамі (пра дым)' (Сл. ПЗБ), 'нацягваць (пра хмары)' (Пятк. 2), *тоўпіцца* 'змяшчацца; гуртавацца' (ТС), *товпітісе* 'збірацца' (Вруб.). Параўн. укр. дыял. *то́впити* 'націскаць, натоптваць, напіхваць', *товпі́тися* 'ўціскацца, упіхвацца', рус. *толпи́ться* 'стварaць натоўп', польск. дыял. *tłopić*, *tłupić* 'тс', балг. *тъ́лпя се* 'збірацца ў натоўп, тлуміцца'. Прасл. **tъlpiti (sę)*/**tьlpiti (sę)*, роднаснае літ. *tilpti* 'даваць месца, змяшчаць', лат. *tilpt* 'змяшчацца', ірл. *tallaim* 'знаходжу месца'. Меркаванне пра запазычанне *то́ўпіцца* (параўн. і *стоўпіцца* 'змясціцца', *утоўпіцца* 'тс') з літ. *talpìnti(s)* 'змяшчацца' (Лаўчутэ, Балтизмы, 73) без дадатковых аргументаў цяжка прыняць; параўн. *талопіцца*, гл.

**Таўпо́рыць** 'мясіць, запіхваць' (Юрч. Вытв.), *таўпорыцца* 'мітусіцца, вазіцца з чым-небудзь' (Нас., Стан.); сюды ж *таўпо́ра* 'неакуратная, неахайная асоба' (Юрч. Вытв.), *таўпо́ранне* 'важданне з чым-небудзь, мітусня' (Нас.), 'штурханне ў цеснаце' (Юрч. Вытв.), *таўпа́рня* 'валтузня, цісканіна, таўкатня, катавасія' (Ласт.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *таўпіць* (гл.), аналагічнае да *таўморыць*, гл.

**Таўро́** 'кляймо, распазнавальны знак' (ТСБМ, Ласт.), 'кляймо, штэмпель' (Някр. і Байк.). Укр., рус. *тавро́* 'тс'. Тлумачаць з тур. *tuγra* 'манаграма султана' (Фасмер, 4, 8; Анікін, 521), параўн. ст.-цюрк. *tuγraγ* 'манаграма, пячатка хана, распараджэнне хана'.

**Та́ўрыць** 'чэзнуць, чарнець, сохнуць ад скрухі ці працяглай хваробы, марнець, сохнуць': *таврить надъ грошами* (Нас.), *таўры́ць* 'чэзнуць, сохнуць ад скрухі' (Бяльк. і Някр.). Няясна; відаць, звязана з *ча́ўраць* 'чахнуць' (гл.), параўн. *тве́рыць/чве́рыць* (гл.); адносна магчымага *t* < *č* у балтыйскіх мовах гл. Смачынскі, 696.

**Таўсма́ты** 'таўставаты; моцна складзены (пра чалавека)' (ТСБМ), 'прысадзісты, моцны (пра асобу, жывёлу, дрэва)' (Янк. 1), 'таўставаты' (Сл. ПЗБ), 'тоўсты' (Сцяшк.), 'пушысты' (чырв., З нар. сл.), сюды ж *таўсма́ны* 'таўставаты' (Сцяц. Сл.), *таўсма́ч* 'здаравяк' (Янк. 3). Трубачоў (Слав. языкозн. V, 183; Труды, 1, 284), побач з позняй кантамінацыяй (напрыклад, *тоўсты* і *калматы*, гл.), разглядае як праславянскі дыялектызм **tъlsmatъ(jъ)*

ад назоўнікаў *tъlsmъ/*tъlsmo, параўн. лат. tulzums ‘пухліна’. Ліуканен (Отглаг. сущ., 169–170) лічыць вытворным ад прасл. *tъlsmъ/*tъlsma < *tъlst-mъ/*tъlst-ma, старых дзееprыметнікаў ад *tъlstiti ‘рабіць тоўстым’ (гл. *таўсціць*), што, у сваю чаргу, утвораны ад прыметніка *tъlstъ (гл. *тоўсты*). Страчаны дзеяслоў з асновай *tъlz- меў дакладныя адпаведнікі ў літ. *tulžti* ‘размакаць, разбухаць’, лат. *tùlzt* ‘пухнуць’. На карысць апошняй версіі сведчыць і варыянтнасць фармантаў *n/t*. Кантамінацыя з *тоўсты* ў *таўстамáты* ‘таўставаты’ (карэліц., Нар. лекс.).

**Таўстагры́бы** ‘той, у каго тоўстыя вусны’ (арш., ЛА, 3). Да *тоўсты* (гл.) і *грыбы́* ‘губы’ (гл. *грыб, губа*), параўн. *грыбáты* ‘таўстагубы’ (віц., бялын., шкл., ЛА, 3).

**Таўстадзю́бец** ‘крыжадзюб’ (ПСл). Да *тоўсты* і *дзюба* (гл.) з суф. *-ец*, што абазначае носьбіта прыкметы (ад **тоўстадзюбы*).

***Таўстако́ра**, *тоўстако́ра* ‘буйная плотка’ (Крыв.), *тоўстако́ра, тоўстако́рка* ‘галавень’ (ТС). Да *тоўсты* (гл.) і *кора́* ‘луска’ (гл. *кара*), у выніку семантычнай кандэнсацыі з *тоўстако́ра пло́тка* ‘тс’ (Крывіцкі, Зб. Крапіве, 202), параўн. аналагічныя ўтварэнні серб. дыял. *дебелокȍрка* ‘гарбуз з тоўстай скуркай’, *танкокȍрка* ‘гарбуз з тонкай лупінай’ (Элезавіч, 2).

**Таўсталу́пы** ‘той, у каго тоўстыя вусны’ (паст., брасл., кругл., ЛА, 3). Да *тоўсты* і *лупы* ‘губы’, гл.

**Таўста́я** ‘цяжарная (жанчына)’ (докш., Янк. Мат.), ‘цяжарная’ (Барад.; віл., гродз., Сл. ПЗБ), ‘котная, цяжарная (пра авечку)’ (віл. Жыв. св.). Гл. *тоўстая*.

**Таўсто́е** ‘тлустае сала’ (мядз., ЛА, 4), ‘тлустае, цяжкае для стрававання’ (Барад.). Гл. *тоўсты*.

**Таўсту́ха₁** ‘грыб сямейства павуціннікавых’ (ТСБМ), ‘павуціннік страўны, Cortinarius esculentus Lebed.’ (Сярж.-Яшк.), ‘чорны грузд, малачай, Lactarius necator (Fr.)’ (там жа), *таўсту́хі* ‘грузды’ (Сцяшк., Мат. Гом.). Да *тоўсты* (гл.), названы паводле тоўстай ножкі ці тоўстай шапачкі.

**Таўсту́ха₂** ‘брыца, дробнае пустазелле, плашчуга, пласкуша’ (стол., Расл. св.), ‘гарычка, Gentiana cruciata L.’ (Касп.), *таўсту́шка* ‘тс’ (Кіс.). Да *тоўсты* (гл.), параўн. *пузатка* ‘брыца’, гл.

**Таўсту́шнік** ‘таемнік, Lathraea squamaria L.’ (Бейл.). Да *тоўсты* (гл.), аднак матывацыя няясная.

**Таўсты́** ‘тоўсты’ (докш., Янк. Мат.; Касп., Сл. ПЗБ), ‘вялікі’ (Жд. 1). Гл. *то́ўсты*.



**Таўха́ць** ‘штурхаць, піхаць’ (ТСБМ, Нас., Касп., Некр. і Байк.), *талха́ць* ‘штурхаць’ (шарк., лёзн., ЛА, 2), *то́ўхаць* ‘тс’ (Ласт.), *таўха́цца* ‘штурхацца’ (Байк. і Некр., Касп.), *товхына́ты* ‘штурхаць’ (жабін., ЛА, 2), сюды ж *таўхну́ць* ‘піхнуць, штурхануць’ (Сл. ПЗБ, Яўс.), *таўхану́ць* ‘тс’ (Бяльк., Рам. 3, Сержп. Прымхі), *талхану́ць* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Карскі (2–3, 38) бачыў тут змененую аснову *tъ̥lk- (гл. *таўкаць, таўкці*), магчыма, пад уплывам іншых гукапераймальных дзеясловаў тыпу *бдхаць, тахаць, тарарахаць* і пад. Параўн. *талахкаць, талохнуцца*, гл.

**Таўхе́ль** – выклічнік для перадачы штуршка, удара кулаком (ТСБМ, Байк. і Некр., ЭШ, рук., Мат. Маг. 2), *таўхе́ць* ‘тс’ (ЭШ, рук.), *таўхе́нь* ‘тс’, ‘штуханец, выспятак’ (Нас., Байк. і Некр., Ласт.), *таўха́ль* ‘кухталь’ (Жд. 1), ‘штуршок, удар (рукой у спіну)’ (бялын., Янк. Мат.). Да *таўхнуць, таўхаць* (гл.) з рознымі экспрэсіўнымі нарашчэннямі, параўн. *таўкель*, гл.

**Таўчы́** ‘здрабняць; мяць’, ‘біць, збіваць; штурхаць’, ‘вытоптваць’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Касп., Федар. 4, Ласт., Шат., Стан.), ‘біць’ (Жд. 3), ‘выціскаць мёд з сотаў’ (круп., слуц., ЛА, 1), *товчы́* ‘апрацоўваць таўкачом, штурхаць’ (бяроз., драг., кобр., іван., стол., ЛА, 2), *таўчы́* і *тоўч* ‘тс’ (Бяльк.), *тоўч* ‘тс’ (Растарг.): *тоўч кросны* ‘апрацоўваць аснову (кроснаў)’ (мсцісл., Жыв. сл.), ст.-бел. *толчи, товчи* ‘біць, таўчы’ (пач. XVI ст., КГС), *толчи* ‘гучаць, раздавацца’ (?): *голос милостника моего толчеть* (Альтбаўэр); сюды ж *таўчы́ся* ‘біцца, грукаць’ (Барад.), ‘знаходзіцца ў цеснаце; сноўдацца без справы’, ‘круціцца на адным месцы (пра насякомых, птушак)’ (ТСБМ, Шымк. Собр.), ‘патрабаваць спарвання (пра жывёл)’ (Касп.), ‘гайняваць, знаходзіцца ў стане цечкі (пра ваўкоў)’ (валож., воран., слонім., ЛА, 1), ‘бесперастанку працаваць, завіхацца’ (шчуч., Сл. ПЗБ), ‘забаўляцца, гуляць, дурэць’ (брасл., Сл. ПЗБ), *таўчы́са* ‘штурхацца; рабіць што-небудзь, увіхацца’ (ст.-дар., ЖНС); *тоўчы́са* ‘тс’ (ТС), *товчы́са* ‘штурхацца’ (стол., ЛА, 2), *товчы́с’е* ‘тс’ (Вруб.), *товчы́ся* ‘тс’ (кам., ЛА, 2), *товчы́сь* ‘тс’ (іван., бяроз., ЛА, 2). Укр. дыял. *товчи́*, рус. *толо́чь, толчи́*, стараж.-рус. *тълчи, толочи* ‘біць, таўкці’, польск. *tłuc*, чэш. *tlouci*, славац. *tĺcť*, в.-луж. *tołc*, н.-луж. *tłuc*, палаб. *tauct*, славен. *tólči*, серб.-харв. *ту̏ћи*, балг. дыял. *тълча́*, *то́лчем*, макед. *толче*, ст.-слав. **тлъшти, тлѣшти** ‘біць, таўкці, расціраць’. Прасл. *telťi ‘тс’ (Сной у Бязлай, 4, 193), роднаснае

прасл. **telkti*, **tolkti* 'тс', гл. *таўкці*; параўн. кантамінаванае *товкчи́* 'абточваць (проса, ячмень); таўчыся на сонцы (пра камароў, мошак)' (Горбач, Зах.-пол. гов.). Гл. таксама Фасмер, 4, 73–74; Шустар-Шэўц, 1512. Параўн. *талоць*, гл.

**Таўшчыня́** 'велічыня папярочнага сячэння прадмета'; 'паўната, сытасць' (ТСБМ, Касп., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *таўшчына́* 'тоўстасць' (Растарг.), *таўсціня́* 'тс' (в.-дзв., лаг., віл., маладз., Сл. ПЗБ; Варл.; ашм., Стан.; мёрск., Нар. словатв.), *товшчына́* 'тс' (Вруб.), *тоўшчына́* 'тс', 'таўстуха' (ТС). Варыянтнасць фіналі слова, магчыма, звязана з адрозненнем зыходнай формы прыметніка *таўсты́* і *то́ўсты*, гл. Параўн. *таніня* і *таніна*, гл.

**Таўшчы́р** 'вельмі тоўстае нешта' (Скарбы), *тэ́ўшчар* 'тоўсты' (Сцяц. Сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *тоўшч* (гл.), магчыма, пад уплывам *таўшчэрны*, гл. наступнае слова.

**Таўшчэ́нны** 'форма ацэнкі ад тоўсты, як і здаравенны, вялізны, шырозны' (Янк. 2, Растарг.), *таўшчэ́нный* 'тс' (Бяльк.), *таўшчэ́рны* 'тс' (Байк. і Некр.), *тоўшчэ́зны*, *тоўшчэ́лезны*, *тоўшчэ́лны* 'тс' (ТС), *таўшчэ́разны* 'тс' (Байк. і Некр.); сюды ж *таўсце́нны* 'тс' (люб., ЖНС; Ян.), *товсті́зный* 'тс' (Клім.), *таўсце́разны* 'тс' (карэліц., Сл. ПЗБ; пух., З нар. сл.). Утвораны па тыпу *здаравенны*, *вялізны*, *велізарны* і пад. з экспрэсіўнай "вертыкальнай" заменай зычных, выкліканай іх прыпадабненнем і распадабненнем.

**Тафалёўка** 'настойка на таполевых пупышках' (астрав., Сл. ПЗБ). Гл. *тапо́ля*.

**Та́фель** 'паркет' (Некр. і Байк.). Запазычана з ням. *Tafel* 'дошка, пліта', магчыма, праз польск. *tafelka* 'плітка, дошчачка' ад *tafla* 'пліта, тонкая дошчачка', гл. *тахля*.

**Тафта́** 'шаўковая або баваўняная глянцавітая тканіна' (ТСБМ), ст.-бел. *тафта* 'тс'; сюды ж *тафта́ннік* 'паркаль' (Сцяшк. Сл.). Старабеларускае слова фіксуецца з 1497 г. і выводзіцца з тур. асм. *tafta*, што з перс. *tāftä* 'від тканіны' (Булыка, Лекс. запазыч., 115). Дапускаюць два шляхі пранікнення: непасрэдна з турэцкай (параўн. удакладненае ст.-бел. *китайки тафты куском*; 1511 г.) або праз польск. *tafta* з франц. *taffetas* 'тс' ці італ. *taffetà* 'тс'. Менш верагодна рускае пасрэдніцтва, як даводзіць Цыхун (Пути поднебесной, Минск, 2006, 1, 260); мажліва, паўторнае запазычанне з рус. *тафта́* 'тс', гл. Фасмер, 4, 29; Брукнер, 563; ЕСУМ, 5,



528–529; Голуб–Ліер, 476; Махэк$_2$, 633; Міту, Зб. памяці Слаўскага, 305.

**Тах** – абазначэнне адрывістага гуку (ТСБМ), 'пра ўдар, выстрал' (мсцісл., Нар. лекс.), *тах-тах* – абазначэнне рытмічных удараў цэпам (ашм., Сл. ПЗБ), параўн. 'цок-цок' – абазначэнне ўдараў падкоў, (швянч., Сл. ПЗБ). Гукаперайманне.

**Та́хаць** 'біць у дошку малатком падчас начной варты' (Нас.), *та́хыць* 'ляпаць' (Бяльк.), *та́хаты* 'ўзбоўтваць; стукаць, біцца (у тым ліку пра сэрца)' (Сл. Брэс.), 'трэсці, варушыць, узбоўтваць (аб пасудзіне з вадкасцю)' (драг., З нар. сл.). Гукапераймальнае ўтварэнне, суадноснае з *тах*, гл.

**Тахер**, ст.-бел. *тахеръ*, *тахоръ*, *тахръ* 'адзінка ліку 12, тузін' (Ст.-бел. лексікон). Запазычана праз ст.-польск. *tacher* з ням. *Tacher* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 154; Брукнер, 563).

**Та́хкаць** 'стукаць', 'страляць (пра аўтаматычную зброю)'; 'пульсаваць, моцна біцца (пра сэрца)', 'пра шум (у галаве, вушах і пад.)' (ТСБМ), 'моцна біцца (пра сэрца)' (навагр., З нар. сл.). Укр. *та́хкати* 'стукаць'. Гукапераймальнага паходжання, гл. *тах*, *татах*.

**Тахлі́ць** *(тахлі́ці)* 'даваць, аддаваць': *даколь ты ёй усё будеш тахлі́ці* (Чэрн.). Відаць, суадноснае з *тахляваць*, гл.

**Та́хля** 'вялікі ліст шкла' (ТС). З польск. *tafla* 'пліта, пласціна, ліст', што з ням. *Tafel* 'дошка, пліта' (Брукнер, 563), магчыма, пад уплывам *кафля* (ЕСУМ, 5, 528), гл. Параўн. *тапля*.

**Тахлява́ць** *(тахлева́ць)* 'марнатравіць' (Нас.), 'марнатравіць, перапрадаваць, спекуляваць' (Чач.), *тахлёваты* 'мантачыць, растрачваць' (Арх. Вяр.). Параўн. польск. дыял. *tachlować* 'перапрадаваць, махлярыць'. З ідыш *táxl(j)even* 'праматаць, прамотваць; растраціць, растрачваць', што да *tachles* 'канкрэтная мэта, вынік, карысць' (Астравух, Ідыш-бел. сл., 791), апошняе ўзыходзіць да бібл.-гебр. *taklīt* 'завяршэнне, крайнасць' (Вінер, ЖСт., 1895, 1, 67; Штэрн, Wörterbuch, 211).

**Та́хнуць$_1$** 'марнець' (мёрск., Нар. ск.), 'трухлець, бутлець' (полац., Нар. лекс.), сюды ж *ста́хнуць*, *пата́хнуць*. Укр. дыял. *та́хнути* 'павольна гаснуць; сохнуць; худнець'. Няясна; магчыма, да прасл. **tъch-*, асабліва ў значэнні 'трухлець, бутлець, гніць', гл. *тохнуць*, *тхло*, *тухлы*, параўн., аднак, *ча́хнуць* 'сохнуць, худнець; занепадаць' (гл.), аналагічнае да *та́ўрыць*/*ча́ўрыць*

‘чахнуць’. Меркаванне пра кантамінацыю пры ўтварэнні ўкраінскага слова (ЕСУМ, 5, 529) сумніўнае.

**Та́хнуць₂** ‘ударыць’, ‘уцячы, драпануць’, ‘патраціць, зрасходаваць’ (Мат. Гом.). Параўн. в.-луж. *tachnyć* ‘даць аплявуху, пляснуць ладоняй’; відаць, аднакратны дзеяслоў ад *та́хаць* (гл.) гукапераймальнага паходжання, параўн. Шустар-Шэўц, 1495.

**Тахо́ліць** ‘расходаваць, раскідаць’: *лісце лаза, як рублёўкі, тахоліць* (лёзн., Край: літ.-маст. альманах. Наваполацк, 1997, 93). Хутчэй за ўсё, да *тахлявацъ* (гл.) або да *тахаць* (гл.) з экспрэсіўным суф. *-олі-*, параўн. *тахтоліць*, гл.

**Тахо́ніць** ‘несці, цягнуць, валачы’ (ЛіМ, 1970, 2, 12). Відаць, таго ж паходжання, што і польск. *tachnąć* ‘цягнуць’, якое Брукнер (563) звязвае з *taskać* ‘цягаць што-небудзь цяжкае’, параўн. *таскаць*, гл.

**Тахт** ‘такт’: *у тахт* ‘у адпаведнасці з рытмам’ (шальч., Сл. ПЗБ), *та́хта*: *да тахты* ‘тс’ (Стан.), *та́хта* ‘такт, вытрымка’ (Сцяшк.). Гл. *такт*.

**Тахта́** ‘шырокая канапа без спінкі’ (ТСБМ). Новае запазычанне праз рус. *тахта́* ‘тс’, што, відаць, з каўказскіх моў (Чарных, 2, 230). Не выключана і непасрэднае знаёмства са словам праз мясцовае татарскае насельніцтва, параўн. тур. *tahta* ‘ўзвышэнне’ ў турэцка-польскім слоўніку з кітаба Хасяневіча 1840 г., гл. Мішкінене, Orientas, 116. Першакрыніцай можа быць перс. *täxt* ‘трон; кушэтка; ложак’.

**Тахто́ліць** ‘пхаць’ (Арх. Федар.): *tachtolić, jak й byzdonny mieszok* (Федар. 4), сюды ж *nieйtachtolić* ‘не задаволіць’ (Арх. Федар.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з суф. *-олі-* ад гукапераймальнага *тохтаць* (гл. *тох-тох-тох*), параўн. балг. *тах*, *тахт* ‘трах, бах’, па ўзору *тарара́хаць*, *тарара́хтаць* ‘тарахцець’ (ТСБМ), параўн. *тахоліць*, гл.

**Тахту́рыць** ‘хутка ісці з невялікай паклажай’ (Стан.). Магчыма, кантамінацыя *тахаць* ‘стукаць (тупаць?)’ і *турыць* ‘гнаць’ (гл.), параўн. *тахоніць*, гл.

**Тахці́ць₁** ‘гаціць, пракладваць дарогу праз балоцістае месца’ (ТСБМ), ‘валіць, піхаць, усоўваць’ (Сержп. Прымхі), ‘даваць не надавацца, пхаць як у прорву’ (слонім., Жыв. сл.), *тахце́ць* ‘тс’: *тахці як у прорву* (Сержп. Прык.). Утворана ад гукапераймальнай асновы па тыпу *тарахаць*, *тарахцець* (гл. *тарах*). Да *тахаць*, гл.



**Тахці́ць₂** ‘шчасціць, шанцуе’: *тахціць кожная справа яму* (Ласт.). Відаць, да папярэдняга слова ў пераносным ужыванні, параўн. *бо што ні рабіць, та ўсе на паноў тахціць* (Сержп.), г. зн. ‘валіцца, ідзе на карысць’.

**Та́ца** ‘паднос’ (Некр. і Байк.), ‘хлебніца’ (Сцяшк. Сл.), *тац* ‘паднос’ (Шпіл.), ст.-бел. *таца* ‘кубак, чаша’ (Ст.-бел. лексікон). Праз польск. *taca* ‘від плоскага начыння’, ‘чаша, чарка, міска’ (з XVI ст.) запазычана з ням. *Tatze* ‘паднос’, што, у сваю чаргу, з італ. *tazza* ‘шклянка’ < араб. *ṭasa* ‘шклянка, міса’ (Борысь, 625), апошняе выводзяць з перс. *tāšt* ‘чаша, сподак’ (ЕСУМ, 5, 529).

**Тацця́нка** ‘вузкая ў таліі сукенка са зборкамі’ (ТСБМ), *таця́нка* ‘тс’ (Мат. Гом.; навагр., Нар. сл.). Ад *Тацця́на*, аднак матывацыя няясная.

**Тацьб₁** рэдкае ‘злодзей’: *таць начны* (слаўг., Бел. лекс., 168), ст.-бел. *тать* ‘злодзей’ (Ст.-бел. лексікон), ‘злодзей, рабаўнік’ (1440 г., КГС), сюды ж *татьба*, *татба* ‘крадзеж, рабаўніцтва’ (1398 г.), ‘грашовы штраф за разбой’ (Ст.-бел. лексікон, КГС). Параўн. укр. *тать* ‘злодзей’, *татьба́* ‘крадзеж, рабаўніцтва’, рус. *тать*, стараж.-рус. *тать* ‘злодзей, грабежнік’, н.-луж. *taś*, серб.-харв. *та̑т*, славен. *tȃt* ‘тс’, *tȃtba* ‘крадзеж’, ст.-слав. **тать** ‘злодзей’. Прасл. **tatь* звязваюць з **taiti* ‘таіць’, роднаснае ст.-ірл. *tāid* ‘злодзей’, грэч. τητάω ‘пазбаўляю’, ст.-інд. *tāyúḥ* ‘злодзей’, хец. *tajezzi*, *tajazzi* ‘крадзе’ (Фасмер, 4, 28; Шустар-Шэўц, 1500; Скок, 3, 434–435; Огледна. св., 71; Бязлай, 4, 156; ЕСУМ, 5, 528), гл. *таіць*.

**Тацьб₂** ‘раставаць’ (пух., З нар. сл.). Параўн. чэш. *tát*, в.-луж. *tać* ‘раставаць, пераходзіць у вадкі стан’. Інфінітыў на базе кораня ў прасл. **ta-ja-ti* тс’ < і.-е. **tā-* ‘тс’ (Махэк₂, 637; Шустар-Шэўц, 1494). Гл. *та́яць*.

***Тача́**, *точа́* ‘незамярзаючае месца ў рацэ, прамыіна’ (ТС). Архаічнае ўтварэнне ад асновы **tok-*, што чаргуецца з **tek-*, параўн. *ток*, *выток*, *затока*, *цячы*, гл. *цечка* ‘прамыіна’.

**Тача́нка** ‘лёгкая павозка з адкрытым кузавам’ (ТСБМ, Вруб.): *павозкі даўней былі... тачанкі* (Маладосць, 1992, 2, 115), перан. ‘павозка такога тыпу, забяспечаная кулямётам’ (ТСБМ), ‘тачка’ (Ян., ПСл). Укр. *тача́нка* ‘лёгкая павозка’, рус. *тача́нка* ‘тс’. Відаць, арэальнае ўтварэнне на базе прасл. **tačati* ‘гнаць, паганяць, каціць’, параўн. стараж.-рус. *тача́ти* ‘гнаць, паганяць’,

польск. *taczać* 'каціць', чэш. *táčeti* 'круціць, качаць' (ЕСУМ, 5, 529). Не выключана другаснае збліжэнне з польск. *najtyczanka* 'від лёгкай павозкі' (з нямецкай), адкуль Фасмер (3, 49), Трубачоў (Дополн., 4, 29) выводзяць рус. *натыча́нка* 'лёгкая плецяная польская брычка', *тача́нка* 'лёгкая павозка'. Гл. і *тачаць*, *тачка*.

***Тача́ць**, *точа́ць* 'соваць': *не точай рукі к ножу* (ТС), сюды ж *тачы́ць (точи́ть)* 'соваць, працягваць' (Нас.). Відаць, да прасл. **tačati* 'перасоўваць, перакульваць, рухаць', шматкратнага дзеяслова ад **točiti*, гл. *тачыць*₁.

**Та́чка** 'каляска на адным коле, якую штурхаюць перад сабой' (ТСБМ, Арх. Вяр.), ст.-бел. *тачка* 'тачка' (1679 г., КГС), 'невялікі вазок' (Сл. ПЗБ). Укр., рус. *та́чка* 'вазок на адным коле', польск. *taczka*, часцей мн. л. *taczki* 'тс', ст.-чэш. *táčka*, чэш., славац. *táčky* мн. 'тачка (для пяску); двухколка', серб.-харв. *та̀чке*, *та̏чке* 'тс'. Прасл. **tačьka* 'павозка, вазок' ад прасл. **tačati* 'перасоўваць (на колах, куляючы і пад.)', параўн. стараж.-рус. *такати* 'гнаць, паганяць', пазней *тачати* 'тс', *тачити* 'гнаць; ездзіць', польск. *taczać* 'пасоўваць нешта круглае, куляць', з суф. *-ьk-a* (Борысь, 625).

**Тачкава́я** 'прадаўшчыца' (Сл. рэг. лекс.), *тачка́рка* 'тс' (Сцяшк. Сл.). Вытворныя ад рус. *то́чка* 'магазін, гандлёвая кропка', *торго́вая то́чка* 'гандлёвы пункт'.

**Тачко́ўка** 'ўмоўны знак (кропка), які ставяць на паперы пры абмеры плыта (адпавядае 10 $м^3$)' (Нар. лекс.). Ад рус. *то́чка* 'кропка'.

**Тачо́к** 'пляцоўка, узвышанае і роўнае месца' (Ласт.), 'ток (глінабітная пляцоўка)' (чавус., карм., ЛА, 4), 'катух' (брэсц., Нар. сл.). Да *ток*₂.

**Тачы́дла** 'тачыльны станок, тачыла' (Сл. ПЗБ, ЛА, 2), *тачы́дло* 'тс' (Сцяц. Сл.; астрав., маст., Сл. ПЗБ; зэльв., слонім., маст., свісл., івац., ЛА, 2), ст.-бел. *точыдло* 'тс' (Ст.-бел. лексікон). З польск. *toczydło* 'прыстасаванне для тачэння'.

**Тачы́ла** 'тачыльны камень і станок для тачэння' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), *тачы́ло* 'тс' (Сержп. Грам., Сл. ПЗБ, Пятк. 2, ТС, Арх. Вяр., Вруб.): *сам камень точыло і ўсё са станком* (нясвіж., Нар. словатв.), сюды ж *тачы́льнік* 'тс' (бераст., ЛА, 2), *точыл'нік* 'тс' (Вруб.). Укр. *точи́ло*, рус. *точи́ло*,



польск. *toczydło*, в.-луж. *tóčnik*, н.-луж. *tocnik* 'тс', славац. *točidlo* 'паваротны круг, дыск', серб.-харв. *то̀чило* 'такарны станок', балг. *точи́ло* 'тачыльны камень', макед. *точило* 'тс'. Вытворныя ад **točiti*, гл. *тачы́ць*₁ 'затачваць'; формы з суф. *-нік* (назоўнікі са значэннем інструмента) утвораны з мэтай размежаваць 'станок для тачэння' і 'брусок для тачэння', параўн. Шустар-Шэўц, 1511.

**Тачы́ць**₁ 'вастрыць, завострываць', 'вырабляць што-небудзь на такарным станку', 'дзіравіць, пашкоджваць (пра насякомых, грызуноў; пра дзеянне вады, ветру)'; 'неадступна мучыць, пазбаўляць сіл (пра хваробу, думкі, пачуцці і пад.)' (ТСБМ, Некр. і Байк.), 'вастрыць', 'рыць; грызці' (Сл. ПЗБ), 'вастрыць' (Бяльк.; ашм., Стан.; Сержп. Прык.), 'дзіравіць, прагрызаць' (Нас.), 'натачваць' (Ласт.), *точы́ць* 'грызці, рыць; усоўваць' (ТС), *точы́ть* 'вастрыць' (Вруб.); сюды ж *тачы́цца* 'лезці, рабіць хады' (Федар. 4), *точы́цца* 'лезці, чапляцца' (ТС). Укр. *точи́ти* 'вастрыць; апрацоўваць', 'грызці, праядаць'; 'пазбаўляць сіл, здароўя', рус. *точи́ть* 'вастрыць; грызці', стараж.-рус. *точити* 'праядаць', польск. *toczyć* 'вастрыць', в.-луж. *točić* 'вастрыць; грызці', н.-луж. *tocyś* 'тс', чэш. *točit* 'вастрыць, выточваць', славац. *točiť* 'тс', серб.-харв. *то̀чити* 'вастрыць; грызці', балг. *то́ча* 'вастрыць', макед. *точи* 'тс'. З прасл. **točiti* 'вастрыць, абточваць', якое звязана з **točiti* 'гнаць, прымушаць бегчы' > 'абточваць, паварочваючы'. З падобным развіццём семантыкі літ. *tekė́ti* 'бегчы' і 'вастрыць' (Брукнер, 61). Славянскія словы збліжалі з арм. *t'ek'em* 'кручу, пляту, намотваю', лац. *texere* 'ткаць, плесці' (ЕСУМ, 5, 611; Фасмер, 4, 90; Брукнер, 573; Голуб–Ліер, 478; Махэк₂, 637–638).

**Тачы́ць**₂ 'наліваць' (Сл. ПЗБ), 'ліць, цадзіць' (Нас., Байк. і Некр.), ст.-бел. *точити* 'выдзяляць, раздаваць', 'рассыпаць', *войну точити* 'ваяваць' (Ст.-бел. лексікон), сюды ж *тачы́ць вайну́* 'сварыцца, вадзіцца' (Сл. ПЗБ), *тачы́цца* 'ліцца, выліваццa' (Байк. і Некр.), 'ліцца; сыпацца патрохі' (Нас., Стан.), 'працякаць' (Ян.), 'паўзці, імкліва пранікаць': *мухі ў хату точуцца* (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *вада точыцца* (ашм., Сл. ПЗБ), 'рухацца, перамяшчацца': *рак точыцца назат* (гродз., Сл. ПЗБ), *точы́цца* 'сачыцца' (ТС). Укр. *точи́ти* 'ліць, выпускаць (вадкасць), цадзіць', *точи́тися* 'цячы, выцякаць', рус. *точи́ть* 'выпускаць (вадкасць)', стараж.-рус. *точити* 'выдзяляць вільгаць; праліваць', польск. *toczyć* 'разліваць', чэш. *točiti* 'ліць, цадзіць', славац. *točiť*

‘цадзіць, наліваць’, славен. *točíti* ‘ліць’, серб.-харв. *тѝчити* ‘наліваць, ліць; цячы, ліцца’, балг. *тóча* ‘цадзіць, наліваць, разліваць’, макед. *точи* ‘тс’, ст.-слав. **точити** ‘выпускаць (вадкасць); гнаць, праследаваць’. З прасл. **točiti* ‘пускаць, бегчы, цячы; гнаць’, каўзатыва ад **tekti* ‘цячы’ (ЕСУМ, 5, 610; Чарных, 2, 254; Фасмер, 4, 90; Брукнер, 573; Голуб–Ліер, 478; Махэк$_2$, 637–638). Паводле Борыся (637), аднаго паходжання з папярэднім словам (гл.), пры гэтым прасл. **točiti* мела агульнае значэнне ‘рабіць так, каб нешта цякло, плыло’, ‘перамяшчаць нешта, надаючы яму вярчэнне’, ‘апрацоўваць прадмет, верцячы яго’. Параўн. і *тачаць*, гл.

**Тачы́ць$_3$** ‘падаўжацць, сточваць адно з адным’ (калінк., Сл. ПЗБ), *точы́ць* ‘тс’ (ТС). Гл. папярэдняе слова; у аснове значэнне ‘круціць, віць’.

**Тачы́ць$_4$** ‘расціраць, церці’: *тачылі ягады на машынку* (рагач., Сл. ПЗБ). Гл. *тачы́ць$_1$*.

**Тáшва** ‘ніжняя частка кашулі, надточаная іншай тканінай’ (Сакал., Лекс. Бел. Палесся). Няясна, магчыма, з **тачва* ад *тачыць$_3$* (гл.), збліжанае з *шыць*, параўн. *прышва, прошва*, гл.

**Ташнавáць** ‘нудзіцца, сумаваць’ (Нас., Рам. 8–9, Растарг.), ‘тужыць, нудзіцца’ (Касп.), *тачнавáць (точновáць)* ‘тс’ (Нас.). Шматкратны дзеяслоў да *ташнéць* (гл.), зыходная форма *тошна* (гл.), што да **tъščьnъ* ‘нудны, сумны’, роднаснага **tъsknъ* ‘тс’, адкуль *таскнавáць* ‘нудзіцца, сумаваць’ (Нас., Ласт.), гл. *таска*.

**Ташнатá** ‘моташнасць’ (ЛА, 3), *тышнытá* ‘нуда, сумаванне’ (Бяльк.), *ташнóта* ‘моташнасць’ (полац., навагр., чэрык., хоцім., рэч., ЛА, 3), *ташнóты* ‘тс’ (круп., добр., стол., ЛА, 3), *тошнóта* ‘тс’ (Арх. Вяр.). Гл. *тошна*.

***Ташнéць**, *тошнéць* ‘ныць, млець’: *тошняць мое ногі* (ТС), сюды ж *ташніць* ‘нудзіць, гідзіць’ (ЛА, 3), *тошныты* ‘тс’ (Арх. Вяр.), *тошніт* ‘цягне на ваніты’ (Вруб.), н.-луж. *tešnis* ‘трывожыць, маркоціць’, у аснове якіх прасл. **tъšьnъ-jь* (гл. *тошна*), адносна пераходу *sk > š* гл. Шустар-Шэўц, 1572, параўн. *таскніць*, *таска*, гл. Шырокае распаўсюджанне формы *ташніць* і пад., якая на ўсёй тэрыторыі Беларусі сустракаецца побач з *нýдзіць*, *гідзіць*, сведчыць аб уплыве рускай мовы, параўн. рус. *тошни́ть* ‘цягнуць на ваніты’.

**Ташнý** – пабочнае слова ‘гэта ж трэба, такое дзіва’. З **то-ж-ну*, гл. *та (то), ж(а), ну*.



**Ташчáк** ‘схуднелая жывёла (з упалымі бакамі)’ (ашм., ЛА, 1): *у ташчак* ‘нашча’ (брасл., Сл. ПЗБ). Суфіксальны назоўнік ад *тошчы*, гл.

**Ташчáлый** ‘знясілены, худы’ (даўг., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка мяркуюць пра ўплыў літ. *tùščias* ‘пусты’, хутчэй “элявы” дзеепрыметнік ад **ташчáць* ‘худнець’ па тыпу *стаялы* ‘застоены’ (РБС). Гл. *тошчы*.

**Ташчáнка** ‘чыстая гарэлка без дамешкаў’ (Ласт.). Да *тошчы* ‘пусты’, гл.

**Ташчы́ма** ‘без паклажы’ (паст., Сл. ПЗБ), сюды ж *ташчы́мны* ‘нішчымны, посны’ (шчуч., Сл. ПЗБ), *ташчы́мніца* ‘нішчымніца’ (Сцяшк. Сл.). Прыслоўе, утворанае з суф. *-ма* ад *тошчы* ‘пусты’ (гл.) па тыпу *кудыма, тудыма* (адносна такіх утварэнняў гл. Карскі, 2–3, 67), магчыма, пад уплывам тэрытарыяльна блізкіх і роднасных літ. *tuščiom, tuščiomis* ‘паражняком, з пустымі рукамі, ні з чым’, *tuštỹtė* ‘пустое месца’. Параўн. *нішчымны* (гл.), для якога ў якасці этымона побач з прапанаваным спалучэннем *ні з чым* можна дапусціць *нішчы* ‘бедны’ (гл. *нішчаць*).

**Ташчы́ца** ‘допушчаная памылка пры ўвядзенні асновы ў бёрда’ (глыб., мядз., Сл. ПЗБ), *ташчаніца* ‘пустая пятля ў ніце’ (віл., Жд. 1), ‘дапушчаная памылка пры ўвядзенні асновы ў бёрда’ (віл., Сл. ПЗБ), сюды ж *ташчýха* ‘памылковае ўцягванне асновы ў ніт (у кроснах)’ (Варл.), ‘брак пры тканні палатна, калі разрываецца нітка ў аснове’ (Сцяшк. Сл.). Да *тошчы* ‘пусты’ (гл.), параўн. *мінуха* ‘памылка пры накідванні асновы ў бёрда’, гл. Гл. таксама *шчуха*.

**Ташчы́ць** ‘несці, цягнуць’ (Нас.), ‘капаць (бульбу)’ (Сцяшк. Сл.), *ташчы́ты* ‘выбіраць бульбу рукамі’ (Сл. Брэс.), ‘разграбаць рукамі выараны рад бульбы, капаць бульбу’ (кобр., Нар. лекс.; Ск. нар. мовы). Укр. *тащити* ‘цягнуць, валачы’, дыял. ‘зграбаць сена’, рус. *тащи́ть* ‘тс’, польск. *taszczyć* ‘тс’ (з усх.-слав., гл. Борысь, 628). Гл. *таскаць*.

**Тáя** – указальны займ. ж. р. ад *той* (Нас., Ласт., Вруб.), ст.-бел. *тая*, *тая* ‘тс’ (XVI ст., Карскі, 2–3, 194; Альтбаўэр), сюды ж эўфемізм *тáя* ‘задніца’ (Пятк. 2), ‘рэч ці асоба, якой тут няма’ (Варл.), *тáя хáта* ‘святліца’ (пруж., Нар. скарбы), *тáя слáва* ‘толькі знак’ (драг., З нар. сл.), *тáято (tájato)* ‘вось тая’ (Вруб.). Параўн. укр., рус. дыял. *тáя*, стараж.-рус. *тая*, макед. *таа*. Узыходзіць як форма ж. р. да **тъ-jь* (гл. *той, то*), неўскладненая

форма *та* сустракаецца ў гаворках: *і та говорыць і та* (ТС), паводле Карскага (2–3, 194), пад рускім ці польскім уплывам, аднак, магчыма і другаснае сцяжэнне з пропускам *-j-*, параўн. *таа* (бых., Рам. 4).

**Таямні́ца** 'нешта скрытае, тайнае, загадкавае', 'тайна', 'таемнасць' (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк.), сюды ж *таямні́чы* 'патаемны', 'загадкавы (пра чалавека)', 'тайны, сакрэтны' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *таемні́чы* 'тс' (Вруб.). З польск. *tajemnica*, *tajemniczy* 'тс', вытворных ад *tajemny* (Борысь, 625), гл. *таемны*.

**Та́яць** *(та́іць)* 'раставаць' (Нас.), *та́яць* 'тс' (Ласт., Бяльк.; ашм., Стан.), *та́е, та́я, та́іць, та́не, та́ня* 'растае' (ЛА, 2), ст.-бел. *таяти* 'тс' (КГС); сюды ж *таць* 'тс' (гл.). Укр. *та́яти* 'раставаць', рус. *та́ять* 'тс', польск. *tajać* 'тс', н.-луж. *tajaś* 'тс', в.-луж. *tać* 'тс', чэш. *tát* 'тс', славен. *tájati se* 'тс', серб-харв. *ма̏јати* 'прасочвацца, працякаць', макед. дыял. *таи* 'тс', 'раставаць', балг. *та́я* 'тс', дыял. *та́е* 'прапускае (пра порысты, няшчыльны посуд)'. З прасл. **tajati* (**ta-ja-ti* ад асновы цяп. ч. **tajǫ*, **tаješь*) 'раставаць', роднаснага да ст.-інд. *tóyam* 'вада', грэч. *τήκω* 'растопліваць; расчыняць', дар. *τάκω* 'тс', лац. *tābeo, -ere* 'раставаць, расцякацца; распадацца, разлагацца', асец. *t'ayun* 'раставаць', арм. *t'anam* 'змочваю, увільгатняю', ст.-в.-ням. *douwen*, ням. *tauen* 'тс', ст.-англ. *þāwian*, англ. *thaw* 'тс', ст.-ірл. *tām* 'чума', вал. *tawdd* 'растоплены'; усё да індаеўрапейскай асновы **tā-* 'раставаць, расплаўляцца' (Фасмер, 4, 30; Чарных, 2, 230; Брукнер, 563; ЕСУМ, 5, 515; Борысь, 625; Шустар-Шэўц, 1494; Бязлай, 4, 147; Трубачоў, Труды, 1, 313–314). Варыянты асновы ў *раставаць, растаць*.

**Твань** 'дрыгва, багністае месца; гразь; ціна' (ТСБМ, Некр. і Байк., Шымк., Гарэц., Бяльк., ТС, Пятк. 1, Сл. ПЗБ, Ск. нар. мовы), 'іл' (бых., бялын., клім., петрык., ветк., светлаг., ЛА, 2; Сцяшк.), 'плаў на балоце, каля возера' (кругл., мазыр., хойн., ЛА, 2), 'невялікі прыродны вадаём' (маг., ЛА, 2; Мат. Гом.), 'моцны смурод; ціна, балота' (Растарг.), 'ціна, глей, мул, буза' (Нас.), 'водарасці' (Мат. Гом.). Укр. *твань*, рус. дыял. *твань* 'твань'. Лічыцца, што паходзіць з літ. *tvãnas* 'патоп' < *tvìnti* 'разлівацца, выходзіць з берагоў' (Коген, Запіскі, 2, 9, 90; Буга, Rinkt. 2, 639; Гутшміт, ZfSl, 19, 2, 269; ЕСУМ, 5, 530; Фасмер, 4, 31; Лаўчутэ, Балтизмы, 40). Адносна фанетычных і семантычных



цяжкасцей пры запазычанні гл. Талстой, Геогр., 166–167; Анікін, Опыт, 285.

**Твар** 'пярэдняя частка галавы чалавека', 'індывідуальнае аблічча, выгляд' (ТСБМ, Ласт.), 'фізіяномія' (Байк. і Некр., Касп., Федар. 4, Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ, Сцяшк., Вруб., ЛА, 3), *тварь* 'тс' (Нас.), *тва́ра* 'тс' (брасл., Сл. ПЗБ), *тва́рына* 'аблічча' (там жа), *твар* м. р. 'тс', ж. р. 'стварэнне' (ТС), *тварь* ж. р. 'тс' (Бяльк.), *твар* 'воблік, від' (Гарэц., Некр. і Байк.), *тва́рычка* 'тварык' (Нас.), *тва́рышча* 'пыса, морда' (Нас.), *тварю́ка* 'стварэнне, пачвара' (Растарг.), ст.-бел. *тварь* ж. р. 'фізіяномія': *тварь збита* (XVI ст., Карскі, 2–3, 21), *твар*, *тварь* 'тс'; 'індывідуальнае аблічча, выгляд' (канец XV ст.). Укр. *твар* 'жывое стварэнне', старое 'аблічча', рус. *тварь* 'жывое стварэнне', стараж.-рус. *тварь* 'стварэнне'; 'істота';'сусвет'; 'выраб; убор', польск. *twarz* 'твар', н.-луж. *twaŕ* 'будаўнічы лес, будынак', в.-луж. *twar* 'вулей', чэш. *tváŕ* 'шчака; твар', славац. *tvár* 'твар; воблік', славен. *tvar* 'рэчыва, матэрыял', серб.-харв. *тва̑р* 'рэчыва, стварэнне', балг. *твар* 'жывое стварэнне', макед. дыял. *твар* 'выраз твару', ст.-слав. **тварь** 'стварэнне, істота; прырода', выгляд'. Да прасл. **tvarь* ж. р., якое звязана з **tvoriti* агульным праславянскім коранем **tvor-/*tvar-* (Фасмер, 4, 31; Чарных, 2, 231; Шустар-Шэўц, 1562–1563; Бязлай, 4, 252; Борысь, 656; Длугаш-Курчабова, 506–507), гл. *тварыць*. Заслугоўвае ўвагі меркаванне Карскага (2–3, 21) пра запазычанасць формы *твар* ж. р. 'пярэдняя частка галавы чалавека' з польск. *twarz* (гл. таксама Булыка, Лекс. запазыч., 128), якое само лічыцца запазычаным з чэш. *tváŕ* 'аблічча, твар', што, магчыма, калькуе адносіны лац. *facere – facies*; гл. Басай-Сяткоўскі, Słownik, 402.

**Тваражаўнік** 'увярэднік, Pedicularis palustris L.' (Кіс.). Няясна.

**Тва́рба** 'духмянае рэчыва для прыманкі пчол' (Мат. Гом.), *тво́рба* 'прынада для пчол' (ПСл), *тво́рба́* 'тс' (ТС). Аддзеяслоўны назоўнік з суф. *-ба* ад *тварыць*$_2$, гл.

**Тва́рка** 'адтуліна ў калодачным вуллі, праз якую дастаюць мёд' (лельч., Арх. ГУ), 'адтуліна ў вуллі' (Мат. Гом.), *тва́ркі* 'вузкія дошчачкі, што ўстаўляюцца ў адтуліну вулля' (Нік. Очерки). Параўн. рус. смален. *тва́рька* 'невялікая круглая адтуліна ў вуллі для пчол', дыял. *твирь* 'палова складной даўжаі ў борці', якое Фасмер (4, 33) параўноўвае са *ство́рка* 'тс' і звяз-

вае з *затворя́ть* 'зачыняць', што ўрэшце ўзыходзіць да **verti* 'прыцiскаць, замыкаць'. Аднак параўн. таксама польск. *twarz*, *tworz* 'работа каля борцяў', што схіляе да сувязі з *тварыць*$_2$ (гл.), параўн. *тварыла*$_1$.

**Тваро́г** 'прадукт харчавання з кіслага малака пасля адтоплівання' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сцяшк., Сл. ПЗБ), *тво́раг* 'тс' (Нас., Нік. Очерки, Касп., Растарг.), 'густыя часці малака' (Ласт.), *тво́рах* 'тс' (полац., Нар. сл.), *творо́г*, *творі́х*, *твору́г*, *атваро́г*, *отворо́г* 'малочная тваражная маса; страва з такой масы, размешанай са смятанай або малаком' (Лекс. Бел. Палесся). Укр. дыял. *тва́рог* 'тваражная маса', рус *тво́ро́г* 'тс', польск. *twaróg*, н.-луж. *twarog*, в.-луж. *twaroh*, чэш., славац. *tvaroh*, ст.-слав. **тварогъ**. Існуе некалькі версій паходжання слова. Згодна з асноўнай версіяй, прасл. (дыял.?) **tvarogъ*/**tvorogъ* 'тварог' утворана ад асновы **tvar-*/**tvor-* 'твор, форма' з дапамогай суфікса *-*ogъ* (ён жа ў **pirogъ* 'пірог', **ostrogъ* 'астрог'), аснова слова звязана з **tvoriti* 'тварыць, надаваць форму', гл. *твары́ць*$_1$. Адносна развіцця семантыкі параўн. італ. *formaggie* 'сыр', франц. *formage* 'тс' < нар.-лац. *formaticum* 'тс' < лац. *forma* 'форма' (Фасмер, 4, 31, Брукнер, 586; Слаўскі, SP, 1, 67; Шустар-Шэўц, 1563; Борысь, 656; ЕСУМ, 5, 530–531; Чарных, 2, 231). Паводле іншых версій, лічыцца роднасным да грэч. *τυρός* 'сыр', авест. *tūiri-* 'сселае малако' (адносна гэтай версіі гл. Гамкрэлідзэ–Іваноў, 570 і інш.), а таксама мяркуецца, што можа быць запазычаннем з цюркскіх моў, параўн. чагат. *торак* 'сыр' (Махэк$_2$, 662; Міклашыч, 366 і інш.; ЕСУМ, 5, 530–531; Чарных, 2, 231; Брукнер, 586). Версію пра славянскае паходжанне, якая грунтуецца і на палескім матэрыяле, прапанаваў Страхаў (Palaeoslavica, 13, 2, 19): у выніку перараскладання **ot-variti* 'аттапіць, адварыць' > **o-tvariti*, параўн. балг. *изва́ра*, *отва́ра* 'тварог', чэш. *svaroh* 'тс' (< *svařiti se* 'зварыцца'), рус. дыял. *сваро́к* 'тварог', адкуль палес. *атварог* і пазнейшыя формы.

**Тварыла$_1$** 'века ў пограбе' (бых., Рам. 8–9; Мат. Гом.), *тварыло* 'дзверы ў склеп' (Сцяшк.), 'яма для захоўвання бульбы' (Цых.), сюды ж запазычанае з польскай (Булыка, Лекс. запазыч., 94) ст.-бел. *творі́дло* 'форма для сыроў' (1571 г., КГС; Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *творі́ло* 'скрыня або яма, у якой гасяць вапну', рус. *твори́ло* 'вапнярка', польск. *tworzydło* 'мяшочак або



драўляная форма, у якіх выціскаюць сыры', 'форма, кшталт', 'выдзеўбаная адтуліна', ст.-чэш. *tvořidlo* 'форма для вырабу сыру', в.-луж. *tworidlo* 'пасудзіна для тварагу', славен. *torilo* 'пасуда для вырабу сыру', харв. *tvòrilo* 'драўляная скрынка або абруч (з ліпавага або ясеневага лубу), у які закладваюць сыр, каб надаць яму круглую форму', 'форма, мадэль'. Прасл. **tvoridlo* 'форма для вырабу сыру' ад **tvoriti* 'ствараць, фармаваць' (Бязлай, 4, 205; гл. *тварыць*$_1$), што суадносіцца з літ. *tvérti* 'хапаць, ахопліваць; гарадзіць', дыял. таксама *tveriu* 'агароджваю' і 'раблю сыр'. Зыходнае значэнне 'кораб, скрынка' пашырана да 'выдзяўбаная (выкапаная) ёмістасць' і 'каробка, футрына (дзвярэй і пад.)'. Гл. таксама Махэк$_2$, 662; Шустар-Шэўц, 1565.

**Тварыла$_2$** *(тварыло)* 'чалавек, які ўсіх смяшыць, дзівачыць' (пруж., Чэрн.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *тварыць* 'выраблять, вытвараць' (гл. *тварыць*$_1$).

**Твары́ць$_1$** 'ствараць', 'дзеяць, рабіць, здзяйсняць', 'чыніць, выраблять' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), 'вычвараць, непакоіць, здзіўляць; чыніць' (Нас., Сл. ПЗБ, Ян.), 'тварыць, ствараць' (Сержп. Прымхі), *творы́ць* 'вытвараць' (ТС), *творы́ті* 'тварыць, складаць' (Вруб.), ст.-бел. *творити*, *творыти* 'тварыць, рабіць, чыніць' (XV ст., КГС). Укр. *твори́ти*, рус. *твори́ть*, польск. *tworzyć*, н.-луж. *tworiś*, в.-луж. *tworić*, чэш. *tvořit*, славац. *tvoriť*, славен. *tvoriti*, серб.-харв. *тво̀рити*, балг. *творя́*, макед. *твори*, ст.-слав. **творити** 'тс'. З прасл. **tvoriti* 'тварыць', суадноснае з **tvorъ* 'твор', якое звязана з **tvarъ* 'твор, стварэнне' (з іншым вакалізмам). Прасл. **tvoriti* роднаснае да літ. *tvérti* 'абгароджваць; перавязваць; хапаць; фарміраваць, ствараць', *turėti* 'трымаць; мець', *ãptvaras* 'агароджа', *tvártas* 'хлеў', лат. *tveȓt* 'хапаць, лавіць', *tvarsît* 'тс', *turêt* 'трымаць', прус. *turīt* 'мець', грэч. *σορός* 'пахавальная урна; труна' на падставе і.-е. **tu̯er-* 'хапаць; абгароджваць' (Фасмер, 2, 34; ЕСУМ, 5, 533; Чарных, 2, 231; Брукнер, 587; Махэк$_2$, 662–663; Шустар-Шэўц, 1565). Мяркуецца, што на базе канкрэтных значэнняў 'схапіць, трымаць, браць' праз 'акружаць, акаляць, агароджваць' развіліся абстрактныя значэнні 'кшталтаваць, афармляць, фармаваць' і 'тварыць, ствараць' (Борысь, 656). Параўн. *тварыць*, гл.

**Твары́ць$_2$** 'закутваць, ахінаць вулей на зіму' (петрык., Яшк. Мясц.), *тварыць ву́лей* 'рыхтаваць вулей пад рой' (Стан., Некр.),

*творы́ць* 'класці ў вулей прынаду для пчол' (ПСл), *творы́ць борць* 'апырскваць сярэдзіну борці спецыяльным растворам' (Маш.), *тво́рыць* 'пырскаць, крапіць вулей прыманкай для прываблівання пчол', 'прыбіраць (у хаце)' (ТС). Параўн. польск. *tworzyć* 'рабіць, працаваць каля пчол (у лесе)'. Да папярэдняга (гл.), спецыялізацыя семантыкі на аснове значэння 'акружаць, абгортваць, агароджваць' з далейшым развіццём 'дбаць, даглядаць'.

**Тварыц́ь**$_3$ 'думаць, уяўляць': *я тварыла што месяц усходзіць, аж то мой татэчка па дворэ ходзіць* (барыс., Кольб.). Да *тварыць*$_1$, параўн. польск. *tworzyć* 'прыдумваць'.

**Тварэ́нне** 'стварэнне; твор' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), *творэ́нне* 'тс': *božaje tworèńnie* (Пятк. 2), *творыен'е* 'тс' (Вруб.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *тварыць*$_1$; параўн. *стварэнне*, гл.

**Тварэ́ц** 'той, хто стварае матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці' (ТСБМ), 'творца, стварыцель' (Ласт., Некр. і Байк.), *тво́ріц* 'творца, Бог' (Бяльк.), ст.-бел. *творе́ц* 'тварэц, стваральнік' (XV ст., КГС). Параўн. укр. *тво́ре́ць* 'тс', рус. *творе́ц* 'тс', стараж.-рус. *творьць* 'тс', польск. *tworzec*, ст.-польск. *twarzec* 'тс', в.-луж. *twórc*, н.-луж. *tworc* 'будаўнік', 'творца (рэліг.)', серб.-харв. *tvórac* 'творчая асоба, творца', балг. *творе́ц* 'тс', 'стваральнік, Гасподзь', макед. *творец* 'тс'. Прасл. **tvorьcь* – дэрыват ад **tvoriti*, гл. *тварыць*$_1$ (Шустар-Шэўц, 1565), рэлігійнае значэнне, хутчэй за ўсё, пад чэшскім уплывам, параўн. ст.-чэш. *tvořitel* 'стваральнік, Гасподзь' (Басай-Сяткоўскі, Słownik, 403), *твары́цель* 'тс' (Нас.).

**Тверць** 'цвёрдасць, зацвярдзенне' (пух., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тве́ржа* 'крэпасць, цытадэль' (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *твердь* 'гарт', *тве́рджа* 'цвёрдасць; крэпасць', рус. *твердь* 'цвёрдасць; крэпасць', стараж.-рус. *твьрдь* 'нябесны звод; крэпасць', польск. *twierdz* 'цвёрдасць', старое 'крэпасць', *twierdza* 'крэпасць', в.-луж. *twjerdź* 'цвёрдасць; сухадол', н.-луж. *twarź* 'цвёрдасць; сухадол; крэпасць', чэш. *tvrz*, славац. *tvrdz* 'крэпасць', балг. *твърд* 'цвёрдасць; крэпасць', ст.-слав. **тврьдь** 'тс'. Дэрыват ад *цвёрды* (гл.), значэнне 'крэпасць' лічыцца калькай лац. *firmitās* 'цвёрдасць; крэпасць, умацаванне' або с.-в.-ням. *vestenunge* 'умацаванне, крэпасць' (Фасмер, 4, 32). Хутчэй за ўсё, слова ўзнікла ў выніку дыстантнай дысіміляцыі з *цвердзь (цьвердзь)* 'усякая цвёрдая, моцная аснова' (Ласт.), гл. Пра магчымасць запазычання формаў са значэннем 'крэпасць' са стараславянскай гл. ЕСУМ, 5, 532.



**Твой** 'уласцівы табе, належна табе', перан. 'муж, каханы' (ТСБМ), 'уласцівы, належны табе' (Нас., Бяльк., Ласт., Некр. і Байк., ТС), *тв͡уой* 'тс' (Федар. 4, Вруб.), ст.-бел. *твои* 'тс', сюды ж *тво́йскі* 'ўласцівы, належны табе', 'па-твойму'. Укр. *твій*, рус. *твой*, польск. *twój*, н.-луж. *twój*, в.-луж. *twój*, палаб. *tüj*, чэш. *tvůj*, славац. *tvoj*, славен. *tvój*, серб.-харв. *тво̑j*, балг. *твой*, макед. *твој*, ст.-слав. **твои** . З прасл. **tvojь*, звязанага з **ty* 'ты' (гл. *ты*) і роднаснага да ст.-інд. *tvaḥ* 'твой', авест. *θwa-*, грэч. σός (*tvos), лац. *tuus (< tovos)*, прус. *twais* 'тс', і ўрэшце ўзыходзіць да і.-е. **tu̯o-* (Фасмер, 4, 33; ЕСУМ, 5, 532–533; Брукнер, 587; ESSJ SG, 2, 704).

**Твор** 'прадукт творчай працы' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Гарэц.), *т̣вуор* 'стварэнне; істота' (Арх. Федар.). Параўн. укр. *твір* 'прадукт творчай працы', стараж.-рус. *творъ* 'выгляд', польск. *twór* 'прадукт творчай працы', 'стварэнне, жывая істота', чэш., славац. *tvor* 'стварэнне; выраб', славен. *tvȍr* 'утварэнне, нарыў', серб.-харв. *тво̑р* 'пластыр з бялка на рану', ст.-слав. **творъ** 'праца; чын'. Прасл. **tvorъ* 'стварэнне, фармаванне, вытворчасць', аддзеяслоўны назоўнік ад **tvoriti* (гл. *тварыць*$_1$), першапачаткова назва працэсу з наступнай канкрэтызацыяй (Борысь, 657; Бязлай, 3, 253); інакш і менш верагодна **tvoriti* ад **tvorъ/*tvarъ*, гл. ЕСУМ, 5, 533.

**Тво́раг**. Гл. *тваро́г*.

**Тво́рба́** 'прыманка для пчол' (ТС). Гл. *тварба*.

**Тво́рнік** 'жарабец' (мазыр., З нар. сл.; Мат. Гом.), 'стаеннік' (Сцяшк. Сл.). Скарочана з *вытворнік* 'самец, пакінуты на развод' (гл.), што ад *тварыць*$_1$ і калькуе рус. *производи́тель* 'тс'.

**Тво́рны** ў выразе: *творны склон* 'Instrumentalis' (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр.). Калька рус. *твори́тельный (падеж)* 'тс': вынік "суфіксальнай дывергенцыі" з заменай суф. *-тель* суф. *-ны*, гл. Бідэр у Прыгодзічы, Герман Бідэр як даследчык беларускай мовы. Мінск, 2007, 45; фактычна – часткоага калькавання.

**Тво́рца** 'тварэц' (ТСБМ, Байк. і Некр.), ст.-бел. *творца* 'тс'. Запазычана з польск. *twórca* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 160).

**Тво́рчы** 'стваральны' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.), сюды ж *тво́рчасць* 'творчая дзейнасць', 'сукупнасць створанага' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.). Запазычана з польск. *twórczy, twórczość* 'тс'.

**Твэ́рыць** 'дурэць, гарэзнічаць' (капыл., Жыв. сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *тварыць* 'вытвараць' (гл. *тварыць*$_1$) пад уплывам *чвэ́рыць* 'тс', гл.

**Твяро́зы** 'цвярозы' (віл., Сл. ПЗБ). Гл. *цвяро́зы*.

**-тка** – часціца 'ну, ану': *ну-тка, нуце-тка, купитка горѣлки* (Нас.), *-тко* 'жа, ж': *хадзем-тко на дзедзінец* (Сержп. Казкі), *пойды тко послухай* (пін., Жыв. сл.), *-тку* 'ну': *зірні-тку ж ты* (Полымя, 1998, 12, 22). Параўн. укр. *-тка/-тки* (*тутка, тутки*), рус. *-тко* (*тутко, пойдитко, натко*), *-тка* (*натка, нутка*). Кантамінацыя ўзмацняльных часціц **-to/*-tá/*-te* (гл. *-то, -це*) і **-ka, *-ko*, параўн. *ту́така* (гл. *тут*), *та́мка, та́мака* (гл. *там*), на аснове чаго ўзнікае здвоеная ўзмацняльная часціца *-t-k-*, гл. ESSJ SG, 1, 330–331; там жа адмаўляюцца іншыя інтэрпрэтацыі паходжання названага спалучэння (з *ты* і *-ко, -ка* або з *то́кмо, то́кма*, гл. Фасмер, 4, 64; ці дзеяслоўнай флексіі з *-ка*, гл. Германовіч, Междом., 76). Параўн. *тыке*, гл.

**Ткале́** 'на ўсякі выпадак, хоць, хаця' (слонім., Нар. словатв.), *тка́ле* 'усё ж, аднак' (ганц., Ск. нар. мовы), 'толькі, адно' (Сержп.), *тка́ля* 'можа, каб' (лях., Цыхун, вусн. паведамл.), *тколе́* 'жа, ж' (пін., Жыв. сл.; Сл. Брэс.), *тколэ́* 'усё-такі, усё ж, аднак' (пін., Нар. лекс.). Відаць, да папярэдняга (гл.), ускладненае дадатковай канцавой часціцай *-ле* (< -**lě*, параўн. *але*, гл. ESSJ SG, 1, 319). Менш верагоднае вывядзенне з *тыке́ле, тыке́ля* 'толькі' (Ласт., 706) або з літ. *tik* 'толькі, адно', лат. *tikai* 'тс' (Санько, Крыўя, 1996, 1, 93).

**Тка́лля** 'ткачыха' (ТСБМ, Некр. і Байк., Касп., Варл.; мсцісл., Жыв. сл.; Клім.), *тка́льля* 'тс', *тка́ля* 'тс' (Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., Шатал., Жд.1), *тка́лья, тка́йля* 'тс' (паст., Сл. ПЗБ), *тка́льня* 'тс' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Жд. 1; брасл., паст., валож., навагр., ЛА, 4), ст.-бел. *ткалля* 'тс' (БЛ, 46, 53), сюды ж *тка́льніца* 'тс' (Сл. ПЗБ, Уладз., ТС, Мат. Гом.), *тка́нніца* 'тс' (Сцяц. Сл.; дзісн., Нар. сл.; мсцісл., Жыв. сл.; Мат. Гом.), *тка́ніца, тка́ныця* 'тс' (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *тка́ля*, рус. дыял. *тка́лья*, старое чэш. *tkadlí* (< *tkadlé*, Сяткоўскі, Słow. nazwy, 117), серб.-харв. *тка̀ља*. Прасл. **tъkadlьja* 'тс' выводзяць з формы м. р. **tъkadlьcь* 'ткач' (Сяткоўскі, там жа,



116); паводле Трубачова (Ремесл. терм., 118), форма м. р. другасная, утвораная як адпаведнік першапачатковаму назоўніку ж. р. з асновай на *-i*: **tъkadli*, вытворнай ад **tъkadlo* 'тканіна; тое, што ткуць'. Іншыя формы – у выніку дысіміляцыі або метатэзы ў канцы слова.

**Тка́льніца** 'ткачыха' (шчуч., шальч., Сл. ПЗБ; бяроз., лельч., ЛА, 4; мазыр., Шатал.; ТС). Гл. *ткалля*.

**Ткані́на** 'тканы матэрыял; тэкстыльны выраб' (ТСБМ, Некр. і Байк., Касп., Сл. ПЗБ, Бяльк., Вруб.), *тканіна́* 'матэрыя, вытканая ў хатніх умовах' (шчуч., смарг., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.; Ласт.), *тка́ніна* 'тс' (астрав., шальч., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *ткани́на* 'тэкстыль, тканы матэрыял', рус. дыял. *ткани́на* 'тс', польск. *tkanina* 'тс', чэш. *tkanina* 'тс', славац. *tkanina* 'тс', в.-луж., н.-луж. *tkanina* 'тс', славен. *tkanína* 'тс', серб.-харв. *тка̏нина* 'тс', макед. *ткаенина* 'тс'. Паводле Махэка$_2$ (644), новыя спецыяльныя тэрміны ў асобных славянскіх мовах. У народнай мове суф. *-іна* можа ўспрымацца як паказчык адзінкавасці, у сувязі з чым узнікаюць новыя тэрміны для называння тканага матэрыялу, напр. *тка́нае* 'матэрыя, вытканая саматужным спосабам' (смарг., Сл. ПЗБ), або як сродак, што ўтварае экспрэсіўныя назвы дзеяння тыпу *беганіна, тузаніна*, у сувязі з чым у якасці назвы матэрыялу выкарыстоўваюцца аддзеяслоўныя назоўнікі ад *ткаць* (гл.): *тка́ньне, тка́нё, тка́ння* 'тс' (ашм., лід., гарад., шальч., Сл. ПЗБ), *тканнё* 'агульная назва ўсяго тканага' (Мат. Маг.), параўн. *тка́нне* 'ткацтва' (мсцісл., Жыв. сл.). У аснове слова дзеепрыметнік *тка́ны* ад *ткаць*$_1$, гл.

**Тка́нка** 'вышытая чырвонымі ніткамі павязка на галаву' (Нас.), 'паласатая тканіна' (кругл., ЛА, 4), 'вытканая хусцінка' (Сл. Брэс.), 'галаўны ўбор з тонкага абруча, абшытага тканінай' (Касп.), 'пасма льну, якая ўплятаецца ў косы (маладой на вяселлі) замужнімі жанчынамі' (Бяльк.), 'жаночы галаўны ўбор падчас вяселля; карона маладой са стужак, караляў і штучных кветак' (Тур.), 'павязка пад чапец, вянок' (Сержп. Грам., Тарн.), сюды ж *тка́льніца, тка́ніца, тка́ныця, ка́ныця* 'валік для прычоскі' (Сл. ПЗБ), *тка́ныца, ка́ніця* 'дэталь галаўнога ўбору замужняй жанчыны: туга скручаны кусок палатна або шнурок, завязаны вакол галавы, на які закручвалі валасы, а наверх надзявалі чапец і намітку; можа быць і ў выглядзе драўлянага абруча' (Лекс. Бел.

Палесся), ст.-бел. *тканка* 'тонкая тканіна, сетачка, карункі', 'вышываная галаўная павязка з рознакаляровымі махрамі' (1516 г., КГС; Ст.-бел. лексікон), *тканица* 'тс' (КГС). Параўн. укр. *тка́нка* 'тонкая матэрыя; жаночае ўпрыгожанне з караляў і пярлінаў', ст.-польск. *tkanka* 'стужка з дэкаратыўнай тканіны, што ўжывалася для аблямоўкі адзення', чэш. *tkadlicě*, *tkanice* 'тканая стужка'. Вытворныя ад *тканы*, *ткаць*$_1$, гл.

**Тка́ха** 'ткалля' (Некр. і Байк., Ян., Жд. 1, Растарг., Нас., Ласт., Сцяшк. Сл., Уладз., Сл. Брэс., Шатал., Крыч.; ветк., ЛА, 4). Укр. *тка́ха* 'тс', рус. дыял. *тка́ха* 'тс'. Паводле Сяткоўскага (Słow. nazwy, 114), скарочаная форма ад *ткачы́ха* з павелічальным (аўгментатыўным) значэннем; хутчэй ад *тка́чка* 'ткалля, прадзільшчыца' (гл. *ткач*). Няпэўна; магчыма, утворана пад уплывам рус. *пря́ха* 'пралля', параўн. *ни пряха, ни ткаха* (Нас.), вядомага і на частцы беларускай тэрыторыі.

**Ткаць**$_1$ 'вырабляць тканіну' (ТСБМ, Нас., Ласт., ТС, Бяльк., Касп., Сержп. Прымхі, Федар. 4): *ткаць рэшоты* (Рам. 4); *ткаць кросны* перан. 'плесці павуціну' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *тка́ці*, *тка́ты* (*тка́тэ*) 'ткаць' (Сл. Брэс.; кам., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *ткати* (1598 г., КГС). Укр. *тка́ти* 'тс', рус. *ткать* 'тс', польск. *tkać*, н.-луж. *tkaś* 'вязаць', в.-луж. *tkać*, палаб. *tåkăt*, чэш. *tkát*, славац. *tkať*, славен. *tkáti*, серб.-харв. *ткäти*, макед. *ткае*, балг. *тъка́*, дыял. *тка́я* 'тс', ст.-слав. **тъкати** 'тс'. З прасл. **tъkati* 'ткаць', роднаснага да **tykati* 'тыкаць', **tъknǫti* 'ткнуць', а таксама да лат. *tukstêt* 'стукаць', *taucêt* 'таўчы ў ступе', ст.-в.-ням. *dūhen* 'прыціскаць', ст.-англ. *ðýn*, *ðýan* 'ціснуць, штурхаць', ст.-ірл. *tool* 'парожні', грэч. *τύκος* 'каменячосны молат', *τυκίζω* 'абчосваю, чашу' (Фасмер, 4, 64; Брукнер, 571; ЕСУМ, 5, 582). Трубачоў (Ремесл. терм., 117; Труды, 2, 44) сцвярджае другасны характар слова паводле словаўтварэння і семантыкі, параўн. *ткаць*$_2$, гл. Фурлан (Бязлай, 4, 185) мяркуе пра зыходнае значэнне 'вязаць, шыць', Борысь (633) – пра 'соваць, прасоўваць (ніткі праз аснову)' і першасную форму **tъkti*, суадносную з **tykati* (гл. *тыкаць*), гл. таксама Шустар-Шэўц, 1507. Акрамя таго, звязваюць (Махэк$_2$, 644) з грэч. τεύχω 'будую; вырабляю; раблю', і.-е. **teu̯kh-*, а таксама (Голуб–Копечны, 385; Скок, 3, 477) з прасл. **tesati* 'часаць', і.-е. **tesk-*.



**Ткаць**$_2$ 'соваць, піхаць', перан. 'папіхаць, папракаць' (Нас.), 'торкаць, саджаць', 'даваць' (Юрч. Фраз. 1): *між дзвярэй пальцы не ткай* (брасл., Рабк.), сюды ж *тка́цца* 'штурхацца' (Нас.), *ткану́ць* 'уваткнуць' (люб., Ск. нар. мовы), *ткнуць* 'пакласці, уторкнуць' (ТСБМ, Касп., Барад.), 'тыкнуць, піхнуць, сунуць' (Нас.), 'крануць' (Ласт.), *ткну́ці* 'торкнуць, падаць рэзка' (Сл. ПЗБ, Вруб.). Параўн. укр. *ткну́ти* 'тыкнуць', рус. *ткнуть* 'тс', польск. *tkać* 'соваць, упіхваць, утыкаць', *tknąć* 'ударыць, штурхнуць, дакрануцца', н.-луж. *tkaś* 'утыкаць, папіхаць', чэш. *tknout* 'дакранацца', славац. *tkať* 'тс', серб.-харв. *тàкнути* 'дакрануцца', ст.-слав. **тъкати** 'кранаць, штурхаць, стукаць', **тъкнѫти** 'крануць, штурхнуць, стукнуць'. Прасл. **tъkati* 'кранаць, штурхаць, піхаць, соваць', **tъknǫti* 'дакрануцца, піхнуць, стукнуць; усунуць, увапхнуць'; этымалагічна звязанае з папярэднім словам, гл. *тыкаць*. Гл. таксама Шустар-Шэўц, 1507–1508; Борысь, 633.

**Ткач** 'рабочы, майстар, які вырабляе тканіну на ткацкім станку' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт., Уладз.; кобр., Яшк. Мясц.; Арх. Вяр.), ст.-бел. *ткачъ* 'тс' (1518 г., КГС), сюды ж *тка́чка* 'ткалля' (Жд. 1, Мат. Гом., Уладз.; Горбач, Зах.-пол. гов.), 'прадзільшчыца' (лід., Сл. ПЗБ), *ткачы́ха* 'ткалля' (ТСБМ, Некр. і Байк., Уладз., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС). Параўн. укр., рус. *ткач* 'той, хто тчэ', польск. *tkacz*, славац. *tkáč*, н.-луж. дыял. *tkac*, серб.-харв. *ткач*, балг. *тъка́ч*, макед. *ткаеч* 'тс'. Прасл. **tъkačь* nomen agentis ад **tъkati* (гл. *ткаць*$_1$), лічыцца адносна познім утварэннем (Сяткоўскі, Słow. nazwy, 111). Звяртае на сябе ўвагу *тка́чка* 'прадзільшчыца', у якім можна было б бачыць захаванне першаснага значэння **tъkati* 'віць, звіваць', параўн. Махэк$_2$, 644; шырокае ўжыванне назвы **tъkačьka*: укр., рус. дыял. *тка́чка*, польск. *tkaczka*, славац. *tkáčka*, балг. *тъка́чка*, макед. дыял. *тка́чка* 'ткачыха' сведчыць пра стары дэрыват ад **tъkačь*.

**Ткі** 'такі' (Бяльк., Варл.): *усё ж ткі* (Маладосць, 1991, 10, 117), *добра-ткі падпілі* (Беларуская маладзёжная, 1999, 26 ліст.). Звычайна разглядаецца як скарочанае з *такі*$_2$ (гл.), аднак параўн. таксама *-тка*, гл.

**Тклі́вы** 'з'едлівы, абразлівы', 'уразлівы, чуллівы' (Нас.), 'з'едлівы, зняважлівы, прыкры', 'далікатны (пра пытанне і пад.)' (Байк. і Некр.), 'сентыментальны, кранальны' (Ласт.), *ткліва* 'гру-

ба, абразліва, з'едліва' (Нас.). Рус. дыял. *тли́вой, тли́вкой* 'чуллівы, раздражняльны', польск. *tkliwy* 'чуллівы', чэш. *tklivý* 'чуллівы, жалобны, сумны', славац. *tklivý* 'тс'. Вытворнае ад *ткаць*$_2$ (гл.) з суф. *-лів-* (< *тъкливъ*, гл. Фасмер, 4, 65; Борысь, 633).

**Ткнуць** 'рэзкім рухам сунуць' (ТСБМ), 'даць' (ТС), ст.-бел. *ткнуць* 'ткнуць', 'даткнуцца' (1518 г., КГС). Гл. *ткаць*$_2$, *тыкаць*.

**Тла-тля́на** *(тла-тля́но)* 'вельмі мокра, сыра' (Сл. Брэс.; бяроз., Шатал.). Гл. *тляна*.

**Тлен**$_1$ 'тленне, гніенне, распад, разбурэнне', 'прах' (ТСБМ, Гарэц.), *тлень* 'гніль; знікомасць, нікчэмнасць' (Нас., Байк. і Некр.). Можа разглядацца як скарочаная форма аддзеяслоўнага назоўніка *тле́нне (тле́ньне)* 'гніенне, прэнне, гарэнне без полымя' (Ласт.) ад *тлець* (гл.), аднак слабая засведчанасць у народнай мове схіляе да думкі аб пранікненні з ц.-слав. *тлѣнъ* 'прах', параўн. у Скарыны *тление, тлененъ* 'спарахнелы' (Сл. Скар.) са ст.-слав. **тьлѣньнъ** 'знікомы, зямны'.

**Тлен**$_2$ 'кісларод' (Байк. і Некр.), *тлён* 'тс' (Некр. і Байк.), сюды ж *тлёнік* 'вокіс' (Байк. і Некр.). Запазычана з польск. *tlen* 'кісларод', наватвора XIX ст. ад *tleć* (гл. наступнае слова).

**Тлець**, *тле́цца* 'гніючы, разбурацца', 'гарэць без полымя', 'гніць, трухлець, парахнець' (ТСБМ, Гарэц., Некр. і Байк.), 'гарэць без полымя'; 'гніць', (Ласт., ТС), *tl$_y$eć* 'бедаваць, цярпець нястачу' (Федар. 4), *тліеті* 'гніць, слаба гарэць' (Вруб.), ст.-бел. *тлети* 'тс' (XV ст., КГС), сюды ж *тліць* 'ператварацца у прах' (Нас.). Укр. *тлíти* 'гнісці, распадацца, разбурацца', рус. *тлеть* 'тс', 'гарэць без полымя', польск. *tleć* 'тс', н.-луж. *tłaś* 'гнісці, разбурацца', в.-луж. *tłać* 'тс', чэш. *tlít* 'гнісці; павольна гаснуць', славац. *tlieť* 'павольна гаснуць, тлець', славен. *tléti* 'ціха без полымя гарэць; гнісці, распадацца', макед. *тлее* 'гаснуць', балг. *тле́я* 'гарэць без полымя; гнісці', ст.-слав. **тьлѣти** 'тлець, гнісці, псавацца, гінуць'. З прасл. *tьlěti 'тлець', звязанага з *tьliti 'губіць, псаваць' і роднаснага да лат. *tilt* 'мякчэць, выбельвацца (пра лён)'. Лічаць верагоднай і сувязь з літ. *tilti* 'сціхаць, замаўкаць', *tylěti* 'маўчаць', *tylùs* 'ціхі, маўклівы', грэч. τέλμα 'калюжа, балота', τελμίς 'гніль, твань', арм. *telm*, *tilm* 'глей, гразь', і.-е. *tel- 'быць ціхім'. Мартынаў (Язык, 30–31, 88) лічыць прасл. *tьlěti роднасным да *tьlo 'апрацаваная (выпаленая) зямля', якое параўноўваецца з прагерм. *tila*, гоц. *til* 'урадлівая зямля', асец. *tillaeg* 'ураджай'; паводле Куркінай (Этнолингвистика, ономастика, этимология. Екатеринбург, 2009, 151), *tьlo 'тс' ад *tьlěti 'гарэць без полымя', параўн. рус. дыял. *тлиль* 'выпаленае месца ў лесе', 'выпалены ўчастак ў лесе, што засяваецца і дае добры ўраджай', якое суадносіцца з серб.-харв. *тљати* 'спаць', адсюль развіццё прыметы 'слабое праяўленне дзеяння, працэсу' ў 'гарэць без полымя'. Фурлан (Бязлай, 4, 187) на падставе *тло* н. р., *да тла*: *дровы догорѣли до тла* (Нас.), ст.-слав. **тьло, тьла** 'цвёрдая зямля', стараж.-рус. *тьло* 'зямля; под' выводзіць адназоўнікавыя дзеясловы прасл. *tьlěti, *tьliti, роднасныя прасл. *toliti 'заміраць, супакойваць' (гл. *таліць*$_1$). Гл. яшчэ Фасмер, 4, 64; Махэк$_2$, 645; ЕСУМ, 5, 583; Борысь, 634 (адназоўнікавы дзеяслоў з семантыкай 'ператварацца ў зямлю'); Жураўлёў, Язык и миф, 110–111.



**Тло**$_1$ 'тое, што сатлела, спарахнела, згніло; тлен, прах, попел' (ТСБМ, Гарэц., Байк. і Некр.), 'прах, попел, тлен' (Нас.), *тлё* 'гніль, парахно': *бадай сена да тлём стала* (гом., Рам 8). Аддзеяслоўны назоўнік ад *тлець (<*tьlěti)* 'гніць; паціху гарэць' (гл.) з семантыкай 'вынік працэсу'; сюды ж, відаць, і *тля* '?': *нехай цебе тля тліць* (Нас.) у значэнні суб'екта дзеяння ('агонь'?).

**Тло**$_2$ 'аснова' (Сцяшк.), ст.-бел. *тло* 'дно' (пач. XVII ст., КГС). Укр. *тло* 'аснова', рус. дыял. *тло* 'дно, аснова', стараж.-рус. *тьло* 'зямля, грунт, падлога', польск. *tło* 'фон; грунт; под у печы', н.-луж. *tło* 'падлога, паласа зямлі, краіна', в.-луж. *tło* 'падлога', чэш. дыял. *tlo, tla* 'дашчаная столь', славац. *tlo* 'столь', славен. *tlò, tlà* 'грунт, зямля; падлога', серб.-харв. *тло̏* 'тс', макед. *тло* 'грунт', ст.-слав. **тьло**. З прасл. *tьlo 'дно, аснова, грунт', роднаснага да *stьlati 'рассцілаць, слаць'. Далей роднаснае да літ. *tìlė* 'дошчачка з насцілу ў лодцы; палена, шчапа', *tìlės* 'дашчаны насціл на дне чаўна', *tìltas* 'мост', *pãtalas* 'пасцель', лат. *tals*, *tale* 'выбельванне (лёну)', *tilts* 'мост', прус. *talus* 'падлога', ст.-в.-ням. *dilla, dili* 'маснічына', ст.-ісл. *þel* 'грунт, аснова', ст.-ірл. *talam* 'зямля', лац. *tellūs* 'тс', грэч. τηλίᾱ 'дошка для гульні', ст.-інд. *talam* 'раўніна' на падставе і.-е. *tel- 'плоскі', 'рассцілаць' (Борысь, 634; ЕСУМ, 5, 584; Фасмер, 4, 65; Брукнер, 571; Махэк$_2$, 645; Бязлай, 4, 186; Каруліс, 2, 406–407).

**Тлок** 'цісканіна, таўкатня' (Вруб.). З польск. *tłok* 'тс'.

**Тлу́жа** 'тлушч у вадкім стане, тук' (радашк., ДАБМ, камент.). Няясна; відаць, звязанае з *тлушч*, гл.

**Тлук** 'тлушч, растопленае сала' (полац., Нар. сл.), 'тлушч, які застаецца на патэльні, калі смажаць сала' (Барад.). Відаць, да *тук* (гл.) пад уплывам *тлусты*, *тлушч*, гл.

**Тлум**₁ 'адурэнне, замарачэнне', 'шум, гоман, сумятня', 'шумлівы натоўп людзей' (ТСБМ), 'шум, гоман' (Нас., Касп., Мядзв., Некр. і Байк., Шымк. Собр.), *клум* 'шум, галас' (Гарэц.), сюды ж *тлуміць* 'дурыць галаву; празмерна дакучаць гаворкай, шумам' (ТСБМ, Касп.), 'дурыць' (Жд. 2), 'жартаваць, гаварыць лухту' (Нас.), 'пустасловіць' (Шымк. Собр.). З польск. *tłum* 'тс', якое лічыцца выключна польскім утварэннем (Трубачоў, Труды, 1, 162), інакш Ліўканен (Отглаг. сущ., 172), які далучае сюды рус. смален. *талмата́* 'шум, мітусня' (< **tolmota*, параўн. *тлумата*, гл.); выводзіцца з прасл. **tъlpъ*, звязанага з прасл. **tъlpa* 'натоўп' (Брукнер, 572), гл. *таўпа*. Борысь (635) дапускае магчымасць аддзеяслоўнага паходжання ад *tłumić* 'прыгнятаць, глушыць, прыціскаць'. Ст.-бел. *тлумъ* 'зборышча, зброд' вядома з XVII ст., як і *тлумити* 'супакойваць, стрымліваць', вядомае з XVI ст., запазычаны са старапольскай мовы (Булыка, Лекс. запазыч., 38, 196).

**Тлум**₂ 'нерастаропны чалавек' (Сл. рэг. лекс.). Канверсійнае ўтварэнне ад *тлумава́ты* 'дурнаваты' (там жа), *тлу́мны* 'бесталковы' (Некр. і Байк.), што ад *тлум*₁, *тлуміць* 'заблытваць, збіваць з панталыку', гл.

**Тлума́**₁ 'клопат' (чэрв., Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *тлуміць* 'турбаваць', гл.

**Тлума́**₂ 'густыя зарасці ў лесе' (чач., Мат. Гом.). Магчыма, старое запазычанне, параўн. ст.-польск. *tłum* 'стос дроў; купа дрэў' (XV ст.), што да *tłumić* 'сціскаць, прыгнятаць' (Борысь, 635), гл. *тлуміць*.

**Тлу́мак** 'клунак' (Сцяшк.), *тлу́мок*, *тлума́к* 'тс' (Сл. Брэс.; брэсц., ЛА, 5), 'клунак; абмежаваны чалавек, дурань' (беласт., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *тлу́мок*, *клу́мок*, *клу́нок* 'клунак, пакунак' (1516 г., Ст.-бел. лексікон, КГС). Укр. дыял. *тлу́мок* 'клунак', *тлума́к* 'вузел, чамадан', польск. *tłumok* 'клунак', чэш. *tlumok* 'клунак, рукзак'. Са ст.-польск. *tłumok* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 103) ад *tłum* 'натоўп, плойма', першапачаткова 'вялікая колькасць' (Брукнер, 572 і інш.), гл. *тлум*₁, або ад *tłumić* 'сціскаць, змінаць' (Борысь, 636), гл. *тлуміць*. Аднак чэш. *tlumok* звязваюць са ст.-чэш. *telma* 'торба' няяснага паходжання (Махэк₂, 646; Голуб–Ліер, 483), а ўкр. *тлу́мок*, *тлума́к* лічаць трансфармацыяй тур. *tulum* 'торба' (Ткачоў, Slavica Tarnopolensia, 1994, 1, 68).



**Тлумата́** 'шум, беспарадак у галаве' (Мат. Гом.). Да *тлум*₁ (гл.) па тыпу *глухата*, *цеснata* і пад.

**Тлума́ч** старое 'перакладчык у час афіцыйных перагавораў', 'тлумачальнік' (ТСБМ, Ласт.), 'перакладчык' (Нас., Гарэц. 1, Байк. і Некр.; ашм., беласт., Сл. ПЗБ), *тулма́ч* 'тс' (Бяльк.). Запазычанне з польск. *tłumacz* 'перакладчык', старое 'інтэпрэтатар, каментатар', адносна паходжання гл. *талмач*. Для часткі значэнняў не выключана самастойнае ўтварэнне ад *тлумачыць*, гл.

**Тлума́чыць** 'даваць тлумачэнне, высвятляць, каментаваць' (ТСБМ, Нас., Яруш., Касп., Ласт., Некр. і Байк., ТС, Цых.), 'расказваць, гаварыць, апавядаць' (шальч., смарг., гродз., Сл. ПЗБ), 'перакладаць' (Вруб., Цых.; маст., стаўб., Сл. ПЗБ). З польск. *tłumaczyć* 'выясняць, інтэрпрэтаваць, абгрунтоўваць; перакладаць', старое і дыял. *tłomaczyć* 'тс', што да **tḷmačiti* 'перакладаць з адной мовы на другую; выясняць, інтэрпрэтаваць', параўн. укр. *товма́чити* 'тс', рус. *толма́чить* 'тс', чэш. *tlumočit* 'тс', серб.-харв. *тума́чити*, дыял. *толма́чити* 'выясняць, перакладаць; распавядаць, разумець', макед. дыял. *тумачи* 'тс'; утворана ад прасл. **tḷmačь* (Борысь, 635), гл. *талмач*.

**Тлумі́цца** 'тлець' (ТС). Няясна; хутчэй за ўсё, да *тлуміць* 'прыгнятаць, стрымліваць, заглушаць' (гл.), што адпавядае зыходнай семантыцы 'душыць; таўчыся', характэрнай для асновы **telm-*/**tolm-*/**tъlm-* (Куркіна, Этимология – 1983, 25), параўн. польск. *dym tłumi* 'ідзе клубамі, клубіцца'.

**Тлумі́ць** 'марочыць, дакучаць' (ТСБМ), 'збіваць з толку, задурваць, блытаць' (Нас.), 'прыгнятаць' (Ласт.), 'турбаваць' (чэрв., ЛА, 3), 'заблытваць, збіваць з панталыку' (Байк. і Некр.), 'ачмураць шумам' (Касп.), 'псаваць, таптаць (пасевы); жартаваць, гаварыць абы-што' (Нас.), 'дурыць' (пух., Жд. 2; бялын., Янк. Мат.), 'несці лухту' (Шымк. Собр.), *тлумы́ты* 'стрымліваць, затрымліваць' (драг., Ск. нар. мовы), ст.-бел. *тлуми́ти* 'ўціхамірваць', 'стрымліваць' (1574 г., КГС), сюды ж *тлумі́цца* 'страчваць увагу, блытацца' (Нас.), 'туліцца, жыць у цеснаце', 'дурэць', 'пра-

цаваць, рабіць доўга' (Мат. Гом.), *тлумітис'* 'таўчыся' (кобр., Горбач, Зах.-пол. гов.), *тлýмны* 'нястрыманы, шумны, неспакойны' (ТСБМ), 'сварлівы, бесталковы' (Байк. і Некр.). Параўн. укр. *тлýміти* 'знішчаць, нявечыць; заглушаць; біць, лупцаваць', польск. *tłumić* 'прыглушаць, глушыць, прыгнятаць (пра агонь), стрымліваць; таўчыся, біцца', ст.-польск. *tłomić* 'тс', чэш. *tlumit* 'прыглушаць, стрымліваць, змякчаць', славац. *tlmiť* 'тс'. З польск. *tłumić* 'прыглушаць, стрымліваць' (Борысь, 635; Брукнер, 572; Махэк$_2$, 646; Куркіна, Этимология 1983, 24–26).

**Тлунá** 'непатрэбныя рэчы' (чэрв., Жд. 3). Відаць, аддзеяслоўны назоўнік, параўн. *тлýніць* 'збіраць грошы' (ТС). Да *тлум*$_1$, *тлуміць* (гл.) з менай *м* > *н*, як у *клумак/клунак*, параўн. польск. *tłum* 'вялікая колькасць, мноства', *tłumić* 'заціскаць' і пад.

**Тлýсты** 'з вялікай колькасцю тлушчу', 'тоўсты, укормлены, сыты', (ТСБМ, Нас., Яруш., Шымк. Собр., Касп., Некр. і Байк., Бяльк., Сержп. Прымхі, Федар. 4, Сл. ПЗБ, Вруб., ТС, ЛА, 4), *клýсты, плýсты* 'тс' (Лекс. Бел. Палесся), *клусты, клýскі* 'тс' (Ласт.), *клýсный* 'тс' (Бяльк.), ст.-бел. *тлустый* 'тлусты' (пач. XVI ст., КГС). Запазычанне з польск. *tłusty* 'тс', што ўзыходзіць да прасл. **tъlstъ* 'тлусты, тоўсты' (Брукнер, 572; Борысь, 636). Варыянтнасць пачатку слова (*тл-, кл-, пл-*) разглядаецца як вынік распадабнення (Сцяц. Нар., 61), якое назіраецца яшчэ ў польскай мове (Векслер, Гіст. 102). Гл. *тоўсты.*

**Тлýшка-тлýшка** – прываблíванне каровы або цялушкі (пін., Дразд.). З рэдукцыяй першага складу ад мясцовага *тэлýшка* або *тылýшка* 'карова, цялушка' (Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.), параўн. *телýх* 'падзыўное слова для каровы, пераважна маладой' (Растарг.).

**Тлушч** 'масляністае рэчыва, сала' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), 'тук (растопленае сала)'(зах.-бел., ЛА, 4), *тлуст* 'тс' (смарг., ЛА, 4), *тлусць* 'тс' (Сцяшк.), *клушч* 'тс' (Ласт.), сюды ж *тлýстасць* 'сала, тук' (Нас., Шпіл., Гарэц., Некр. і Байк., Сцяшк., Сл. ПЗБ; стаўб., З нар. сл., ЛА, 4), *тлýшчосць* 'тс' (пін., ЛА, 4). Запазычана з польск. *tłuszcz* 'тс', утворана ад *tłusty* (**tļst-jь*, гл. Борысь, 636), параўн. *тоўшч* 'таўшчыня, сытасць', гл.

**Тлýшча**, ст.-бел. *тлуща* 'натоўп' (XV ст., Ст.-бел. лексікон, КГС). Запазычана са ст.-польск. *tłuszcza* 'тлум, гальцьба, зброд' (Булыка, Лекс. запазыч., 38), абстрактны назоўнік, што ўзыходзіць да прасл. **tļšča (<*tļst-ja)* ад **tļstъ* 'набрынялы, маючы вялікі аб'ём, тоўсты' (Борысь, 636), параўн. *тоўшча*, гл.



**Тлушчáнка** 'расліна Pinguicula L.' (Кіс.). Калька лацінскай назвы расліны, параўн. лац. *pinguiculus*, памянш. ад *pinguis* 'тлусты, тоўсты', укр. *товстянка* 'расліна Pinguicula L.', рус. *жирянка* 'тс' з-за мясістасці лістоў расліны.

**Тлушчóўка** 'траскá' (Байк. і Некр.). Штучна ўтвораная назва пачатку 20-х гадоў XX ст., параўн. пазнейшае *траскá* 'тс' (Некр. і Байк.), паводле прадуктыўнай словаўтваральнай мадэлі назваў рыб (*вярхоўка, альхоўка* і пад.) ад *тлушч* (гл.), параўн. чэш. *tloušt* 'галавень', рус. *мáсленник* 'язь', відаць, у сувязі з тым, што рыба з'яўлялася асноўнай сыравінай для здабычы рыбінага тлушчу.

**Тлушчынá** 'таўшчыня': *такая тлушчыня ў асіны* (вілен., Сл. ПЗБ). Утворана на базе *таўшчыня* пад уплывам *тлусты* 'тоўсты', гл.

**Тлюмá** 'вялікі клунак' (круп., Жыв. сл.). Гл. *тлумак.*

**Тля** 'дробнае насякомае, якое жывіцца сокам раслін' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сцяшк., Арх. Вяр.), 'моль, Acarus': *тля мучная, сырная* (Ласт.), 'плесня, мох на чым-небудзь гнілым; прах; моль, дробныя чарвякі' (Нас.), 'плесня' (Байк. і Некр.), *тляга* 'тля' (Барад.), ст.-бел. *тля* 'тля' (1489 г., КГС). Укр. *тля*, дыял. *тлія*, рус. *тля* 'тс'. Звязваюць з прасл. **tьliti* 'хутка і прагна есці, паглынаць; выгадоўваць, адкормліваць; губіць, знішчаць, псаваць, пажыраць', параўн. стараж.-рус. *тьлити* 'псаваць, пажыраць', роднаснае **tьlěti* 'тлець' (гл. *тлець*). Акрамя таго, супастаўляецца з грэч. τῖλάω 'вадкія экскрэменты', 'хварэю на панос', лат. *tīrelis* 'балота', літ. *týras* 'балота; чысты', *tỹrė* 'каша', што няпэўна (ЕСУМ, 5, 583; Фасмер, 4, 65).

**Тлявáцца** 'ацірацца, знаходзіцца': *у хаце тлююцца* (чач., Жыв. сл.). Няясна.

**Тляна** *(тляно)* 'сыра, мокра, туманна' (бяроз., Шатал.), *тлатляно* 'вельмі мокра, сыра' (там жа). Прыслоўе ад *тлець* 'гніць' (гл.), магчыма, з экспрэсіўным падваеннем першага складу.

**Тма** 'цемра, змрок, туман; мноства, безліч' (Нас.), ст.-бел. *тма* 'цемра', 'мноства, працьма' (XV ст., КГС), сюды ж *тмець (тмѣць)* 'цямнець', *тміць* 'марочыць': *не тми моей головы* (Нас.), *тмýшчы (тмýщий)* 'шматлікі': *тмущее стадо погнали воловъ* (там жа). Параўн. укр. дыял. *тма* 'цемра', *тміти* 'зацямняць, рабіць цёмным', чэш. *tma* 'цемра; 10 тысяч', славац. *tma* 'цемра',

палаб. *tåma* 'тс', славац. *tema* 'цемень; мноства', *tmina*, *tma* 'цемра', серб.-харв. *mа́ма* 'мгла, цемра; мноства', *tmä* 'тс', балг. *тъмá* 'тс', макед. *тмурен* 'пахмурны; хмурны', ст.-слав. **тъма** 'мноства, процьма'. Гл. *цьма*.

**Тмен** 'кмен' (Сцяшк. Сл., Мат. Гом.), *тмень* 'тс' (Шмярко; гом., Кіс.), сюды ж *тмін* 'тс' (лудз., Сл. ПЗБ; брэсц., глус., рэч., калінк., чач., б.-каш., добр., глыб., Расл. св.), ст.-бел. *тмин* 'кмен' (1682 г., КГС). Укр. *тмин*, дыял. *тмін* 'кмен, Carum L.' рус. *тмин* 'тс'. Змененая назва кмену (гл. *кмен*); *т* на месцы *к* тлумачаць апасродкаваным уплывам форм з пачатковым *ц*, параўн. *цьмен* 'тс' (Мяркулава, Очерки, 141).

**Тнуць$_1$** 'пранізваць, прабіраць (пра холад, вецер, боль і пад.)' (ТСБМ), 'сячы, рэзка выказвацца', 'ударыць, рубануць; упікнуць' (Нас.), 'кусаць, джаліць', 'ссякаць' (Сцяшк.), 'кусаць, пячы' (Яруш., Федар. 6, Скарбы, Сл. ПЗБ), *тніті*, *тнýты* 'разбураць, рубаць, сячы' (Булг.). Другасны інфінітыў, утвораны шляхам абагульнення асновы спрагальных формаў дзеяслова *цяць – тну* < прасл. **tęti – *tьnǫ*, параўн. рус. *тять – тну*, польск. *ciać – tnę*, славен. дыял. *tę́ti – tnèm*, ст.-слав. **тѧти – тьнѫ**, дзе прадстаўлена ніжэйшая ступень кораня і.-е. **ten-*, захаваная ў літ. *tìnti* 'адбіваць касу' (Коген, Запіскі, 2, 241; Фасмер, 4, 66; Векслер, Гіст., 224). Іншая ступень чаргавання выступае ў **тон*, параўн. *адным тном* 'адным чынам' (пух., Жд. 1). Гл. *цяць*.

**Тнуць$_2$** 'іграць' (Скарбы), 'заўзята іграць': *тне гармонік* (Сцяшк.). Экспрэсіўнае ўтварэнне на базе *тнуць$_1$*.

**То$_1$** 'тое' (Сержп. Прымхі, Бяльк.), ст.-бел. *то* 'тс': *абыхъ то рекла* (Альтбаўэр). Гл. *той*.

**То$_2$** – злучнік, які ўваходзіць у склад састаўных паўторных пералічальна-размеркавальных злучнікаў для пералічэння фактаў і з'яў няпэўных, нявызначаных або сумніўных' (ТСБМ, Стан.), злучнік 'дык' (Сл. ПЗБ), злучнік 'дык', часціца 'гэта; дык' (ТС), абагульняючая або вылучальная часціца ў пачатку сказаў ці пры падкрэсліванні слова, да якога адносіцца' (ТСБМ): *то не злодзей, што ў пана ўкрадзе* (Сержп. Прык.); часціца 'вось, так': *от то то то!* (Федар. 4); пачатковы ці канцавы элемент ў спалучэннях з займеннікам, часціцай, прыслоўем, злучнікам і інш. у функцыі, набліжанай да *ж*, *жа*, гл. (Іванаў, Балто-слав. иссл., 1980, 10); ст.-бел. *то есть*, *то ест* 'гэта значыць, а менавіта' (XV ст., КГС); укр., рус. *то*, польск., чэш, славац. *to*, балг. *то*, ст.-слав. **то**. З дэйктычнага прасл. **to*, суадноснага з указальнымі займеннікамі н. р. грэч. το, ст.-інд. *tat*, гоц. *thata*, звязанага з **tъ* 'той'. Выказвалася таксама думка пра гукапераймальнае паходжанне слова (ESSJ SG, 1, 330; 2, 658, 664).



**То́бто** 'няўжо' (ТС), 'каб' (Мат. Гом.), *то́бто*, *то́пто* 'праўда' (ПСл), *то бо й то* 'ды і то праўда' (Некр. і Байк.), *тобойто́* 'поўнасцю з табой згодзен, згода' (стол., Нар. ск.), *то́бтомо* 'напэўна' (Сл. Брэс.), *то-бо-то*, *то-бо-то́-што* 'вось так, як бы так' (Некр. і Байк., Байк. і Некр.), *то́-бок* 'гэта значыць' (ТСБМ; Беларусіка, 19, 227), *тож-ба-то* 'у тым-та і справа' (Стан.), *то́ж бо* 'тс' (Федар. 4), *то́ж-то* 'вось жа' (Яруш.); *то́ж-бы-то* 'патакванне' (Варл.), у свабодным спалучэнні *ото бо ж то* 'тс' (Сержп. Прык.), ст.-бел. *тоб*, *тобы* 'тады б, калі б' (Ст.-бел. лексікон), *то́бы* 'як бы' (Альтбаўэр). Параўн. укр. *то́бто* 'гэта значыць'. У складзе элементы *то-*, *-то* (гл. *то$_1$*), *-бо-* (*-б-*, *-ба-*, гл. *бо*), *-бы* (гл. *бы*), *-й-* (гл. *і*), *-мо* (гл. *мо*), *-што* (гл. *што*), *-ж-* (гл. *жа*); не вызначаным да канца застаецца паходжанне элемента *-бок*, вядомага і ў самастойным ужыванні, параўн. у адваротным спалучэнні *raj, czy bok to niebiesnyje warota* (Пятк. 2), якое Краўчук (ЭСБМ, 1, 367) у значэнні 'маўляў' параўноўвае з укр. *бак*, *пак* 'потым, але, ж', польск. *bak* (ад *bakać* 'гаварыць, нагаворваць', гл. Брукнер, 12), што сустракаецца з пэўнымі фанетычнымі цяжкасцямі. Магчыма дапусціць спалучэнне *бо-* і *-ка* або *-к*, параўн. *ту́така*, чэш. дыял. *tadyk* 'тады' і інш.; адносна апошніх гл. ESSJ SG, 1, 316–317. Параўн. форму з аканнем *табатош*, гл.

**То́віст** 'тоўсты' (Нас.). Кароткая форма прыметніка *то́ўсты* (< **tl̥stъ*) з заменай *в* білабіяльнага *w* (< *l̥*) на *в*.

**То́га** 'верхняе мужчынскае адзенне, доўгі плашч без рукавоў у суддзяў, старажытных рымлян і інш.' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Культурнае запазычанне праз рус. *то́га*, польск. *toga* з лац. *toga* 'тс' < *tego, tegere* 'закрываць, прыкрываць', роднаснага грэч. στέγω 'пакрываю, закрываю', ст.-інд. *sthágati*, *sthagayati* 'захутвае; пакрывае' (ЕСУМ, 5, 590; Голуб–Ліер, 484).

**То́гнуць** 'правальвацца' (калінк., Сл. ПЗБ). Няясна; магчыма, гукапераймальнага паходжання або ад *тануць* (гл.), параўн. *можно по серэну іці, ён не тогне* (там жа).

**То́дарка-Фёдарко** ‘божая кароўка’ (Сцяшк. Сл.), *То́дор* ‘тс’ (пін., З жыцця). Ад *Тодар* і *Фёдар* шляхам збліжэння з *Фэ́дрык* ‘тс’ ад *бе́дрык* ‘божая кароўка’, гл.

**То́е**$_1$ – указальны займеннік н. р. ад *той* (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Федар. 4, Вруб., Бяльк.), *то́я* ‘тс’ (Цых.), *то* ‘тс’ (Бяльк.), *тэ* ‘тс’ (ТС), *тэ́е* ‘тс’ (Нас., ТС, Бяльк.), можа выступаць і ў якасці злучніка *то* (Нас.). Параўн. таксама сумеснае ўжыванне з часціцай *то* ў *niby to tóje* ‘як бы нічога’ (Федар. 4), *як на татэ́* ‘як на зло’ (ТС), *натото́е* ‘наўмысна, на зло’ (драг., З нар. сл.), аналагічнае спалучэнню з *ж* (гл.): *jak tojeż, tak tojeż* ‘нібы на зло’ (Федар. 4). Да *той*, гл.

**То́е**$_2$ ‘званочак, Campanula persicifolia L.’ (Бейл.). Магчыма, табуізаваная назва ад *той* (гл.) або **то е* ‘гэта ёсць’, параўн. польск. *toje, tojeść (< to jest)* як назвы чарадзейных і атрутных раслін (Брукнер, 362). Параўн. *тоя*, гл.

**Тоежса́масьць** ‘тоеснасць’ (Ласт.), *тоеса́масьць, тожса́масць* ‘тоеснасць, ідэнтычнасць’ (Байк. і Некр.), *тожса́масць* ‘ідэнтычнасць, саматоеснасць’ (Некр. і Байк.), сюды ж *тоежса́мы* ‘тоесны’ (Ласт.), *тоеса́мы, тожса́мы* ‘тоесны, ідэнтычны’ (Байк. і Некр.). Утворана для перадачы лац. *identitās* ‘ідэнтычны’ ад *īdem* ‘той самы, той жа’, па тыпу польск. *tożsamość*, у аснове спалучэнне *то́е са́мое* ‘адно і тое ж’ (вілен., Сл. ПЗБ), *то́я-са́мая* ‘тое, што было’ (Варл.), формы н. р. суадносныя з *той са́мы* ‘той жа’ (Некр. і Байк.), *той-са́мы* ‘тс’ (Байк. і Некр.), *тoj сам* ‘тс’ (Вруб.), гл. *той, тое, самы*. Формы з *тож*, мажліва, непасрэдныя запазычанні з польскай мовы. Гл. таксама *тож*.

**То́есны** ‘зусім падобны, аднолькавы, такі ж’ (ТСБМ). Новаўтварэнне ад **то́есць*, параўн. народнае *то́ісь* ‘дакладна значыцца’ (гл. *тоісь-то*), рус. *то́ есть* ‘гэта значыць’, польск. *to jest* ‘тс’, па тыпу рус. *тождественный* ‘той самы, аднолькавы, такі ж’.

**Тож** ‘таксама’ (Некр. і Байк., Гарэц., Растарг., Сцяшк. Сл., Федар. 4), *тож, то́жэ* ‘тс’ (ТС, Сл. ПЗБ), *тож, то́же* ‘тс’ (Вруб.), *то́жа* ‘тс’ (калінк., З нар. сл.; Жд. 1), *то́жо* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *тыж* ‘тс’ (зэльв., Нар. словатв.), ст.-бел. *тожде* ‘так, таксама’ (Ст.-бел. лексікон), а таксама ў спалучэннях *jak na $t_u$oż* ‘як на зло’, *$t_u$oż $t_u$oż, $t_u$oż bo to* ‘значыцца, зразумела, сапраўды’ (Федар. 4), *то́-шта* ‘як жа’ (Воўк-Лев., Татарк.). Параўн. укр. дыял. *тож* ‘таксама’, рус. *то́же*, дыял. *тож* ‘тс’, польск. *toż* ‘тое самае’, ‘ж, жа’, ‘вось’, старое ‘таксама, тое ж’, чэш. дыял. *tož* ‘значыцца, вось жа’, славац. дыял. *tož* ‘менавіта, значыцца’, славен. *torej* ‘тс’, ст.-слав. **тоже**, **тождє** ‘таксама, дакладна, так, сапраўды’. Прасл. **to-že* ‘дакладна тое’, параўн. літ. *taĩgi* ‘такім чынам, значыцца’, для некаторых форм, магчыма, **to-dje* (з часціцай **-dje/*d'e* няяснага паходжання) ‘таксама, такім жа чынам’ (ESSJ SG, 2, 693–694, 667; Бязлай, 4, 191, 203–204; Борысь, 630, 639). Гл. *то, тое*$_1$, *ж*.

**Тоісь-то** ‘значыцца’ (глыб., Полымя, 1998, 11, 231). Відаць, дэфармаванае рус. *то́ есть* ‘гэта значыць’ з узмацняльнай часціцай *то*, гл.

**Той** – указальны займеннік м. р., у дэйксісе характарызуе аддалены ў прасторы і часе прадмет або з'яву (ТСБМ, Ласт., Гарэц., Некр. і Байк., Бяльк., Касп., Сл. ПЗБ, Бес., Ян.), *тэй* ‘тс’ (Нас., Шымк. Собр.; бялын., Янк. Мат.; Бяльк., ПСл, Мат. Гом.; в.-дзв., Сл. ПЗБ, Растарг.), *тый* ‘тс’ (арш., Мат.), *тыт* ‘тс’ (віц., Шн., Песні), ст.-бел. *той, тотъ, тый* ‘той’ (1340 г., КГС); сюды ж *той* эўфемістычна ‘чорт’ (Ластоўскі, Выбр. тв.), *тэй* ‘тс’: *тэй, што казали* (Растарг.), *тэй* замяняе назоўнік, ужыванне якога лічыцца непрыстойным (Нас.), *таммо́й* ‘той’ (Бес.; пад уплывам польск. *tamten* ‘тс’), *той свет* ‘замагілле’ (ТСБМ, Федар. 4, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *той-сёй* ‘хто-небудзь (у пеralічэнні)’ (ТСБМ, Варл., Арх. Вяр.), *тэй-сей* ‘тс’ (Нас.), *то́йчас* ‘неадкладна, зараз’ (Гарэц., Янк. 3), *тойча́с* ‘адразу’ (калінк., З нар. сл.; Сцяшк. Сл.), *той год* ‘летась’ (Ян.). Параўн. укр. *той*, рус. дыял. *той*, стараж.-рус. *тъи*, польск. дыял. *tyj*, серб.-харв. *тâj* ‘той, гэты’, балг. *той* ‘ён’, дыял. ‘той, гэты’, макед. *тој* ‘той, гэты’, дыял. ‘ён’, ст.-слав. **тъи**. Прасл. **тъјь* паходзіць ад указальнага займенніка *тъ*, роднаснага літ. *tas* ‘той, гэты’, узмоцненага анафарычным **јь* пасля пераходу *ъ>о*. Ускладненасць іншымі займеннікамі або падваенне зыходнага можна бачыць у рэдкім ст.-бел. *тось* (XVI ст., Карскі, 2–3, 194) і *тотъ* ‘той’. Формы з *ы* тлумачацца аналогіяй з формамі мн. л. (Векслер, Гіст. 167), гл. *тыя*, а формы з *э* – уплывам канчаткаў прыметнікаў, што, зрэшты, дапускаецца для ўсіх формаў (Карскі, 2–3, 53, 194), параўн. развіццё канцавых спалучэнняў **-ъјь* у розных крывіцкіх гаворках у *-ой, -эй, -ый*, адлюстраванае ў берасцяных граматах, гл. Залізняк, Слав. языкозн. X, 168. Меркаванні аб выя-

дзенні формаў на *-эй*, *-ый* з *-ой*, а таксама аб магчымым польскім уплыве (Сабалеўскі, ЖМНП, 1887, 251, 137 і наст.; Карскі, 2–3, 154–155) не пераконваюць. Гл. таксама ESSJ SG, 2, 708 і наст.; Фасмер, 4, 89.

**То́йма** ‘тайна, употай’ (Нас., Стан.). Ад *таіць* (гл.) па тыпу *лежма*, *торчма* і пад.

**Ток$_1$** ‘струмень, цячэнне, плынь’ (Ласт., Некр. і Байк.), ‘электрычны зарад у праваднiку’; ‘электрычная энергія’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ст.-бел. *токъ* ‘плынь’ (1535 г., КГС); часцей у спалучэннях *вытoк*, *патoк*, *атока* (гл.). Параўн. рус. *ток* старое ‘цячэнне’, ‘электрычнасць’, польск. *tok* ‘цячэнне, ход’, чэш. *tok* ‘цячэнне, струмень’, славац. *tok* ‘цячэнне’, н.-луж. *tok* ‘рэчка’, славен. *tok* ‘плынь, цячэнне’, серб.-харв. *тȍк* ‘цячэнне; ход, напрамак’, балг. *ток* ‘электрычнасць’, рэдка ‘цячэнне’, макед. *ток*, *тек* ‘цячэнне, ход’, ст.-слав. **токъ** ‘цячэнне, плынь, струмень’. Прасл. * *tokъ*, роднаснае літ. *tãkas* ‘сцежка, дарожка’, лат. *taks* ‘тс’, што да і.-е. **tek-* ‘ісці, рухацца’ (Фасмер, 4, 69; Бязлай, 4, 191; Борысь, 637; Шустар-Шэўц, 1512), гл. *цячы*.

**Ток$_2$** ‘гумно’ (ТСБМ, Касп., Варл., Сл. ПЗБ; леп., Яшк. Мясц.; ПСл, ТС; астрав., Ск. нар. мовы), ‘будынак, дзе малоцяць’, ‘гумнішча’, ‘прыгуменне’ (полац., віл., арш., талач., ельск., ЛА, 4), ‘месца ў гумне для малацьбы’ (Нас., Шат., Некр. і Байк., ПСл, Ян., Сцяц. Сл., Сцяшк., Бяльк.; ашм., Стан.; Мат. Гом.), ‘пляцоўка для абмалоту збожжа’ (ТСБМ; ст.-дар., Нар. ск.), ‘свабоднае роўнае месца, пляц, плошча’ (Ласт.), ‘глінабітная пляцоўка’ (ТС, ЛА, 4), ‘земляная падлога (звычайна гліняная)’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сцяшк., Сцяц. Сл., Мат. Гом., Ян., ПСл; палес., Шатал.), ‘под у печы, чарэнь’ (Сцяшк., Сл. ПЗБ, Сцяц., Гіл.; палес., Шатал.; ЛА, 4), *істóк* ‘тс’ (ЛА, 4), *ток* ‘цвёрдае дно (вадаёма, ракі)’ (лун., Шатал.), *тэк* ‘земляная падлога’ (там жа), *тык* ‘пляцоўка для малацьбы ў гумне’ (кам., Сл. ПЗБ), *тік* ‘тс’, ‘глінабітная падлога’ (Горбач, Зах.-пол. гов.), *тік* ‘тс’ (Сл. Брэс.), сюды ж *токóваты*, *токóвасты* ‘цвёрды, утоптаны, выбіты’ (ТС), ст.-бел. *токъ* ‘ток, пляцоўка для абмалоту збожжа’ (1559 г., КГС). Укр. *тік* ‘памяшканне для малацьбы’, рус. *ток* ‘расчышчанае месца, пляцоўка для малацьбы, ачысткі і прасушкі збожжа’, польск., славац. дыял. *tok* ‘тс’, балг. дыял. *ток* ‘гумно, месца малацьбы’, ст.-слав. **токъ** ‘тс’. З прасл. **tokъ* ‘утаптанае для малацьбы месца’, а літаральна – ‘месца, дзе бегаюць коні ці іншая жывёла, з дапамогай якіх малоцяць (пры старым спосабе малацьбы)’. Роднаснае (з чаргаваннем галосных) да прасл. **tekti* ‘бегчы, цячы’ (Фасмер, 4, 69, 70; Брукнер, 573; Махэк$_2$, 646; ЕСУМ, 5, 578).



**Ток$_3$** ‘растоплены, вытаплены тлушч’ (Мат. Гом., ТС; брагін., Нар. словатв.; жытк., Жыв. сл.; мазыр., ГЧ), ‘тлушч’ (Шатал., ПСл), ‘тук’, *ток*, *тук* ‘тлушч’, ‘тлушч са смажанага сала’ (Сл. Брэс.). Укр. дыял. *ток*, *тік* ‘растоплены тлушч’. З іншым вакалізмам роднаснае да *цячы* < прасл. **tekti*. Параўн. *тук*, гл.

**Ток$_4$** ст.-бел. ‘утулка з дном, у якую ўкладалі задні канец гусарскай дзіды, каб павялічыць сілу ўдару’ (Arche, 2008, 1–2, 85). Параўн. укр. *точóк* ‘похва для бруска ў касароў’, польск. *tok* ‘трубчастая падстаўка, у якую ўстаўляецца канец дзіды’, ст.-польск. *tok* ‘карыта, жолаб’, ‘кадаўб’, славен. *tok* ‘калчан’, серб.-харв. *ток* ‘тс’, *тȍчир* ‘пасудзіна з рога для бруска ў касароў’, ст.-слав. **токъ** ‘калчан’. Этымалогія няпэўная. Борысь (637) лічыць аддзеяслоўным назоўнікам ад **tekti* (гл. *цячы*) са значэннем ‘тое, што робіць магчымым цячэнне, напр., карыта’. Акрамя магчымага запазычання з венгерскай і румынскай моў (Скок, 3, 479), што цяжка давесці, прапануецца сувязь з **tъkati* (Бязлай, 4, 148–149) (гл. *тыкаць*) або з **točiti* ‘вастрыць’ (ЕСУМ, 5, 611), гл. *тачыць*.

**Ток$_5$** ‘шлюбныя гульні глушцоў, цецерукоў і іншых птушак, такаванне’, ‘месца, дзе такуюць цецерукі, глушцы, бакасы’ (Некр.), *на такý* ‘падчас такавання’ (Пятк. 1), ст.-бел. *токъ* ‘такавішча (цецерукоў)’ (1663 г., КГС). Гл. *такаваць*.

**То́ка** ‘толькі’ (Мат. Маг., Жд. 2, Жд. 3), сюды ж, відаць, *тыко* ‘тс’ (астрав., трак., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *тіко*, *тіку* ‘тс’, рус. дыял. *тóко* ‘тс’, харв. дыял. *tȍko*, *tȉku*, старое *tuko* ‘тс’, балг. *тóку*, дыял. *тóко*, *тýку* ‘тс’, макед. *туку*, дыял. *токо* ‘тс’. Разглядаецца як вынік спрашчэння або кантамінацыі ў асобных славянскіх мовах зыходнага **toli*, пашыранага часціцай **-ko* (ESSj SG, 2, 681), гл. *толькі*.

**То́кар** ‘рабочы, спецыяліст па апрацоўцы металу, дрэва і пад. шляхам абточвання’ (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Некр. і Байк., Арх. Вяр., Вруб.), *такар* ‘тс’ (Стан.), ст.-бел. *токар* ‘токар’ (1557 г., КГС). Укр. *тóкар* ‘тс’, рус. *тóкарь* ‘тс’, польск. *tokarz* ‘тс’, звязана з *тачыць* ‘абточваць’ (Брукнер, 573; Фасмер, 4, 70).

**То́клішча** ‘месца, дзе стаяў ток’ (баран., Сл. ПЗБ), ‘вытаптанае месца, вытаптаны ўчастак (на полі, у агародзе)’ (пух., Сл.

ПЗБ), ‘пажарышча’ (баран., ЛА, 4), сюды ж *то́кавішча* ‘месца, дзе быў ток’ (Касп.), *то́кывішча* ‘гумнішча’ (талач., ЛА, 4). Да *ток₂*.

**То́кма** ‘толькі, столькі’: *не токма пець, ён слова сказаць не можа* (Маг. Гом.), *насыпалі токма* (пры продажы гаршкоў за збожжа, г. зн. за гаршчок давалі столькі зерня, колькі ў яго ўлазіла) (Вярэн., Арх. Вяр.), ст.-бел. *токмо* ‘толькі’ (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. дыял. *то́кма* ‘тым больш, больш за тое; без прыдачы’, рус. *то́кмо* ‘толькі’, дыял. *то́кма* ‘тс’, стараж.-рус. *тъкъмо, тъкъма, тъкма* ‘тс’, славен. *tekma* ‘спаборніцтва’, дыял. *tekmà* ‘аднолькава, якраз’, харв. *takmo, takmu* ‘толькі’, балг. **тъ̀кмо* ‘дакладна, роўна, якраз, менавіта’, макед. *токму* ‘дакладна, якраз, своечасова, менавіта’, ст.-слав. **тъкъмо, токъмо, токмо** ‘толькі’. Прасл. **tъkъmo* звязана з **tъknǫti* (параўн. *тыкнуць, ткаць₂*), гл. ESSJ SG, 2, 712–714. Паводле Фасмера (4, 70), параўнанне з літ. *tikti* ‘надаецца, падыходзіць’, *tiktaĩ* ‘толькі’ фанетычна недакладнае. Сной (у Бязлай, 4, 163) мяркуе пра прыслоўе ад **tъknǫti* па тыпу *міма* (гл.), якое семантычна супадае з рус. *то́чно* ‘дакладна’, што ўзыходзіць да таго ж дзеяслова (параўн. *точ у точ* ‘дакладна’, гл. *точ*).

**Тол** ‘выбуховае рэчыва, дынаміт, тратыл’ (ТСБМ, БРС). Запазычана з рус. *тол* ‘тс’, якое з’яўляецца скарачэннем *тринитротолуо́л* ‘тратыл’, што ад *толуо́л* ‘хімічнае рэчыва для вытворчасці выбуховага рэчыва, лекаў і інш.’, гл. КЭСРЯ, 444; ЕСУМ, 5, 593–594.

**То́лаг** ‘падонкі, буза’ (Ласт.). Няясна; відаць, звязана са славац. *talug* ‘гной у ране’, н.-луж. *talug, talog* ‘гной, гнойная маса’, серб.-харв. *та̏лог, tolȏg* ‘асадак, падонкі’, балг. *та́лог* ‘асадак, ціна, іл’, макед. *талог* ‘тс’. Прасл. **talogъ* ‘асадак’, якое звязваюць з **talъ* ‘талы, бясснежны’ (Шустар-Шэўц, 1496, гл. *талы*) і, магчыма, з **toliti* ‘паміраць; супакойваць’ (Бязлай, 4, 151), параўн. *талі́ць₁*, гл.

***То́лак**, *то́лок* ‘трамбоўка’: *толоком збівалі ток* (ТС). Параўн. укр., рус. *то́лок* ‘прылада для трамбавання; поршань’, дыял. ‘таўкач’, польск. *tłok* ‘поршань, штэмпель, пячатка’. Ідэнтычнае польск. *tłok* ‘ціск, ціжба’, чэш. *tlak* ‘ціск, націск’, ‘вытаптаная зямля’, славац. *tlak* ‘ціск’, в.-луж. *tłok* ‘цвёрдая перамешаная са жвірам зямля’, славен. *tlàk* ‘добра ўтрамбаваная зямля; ціск’, харв. *tlȃk* ‘ціск’. Сюды ж балг. *тлак* ‘нанос’ (Бярнар, Бълг. изсл., 252), што да прасл. **tolkъ* ад **telkti* ‘таўчы’ (Фасмер, 4, 72; Бязлай, 4, 186; Шустар-Шэўц, 1509). Тэхнічныя тэрміны позняга паходжання (Борысь, 634).



**То́лака** ‘паншчына’ (капыл., ЛА, 3). Да *талака₁*, гл.

**То́лапень** ‘дурань’ (Мат. Маг., Сцяшк. Сл.), ‘таўкач’ (слаўг., Яшкін, вусн. паведамл.). Утварэнне з суф. *-ень* ад *тало́піць*, гл. *талопіца₂*; параўн. славен. *tlápiti* ‘балбатаць, трызніць’, харв. *tlápiti* ‘тс’, для якіх рэканструюецца прасл. **tolpiti* (Скок, 3, 187), звязанае, хутчэй за ўсё, з *тоўпіца* (гл.). Параўн. *талабень*, гл.

**То́лезны** ‘такі вялікі, такі шматлікі’ (Ласт., Некр. і Байк.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з суф. *-(е)зн-*, параўн. *веліче́зны, вялізны* (гл. *вялікі)*, што ўзыходзіць да прасл. **toli, *tolě* ‘так, столькі’, параўн. укр. дыял. *толь* ‘тс’, *тіль* ‘трохі, не надта многа’, рус. дыял. *то́ли, толь* ‘столькі, настолькі’, стараж.-рус. *толи* ‘потым, і, а’, польск. *tyle* ‘так многа’, дыял. *toli* ‘вось, толькі, а як жа’, чэш. дыял. *toli* ‘столькі, так многа’, н.-луж. *toli* ‘таму што’, *a toli* ‘ўсё ж, аднак, тым не менш’, славен. *toli* ‘так, столькі’, старое серб.-харв. *toli, tolje* ‘настолькі, так’, ст.-слав. **толи, толь** ‘столькі, настолькі’. Спалучэнне дэманстратыўнага займенніка **to* з часціцай **li*, суадноснае з літ. *tõlei* ‘да таго часу’ і роднаснымі *tõl, tolì* ‘далёка’ (ESSJ SG, 2, 675; Фасмер, 4, 70; Шустар-Шэўц, 1514).

**То́лесь** ‘нядаўна’ (Сцяшк. Сл.). Спалучэнне формы, што ўзыходзіць да **tolě* (гл. папярэдняе слова) з дэманстратыўнай часціцай *-сь* (гл. *сей*).

**Толк** ‘сэнс, значэнне, сутнасць’, ‘кемнасць’, ‘карысць’ (ТСБМ, Сцяшк., Вруб.), ‘сэнс, лад, парадак’ (Касп., Бяльк., Федар. 4, Некр. і Байк.), ‘карысць, сэнс’ (ТС, Сл. ПЗБ), ‘розум, развага’ (Ян.): *стары воўк знае толк* (Пятк. 2; брасл., Рабк.), *тоўк* ‘карысць, сэнс, парадак’ (Бяльк.; воран., Сл. ПЗБ), ‘розум, сэнс’, *таўко́вы* ‘разумны’ (Пятк. 2), ст.-бел. *толкъ* ‘размова’ (XV ст., КГС). Укр. дыял. *товк* ‘глузд, розум’, *толк, то́лок* ‘тс’, рус. *толк* ‘думка, развага, тлумачэнне’, польск. дыял. *tolk* ‘розум, сэнс, логіка’, чэш. *tolk* ‘сэнс, значэнне’; ст.-слав. **тлъкъ** ‘перакладчык; тлумачэнне’, сюды ж *талкаваць* (гл.), параўн. укр. дыял. *товкува́ти* ‘высвятляць, гаварыць’, рус. *толкова́ть* ‘тлумачыць, даводзіць, гаварыць’, макед. *толкува* ‘тлумачыць, разгадваць’, балг. *тълку́вам* ‘тс’. З прасл. **tьlkъ* ‘думка, тлумачэнне’, узводзяць да і.-е. **tolkʷ-* казаць, выкладаць’. Роднаснае да ст.-ірл. *ad-tluch-* ‘дзяка-

ваць', *to-tluch-* 'прасіць' (ЕСУМ, 5, 587; Фасмер, 4, 71; Чарных, 2, 248). Адсутнасць пераходу *л* > *ў* у літаратурнай мове і некаторых гаворках тлумачаць пазнейшым (XVIII–XIX стст.) аднаўленнем *л* па ўзору рус. *толк* (Векслер, Гіст. 125).

**То́луб**. Гл. *ту́луб*.

**Толь** 'воданепранікальны тоўсты кардон' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сцяшк.). Запазычана праз рус. *толь* 'тс' з франц. *tôle* 'дахавыя лісты, дахавае жалеза' (ЕСУМ, 5, 594).

**То́лькі** 'выключна, адзіна, 'зусім нядаўна', 'ледзь, ледзьве' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Федар. 4, Сержп. Прык., Сл. ПЗБ, Растарг.), 'столькі' (Сцяшк., ЛА, 5), *то́лька* 'выключна; ледзь' (Бяльк.), 'столькі, у такой колькасці' (смарг., Сл. ПЗБ), *то́лько* 'выключна, адзіна' (вільн., Сл. ПЗБ), 'тс', 'столькі' (ТС), *туо́лько* 'выключна, адзіна; столькі, у такой колькасці' (беласт., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *толико* 'толькі, столькі' (Ст.-бел. лексікон), *только* 'тс' (Альтбаўэр); сюды ж *то́лякі* 'нядаўна' (Сцяшк. Сл.), *то́лечка* 'толькі' (Гіл.), *то́лечкі* 'тс' (Янк. 2), 'толькі (памяншальнае)' (Растарг.), 'толькі што' (Жд. 1), *то́лечкі* 'тс' (Ян., Мат. Маг., Нар. Гом.), *то́лячкі* 'тс' (Чэрн., Сцяшк. Сл.), *то́лічка* 'малая колькасць', *то́лічкі* 'чуць-чуць' (Нас.). Укр. *тíльки* 'адзіна, выключна', *тíлько* 'тс', дыял. 'столькі', рус. *то́лько* 'выключна; ледзь; аднак', польск. *tylko* 'тс', чэш. *tolik* 'столькі', *toliko* 'выключна', славац. *toľko* 'столькі', *toľký* 'такі вялікі, такі значны', славен. *tóliko* 'столькі', *tólik* 'такі вялікі', серб.-харв. *то̏лико*, *толи̏ко* 'столькі', макед. *толку* 'тс', балг. *то́лко* 'тс'. Прасл. **toliko* прысл. ад **tolikъ* 'такі вялікі, такі па колькасці', якое з'яўляецца суфіксальным утварэннем ад прасл. **toli* 'столькі', параўн. укр. дыял. *тíлький* 'такі па колькасці', рус. дыял. *толь-ко́й* 'такі', старое польск. *tylki*, *telki* 'такі вялікі, такі па велічыні', чэш. дыял. *telký*, *teľký* 'тс', славац. *toľký* 'тс', в.-луж. *telki* 'такі вялікі', славен. *tólik* 'тс', серб.-харв. *толи̏ки* 'тс', дыял. *toli̇̀k* 'тс', балг. дыял. *то́лки* 'тс', ст.-слав. **толикъ** 'такі вялікі, такі шматлікі'. У неславянскіх мовах аналагічныя ўтварэнні – грэч. τηλίκος 'такі вялікі, такі моцны', лац. *tālis* 'такі; такі важны, значны' (Фасмер, 4, 74–75; Брукнер, 589; Махэк₂, 646–647; Бязлай, 4, 194; ЕСУМ, 5, 579; Борысь, 658). Паводле ESSJ SG (2, 682), парадак словаўтварэння адваротны: **tolikъ* ад **toliko*.

**То́льма** 'толькі' (Стан.), *то́льмі* 'тс' (Ласт.). Параўн. стараж.-рус. *то́льма*, *то́льми* '(с)толькі', польск. дыял. *tylma*, *tylmo* 'ледзь, амаль', славац. *toľme* 'толькі', ст.-слав. **тольма**, **тольми** '(с)толькі'. Прасл. **tolьma/*tolьmi* вытворныя ад **toli (< *to-li)* з канцавой часціцай **-m (-ma, -mi)* аналагічна, як у *вельмі*, *вельма*, гл. ESSJ SG, 2, 682–683; 1, 320.

**Том** 'асобная кніжка са збору кніг' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), ст.-бел. *томъ* 'тс' (1598 г., КГС). Запазычана праз польск. *tom* 'тс' з франц. *tome* 'тс' < лац. *tomus* 'тс', што ўзыходзіць да грэч. τομος 'частка, адрэзак, том' ад τάμνω 'рэжу' (Фасмер, 4, 75; ЕСУМ, 5, 595).

**То́міць** 'таміць, мучыць' (навагр., Сл. ПЗБ). Гл. *тамíць*.

**То́мка** 'баркун, Melilotus officinalis Lam.' (Нас., Байк. і Некр., Кіс.), 'духмяны каласок; гандлёвая назва баркуну' (Стан., Дэмб. 1, Мат. Гом.), 'баркун, Melilotus officinalis Desr.' (Касп.), *то́мка паху́чая* 'духмяны (пахучы) каласок, Anthoxanthum odoratúm L.' (Байк. і Некр., Кіс.), 'пахучакаласнік' (Кіс.). Укр. дыял. *то́мка* 'пахучая трава Anthoxanthum odoratum L.; зуброўка, Hierochloë australis', чэш., славац. *tomka* 'гладун, Herniaria glabra', а таксама чэш., славац. *tomkovice* 'гладун', рус. дыял. *томкови́ца* 'тс'. З польск. *tomka*, *tonka* 'пахучая трава', у тым ліку 'пахучы каласок', 'зуброўка' і інш., дыял. *tomkownica* 'гладун', якія сталіся вынікам скарачэння і дээтымалагізацыі *tonkobób*, *tonkowy bób*, *tonkowe ziarna* 'экзатычная расліна Dipteryx'. Назва скалькавана з ням. *Tonkabohne* 'боб тонкі', *Tonkabaum* 'Dipteryx odorata' – назвы расліны, чые размолатыя плады дадавалі да табакі дзеля прыемнага паху. Польск. *tonka, tonka wonna* трансфармавалася ў *tomka* і было перанесена на іншыя пахучыя расліны (Махэк₂, 647; Слупскі, Зб. памяці Слаўскага, 352–353; ЕСУМ, 5, 596).

**То́мна** 'цёмна' (Бяльк.). Няясна; дэафрыкатызацыя *цёмна* (пад рускім уплывам)? Параўн. *цьма/тма*, гл.

**То́мны** 'стомлены' (калінк., Сл. ПЗБ, Ласт., Пятк. 2), *то́мный* 'хворы, нездаровы (пра жывот, цела і пад.)' (Бяльк.). Вытворныя ад *тамíць*, гл. Сюды ж *то́мна* 'цяжка (ад душэўных перажыванняў')' (Бяльк.), 'кепска, дрэнна' (Касп.), 'кепска, млосна' (Стан.), *то́мнасьць* 'стомленасць' (Мат. Гом.), 'томнасць, знямога ад душэўных перажыванняў' (Бяльк.).

**Тон₁** 'гук пэўнай вышыні', 'характар гучання', 'стыль паводзін', 'колер, афарбоўка' (ТСБМ, Некр. і Байк.). З заходнееўрапейскіх моў, дзе ням. *Ton*, франц. *ton*, англ. *tone*, якія паходзяць ад лац. *tonus* 'тон, гук' < грэч. τόνος 'тон, лад; націск' (Фасмер, 4, 76; Брукнер, 573; Голуб–Ліер, 484; ЕСУМ, 5, 596).

**Тон**$_2$ ‘вір, затон’ (ТС): *як у тон утанула* ‘прапала’ (калінк., Арх. ГУ; ТС), сюды ж *тóна* ‘адзін заход пры лоўлі рыбы сеткай’ (Мат. Гом.). Зваротны дэрыват ад *тануць* (гл.) з наступнай канкрэтызацыяй значэння, гл. *тонь*$_1$, *тоня*.

**Тона** ‘адзінка вагі, роўная 1000 кілаграмаў’ (ТСБМ, Сцяшк., Вруб.). З заходнееўрапейскіх моў, дзе ням. *Tonne*, англ., нідэр. *ton* ‘тс’ < франц. *tonne* ‘тс’, першапачаткова ‘вінная бочка’ < гальск. *tŭnna* ‘мех для віна’. (Фасмер, 4, 77; ЕСУМ, 5, 597; Чарных, 2, 520; Голуб–Ліер, 493).

**То́нба** ‘завала, засоў’ (Рам. 1, Нар. Гом.). Няясна.

**То́нкі** ‘невялікі па шырыні, нятоўсты, вузкі’, ‘далікатны’, ‘дасціпны’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сцяшк., Вруб., Федар. 4), *тóнкій* ‘тонкі’ (Бяльк.), *тóнкый (тóнкий)* ‘тс’ (Горбач, Зах.-пол. гов.), *тóнак (тóнък)* – кароткая форма прым. (мёрск., Нар. сл.), ст.-бел. *тóнкий* ‘тонкі’ (XV ст., КГС). Укр. *тонкúй*, рус. *тóнкий*, старaж.-рус. *тънъкыи, тьнъкыи*, польск. *cienki*, в.-луж. *ćeńki*, н.-луж. *śańki*, чэш, славац. *tenký*, славен. *tánek*, *tènek*, серб.-харв. *тȁнак*, *тȁнан*, балг. *тъ́нък*, макед. *танок*, дыял. *тонок*, ст.-слав. **тьнъкъ**. З прасл. **tьnъkъ* (усх.-слав. **tьnъkъjь* з асіміляцыяй рэдукаванага ў першым складзе), першапачаткова **tьnъ* ‘тонкі’. Роднаснае да ст.-інд. *tanúḥ* (*tánukaḥ*) ‘тонкі’, асец. *t’ænæg* ‘доўгі’, літ. *tę́vas* ‘тонкі’, ст.-в.-ням. *dunni* ‘тс’, ст.-англ. *þynne* ‘тс’, нова-в.-ням. *dünn* ‘тс’, англ. *thin* ‘тс’, ст.-ірл. *tan(a)e* ‘тс’, лац. *tenuis* ‘тс’, грэч. τανύς ‘доўгі’, ταναός (< ταναϝός) ‘выцягнуты’. І.-е. **tenus* з першасным значэннем ‘расцягнуты, падоўжаны’ ўтворана ад кораня **ten-* ‘напінаць, цягнуць’ (Фасмер, 4, 76–77; ЕСУМ, 5, 596–597; Чарных, 2, 250; Брукнер, 62; Махэк$_2$, 640).

**То́нчыць** ‘патанчаць’ (Нас.), *тончáті* ‘худзець, марнець’ (беласт., Сл. ПЗБ), *тóнчаті* ‘тс’ (Вруб.), сюды ж *тóнчык*, *тóньчык* ‘тонкі канец бервяна, жардзіны і інш.’ (ТС). Да *тóнкі*, гл.

**Тонь**$_1$ ‘тоня’ (Сцяшк.), ‘затон, вір’ (ТС), ‘месца, дзе можна закінуць невад’ (мёрск., Жыв. НС), ‘адзін заход з рыбнай снасцю і адзін улоў’ (паст., Сл. ПЗБ), ‘вялікі невад’ (трак., Сл. ПЗБ), ‘частка вуды, лескі’ (іўеў., Сл. ПЗБ), ‘сетка (на рыбу)’ (Барад.). Гл. *тóня*; лічыцца больш позняй формай, што ўзнікла ў выніку трансфармацыі канца слова, параўн. польск. *woń* ‘пах, смурод’ < прасл. **von’a* ‘тс’ (Крыньскі, PF, 7, 228; Борысь, 708) і пад.



**Тонь**$_2$ ‘ход, рух’ (Сцяшк.). Рэдкае слова, адносна якога выказваецца меркаванне, што яно звязана чаргаваннем галосных з *цягнуць* (гл.), што, магчыма, узыходзіць да **tęti* ‘цягнуць’ < і.-е. **ten-* ‘тс’ з зыходным значэннем ‘цяга’, параўн. рус. *тять* ‘ісці’, укр. *стенáтися* ‘кінуцца (пачаць рух)’, якія маюць адпаведнікі ў лац. *tenor* ‘раўнамерны рух’, ст.-ірл. *tēit* ‘ідзе’ (Мяркулава, Этимология – 1975, 54–55). Хутчэй за ўсё, аналагічнага паходжання з аманімічным яму папярэднім словам, падрабязней гл. *тоня*.

**То́ня** ‘ўчастак вадаёма, прызначаны для лоўлі рыбы закідным невадам’, ‘адзін закід невада, а таксама ўлоў ад аднаго закіду’ (ТСБМ), ‘глыбокая яма на рэчцы’ (кам., ЛА, 2), ‘мачулішча’ (докш., ЛА, 4), ‘вір’ (Ласт.; кам., ЛА, 2), ‘месца, праз якое за адзін раз працягнуты невад’ (Арх. Вяр.), ‘разавы прагон рыбалоўнай сеткі, невада’ (Крыв.), ‘глыбокае месца ў рэчцы’ (Горбач, Зах.-пол. гов.), ‘затон, вір; адзін заход пры лоўлі рыбы сеткай; колькасць рыбы, злоўленай сеткай за адзін заход’ (ТС), ‘адзін заход з сеткай (закідванне і выцягванне сеткі); найбольш глыбокі ўчастак возера, дзе водзіцца рыба’ (в.-дзв., Нар. сл.), ‘колькасць рыбы, злоўленай за адзін раз’ (івац. ЖНС), ‘месца, дзе водзіцца рыба, затон; адзін запуск невада ў раку’ (ушац., Нар. сл.), ‘месца, дзе можна закінуць невад; адна закідка невада’ (полац., З нар. сл.), ‘глыбокае месца на рацэ ці возеры, дзе закідваецца невад; вір’ (навагр., свісл., лід., стаўб., Сл. ПЗБ), *тóня*, *тóнька* ‘старарэчышча, затока’ (докш., Сл. ПЗБ), *тaнá* ‘невад’ (брасл., Рабк.), ст.-бел. *тоня* ‘месца для лоўлі рыбы’ (Статут 1529). Гл. таксама *тонь*$_1$. Укр. *тóня* ‘частка вадаёма для лоўлі рыбы невадам; невад з рыбай’, дыял. ‘месца, дзе можна ўтапіцца’, рус. *тóня*, *тонь* ‘адна працяжка невада’, ‘прастора, якую ахоплівае невад’, ‘месца, дзе можна закінуць невад’, ‘месца, дзе ловяць рыбу; сетка’, польск. *tonia*, *toń* ‘глыбокае месца; месца, дзе можна закідваць невад’, н.-луж. *toń* ‘невад; балота, дрыгва’, чэш. *tůně*, *tůň* ‘глыбокае месца’, славен. дыял. *tonja* ‘тс’, ‘лужа’, серб.-харв. *тȍња* ‘тарфянік, тарфяная глеба’, балг. дыял. *тóна* ‘зручнае для рыбнай лоўлі месца’ (БЕ, 23, 5, 437). Прасл. **ton’a* ‘глыбокае месца (дзе збіраецца рыба)’, **tonь* ‘тс’, традыцыйна звязваюць з **topiti* ‘тапіць, акунаць’, адпаведна з **topn’a*, **topnь* (Фасмер, 4, 77; Махэк$_2$, 661; Брукнер, 573; Талстой, Геогр., 170),

параўн. і *тóпень* 'месца, дзе можна закінуць невад' (мёрск., Жыв. НС). Зубаты (Studie, 1, 2, 120) і Мяркулава (Этимология – 1975, 52–58) разглядаюць праславянскія словы як звязаныя з **tęgnǫti* 'цягнуць' < і.-е. **ten-* на падставе таго, што ў шэрагу славянскіх моў пераважае семантыка, звязаная з працягваннем невада, параўн. таксама *волак* (гл.) і ст.-бел. *озеро зволочити* 'аблавіць возера' (Статут 1529 г.). На думку іншых (Шустар-Шэўц, 1516; Фурлан у Бязлай, 4, 198), мае месца аманімія двух слоў з рознай этымалогіяй або дапускаецца аб'яднанне ў адным слове генетычна адрозных слоў (Борысь, 637). Параўн. *тонь*$_2$.

**Топ** 'багна' (Сл. Брэс.), *топь* 'топкае балота' (віц., ЛА, 2). Параўн. рус. *топь* 'твань, багна, дрыгва'. Гл. *тапíць*$_1$; дапускаецца мажлівасць зыходнага прасл. **topь* 'талае месца', што дазваляе атаясамліваць у этымалагічным плане названы дзеяслоў з *тапíць*$_2$ (гл.), параўн. Зубаты, Studie, 1, 231 і наст.; Фасмер, 4, 79.

**Тóпалкі** 'тапачкі', адз. л. *тóпалка* (ПСл). Відаць, да *тапкі* (гл.), збліжанае з *топаць*, гл. Параўн. *топці*, гл.

**Тóпаль** 'таполя' (ТСБМ, Сцяшк.), *тóполь* 'тс' (ТС). Гл. *таполя*.

**Тóпальніца** 'понаж у калаўроце' (мёрск., Ск. нар. мовы), *тóпала* 'тс' (Варл.). Утворана ад *топаць*, гл.

**Тóпаць** 'тупаць, ісці (пра малых дзяцей)' (мёрск., Нар. лекс.), 'ісці; хадзіць' (брасл., Сл. ПЗБ), 'скакаць' (Сцяшк. Сл.), сюды ж *топ* 'пра топанне, няўдалыя скокі' (мсцісл., Нар. лекс.), 'тупат' (Нар. Гом.), *топонíць* 'тупацець' (ТС), ст.-бел. *топотъ* 'тупат' (1518 г., КГС). Укр. *тóпати* 'ісці', *тóпкати* 'таптаць', рус. *тóпать* 'тупаць', *тóпот* 'тупат', польск. дыял. *topotać się* 'дрыжаць (ад страху, трывогі)', в.-луж. *topotać* 'тупаць', чэш. *ťopati* 'крочыць', славен. *topotáti*, *topótniti* 'тупаць', серб.-харв. *тóпдтати* 'тс', *тӧпот* 'тупат', балг. *тóпот* 'тупат', макед. *топоти*, *тупоти* 'тупаць, моцна стукаць'. З прасл. **top-*, якое звязана з **tep-*, гл. *цепаць*, а таксама прасл. **topotъ* (гл. *тупат*). Лічаць гукаперайманнем і параўноўваюць з лат. *tapa, tapu* 'туп-туп', *tapât* 'крочыць, топаць', літ. *tapuoti* 'тс', фін.-угор. *tap* 'біць, штурхаць', тат., казах., кыпч. *taptamak* 'таптаць', *tap-tap* 'туп-туп'. (Фасмер, 4, 78; Махэк$_2$, 647; ЕСУМ, 5, 598; Сной$_2$, 773). Да семантыкі параўн. *тóпкаць* 'штурхаць, біць' (Мат. Гом.).

**Тóпель** 'таптуха лавіць рыбу' (люб., Паўл.), сюды ж з іншай суфіксацыяй *тóпень* 'рыбалавецкая снасць, зробленая з лазовых дубцоў у выглядзе конуса' (глус., Янк. Мат.; ПСл, Мат. Гом.), 'таптуха, рыбалоўная снасць' (ст.-дар., Нар. сл.), 'таптуха' (ст.-дар., Сл. ПЗБ). Ад *тапіць*$_1$ (гл.), параўн. чэш. *tápal* 'від рыбацкай сеткі' (ад ст.-чэш. *tápati se < topiti se*, гл. Махэк$_2$, 636).



**Тóпельнік** 'тапелец' (віл., Сл. ПЗБ). Гл. *топленік*.

**Тóпень** *(тóпінь)* 'месца, дзе можна закінуць невад, тоня' (мёрск., Жыв. НС). Параўн. *тоня*, *тонь*$_1$ (гл.) з аднаўленнем першаснай этымалагічнай сувязі з *тапіць*$_1$, гл.

**Тóпікі** 'дзіцячыя вязаныя тапачкі' (Сцяшк. Сл.). Відаць, да *топкі*$_4$, *топці* (гл.) пад уплывам *топаць*?

**Тóпіла**, *топ* 'багна' (Шатал.). Гл. *тапіла*.

**Тóпкі**$_1$ 'балоцісты, гразкі, багністы; пра сыпучы грунт' (ТСБМ, Сцяшк.), 'ужываецца са словамі луг, сенажаць, балота, бераг (вадаёма), дно (вадаёма); такі, у якім не загразнеш' (Янк. 2), 'гразкі, багністы' (ТС), 'цвёрды (дзе не загразнеш)' (узд., Сл. ПЗБ), *тóпкій* 'гразкі (бераг і пад.)' (Бяльк.), ст.-бел. *топкий* 'гразкі, багністы' (КГС). Вытворнае ад *тапíць*$_1$, гл.

**Тóпкі**$_2$ 'тлусты, які дае многа тлушчу пры тапленні' (Скарбы; стаўб., З нар. сл.), 'плаўкі' (ТС), 'плаўкі, цвёрды' (Ласт., Байк. і Некр.). Ад *тапíць*$_2$, гл.

**Тóпкі**$_3$ 'здатны хутка загарацца' (Нас.). Ад *тапíць*$_3$, гл.

**Тóпкі**$_4$ 'тапачкі' (Мат. Гом.). Параўн. рус. смален. *тóпки* 'абцасы' (выспяткі?): *ножными топками топтали немлстівно* (з помніка 1745 г., Барысава, Лекс. Смолен. края, 142), звязанае з *тóпкаць* 'штурхаць, біць' (Мат. Гом.), укр. палес. *тóпкати*, *тáпкати* 'таптаць', што да *топаць*, гл. Параўн. *топці*, гл.

**Тóпленік** 'тапелец' (Нас., Байк. і Некр., Ласт., Сл. ПЗБ, ТС), *тóплянік (tòplanik)* 'тс' (Федар. 4), *тапéльнік* 'тс' (Байк. і Некр.), *тóпельнік* 'тс' (Сл. ПЗБ), *утóпленік*, *тóпленік* 'тс' (Некр. і Байк.), сюды ж *тóпленік* 'затанулае бервяно' (пух., Сл. ПЗБ), *тóпленікі* 'патоплены ў вадзе лесаматэрыял' (ТС), *тóпленік*, *топля́к* 'патануўшае бервяно, дрэва' (лельч., Жыв. сл.), *таплíннік* 'тс' (барыс., Сл. ПЗБ). Ад дзеепрыметніка *(ў)топлы* 'затанулы', што да *тапíць*$_1$, гл.

**Тóпсацца** 'таптацца, хадзіць, выконваючы якую-небудзь работу' (брасл., Сл. ПЗБ). Відаць, ад *топаць* (гл.) з экспрэсіўным суф. *-с(а)*, магчыма, праз стадыю аддзеяслоўнага назоўніка **топса*, параўн. *крыкса*, *плакса* і пад. (гл. *крыкса*$_2$), адносна якіх гл. Сцяцко, Афікс. наз., 64 і наст.; Саевіч, Derywacja, 402.

**Тóпта** ‘той, хто многа есць’ (карэліц., ЖНС). Аддзеяслоўны назоўнік ад *таптáць* ‘есці’ (гл. *таптаць*$_1$).

**Тóптанка** ‘бульбяная каша’ (брагін., ЛА, 4), ‘бульбяная каша (з тоўчанай варанай бульбы)’ (стол., ЖНС), *тóптáнка* ‘тоўчаная бульба’ (ТС), *тóпта* ‘тс’ (маладз., Жд. 2). Гл. *таптуха.*

**Тóпці** ‘тапачкі’ (ТС). Гл. *топкі*$_4$, *тапці*.

**Тор**$_1$ ‘дарога, след, пакінуты калёсамі’; ‘кірунак дзейнасці; шлях’ (ТСБМ), ‘пралажаны шлях, сцежка’ (Нас.), ‘санны след на снезе’ (маладз., Янк. Мат.), ‘след, дарожка ад зубоў бараны’ (віл., Жыв. сл.), ‘свае думкі, свой погляд’ (Сцяшк.), ‘цвёрдая, укатаная дарога’ (Жд. 2), ‘след ад колаў на цаліку’ (Барад.), ‘чыгуначны пуць’ (беласт., Сл. ПЗБ), ‘каляіна, след’ (паст., Сл. ПЗБ), ‘дарога’ (брасл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *торъ* ‘шлях, дарога’, ‘парадак’ (1585 г.; КГС). Укр. *тор* ‘след, каляіна’, рус. дыял. *тор* ‘утаптаная, уезджаная дарога’, польск. *tor* ‘каляіна, пуць’, дыял. ‘след’, чэш. дыял. *tor* ‘утаптаная, уезджаная дарога’, ‘след звера’, славен. *tȍr* ‘трэнне’, серб.-харв. *то̑р* ‘загон для скаціны’, дыял. *тӧр* ‘след; агароджа’, балг. *тор* ‘угнаенне, гной’. З прасл. **torъ* ‘трэнне’, дыял. ‘уезджаны шлях’, якое праз чаргаванне галосных звязана з **terti* ‘церці’. Супастаўляюць з лат. *nuotars* ‘лука, зарослая кустоўем’, грэч. τορός ‘пранізлівы, рэзкі; стромы’, ст.-інд. *tārā́ḥ* ‘пранізлівы’, *tā́raḥ* ‘тс’. (Фасмер, 4, 81; Брукнер, 574; Махэк$_2$, 648; ЕСУМ, 5, 602; Борысь, 638; Коген, Узвышша, 1929, 3, 96). Каламіец (Этимология – 1984, 96) мяркуе, што назва ўзыходзіць да таго перыяду, калі грузы перамяшчаліся волакам, ад чаго на зямлі ад трэння заставаўся след.

**Тор**$_2$ ‘торф’ (Мат. Гом.; валож., Стан.). Да *торф* (гл.) з утратай не ўласцівага народнай мове гука *ф*. Малаверагодная сувязь з паўднёваславянскімі словамі, параўн. серб.-харв. *тор* ‘конскі гной’, балг. *тор* ‘угнаенне’ і інш.

**Тор**$_3$ (*торь*) – пра торканне, соўванне (Юрч. СНЛ). Магчыма, захаваны першасны імітатыў (гукаперайманне), параўн. другаснае ўскладненае суф. *-к торьк* – пра нечаканае з’яўленне, падаванне (мсціл., Нар. лекс.), суадноснае з дзеясловам *торкаць*, гл.

**Тóра**$_1$ ‘Пяцікніжжа Маісеева’, ‘першая частка Біблії ў яўрэяў’, ‘скрутак з гэтым тэкстам’ (ТСБМ). Параўн. ідыш *Tojre* ‘Пяцікніжжа; рэлігійнае вучэнне, дактрына’, што са ст.-яўр. *thōrā̆*$^h$



‘вучэнне, павучанне, закон’ (Міхельсон, Рус. мысль, 670; Голуб–Ліер, 485; ЕСУМ, 5, 602).

**Тóра**$_2$ *(тóря)* ‘мякіна’ (Мат. Маг. 2) – у выніку характэрнага для гаворак усходу Беларусі адсячэння пачатковага *а-* ў лексеме *атóра* ‘амеці’ (гл.), аналагічна да *ткуль/аткуль*, *тлымаць/атлымаць* ‘адламаць’ (Бяльк.) і пад. Параўн. таксама *ацíра*, *ацíры* ‘смецце’ (ЛА, 2) і чэш. *otěřiny (sena)* ‘пацяруха (сена)’; усё да **terti* ‘церці’ з чаргаваннем галосных.

**Тóрак** (*тóрок*) ‘праход’, ‘троп звера’ (ТС), сюды ж *тороковáць* ‘снаваць, рабіць праходы (пра звера)’ і, магчыма, *тороковáцца* ‘такаваць (пра цецерукоў)’ (ТС). Дэмінатыўнае ўтварэнне з суф. *-*ъкъ* ад *тор*$_1$ (гл.). Няясныя адносіны да *тарóк* ‘кладка з калодаў праз рэчку’ (гл.), што бліжэй да *тар*, *тáра* ‘плыток для пераезду’ (ТС), гл.

**Тóрап** ‘страх, перапуд’ (Нас.). Укр. *тóроп* ‘замяшанне, разгубленасць’, рус. *óторопь* ‘збянтэжанасць’, ц.-слав. *утрапъ* ‘зрушэнне, ссоўванне’, ‘вар’яцтва’; славен. *trȃp* ‘дурань, ёлупень’, балг. *трáпен* ‘збіты з панталыку’. Прасл. **torpъ* ад **torpiti* ‘рабіцца адубелым, скарчанелым’ (гл. *тарапіцца*$_2$), якое праз чаргаванне галосных звязана з прасл. **tьrpěti* (гл. *цярпець*) (Фасмер, 4, 85; Бязлай, 3, 213; Сной$_2$, 777–778; Махэк$_2$, 391; ЕСУМ, 5, 607). Сюды ж *тарапáны* ‘страх’, гл.

**Тóрба** ‘кайстра, невялікі мяшок з даматканай тканіны’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Байк. і Некр., ТС, Ян., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), ‘сумка’ (Сл. Брэс., Растарг.), ‘паляўнічая сумка’ (Сцяшк.), ‘жаночая сумка’, ‘школьная сумка’ (Ян.), ‘клінок для вырабу сыру’ (Сл. Брэс.; лун., Шатал.), ‘мяшэчак з палатна для рыбы’ (нараўл., З нар. сл.), ‘чарговы дзённы харч, які належыць пастуху за кожную карову’ (Гіл.; барыс., Антропаў, вусн. паведамл.), ‘сявенька’ (бых., ЛА, 5), ‘мяшок з аўсом, што адзяваецца каню на галаву’ (ТСБМ), ‘мяшок старца’ (Нас.), ‘сумка з тканіны ці скуры для курэцкіх прылад’ (ЛА, 5), ‘непаваротлівая, тоўстая жанчына’ (Нас., Шат., Мат. Гом., Сл. рэг. лекс.), ст.-бел. *торба* ‘торба’ (з 1555 г.) запазычана з цюркскіх моў (Булыка, Лекс. запазыч., 105), параўн. тур., крым.-тат., азерб. *torba* ‘мяшэчак, кайстра’, відаць, у перыяд найбольш інтэнсіўных сувязей ВКЛ з Крымскім ханствам у XVI ст. (Жураўскі, Тюрк. лекс. элем., 84, 88–89). Лексема пашырана ў многіх славянскіх мовах і дыялек-

тах і лічыцца агульнаславянскай (Голуб–Ліер, 485; Фасмер, 4, 81; Махэк$_2$, 648; ЕСУМ, 5, 602). Сюды ж *тарбе́шка* ‘торбачка’ (Нас., ТС), *тарбано́шый* ‘механоша’, *тарбаношка* ‘скураная сумка, якую сяляне насілі каля пояса паверх кашулі’ (Нас.), *то́рбачнік* ‘жабрак’ (ТСБМ, Бяльк., Нар. Гом.), *то́рбачнікі* ‘сумчатыя’ (Байк. і Некр.).

**То́рбачнік** ‘травяністая жоўта-зялёная з непрыемным пахам расліна Thlaspi (Towrn.) arvense L.’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Кіс.), *то́рбачка* ‘тс’ (Байк. і Некр.). Да *то́рба* (гл.). Названа паводле падабенства пладоў (каробачкі з дробным семем) да торбачкі; аналагічна да назваў розных раслін у чэш. *tašky*, польск. *tobółka*, *tasznik* ‘тс’ (Махэк, Jména, 62).

**Торг** ‘здзелка, гандаль’, ‘кірмаш’, ‘базар, рынак, месца гандлю’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп., Байк. і Некр., Сцяшк., Шат., ТС, АБ, 7, Скарбы; ашм., Стан.; воран., Сл. ПЗБ), *таргі́* ‘аўкцыён’ (ТСБМ), ‘гандаль; пакупнікі’ (Ян.). Укр. *торг* ‘здзелка’, ‘дагавор аб куплі-продажы’, ‘гандлёвая плошча’, рус. *торг* ‘прывоз, рынак, месца куплі і продажу’, ‘гандаль’, ‘таргаванне’, стараж.-рус. *търгъ*, польск. *targ* ‘продаж і купля тавараў’, ‘гандлёвая плошча’, ‘гандаль, абарот’, ‘выручка’, старое н.-луж. *terg* ‘месца гандлю’, в.-луж. *torhošćo* ‘рынак’, чэш., славац. *trh* ‘рынак’, ‘базар, кірмаш’, славен. *tŕg* ‘тс’, ‘плошча’, ‘сквер’; серб. *тр̑г*, харв. *tȓg* ‘тавар, якім гандлююць’, ‘гандлёвая плошча’, балг. *търговия* ‘гандаль’, *търг* ‘тс’, *търгъ́т* ‘аўкцыён’, макед. *трговија* ‘гандаль’, ст.-слав. **трьгъ** ‘гандлёвая плошча’. Прасл. **tъrgъ*. Пэўным чынам знаходзіцца ў сувязі з алб. *treg(ë)* ‘рынак’, ‘базар’ (> *Trst*), ілір. *tergitio* ‘гандляр, купец’, з венецкімі тапонімамі *Tergeste* > *Trzst* > *Trst* ‘рынак’, *Opitergium* ‘хлебны або таварны рынак’, лігур. *terg-* ‘купец’, *Tergolape*, *Tergilam* і інш. Рыбеца (Archivio glottologico italiano, 35, 51) сцвярджае, што **terga*, якое дало алб. *tregë*, з’яўляецца міжземнаморскім словам і яго можна звязаць генетычна з асір.-вавіл. *tamgaru* ‘купец’ > арамей. *taggara* > араб. *tadžir*, з якога выйшлі *tiġaret* ‘барыш, заробак’, *tüccar* ‘купец’, прынесеныя туркамі на Балканы (Скок, 3, 499). Ён мяркуе, што балканска-лац. *terg-* у Дунайскай зоне ў V ст. н. э. увайшло ў праславянскую мову. Літ. *tur̃gus*, лат. *tìrgus* ‘рынак’, а таксама ст.-сканд. *torg*, швед. *torg*, дац. *torv*, фін. *turku* запазычаны ва ўсходніх славян (Махэк$_2$, 651; Брукнер, 566;



Мікала, Berühr., 170; Скарджус, Slav., 226; Петрыч-Гольмквіст, JS, 8, 1962–1963, 146). Спробы вывесці паходжанне слав. **tъrgъ* з цюрк., манг. *torga*, *torgu* ‘шоўк’ ці са ст.-цюрк. *turγu* ‘стаянка’ не пераконваюць (Фасмер, 4, 82). Ондруш (Этимология – 1984, 179) сцвярджае, што прасл. **tr̥gъ* генетычна звязана не толькі з харв. *trážiti*, **s-terg-:*s-torg-* ‘сцерагчы’, але і з балг. *търси* ‘шукае’. Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 603. Сюды ж *таргава́ць* ‘прыцэньвацца; гандляваць’ (ТСБМ), *торгова́цца* (ТС), *то́ржышча* ‘рынак, гандлёвая плошча з народам’ (Нас.), *тарго́віца* ‘базар’ (АБ, 7 (3)), *таргаўшчыца*, *тарго́ўка* ‘гандлярка’ (там жа).

**То́ргаць**$_1$ ‘цягнуць не роўна, а рыўкамі, рэзкімі рухамі’ (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ, ТС; бялын., Янк. Мат.): *то́ргаў трактор трактора з ямы* (ТС), ‘тузаць за лейцы, прымушаючы каня ісці’ (ТСБМ), *то́ргыць* ‘чапаць’ (Бяльк.), *тарга́ць* ‘цягаць, валачы ў розныя бакі’, ‘тузаць, шморгаць’ (Нас.), *то́ргаті* ‘тузаць аснову красён’ (лун., Шатал.), *то́ргаць* ‘кляваць, прыводзіць у рух паплавок’ (ТСБМ, ТС), ‘дрыжаць, пацепвацца, перасмыквацца’ (ТСБМ), ‘торгаць пры нарыванні (з болем), балець праз аднолькавыя прамежкі часу, тузаць пры нарыванні’ (ТСБМ, Шат., Жд. 2, Жд. 3, Сл. ПЗБ; бялын., Янк. Мат.), *то́ргаты* ‘нарываць’ (бяроз., ЖНС), ‘шморгаць, часаць лён’ (Клім., Горбач, Зах.-пол. гов.), ст.-бел. *торгати* ‘тузаць, церабіць, рваць’ (Сл. Скар.), сюды ж *то́ргацца* ‘тузацца’ (Касп.), выклічнік *торг*: *торг-торг* ‘тык-мык’ (віл., Сл. ПЗБ). Укр. харк. *то́ргати* ‘тузаць’, рус. *то́ргать* ‘штурхаць’, ‘тузаць’, ‘тармасіць’, ‘цягаць, скубці’, ‘ірваць (лён)’, ‘вымотваць нервы’; польск. *targać* ‘тс’, ст.-польск. *tergać*, н.-луж. *tergaś* ‘ірваць, раздзіраць’, ‘тузаць’, ‘тармасіць’, ‘шчыпаць’, ‘цягнуць’, ‘перакідаць, зносіць’, ‘разбіваць’, в.-луж. *torhać* ‘тс’, ‘драць’, ‘вырываць’, чэш. *trhati* ‘тс’, ‘зношваць (адзенне, абутак)’, ‘падрываць (скалу)’, ‘пацепваць (плячом)’, славац. *trhat’* ‘тс’, ‘торгаць пры нарыванні’, ‘зрываць (адзенне)’, ‘рэзаць (слых)’, славен. *tŕgati* ‘рваць, зрываць’, ‘расхопліваць (тавар)’, ‘разрываць (адносіны)’, ‘раздзіраць (адзежу)’, ‘адломваць, адрываць’, харв. *tȑgati*, серб. *тр̏гати* ‘рваць’, ‘зрываць (плады)’, ‘тузаць пры нарыванні раны’, макед. *трга* ‘торгаць, цягнуць рыўкамі’, ‘ад’язджаць’, ‘піць з бутэлькі’, ‘цярпець, пакутаваць, мучыцца’, балг. *тъ́ргам* (Младэнаў, 640), *трѐгвам*, *трѐгна* ‘ад’язджаць, рухацца ў дарогу, адыходзіць’, ‘лахаць па розных месцах’,

ст.-слав. **истръгати** ‘разрываць, перарываць’, **истръгнѫти** ‘вырваць, выцягнуць’, ‘адабраць ад каго-небудзь’. Прасл. **tъrgati*, звязанае чаргаваннем галосных з **tьrg-* (Фасмер, 4, 83), **tŕ̥gati* або **tr̥gāti* (Сной$_2$, 782; Рэйзак, 673) ці **tr̥gati* (Борысь, 627), роднасныя лац. *tergēre* ‘выціраць, асушаць, чысціць’, ‘казытаць’, ст.-грэч. τρώγω ‘грызу, хрумстаю, ем’, арм. *t‘urc* ‘сківіца’, тахар. А і В *trask* ‘жаваць’. Махэк$_2$ (651) прасл. **tъrgati* супастаўляе з лац. *stringere* ‘зрываць з паверхні, абрываць’, ‘жаць, касіць’, ‘злёгку драпаць, раніць’, ‘датыкацца’ (з *s*-mobile, якое ў **tъrgati* страцілася), сцвярджаючы, што *-r-* тут не з’яўляецца каранёвым, звязвае яго з прасл. **tęg-* ‘цягнуць’, а Фасмер (там жа) – са ст.-інд. *tr̥ṇḗḍhi* ‘расколаты, раздроблены’. Тым не менш Скок (3, 499), як і Борысь, Рэйзак і Сной, мяркуе, што прасл. лексема ўзыходзіць да і.-е. **ter-* ‘церці’, пашыранага фармантамі *-gh-* і *-ĝh-*. Блізкім да *то́ргаць* (варыянт з азванчэннем пачатковага зычнага?) з’яўляецца *до́ргаць* ‘торгаць’, ‘патузваць чым-небудзь’, ‘прагна хапаць ежу’, ‘ванітаваць’, *раздо́ргаць* ‘стан, калі нападае лютасць, ашалеласць, раз’юшанасць’ (Нас.), *дэ́ргаты, да́ргаты* ‘часаць лён на грэбні’ (Уладз.), якое да прасл. **dъrgati*, параўн. укр. *де́ргати* ‘тузаць, торгаць’, дыял. *де́р’гати* ‘часаць (валакно)’, рус. *дёргать* ‘торгаць’, ‘рваць, выцягваць’, ‘цягнуць’, ‘рабіць рэзкі рух’, смал. *дарга́ть* ‘раздзіраць’, стараж.-рус. *дъргати* ‘торгаць’, польск. *dziergać*, старое *dzierzgać* ‘фастрыгаваць’, ‘вязаць’, н.-луж. *źergaś* ‘часаць лён’, чэш. *drhati*, ст.-чэш. *držěti se* ‘трэсціся’, *drhat* ‘калыхаць’, *dr̃hat* ‘шчыпаць курыцу’, славен. *dŕgati* ‘церці, месці’, *dŕzati* ‘часаць’, ‘шчыпаць траву’, балг. *дъ́рзам* ‘мяць лён, трапаць яго’, якія суадносяць з **dъrati* пашыраным на *-g-* < і.-е. **derH-gh-* ‘цягнуць, ірваць, торгаць, здзіраць скуру’ (Фасмер, 1, 500–501; ЭССЯ, 5, 221; Сной$_2$, 124; Махэк$_2$, 127; ЕСУМ, 5, 603).

**То́ргаць$_2$** ‘крычаць (пра драча)’ (ТСБМ). Слова пабудавана на гукапераймаíнні крыку гэтай птушкі, падобнага да *дорг!* (рус. *дёрг!*, польск. *der-der!*), якое паўтараецца да 15 разоў (Праабражэнскі, 1, 179; Фасмер, 1, 501; Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, 7, 103; Струтынскі, Nazwy, 114).

**То́ргнуць** ‘хутка пабегчы’ (Ян.). Фармальна суадносіцца з *то́ргаць$_1$* (гл.), параўн. *тарга́нуць*, гл.



**То́рзаць** ‘торгаць, тузаць (пра боль)’ (ТС), *ту́рзаць* ‘тс’, *ты́рзаць* ‘тс’, *торзуну́ты* ‘тузануць, таргануць’ (пін., Сл. Брэс.; стол., Нар. лекс.). Укр. дыял. *то́рза́ти, то́рсати* ‘трэсці, рухаць, штурхаць, тузаць, торгаць’. Карэннае *-о-* пад уплывам лексемы *торгаць$_1$* (гл.). У іншых славянскіх мовах *te-* < прасл. **tъrzati*, у якім *-z-* развілася ў выніку 3-й палаталізацыі (Сной у Бязлай, 4, 242; Сной$_2$, 790): рус. *терза́ть* ‘раздзіраць’, ‘мучыць’, укр. *терза́ти* ‘тс’, ст.-слав. **трьсати** ‘тузаць, ірваць, раздзіраць’, ц.-слав. **трѣзати** ‘тс’, харв. *tȉzati*, серб. *тр̏зати* ‘рваць, вырываць, тузаць’, ‘кляваць’. Да і.-е. **ter-ĝ(h)-* (Покарны, 1073; Міклашыч, 354; ЕСУМ, 5, 604). Генетычна блізкае да *торгаць$_1$*, гл.

**То́ркаць** ‘таўхаць кароткімі штуршкамі’, ‘рэзкімі рухамі дакранацца’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Юрч.), ‘даваць, прапаноўваць’ (Нас., Юрч. Вытв.), ‘тыкаць’ (Нас., Ласт.): *то́ркаць у зубы* ‘груба падаваць, паказваць’ (Юрч. Фраз.), ‘пратыкаць’ (Сцяшк.), ‘штурхаць’, ‘будзіць’, ‘усоўваць, садзіць’ (ТСБМ, Нас.; калінк., Сл. ПЗБ), *тарка́ць* ‘тс’ (Нас.), ‘чапаць, кратаць’, ‘кляваць’ (ТС; нараўл., З нар. сл.), *то́ркаты* ‘тузаць; падсоўваць’ (драг., З нар. сл.), ‘упікаць, дакараць, лаяць’ (Сл. Брэс.; малар., Нар. лекс.), ст.-бел. *то́ркати* ‘бадаць, калоць рагамі’ (Сл. Скар.), сюды ж *то́ркацца* ‘варушыцца, калывацца’ (ТС), ‘совацца, заходзіць’ (Юрч. СНЛ), *то́ркнуцца* ‘даткнуцца’ (Ласт.), *то́рнуць* ‘штурхнуць, усадзіць, ткнуць, даць’ (Сл. ПЗБ, Юрч., Жд. 2), *торкену́ць* ‘таўхануць, штурхануць’ (ТС), *торк* – пра нечаканае з’яўленне, падаванне (ТСБМ), ‘тыц’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *торьк* ‘тс’ (мсцісл., Нар. лекс.; Бяльк.), *торк-торк* – пра тузанне (Сержп. Прык.). Укр. *то́ркáти* ‘чапаць, зачапляць’, ‘штурхаць’, ‘рушыць’, *торка́тися* ‘дакранацца’, рус. *то́ркать* ‘штурхаць, грукаць’, ‘ірваць’, ‘выцягваць’, польск. *torknąć* ‘ткнуць’, ‘піхнуць, падштурхнуць’, ‘ударыць’, ‘зачапіць’, н.-луж. *starkaś*, *starcyś* ‘штурхаць, піхаць’, в.-луж. *storkać* ‘штурхаць’, ‘таўчы’, чэш. *trkati* ‘басці, калоць’, ‘кідацца (у вочы)’, *strkat* ‘штурхаць’, ‘перакідаць з месца на месца’, ‘падсоўваць’, славац. *trkat’* ‘басці’, славен. *tŕkati* ‘грукаць, штурхаць’, *otŕkniti* ‘зацвярдзець, зрабіцца цвёрдым’, якое Бязлай (Linguistica, 8/1, 64), адносячы да ізаляваных славенскіх лексем, супастаўляе з літ. *trìkti* ‘штурхаць’, ‘быць перашкодай’, *trẽkti* ‘псаваць’, *trãknys* ‘пацяруха’, харв. кайк. *tȑkati* ‘грукаць у дзверы’, серб. *тр́кати* ‘бегаць туды-сюды’, балг. *тъ́ркам*

'перашкаджаць', 'церці', 'расціраць', 'драць', дыял. *торкам* 'моцна калоць', макед. *трчка* 'бегаць', *трча* 'мітусіцца'. Прасл. **tъrk-/*stъrk-*, роднаснае літ. *tùrktereti* 'штурхнуць' (Буга, Rinkt., 1, 490), відаць, гукаперайманне (Фасмер, 4, 83). Да і.-е. **(s)ter(H)-k-* 'зацвярдзець' (Шустар-Шэўц, 1361). Першаснае значэнне – 'біць па нечым цвёрдым' (Сной$_2$, 784). Махэк$_2$ (651) у якасці роднаснай прыводзіць польск. *trykać* 'басці'. Аднак Скок (3, 504), разглядаючы лексему як анаматапеічную, звязвае яе з літ. *treñkti* 'грукаць, грымець, трэснуць, шпурнуць з сілай', 'біць кулаком', нова-в.-ням. *Drang* 'націск', 'імкненне' і адносіць да і.-е. асновы **trenq-*, якая ў славян без назалізацыі. Куркіна (Этимология – 1974, 45–47) мяркуе, што іншаславянскія сувязі застаюцца не зусім яснымі.

**То́рмаз** 'прыстасаванне для запавольвання або спынення руху' (ТСБМ, Некр. і Байк.), сюды ж *тармазіць* 'запавольваць, спыняць рух' (ТСБМ, Некр. і Байк., Цых.), *тормозіті* 'тс' (Вруб.). З рус. *то́рмоз* 'тс', якое звычайна тлумачыцца як запазычанне са ст.-грэч. τόρμος 'прасвідраванае, пракручанае', позняе 'ўтулка, затычка' (Міклашыч, 359; Фасмер, Этюды, 203; Чарных, 2, 251–252; ЕСУМ, 5, 605), што малаімаверна (Трубачоў, Дополн.; Фасмер, 4, 84). Дзмітрыеў (Лекс. сб., 1958, 3, 45) дапускае, аднак, запазычанне з цюрк. *turmaz* 'ён не стаіць', а таксама 'падкладкі для колаў арбы'. Аднак не выключана і славянскае паходжанне, параўн. *тормозіць* 'узбуджаць, хваляваць', *тормозова́ць* 'штурхаць, будзіць' (ТС), балг. *тормо́зя* 'прыгнятаць (маральна); перашкаджаць, затрымліваць', што могуць разглядацца як варыянты з азванчэннем у інтэрвакальным становішчы зыходнага *с*, параўн. *тармасіць*, гл.

**То́рнік** 'прыстасаванне, якім робяць уторы' (АБ, 9). Да *ўто́рнік* < *утора* (гл.).

**То́рнуць** 'штурхнуць, піхнуць' (Юрч., Жд. 2), 'ткнуць, даць' (Юрч., Жд. 3, Сл. ПЗБ), 'апусціць, усадзіць' (Сл. ПЗБ), 'аддаць грошы' (гарад., Нар. ск.). Відаць, дзеяслоў на *-ну-* ад імітатыва *тор*$_3$ (гл.); менш верагодна ад *торкнуць* (гл.), шляхам спрашчэння спалучэння зычных у сярэдзіне слова.

**То́рны** 'наезджаны, гладкі, роўны' (ТСБМ; лун., Шатал.; Мат. Гом.), 'утаптаны, убіты' (Байк. і Некр., Бяльк.; рагач., Сл. ПЗБ; Пятк. 2): *на торным двары* (Полымя, 1970, 2, 127), 'дрэнны (разбіты?)': *дарога вельмі торная, ісці нават цяжка* (стаўб., Жд. 1). Рус. *то́рный* 'гладкі, роўны', серб. *то̏рни* 'які адносіцца да пастаўніка', балг. *то́рен* 'угноены'. Утвораныя ад *тор*$_1$ або *то́рыць* (гл.) пры дапамозе суф. **-ьn-ъ*, падобнае паходжанне прапануецца і для паўднёваславянскіх слоў (Скок, 3, 512); значэнне 'ўгноены', верагодна, развілася на базе 'ўтоптаны жывёлай, якая доўга стаяла на гэтым месцы'.



**Торп**$_1$ 'бакавыя часткі ў гумне, засторонкі, закладзеныя збожжам' (Сл. ПЗБ; астрав., Ск. нар. мовы; Сцяшк., Сержп. Прымхі; паўн.-зах. і цэнтр., ЛА, 2), 'абарог для сена' (Касп.), 'сцірта ў гумне паміж двума слупамі' (ашм., Стан.), ст.-бел. *торпъ* 'адзінка для вымярэння неабмалочанага збожжа'. Гл. *тарпа*$_1$.

**Торп**$_2$ 'торф' (Мат. Гом., Жд. 2, Жд. 3), *то́рпа* 'тс' (Скарбы), *тарпа́* 'тс' (Касп.). З *торф* (гл.) з заменай не ўласцівага народнай мове гука *ф* на *п*, магчыма, пад уплывам папярэдняга слова, бо выкапаны торф складвалі для прасушкі ў выглядзе сціртаў. Параўн. *тарпа*$_2$.

**Торс** 'адлюстраванне тулава чалавека ў жывапісе ці скульптуры' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз польскае ці рускае пасрэдніцтва з італ. *torso* ці франц. *torse*, якія з лац. *thyrsus* 'сцябло', 'жазло Вакха' < ст.-грэч. θύρσος 'тс', 'галінка, атожылак' (Фасмер, 4, 87; Голуб–Ліер, 485; ЕСУМ, 5, 608).

**То́рскаць** (*то́рскыць*) 'штурхаць' (Юрч. Вытв.), сюды ж *то́рснуць* 'штурхнуць' (Юрч.), *то́рснуцца* 'штурхануцца' (Юрч. СНЛ), *торсь* – пра грубае штурханне (мсціcл., Нар. лекс.). Параўн. укр. *то́рсати* 'таргаць, рухаць, штурхаць, трэсці', *торсону́ти* 'моцна штурхнуць', чэш. *trsati* 'дрыгаючыся, танцаваць', 'дабываць рэзкія, кароткія гукі з музычных інструментаў'. Ад гукаперайма́льнага *тор*$_3$ з нарашчэннем *-с-*, параўн. *пялёх/пялёсь* пра пялёсканне (мсціcл., Нар. лекс.), *торк/торсь* – пра штурханне (там жа) і пад.

**Торт** 'кандытарскі выраб са здобнага цеста' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.; астрав., Сл. ПЗБ). Запазычана з заходнееўрапейскіх моў, хутчэй за ўсё, з ням. *Torte*, якое праз італ. *torto* 'торт' з познелац. *tōrta* 'від круглага і плоскага хлеба', да лац. *torquēre* 'віць, круціць, сукаць; вярцець, пераварочваць' (Фасмер, 4, 87; Махэк$_2$, 123; Голуб–Ліер, 138; ЕСУМ, 5, 608). Сюды ж *то́ртавыя цястк*і 'здоба' (Сцяш. Сл.) – з польск. *ciastka tortowe* 'тортавае піро́жнае'.

**То́ртаўскі**: *то́ртаўскі плото́к* ‘суконная тоненькая хустка’ (Ян.). Няясна.

**Торф** ‘рэшткі перагніўшых балотных раслін’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сцяшк., Сл. ПЗБ), *торп* ‘тс’ (Бяльк., Сцяшк., Сл. ПЗБ), *то́рпа* ‘тс’ (Некр. і Байк., Сцяшк.), *торх* ‘тс’ (віл., Сл. ПЗБ), *торх*, *торшо́к* ‘тс’ (Юрч., Растарг.), *тор* ‘тс’ (Мат. Гом.). Запазычана (з наступнай фанетычнай адаптацыяй у народнай мове) праз польскую ці рускую мовы з ням. *Torf* (н.-ням., в.-ням. *zurba*, *zurf*, англ.-сакс., англ. *turf* ‘дзірван’, ст.-сканд. *torf* ‘пук’), роднасным якому з’яўляецца ст.-інд. *darbhás* ‘пучок травы’ (Васэрцыер, 233; Фасмер, 4, 87; Чарных, 2, 253; ЕСУМ, 5, 609). Аднак Міхельсон (Рус. мысль, 671) выводзіць лексему з араб. *turab* ‘зямля’.

**Торч** ‘сабраныя разам няструганыя доўгія дошкі’ (Нас.). Як і ўкр. *торч* ‘агароджа з вертыкальна прымацаваных кіёў’, *торчи́на* ‘адна палка ў агароджы’, адносіцца да прасл. **tъ̥rčeti/*stъ̥rčeti* ‘вытыркацца, тырчаць’, параўн. *тарчма́*, *то́рчма*, гл. Менш верагодны зваротны дэрыват ад *тарчыца* ‘дошка’ (гл.) з фармальным пераўтварэннем (*о* < *а* пад націскам) і набыццём значэння зборнасці.

**То́рчма** ‘стрымгалоў, як мага’ (Нас.), ‘уніз галавой’ (Шымк. Собр.), ‘стырчма’ (Мат. Маг.), *то́ршма* ‘тарчма’ (Бяльк.): *торшма галавою* (Гарэц.), *тарчмако́м* ‘уніз галавой’ (Нас.) – прыслоўі ад дзеяслова *тарчаць*, *тырчаць* (гл.), без *-ма* параўн.: *валасы на галаве сталі торч* (Сержп. Казкі). Гл. таксама *тарчма, старчма, старчак.*

**То́ршы** ‘больш торны (пра дарогу)’ (Нас.) – незвычайная простая форма вышэйшай ступені прыметніка *торны* (гл.), утвораная пры дапамозе суф. *-ш-* (па тыпу прыметнікаў з суплетыўнай асновай: *горшы*, *меншы*).

**То́рыць** ‘хадзьбой, яздой пракладваць дарогу’ (ТСБМ, Ласт.), ‘ісці, накіроўвацца’ (Сцяшк. Сл.). Укр. *тори́ти*, *торува́ти* ‘ўтоптваць, пракладваць дарогу’, рус. *тори́ть* ‘пракладваць баразну, сцежку, дарогу частай хадзьбой’, польск. *torować* ‘тс’, *utorować* ‘пракласці дарогу’, чэш. валаш. *tořiť*, ляш. *torovať se*, славац. *torovať* ‘пакідаць след пасля сябе’, харв. чак. *tòriti* ‘ўгнойваць’, ‘выпаражняцца (пра скаціну)’. Прасл. **toriti* ‘пракладваць дарогу, сцежку’, з якім Буга (Rinkt., 2, 630) звязвае ўсх.-літ. *tarýti* ‘вымаўляць, гаварыць’, літаральна – ‘церці языком’; гл. таксама Фасмер, 4, 83. Разглядаецца як ітэратыў ад **terti* ‘церці’, мажліва, і прасл. **tariti*, гл. *тары́ць* (Варбат, Этимология – 1970, 58).



**То́сі-то́сі** ‘прыпеўка ў дзіцячай забаўлянцы’: *тосі, тосі, лапці, поідым до бабці* (жабін., Дзіц. фальклор). Параўн. укр. *то́сі* ‘выгук, якім суправаджаецца пляскание ў далоні пры гульні з малымі дзецьмі’, *то́сяти* ‘пляскаць у далоні, забаўляючы дзіця’, польск. дыял. *tosiać* ‘тс’. Мяркуюць пра гукапераймальны характар пачатку слоў, аформленых элементам *-сі*, што прыдае словам экспрэсіўны характар (ЕСУМ, 5, 609). Паводле Горбача (Дитяч., 7), дэфармаваная назва далоні, як і *ладусі* ‘тс’ (< *ладоні*, гл. *ладонь*).

**То́скаць** ‘штурхаць’, ‘трэсці (стол)’ (Шатал.). Відаць, да *то́рскаць* (гл.) са спрашчэннем спалучэння зычных.

**То́сна** ‘млосна’ (гродз., Сл. ПЗБ), *то́скна* ‘тужліва, сумна’ (Ласт.), ст.-бел. *то́скно* ‘тс’ (XVII ст., Карскі, 1, 88). Да *таскні́ць* ‘тужыць, нудзіцца, сумаваць’ (гл.), параўн. ст.-польск. *teskno/tesno* ‘сумна’, ‘непрыемна, крыўдна’ і спрошчанае дыял. *ckno (*tъskn- > *tskn- > ckn-)* ‘сумна, тужліва’, ‘моташліва, нудліва’, ‘саладжава’, н.-луж. *tešno*, *stysno* ‘палахліва, жудасна’, ‘цяжка, змрочна’, в.-луж. *tyšno* ‘тс’, ‘сумна, маркотна, засмучана’, чэш. *je mu teskno* ‘яго сум, туга бярэ за сэрца’, славац. *teskno*, *tesno* ‘тужліва’. Да праславянскага прыметніка **tъsknъ* ‘смутны, тужлівы, прыгнечаны’, які ад назоўніка **tъska* ‘смутак, прыгнечанасць, дрэннае самаадчуванне, млоснасць, нуда’ (гл. *таска*), параўн. рус. *тоска́* ‘туга, нуда, смутак’, стараж.-рус. *тъска* ‘бура на моры (з марской хваробай)’, ‘цяжкасць, гора, сум, неспакой’ (Борысь, 632; Фасмер, 4, 88; ЕСУМ, 5, 612). Найбліжэйшым і.-е. адпаведнікам з’яўляецца літ. *taũsti* ‘сумаваць’ (Махэк$_2$, 641).

**Тост** ‘застольная здравіца, прапанова выпіць у гонар каго-небудзь’. Запазычана праз рускую мову з ням. *Toast* ці франц. *toste* альбо непасрэдна з англ. *toast* ‘тс’, што з лац. *panis tostus* ‘падсмажаны хлеб’, скібку якога разам са шклянкай (вады) у Англіі ставілі перад выступоўцам або перад тым, хто будзе абвяшчаць здравіцу (Фасмер, 4, 88; ЕСУМ, 5, 609; Чарных, 2, 253). Сюды ж *то́сцер, то́стэр* ‘прыстасаванне для падсмажвання хлеба’.

**То́-та** ‘то́-та ж’, ‘у тым вось і справа’, ‘вось іменна’ (ТСБМ, Нас., Растарг.), *то́та* ‘так, але’ (Бяльк.), *то́-то* ‘то’ (маст., Хромчанка, дыс.), ‘так’: *от то-то й есь* (Сержп. Прык.). Параўн. рус. *то́-то (же)* ‘вось так’. Адзайменнікавая часціца, утвораная ад *той* (гл.) шляхам рэдуплікацыі формы н. р. займенніка.

**То́та** ‘заменнік воўка (у загадцы)’: *ішоў тота каля плота* (Барад.). Відаць, захаванае ў фальклоры ст.-бел. *тотъ* ‘той’ з першаснага *тъ-тъ* або *то-тъ* (дзе *то* выводзіцца з ускосных склонаў займенніка **тъ*, параўн. Карскі, 2–3, 86–87, 90). Гл. *той*.

**То́ўба** ‘тоўсты, нязграбны чалавек’ (шчуч., Сл. ПЗБ; ТС), ‘тоўстая, здаровая жанчына’ (гродз., ЖНС; Скарбы; Юрч. СНЛ), *то́ўбіна*, *то́ўбішча*, *то́ўбачка* ‘тс’ (Юрч. СНЛ), *то́ўбік* ‘таўстун’ (Юрч. Мудр.). Укр. *то́вба* ‘непаваротлівы, няўклюдны, тоўсты чалавек (часцей – жанчына)’. Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 5, 109), не зусім яснае слова: магчыма, звязана з літ. *taũbė* ‘тоўба’, якое ўзыходзіць да яўрэйскага імя *Taube*, параўн. ням. *Taube* ‘голуб’. Зубаты (Studie, 1, 2, 164) супастаўляе са *стаўбе́ня* ‘тоўсты, нязграбны чалавек’, укр. *товпі́га*, лат. *stúlbs* ‘дурны’. Магчыма, утварэнне на *-ба* ад **toviti/*tyti* ‘адкормліваць, рабіцца тучным’ (гл. *тучыць*), параўн. *тоўла*, гл.

**То́ўбаліць** ‘укладаць у памяць, убіваць у галаву’ (ТС). Відаць, варыянт дзеяслова з аглушэннем пачатковага зычнага, параўн. *доўба́ніць* экспр. ‘гаварыць’ (ТС), лаянкавае *до́ўбало дурно́е* ‘тупы чалавек’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), утворанае паводле тыпу *ду́рбало* ад *ду́рбаць* ‘дзяўбці ў галаву, настойліва тлумачыўшы’, параўн. літ. *dur̃binti* ‘выдоўбліваць дупло’.

**То́ўзаць** ‘тузаць’ (Жд. 3) – у выніку кантамінацыі лексем *ту́заць* і *то́рзаць* ‘тс’, гл.

**Тоўк**$_1$ ‘толк, карысць, парадак, сэнс’ (Бяльк.). Гл. *толк*.

**Тоўк**$_2$, *таўку́нь* – пра тоўханне (мсцісл., Нар. лекс.). Гл. *таўкці*, *таўчы*.

**То́ўла** ‘няўмека, непаваротлівы’ (Юрч.), ‘мажная, непаваротлівая жанчына’ (ушац., Нар. сл.), ‘непаваротлівы, тоўсты чалавек’ (паст., Сл. ПЗБ), *то́ўлін* ‘які належыць няўмецы, непаваротлівай асобе’ (Юрч. СНЛ). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 5, 109), роднаснае літ. *tūlóti* ‘цёпла апранацць’, параўн. яшчэ *ту́ля* ‘апранутая ў тоўстае, цёплае адзенне, якая выглядае непаваротлівай’ (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Магчыма, генетычна звязана з *тоўба* (гл.), якое, як мяркуецца, можа паходзіць ад **toviti* ‘рабіць тучным’, тады ў аснове ўтварэння дзеясловаў тыпу балг. радоп. *тôвлêм* ‘адкормліваць’, параўн. Куркіна, Этимология – 1978, 40.

**То́ўпіць** ‘змяшчаць, напаўняць’ (Ласт., Гарэц.), *то́ўпіцца* ‘збірацца групай’ (ТСБМ), ‘стаяць гурбой’ (бялын., Янк. Мат.; рагач., Сл. ПЗБ), ‘змяшчацца’ (Нас., Жд. 1; віл., Сл. ПЗБ), ‘ісці клубамі (пра дым)’ (шальч., Сл. ПЗБ), сюды ж *сто́ўпіць* ‘змясціць’, *уто́ўпіцца* ‘змясціцца’ (Гарэц.), *стоўпіцца* (віл., LKK, 16, 190), *нато́ўпіцца* ‘набіцца шмат людзей у памяшканне’ (Нас.). Гл. *таўпіць*.



**То́ўстуха** ‘брыца, Echinochloa crusgalli L.’ (стол., ЛА, 1). Да *то́ўсты* (гл.). Названа паводле таўсматага круглага пушыстага коласа.

**То́ўсты** ‘значны па аб’ёму, вялікі ў папярочным сячэнні’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Байк. і Некр., Сцяшк., ТС, Ян., Сл. ПЗБ), *то́ўсты* і *таўсты́* ‘поўны’, ‘сыты’, ‘тлусты’, ‘мясісты, мускулісты, вялікі паводле памераў’ (Сл. ПЗБ, Растарг.), *то́ўсты* ‘вялікі, мясісты, пухлы’ (ТСБМ), ‘поўны, дзябёлы’ (Нас., Ласт.), ‘грубы (пра палатно)’ (Мат. Гом.), ‘нізкі, густы (голас, гук)’ (ТСБМ, ТС, Мат. Гом.), *то́ўсты палец* ‘вялікі палец’ (капыл., Сл. ПЗБ), *то́ўстыя кру́пы* ‘панцак, буйныя ячныя крупы’ (круп., Сл. ПЗБ, ЛА, 4, Жд., 1, Янк. 1, Ян., Скарбы), *таўсты́* ‘поўны, дзябёлы’: *таўсты як бочка* (Федар. 4, Сержп. Прык.), *то́віст* ‘тс’ (Нас.), *то́ўста(я)*, *то́вста*, *таўста́я* ‘поўная, дзябёлая’, ‘цяжарная’ (Сл. ПЗБ, Барад., Янк. 1; ст.-дар., Ск. нар. мовы; Сержп. Прымхі; слуц., Нар. словатв.; Мат. Маг. 2; ТС, Бяльк., Сцяшк., Юрч., Арх. Вяр., Мат. Гом.; навагр., З нар. сл.; мёрск., Нар. сл.). Укр. *то́встий*, рус. *то́лстый*, *толсто́й*, *толст*, стараж.-рус. *тълстъ*, ц.-слав. *тлъстъ*; польск. *tłusty*, палаб. *tåu̯ste*, н.-луж. *tłusty*, в.-луж. *tołsty*, чэш. *tlustý*, славац. *tlstý*, славен. *tộlst*, харв. *tȗst*, серб. *ту̏ст*, балг. *тлъст* ‘тоўсты’. Прасл. **tъl̥stъ* ‘тоўсты’ (Фасмер, 4, 74) ці **tl̥stъ* < і.-е. **tŭlz-to* ‘набрынялы, аб’ёмны’ (Борысь, 636), роднаснае літ. *tul̃žti* ‘набухаць; набрыняць ад вільгаці’, лат. *tùlzt* ‘тс’, *tùlzums* ‘пухліна’. Сной$_2$ (771) выводзіць прасл. **tъlstъ* з і.-е. асновы **teu̯h*$_2$- ‘пухнуць, набрыняць, павялічвацца’, да якой далучыўся суфікс *-l-* (гэты ж суфікс у прасл. **tъlpа̋* ‘маса’, **tylъ* ‘карак’). Калі гэта так, то прасл. **tъlstъ* паходзіць з і.-е. **tulh*$_2$*ĝ*$^{(h)}$*-to-* ‘раздуты, распухлы’, параўн. і Фасмер, 4, 74; Чарных, 2, 249; Брукнер, 572; Махэк$_2$, 646; Скок, 3, 528; ЕСУМ, 5, 589. Існуе, паводле Сноя$_2$ (772), іншая магчымасць утварэння: другая частка прасл. лексемы *-stъ* узыходзіць да і.-е. **stah*$_2$- ‘ступіць, стаць’, тады **tъlstъ* – з і.-е. **tulh*$_2$*-sth*$_2$*ó-* ‘той, які

стаў набрынялым, ацёклым’. Сюды ж _тоўшчык_ ‘камель дрэва’ (ТС), параўн. _тончык_, гл.

**То́ўхаць** ‘штурхаць’ (Ласт., Шат.), ‘непакоіць напамінам’ (Юрч. Сін.), ‘пульсаваць’ (пух., Сл. ПЗБ), _тоўх_ – пра лёгкае штурханне ў грудзі, у бок (полац., Нар. лекс.), _таўха́ць, таўка́ць_ ‘злёгку штурхаць’ (Юрч.), сюды ж _то́ўхала_ ‘той, хто штурхаецца’ (Шат.), _то́ўхнуцца_ ‘штурхнуцца’ (Ласт.). Гл. _таўхаць_, можна дапусціць уплыў дзеясловаў _піхаць, штурхаць_, гл.

**Тоўч**$_1$ ‘таўчы’ (Растарг.): _тоўч кросны_ ‘таўчы аснову ў ступе’ (мсцісл., Жыв. сл.), _то́ўчца_ ‘тоўпіцца, знаходзіцца ў цісканіне’ (Юрч. Сін.). Да _таўчы_, гл.

**Тоўч**$_2$ ‘вотруб’е’ (Мат. Гом.), ‘прасяное шалупінне’ (ТС), _товч_ ‘тс’ (Сл. Брэс.), ‘корж з тоўчанага канаплянага семені’ (стол., ЖНС): _тоўч есць_ ‘многа, з прагнасцю есці густое’ (Юрч. Сін.). Укр. _товч_ ‘восыпка свойскай жывёле’, польск. _tłucz(a), tłuk_, чэш. _tlucz_, славац. _tlč_ ‘корм жывёлы’. Прасл. _*tolčь_. Да _таўчы_ (гл.), якое з прасл. _*telkti_ – у ім група _telt_ на ўсходнеславянскай тэрыторыі (пад уплывам цвёрдага _-л-_) перайшла ў _tolt_ – _*tolkti_. Ад асновы апошняга _*tolk_ – пры дапамозе суф. _*-jь_ утварылася _*tolk-jь > *tolčь > тоўч_.

**То́ўча** ‘гатаваная мятая бульба, камы’ (драг., Ск. нар. мовы). Да _таўчы_ (гл.). Утворана (як і папярэдняе слова) ад асновы _*tolk-_ і суф. _*-ja_. Сюды ж: _тоўке́ня_ ‘тс’ (бяроз., Вешт.) з другасным выраўноўваннем асновы _*tolk-_, як і _тоўка́нка_ ‘камы’ (ТС), параўн. _таўкці_ ‘таўчы’ (там жа), _товчэ́ня_ ‘тс’ (драг., ЛА, 4), якія ўтвораны пры дапамозе суф. _-еня_, роднаснага балтыйскаму _-enė_, параўн. літ. _brazdiẽnė_ ‘каша’. Усх.-бел. _то́ўчанка_ (ЛА, 4) і _тоўчэ́нік_ ‘тс’ (Вешт.) былі ўтвораны ў выніку семантычнай кандэнсацыі: _то́ўчанка < тоўчаная каша/ бульба_ і да т. п.

**Тоўшч**, _то́ўшча_ ‘таўшчыня’, ‘маса якога-небудзь што мае вялікую таўшчыню рэчыва, цела’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Жд. 2, Гарэц., ТС), ‘таўшчыня зямлі, не паверхня’ (БРС), ‘вышыня стромага берага’ (Др.-Падб., Яшк.), _тэ́ўшч_ ‘таўшчыня’ (Янк. 2). Укр. _то́вща_ ‘густы лес, нетры’, ‘тоўсты слой’, рус. _то́лща_ ‘аб’ём; маса цела’, ‘гушча’, ‘слой, пласт’, ‘таўшчыня’, польск. _tłuszcz_ ‘тлушч’, _tłuszcza_ ‘натоўп людзей, зброд, галота’, чэш. _tloušť_ ‘галавень, Leuciscus cephalus’, старое ‘таўшчыня’, _tloušťka_ ‘таўшчыня, паўната’; славен. старое _tǫ̑lst_ (Р. скл. _tolstî_) ‘тлушч’, но-



вае _tǫ̑lšča_ ‘тс’, ст.-слав. тлъшта ‘таўшчыня’. Прасл. _*tъlst-jь_, _*tъlst-ja_, утвораныя ад прыметніка _*tъlst-ъ_ пры дапамозе суф. _*-jь, *-ja_. Да _тоўсты_ (гл.). Аб мене _о > э_ ў лексеме _тэўшч_ гл. Карскі, 1, 156.

**То́фель** ‘таполя’ (лаг., Жд. 3; Сл. ПЗБ), _то́філь, то́фаль_ ‘тс’ (Сл. ПЗБ), _то́фліна, то́флінка_ ‘тс’ (Барад.). Гл. _тополь, таполя_; замена _п > ф_ разглядаецца як выпадак гіперызму, гл. Забаштанская, АКД, 7. Магчыма, іранічнае збліжэнне з _То́філь_ (= рус. _Феофил_, Байк. і Некр.).

**Тох-тох-тох** ‘стук-стук-стук’ (кам., ЖНС). Гукапераймальнае. Ад _тох-_ утвораны _-ка-_дзеяслоў _то́хкаць_ ‘тахкаць, стукаць, торгаць’ (ТС), з частковай рэдуплікацыяй – _то́хтаць_ ‘пульсаваць’ (шальч., Сл. ПЗБ).

**То́хнуць** ‘спаць сапучы ці задаючы храпака’ (Нас.), ‘гніць ад недахопу паветра’ (брасл., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. дыял. _то́хлый_ ‘тухлы’, _то́хнуть_ ‘здыхаць, дохнуць’. З _*тъх-_, генетычна звязанага з _тхнуць_ (< _*dъxnǫti_) ‘патыхаць’, _ту́хнуць_ ‘пратухаць’, _тхліна_ ‘падла’, гл. (Фасмер, 4, 89).

**Тоц** у выразе: _тоц у тоц_ ‘вельмі падобны’ (ТС). Няясна; відаць, не можа разглядацца асобна ад падобнага выраза _точ у точ_ ‘вельмі дакладна, падобна’, гл. _точ_. Праблему складае канец слова, гл. аналагічнае чарганне ў _цот_ (гл.) пры рус. _чёт_ ‘парнасць, пара’. Параўн. макед. дыял. _тоцки_ ‘толькі, адзіна; зусім мала’, якое Тодараў (Этим. етюди, 83) выводзіць з _то́лку_ ‘столькі’ (< _*толцки_); разм. _тоцне_ ‘цюкнуць’. Магчыма, пад уплывам _тыц_ (гл.) таго ж паходжання.

**То́цма:** _тоцма стаць_ ‘застыць ад страху’ (ТС). Утворана ад _стоц(ь)ма стаць_, як _роўма раўці, бегма бегчы, варма варыць_ і да таго пад., параўн. _стоці_, гл.

**Точ** у выразе: _точ у точ_ ‘вельмі дакладна, падобна’ (мсцісл., Юрч. Фраз.), _tocz й tocz_ ‘кропля ў кроплю (падобны)’ (ваўк., Федар. 4); магчыма, сюды ж ст.-бел. _то́чию_ ‘толькі’ (Ст.-бел. лексікон, Сл. Скар.). Параўн. укр. дыял. _точ (в) точ_ ‘дакладна’, рус. _точь в точь (точь-в-точь)_ ‘тс’, польск. _tecz_ ‘кропка’. Прасл. _*tъčь_ ‘тс’ звязана з _*tъknǫti/*tykati_ (Брукнер, 567; Фасмер, 4, 90; ESSJ SG, 2, 665; ЕСУМ, 5, 611), гл. _ткнуць, тыкаць_, а таксама _точка_$_2$, _точна_.

**То́ча**$_1$ ‘від палатна’ (Касп.), рус. _то́ча, точина́, то́чиво_ ‘ўсё, што выткана, палатно’. Утворана ад раннепраслаўянскага дзея-

слова *tъkt'i (які папярэднічаў пазнейшаму *tъkati 'ткаць', гл. Трубачоў, Ремесл. терм., 117) і суф. *-ja (> *tъk-ja).

**То́ча₂** 'незамярзаючае месца на рацэ, прамыіна' (ТС). З прасл. *tok-ъ (ад *tekti 'цячы') пры дапамозе суф. *-ja (*tok-ja).

**То́чка₁** 'мядзведка, Gryllotalpa gryllotalpa' (Сержп., Байк. і Некр., Мат. Гом., ТС, ПСл; бяроз., Ск. нар. мовы; лельч., Жыв. НС), 'крот' (ТС), *ты́чка* 'тс' (іван., ЖНС), *ту́чка* 'мядзведка' (ТС), *тыэчка* 'тс' (лун., Арх. Вяр.), *to̍čka*, *tиečka* 'крот' (Тарн.), 'сараканожка, Myriapoda' (Мат. Гом.). Параўн. укр. дыял. *туочка* 'мядзведка', *то́чка* 'палёўка', каш. *točk* 'крот', 'мыш Cletrionomys glareolus', палаб. *tücajkă* 'крот', славац. дыял. *točka* 'тс'. Да *тачы́ць* 'грызучы, праядаючы, рабіць дзіркі, пашкоджваць штонебудзь' (гл.) < прасл. *točiti, адным са старажытных значэнняў якога акрамя 'прымушаць цячы, бегчы' (< *tekti 'цячы, бегчы') было 'круціць, пракручваць'. Паводле Папоўскай-Таборскай (Бел.-польск. ізал., 106), гэта перыферыйны праславянскі (палабска-кашубска-палескі) архаізм або, магчыма, арэальная праславянская інавацыя (Szkice, 2, 35), падтрыманая наяўнасцю ідэнтычна матываваных ням. *Wühler*, *Wühlwurm*, *Erdwühler* 'крот'. Борысь (SEK, 5, 154) мяркуе пра незалежнае развіццё назвы на славянскіх тэрыторыях. Цікавасць уяўляе выпадак этымалагічнай магіі: "як пачынаюць закормліваць на ўбой вепрука ці свінню, то даюць ім зьесці точку, каб яны хутко сыцелі" (Сержп. Прымхі, 151); тут назва набліжана да *тук*, *тучыць*, гл.

**То́чка₂** 'кропка' (Бяльк.), 'колік, які служыць межавым знакам' (Некр.), 'метка ў канцы адмеранага ўчастка' (люб., Бел. дыял., 2); у выразах: *точка ў точку* 'вельмі падобны' (ТС), *ні ра-рай й to̍czki* 'не змог нешта зрабіць, сказаць; няўдала ажаніўся', *to̍czka й to̍czki* 'пра штосьці добра падабранае, напр., коней (калі адзін аднаго даганяе, але застаюцца на аднолькавай адлегласці, то так гавораць)' (ваўк., Федар. 4). Параўн. укр. *то́чка* 'пункт, кропка', рус. *то́чка*, чэш. *teczka*, славен. *tóčka*, серб.-харв. *та̏чка*, балг. *то́чка*, макед. *точка* 'тс'. Прасл. *tъčьka < *tъčь (<*tъknǫti/ *tykati) 'месца, куды ткнулі', параўн. *тычка* 'знак забароны' (Жд. 2). Паводле семантыкі аналагічна лац. *punctum* 'кропка' < *pungere* 'калоць' (Фасмер, 4, 90; Махэк₂, 638; Чарных, 2, 254; ЕСУМ, 5, 611). Гл. таксама *точ*, *тоц*.



**То́чка₃** 'магазін' (Сцяшк. Сл.), 'радыёкропка' (Сл. ПЗБ, Вруб.), з рус. *то́чка* 'тс', скарочана з афіцыйна-канцылярскіх назваў: *торго́вая то́чка*, *радиото́чка* 'тс'.

**То́чка₄** 'гайня, зграя сабак, ваўкоў у час цечкі' (слонім., Шн. 3; Сл. ПЗБ; слонім., Жыв. сл.; зэльв., слонім., ЛА, 1; Сцяц.). Параўн. укр. дыял. *ті́чка*, *те́чка* 'гайня ваўкоў; касяк рыб'. Да *тачы́цца* (< *тачы́ць* < *točiti) 'круціцца', што ўрэшце да *tekti, *tokъ (гл. *цякаць*, *цячы*, *ток₂*) (ЕСУМ, 5, 578; Страхаў, Palaeoslavica, 13, 2, 20). Гл. *це́чка*.

**То́чка₅** 'кружок, які дзеці выкарыстоўваюць пры катанні' (ваўк., Арх. Федар., Вруб.). Да *тачыць* (гл.); параўн. асабліва польск. *taczać* 'гнаць наперад нешта круглае, куляць', *toczyć* 'каціць', *toczek* 'кружок, колца'.

**То́чка₆** 'вяха, якая забараняе карыстацца дарогай' (Шат), 'забіты ў дно ракі кол для прывязі рыбацкага чаўна' (мазыр., Яшк.), 'тычка на фасоль' (Мат. Гом.). Да *у-ткну́ць*, *ты́каць*, ад асновы якіх утварылася (з суф. *-jь) *točь 'месца, куды ўваткнулі што-небудзь', пазней – 'тое, што ўтыкалі'. Відаць, сюды ж: *то́чка* 'ўчастак зямлі (для пасадкі, полива ці ўборкі буракоў), выдзелены для апрацоўкі яго адным работнікам у калгасе' (лельч., ЛА, 2); гэты ўчастак мог быць абазначаны ўваткнутымі вешкамі. Гл. таксама *тычка*.

**То́чна₁**, *то́чне* 'дакладна, сапраўды' (Ян.; калінк., З нар. сл.), *то́чно* 'дакладна' (Вруб.), 'нібы, быццам, якраз' (ТС). Укр. *то́чно*, рус. *то́чно* 'дакладна' развіліся са старaж.-рус. прыметніка *точьныи* 'падобны, адпаведны' < ст.-слав. **тъчьнъ** 'аднолькавы, падобны', які ўзыходзіць да наз. *точь* 'кропка' < прасл. *tъčь < *tъk-jь ад *tъkti 'тыкаць' (Фасмер, 4, 90; ЕСУМ, 5, 611). Формы на *-не* ўзніклі пад уплывам польскай мовы (параўн. *dokładnie* 'дакладна', *pewnie* 'ўпэўнена' і інш.). *То́чна* 'іменна' ў выразе *так точна!* (ТСБМ) узята з рускай вайсковай тэрміналогіі.

**То́чна₂** 'цягне на ваніты', 'туга, нуда бярэ' (Нас.), 'млосна, моташна, нудна' (Тур.), *то́чно* 'сумна, журботна, тужліва' (ваўк., Арх. Федар.), *то́шна* 'сумна, нудна' (Касп.), 'цяжка' (Жд. 1), 'моташна, млосна' (Сл. ПЗБ), *то́шно* 'тс' (Вруб.), *то́скна* 'тужліва, журботна' (Ласт.), ст.-бел. *то́шно* 'тс' (Альтбаўэр); *тачнава́ць (то́чноваць)* 'тужыць, нудзіцца' (Нас.), *ташнава́ць (тошнова́ць)* 'тс' (Нас., Рам. 8–9), ст.-бел. *тошнити* 'мець цягу, цяг-

нуцца', *тошнитися* 'станавіцца непрыемна' (Сл. Скар.). Укр. *тóшно* 'цяжка, моташна', рус. *тóшно* 'тс', 'нудліва', 'агідна, гідка', 'млосна, прыкра', польск. *tęskno* 'сумна', 'тужліва, нудна' (*-ę-* мае другасны характар), *teszny* 'сумны, журботны', *tesznić* 'сумаваць, тужыць', ст.-польск. *teskno*, *tesznie*, *teszno* 'прыкра, непрыемна', н.-луж. *tešny*, *tešliwy* 'баязлівы', 'той, у каго сціскаецца сэрца ад жуды', 'цяжкі, змрочны', в.-луж. *tešny*, *tyšny* 'трывожны, смутны, баязлівы, журботны', чэш. *teskno* 'сумна, тужліва', славац. *tesno* 'тс', *cno* (< **tskno*) 'тс'. З прасл. дыял. **tъsknъ* 'смутны, сумны, прыгнечаны' (Борысь, 632) ці з **tъščьnъ* (Фасмер, 4, 90), звязанага генетычна з прасл. **tъska* 'смутак, прыгнечанасць, дрэннае самаадчуванне', 'моташнасць, цяга да ванітаў', 'млоснасць', стараж.-рус. *тъска* 'цяжкая сітуацыя', 'бура на моры', 'гора, сум, непакой' (Фасмер, 4, 90; ЕСУМ, 5, 612), гл. *таска*. Пераход *-шн-* у *-чн-* пры ад'ідэацыі звычайнай мены *-чн-* у *-шн-* у беларускіх і часткова рускіх гаворках.

**То́чны** 'топкі (пра сала, якое пры смажанні дае многа тлушчу)' (Мат. Гом., Лекс. Бел. Палесся), 'тлусты (пра сала)' (брагін., Нар. словатв.; ПСл), *тóчная* (сала) 'тлустае' (рэч., лоеў., ЛА, 4), *тóчнае* 'тс' (лельч., там жа). Да *ток₂*, *тачыць* 'ліць, наліваць' або да *тук*, *тучны* (гл.). Галосная асновы пад уплывам **tokъ* < **tekti* 'цячы'.

**То́чыцца** 'струменіцца' (Ян.). Да *тачыць* (гл.), якое да прасл. **točiti sę* 'ліцца, налівацца', 'выліваццa па кроплі' – каўзатыва ад **tekti* 'цячы'.

**То́чыць**, *затóчыла* 'карціць, закарцела', 'няма цярпення' (Нас.). Да *тачыць₁* (гл.), якое да прасл. **točiti* 'круціць, вярцець'.

**То́чышча** 'ток' (чэрв., Сл. ПЗБ; ЛА, 4), 'гумнішча' (віл., ЛА, 4), *тачы́шча* 'тс' (гарад., ЛА, 4). Да *ток₂*, гл.

**То́шна**. Гл. *точна₂*.

**То́шчо₁** 'і да таго падобнае': *овады да тошчо нападае* (ТС). З укр. *тóщо* 'тс' – сцягненая форма выразу са значэннем 'тое, што і…', гл. *той*, *шчо*.

**То́шчы** 'худы, слабы, шчуплы' (Гарэц.), 'худы, сухі з выгляду' (ТС), 'худы, галодны' (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ), 'пусты, нежылы, парожні, незаняты' (Сцяшк., Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ; паст., гродз., ЛА, 5; віл., маст., воран., ЛА, 4), *тóшчэ* 'нятлусты (пра мяса), худы, любовы' (паўн.-усх., лун., ЛА, 4), *тóшча* 'схуднелая жывёла з упалымі бакамі' (паўн.-усх.-бел., брэсц., ЛА, 1), *тóшчшы (тóщший)* 'худзейшы, змарнелы' (Нас.), сюды ж *тóшчо* 'нашча' (слонім., Арх. Федар.), ст.-бел. *тощь* 'пусты, парожні' (Альтбаўэр): *на тоща срдце* (XVI ст., Карскі, 1, 20). Параўн. укр. *тóщий* 'пусты', *на тще серце* 'нашча', рус. *тóщий* 'худы', 'парожні ўсярэдзіне', стараж.-рус. *тъщь* 'тс', ст.-польск. *tszczy*, *czczy* 'пусты, дарэмны', польск. *czczy* 'парожні', 'галодны', 'худы', в.-луж. *nać (nač) wutroby* 'нашча', ст.-чэш. *tšti* 'пусты', *na tščútrobu* 'нашча'; славен. *tə̏šč* 'пусты, галодны', *na teščè* 'нашча', дыял. *tȃšč* 'парожні', серб. *тäшт*, харв. чак. *tȁšč*, серб. *нáште cȃрца* 'нашча', ст.-слав. тъщь 'парожні, пусты; марны, дарэмны', сюды ж адносяць таксама балг. *щéта* 'шкода, згуба' (Куркіна, Этимология – 1978, 40). Прасл. **tъščь* 'парожні' < і.-е. **tus-sk'-i̯o*, параўн. літ. *tùščias* 'тс', лат. *tukšs* 'тс', 'нежанаты', 'бедны', ст.-інд. *tucchyá-* 'пусты, мізэрны, нязначны' < 'запушчаны', іран. **tuči̯a-*, перс. *tuhīg*, новаперс. *tuhī* 'пусты', пушту *taš* 'тс', бялудж. *tusag*, *vusaγ* 'заканчвацца, спустошвацца', авест. *taoš* 'пусты', а таксама лац. *tesqua* 'глуш, пустэча', 'бясплодны, неўрадлівы стэп' < **tu̯esquā* (Сной у Бязлай, 3, 176; Вальдэ, 625; Фасмер, 4, 90–91; Брукнер, 74; Скок, 3, 446; Чарных, 2, 254–255; Куркіна, ОЛА, Исследов., 1982, 285; ЕСУМ, 5, 612).

**То́ючыся**, *тóючысь* 'рабіць што-небудзь таемна' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.). Да *таіцца* (гл.). Аб мене *а* > *о* гл. Карскі, 1, 94–102.

**То́я** 'рагулькі палявыя, Delphinum consolida L.' (ТС, ПСл), 'званочак, Campanula persicifolia L.' (лельч., Бейл.), 'сон, дрымотнік, Pulsatilla pratensis Mill.' (там жа), 'падтыннік, Chelidonium majus L.' (там жа), *тóя садóва* 'рагулькі высокія, Delphium elatum' (лельч., Нар. лекс.). Укр. *тóя*, *тóядь* 'боцікі, Aconitum napellus L.', *тоя польовá* 'крывяна-чырвоная герань, Geranium sanguineum L.', *тýя*, *нетóя*, *чорнотóя* 'тс', *тóя лісна́* 'лазаніца звычайная, Lysimachia vulgaris L.', польск. дыял. *toja* 'боцікі', *tojad* 'тс', *tojeść* 'лазаніца, Lysimachia nummularia L.', ст.-польск. *toje*, *matki boże toje*, *tojeść*, *matki boże(j) tojeść*, *matki boży tojeść* 'лазаніца звычайная, Lysimachia vulgaris L.'. Арэальнае ўтварэнне з не да канца высветленай этымалогіяй (Пастусяк, Pogranicze, 320–322). Брукнер (572) у якасці зыходнай формы для польскай мовы лічыць *tojeść*, *tojest*, *to je* (літаральна 'гэта ёсць') як табуізаваную

назву для атрутных і проціатрутных раслін. Дзендзяліўскі (SFPS, 12, 195) тлумачыць украінскую форму з суф. *-ядь* як вытворную ад *то́я*, якая азначала спачатку 'зараснік тоі', а *то́я* ён выводзіць як адваротнае ўтварэнне ад *нето́я*, табуізаванай назвы з семантыкай 'гэта не ёсць расліна, што мае звышнатуральную моц', параўн. таксама ЕСУМ, 5, 612. Будзішэўска (JP, 1974, 4, 174) мяркуе пра нямецкае паходжанне назвы ад *das ist* 'гэта ёсць', магчыма, нейкім чынам перароблена з ням. *Dost* 'мацердушка, Origanum L.', што няпэўна.

**Тпро-тпро** – падзыўныя воклічы для кароў (Сцяц., Нар. сл.), *тпрю-тпрю-тпрю* – падзыўныя для цяляці (мсцісл., З нар. сл.), *тпро́ля-тпро́ля, тпро́лінь-тпро́лінь, тпро́лінька-тпро́лінька, тпро́лічка-тпро́лічка* – падзыўныя да жарабяці (там жа), *тпру́люсь-тпру́люсь* 'тс' (мёрск., Нар. сл.), *тпрулю́х-тпрулю́х* 'тс' (полац., Нар. лекс.), *тпру́ля-тпру́ля* 'тс' (Варл.), *тпрузе́й-тпрузе́й* – падзыўныя для кароў (мсцісл., З нар. сл.), *тпрусь-тпрусь* 'тс' (ДАБМ, к. 304, Нар. словатв.; в.-дзв., Шатал.), *тпру́ські-тпру́ські* 'тс' (лаг.), *тпрусёк-тпрусёк, тпрусю́к-тпрусю́к* 'тс' (мёрск., Нар. сл.), *тпрсю́ха-тпрсю́ха* 'тс' (мядз., Нар. сл.), *тпрсю́т-тпрсю́т, тпру́ся-тпру́ся, тпру́ська-тпру́ська* – падзыўныя да цяляці (мсцісл., З нар. сл.), *тпру́ська-тпру́ська* – словы для падзывання жарабят (віл., Шатал.), сюды ж дзіцячыя словы *тпру́ся* 'цялё, цялушка' (Юрч. СНЛ), *тпру́ська* 'карова', 'цялушка' (Сл. рэг. лекс., Нар. словатв.), *тпро́ля, тпру́ля* (Германовіч, Междом., 65; Варл.) і пад., а таксама з перастаноўкай гукаў *птрусь-птрусь* 'падзыўныя словы для кароў' (Нас.), гл. Параўн. рус. дыял. *тпру́сень* – выгук для падклікання цялят, *тпру́га* – падкліканне кароў, балг. дыял. *тпру́-тпру́* – для падклікання авечак і ягнят (БД, 4). Магчыма, другасныя ўтварэнні, ускладненыя рознымі суфіксамі, звязаныя з больш раннімі абазначэннямі жывёлы (Германовіч, Междом., 67), асабліва ў дзіцячай мове, параўн. *тпру́ца* 'вада, малако', гл. Відаць, таго ж паходжання і адгонныя словы *тпрусь* (куды) – вокліч на цяля пры адварочванні ад шкоды (Юрч. Вытв.), *тпру́цкі* – вокліч адганяць цялят (Сл. рэг. лекс.), параўн. укр. дыял. *тпрусь* – выгук, якім адганяюць, *тпрусь, тпрс* – выгук, якім адганяюць авечак, *тпруч-тпруч* 'тс', балг. дыял. *тпрус* – для адгону ката, *тпруч* – для адгону кароў і інш., якія вымаўляюцца з іншай інтанацыяй. Параўн. наступнае слова, гл.



**Тпру** – вокліч, якім спыняюць запрэжанага каня (ТСБМ, Мат. Гом., ТС, Сержп. Прык.; мсцісл., З нар. сл.), *тпруць* 'тс' (ТС), *тпрр* 'вокліч для спынення валоў і коней' (Бес.), сюды ж *тпру* 'тс' (Нас.). Параўн. укр. *тпру, птру, тпр* – вокліч для спынення коней і іншых жывёл, рус. *тпру, тпррр* 'тс', польск. *tpru, tpr* 'тс'. Адносяцца да т. зв. першасных інтэр'екцый, мажліва, звязаны з *прр, трр* 'тс'. Сюды ж *тпру-буць* – вокліч на валоў (ПСл). Другая частка ўтварылася ў выніку мены *ы* > *у* ва ўсходнім Палессі ад **быць* – падзыўнога да быкоў, параўн. асобныя воклічы да цяляці-бычка: *бысь-бысь, быся-быся, быська-быська* (мсцісл., З нар. сл.), усе з асновай *бы-*, якая да *бык*, гл.

**Тпру́ці** дзіцяч. 'на двор, на вуліцу' (Сцяш. Сл.), 'гулянне з малым на вуліцы' (Паўл.), 'на вуліцу (у размове з дзецьмі)' (ТС), *тпру́цькі* 'пашлі!, паехалі!', *тпру́ці, тпру́цечкі, тпру́ценькі* – выгукі, якімі пабуджаюць дзяцей да прагулкі (мсцісл., Юрч. СНС). Параўн. укр. дыял. *тпру, дбру, тпру́ті, тпру́тю-га́йтю* 'гуляць, ісці ў госці' (пры размове з дзецьмі)' (Горбач, Дитяч.), рус. смал. *тпрутьки, тпрутечки* 'тс'. Германовіч (Междом., 66) мяркуе, што першапачаткова значыла запрашэнне на двор, дзе знаходзілася жывёла, або пакатацца на кані, тады звязана з *тпру, тпруць*, гл.

**Тпру́ма** – пра ігру на гармоніку (мсцісл., Нар. лекс.). Гукаперайманне.

**Тпру́нні** экспр. 'губы' (Бяльк.). Утворана на аснове гукапераймання (імітатыва), што перадае змыканне губ. Параўн. *ні тпру, ні мя, ні божа імя* – гавораць, калі хтосьці запнецца ў час апавядання (Федар. 4).

**Тра** 'трэба' (Булг., Сл. Брэс.). Скарочана з *тра́було* 'трэба было' (пін., Ск. нар. мовы). Параўн. укр. *тра, тре*, якія з *тре́а* < *треба* 'тс'. Гл. аналагічныя ўтварэнні *трэ, трэ́бала, трэ́було*.

**Трабло́** 'тоўсты, непаваротлівы чалавек' (Мат. Маг.), 'жывот, чэрава' (Нік. Очерки, Мат. Гом.), 'жывот абжоры' (Касп.), *трэбло́* 'бруха, трыбух жывёлы' (кам., Сл. ПЗБ), 'тоўсты, няўклюдны, прагны да яды чалавек' (Растарг.); сюды ж *трубла́ты* 'з тоўстым жыватом' (Касп.). Да *трыбло́* (гл.); Трубачоў (Труды, 1, 284) мяркуе пра прасл. дыял. **treb(ъ)lo, *treb(ъ)latъ*, роднаснае лац. *strebula* мн. л. 'мяса на бёдрах ахвярнай жывёлы'.

**Трабу́х** *(трябу́х)* груб. ‘жывот’ (Юрч. Сін.), *трэбу́х* ‘вантробы, шлунне’ (Растарг.), *трабушы́сты* ‘трыбухаты’ (Мат. Гом.), *трабу́шша* ‘вантробы’ (Мат. Гом.). Да *трыбух*, гл.

**Трабцы́** ‘капачка’ (Сцяшк.). Відаць, з *дра́бцы, дра́бці* ‘тс’ (ашм., іўеў., слонім., баран., стаўб., ЛА, 2) ці з *гра́бзы* ‘матыка-трохзубка’ (Сцяшк. Сл.), у якім *-з-* замест *-ц-* пад уплывам лексемы *зуб*. Да *драпаць* ці *грэбці*, гл.

**Трабя́нка** ‘каўбаса з унутранасцей’ (ПСл). Скарочанае з *вантрабянка* (гл.) пад уплывам лексемы *трыбух*, гл.

***Трабяза́**, *трэбэза́* ‘густы зараснік на балоце ці рацэ’ (Бес.). Гл. *трапяза*.

**Трава́** ‘сям’я раслін Gramineae з аднагадовымі зялёнымі парасткамі і сцяблом’ (ТСБМ, Ласт., Федар. 4, Стан., Бяльк., Бес., ТС, Сл. ПЗБ), ‘трава, злакі’ (Байк. і Некр.), *траві́на* ‘асобнае каліва травы’, ‘трава наогул’, ‘высахлая трава’ (Юрч. Вытв., ТСБМ; мёрск., Нар. словатв.), *траві́ца* ‘траўка’ (Гарэц.), *траві́шча* ‘густая высокая трава’ (Жд. 2), *траваюжышча* ‘тс’ (Юрч. Мудр.), *тро́ўка* ‘трава’ (Растарг.; люб., Ск. нар. мовы), *траві́цка* ‘тс’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ; ТС), зборн. *траўё* ‘крапіва, бадылле’ (Бяльк.), *коньская трава* ‘канюшына’ (дзісн., Яшк. Мясц.). Укр., рус. *трава́*, стараж.-рус. *трава, трѣва* ‘трава, сена’, польск. *trawa*, н.-луж. *tšawa*, в.-луж. *trawa*, чэш., славац. *tráva*, славен. *tráva*, серб. *тра́ва*, харв. *tráva, trāvä, trōvä*; макед. *трева*, дыял. *трава*; балг. *трева́* ‘трава’, ‘зёлкі’; ст.-слав. **трѣва**, **трава** ‘трава’, ‘маладая зелень’, ‘расліны, атожылкі’. Прасл. **trava*, **trěva*, утвораныя ад дзеяслова **truti*. Першапачаткова **trava*, **trěva* – ‘тое, што спажываецца’, ‘корм’ > ‘зялёная паша’ > ‘расліны, якія выкарыстоўваюцца ў якасці пашы’ > ‘трава – зялёная ці скошаная’ (Фасмер, 4, 91–92; Махэк$_2$, 650; Бязлай, 4, 214–215; Борысь, 640; Сной$_2$, 778; ЕСУМ, 5, 613). Скок (3, 494) наяўнасць паралельных праславянскіх форм тлумачыць варыянтнай мяккасцю зычнага *-r-* у **trěva*. Гл. таксама *траві́ць*$_1$. Сюды ж *травя́нік* ‘лякарства з траў’ (Жд. 1), *травя́нка* ‘фарбы, прыгатаваныя з травы’ (ТСБМ), *травасто́й* ‘травяное покрыва лугоў, сенажацей, пашы’ (ТСБМ), *траве́ць* ‘зарастаць травою, пустазеллем’ (Касп., Сцяшк. Сл.; мёрск., Нар. сл.; полац., Нар. лекс.), *травяне́ць* ‘тс’ (ТСБМ, Гарэц.), *травяні́цца* ‘тс’ (Юрч.), *траві́ць* ‘лячыць травамі’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *тра́ўлены* ‘травяны’, *тра́ўляны* (лён) ‘лён, у якім расце шмат травы, пустазелля’ (ТС), *траўляны́й* ‘травяністы’ (стол., Нар. лекс.), *травяні́сты*, *травяны́* ‘багаты травой’ (ТСБМ, Байк. і Некр.), *травянэ́й* ‘тс’ (Юрч. Вытв.), *траўлі́вы* ‘травяністы, багаты на траву’ (ашм., Стан.), *траўны́*: *трау́ное карэньне* ‘ядомае карэнне’ (Стан.).



**Трава́льна** *(трава́льно)* ‘сытна’ (навагр., Сл. ПЗБ). Да *трыва́льна* < *трыва́ць*, гл.

**Тра́вень** ‘май, старая назва месяца мая’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб.), *тра́вэнь* ‘май’ (бяроз., Нар. скарбы). Укр. *тра́вень*, рус. старое *тра́вень* ‘тс’ (Даль), харв. *trâvanj* ‘тс’, гіст. *traven mali* ‘красавік’, *traven veliki* ‘май’, баснійск. *тр*ȃ*вањ (мали і велики), тр*ȃ*вник* ‘красавік’; славен. *mali tráven* ‘тс’, *veliki traven* ‘май’, старое балг. *тра́вен* ‘тс’. Прасл. **travьnь*/**trěvьnь* ‘трэці месяц у годзе’ (ад сакавіка), адрозненні ў семантыцы назвы тлумачацца кліматычнай розніцай у перыядах цвіцення траў, з чым звязана яе этымалогія: ад прыметніка **travьnъ*, вытворнага ад **trava*, які пазней канкрэтызаваўся ў абстрактны назоўнік з суф. *-ь (travьnь)* (Глухак, 636; Слаўскі, SP, 1, 128).

**Траві́ць**$_1$ ‘засвойваць у працэсе страўвання, пераатраўліваць’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Гарэц., Др.-Падб.), ‘карміць’ (Сцяшк. Сл.), ‘харчавацца, есці’ (Хрэст. дыял.), ‘спажываць’ (ТС), *тра́віць* ‘пераатраўляць (пра страўнік)’ (Нас.). Укр. *трави́ти*, дыял. *трови́ти* ‘тс’, польск. *trawić*, чэш. *tráviti* ‘пераатраўляць ежу’, ‘праводзіць час’, славац. *tráviť* ‘тс’, серб. *тра́вити* ‘карміць травой’, ‘засяваць травой’, ст.-слав. **травити** ‘жэрці’, **натроути** ‘накарміць’. Прасл. **traviti* < **truti*, *trovešь* (параўн. мар. *truju* < *trut’* ‘пераатраўляць (пра страўнік)’, славац. *trova* ‘выдаткі’) выступае ў славянскіх мовах у ступенях: **tru-*, **trov-*, **trav-* (апошняя – з *-ō-*), а таксама **trū-*, параўн. серб.-ц.-слав. *трыти, трыѩ*, балг. *трі́я* ‘тру, выціраю’, ц.-слав. *растръва* ‘страта, згуба’, ‘пагібель’, *троути* ‘вынішчаць’ з багатым наборам значэнняў – да ‘атручваць’ (Фасмер, 4, 92; Махэк$_2$, 650). Роднасныя: ст.-грэч. τρώω ‘раню’, τρΰω ‘знішчаю, свідрую’, ‘выводжу’, ст.-в.-ням. *drawa* ‘пагроза’, англ.-сакс. *đréa* ‘тс’, ‘кара’. Сной$_2$ (778) дапускае дзве і.-е. асновы для разглядаемай лексемы: 1) і.-е. **treu̯H-* ‘раздрабляць, раскрышваць, малоць, спажываць, расходаваць’: ст.-грэч. τρῶμα, τραυμα ‘рана’, вал. *taraw* ‘таўчы, біць’, с.-брэтонск. *tarauat* ‘працерці’, літ. *trunýti* ‘гніць, тлець’; 2) і.-е.

аснова *trōu̯ah$_2$, *treu̯ah$_2$, якая з і.-е. *(s)ter-, – з апошняй выводзіцца ст.-інд. *tṛ́ṇa* ‘трава’, прасл. **tьrnъ* > бел. *цёрн*. Сюды ж *трау̃ленне* ‘стравачанне’, *травéнье* ‘кармленне’ (ТС); *травіенё* ‘ператраўліванне, засвойванне’ (беласт., Сл. ПЗБ), якое з польск. *trawienie* (Сл. ПЗБ, 5, 111).

**Травíць$_2$** ‘таптаць лугі, з’ядаць пасевы; рабіць патраву’ (ТСБМ, Нас., ТС, Сержп. Прык.): *козамі сена травіць* (Пятк. 2), *трáвіць* ‘тс’, ‘нацкоўваць сабак на коз і свіней, каб не пустошылі агароды’ (Нас.). Укр. *травúти* ‘рабіць патраву’, дыял. *тровúти* ‘выпасаць, травіць траву на корані’, рус. *трави́ть* ‘псаваць, пашкоджваць, нішчыць, спустошваць, разбураць’, польск. *trawić* ‘тс’, ‘марнатравіць’, ‘выдаткаваць’, ‘паліць, спальваць’. Прасл. (паўночнае) **traviti* ‘нішчыць, выдаткоўваць’ (Борысь, 640). Да *травіць$_1$* (гл.). Сюды ж *травíць* ‘апрацоўваць паверхню чаго-небудзь кіслатой або іншымі рэчывамі’ (ТСБМ), ‘атручваць каларадскіх жукоў’ (Ян.), ‘труціць, атручваць’ (ТС; віл., Сл. ПЗБ), *травíтісе* ‘труціцца’ (беласт., Сл. ПЗБ).

**Травíць$_3$** ‘паволі, патроху адпускаць ліну, снасць, аслабляючы нацяжэнне’ (ТСБМ). Відавочна, з рус. *трави́ть* (снасть, канат) ‘тс’.

**Травíць$_4$**, *пытравíць палоску* ‘апрацоўваць зямлю плугам трэці раз, пасля баранавання’ (бабр., ЛА, 2). Да *траíць*, *трайнíць*, гл.

**Травíчы** – пра карову: карова пасля першага цяляці (Федар. 7) і, магчыма, *трáўніца* ‘цялушка мінулагодняга прыплоду’ (Касп.). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *дравíчы* – пра карову, што целіцца ў першы раз, *дравíчае мáсло* ‘масла з малака ад такой каровы’ (Тур.), *драву́шка* ‘цялушка другога года’ (рас., Шатал.), ‘першацёлка’ (мядз., смаляв., Сл. ЦРБ), *дравіца*, *дрóвіца*, *дрóвачка*, *дрóвіцка* ‘тс’ (в.-дзв., петрык., жытк., лельч., ЛА, 1; мазыр., 3 нар. сл.), *дрóўка* ‘тс’ (добр., стол., бых., лельч., ЛА, 1; мазыр., лельч., 3 нар. сл.), *дравіцка*, *дровіца* ‘тс’ (ельск., хойн., Мат. Гом.), ст.-бел. *древица* ‘карова’ (Бел. лекс.). Параўн. рус. смал., варонеж. *дрóвка* ‘першацёлка’, варонеж. *дрóмка* ‘тс’, смал. *дроу́шка* ‘тс’. Няясна; сумніўная сувязь з *трава*, гл.

**Травя́нка** ‘качка-шыраканоска, Anas clypeata L.’ (Маш.; брагін., Федз.-Доўб.; Мат. Гом.), ‘чырок-свістунок, Anas crecca L.’ (лельч., Нікан.). Да *травяны́* < *травá* (гл.). Названа паводле



месца знаходжання (у чаротах, берагах, пакрытых травой). Параўн. укр. дыял. *трав’я́нка* ‘чакан лугавы, Saxicola rubetra L.’ польск. *trzciniak*, каш. *strzimk*, славін. *stř̄ïnka* ‘чарацянка’, *łozówka*, *rokitniczka* і інш.

**Трагéдыя** ‘драматычны твор, падзеі якога заканчваюцца смерцю героя’, ‘жудасная, страшная падзея; няшчасце’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *трагéдзія* ‘тс’ (Ласт.), ст.-бел. *трагедия*, *траедия* ‘трагедыя, няшчасце’ (1598 г.). Запазычана са ст.-польск. *tragedyja, trajedyja* (XVI ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 163), якое праз лац. *tragoedia* са ст.-грэч. τραγῳδία < τράγος ‘казёл’ і ᾠδή ‘песня, спеў’ – літаральна песня казлоў: выконвалася пад час урачыстасцей, прысвечаных богу ўрадлівасці Дыянісу сатырамі (паўлюдзьмі-паўказламі; світа Дыяніса). Параўн. няўдалую кальку ў ц.-слав. мове XI ст. – *козьлогласование* (Фасмер, 4, 92; Голуб–Ліер, 485; Чарных, 2, 255–256; ЕСУМ, 5, 615).

**Трады́нкі**, *трады́лкі* ‘рэхвы на калодцы кола’ (малар., кобр., брэсц., Нар. словатв.). Усе праз польскую мову, параўн. польск. дыял. *tradynka*, *tradunki*, *tradyny*, *traduny* ‘жалезнае колца, якое злучае трайню з білам (ляжэйкай) падушкі пярэдняга ходу’; *tradynek* ‘клямар, які злучае біла з падушкай’, што запазычаны з ням. *die Tradiene* < *tradieren* ‘перадаваць’ (Сымоні-Сулкоўска, Transport, 80). Параўн. *тарадынка*, гл.

**Трады́цыя** ‘перадача ад пакалення да пакалення нормаў, звычаяў, поглядаў і інш.’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *трады́цыя* ‘тс’ (Ласт.), ст.-бел. *традиция*, *традыция* ‘тс’ (XVII ст.), якое праз ст.-польск. *tradycyja* (XVI ст.) з лац. *trāditio* (Булыка, Лекс. запазыч., 192) < *trādĕre* ‘аддаваць’, ‘перадаваць вусным шляхам’ < *trans* ‘пера-’ і *dare* ‘даць, даваць’ (Длугаш-Курчабова, 501–503; Голуб–Ліер, 485; ЕСУМ, 5, 615).

**Традэскáнцыя** ‘дэкаратыўная хатняя расліна з роўнымі ці паўзучымі сцёбламі, Tradescantia Rupp.’ (ТСБМ) – названа паводле прозвішча лонданскага садоўніка Джона Традэсканта (J. Tradescant), які памёр у 1638 г. (ЕСУМ, 5, 615).

**Траекрóтна**, *траякрóтна* ‘тройчы, трыкроць, трыкротна’ (Адм.) – калька з польск. *trzykrotnie* ‘тс’. *Траякрáтна* ‘тс’ (там жа) – з рус. *трёхкратно* ‘тс’.

**Траектóрыя** ‘лінія палёту ў прасторы кулі, снарада ці іншага цела’ (ТСБМ) – праз польскую ці рускую мовы з с.-вяк.-лац.

*traiectorius* 'які перакідваецца, перамяшчаецца' (SWO, 1980, 768; Голуб–Ліер, 486; ЕСУМ, 5, 615).

**Трае́ніна** 'некалькі разоў пераворанае поле' (стаўб., Ск. нар. мовы), *трае́нь падыма́ць* 'апрацоўка зямлі трэці раз пасля баранавання' (мядз., ЛА, 2). Да *траіць*, гл.

**Трае́цкі** – прым. ад *Тройца* 'Святая Тройца, свята Сёмуха': *трое́цькый ты́ждэнь* 'тыдзень пасля Сёмухі', *трае́цкія дзяды́ (трае́цкие деды́)* 'памінальныя дні перад Тройцай' (гом., Талстая, Полес.), *трое́цькый ты́ждэнь* 'тыдзень пасля Сёмухі' (малар., там жа), *трое́цкый грыб* 'агульная назва вясновых грыбоў' (пін., Жыв. сл.), *трое́цкі грыб* 'ранні, веснавы баравік' (ТС), сюды ж урбанонімы *Трае́цкая гара*, *Трае́цкае прадмесце* ў Мінску, *Трае́цкая царква́* ў Віцебску, ст.-бел. *троецького* (1532 г.), *троецкиѣ* (1624 г.), гл. Карскі, 1, 226. Гл. *Тройца*; паводле Карскага (там жа), форма з *е* на месцы *jь* з'яўляецца заканамерным утварэннем. Параўн. таксама *трое́чны ты́дзень* 'тыдзень, на які прыпадае Сёмуха' (ТС), *трое́шны ты́ждень* 'тс' (лельч., Талстая, Полес.), відаць, ад *Тро́ечка*, *Трое́шнік* 'Сёмуха' (там жа) з народнаэтымалагічным набліжэннем да *тройка*, *тройчы* (гл.), параўн. *трае́чны* 'трайны' (Некр. і Байк.).

**Трае̐радны** 'траюрадны' (Мат. Гом.). Тут *-ё-* замест *-ю-* пад уплывам формы Р.–М. скл. лічэбнікаў на *-ёх*: *пятёх*, *пяцёх*, *дваццаёх* (гл. Карскі, 2–3, 247). Усходнеславянскія ўтварэнні *траю́радны*, укр. *трою́рідний*, рус. *троюродный* 'тс' з *трою-родынъ*, якое з *трою-* – форма, утвораная паводле аналогіі з *дваю-(родны)*, што з'яўляецца формай М. скл. парнага ліку лічэбніка *два* і *ро́дны* (гл.), дакладней з выразу: *дъвою родоу* 'двайнога роду'. Гл. *траі́*.

**Тражкі́** 'чорнае зерне' (Жд. 1, Шчарб.). Відаць, да *ражкі*, *ражок* 'тс' (ЛА, 2) з прыстаўным *т-* у выніку дзеяння народнай этымалогіі (пры ад'ідэацыі лексемы *труцíць* 'атручваць').

**Траі́** 'тры' (ваўк., Сл. ПЗБ). Балтызм, параўн. літ. *trejì* 'трое'. Сюды ж *траёх* 'трое' (шальч., Сл. ПЗБ) пад уплывам *трох*, польск. *trzech* 'тс'.

**Траі́сты** 'траякі', 'падпісаны трыма дзяржавамі', *траі́стасць* 'наяўнасць траякіх сувязей або трайнога саставу' (ТСБМ). З польск. *troisty* 'траякі'.

**Траі́цца** 'раздзяляцца на тры часткі', 'утройвацца, павялічвацца ў тры разы' (ТСБМ), укр. *трої́ти(ся)*, рус. *трои́ть(ся)*, польск. *troić się*, н.-луж. *tšojś*, в.-луж. *trojić*, славен. *trojíti* 'дзяліць на тры часткі', 'павялічвацца ў 3 разы', серб. *тро̀јити (се)*. Прасл. **trojiti (sę)* утворана ад асновы **troj-* зборнага лічэбніка **troji* (м., ж. р.), **troje* (н. р.) 'трое', які развіваўся (пад уплывам **dъvojь*) з і.-е. **trei̯ó-* 'трое' < **tréi̯es* 'тры' (Покарны, 1092; Сной$_2$, 786). Сюды ж *траі́ць* 'дзяліць на тры часткі', 'злучаць у адно з трох' (ТСБМ).

**Траі́ць** 'тройчы пераворваць зямлю' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Др.-Падб.), 'зябліць – араць увосень' (валож., ЛА, 2), *трої́ты* 'траіць' (іван., ЛА, 2), 'трэці раз пераворваць зямлю' (Нас., Шат., Касп.; вільн., бярэз., Сл. ПЗБ; гродз., мін., паўд.-усх. віц., маг., гом., ЛА, 2), 'араць поле другі раз' (Бяльк., Пятк. 1), *тро́іць* 'тройчы араць поле – увосень, ранняй вясной і перад сяўбой' (Янк. 1). Магчыма, балтызм. Параўн. літ. *trẽjiti* 'траіць': суф. *-(i)n-* захаваўся ў бялын. *трайні́ць*, бярэз. *траяні́ць* 'траіць' ці ў мядз. *трае́нь падымаць* (ЛА, 2), *трае́ннік* 'той, хто арэ ворыва другі раз' (Юрч. Вытв.), *трае́ніна* 'некалькі разоў пераворанае поле' (стаўб., Ск. нар. мовы), *трое́ніна* 'абложная зямля' (лун., ДАБМ, камент., 858). Параўн., аднак, балг. радоп. *тро́ѐм* 'пераціраць, размінаць' (БД, 2), што да **terti* (гл. *церці*).

**Траі́чны**: *траі́чная (троичная) трава* 'браткі, Viola tricolor L.' (Меер Крыч.). Відаць, з рус. *трои́чный* 'траечны', што адлюстроўвае трохколернасць кветак, прысутную ў навуковай назве. Параўн. *трайцвет*, гл.

**Трайга́** 'трое' (Сцяц.), *трайга́* і *трайгу́* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *трайгу́* 'ўтрох' (шчуч., Сл. ПЗБ). Запазычанні, якія з'яўляюцца формамі Р. і Д. скл. польскіх зборных лічэбнікаў *troje*, – Р. *trojga*, Д. і М. *trojgu*.

**Трайдо́ліць** 'гаварыць пустое' (Сцяшк. Сл.). Параўн. польск. дыял. *trajdolić się* 'круціцца; трэсціся, едучы на возе', *drajdolić się* 'тс', *trajda* 'кабета без такту; растропа'. Звязана з *трайда́* 'балбатуха, лапатуха' (астрав., Сл. ПЗБ), якое выводзяць з літ. *traidà* 'тс' (Грынавяцкене, там жа), што ў святле польскіх форм сумнíўна. Хутчэй гукапераймальнага (імітатыўнага) паходжання з экспрэсіўным суф. *-олі-*, параўн. *тра-ра-ра*, *тра-ля-ля*, польск. *traj* 'тс' і пад. Параўн. *трандоліць*, *трындоліць*, *трандзіць*, гл.

**Трайке́** 'Арыён' (АБ, 8) – скарочаная форма ад *тра^е^яке́*, *траячке́*. Параўн. польск. беласт. *trójki*, *trojaki* 'тс', назва сузор'я з трох зорак (Купішэўскі, Słownictwo).



11а Зак. 3415

**Трайко́** ‘трыко’ (пух., Сл. ПЗБ). Да *трыко́* (гл.). Дыфтонг *-ай-* пры ад’ідэацыі лексемы *ма́йка*.

**Трайко́нцік** *(тройко́нцік)* ‘трохвугольнік, выкладзены з камянёў, куды ідзе падуст на нераст і дзе яго ловяць’ (астрав., Сл. ПЗБ). З польск. *trójkąt* ‘трохвугольнік’.

**Трайла́**, *трэйло́*, *трала́* ‘балбатуха, лапатуха; балбатун, лапатун’ (Сл. ПЗБ), *тра́йла* ‘жанчына, якая любіць хадзіць па сяле’ (ваўк., ЛА, 3), *трайлава́ты* ‘балбатлівы’ (шальч., Сл. ПЗБ), *трайло́чыць* ‘балбатаць’ (LKK, 1975, 16, 190). Параўн. польск. аргат. *trajla* ‘трапло, балбатун’, *trajlować* ‘плявузгаць, чмуціць, маніць’, літ. *tráila* ‘пустамеля, пустамалот’. Меркаванні пра балтыйскае паходжанне (Зданцэвіч, LP, 8, 350; Лаўчутэ, Балтизмы, 73 і 85; Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 5, 112) патрабуюць дадатковай аргументацыі, паколькі літоўскія словы маюць гукапераймальнае паходжанне, параўн. *tralė̃* ‘вясёлыя песенькі’, *tráiloti* ‘спяваць вясёлыя песенькі’ і пад., параўн. выклічнік *тра-ля-ля*, *трэліць* ‘плявузгаць, балбатаць’ (гл.); такое ж паходжанне можна дапусціць і для славянскіх слоў.

**Трайлі́ць** ‘траіць, трэці раз араць на зіму’ (шчуч., Сл. ПЗБ). З *трайні́ць* (з менай *н’* > *л’*). Да *траіць*, гл.

**Трайні́к** ‘прадмет, які складаецца з трох частак’ (ТСБМ), ‘вілы з трыма зубамі’ (Абабур.), ‘рыбалоўны кручок з трох кручкоў’ (Мат. Гом.), ‘вялікі кручок на тры зубы ў выглядзе якара’ (мёрск., Жыв. НС), ‘трохпудовая гіра’ (Касп., Мат. Гом.), ‘рыбалоўная крыга з двумя гегнямі (у выглядзе палазоў)’ (паст., шарк., ЛА, 1; брасл., ігн., лудз., паст., Сл. ПЗБ; ЖНС), ‘камізэлька’ (Мат. Гом.), ‘бёрда на 13 пасмаў’ (ТС). Утворана з *трайны́* (< прасл. *trojьnъ-jь < *troje) ‘які складаецца з трох аднародных ці падобных частак’, ‘які паўтараецца тры разы, у трох відах або павялічаны ў тры разы’ (ТСБМ), параўн. *тройны́е вілкі́* ‘трохзубыя вілы’ (ТС). Сюды ж: *трайча́к* ‘рыбалоўная крыга’ (круп., шчуч., ЛА, 1), *трайня́к* ‘моцны пітны мёд’ (Нас., Байк. і Некр.), якое, аднак, можа быць паланізмам, параўн. польск. *trójniak* ‘сорт напітку з мёду’. Меркаванні Лаўмане (Лекс. балтызмы, 18) пра калькаванне лексемай *трайні́к* ‘рыбалоўная прылада, крыга’ літ. *tribradis*, лат. *trīnis*, *trijbridis* ‘тс’ не пераконвае, хутчэй гэта міжмоўнае арэальнае ўтварэнне з нявызначаным цэнтрам інавацыі.



**Трайні́ла**, *трайня́*, *трэйня́* ‘вілкі, што злучаюць задок воза з перадком’ (Сл. ПЗБ; гродз., кам., чавус., касцюк., ЛА, 2), параўн. польск. дыял. *trejniła* ‘кавалак дрэва з развілкай’. Меркаванне пра запазычанне з літ. *trainìlas* ‘тс’ (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 5, 112) не пераконвае, параўн. *трайня*$_2$.

**Трайну́ць** – пры гульні “ў куля” кароткую палачку – куль – падкінуць уверх і двойчы ўдарыць, за што залічваецца тры ачкі (Юрч. Вытв.). Магчыма, балтызм, параўн. літ. *trẽjinti* ‘траіць, павялічваць у тры разы’.

**Трайню́шка** ‘церніца’ (навагр., ЛА, 4), польск. дыял. *trójnia*, *trojaczka* ‘церніца з падвойным (двухрэбравым) білам’. Відаць, балтызм. Параўн. літ. *tráinioti* ‘церці, мяць’.

**Трайня́**$_1$, *трайня́ты* ‘тройня, дзеці, якія нарадзіліся ад адной маці ўтраіх адначасова’ (ТСБМ, Растарг.; астрав., Сл. ПЗБ), *троеня́та*, *тройня́та* ‘тс’ (ТС). Укр. *трійня́*, *трійня́та*, рус. *тро́йня*. Усходнеславянскае ўтварэнне ад асновы *трой-* (зборнага назоўніка *troje) і суф. *-ня* (< прасл. *-ьn’a), параўн. аналагічныя па ўтварэнню *дво́йня*, *двайня́ты* ‘блізняты’ (ТСБМ), *двайня́ты* ‘тс’ (Янк. 2), з іншай суфіксацыяй *трайню́кі* ‘тройня’.

**Трайня́**$_2$, *трыйня́*, *тройня́* ‘аснова воза, падоўжаны брус у калёсах, які злучае пярэднюю вось з задняй’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Варл., Янк. 2, Бір. Дзярж., Маш., ТС, Сержп. Земл., Дэмб. 2, Пятк. 2, Арх. Вяр., Сл. ПЗБ, ЛА, 2), *тро́йня* ‘тс’ (ТС, Сл. Брэс.). Паводле Грынавяцкене (Сл. ПЗБ, 5, 113), гэта балтызм, параўн. літ. *trainỹs, treĩnė* ‘тс’ (дадамо яшчэ лат. *treiliņš*, *treilis* ‘тс’), аднак Смачынскі (684) адносіць літоўскія лексемы *treinijà*, *trajnijà*, *treinỹs* альбо *trajnỹs*, *treinė* і *trainė*, а таксама лат. *treĩnis* ‘тс’ да слоў, запазычаных з бел. *трайня́* ‘тс’ (ці з рус. *тройня́*). Сюды ж: *трайняш* ‘тс’ (Мат. Гом.). Параўн. таксама *трайні́ла*, гл.

**Тра́йстка** ‘невялікі мяшок, сумка’ (Касп.). У выніку перастаноўкі *-р-* з *тайстра* ‘кайстра, торба, клунак’ (гл.). Параўн. таксама *кайстра*$_2$ ‘тс’, гл.

**Трайцве́т** ‘фіялка трохколерная, браткі’ (Шмярко), *тройцве́ткі (трои-цвѣтки)* ‘сінюха, Polemonium coeruleum L.’ (Меер Крыч.). Параўн. *трава́ трыцве́тная* ‘фіялка, браткі’ (Кіс.), гл. *тры*, *цвет*.

**Трайця́к**$_1$ ‘траціна, трэцяя частка зямлі аднаго гаспадара’ (Сцяц., Сцяшк.; люб., Сл. ПЗБ), *трайціна́* ‘мера зямлі, роўная 7 га

(1/3 участка)' (Сцяц.). Да *трацяк, трацiна* (гл.). Праблематычным з'яўляецца *-й-*, як і ў *трэйцi* 'трэці', гл.

**Трайця́к$_2$** 'жывёла трохгадовага ўзросту' (Сцяц., Янк. 1), *трэйцяка* 'тс' (петрык., Шатал.). Да *трацяк* (гл.). Устаўное *-й-*, магчыма пад уплывам балтыйскіх форм, параўн. літ. *treigỹs* 'тс'.

**Трайча́к** 'звязаныя разам тры саламяныя снапкі для пакрыцця страхі на стыку падоўжанай і папярочнай яе частак' (маст., Шатал.; Сцяшк. Сл.), *трайчакí* 'вілы з трыма зубамі' (Сцяшк. Сл.), *тройчакы́* 'драўляныя вілы з трыма рогамі для сена' (драг., кам., Выг., Клім.), укр. харк. *тройчакú* 'тс'. Утворана пры дапамозе суф. **-jakъ* ад **trojьka*, параўн. польск. дыял. *truj̯ka* 'вілы з трыма зубамі', ці ад прыметніка *траякі*, гл.

**Трайча́сты** 'які складаецца з трох аднародных частак ці прадметаў' (ТСБМ). Прыметнік утвораны ў выніку кантамінацыі польск. *troisty* і рус. *тройчатый*. Параўн. укр. *троїстий, тройча́стий, тройча́тий, тройчи́стий* 'тс'.

**Трайча́ткі** 'Стажары' (шчуч., Сл. ПЗБ), аднак, зыходзячы з ілюстрацыі да слова *(тры зоркі радком ідуць, адна каля аднае)*, гэта Арыён (а не Плеяды). Відаць, можна гаварыць аб уплыве польскай мовы, параўн. дыял. *trojaki, trójki, trzy jutrzenki, trzy gwiazdy w kupie* – назвы, звязаныя з лічбай *тры* (Купішэўскі, Słownictwo, 92–93), гл. *трайчак*.

**Траката́ць** *(трокóчэ)* 'стракатаць (пра сароку)' (ельск., ЛА, 1). Да *стракатáць* (гл.), якое заснавана на гукаперайманні.

**Траке́ня** 'багна, гразкае месца' (Сцяц.; зэльв., Сл. ПЗБ), 'топкае балота, дзе калышацца верхняе покрыва' (зэльв., ЛА, 2), *тракéня/тракéнь* 'топкае месца на балоце' (шчуч., зэльв., слонім., ЛА, 5). З літ. *trãkas, traká* 'багністае месца' (Грынавяцкене, Сл. ПЗБ, 5, 113), мікратапонімы *Trakinė* 'назва сенажаці', *Trakỹnė* 'назва балота', тапонім *Trakìniai* 'назва вёскі' (Грынавяцкене, Весці АН БССР, 1, 1971, 91; Непакупны, Связи, 183; Лаўчутэ, Балтизмы, 50).

**Тракт**, *трахт* 'шырокая праезджая дарога' (ТСБМ; стаўб., Прышч. дыс.), 'вялікая паштовая дарога, гасцінец, шлях' (Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Мядзв.; слаўг., Яшк.; Сл. ПЗБ), ст.-бел. *трактъ* 'шлях, дарога', 'бяседа' (1570 г.), 'адміністрацыйная адзінка ў ВКЛ' (Ст.-бел. лексікон), запазычана са ст.-польск. *trakt*, якое з лац. *tractus* 'цяга, цячэнне, валачэнне', 'бесперапынны, плаўны', 'паласа, след', 'шэраг', 'мясцовасць, край' < *trahere*



'цягнуць (за сабой), валачы' (Булыка, Лекс. запазыч., 188; Мацкевіч, Сл. ПЗБ, 5, 113), відаць, праз нямецкую мову, параўн. ням. *Trakt* 'тракт' Сюды ж: *трактóвы* 'дарога, абсаджаная абапал дрэвамі' (Нас.); *тракт* (страўнікава-кішкавы) < лац. *tractus* 'уцягванне, убіранне ў сябе', 'праглынанне, глытанне'.

**Трактава́ць$_1$** 'разглядаць, абгаворваць', 'даваць тлумачэнне', 'разумець, тлумачыць' (ТСБМ), 'меркаваць, разважаць, ацэньваць' (Цых.), ст.-бел. *трактовати* 'весці перагаворы', 'тлумачыць, разважаць' (1595 г.). Са ст.-польск. *traktować* 'трактаваць', 'адносіцца да каго-небудзь, абыходзіцца з ім' (Булыка, Лекс. запазыч., 188), якое з лац. *tractāre* 'весці перагаворы, абмяркоўваць, дамаўляцца', 'трактаваць', 'ведаць і ўмець'.

**Трактава́ць$_2$** 'частаваць', 'абдорваць' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Ласт., Гарэц., Шат., Байк. і Некр., Нар. Гом., Янк. БП), *трахтава́ць* 'тс' (Бяльк., Федар. 5, Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *трактова́ти* 'частаваць' запазычана са ст.-польск. *traktować* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 188), якое з лац. *tractāre* 'аказваць гасціннасць, частаваць'. Параўн. таксама ст.-бел. *трактамент* 'пачастунак' (1711 г.), якое са ст.-польск. *traktament* 'пачастунак', 'прыём' < лац. *tractamentum* 'тс' (Брукнер, 574; Голуб–Ліер, 486; Голуб–Копечны, 106, 388; ЕСУМ, 5, 617).

**Тра́ктар** *(тра́хтар, тра́хтор)* 'самаходная сельскагаспадарчая машына для цягі' (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ, Растарг.). Запазычана з рускай мовы (упершыню фіксуецца ў прэсе ў 1922 г. (гл. Баханькоў, БЛ, 12, 32), у якую слова прыйшло ў 20-я гг. XX ст. з англійскай, дзе *tractor* азначае 'цягач' < лац. *tractāre* < *trahěre* 'цягнуць, валачы' (Чарных, 2, 256–257; Голуб–Копечны, 106, 388; ЕСУМ, 5, 617). Сюды ж *трактары́ст, трахтары́ст* (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ), *трактары́ста* 'трактарыст' (смарг., Сл. ПЗБ) – з польск. *traktorzysta* 'тс'; *трактары́сты* 'тс' (Сцяшк., Жд. 1, Янк. 2, Сл. ПЗБ) – арыгінальнае ўтварэнне беларускай мовы, звязанае з пераасэнсаваннем фіналі *-іст (-ыст), -іста (-ыста)* пад уплывам прыметнікаў на *-сты*, гл. *галасісты, ганарысты* і назоўнікаў тыпу *араты, памагаты*. Пра пашырэнне і паходжанне падобных форм гл. Абрэмбска-Яблонска, Зб. Крапіве, 21–26; Мартынаў, Лекс. балтызмы, 25; Запрудскі, Stud. Russica, 22, 161–166; Хромчанка, Паўн.-маст. гав., 51–56.

**Тракта́т** 'навуковая праца па пэўнай праблеме', 'міжнародны дагавор, пагадненне' (ТСБМ), ст.-бел. *трактатъ* 'дагавор', 'ся-

рэдневяковы навуковы твор’, *трактаты* ‘перагаворы’ (1567 г.) – са ст.-польск. *traktat* ‘дагавор’, ‘трактат’ (Булыка, Лекс. запазыч., 188), якія з лац. *tractātus* = *tractātio* ‘абмеркаванне, разгляд, трактоўка’, ‘абыходжанне з нечым’ (Фасмер, 4, 93; Брукнер, 574; Голуб–Ліер, 486; ЕСУМ, 5, 616).

**Трактарэ́йка** ‘хатняя кветка (?)’ (Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, назва ўзыходзіць да лац. *trachycraterium*, польск. *chropawiec* ‘?’.

**Трал** ‘вялікая сетка для лоўлі рыбы з суднаў’, ‘гідраграфічныя прылады для даследавання марскога дна’ (ТСБМ). Праз польскую ці рускую мовы з англ. *trawl* ‘грунтавы невад у выглядзе доўгага мяшка’, ‘цягнуць сеткі па дну’ < лац. *tragula* ‘невад’ (Фасмер, 4, 93; ЕСУМ, 5, 617).

**Тралéйбус** ‘шматмесная пасажырская машына з электрычнай цягай’ (ТСБМ), *трол’ейбус* ‘тс’ (Вруб.). З рус. *троллéйбус* або польск. *trolejbus*, што з англ. *trolleybus*; складаецца з *trolley* ‘ролікавы токапрыёмнік’ і *-bus* – элемент слоў *omni-bus* альбо *auto-bus*; марфема *-bus* – гэта частка лац. *onmibus* ‘для ўсіх, усім’ (Чарных, 2, 264; Голуб–Ліер, 490; ЕСУМ, 5, 647).

**Тра́льня** ‘мяльшчыца (якая трэ лён)’ (Сцяшк., Мат. Гом., Мат. Гродз.). З *тра́льля* ў выніку распадабнення *л’* > *н’*, параўн. без падваення зычных *тра́ля* (Сл. ПЗБ), а таксама этымалагічна блізкія серб. *тра̏ља*, харв. *trälja* ‘неахайная жанчына’, што з’яўляюцца незалежнымі ўтварэннямі, якія ўзыходзяць да **terti* ‘церці’. Магчымы ўплыў тэматычна блізкіх *ткальня* < *ткалля*, *пральня* < *пралля* і пад.

**Тралява́ць$_1$** ‘транжырыць’ (Ласт.), *тролёва́ць* ‘раздаваць, разбазарваць’ (ТС). Утворана ад гукаперайманне *тра-ля-ля* ‘весела спяваць’ > ‘весела бавячыся, растранжырваць (грошы, маёмасць)’. Аналагічна ням. *trällern* ‘весела напяваць’, літ. *traliúoti* ‘спяваць тра-ля-ля’. Параўн. *траляля́каць* ‘тс’ (Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 73), *трэ́ляць* ‘сноўдацца без пэўных заняткаў’: *месец тролює чоловек у Сочах* (ТС).

**Тралява́ць$_2$** ‘падцягваць драўніну з лесу да сплаву’, ‘ісці, рухацца’, ‘пракладваць дарогу’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сцяшк., Адм., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ), ‘перавозіць з месца на месца’ (Чуд.), ‘таптаць пасевы, ходзячы ўздоўж палос’ (Шат.), *трылява́ць* ‘выводзіць бярвенні з лесасекі на чыстае, больш прасторнае месца’ (падзв., Нар. сл.; Буз.); *тролева́ць*, *тролёва́ць*, *тралё-*



*ва́ць*, *трэ́ляць* ‘выносіць, выцягваць з цяжкадаступных месцаў нарыхтоўкі (пра лес, ягады і інш.)’ (ТС), *тра́ліць* ‘траляваць’ (брагін., Мат. Гом.). Выводзіцца з польск. *trelować* ‘выцягваць бярвенні з вады на склад’, ‘цягнуць плуг’, ‘бурлачыць, цягнуць судна людзьмі або коньмі’, што да англ. *trail* ‘цягнуцца, валачыцца’, ‘буксіраваць’, ‘таптаць траву’. Сюды ж *тралява́нне* ‘дастаўка лесу на прыстань’ (Некр.), *траля́р* ‘тралёўшчык’ (Мат. Гом.), *тралёўка* ‘вывазка’ (Сцяшк.).

**Тра-ля-ля́** – выклічнік, які выражае радасць, весялосць, асабліва ў спевах, прыпеўка (Цых.); сюды ж *траляля́каць* ‘прыспеўваць’, мянушка *Траляля́начка* (Ф. Багушэвіч). Параўн. укр. *тра-ла-ла́* – выгук для выражэння радасці, рус. *тра-ля-ля́* ‘тс’, польск. *tra la la* ‘тс’, чэш. *trala*, *tralala* ‘тс’, *tralalovati* ‘спяваць tralala’, славен. *trâlala* ‘тс’. Гукаперайманне, аналагічнае ўтварэнням у іншых мовах, параўн. літ. *talala*, *talalúoti* ‘балбатаць, трашчаць, плявузгаць’, ідыш *tralaláj* ‘прыспеўванне’, *tralalajken* ‘тралялякаць’ (Астравух, Ідыш-бел. сл.), ням. *tralla*, *trallala* – выгук, што перадае мелодыю без слоў, *trällern* ‘прыспеўваць’, франц. *tralala*, іт. *trallalà* – імітуюць спевы без слоў. Уключае т. зв. першасныя інтэр’екцыі *тра*, *ля*, якія прысутнічаюць і ў складзе выклічнікаў *тра-ра-ра*, *тра-та-та*, *ля-ля-ля* і пад. Смаль-Стоцкі (Приміт., 178) бачыць у іх перайманне гукаў, якія выдаюць музычныя інструменты (барабан, труба і інш.). Гл. таксама Махэк$_2$, 649; Duden, Etymologie, 859; Сной$_2$, 776 (для славенскай мяркуе пра запазычанне з заходнееўрапейскіх моў); ЕСУМ, 5, 617.

**Трам** ‘апорная бэлька ў хаце пад столлю’ (Бяльк., Байк. і Некр., В. В., Мат. Гом., Гарэц.; мсцісл., З нар. сл.; гродз., мін., мсцісл., ельск., ЛА, 4), ‘падоўжная бэлька, якая падтрымлівае папярочныя’ (Пятк. 2, Сцяшк., Шушк., ТС), ‘ствол дрэва’ (Мат. АЛА), ‘кіль’ (Некр. і Байк.), ‘калок’ (Яруш.), *трамкí* ‘апошнія вянкі зруба’ (ельск., ЛА, 4), *тран* ‘апорная бэлька’ (іўеў., слонім., рэч., ЛА, 4), *прам* ‘тс’ (лун., там жа), *отра́м*, *атра́м* ‘тс’ (бяроз., чашн., там жа), *штрам* ‘тс’ (брасл., шарк., глыб., лаг., ЛА, 4) і *штра́ма* ‘тс’ (віл., лаг., там жа), а таксама *тра́ма* ‘тс’ (ТСБМ, Бяльк., Кал., Шат., Касп., Сцяшк., Гарэц., Шушк., ТС; гродз., мін., ЛА, 4; Сл. ПЗБ), ‘прастора паміж бэлькай і столлю’ (Жд. 1), ‘бэлька ў столі’ (брагін., Шатал.). Ст.-бел. *трамъ* ‘бервяно, бэлька’ (XVII ст.; Ст.-бел. лексікон, КГС). На беларускай тэрыторыі

сышліся, магчыма, два варыянты адной і той жа лексемы (рэаліі) – *тра́м(а)* і *атра́ма*, якія, аднак, могуць мець рознае паходжанне. Лексема *трам* (польск. *tram*, *tran* – дыял. паўд.-усх. 'падваліна, падруба', паўн.-усх. *trama* 'апорная бэлька', в.-луж. *trama*, н.-луж. *tram'*, *trama* 'дручок, дубіна', 'апорная бэлька', ст.-чэш., славац. *trám* 'бэлька, брус', харв. кайк. *trâm*, славен. *trâm*, *tramû* 'бервяно, брус') запазычана з с.-в.-ням. *trām*, *drām* 'бервяно, бэлька', параўн. с.-н.-ням. *trāme* 'бэлька', ст.-фрыз. *trām(e)* 'брус, бэлька', нарв. *tram* 'драўляны парог' (Клюге, 785; ЕСУМ, 5, 617) і праз заходнеславянскія мовы (пераважна праз польскую) трапіла на беларускую (і ўкраінскую) моўную тэрыторыю (Брукнер, 574–575; Махэк$_2$, 649; Скок, 3, 490; Бязлай, 3, 211; Сной$_2$, 776; Булыка, Запазыч., 323; Голуб–Копечны, 388; Голуб–Ліер, 486). Лексема *атра́ма* пашырылася з балтыйскай моўнай тэрыторыі, параўн. літ. *atramà* 'падпорка', 'апірышча', 'спінка крэсла, канапы', *atramstýti* 'падперці/падпіраць, прыхіліць/прыхіляць' (Цыхун, Лекс. балтызмы, 50; Лаўчутэ, Балтизмы, 41). Назіраецца іх узаемадзеянне (*трам-а, а-трам*). Далей ням. тэрмін суадносяць са ст.-грэч. τέρεμνον 'сені, гасцёўня', з лац. *trabs* < і.-е. **drabma*, альбо адносяць да і.-е. асновы **ter-* 'прабірацца, дасягаць', 'праходзіць праз што-небудзь', узмоцненай фармантам *-*m*; дапускаецца мажлівасць існавання праславянска-прагерманскай лексемы (Скок, там жа). Петр (В. В., 21, 207–217) дапускае роднаснасць прасл. **tramъ* са ст.-грэч. τραφηξ, лац. *trabs* 'бервяно', 'дрэва', 'карабель', што даволі сумніўна. Сюды ж *тру́ма*, гл.

**Траманíць** *(трыманíць)* 'гаварыць абы-што, хлусіць' (Мат. Гом.). З *праманíць*, *праману́ць* 'прыдумаць, надумацца', якое з літ. *pra(si)manýti* 'выдумляць, выдумваць' (Лаўчутэ, Балтизмы, 71).

**Трамацéць** 'мігцець (пра зоры на марозе)' (ваўк., Сл. ПЗБ), 'пераліваццa (пра кветкі)' (ваўк., ЛА, 2), 'ззяць' (узд., Сл. ПЗБ). Дзеяслоў шматразовага дзеяння ад *трамцéць*, *трымцець*, гл.

**Трамбава́ць** 'шчыльна ўкладваць, закладваць, прыціскаючы, і выраўноўваць паверхню рыхлай масы' (ТСБМ, Шат.; пух., Сл. ПЗБ), *трэмбова́ті* 'збіваць гліну' (пруж., ЖНС). Са старога польск. *trambować* 'тс', якое з нова-в.-ням. *trampeln* 'тупаць', с.-н.-ням. *trampen* 'тупаць нагамі', англ. *tramp* 'цяжка ступаць, тупаць' (КЭСРЯ, 449). Рус. *трамбова́ть* таксама запазычана з польскай мовы ў XIX ст. – насуперак Фасмеру (4, 93), які рускую



лексему выводзіць непасрэдна з нямецкай крыніцы. Паводле ЕСУМ (5, 618), з'яўляецца гукапераймальным утварэннем.

**Трамба́ч**, *трамба́*, *трамбíшча* 'таўстун' (Юрч. Вытв.), укр. лемк. *трембуха́ч* 'таўстабрухі, брухан' узыходзяць да польск. *trąba* 'труба', 'музычны інструмент', 'звой палатна', якое да прасл. **trǫba* > бел. *труба* (гл.) пры ад'ідэацыі італ. *tromba* 'труба'. Да семантыкі параўн. *трубíць* 'многа есці'.

**Трамбóн** 'духавы медны музычны інструмент' (ТСБМ). Праз польскую ці рускую мовы з італ. *trombone* 'вялікая труба', якое ад *tromba* 'труба' (Фасмер, 4, 105; Голуб–Ліер, 490; ЕСУМ, 5, 647).

**Трамбу́лька** 'зімовая цыбуля' (стаўб., Жыв. сл.). Да *трыбулька*, *трымбулька*, гл.

**Трамва́й** 'гарадская наземная электрычная чыгунка', 'поезд гэтай чыгункі' (ТСБМ). Праз польскую або рускую мовы з англ. *tramway* ці праз франц. *tramway* 'тс', што складаецца з *tram* 'шына', першапачаткова 'язда вазком па трамах – драўляных рэйках' (параўн. *трам*, які з с.-н.-ням. *trāme* 'брус') і *way* 'дарога' (SWO, 1980, 769; Фасмер, 4, 93; Чарных, 2, 257; Брукнер, 574–575; ЕСУМ, 5, 618).

**Трамза́** 'балбатуха, лапатуха' (смарг., Сл. ПЗБ), *трамзíць* 'спяшацца' (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Трамкацéць** 'мільгацець, мігцець, стракацець' (Скарбы), *трамгацéць* 'тс' (слонім., Арх. Федар.). Да *трамцець*, *трымцець* (гл.), узмоцненага суф. *-ка-/-га-*.

**Трамка́ч** 'сплеценыя канцы нітак, адрэзаныя з палоскай палатна' (Мат. Маг. 2). У выніку распадабнення *п* > *м* з *трапкач* (гл.).

**Трампаля́сы** *(трымпыля́сы)* 'лахманы' (іван., Нар. лекс.). Складанае слова з няяснай структурай: першую частку можна звязаць з *трапаць* (гл.) з устаўным экспрэсіўным *-м-*, параўн. *трыплялі* 'махры ў рушніку', польск. дыял. *tremcie* 'лахманы', гл. *трамця*, а другую – з *ляскаць*, гл.

**Трамплíн** 'спартыўнае прыстасаванне для адштурхоўвання пры скачках' (ТСБМ). З рус. *трампли́н* 'тс', якое праз нова-в.-ням. *Trampoline* ці франц. *tremplin* было запазычана з італ. *trampolino* 'тс' < *trampolo* 'дыба, хадуля' (Фасмер, 4, 93; Голуб–Ліер, 486), што ўзыходзіць да германскіх моў, параўн. нова-в.-ням. *trampeln* 'тупаць', англ. *trample* 'цяжка ступаць', гукапераймальнага паходжання (ЕСУМ, 5, 618).

**Трамсы́н** 'сын трох бацькоў (казачны персанаж)' (Вяр.). З **тромсы́н* < *тром* [бацькам] *сын*. Параўн. польск. *trzechsyn* 'сын трох'.

**Трамце́ць** 'мігцець, дрыжаць' (Скарбы, Сцяшк.), 'калаціць', 'дрыжаць ад жадання' (брагін., З нар. сл.), 'брынкаць, бразджаць (аб паколатым посудзе)' (шчуч., Сл. ПЗБ), 'ляскаць' (брагін., Шатал.), 'пакрывацца пухірамі, пячы' (навагр., Сл. ПЗБ), *тромце́ць* 'дрыжаць, трапятаць' (ТС). Укр. *тремтíти* 'дрыжаць, трымцець, трапятацца', польск. дыял. *trzemcieć* 'хістацца', ст.-чэш. *třměti* 'тс'. Прасл. **trьmtěti* 'дрыжаць' роднаснае прасл. *tręsti* 'трэсці', лац. *tremere* 'тс', *tremare* 'дрыжаць', ст.-грэч. τρέμω 'трасуся', літ. *trinksė́ti* 'грукаць, пастукваць', лат. *trimēt* 'рухацца', *trīcēt* 'дрыжаць, трэсціся' (Махэк$_2$, 659; ЕСУМ, 5, 629). Гл. таксама *трымцець*.

**Тра́мця** 'лахманы, транты' (Сцяшк. Сл.), *тра́мсы*, *тра́мсікі* 'лахманы, рызманы' (пух., Сл. ПЗБ). Параўн. польск. дыял. *tramcie* 'растрапаныя лахманы, зношанае адзенне', *tramči* 'тс'. Хутчэй за ўсё, у выніку фанетычных змен пад уплывам экспрэсіі з *тра́нты* (гл.) > *трант-*ьje* > зборн. *тра́нце* 'тс' (Мат. Гом.). Меркаванні пра запазычанне з літоўскай мовы (Лаўчутэ, Балтызмы, 85) не маюць падстаў. Фанетычна, магчыма, набліжана да *трамцець* 'трапятаць', гл.

**Тран** 'рыбін тлушч' (Яруш.; ашм., паст., Сл. ПЗБ). З польск. *tran* 'рыбін, кітовы, цюленевы тлушч', якое з ням. *Tran* 'рыбін тлушч' – скарочанага *Fischtran*, у якім *-tran* < с.-н.-ням. *trān* 'кропля', нова-в.-ням. *Träne* 'сляза' (Голуб–Ліер, 486; ЕСУМ, 5, 618).

**Транавы́**: *транава́я маць* 'матка, якая адкладвае чарву, з якой выводзяцца трутні' (паст., Сл. ПЗБ). З літ. *tranìnė mótina* 'тс' (Грынавяцкене, там жа, 5, 115).

**Транбу́лька** 'цыбулька-сеянка з насення' (пух., З нар. сл.). Да *трыбулька*, гл.

**Тра́нды** 'лахманы' (Сл. ПЗБ), *тра́ндзішчы* 'тс', *тра́ндзіна* 'лахман' (Юрч. СНЛ), сюды ж *трандо́ўка*, *транто́ўка* 'коўдра, посцілка, вытканая з рыззя' (мёрск., Ск. нар. мовы). Гл. *транты*, гл.

**Трандзíць** *(трандзе́ць, трындзíць, трындзе́ць)* 'гаварыць абы-што, хлусіць' (Мат. Гом.), сюды ж *трандо́ліць* 'гаварыць пустое' (Сцяшк. Сл.), *трандыка́ты* 'прыспеўваць без слоў або пераймаючы ігру інструмента якія-небудзь прыпеўкі, танцавальныя і гульневыя мелодыі' (Арх. Вяр.). Параўн. чэш. *trandati* 'выбалбатаць, разбалабоніць'. Апошняе, паводле Махэка$_2$ (649), утворана пры дапамозе новага суфікса *-ndati* з *tratořiti* 'тс', роднаснага *тарато́рыць* 'сакатаць, балбатаць' (гл.) < прасл. **tortoriti* (Фасмер, 4, 86). Гл. *тарандзíць*; сінкопа галоснага звязана з экспрэсіўным характарам слоў.



**Транжы́нка** 'прыколка для валасоў' (Сцяшк.). Няясна. Магчыма, ад *спружы́нка* < *спружына*, гл.

**Транжы́р** 'той, хто неразумна, марна траціць грошы, маёмасць' (ТСБМ), сюды ж *транжы́рыць* 'траціць, мантачыць' (ТСБМ, Бяльк.). З рус. *транжи́р* 'тс', якое з франц. *trancheur* 'той, які рэжа' < *trancher* 'рэзаць, рубаць' праз нова-в.-ням. *transchieren* 'рэзаць, разрэзваць' (Фасмер, 4, 94). Паводле Вінаградава (Этимология – 1966, 122–125) і Дабрадомава (Этимология – 1986–1987, 194–200), рускія словы – у выніку трансфармацыі франц. *étranger*, *étrangère* 'іншаземны, чужы' ў дзеясловў з пераасэнсаваннем зыходнага значэння ў 'траціць за мяжой, растрачваць грошы, маёмасць упустую'.

**Транзíстар** 'паўправадніковы прыбор', 'партатыўны радыёпрыёмнік' (ТСБМ). Праз рускую мову запазычана з англ. *transistor*, складанаскарочанага слова, утворанага з частак слоў: *tran(sfer)* 'пераносіць' і *(re)sistor* 'які аказвае супраціўленне' (Голуб-Ліер, 487; ЕСУМ, 5, 619).

**Транíла** *(транíло)* 'дэталь у возе ў выглядзе развілкі, якая прыдае ўстойлівасць задняй частцы воза' (Скарбы, Сл. ПЗБ), *транíдло* 'тс' (свісл., Шатал.), *трайнíла* 'тс' (навагр., там жа), звязана з *трайня* 'тс' (гл.); паланізаваны варыянт (*-дл-* замест *-л-*) лексемы сведчаць пра яе інавацыйны характар, канец слова магчыма, пад уплывам *правіла* 'тс' (Маслен.), гл.

**Транíца** *(трэнíца)* 'жанчына, якая трэ лён' (ганц., Сл. ПЗБ). Да *цёрці* (гл.), параўн. аддзеяслоўны назоўнік *тра́нне*, *тра́ння* 'апрацоўка лёну на церніцы' (Янк. 1, Сл. ПЗБ).

**Тра́нкі** 'карункі (вышыўка) на кашулі' (ашм., Сл. рэг. лекс.). Няясна.

**Тра́нне** 'старое парванае адзенне, рвань, лахманы, транты' (Юрч.; Юрч. Сін.). Магчыма, ад *церці* (гл.) або ад *транты* (гл.). Суфікс зборных назоўнікаў *-нне*, як у *адзенне*.

**Транпыж** 'невялікая размечаная палачка для гульні, цурка, чыжык', 'гульня з такой палачкай' (Рам. 8). Няясна.

**Трансáва** ‘дрыгва, багна, топкае месца’ (Скарбы; бераст., ваўк., гродз., ДАБМ; Сл. ПЗБ), *трансавíца* ‘тс’ (шальч., Сл. ПЗБ; ваўк., ЛА, 2), ‘зарослае трысцём месца на рацэ або на возеры’ (Сцяшк.), *транцавíца* ‘тс’ (зэльв., ДАБМ), *трэнсэ́віца* ‘топкае месца на балоце’ (бяроз., драг., ЛА, 5), сюды ж *трансáвы*, *транцáвы* ‘дрыгвяны’ (маст., Сл. ПЗБ), *трансáвы* мн. л. ‘топкае балота, дзе калышацца верхняе покрыва’ (гродз., бераст., ЛА, 2; Сцяшк.), *трансавíсты* ‘топкі, гразкі’ (Сцяшк.). З польск. *tręsawa*, *trzęsawica* ‘дрыгва, багна’.

**Трансáкцыя** ‘пагадненне, здзелка’, ‘перавод грашовых сродкаў’ (Булыка, СІС). Інтэрнацыяналізм, запазычаны праз рускую мову; ст.-бел. *транзакцыя* ‘ўмова’ (1686 г.) запазычана са ст.-польск. *transakcyja*, якое з лац. *trānsāctio* ‘пагадненне, здзелка’, ‘завяршэнне, заканчэнне’.

**Транслíацыя** ‘перадача на далёкія адлегласці інфармацыі з месца дзеяння’ (ТСБМ). Праз рускую ці польскую мовы з заходнееўрапейскіх моў, у якія слова прыйшло з лац. *trānslātio* ‘перанос, перамяшчэнне’, ‘перадача’, ‘перасадка (раслін)’. Сюды ж *транслíатар* ‘перадатчык’, *транслíраваць* ‘перадаваць’ (Голуб–Ліер, 486; Даза, 721; ЕСУМ, 5, 620).

**Трáнспарт** ‘сродкі перавозу грузаў і людзей’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), *трáншпарт* ‘тс’ (бярэз., Сл. ПЗБ). Запазычана праз польскую ці рускую мовы з заходнееўрапейскіх (параўн., франц., нідэр. *transport*, ням. *Transport*), у якіх утворана на аснове лац. *trānsportāre* ‘пераносіць, перапраўляць’ (Фасмер, 4, 94; Чарных, 2, 257–258; Цыганенка, 361; ЕСУМ, 5, 620). У народнай мове адаптаванае як *пашпарт*, гл.

**Трантавáты** ‘вуграваты’ (Нас.). З польск. *trędowaty* ‘пракажоны’ – у выніку пераносу значэння паводле падабенства.

**Трáнты** ‘лахманы, старая падраная адзежа, бялізна’, ‘хлам, старызна’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Бяльк., Касп., Байк. і Некр., Юрч. Сін., Варл.; малар., ЖНС; люб., Нар. ск.; гродз., касцюк., ЛА, 5; Мат. Маг. 2), ‘анучы (іран. жаночыя ўборы)’ (Нар. Гом.), *трáнце* ‘рыззё’ (Мат. Гом.), *трáнцё* ‘рызманы’ (Нік. Оч., Шн. 3), *трáнцы* ‘старое, парванае адзенне, рыззё, лахманы’ (пух., З нар. сл.; Сержп. Грам.), *транцíна* ‘рызман’ (Юрч. Вытв.), *трáньціна* ‘адзежына’ (мёрск., Нар. сл.), *трáньте* ‘рыззё’ (драг., Нар. лекс.), *трáнды* ‘тс’ (вільн., Сл. ПЗБ), *трэ́нты* ‘транты’ (Скарбы; дзятл.,



Сл. ПЗБ), адсюль, відаць, выабстрагаваная форма адз. л. *трант* ‘паношаная, дрэнная вопратка’ (капыл., Нар. словатв.), ‘тс’, ‘незнаёмы, нікчэмны чалавек’ (леп., Жыв. НС). Параўн. укр. дыял. *трáнти* ‘анучы, рыззё’, адз. л. *трант*; серб.-харв. дыял. *трáнци*, *траьци* ‘парванае адзенне або абутак’, адз. л. *трáњак*. Беларуска-сербская ізалекса, што ўзыходзіць да *terti ‘церці’, параўн. *трáнне* ‘рыззё’ (Юрч. Сін.), серб. *тра̏њав* ‘штосьці з адзежы ці абутку, зусім зношанае і падранае’ (Элезавіч, 2, 333), сінанімічнае *тра̏ња* ‘тс’, *тра̏њав* ‘парваны’ (падрабязней пра паходжанне і распаўсюджанне сербскіх слоў гл. Івіч, Галип., 147; а таксама Скок, 3, 490, які збліжае гэтыя словы з *trälje* ‘кошык’, *тра̏ња* ‘насілкі для гною’). Этымалагічна блізкія рус. *труньё* ‘рыззё, старызна’, *трун* ‘анучы’, ‘абарванец’, для якіх Фасмер (4, 109) дапускае сувязь з *трух*, *тереть*. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 621, дзе мяркуецца тое ж паходжанне для ўкраінскіх слоў, побач з магчымасцю фанетычнай змены *дрант* ‘лахман; рызман’ (ад *драти* ‘драць, рваць’), што, відаць, уяўляе паралельнае ўтварэнне, гл. серб. *драњци* ‘рыззё, лахманы’. У сувязі з названым малаверагодна вывядзенне з літ. *trántas* ‘адкіды, паношанае адзенне’, якое звязваюць з літ. *treñti* ‘выгнаць’, ‘стаптаць, знасіць’, *trendėti* ‘псавацца, пакрывацца плесняю’ (Смулкова, Балто-слав. иссл., 1980, 209), што, зрэшты, магло паўплываць на варыянты *транды*, *трэнты*. Гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 85. Параўн. *трамця*, гл.

**Трантлíвы** ‘смярдзючы’ (паст., Сл. ПЗБ). Няясна; магчыма, на базе адаптацыі польск. *trącić* ‘смярдзець’ (гл. *труціць*) або літ. *tranėti* ‘старэць’, *trenėti* ‘буцвець’, аднасна апошніх гл. Смачынскі, 686.

**Транцáцца** ‘ўнікаць, паглыбляцца ў справы’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *wtrącać się* ‘ўмешвацца’.

**Транцýк** ‘яечня’ (Сцяшк. Сл.). Няясна.

**Траншэ́я** ‘выкапаны глыбокі роў для абароны’ (ТСБМ, Некр. і Байк.). Праз рус. *траншéя* ‘тс’ з франц. *tranchée* ‘роў, траншэя для закладкі фундамента, катлаван’, ‘траншэя’ < *trancher* ‘рэзаць, адсякаць’ (Фасмер, 4, 94; Чарных, 2, 258; Даза, 759; ЕСУМ, 5, 621).

**Трап**$_1$ ‘сцежка, дарога, кірунак; крок’ (Нас.; слаўг., Яшк.), укр. *торопá* ‘тс’, ‘кірунак слядоў’ (калі тут не другаснае поўнагалоссе), рус. *трап* ‘сцежка’, харв. кайк. *träp*, серб. *тра̑п* ‘капец

(для гародніны)’, ‘каляіна’, ‘яма для буракоў, бульбы’, ‘роў’, дыял. ‘бахчаўнік’, ‘бахчавыя культуры, памідоры’, ‘малады вінаграднік’, балг. *трап* ‘каляіна’, макед. *трап* ‘яма, роў’, ст.-слав. **трапъ** ‘яма для лоўлі звяроў’. Прымаючы пад увагу ўкраінскі і паўднёваславянскі матэрыял, можна вывесці прасл. **torpъ* ‘яма, роў’; паводле Борыся (Etymologie, 214), **torpъ* або **trapъ* (з пытальнікам), што разглядаецца як паўднёваславянскае праславянскае дыялектнае ўтварэнне. Абаеў (Зб. Геаргіеву, 102–110) уключыў прасл. **torpъ* у фрака-скіфска-славяна-балтыйскую ізаглосу, параўн. фрак. **tarpa* ў тапоніме *Tarpodizos* > асец. *tærfæ* ‘лагчына, нізіна, даліна’ (другая частка ў іран. *daiza* ‘крэпасць’), афг. *tarma* ‘балота’, літ. *tárpas* ‘прамежак’, ‘дзірка, адтуліна’, ‘цясніна’, ‘прадонне, прорва’, *trapùs* ‘рыхлы, гнілы, крохкі’, *tarpẽklis* ‘цясніна’, лат. *starpa, starps* ‘прамежак’, ‘прабел (у тэксце)’, *tàrps* ‘чарвяк’ < ‘свідравальшчык’ (Каруліс, 2, 286). Адсутнасць падобнай лексемы **torpъ* (усх.-слав. *тороп*) на поўначы Славіі можа наводзіць на думку пра запазычанне з паўд.-слав. *trap*. Скок (3, 491), Фасмер (Die griechischen Lehnwörter im Serbokroatischen. Berlin, 1944, 143) дапускаюць паўднёваславянскае запазычанне з грэч. τρύπη ‘яма, пастка’ (< і.-е. **trūp-*) ці з τάφρος ‘яма, роў’ > τράφος ‘роў, рэчышча’, ‘мяжа’, ‘плот з камянёў’. Параўн., аднак, *трап’е*, гл.

**Трап$_2$** ‘сходы на караблі’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘лесвіца на страсе, каб лазіць да коміна’ (кобр., драг., жытк., Нар. сл.). Праз польскую ці рускую мовы з нідэр. *trap* ‘лесвіца на караблі’ (Фасмер, 4, 94; SWO, 1980, 772; СІС, 516; Булыка, СІС, 472).

**Трапа́** ‘сцежка’ (Бяльк., Адм.), *трапіна* ‘тс’ (бярэз., Сл. ПЗБ), *тропіна* ‘тс’ (Мат. Гом.), *тро́па* ‘сцяжынка’ (ігн., Сл. ПЗБ), *трапінка* ‘тс’ (Ян.), *тропінка* ‘тс’ (ТС), *тропэ́на* ‘дарога’ (драг., Ск. нар. мовы), *тро́пка* ‘сцяжынка’ (Нас., Байк. і Некр., Сержп. Прымхі, Др.-Падб.). Укр. *тропа́*, *троп*, *тріп* ‘след’, ‘вузкая горная сцежка’, ‘шлях, кірунак’, укр. гуц. *трапа́ш* ‘зімовая дарога, вытаптаная авечкамі’, рус. *тропа́* ‘сцежка, дарожка’, стараж.-рус. *тропа* ‘шлях, дарога’, польск. *trop* ‘след, каляіна’. Дапускаюць прасл. **tropa*, відавочна, звязанае з *тра́паць*, *тро́паць* ‘стукаць нагамі, тупаць’ (гл.), параўн. роднасныя лат. *trapa* ‘натоўп, куча’, алб. *trap* ‘сцежка’, ст.-грэч. ’ατραπός ‘сцяжынка’ (Фасмер, 4, 105;



Чарных, 2, 496–497; Брукнер, 577; ЕСУМ, 5, 649). Гл. таксама *троп* ‘дарога, след’, *трэп* ‘дарога, сцежка’.

**Трапаві́ла** ‘трапло’ (Мат. Гом.). Да *трапаць* (гл.), утворана па ўзору *матавіла*, гл.

**Трапа́йла** *(трапа́йло)* ‘прылада, якой трэплюць лён, трапальня’ (беласт., Сл. ПЗБ; АБ, 9). Варыянт іншай назвы прылады *трапа́ла*, *трапло́* ‘тс’. Не выключана трансфармацыя запазычанага польск. дыял. *trzepadło* ‘тс’ па ўзору *малойчык* < *малодчык*. Да *трапаць* (гл.).

**Трапа́к$_1$** *(трыпа́к)* ‘барана-спружыноўка’ (рас., Шатал.; лудз., брасл., Сл. ПЗБ). З *драпа́к* ‘спружыноўка’, якое з польск. *drapacz* ‘від культыватара для рыхлення глебы’. Сюды ж *трапа́чыць* ‘баранаваць спружыноўкай’, *трапа́ч* ‘барана-спружыноўка’ (рас., Шатал.).

**Трапа́к$_2$** *(trepák)* ‘падстаўка, якая выкарыстоўваецца пры трапанні льну’ (шальч., Сл. ПЗБ; АБ, 9). Відаць, адаптаванае польск. *trzepak* ‘тс’.

**Трапакі́** ‘стаптаныя чаравікі’ (смарг., Сл. ПЗБ). Да *трапаць*, гл.

***Трапасні́**, *трэпысні́* ‘лахманы’ (іван., Жыв. сл.; Сл. Брэс.). Відаць, звязана з *трэпасцу́ець* ‘мільгацець, ззяць (пра зоркі)’ (пруж., бяроз., ЛА, 2), на аснове якога выводзіцца больш агульнае значэнне ‘матляцца, брындацца’, параўн. роднаснае *трапятаць*, гл. Экспрэсіўная суфіксацыя дзеяслова, магчыма, пад уплывам субстратных балтыйскіх форм, параўн. літ. *žybsė́ti*, *blyksė́ti* ‘мільгацець, пабліскваць’. Сюды ж *трэ́псы* ‘махры ў хустцы’ (кобр., ЛА, 4), ад якой магло ўтварыцца *трэпысні́* па тыпу *за́барсні* ‘вушкі ў лапцях, у якія прасоўваецца абора’. Гл. наступнае слова.

**Трапа́ць$_1$** *(трыпа́ць, трэпа́ць)* ‘ачышчаць валакно ад кастрыцы пасля апрацоўкі на церніцы’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Сцяшк., Юрч., Ян., Сл. ПЗБ, ПСл, ТС), ‘біць кісцю рукі’ (Нас., Байк. і Некр.), ‘тузаць, гайдаць (пра вецер)’ (ТСБМ), ‘ісці вялікую адлегласць’ (ТСБМ, Сцяц.), ‘хутка ісці’ (Шат., Сцяшк., Адм.; зэльв., Нар. словатв.), ‘хутка ўцякаць (ад пчол)’ (Ян.), ‘ісці (пра дождж)’ (Ян.), ‘танцаваць, скакаць’, ‘імчаць, несці, б’ючы капытамі ў перадок’ (Юрч.), *трапаць ногі* ‘хадзіць пехатой у далёкую краіну’ (Юрч. Фраз.), *тръпа́ць* ‘марудна ісці, ледзь рухацца’ (мёрск., Нар. лекс.). *трэпа́ты* ‘ачышчаць валакно’

(Сл. Брэс.), Укр. *трепáти* 'трэсці', 'ісці', 'прагна есці', *тріпати* 'трэсці, вытрэсваць', 'трапятацца на ветры', 'матляцца', 'дрыжэць', 'ляскаць, лопаць (крыламі, хвастом)', 'трэсці галавой, адмаўляючы што-небудзь', 'бегчы', рус. *трепáть* 'перабіраць, тузаць, тармасіць, торгаць, мяць, скубсці, іраваць, драць, бузаваць', польск. *trzepać* 'штурхаць, біць, лупіць, махаць, трэсці чым-небудзь з размаху', 'выбіваць пыл з адзежы, дываноў', 'трэсці', 'трапаць лён', 'выганяць мёд з сотаў', ст.-польск. *trzepać konie* 'чысціць коней', каш. *třepać* 'брудзіць', 'біць', 'карыстацца анучкай', н.-луж. *tśepaś*, *tśapaś* 'выбіваць', 'грукаць', 'махаць', 'пастукваць', 'сцябаць каго-небудзь', в.-луж. *třepać* 'махаць', чэш. *třepat* 'узмахваць крыламі', 'ляпаць, ляскаць', 'узбоўтваць', 'трэсці будзячы', мар. 'трапаць лён, каноплі', славац. *trepat'* 'махаць, размахваць', 'стукаць', 'трапаць лён', 'біць, разбіваць (талеркі)', славен. *trepáti* 'міргаць вачыма', 'трапаць', 'біць', 'вытрэсваць, чысціць махаючы', 'грукаць', 'гнаць', 'круціць', 'пацепваць па плячы', 'апладзіраваць', ст.-славен. 'злёгку ўдараць', харв. *trêpiti* 'дрыжаць', 'трапятацца, матляцца', 'баяцца', *trȅnuti* (< *trepnuti*), *trȅpnut* 'недасыпаць', 'заплюшчваць вочы', *na-trepati* 'страсаць, скідаць', 'уздрыгнуцца', старое *trepati* 'біць', балг. *трèпкам* 'уздрыгваць', 'міргатаць', *трèпам* 'забіваць', *трепвам* 'дрыжэць'. Прасл. **trepati* 'хутка ўдараць, біць', 'рваць, раздзіраць', 'пырхаць', 'лётаць', 'трэсці', якое генетычна звязана з прасл. **trepetъ* 'трапятанне, дрыжанне', **tropa* 'дарога' (ЕСУМ, 5, 644) і роднаснае літ. *trepsė́ti*, *trepénti* 'тупаць нагамі', *trepinė́ti*, *trepsénti* 'патупваць, таптацца, таўчыся', ст.-прус. *ert-reppa* 'пераступаць', *trapt* 'ступаць', гоц. *þrabōn* 'бегчы рыссю', лац. *trepidus* 'неспакойны, які часта перабірае нагамі', *trepidāre* 'тупаць нагамі', 'бегаць туды-сюды', 'кідацца', ст.-грэч. τρέπω 'паварочваю, адхіляю, зменьваю', τραπέω 'нагамі выціскаю віно з вінаграду', алб. *shtyp* 'даўлю, сціскаю', ст.-інд. *tṛprá-*, *tṛpala-* 'нясталы, рухомы', афг. *drabəl* 'трэсці, сыпаць, націскаць' (Фасмер, 4, 98–99; Сной$_2$, 781; Чарных, 2, 261; Брукнер, 581; Махэк, 657; Скок, 3, 496–497), якія ўзводзяцца да і.-е. **trep-* 'таптацца, дробненька тупацець' – гукаперайманне (Борысь, 649). Анаматапеічнае значэнне больш уласціва славянскім мовам, у той час як балтыйскім і іншым індаеўрапейскім мовам характэрна значэнне 'работа ног' (Скок, 3, 496–497). Сюды ж *трапáць* 'вастрыць касу мянташкай' (Ян.), *трапáць* 'знясільваць (ад хваробы)' (Юрч. Вытв.), *трапáцца* (перан.) 'цяжка працаваць, трацячы сілы' (Юрч. СНС), *трэпону́ті* 'ўдарыць' (беласт., Сл. ПЗБ), якое Мацкевіч (там жа, 141) выводзіць з польск. *trzepnąć* 'тс', што не абавязкова, бо гэта рэгулярнае ўтварэнне з прасл. суф. **-nǫ*, параўн. *трэпну́ць* 'стукнуць' (ТС), *трапну́ць* 'тс' (Шат.), *трапану́ць* 'ударыць' (Нас.; шальч., Сл. ПЗБ); *трапáлка* 'дошчачка, якой трэплюць валакно лёну' (ігн., Сл. ПЗБ; Мат. Гом., Касп.), *трапáло*, *трэпáло* 'тс' (Чэрн.; пруж., Сл. ПЗБ), *трэпло́* 'тс' (Пятк. 1), *трапáчка* 'тс' (Сцяц., АБ, 9; шчуч., З нар. сл.; Скарбы, Сл. ПЗБ), *трапы́шка* 'тс' (Бяльк., Юрч.; чач., ЛА, 5; Мат. Гом.; бялын., Янк. 3), *трапáшка*, *трапу́шка* 'тс' (Сцяшк., Сцяц.; баран., Сл. ПЗБ; лях., Янк. Мат.; Жд. 3; Абабур.; Мат. Гом.), *трэпáлка*, *трэпáшка* 'тс' (ПСл, ТС), *тропáчка* 'тс' (ТС), *трыпáчка*, *трэпáшка* 'тс' (Сл. ПЗБ), *трыпáшка* 'тс' (в.-дзв., віл., воран., Шатал.; лях., Янк. Мат.; Бір. Дзярж.), *трапёшка* 'тс' (талач., Шатал.), *трэпáчка*, *трэ́пач* 'падстаўка (калодка з прымацаванай да яе вертыкальнай дошкай), на якой адбываецца трапанне' (Уладз.; івац., Нар. сл.), *трэпáчка* 'тс' (драг., Выг.; Бес., Дразд.; бяроз., Шатал.), *тряпы́шка* 'тс' (Юрч.; чэрык., ЛА, 5; Мат. Маг. 2), *трапло* 'тс' (Дразд., Сцяшк.), *стряпы́шка* 'тс' (касцюк., ЛА, 4), *трэпáчка* (пін., ЛА, 5), *трапавíла* 'тс' (жлоб., Мат. Гом.). Сюды ж *трапáльніца* 'жанчына, якая трэпле лён' (Сцяшк., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.; брэсц., гродз., мін., маг., віц., добр., ЛА, 3), *трапáнніца* (Сцяц., ЛА, 3, Мат. Гом.), *трапáльшчыца* 'тс' (шальч., калінк., Сл. ПЗБ; аг.-бел. (без зах.-палес.), ЛА, 3), *тріпáньніца* 'тс' (Юрч.), *трэпáльніца* 'тс' (Выг.), *трэпáльныца* 'тс' (Сл. Брэс.), *трэпáлныця*, *трыпáльныця* 'тс' (жабін., кам., ЛА, 2), *тро́пальніца*, *трапáтальніца* 'тс' (кобр., навагр., ЛА, 3), *трапáлка* 'тс' (рагач., чаш., ЛА, 3), *трапáчка* 'тс' (віц., гродз., мін., мазыр., бялын., ЛА, 3), *трапло́* 'тс' (шарк., чавус., ЛА, 3), *трапáльня* 'тс' (Сл. ПЗБ, ЛА, 3), *трапля́* 'тс' (навагр., ЛА, 3), *трапáха* 'тс' (валож., ЛА, 3), *трэпáло* 'тс' (пруж., Сл. ПЗБ), *тряпéц* 'трапальшчык ільну' (беш., шуміл., ЛА, 3; шуміл., Сл. ПЗБ; беш., Нар. сл.), *тріпáньнік* 'тс' (Юрч.), *трэпáч* 'тс' (Нас.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *трэпáльніца* 'драўляная падстаўка для трапання лёну' (пін., Шатал.), *трэ́пало* 'тс' (пін., ЛА, 5), *трапáшка* 'тс' (стаўб., чырв., З нар. сл.; навагр., Жыв. сл.); *трапáчка* 'церніца' (шчуч., ЛА, 4), *трапáлка*, *тра-*

*пальня* 'тс' (зах.-гом., Трух.), *трыпáльня* 'тс' (драг., ЛА, 4); *трапáчка* 'мухабойка' (астрав., Ск. нар. мовы); *трóпанка* 'дзве жмені цёртага лёну, якія браліся для трапання' (Бір.; чырв., З нар. сл.; ст.-дар., капыл., Сл. ПЗБ), *трéпанка, трэ́панка, трó-панка* 'мера вытрапанага лёну' (петрык., мазыр., слуц., глус., ЛА, 4), *трэ́пач* 'жменя трапанага лёну' (лун., Шатал.), *тра-пáшка* 'звязка кудзелі' (жытк., Мат. Гом.).

**Трапáць₂** 'балбатаць, малоць языком' (Шат., Юрч.; бых., ЛА, 2), 'гаварыць недарэчнасці' (Сл. ПЗБ), *трапáць языкóм* 'гаварыць лухту' (Шат.), *трапáцца* (разм.) 'гаварыць лухту, бязглуздзіцу, няпраўду; гаварыць несупынна', 'расказваць, прагаварыцца аб чым-небудзь' (ТСБМ), 'кепска сябе паводзіць' (Касп.), *трапанýць* 'сказаць не падумаўшы' (Юрч. Сін.), *трапáцца языком* 'пустасловіць, балбатаць' (Растарг., Юрч. Фраз.), *трапатнýць, трапанýць* 'тс' (Юрч. СНЛ). Сюды ж *тръпáчка* 'балаболка' (мёрск., Шатал.), *трэпáлка, трэплó* 'балбатуха' (Растарг.), 'балбатун' (ТСБМ, Касп., Мат. Гом.; бых., ЛА, 2; глус., Янк. Мат.); *трэплó* 'тс' (ТС), *тряплó* (шуміл., ЛА, 2), *траплó* 'рот' (Мат. Гом.), *траплó* 'языкаты, балбатлівы' (Сцяшк.), *трапатанік, трапач, трапáннік* 'балбатун' (Юрч. СНЛ), *трапáк* 'балбатун, лапатун' (шальч., Сл. ПЗБ), *трапáч* 'пустамалот' (Скарбы), *трэ́пля* 'пустая гутарка' (Бяльк.), *трапаніца, трапня́, трапáнне* 'балбатня' (Юрч. Вытв.), *траплíвы* 'балбатлівы' (Юрч. СНЛ), *тряплíвысць* 'балбатлівасць' (Юрч. СНЛ), *трапатня́* 'тс' (там жа), *трапýшка, тряпышка* 'той, хто многа, без толку гаворыць' (Мат. Маг. 2), *трапýн, трапатýн* 'балбатун', *трапýньня, трапýха, трапатýння, трапатýха* 'балбатуха' (Юрч., Вытв.), *троп* 'балбатня' (мсцісл., Нар. ск.). Рус. *трепáть* 'малоць языком', *трепáться* 'балбатаць', польск. *trzepać* 'балбатаць, лапатаць, малоць языком', чэш. *třepati* 'гаварыць бязглуздзіцу, пустасловіць', славац. *trepať* 'тс'. Познепраславянская семантычная інавацыя паводле падабенства дзеяння з дзеясловам *трапáць*₁ (< прасл. **trepati*) (гл.), параўн. асабліва значэнне 'трапаць языком'. Не выключаны пераход значэння 'грукаць, таптаць моцна нагамі, хадзіць з грукатам' (гл. *тропаць* 'тс') > 'балбатаць'.

**Трапáч** 'скарач, ручнік з "трапкамі" – доўгімі ніцянымі канцамі (махрамі), у якім насілі на поле абед' (Бяльк.), 'ручнік' (Скарбы). Відаць, з *трапкач* 'тс', набліжанае да *трапаць*₁, гл.



**Трáпачнік** 'палавік, сатканы з рыззя' (мёрск., Ск. нар. мовы), 'коўдра, дыван, вытканыя з анучаў' (рэч., ЛА, 4), *трáпашнік, трáпашніца, тряпы́шніца* 'тс' (ЛА, 4), *трыпчáнка* 'тс' (барыс., ЛА, 4). Семантычная кандэнсацыя словазлучэнняў з азначэннем *трáпачны (трáпашны, трáпачаны* і пад.*)* з назоўнікамі *дыван, коўдра*; сюды ж *трáпашнік* 'анучнік' (талач., Шатал.; Мат. Маг.; рагач., Сл. ПЗБ; рас., ЛА, 5), *тря́пашнік* 'тс' (Мат. Гом.), *тря́пышнік* 'тс' (Юрч.), *трáпышнік* 'тс' (Яўс.), *тря́пушнік* 'тс' (Бяльк.), *трапéшнік* 'тс' (талач., Шатал.), *трáпнік* 'тс' (лун., Шатал.) з адпаведнага словазлучэння. Да *трапка*, гл.

**Трапáшыць** 'вастрыць касу' (Ян.), *трапы́шыць* 'тс' (Мат. Маг., Яўс.; бялын., Янк. Мат.), *трапáчыць* 'вастрыць касу мянташкай або бруском' (бых., ЖНС), *трапáшчыць, трапы́шчыць, трапáжыць* 'тс' (маг., паўн.-усх., мін., ЛА, 2; Мат. Гом., Жд. 1; бярэз., Сл. ПЗБ). Другасныя ўтварэнні ад назваў мянташкі – *трапáшка* 'брусок для касы' (Ян.), *трапíшка* 'мянташка' (добр., Мат. Гом.), *тръпáшка* 'тс' (круп., Нар. сл.; Юрч. Сін.; маладз., Гіл.; Сл. ПЗБ, Касп., Янк. 2, Скарбы); *тръпáчка* 'тс' (полац., Нар. лекс.; Мат. Гом.), *трыпáшка* 'тс' (рас., Шатал.; Мат. Гом.), *трапы́шка* 'тс' (бялын., Янк. Мат.; Яўс., Мат. Гом.), *трапáшка* 'брусок для касы' (Ян.); *трэпýшка* 'мянташка' (Тарн.), *трапáчка, трэ́пачка* 'тс' (малар., Выг.), якія да *трапáць* 'вастрыць касу пры дапамозе мянташкі' (даўг., Сл. ПЗБ; полац., Нар. лекс.; віц., ЛА, 2), аналагічна да *трапаць*₁.

**Трáп'е** – недакладна вызначанае значэнне 'рыззё, лахманы', параўн. ілюстрацыю: *рыба залезе ў гэты закобэнь* [закутак], *у гэтэ трап'е* (ТС). Параўн. каш. *třap* 'гразь на дарогах; снег з дажджом', якое Борысь (SEK, 5, 176) звязвае з **trepati* (гл. *трапаць*₁). Аднак кантэкст і іншыя запісы (КСТ) дапускаюць сувязь і з адпаведнымі паўднёваславянскімі словамі, параўн. балг. дыял. *трапйе* 'роў, упадзіна' (Сб. на Бълг. книж. дружество, 1. София, 1901, 16), тапонім *Трапьето* (Младенов, Принос. към. изучване на бълг. говори в Източна и Западна Тракия. София, 1936, 173), макед. дыял. *трапје* 'карытападобныя формы на зямлі' (MJ, 8, 1, 83), што да балг., макед. *трап* 'яма, роў', серб.-харв. *тра̏п* 'яма для захоўвання гародніны зімой', славен. *trap* 'яма', якія Куркіна (Диал. структура, 31) лічыць паўднёваславянскімі дыялектызмамі і ўзводзіць да прасл. **trapъ*/**torpъ* (з пыталь-

нікам). У якасці іншаславянскіх адпаведнікаў прыводзяць літ. *tar̃pas* ‘прамежак, шчыліна’ (гл. *торп*, *тарпа*), раманскае *trabs* ‘калода’ (Бязлай, Eseji, 83). Гл. таксама *трап*$_1$ і наступнае слова.

**Трапе́за**$_1$ *(trapeza, trepeza)* ‘ламачча, хворост’; ‘багна’; ‘вельмі дробнае збожжа’, ‘мізэрны чалавек’ (Лапіч, Term. geogr.), *трэбэза (trebeza)* ‘тс’ (там жа), *трэбэза́* ‘густы зараснік на балоце ці рацэ’ (Бес.). Параўн. польск. дыял. *trapeza* ‘балота, твань’, *trabeza* ‘багна, балота, зарослае хмызняком’, сюды ж, магчыма, і айконім *Trpeza* (Косава і Метохія). Грунтуючыся на семантыцы, Лапіч (БЛ, 11, 64) бачыць тут уплыў літ. *trapùs* ‘крохкі, слабы’, што цяжка давесці. Няясна; магчыма параўнаць з рус. дыял. (паўн.-рус.) *дребь* ‘балоцістая мясціна, парослая кустамі або лесам’, ‘непраходнае балота’, ‘багна, твань’, *дре́би* ‘балота, парослае лесам, нетры’ відаць, роднасныя літ. *drebė́ti* ‘дрыжэць, трэсціся’, лат. *drebêt* ‘тс’ (SP, 4, 216, 225, 245), адносна варыянтнасці **trep-/*dreb-* гл. Махэк$_2$, 129. Па фанетычных прычынах немагчыма суаднесці са славен. *trebež* ‘выкарчаванае месца, навіна’ (гл. *церабіць*).

**Трапе́за**$_2$ ‘агульны стол для яды ў манастыры’, ‘сам прыём яды за такім сталом’, ‘сама яда’ (ТСБМ, Кольб.), аргат. *тра́пез* ‘стол’ (Бандалетаў, Этимология – 1980, 72). Праз царкоўнаславянскую са ст.-слав. **трапеза, трапѣза, трепеза** ‘абедзенны стол’, ‘гасціна, частаванне’, што з грэч. τράπεζα, якое са ст.-грэч. τράπεζα ‘стол, абедзенны стол’, ‘абед, яда’, а апошняе – з τέτταρα ‘чатыры’ або τρεῖς ‘тры’ і πέζα ‘нага’ < ‘дошка на трох ці чатырох нагах (ножках) – у выніку гаплалогіі -τα- выпала (Фасмер, 4, 94; Скок, 3, 492). Першае ўпамінанне Гамера: на шматлюдных банкетаваннях адзін стол служыў для некалькіх гасцей. На Балканах пасля прыняцця хрысціянства гэты грэцызм пашыраўся пераважна сярод манахаў у манастырах, цэрквах на ўсходнеславянскай тэрыторыі таксама ўжываўся як царкоўны тэрмін. Арготычны тэрмін, відаць, з новагрэч. τραπέζι ‘стол’ (Бандалетаў, там жа).

**Трапе́ць** ‘баяцца, шалець ад страху’ (дзярж., Нар. сл.), ‘станавіцца безразважным, праяўляць нястрыманасць, шаленства’ (Кал.). Непаўнагалосная форма, суадносная з рус. *торопе́ть* ‘бянтэжыцца, пужацца’ (гл. *тарапіцца*$_2$). Відаць, скарочанае ад *трапе́нець* ‘вар’яцець, дурэць’ (гл. *трапенне*, *трапёны*) або дзеяслоў працяглага дзеяння ад *трапіць*$_2$ (гл.). Малапераканальнае па фанетычных прычынах вывядзенне слова з літ. *drebė́ti* ‘дрыжэць, трасціся’ (Лаўчутэ, Балтизмы, 133).



**Трапе́цыя** ‘чатырохвугольнік з дзвюма паралельнымі і дзвюма непаралельнымі старанамі’, ‘гімнастычная прылада – перакладзіна, падвешаная на двух тросах’ (ТСБМ). Праз рускую мову з ням. (нова-в.-ням.) *Trapezium* ‘трапецыя’, якое з с.-лац. *trapezium* < ст.-грэч. τραπέζιον ‘столік’, ‘няроўнастаронні чатырохвугольнік’ (Фасмер, 4, 94). Праз польск. *trapez* ‘чатырохвугольнік з двума паралельнымі старанамі’, ‘гімнастычная прылада’ запазычана *тра́пэз* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *трапэ́за* ‘тс’ (Байк. і Некр.) таго ж паходжання.

**Трапе́чнік** ‘падлеснік, Sanicula L.’ (Байк. і Некр.). Няясна. Відаць, ад *трапятаць* (гл.): расліна мае лісты на доўгіх сцяблах, якія трапечуцца сярод іншых невысокіх раслін падлеску.

**Трапе́чыць** ‘[конь] стрыжэ вушамі’ (клім., ЛА, 1), *трапе́ча* ‘тс’ (петрык., там жа). Да *трапятаць*, гл.

**Трапёны** ‘няўрымслівы’ (Сцяшк. Сл.; карэліц., шчуч., З нар. сл.), *трапе́нё* ‘ліха, хвароба’ (Арх. Бяльк.), *трапе́ньне* ‘трапятанне’: *няхай яго трапеньне возьме* (Касп.), сюды ж *трапе́нець* ‘вар’яцець, дурэць (ад гарэлкі)’ (Шат.), *трапя́нка (trapiánka)* ‘баба, якая вышла з раўнавагі ад злосці ці ад надзвычайных жартаў’ (Варл.), *трапе́няц* ‘неспакойны, хуткі ў дзеяннях чалавек’ (баран., Сл. Брэс.). З польск. *utrapiony* ‘неспакойны, надакучлівы’, *utrapienie* ‘прыкрасць, непрыемнасць’, *trapienie* ‘непакой, хваляванне’, *utrapieniec* ‘нязносны, нясцерпны хлопец’, у якіх *-ra-* замест *-ro-* пад уплывам старачэшскай мовы. У XV ст. ў старапольскай мове было таксама і *tropić* ‘турбаваць, праследаваць, не даваць пакою’, *utropić* ‘тс’, *utropiony* ‘адурэлы, ап’янелы’ (Варш. сл.; Брукнер, 596; Борысь, 640). Гл. *трапіць*$_2$. Параўн. *тарапіцца*$_2$, *тарапя́нка*, гл.

**Трапі́ла** ‘трайня ў возе’ (пруж., Сл. Брэс.). Хутчэй за ўсё, памылковы запіс *трапіла* < *трайніла* ‘трайня’ альбо кантамінацыйнае ўтварэнне з лексем *страпіла* і *трайня́* ці *трайніла*, гл.

**Трапі́на** *(тряпіна)* ‘зношаная адзежына’ (Юрч.). Да *трапка*, гл.

**Тра́піць**$_1$ ‘паразіць цэль, пацэліць, метка кінуўшы, стрэліўшы’ (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр., Мядзв., Чуд., Сл. ПЗБ), ‘знайсці, напаткаць, сустрэцца’ (Нас., Мат. Гом., Федар. 4, Янк. 2, ПСл; Сержп. Прымхі, Байк. і Некр., ТС), ‘скеміць’ (Мат. Гом.), ‘адгадаць, здагадацца, трапна, дарэчы сказаць што-небудзь’ (ТСБМ,

Янк. 2), ‘папасці, надарыцца’ (ТСБМ), ‘увайсці, пранікнуць’, ‘уладкавацца на работу, вучобу’, ‘апынуцца’, ‘знянацку наступіць, уступіць, зачапіць’ (там жа), ‘паспець у час’ (Др.-Падб.), ‘паспець, управіцца’ (ТС), ‘магчы’ (бярэз., Сл. ПЗБ), ‘папасці ў час, куды трэба’ (Нас., Касп., Янк. 2, Растарг.), *тра́фіць* ‘знайсці’ (смарг., Сл. ПЗБ), ‘папасці; адгадаць’ (Шпіл.), ‘змагчы’ (в.-дзв., там жа); *тра́піцца* ‘сустрэцца, напаткацца’ (ТС), ‘выпадкова сустракацца’, ‘пападаць, здарацца’ (Нас., Бяльк., Шат., Касп.), ‘надарыцца’ (Бяльк., Касп.), ‘знайсціся’ (люб., Ск. нар. мовы), *трапля́ць* ‘пацэльваць’ (Ласт., Байк. і Некр., Нас., Шат.), *трафля́ць* ‘тс’, *трапля́цца* ‘пападацца, сустракацца’ (ТС, Растарг.; петрык., Яшк. Мясц.), *трафля́цца* ‘ўдавацца ў каго-небудзь’ (Нас.), *траф!* – перадае цэлкі ўдар (там жа), *тра́фны* ‘цэлкі’ (Гарэц.), *тра́пны* ‘тс’ (Ласт.), ‘надзейны’ (Нас.), ‘жвавы, спрытны’ (навагр., Сл. ПЗБ), *тра́пна* ‘ўдала, метка’ (Байк. і Некр.), *траплі́вы* ‘які лоўка трапляе ў цэль’, *тра́пля* ‘выпадак, нечаканасць’ (Нас.). Ст.-бел. *трафити*, *трапити* ‘трапіць, сустрэць’ (1516 г.) запазычаны са ст.-польск. *trefić*, *trafić* ‘трапіць’ (Булыка, Запазыч., 324; Булыка, Лекс. запазыч., 189), ‘патрапіць, здолець, адгадаць, рашаць’, ‘дагаджаць’, ‘удацца ў каго-небудзь падабенствам’, сучаснае польск. *trafić* ‘пацэліць’, ‘знайсці’, ‘трапіць, куды належыць’, ‘наткнуцца на каго-небудзь’, ‘сустрэць’, ‘перадаць падабенства’, што з с.-в.-ням. *treffen*, с.-ням. усх. *traffen* ‘дасягнуць, трапіць, спаткаць’, ням. *treffen* ‘трапіць’, ‘ударыць, паразіць’ (Борысь, 639; Басай-Сяткоўскі, Słownik, 395).

**Тра́піць₂**, ст.-бел. *трапити* ‘прыгнятаць, няволіць, мучыць’ (Гарб.), *трапити*, *трафити*, *трахвити* ‘засмучаць’ (1516 г., Ст.-бел. лексікон; КГС). Запазычана са ст.-польск. *trapić* ‘мучыць, прыгнятаць’, сучаснае польск. *trapić* ‘рабіць непрыемнасць, турбаваць’, што да прасл. **torpiti* ‘мучыць, прыгнятаць’, суадносная з прасл. **tьrpěti* ‘цярпець’ (Фасмер, 4, 86; Борысь, 640; Бязлай, 4, 213), паводле Варбат (Этимология – 1966, 104), каўзатыва ад **trepati* ‘драць, трапаць’. Гл. таксама *трапёны*.

**Трапі́ць** ‘пераследаваць, гнацца па слядах’ (Ласт.), ‘асочваць’ (хойн., Мат. Гом.). Да *трап₁* ‘дарога, сцежка’, г. зн. ‘ісці па следу’.

**Тра́пка** ‘ануча’ (Мат. Гом., ТС, Ян.; смарг., лудз., Сл. ПЗБ; рас., ЛА, 5), ‘завязка (ад фартука)’ (Ян., Мат. Гом.), ‘ануча, якой бяруць гаршкі і чыгуны’ (усх.-бел., ЛА, 4), ‘губка для высякання агню’ (астрав., брэсц., там жа), ‘ручнік для посуду’ (докш., там жа), *тра́пка* ‘тс’ (клім., там жа), *трапкі́* ‘ніцяныя канцы ў ручніку’ (Бяльк.), *тра́пачка* ‘скурат, вузкая палоска аўчыны, якая служыць пракладкай для сшывання аўчын’ (Ян.), сюды ж *трапка́ценькі* ‘растрапаны, растапыраны ў розныя бакі’ (гарад., Сл. ПЗБ). Укр. *тря́пка* ‘ануча’, ‘вехцік’, ‘рыззё’, *стра́пки* ‘лахманы’, рус. *тря́пка* ‘ануча’, *тря́пка* ‘махры’, дыял. (паўн.) *трепки́* ‘анучы, старызна, лахманы’, стараж.-рус. *тряпъка*, польск. *strzępa*, *strzępki* ‘махры’, ‘абрыўкі’, ‘анучы, лахманы’, *strząpie* ‘абрэзкі, акраўкі, скураты’, *strzępić się* ‘абтрэпвацца’, *strzępić* ‘размачальваць, раскудзельваць’, н.-луж. *tśepliś* ‘тс’, *tśumpliś se* ‘растрэпвацца’, *tśepjel* ‘пэндзаль’, чэш. *střepiti* ‘тс’, *střep* ‘старызна, хлам’, *střapec*, *třapec* ‘махры’, ‘пэндзаль’, *střapatý* ‘калматы, кудлаты’, *třepit* ‘калмаціць’, славац. *strap* ‘шкумат, пасма’, *strapec*, *strapce* ‘махры’, ‘акраўкі, рыззё’, ‘гронка вінаграду’, ‘мяцёлка (від суквецця раслін)’, балг. *тре́пки* ‘вейкі; упрыгожанне з вісячых дробных манетак’. Мяркуецца, што назалізацыя тут экспрэсіўная, а варыянтнасць пачатку слова звязана з т. зв. рухомым *s*-; параўноўваюць з *трапа́ць₁*, гл. (Фасмер, 4, 113; Чарных, 2, 267–268; Абаеў, Зб. Баркоўскаму, 12; Новое в рус. этим., 240–241; ЕСУМ, 5, 664). Дапускаецца роднаснасць са ст.-грэч. ῥῶπος ‘дробязь; цацка, бразготка’ і выводзіцца прасл. **strapъ* (Махэк₂, 585). Гл. таксама *страпкі*, *стрэпкі* і наступнае слова.

**Трапка́ч** ‘махры ў ручніку’ (Доўн.-Зап., Пін.), ‘канцы асновы (пасля датыкання кроснаў)’ (рагач., ЛА, 4), ‘ніткі, адрэзаныя ад кроснаў пасля выткання палатна’ (бярэз., Жд. 1), ‘трапкач, ручнік з доўгімі недатканымі канцамі’ (ТСБМ, Шат., Мат. Гом., Некр., Уладз., Мат. Маг., ТС; бых., Янк. Мат.; паўн.-зах.-бел., Сл. ПЗБ), ‘ручнік, у якім насілі гаршкі ў поле’ (Касп.), *трэпка́ч* ‘тс’ (івац., Нар. сл.; ТС, ПСл), ‘ануча’ (Сл. Брэс., Доўн.-Зап., Пін.), ‘ануча, якой бяруць гаршкі, чыгуны’ (Мат. Маг.; ветк., ельск., ЛА, 4), *страпка́ч* ‘тс’ (стол., там жа), ‘невялікі льняны ручнік’ (пін., Сл. Брэс.), *тръпка́ч* ‘канцы асновы’, *тропка́ч*, *страпка́ч* ‘тс’ (круп., ганц., калінк., ЛА, 4), *трэпка́ч* ‘рэшта палатнянай асновы’ (Мат. Гом.), *трапкачы́* ‘махры ў палатне’ (Сцяшк. Сл., Ян.), *трапкачэ́* ‘махры вакол хусткі’ (гродз., ЛА, 4). Вытворныя ад *трапаць* (гл.), узыходзяць да прасл. **(s)trap-* > **(s)trapъk-ъ* (гл. *страпкі*, *стрэпкі*) і суф. *-*ačь*; паводле Борыся (Czak. stud., 84), утвораны непасрэдна ад *трапкі* ‘махры’, гл. папярэдняе слова.

Даведачнае выданне

**ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ**

**Том 13**

**С – Т**

Укладальнікі:

**Абрагімовіч** Марына Яўгенаўна
**Лучыц-Федарэц** Іван Іванавіч
**Малько** Раіса Мікалаеўна
**Цыхун** Генадзь Апанасавіч

Рэдактар *Т. А. Гарбачэўская*
Мастак *А. А. Кулажэнка*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *М. В. Савіцкая*
Камп'ютарная вёрстка *Л. І. Кудзерка*

Падпісана да друку 11.11.2010. Фармат $60\times90^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 22,0. Ул.-выд. арк. 22,0. Тыраж 600 экз. Заказ 3415.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука». ЛИ № 02330/0494405 ад 27.03.2009. Вул. Ф. Скарыны, 40, 220141, г. Мінск.

Філіял № 1 АТТ «Чырвоная зорка». ЛП № 02330/0494160 ад 03.04.2009. Вул. Савецкая, 80, 2225409, г. Баранавічы.

ISBN 978-985-08-1185-1

